не ганьбіла! Мала таго, што праходу з-за тваёй ляноты не даюць, то цяпер яшчэ будуць і гэтае здарэнне згадваць!

Але сілуэт адказаў старэчым голасам:

— Прабач, пане гаспадару, што так позна да цябе ў хату завітаў... Я стукаў некалькі разоў, дазволу зайсці пытаўся, ды ты, відаць, над нечым гэтак задумаўся, што не пачуў. Падарожны я. Цёмна ўжо, вырашыў папрасіцца да цябе пераначаваць. Косці мае старэчыя ўжо не вытрымліваюць сну на халоднай зямлі, баляць моцна потым, таму па добрых людзях на ноч прашуся...

Дзіўна, але Нічыпар не зазлаваў і, болей таго, насуперак усяму таму, што пра яго гаварылі людзі, нечакана прамовіў:

— Заходзь, заходзь, чалавеча, чаго ўжо там. Месца хопіць, ды і есці я яшчэ не садзіўся. Заходзь, не саромейся. Раз прыйшоў, то будзь сёння маім госцем...

Падарожны падышоў да стала і сеў, а Нічыпар стаў уподбежкі ставіць есці, потым запаліў на прыпечку агеньчык. Неяк непрыкметна, ці то ад таго, што не было з кім параіцца, ці то з адчаю, гаспадар пачаў расказваць зусім незнаёмаму чалавеку пра ўсе свае нягоды і бядоты. Стары еў і ўважліва слухаў. Падсілкаваўшыся, вандроўнік пераежагнаўся на абраз і ціха прамовіў:

— Я табе, пане гаспадару, у гэтай справе дапамагу. Не перажывай надта, тым болей, што бяда тут не такая ўжо і страшная. Здараецца куды цяжэй. Дазволь паспаць, а з раніцы і пачнем.

— І сапраўды, давай адпачнем, — пагадзіўся Нічыпар, — бо і я нешта сёння завазіўся.

На золку абодва ўсхапіліся. Гаспадар падумаў, што падарожны абяцаў проста, каб пераначаваць і потым уцячы, але стары і не збіраўся гэтага рабіць. Ён спакойна сеў ля стала і запытаўся:

— Твая жонка першы раз з хаты да маці збегла?

— Так.

— Тады нічога, пачакаем, яна сёння павінна назад вярнуцца, бо там ёй бацька бубну на спіне вымалаціць, калі ён у яе чалавек справядлівы...

— Так, бацька ў яе працавіты, такога не папусціць.

— Як прыйдзе, ты адразу крычы, каб з табой у поле ехала шчыраваць. Ніякіх плачаў, ніякіх адмоў не слухай. І там глядзі, каб ні хвілінкі не адпачывала, падганяй пастаянна. Калі ўбачыш, што адпачыць трэба, то дай ёй хлеба ды лоем намаж, а вады піць не давай. Няхай па-

круціцца так дні тры-чатыры. Яна ў цябе за гэты тэрмін шоўкавай зробіцца. Слова ніколі ў адказ не пачуеш, не тое што там агрызацца ды прыкідвацца будзе. Пабачыш...

— Калі так, дзядулька, зробіцца... Калі мяне жонка стане слухацца ды дапамагаць мне будзе, то я цябе аддзячу. Аддзячу, самога Бога бяру ў сведкі. Ты не ідзі з майго падворка, пажыві пакуль. Можа, яшчэ нешта параіш...

Сапраўды, недзе праз гадзіну прыджгала жонка. Твар у яе быў заплаканы, сама перапуджаная. Стала ля парога і далей ісці баіцца. А муж пытаецца:

— Што, бацька пашкадаваў? Нічога не казаў, што я на табе такога лою нагадаваў? Збірайся, зараз у поле са мной паедзеш! З гэтага дня, дзе я — там і ты будзеш! Ні хварэць, ні хрыпець ты ў мяне болей не станеш, я цябе хутка вылечу, бо лекі добрыя знайшоў!

Так прайшло некалькі дзён. І што ж вы думаеце? Збылося тое, пра што казаў стары падарожны: жонка ледзьве дыхае, але есць хлеб з лоем і зноў за працу бярэцца. А мужык толькі пасмейваецца:

— Нічога, нічога, гной — не лой, але і ён твой! Трэба і яго то паразбіваць, то пазаворваць! Працуй, працуй, каб зноў на спіне дзягу не адчуць!

Так, дзякуючы мудрай парадзе, перайначыў муж жонку-гультайку, прымусіў яе працаваць, і ўсё ў іх пайшло на лад.

Таму старому Нічыпар даў кавалак зямлі і за свае грошы збудаваў яму хацінку. Доўга дзед той яшчэ жыў на сваім хутары, а потым ля яго іншыя сталі сяліцца, пазней ужо. Дык ён ім усё гаварыў:

— Хутарок свой я атрымаў, мае дзеткі, праз лой... І так здараецца, усяляк у жыцці бывае...

Тых людзей лоеўцамі сталі зваць, а вёсачку — Лойкі.



# АСТРАВЕЦ

Жыў тут адзін пан. Не вельмі багаты, але гонару меў — на траіх хапіла б. Нос задзіраў так, што і кіем не дастанеш. І блізка не падыходзь, не пытайся нічога, бо ўсё роўна не адкажа. Але працаваў той памешчык не горш за любога мужыка. Мала таго — пастаянна чалавек колькі наймаў — то сена касіць, то жыта жаць, а то і бульбу капаць, бо пані катэгарычна адрэзала:

— Не буду я ў зямлі капацца! Я тваю бульбу не саджала. І шукаць не стану! Зварыць есці — іншая справа, астатняе мяне не датычыцца.

Паспрабаваў гаспадар на жонку націснуць. Як крычаў-гарлаў, дык тая трывала, а калі ўзяўся за дзягу, то і пані ўхапілася за патэльню. Бомкнула мужа разы са два па лысым чэрапе — так яны з таго дня адносна гэтага і не гаманілі ні разу: пан сваё робіць, а пані сваё. Як зробяць — так і добра.

Праспела касьба. Пан пахадзіў, паглядзеў, якая трава на ягоных лугах узнялася, і вырашыў, што на гэты раз многа людзей наймаць не будзе: ён сам, яшчэ пару чалавек возьме і досыць. І грошы зберажэ, і прыбытак будзе. Пасядзеў яшчэ з гадзіну, падумаў і пайшоў у сялянскія хаты. Куды ісці — ведаў добра. Выбіраў работнікаў не

абы якіх, а здаравенных, і каб не лайдакі былі, бо тады бяды не абярэшся.

З адным селянінам дамовіліся адразу, бо ў таго была даволі вялікая сям'я і яе трэба было нечым карміць, таму ён пастаянна аддаваў старэйшага сына, Апанаса, унаймы. Хлопец той за дзень усяго пару словаў вымаўляў — такі маўклівы быў, а вось касца такога ў ваколіцы не знойдзеш: касою як шмаргане — капу цэлую зваліць. Сказаў пан гаспадару:

— Буду плаціць яму залатоўку ў дзень. І ежа, адпаведна, мая.

Селянін хацеў было запярэчыць, што малавата за такога работніка, але, відаць, спалохаўся, што пан можа іншага каго запрасіць, — і пагадзіўся.

А вось з другім работнікам давялося пану павазіцца. Прапанаваў цану, дык той толькі хмыкнуў:

— За адну залатоўку, пане, няхай табе цыганы косяць! Лепей пасяджу спакойна, чым за так працаваць!

— А колькі ж ты хочаш?

— Тры.

— Ды дзе ж гэта ты, чалавеча, чуў, каб за адзін дзень касцу тры залатоўкі плацілі?

— Чуць — і сапраўды не чуў, але згодны працаваць толькі так. Не хочаш — наймай другога работніка, я не напрошваюся, — спакойна даводзіў гаспадар і паводзіў магутнымі плячыма.

Што тут было пану рабіць? Апанасу ж ён толькі адну залатоўку паабяцаў, а калі гэтаму тры заплаціць, то той адмовіцца працаваць ці да каго іншага пойдзе.

Доўга спрачаліся, крычалі пан і селянін, але памешчык, як ён лічыў, перахітрыў вяскоўца — наняў усяго за адну залатоўку, але абяцаў, што ежы пані будзе класці поўную торбу і яшчэ даваць, што той ні папросіць.

З раніцы пан ужо чакаў работнікаў. Неўзабаве тыя прыйшлі. Гаспадар пасадзіў іх за стол і крыкнуў жонцы:

— Давай хутчэй есці, бо людзі чакаюць! Перакусім з самага рання, то і раса апасці не паспее!

Гаспадыня прынесла і паставіла перад работнікамі здаравенныя місы з нішчымным бацвіннем. Хлёпаюць тыя, толькі водгулле, нібы ў хляве, ідзе. А пан есць моўчкі. Пані перад ім курыцу паклала. Апанас дык той усё маўчаў, а другі работнік — Сцяпан — не вытрымаў і прамовіў:

— Ну, пане, накарміў ты нас добра. Да полудня піць хацець не будзем. Пагляджу, што пані ў торбу накладзе.

— Усё зраблю, Сцяпанка, як і абяцаў, — не перажывай. Пасёрбайце яшчэ, пакуль гарачае.

— Ды мы ўжо, гаспадар, насёрбаліся, — катэгарычна запэўніў касец.

Праз пару хвілін усе ўсталі, і гаспадыня да сябе паклікала:

— Ідзіце, мужчынкі, торбы свае забірайце. Я вам тут прыкусіць паклала, — і падае гаспадару здаравенную торбу.

Глядзяць касцы — у Сцяпана яна вялікая і поўная, а ў Апанаса — невялічкая і амаль пустая. Нічога ніхто не сказаў, сабраліся і пайшлі.

Сталі на ўскрайку луга, і памешчык гаворыць:

— Вось адсюль, хлопцы, і пачнём. Лупіць будзем далекавата, амаль вунь да таго астраўка.

— Туды дык туды, — пераглянуліся паміж сабою касцы.

— Вы напярэдзе ідзіце, маладзейшыя, а я ўжо ззаду, за вамі, пхацца буду...

— Пхайся, пане, пхайся, ды не забывайся, што косім да полудня, тады толькі перадыхаем...

Узрадаваўся гаспадар такім словам, замахаў рукамі:

— Ну, то так, то так.

Сталі яны касіць. Хлопцы як пайшлі, дык пан адразу стаў адставаць, але трымаўся, не паказваў, што не вытрымлівае гэткага рытму. Тым часам Апанас прыналёг і, абагнаўшы Сцяпана, закончыў свой пракос ды пачаў новы, ужо за гаспадаром. Хвілін праз дзесятак пачулася магутнае:

— Рана дахаты, але, пан, хавай пяты, бо паадсякаю! Уцякай, бо здаганяю!

Бедалага-пан і падумаць не мог, што яго гэтак прыціснуць хутка. Давай ён ужо шчыра браць, але спераду Сцяпан, нібыта не падпускае да сябе, а ззаду ўсё той жа асілак Апанас гарлае:

— Апошні раз папераджаю — ногі паадсякаю! Уцякай, пане!

Пракосы па тры як прайшлі, не адпачываючы, то на памешчыку сарочка ажно задымілася. Упаў ён на пракос і слова вымавіць не можа — трасецца, калоціцца. Падышлі касцы, сталі побач і гамоняць:

— Бачыш, як чалавеку дрэнна стала. Відаць, не давала яму жонка ўранні сала.

— Давала, давала, — прамовіў пан і перавярнуўся на бок.

— А нам, бачыш, пашкадавала, — не адступаліся работнікі.

— І вам жа торбы напакавала, не ведаю, праўда, ці ёсць там сала...

— Зараз сядзем палуднаваць, то і пабачым. Падхапілі пана пад пахі і пайшлі туды, дзе торбы пакінулі. Развязалі кожны сваю, і Апанас ледзьве не закрычаў ад здзіўлення — у яго ляжала толькі лустачка хлеба. Але стрымаўся, толькі спадылба глянуў на гаспадара. У Сцяпанавай торбе быў здаравенны каравай хлеба і бутэлька малака. Крутнуў носам касец:

— Я піць і пасля снядання не хачу, мне б паесці, інакш касу не пацягну. А дзе ж тое сала, што пані паклала? Можа забылася?

— Можа, можа, — праз зубы прамовіў пан, жуючы каўбасы.

— То схаджу я да палаца ды папрашу.

— Ага, скажы пані, каб абавязкова дала.

Паджгаў Сцяпан так, нібы яго чэрці падхапілі і панеслі.

— Бычок здаравенны, а не чалавек, — з поўным ротам прамовіў гаспадар, — бачыш, як любіць сала...

— Неблагая справа, — спакойна адказаў Апанас і, каб не дражніць свой страўнік, улёгся на траву і адвярнуўся. Праз хвіліну касец магутна хроп. Пан хацеў было яго будзіць, але падумаў: «Ну і што? Устане ён — і мне давядзецца ісці з ім касіць. Хай лепей паспіць, то і я адпачну. А прыйдзе Сцяпан, дык усе разам і рушым».

Заснуў і гаспадар. Сонца ўжо высока над галовамі свяціла, паглядаючы на нядбайных касцоў, а яны храплі так, што толькі пошчак па кустоўі нёсся. Хто іх ведае, колькі ляжалі б, каб не Сцяпан. Той яшчэ здалёк закрычаў:

— Уставайце, завалы! Я пад'еў сала, цяпер да вечара махаць касой буду! Уставайце!

Апанас прадраў вочы і бомкнуў:

— Ты наеўся, а мне якая справа? Ты хочаш — ты і махай.

Пан жа запытаўся ў Сцяпана:

— Ну што, задаволены? Дала пані?

— Ага, упадабала... Я раней прыйшоў бы, дык яна паспрабавала са мною і кажа — «мала». Давялося яшчэ крыху пабыць.

— Нічога, — супакоіў памешчык, — не перажывай, да вечара нагонім.

Узяліся зноў працаваць, і зноў памешчыка ўпёрлі, як і з раніцы, у сярэдзіну. Як ён ні выгадваў, як ні круціўся, але не выйшла па-ягонаму. Дамоў гаспадар ужо ледзьве ішоў, а касцы сунуліся ззаду і пасмейваліся:

— Можа, пане, заўтра такую вялікую торбу не бяры? Бач, як яна плечы адцягвае?

Гаспадар маўчаў.

— Напэўна, мы сёння ранавата пачалі, трэба крыху пазней, бо пан не выцягне, — нібы да свайго напарніка звяртаючыся, прамовіў Апанас.

— Ды і як ты заўтра зранне пойдзеш, шкада ж чалавека...

Памешчык усё маўчаў. Мабыць, неставала сілы нават на тое, каб агрызнуцца.

Прыйшлі дамоў. Паселі за стол. Гаспадар рукі паклаў і крыкнуў:

— Жонка, нясі есці!

Прынесла тая зноў вялізныя місы касцам, а пану — колца каўбасы. Але памешчык запярэчыў:

— Не, не давай ім столькі бацвіння... Сёння ледзьве мяне не загналі. Калі б не падтрымалі, то і ўпаў бы там. Дай ім мяса ды сала, каб заўтра не так хутка працавалі.

Гаспадыня прынесла здаравенныя кавалкі мяса і паклала перад касцамі, а сама, між тым, замілавана пазглядвала на Сцяпана.

— Ну, чаго стаіш, рот разявіўшы? — не вытрымаў пан. — Нешта забылася ці нешта ўпала?

— Не забылася, мужу, і не ўпала. Проста хачу запытацца, ці пусціш ты заўтра Сцяпана па сала?

— Чаго гэта?

— Бо сёння я яму надта мала дала.

— Калі і заўтра яму будзе мала, то адпушчу. Ён хутка збегае...

На наступную раніцу касцы падхапіліся на досвітку, а гаспадара не відаць. Недзе толькі калі ўжо сонца стала добра прыпякаць, вылез ён на ганак.

— Пайшлі, перакусім ды пойдзем.

Пакуль елі, пані торбы ўсім сабрала. У пана торба крыху меншая была, чым у першы дзень, у Сцяпана — дык удвая большая за гаспадарову, а ў Апанаса — такая ж, як і ўчора.

Пачалі касіць. Цяпер ужо Сцяпан джгаў, нібы яго кіямі падганялі, а Апанас жа толькі пацягваўся і зяхаў. Прыспеў полудзень. Сцяпан і кажа:

— Нешта мне, пане, есці мала. Ці нельга збегаць па сала?

— Чаму ж не, збегай.

Апанас пацягнуўся і соладка заснуў.

Паўтарылася ўсё, як і ў першы дзень. Сцяпан разбудзіў касцоў, калі сонца зусім нізка было, над лесам ледзьве відаць.

— Дзе ж гэта ты так доўга лазіў? — нецярпліва запытаўся пан.

— Ды пані ўсё прасіла, каб надта не спяшаўся і з'еў яшчэ сала...

Апанас зразумеў, якое «сала» еў касец, але віду не падаў. Дурында ж памешчык прапанаваў:

— Давайце яшчэ пакосім, бо з'елі сала, а зрабілі зусім мала.

Але Апанас адразу азваўся:

— Хто зрабіў мала — той еў сала, а я сала не еў, таму і працаваць сёння больш не буду.

Прыйшлі дамоў, павячэралі. Пані не ведала, як Сцяпану дагадзіць — усё лепшыя кавалкі яму падкладвала. Памешчык адразу пацёгся спаць, Апанас жа за дзень не стаміўся, таму высунуўся на падворак і сеў на ганак. Ажно глядзіць — ідзе дзяўчына, і такая яна прыгожая, такая стройная, што вачэй ад яе нельга адарваць. Хлопец з сябе таксама быў не абы-які: высокі, круглатвары, а пра сілу мы ўжо згадвалі.

— Чыя ты, дзеўчына? — вымавіў дзяцюк.

— А я дачка пана, Ульяна.

— І не ведаў, што ў гаспадара такая прыгожая дачка.

— Мала што ты не ведаў.

Памаўчалі крыху, але дзяўчына не адыходзіла.

— Дык гэта ты ў нас косіш?

— Ага, я і Сцяпан...

— Гэта той, што на полудзень прыбягае два дні запар да нас?

— Так. Ён твайму бацьку гаворыць, што недаядае, дык той накіроўвае яго да жонкі, каб тая сала давала...

Дзяўчына засмяялася, і так шчыра, так весела гучаў яе смех, што Апанас не стрымаўся і загыгыкаў таксама. Доўга яны гаманілі, седзячы на ганку, нарэшце дзяўчына прамовіла:

— Час ужо і мне спаць. А дзе вы сёння касілі?

— Ды там, ля вострава.

— І заўтра там будзеце?

— І заўтра. Калі так, як сёння справа пойдзе, то на тыдзень работы хопіць.

Развіталіся, пажадаўшы адзін аднаму добрай ночы, і стала ціха на падворку.

Зноў прыспела раніца, і зноў доўга чакала гаспадыня, калі падаваць ежу на стол, боператомлены гаспадар хроп у пакоі. Нарэшце перакусілі і пасунуліся на луг. Апанас толькі ўсміхнуўся, на руцэ ўзважыўшы сваю торбачку.

Касілі, як звычайна: Сцяпан стараўся, каб апраўдаць нястачу сала, памешчык сучыў следам, а Апанас нават касу ні разу не навастрыў да полудня.

Палуднаваць селі пад вялікім лазовым карчом. Сцяпан адразу ўсхадзіўся:

— Ну што гэта са мной? Усё мала ды мала. Сала як ніколі хочацца...

Апанас, лежачы, прамовіў:

— Такога сала заўсёды мала.

А памешчык нічога і на гэты раз не зразумеў і кажа:

— Дык збегай да палаца, скажы жонцы, каб добра табе ўсяго дала.

Сцяпан пабег, заснуў гаспадар, а маладому касцу не спалася. Стомы рукі не адчувалі, таму і сон не браў. Ляжыць так і чуе, што нехта яго ціхенька кліча. Азірнуўся хлопец і прасвятлеў тварам — за кустом стаяла Улляна і трымала ў руках нейкі вузельчык.

— Што здарылася? Чаго ты ажно сюды прыйшла?

— Есці табе прынесла. А то Сцяпан паляцеў да матулі... па сала, бацька наеўся ад пуза і храпе...

Так паўтаралася некалькі дзён, і хлопец адчуў, што цягне яго да яе. Не хаваў ён сваіх думак. Дзяўчына як пачула — зачырванелася і таксама прамовіла:

— І ты мне падабаешся, Апанаска. Як першы раз убачыла, то і запаў у сэрца...

— Што ж нам рабіць? Жаніцца ж мне нельга...

— Чаму?

— Я з беднякоў і ў майго бацькі зямлі амаль няма. Таму і хаджу пастаянна ў работніках.

— Дык у майго ж вунь колькі...

— Гэта ў твайго.

— Усё роўна ён яе сам не дагледзіць. Матуля, бачыш, што вырабляе... І нікому да мяне справы няма. Слухай, як мы зробім...

На наступны дзень Апанас пайшоў касіць на востраў. Недзе пад полудзень Сцяпан паляцеў да пані, па сала, а

пан паклікаў Апанаса, бо яму сумна было аднаму ля торбы. Ажно пачуў у адказ:

— Эх, пане, касец-маладзец сеў на астравец! Нікуды я адсюль не пайду, бо тут я шчасце сваё знайшоў!

Нічога не зразумеў памешчык і пайшоў паглядзець, што там робіцца. Ажно бачыць — ягоная дачка Ульяна мілуецца з хлопцам. Хацеў было абурыцца, але дзяўчына апярэдзіла яго:

— Аддай мяне, тата, за Апанаса. Кахаю я яго. А яшчэ — гані Сцяпана прэч, бо людзі засмяюць! Зусім ты галаву страціў, нічога вакол сябе не бачыш, нават не здагадваешся, па якое сала той бегае.

— А я... — пачаў было памешчык і ляпнуў сябе па лбе.— Дык вось, значыцца, што там за сала!..

— Тата, нам нічога не трэба, толькі зямлі кавалак, — астатняе самі зробім...

— Дык няхай твой касец забірае гэты астравец і луг, і яшчэ кавалак поля.

Падзякавалі маладыя памешчыку за падарунак і сталі спакойна жыць. А за тым астраўком, дзе яны першую хаціну паставілі, назва так і засталася — Астравец.

## ВАРНЯНЫ

Жыла-была ўдава. Рана яна без мужа засталася, можа, усяго гадоў восем і пажыла за чалавекам. Гаспадарлівы быў селянін, ні хвіліны не мог дома проста так пасядзець, увесь час працу якую-небудзь сабе шукаў. А было ў іх ужо тры дачушкі маленькія. Дык ён нешта робіць і яшчэ дзяцей забаўляе — то ім дудачку выража, то з гліны свісток-птушачку вылепіць, то песні вясёлай навучыць. Лёгка жылося гаспадыні з такім мужам. Якія ж клопаты, калі чалавек той і не п'е, і не лайдачыць? Толькі сама не ленуйся, дапамагай яму — усё расці будзе. Так яны і рабілі, так і падтрымлівалі адзін аднаго. Дачушак сваіх таксама да працы прывучалі.

Зайздросцілі суседзі дружнай і працавітай сям'і. Ды, мабыць, зайздрасцю і парушылі сямейнае шчасце.

Жыў, казалі, тады ў вёсцы адзін чараўнік. Злы быў чалавек, нікому слова ласкавага не сказаў, не глянуў на чалавека прыхільна, да вяскоўцаў не хадзіў, а ўсё сядзеў на прызбе і пра нешта думаў, усё бурчэў незадаволена ды паглядаў скрыва. Каб мог, здавалася, дык поедам еў бы. Побач з ім заўсёды сядзелі чорныя вароны. І гэтак

многа іх было — ажно чорна наўкола. Куды ён ні кіраваў, туды і яны падляталі следам. Гаманілі нават, што і ноччу птушкі тыя не на двары начавалі, а да чараўніка ў хату ўляталі. Але ці так гэта было на самай справе, цяжка сказаць, бо баяліся сяляне зазірнуць да яго ў акно, няхай сабе і вечарам, у добрых прыцемках, баяліся, што напусціць якога дыму-туману на чалавека і ніколі той не акрыяе, не выцягнецца з хваробы і памрэ ў страшэнных пакутах.

Казалі, што менавіта той злы стары і напусціў моцны вецер, а можа, і буру, ад чаго і загінуў галава дружнай і працавітай сям'і. Раней жа свята верылі, што чараўнікі выклікалі любыя вятры ў прыродзе.

А здарылася на той раз вось што.

Ляжалі неяк увечары муж з жонкай на палку (дзеці ўжо спалі) і размаўлялі паціху. Чалавек і кажа:

— Паеду заўтра ў лес.

— Чаго гэта? — запыталася жонка. — У нас жа дроў на пару гадоў хопіць.

— Дроў хопіць, я многа навазіў, але хачу ссекчы тоўстую сасну ды прывезці. Пару разоў з'езджу, то завідна і ўпраўлюся. Пакладу дома, няхай бёрны прасохнуць, а з вясны зраблю што-небудзь...

— Адпачыў бы лепей дома, з дзецьмі пасядзеў.

— Ды я і вечарам з імі пагуляю. Кажу ж, што завідна ўпраўлюся.

— Чуеш — вецер усхадзіўся нечага...

— А што мне вецер у лесе? Шуміць і няхай шуміць сабе, з-за дрэваў зацішна, нібы на печы.

— Не едзь, нешта неспакойна ў мяне на душы.

— Трэба, бо дажджы зарадзяць — усё сапсуюць.

Пагаманілі так і заснулі, а з самае раніцы гаспадар устаў, сабраўся, запрог коніка і паехаў у лес.

Полудзень мінуў, а чалавека ўсё не было. Захвалявалася жанчына — абяцаў жа нават два разы за дзень справіцца, і няма. Ужо разоў колькі выходзіла на дарогу і паглядала ў бок лесу — нікога не было відаць. Потым і прыцемкі ўзяліся. Дзеці па хаце бегалі, дапытваліся:

— Мамачка, дзе тата? Ён жа казаў, што з намі вечарам пагуляе.

— Пагуляе, дзеткі, пагуляе, — адказвала тая, а сама ажно калацілася ад дрэннага прадчування.

І сапраўды, сярод ночы раздаўся стук у аканіцу і яе паклікалі выйсці на вуліцу.

Калі выйшла, то ўбачыла некалькіх вяскоўцаў, якія

стаялі перад ёю без шапак, а на возе ляжаў яе муж. Ужо нябожчык. Загаласіла жанчына, застагнала. Чула яшчэ, як нехта з людзей прамовіў:

— Вецер вялікі, а ён, небарака, не разлічыў крыху, і яго тым жа дрэвам, што ссек, і раздавіла... Вось як яно ў жыцці бывае...

Засталася бедная жанчына з трыма маленькімі дачушкамі. На яе плечы ўсё звалілася: і сеяць, і араць, і па тыя ж дровы ў лес ездзіць, і дзяцей гадаваць. Усюды брала іх з сабою. Дзе прасіла, дзе прымушала, каб дапамагалі, — так і гадаваліся, так і падрасталі.

Непрыкметна праляцелі гады, і сталі дзяўчынкі сапраўднымі прыгажунямі, асабліва меншая. Мала таго, што прыгожая, дык і да працы — нібы агонь. Жанчына глядзела на яе і са смуткам думала: «Выліты бацька-нябожчык! Выліты! Той ніколі і хвілінкі не пасядзеў, адпачываючы, і гэтая стомы не ведае. Усё круціцца і круціцца, робіць і робіць. Хоць бы ёй у жыцці пашчасціла ды добрага хлопца сабе за мужа абрала. Тады б і я шчаслівая была, яна б мяне ў глыбокай старасці не кінула, дагледзела б, мая дачушка...»

Старэйшыя дочкі таксама дапамагалі, але іх даводзілася пастаянна прымушаць, ушчуваць, каб не глядзелі, як малодшая надрываецца, а дапамагалі ёй. Сёстры фыркалі, але ішлі, бо матулю паважалі.

І што ж вы думаеце? Адчувалі, мабыць, старэйшыя, што гаспадыня да малодшай хінецца, і вырашылі за гэта яе са свету звесці. Сваю родную сястру! Толькі за тое, што тая ўсё рабіла і на бацьку была падобная.

Вось аднойчы матуля паслала дачок у лес па ягады. Старэйшыя сёстры папярэдне аб усім дамовіліся і вырашылі менавіта сёння ўсё скончыць. Болей таго, нават вострый нож узялі.

Разышліся па лесе. Малодшая прысела, заспявала сумную песню і бярэ ягады — толькі рукі мільгаюць. А старэйшыя падкраліся, і адна з іх усадзіла нож у сагнутую спіну дзяўчыны, тая і не крыкнула.

Выкапалі злачынкі яму і ўкінулі туды родную сястру. Пачалі было засыпаць, але старэйшая прапанавала:

— Давай лепей ламаччам закідаем, усё роўна ніхто не знойдзе.

Так і зрабілі. Дамоў вярнуліся, а матуля і пытаецца:

— А дзе ж ваша сястра?

— Яна ад нас адышлася і, мабыць, заблукала, бо колькі мы ні гукалі, колькі ні гарлалі — не азвалася.

Дочкі ляглі і паснулі спакойна, а гаспадыня валасы на сабе рвала ўсю ноч, што дачкі ў хаце няма.

Раніцай сярэдняя з дачок не вытрымала і, заплакаўшы, прызналася матулі ў тым, што яны зрабілі. Гаспадыня назаўсёды выгнала з хаціны самую старэйшую, а з сярэдняй паехала забіраць цела.

Калі тую дзяўчыну хавалі, то людзей назбіралася вялікае мноства і ўсе яе вельмі шкадавалі. Нават чужыя сяляне і сялянкі плакалі, гледзячы на тое, як убівалася гаротніца-матуля, і шчыра спачувалі ёй. На могілках ледзьве адарвалі жанчыну ад магілы, бо прасілася небарака, каб і яе засыпалі жоўтым пясочкам разам з любай дачкою, усё крычала, што не будзе ёй болей у жыцці шчасця.

Самае дзіўнае, што нават той стары чараўнік, які ўжо ледзьве ногі смыкаў, прыйшоў на могілкі і стаяў ціхенька з краю. З ім прыляцела і мноства варон. Яны, на дзіва, не каркалі, а моўчкі сядзелі на дрэвах, нібы спачувалі беднай жанчыне.

У гэты час ехаў багаты пан у карэце. Убачыў столькі народу на могілках і загадаў фурману спыніцца. Вылез ён з карэты, перажагнаўся (праўда, да магілы не пайшоў), пастаяў крыху і ціха сказаў ці то сам сабе, ці то да фурмана звяртаючыся:

— Але ж і край у вас вараняны...

Многія гэтае слова пачулі ўпершыню і так назвалі сваю вёску. З цягам гадоў яна стала Варнянамі.

## БЕЛАЯ ВАДА

Пасярод паселішча і зараз, калі добра прыгледзецца, відаць невялікае ўзвышша, а калісьці гэта быў высачэнны курган, такі, што трэба было галаву задзіраць і рукою шапку прытрымліваць, каб глянуць на самы верх. А там раслі магутныя, прыгожыя дрэвы і стаяў дзівосны палац. Многа гадоў яго будавалі самыя найлепшыя майстры, не спяшаліся, меркавалі-радзіліся, а калі давялі справу да канца, то гаспадар — магутны князь — ажно рукамі пляснуў і прамовіў: «Людцы, даражэнькія! Ды я ж такога цуда колькі жыву не бачыў! Вось дзякуй вам! Вось ужо шчодра я вас аддзячу!»

А гэтаму гаспадару можна было верыць, яго слова

ніколі не разыходзілася са справай, калі сказаў — абавязкова зробіць. А не здолее выканаць, дык прыйдзе да таго чалавека, якому паабяцаў, нягледзячы, бедны гэта ці багаты, і папросіць прабачэння, прапануе іншую паслугу, якая будзе па яго магчымасцях. Вось такім чалавекам ён і быў. Паважалі яго людзі, ніколі слова дрэннага пра свайго валадара не сказалі.

Але ў асабістым жыцці не шанцавала магутнаму князю. Была ў яго жонка-прыгажуня. Можа, гадоў пяць усяго і пажылі яны разам, парадаваліся, а потым нечакана захварэла гаспадыня. Якіх толькі лекараў ды варажбітоў ні заклікаў князь, імкнучыся вылечыць, — нічога не дапамагала. На вачах згарала жанчына. Высахла ўся, перамянілася, стала не падобна на тую бесклапотную весялуху, якая некалі гэтак зачаравала сэрца маладога князя. Ляжала перад ім не маладая, прывабная жанчына, а старая, змізарнелая хворая, якая ўжо ледзьве дыхала. І да багоў звяртаўся князь, і ахвяры ім шматлікія ды багатыя прыносіў — толькі і гэта ўсё справы не перайначыла. З кожным днём сілы пакідалі цела князёўны. А праз нейкі месяц здарылася і самае горшае: на світанні, калі сонца чарговы раз збіралася абагрэць зямлю, сканала небарака.

Застаўся гаспадар з маленькім сынам на руках. Тут трэба вам растлумачыць, што ў тыя даўнія гады ў нашых продкаў быў звычай: дзіця з багатай сям'і аддавалі на выхаванне ў бедную сям'ю, каб пазнаёмілася яно з фізічнай працай, каб прызвычаілася да ўсялякіх цяжкасцей, якія маглі напаткаць яго ў будучым жыцці. Браталіся такім чынам бедныя з багатымі і ніколі не чынілі адзін аднаму бяды. Таму і князь вырашыў аддаць свайго сына на выхаванне да простых людзей і пачаў прыглядацца, у якую сям'ю. Неяк ён убачыў дзяўчыну дзіўнай прыгажосці, якая жала жыта і спявала. Супыніў свайго каня валадар, заслухаўся песняй, заглядзеўся спорнай працай жнейкі і вырашыў, што ёй і прынясе Адаську — гэтак звалі сыночка. Пачакаў яшчэ дзён колькі і павёз малога ў тую хаціну, дзе жыла дзяўчына. Тут ён дазнаўся, што бацькі яе памерлі і жыве яна адна. Да таго ж, пабачыўшы дзяўчыну зблізку і паразмаўляўшы з ёю, князь зразумеў, што забыць яе ўжо не зможа.

— Давай зробім так. Ты будзеш глядзець майго сына, а не працаваць у полі. Араць ды жыта жаць будуць другія. Ты ж толькі глядзі, каб усё ў парадку было... — пра-

мовіў князь, а сам думаў пра тое, што цяпер часта будзе сюды прыязджаць і бачыць мілы тварык.

— Не хвалюйся, княжа, — адказала яму гаспадыня, — буду глядзець за тваім сынам, як за ўласным. Усё добра будзе, не хвалюйся.

Амаль кожны дзень валадар наведваўся да сялянскай хаціны, і калі не заходзіў да гаспадыні паразмаўляць, то сядзеў дзе-небудзь, стаіўшыся, і слухаў, як яна гаманіла з Адаськам. Той ужо пачаў размаўляць і па-дзіцячаму шчыра, без хітрыкаў на ўсё адказваў. Часам князь з вялікай цяжкасцю стрымліваўся, каб не зарагатаць з паводзін сына і яго слоў.

Калі ж сядзелі з дзяўчынай, то ён пастаянна губляўся, адчуваў сябе хлапчуком, які ў нечым правінаваціўся. Але з цягам часу ўсё ў іх наладзілася. Цяпер ужо, бачыў валадар, і дзяўчына з нецярплівасцю чакала яго, прасіла пасядзець, пагаманіць. Яны размаўлялі, Адаська гуляў побач, і стваралася ўражанне, што адпачывае ці займаецца ўласнымі справамі дружная сям'я.

Ужо гадоў пару прайшло з таго часу, як князь страціў сваю жонку, а ён усё не адважваўся прапанаваць прыгажуні выйсці за яго замуж, усё адкладваў, усё стрымліваўся, а калі зноў сустракаліся, то вырашаў, што абавязкова зробіць гэта... у наступны раз. Так справа і доўжылася. Усё, можа, закончылася б шчасліва, каб не трагічны выпадак. Аднаго разу прыехаў валадар да гаспадыні, і селі яны пагаманіць пад белай бярозай, якая расла на дварэ. Хлопчык гуляў тут жа. Яны і не заўважылі, калі і куды знік Адаська. Раптам ускочыла дзяўчына:

— А дзе ж Адаська?..

— Можа, недзе за хатай, — яшчэ не адчуваючы бяды, сказаў князь.

Глянулі туды, абабеглі вакол падворка — няма малога. Пачалі клікаць дамоў — не адгукаецца. І тут непадалёку пачулася жаночае галашэнне:

— Ой, родненькія! Ой, дзіця ўтапілася!

Кінуліся яны туды. Зусім побач цякла з той гары невялікая рака, якая ля падножжа ўтварала неглыбокае азярцо. Каму неглыбокае, а каму і дастаткова было, каб напіцца вады ды мёртвым стаць. Хапіла і Адаську. Адкачвалі, адціралі, чаго толькі не рабілі людзі — усё дарэмна, не ажывілі хлопчыка. Тут толькі князь запытаўся:

— А дзе ж гэта дзяўчына?.. Дзе названая маці?..

Шукайце яе, каб яна з сабою чаго дурнога не ўчыніла. Шукайце...

Пачалі шукаць, зваць тую дзяўчыну — нідзе яе не было.

— Бяжыце, яшчэ раз усё абшукайце, бо з кожнай хвілінай усё меней і меней надзеі на тое, што яна яшчэ жывая... Бяжыце... — слёзна маліў вяскоўцаў валадар.

Пачалі ўсё аглядаць па-новаму і неўзабаве амаль ад самага пачатку рачулкі данеслася хлапечае:

— Тут яна, тут!

Прыбеглі людзі, а дзяўчына ўжо была нежывая — гэта пераканаўча сцвярджалі яе нерміргаючыя вочы. Утапілася ў празрыстай вадзе.

Упаў тады князь на калені і загаласіў:

— Што ж гэта я нарабіў?! Забыўся пра асцярожнасць — і сына страціў, і тую, якая мае сэрца загоіла... Ох, гора мне аднаму заставацца... Навошта мне жыццё такое?..

Стаялі людзі побач моўчкі, і ніхто нічога не мог параіць. Раптам нехта ціхенька прашаптаў:

— Глядзіце, людцы, а вада... Вада стала белая...

Павярнуліся ўсе на той шэпт, і сапраўды: вада цякла ў рацэ ўжо не празрыстая, як раней, а белая, што тое малако.

— Гэта рэчка ці то ад крыўды, ці то ад таго, што за адзін дзень дваіх перавяла... Яна, як жывая, усё адчувае. Сказаць толькі не можа, голасу не мае...

З тае пары людзі доўга прыходзілі да рэчкі, каб згадаць пра хлопчыка і дзяўчыну, а князь пастаянна кветкі палявыя прыносіў. З цягам часу рачулка тая і возера балацінкай сталі, а вось назва засталася — Белая Вада.

## ВАРОНА

Некалі жыў на гэтым месцы адзін гаспадар — Панцялей. Было ў яго трое сыноў і дзве дачкі. Зямлі чалавек меў не надта багата, але сям'я жыла заможна, бо селянін дацяміў, як палепшыць стан сваіх спраў — пачаў займацца бортніцтвам. У свой час ягоны дзядуля гэтым займаўся, а вось бацька чамусьці неўзлюбіў пчолак і прыкіпеў толькі да зямлі. Таму Панцялею даводзілася многае прыгадваць, многае распытваць, а большай часткай — самому галавой даходзіць. Не адразу ўсё атрымалася, але калі пачаў больш разбірацца, і прыбытак пайшоў важкі.

Гаспадыня і тая не раз казала, праўда, без зла ці кепікаў:

— Бачыш, злазіў на дрэва пару разоў, а мёду прынёс цэлыя ночвы. Яшчэ пару разоў — і яшчэ ночвы. Дзе яшчэ так можна разжыцца? У якой яшчэ справе?..

Пасміхваўся Панцялей і толькі вусы свае рыжыя пакручваў.

— Так. На ногі мы сталі, цяпер трэба дзецям усё давесці, каб і яны ведалі, што да чаго. Зразумеюць — то і сем'і будуць заможна трымаць, не — справа можа іншым бокам павярнуцца, бо на зямлі і неўраджаі, і засухі, і пажары здараюцца... А пчолкі, яны сваю справу ведаюць цвёрда — носяць мёд дый годзе!

Прайшло пару гадоў, і Панцялей пачаў сыноў браць з сабой, паказваць, як борці выдзёўбваць, як рой прываджваць да мясціны і многае іншае. Падоўгу тлумачыў, цярпліва паказваў, каб на ўсё жыццё запала сынам навука, а калі злаваўся, то звычайна гаварыў:

— Што ты рот разявіў — а нічога не слухаеш, глядзіш — а не бачыш? Ну як варона тая...

Дзеці залівіста рагаталі з няўдалага бортніка, і той чырванеў і пачынаў плакаць. Бацька, колькі хвілін счакаўшы, супакойваў яго:

— А плакаць навошта? Навошта плакаць? Хіба ж так можна? Што датычыць вароны, то і яна птушка, і яе для нечага Бог на зямлі стварыў... Глядзі і слухай уважліва, не даводзь болей мяне да такога, — і ўсё пачынаў спачатку.

Прайшло яшчэ пару гадоў. Хлопцы выцягнуліся, а самы старэйшы, Мітрык, дык такім мядзведзем зрабіўся, што і сапраўднаму мядзведзю непажадана было з ім сустракацца, бо невядома, хто каму хахол надраў бы. Ён і дапамагаў Панцялею найболей: і разумеў усё з паўслова, і рабіў так, што правяраць не было патрэбы. Адным словам — ва ўсім быў надзейны. Калі гаспадар не паспяваў што зрабіць, то загадваў:

— Вось што, хлопцы, пойдзеце з Мітрыкам. Слухайцеся яго, як мяне. Не паспяваю я, сыночкі, спраў многа, таму дапамагайце.

Калі збіраліся ўсе дома, Панцялей падрабязна распытваў пра справы, ці не было якіх нечаканасцей. Бацька патрабаваў, каб ад яго нічога не ўтойвалі.

— Гаварыце ўсё. Пакуль я побач, навучу, як выйсце знайсці. Такое можа здарыцца і ў наступны раз, а мяне тады побач не будзе.

— Ды не, тата, усё ў парадку, — заспакойвалі тыя.

— А ці быў хто сёння варонай? — пераходзячы на жарты, дапытваўся Панцялей.

— Быў, — адказваў Мітрык, — вось Пётра зноў нічога не слухаў. Я яму зверху крычаў, каб падаў мне тое, ці тое, а ён дапытваўся, дзе яно ляжыць, як выглядае. Два разы сам зверху злазіў і браў. Час дарма страціў. Маглі намнога болей зрабіць.

Пахмурнеў селянін, але не крычаў на самага малодшага, бо той быў зусім яшчэ малы, толькі павучальна прамаўляў:

— Глядзі, Петрык, дапамагай братам, слухайся іх, сынок, — далей прасцей жыць будзе. Злазіць з дрэва і назад узбірацца па лёзівах надзвычай цяжка. Праз гадоў пару сам пераканаешся. Караць сёння не буду, але памятай, што гаворка наконт гэтага была...

— Добра, тата, — ледзьве чутна адказваў той і хаваўся за матуліну спіну, якая спачувальна гладзіла меншанькага па галоўцы:

— Нічога, Петрык, наступным разам будзеш слухацца. Праўда, сынку?

— Праўда, мама, — гаварыў той, радуючыся, што за яго ўступілася матуля.

Так непрыкметна ляцелі дні, міналі месяцы, праходзілі гады за гадамі. Гаспадаровы сыны сталі падобнымі адзін на аднаго — здаравеннымі прыгажунамі. Цяпер зусім лёгка стала Панцялею з жонкай. За заўтрашні дзень не было чаго хваляваццa, адно толькі — глядзі, падказвай, дзе ды што да ладу давесці, а хлопцы самі ўсё зробяць.

Праўда, была ў гаспадара і прычына для роздумаў. Малодшы, той самы Пётра, не надта цягнуўся да працы. Яму б дзе пасяваць, за дзяўчатамі пацягацца, паціскаць іх, пажартаваць, — там ён першы, шукаць і гукаць яго не трэба, толькі каб прыцемкі ўзяліся.

Вось пайшлі неяк браты ў пушчу борці правяраць. Кіраваць трэба было далекавата, таму з самай раніцы выбраліся. Бацька па старой звычцы павучаў:

— Хлопчыкі, калі што — дамоў не спяшайцеся, на месцы лепей пераначуйце і заўтра вяртайцеся, бо здарожыцеся.

— Добра, бацька,— як і раней, за ўсіх адказаў Мітрык. — Там ужо глядзець будзем.

— Угу... У лесе... А калі раптам мядзведзь на нас напорацца? — нечакана вымавіў Пётра, якому, відаць, надта карцела вярнуцца да вечара дамоў, каб збегаць да дзяўчат, ці ўвогуле не хацелася сунуцца з братамі.

— Вось ён, бедалага, напалохаецца, вось трэсціся будзе, — засмяяўся нехта з братоў.

— Хто? — не зразумеў Пётра.

— Ды мядзведзь, — як мага спакайней прамовіў той.

Праз хвілінку выбухнуў такі рогат, ажно бярозы закачаліся. Так, пад смех, і пайшлі браты ў лес.

Амаль да полудня праставалі, пакуль дабраліся да крайніх борцяў.

— Ну, чыя чарга сёння наверх лезці? — на правах старэйшага запытаўся Мітрык.

— Мая і Пётры, — сказаў сярэдні з братоў і пачаў раскладваць прычындалле.

Хлопцы палезлі на дрэвы па лёзівах, а Мітрык застаўся ўнізе. Сярэдні з братоў быў ужо ля борці і рабіў тое, што патрабавалася, а марудны Пётра, сапучы, яшчэ дабіраўся да адтуліны, куды пчолы насілі мёд. Нарэшце зверху данёсся велічны спеў — спяваў задаволены Пётра, які дабраўся-такі да месца.

— Глядзі там, — нібы нешта прадчуваючы, перасцярог Мітрык, — каб выць потым не давялося...

— Сам глядзі, — гыркнуў малодшы і... шалёна закруціў галавою.

— Што, што там здарылася?

Замест адказу раздаўся трэск, нейкае незразумелае скавытанне і... магутны ўдар аб зямлю.

«Забіўся... Насмерць... З такой вышыні...» — імгненна пранеслася ў галаве Мітрыка.

Вочы асілка-лайдака паволі раскрыліся, і ён прашаптаў:

— Варона... Варона прама...

— Што?..

— Варона... прама мне... у твар... нагадзіла... Я крутнуўся і...

Можа, з тыдзень адлежваўся Пётра, а браты, гледзячы на яго, качаліся са смеху і прыгаворвалі:

— Гэта ж трэба... Варона, братка, варона...

Так і празвалі таго хлопца Воранай. Бацька зямлю сынам пароўну падзяліў, а месца, дзе Пётра з маладой жонкай стаў жыць, захавала тую дзіўную назву — Варона.

# ДУБНІКІ

Даўным-даўно жыў тут адзін надта багаты і сквапны пан. Усё ў яго было, але калі бачыў у беднага жабрака скарынку хлеба ў руках, то твар ягоны перасмыкаўся і ён гарлаў: «Аддай, гэта маё! Маё! Чуеш?!»

Сцвярджалі, што над памешчыцкім палацам нават зоркі па начах не свяцілі, бо аднаго разу ён, ці то на добрым падпітку, ці то цвярозы, загадаў траім маладым служкам:

— Гэй, лайдакі, вазьміце па кошыку і наздымайце мне да раніцы зорак! Самыя вялікія ды яркія бярыце, без іх лепей да палаца не вяртайцеся! А збегчы паспрабуеце — з-пад зямлі дастану, нікуды не схаваецеся! Так і ведайце! Марш, бегма з двара!

Вылецелі тыя за вароты і спыніліся. Адзін і кажа:

— Што ж нам, браткі, рабіць? Дзе гэта вы такое чулі, каб зоркі, нібы бульбу, у кошыкі збіралі?

— Здзіўляцца не даводзіцца, — злосна прамовіў другі, — у такога дурня і мора можна мехам вычэрпваць...

— Сапраўды, як жа нам быць? — запытаўся трэці.

Першы павагаўся, павагаўся і сказаў:

— Бывайце, сябры. Не буду я час дарма губляць, пайду на высокую гару і паспрабую зоркі дастаць, а можа, нешта і атрымаецца... Бывайце, не згадвайце мяне ліхам.

— Бывай і ты, чалавеча, няхай табе пашанцуе.

Служкі засталіся ўдваіх, прыселі на хвілінку, і другі гамоніць:

— Пабягу я, братка, у высокі дубняк ды паспрабую з дрэваў зорак назбіраць... Час ідзе, а да раніцы ўжо і не так далёка. Бывай.

— Бывай, — змрочна адказаў трэці.

— Чакай, а ты што ж збіраешся рабіць?

— Нічога. Ні на гару не пайду, ні ў дубняк не падамся, а проста пакірую дамоў, каб развітацца з роднымі, бо сюды я не вярнуся.

— А як жа пан?

— Што пан?

— Ды ён жа цябе адразу павесіць загадае!

— Можна падумаць, што калі я з пустым кошыкам да яго прыйду, яно ж менавіта так і здарыцца, то ён мяне пашкадуе...

— Ну, можа, загадае даць бізуноў.

— Ды не, гэтым не абыдзешся... Недарма ён нас пас-

лаў, нечым, мабыць, мы яму не спадабаліся — цяпер і разлічыцца. А я не хачу сам у лапы да смерці лезці. Уцяку, зашыюся ў глухую мясціну. Знойдзе — што ж, такі, значыцца, мой лёс, а не — дык буду далей спакойна жыць, не ведаючы гэтых бесчалавечных загадаў ды пакаранняў. Таму і хачу забегчы развітацца з сям'ёй, каб не шукалі мяне і не чакалі.

— Смелы ты, братка, я дык пра такое і думаць баюся. Але нікому не скажу, болей таго, жадаю, каб менавіта так і сталася, як ты марыш.

Абняліся на развітанне служкі, бо з дзяцінства разам раслі, гулялі некалі бестурботна ля адной прызбы, і, не гледзячы ў вочы, каб не бачыць, што там слёзы бліснулі, амаль адначасова прагаварылі: — «Ну што ж, цяпер бывай... Відаць, назаўжды...» — крута павярнуліся і паджгалі кожны да свайго месца: адзін — загад панскі тэрмінова выконваць, а другі — да родных, каб у апошні раз пабачыцца, хоць слоўкам перакінуцца.

Раніцай пан верашчаў не сваім голасам:

— Дзе тыя лайдакі, якіх я ўчора зоркі збіраць паслаў? Яны ж павінны быць зараз тут!

— Яны прыйшлі і чакаюць вашай светласці, — адказаў дваровы, сагнуўшыся ў тры дугі. — Чакаюць...

Выйшаў пан да служак і пытаецца:

— Ну як, выканалі мой загад?

— Не, пане, — бухнуліся тыя ў ногі.

— Чаму?

— Ды не змаглі дацягнуцца да неба, каб зорак назбіраць...

— Не змаглі?

— Так...

— А ведаеце чаму?

— Не...

— Таму што не надта жадалі!

— Паночку, ды мы і хвілінкі ніводнай не пасядзелі, не адпачылі, усё лазілі ды лазілі...

— Са мной дастанеце. Самі пераканаецеся, як гэта проста.

Здзівіліся слугі, але не зразумелі, да чаго гэта пан хіліць.

— Чакайце тут, пакуль я пад'ем, потым усе разам і паедзем.

— Куды?

— Зоркі збіраць!

— Днём?
— А што ж вы думалі? Калі надта захацець, то і днём назбіраць можна.
Служкі зморана прыселі на траву. Пакуль галовы ламалі над тым, што далей будзе, пан выйшаў на ганак і загадаў двароваму:
— Запрагай маіх самых лепшых коней, нам у многіх мясцінах сёння пабыць давядзецца.
Той не прымусіў сябе доўга чакаць. Прайшла хвіліна-другая, і коні падляцелі да ганка.
— Сядайце, пане.
Той уляпіўся ў карэту.
— Слугі няхай ззаду, разам з гайдукамі, стануць, каб увесь час паблізу былі, каб потым не шукаць іх.
Паімчалі коні, толькі пыл закурыўся. Раптам памешчык кажа:
— Супыніцеся тут!
Сталі. Ён і пытаецца ў служак:
— Раскажыце, дзе хто з вас зоркі шукаў?
Першым азваўся той, што на гару хадзіў:
— Я, паночку, спрабаваў іх з гары дастаць.
— З якой?
— Ды вунь з той, з самай высокай, — і паказаў пальцам.
— Кіруйце туды! — загадаў памешчык.
Прыехалі яны на тую гару, і гаспадар закрычаў:
— Гэй, гайдукі, павесьце пятлю вунь на той высокай бярозе ды ўтыркніце яго туды галавою!
Пацягнулі бедалагу здаравенныя гайдукі да дрэва, каб смяротны прысуд выканаць. Крычаў той, прасіў, але памешчык не звяртаў на гэта ўвагі.
— Ну што, зоркі бачыш? — здзекліва запытаўся ён, але слуга ўжо маўчаў...
— А ты, ты дзе зоркі спрабаваў зрываць?
— У д... у... б... н... я... к... у, — ляскаючы зубамі, прамовіў другі слуга.
— Паехалі да дубровы!
Паляцелі коні, а збялелага служку, які цяпер зразумеў, што жывым яго не выпусцяць, моцна трымалі за рукі, каб не ўцёк.
— Лезь на самы высокі дуб! Ды не цягні, хутка лезь!
Лезе той, а сам усё азіраецца на памешчыка і ягоных гайдукоў. Нарэшце чалавек забраўся на самы верх.
— Ну, бачыш зоркі? — знізу запытаўся пан.

— Не, паночку, не бачу.

— Не спяшайся, зараз убачыш...

Падалі памешчыку стрэльбу, ён прыклаўся і бухнуў. Слуга і крыкнуць не паспеў — паляцеў на зямлю пераспелым яблыкам. Зарагаталі гайдукі, засмяяўся задаволены пан, але потым схамянуўся:

— А трэці, трэці дзе?

— Няма.

— Як няма?

— Дык яго ж і на двары не было.

— Шукаць! Усім шукаць! Знайсці і да мяне яго! Шкуру з жывога спушчу!

Але таго чалавека так і не адшукалі панскія паслугачы. Як ні імкнуліся, як ні стараліся — нічога не атрымалася.

Тая гара ніжэйшай стала за гэтулькі гадоў, дубы — то людзі папілавалі, то самі ад бур ды навальніц пападалі, а вось памяць пра дуброву засталася. Калі вёска тут стала, то яе і назвалі — Дубнікі.

## МАЛЫЯ ЕКЕНТАНЫ (Бурлакі)

Быў тут калісьці гасподскі двор. Не надта багаты, але і не бедны. Гаспадарыў у ім пан Тодар Нарбут, вельмі добры чалавек. Ніколі міма чужога гора не пройдзе, паможа, а не здолее дапамагчы — то хоць паспачувае, і беднаму лепей становіцца. Можа, душу такую добрую ад нараджэння меў, а можа, самому даволі часта з ліхамбядою даводзілася сустракацца.

Калі ў 1863 годзе пачалося вялікае паўстанне супраць царскіх, расейскіх войскаў, ствараліся шматлікія атрады, вынішчаліся панскія сядзібы, асабліва тыя, дзе жылі расейскія дваране, якія прыехалі сюды, каб яшчэ болей прыгнятаць мясцовы люд. Затрымцелі паны, бо не было ім куды дзявацца — толькі ўцякаць у буйныя гарады, дзе стаялі вялікія гарнізоны войскаў і дзе можна было адчуваць сябе спакойна.

Мясцовы памешчык, не, не той стары Нарбут, а ягоны сын, Людвік, стварыў свой атрад. Ён служыў у царскім войску, даслужыўся да афіцэра, таму ведаў, як біцца з вайскоўцамі. Гэтаму і навучыў сваіх людзей, і зрабіў усё так добра, што неўзабаве за ягоную галаву царскія ўлады пачалі прызначаць вялікую суму грошай. Той Людвік

спачатку сядзеў са сваімі хлопцамі ў бліжэйшым лесе і адтуль нападаў, а калі царскія ваяводы сабралі вялікае войска, то вымушаны быў далей адысці, папярэдзіўшы бацькоў і родных, якія сабраліся іх праводзіць:

— Абавязкова чакайце нас дома. Ці з перамогай, ці пабітых... Гэтак проста, уцякаючы ці хаваючыся, мы не вернемся, так і знайце. Б'ёмся мы за свой народ, за сваю зямлю, таму губляць нам няма чаго.

Спахмурнелі ўсе, жанчыны ды дзяўчаты нават заплакалі-загаласілі, бо развітваліся і не ведалі, ці сустрэнуцца з самымі дарагімі людзьмі. Але стары пан прыкрыкнуў сурова:

— Чаго гэта вы ўсхадзіліся! Не нябожчыкаў адпяваеце! Жывыя людзі перад вамі стаяць, а пакуль жывыя, то няма чаго іх заўчасна хаваць! Развітвайцеся па-добраму, ды няхай хлопцы крочаць далей адсюль, пакуль казакі ці салдаты не наскочылі! Наплакацца яшчэ паспееце. Вы думаеце, ім лёгка адыходзіць, ім не хочацца плакаць? Ведаю я, бо сам мала ў маладосці дома жыў, як без радзімы блукаць недзе ўдалечыні. Але яны не пра сябе толькі думаюць, а пра ўсіх нас. За гэта і змагацца ідуць!

Адразу пасуравелі твары Нарбутавых паплечнікаў. Неўзабаве атрад рушыў у накірунку адвечнай пушчы, дзе людзей не проста было злавіць.

Добра даліся ў знакі царскім палкоўнікам паўстанцы. Спачатку расейцы ўсё пахваляліся, што Людвіка ў першым жа баі зловяць і, адлупцаваўшы добра лазою, прыгоняць без штаноў да свайго штаба, каб гэтакім чынам прынізіць чалавечую годнасць. Але сказаць — адно, а выканаць — зусім другое. І самае галоўнае, што колькі войскаў супраць іх ні накіроўвалі, лясныя змагары, нібы тая вада праз пальцы, прасочваліся. Тады афіцэры на сваіх падначаленых зло вымяшчалі ці на нешматлікіх палонных.

Хіба маглі царскія вайскоўцы забыцца на тое, як у першым жа баі Нарбут захапіў у палон з дзесятак іхніх салдатаў і афіцэраў? Яны ж спадзяваліся, што гэтыя звычайныя мужыкі і ваяваць не ўмеюць. З касою ці з плугам упраўляцца — яшчэ куды ні ішло, а са стрэльбай — гэта ўжо прывілея вайскоўцаў. Думалі-разважалі і нават прадугледзець такога канфузу не маглі. Схапілі лясныя змагары і таго афіцэра, які пахваляўся, што асабіста сам голага Нарбута да штаба прыгоніць. Паказаў ім на яго нехта з простых салдат. А трэба сказаць, што супраць

радавых Людвік нічога не меў, ніколі не караў іх — ні спачатку, ні потым, бо ведаў, што простыя людзі не па сваёй волі сюды палезлі.

— Хто гэта мяне хацеў адлупцаваць? Выходзь сам! — гучна прамовіў Людвік.

Афіцэры стаялі, цесна збіўшыся ў натоўп.

— Што, забыліся пра ўласны гонар?! Толькі і можаце, што невінаватых людзей рабаваць ды страляць? Перш чым пахваляцца, думаць трэба. Ну, дык хто мне пагражаў?! Смеласці не хапае прызнацца?

Наперад зрабіў крок збялелы афіцэр.

— Дык вось які ты страшны? Я думаў, што гэта нейкі блазнюк, які яшчэ і пораху не нюхаў, пагражае, выхваляецца, а ты ж ужо чалавек у гадах і да гэткага дакаціўся! Хлопцы! Пакажыце яму!

Здаравенныя паўстанцы ўхапілі афіцэра за рукі і павалаклі да бліжэйшага дрэва. Ён падумаў было, што вешаць, і ў думках ужо развітваўся з жыццём, але праз хвіліну па яго голаму азадку надзвычай дружна скакалі гнуткія лазовыя дубцы. Афіцэр трываў, але потым загарлаў:

— Перавешаю! Усіх перавешаю!

— Усіх не перавешаеш! — спакойна адказаў яму Нарбут. — Хлопцы, нешта вы слабавата стараецеся, раз ён вам яшчэ і пагражае!

Тых не трэба было надта ўпрошваць. Як далі ў панскі азадак, то ўжо не пагражаў афіцэр, а літасці прасіў. Адлупцавалі яго добра і адпусцілі.

— Ідзі ў свой штаб і скажы там, што мы нікога не хацелі забіваць. Гэта вы прыйшлі, каб паланіць наш гаротны край, каб здзекавацца з нашага народа. Нам нічога іншага не заставалася, як бараніцца. І робім мы гэта як умеем, па-свойму! Ідзі і пра ўсё раскажы, каб ведалі, што нас шапкамі не закідаць, што мы за сябе пастаім!

Не дайшоў той афіцэр да штаба. На першай жа салдацкай заставе яго апранулі і пакінулі пераначаваць, а калі ўсё сцішылася, ён павесіўся.

Людвік са сваімі хлопцамі доўга гуляў па навакольных лясах. І доўжылася гэта да таго часу, пакуль не выдаў яго здраднік і не прывёў пераапранутых расейцаў амаль у самы лагер. Паўстанцы якраз чакалі вяскоўцаў з ежай і спачатку падумалі, што гэта ідуць яны, а калі ачомаліся, то было позна — іх пачалі расстрэльваць ва ўпор. Тады і загінуў мужны Людвік.

Адпомсцілі і старому Нарбуту: двор спалілі, а сям'ю раскідалі па розных губернях. Сам ён неўзабаве памёр у Вільні, куды яго выслалі пад нагляд паліцыі.

Царскім чыноўнікам трэба было неяк умацоўваць сваю ўладу ў гэтых мясцінах, таму яны прывезлі сюды бурлакоў — пасяленцаў з Пскоўскай і Чарнігаўскай губерняў, паабяцаўшы, што за зямлю яны плаціць не будуць. Вёску, якая ўтварылася, назвалі Царская Мар'яўка, а зямлю вакол яе падзялілі на чатырнаццаць роўных участкаў — колькі сем'яў, столькі і надзелаў.

Але жылі бурлакі тут нядоўга. Абяцанкі абяцанкамі, а за зямлю ўсё ж плату запатрабавалі. А чым было плаціць? І пачалі бурлакі прадаваць яе, а самі рушылі дамоў. І пасяліліся тут нашы людзі — са Смаргоншчыны, з Ашмян, вілейскія, і назвалі вёску па-новаму — Бурлакамі. У 1918 годзе прыйшлі сюды немцы, і з'явілася другая назва — Малыя Екентаны. А самі мы яшчэ і цяпер гаворым:

— Куды ідзеш?

— У Бурлакі.

— Адкуль?

— З Бурлакоў.



# АШМЯНЫ

Па-нашаму, па-простаму, людзі гавораць Ашмяна — так больш правільна, бо ашмяны — гэта камяні, калі з літоўскага, а ў народным паданні гаворка ідзе толькі пра адзін камень — ашмян.

Жыў тут адзін чалавек, мой далёкі прадзед, як сцвярджалі. Багата жыў, але ніхто так і не падумаў бы, бо ніколі ён смачна не з'еў, ладна не апрануўся, адно толькі — смыкаўся між людзей і ўсё прыглядваўся ды прыслухоўваўся. Пачуе якую навіну цікавую — усміхнецца, слова не прамовіць, моўчкі адыдзе.

Іх у сям'і двое было: мой прадзед і ягоны брат. Але таму брату не пашанцавала — заелі яго ваўкі, і застаўся мой прадзед адзіным сынам у сям'і. Звалі яго Ляўко. Калі бацькі памерлі, то ўся гаспадарка да яго перайшла. Але што гэта была за гаспадарка? Хаціна тая, нібы рэшата, свяцілася. Дождж пойдзе — залівае, вецер падзьме — прадзімае, а ўжо калі віхура снежная закруціць, то і схавацца не было дзе. Але Ляўко схітраўся — залазіў у печ і там пастаянна спаў. Ну а калі вылазіў... Тут багатай фантазіі не трэба, каб уявіць сабе, які ён выгляд меў. На кпіны аднавяскоўцаў нядбайны гаспадар увагі не звяртаў, адварочваўся і агрызаўся:

— А табе справа? Я цябе чапаў? Чаго табе ад мяне трэба? Ідзі сабе ціха. Як хачу, так і жыву...

Ужо і не рады быў той чалавек, што зачапіў Ляўка. Лайдак лайдаком, а як пачне гаманіць — траіх за пояс заткне. Спачатку спрабавалі нейк паўплываць на маладога чалавека. Каб за сабою глядзеў ды граззю не абрастаў — не адна паненка па ім уздыхнула б. Сам па сабе ён жа быў даволі прывабным: высокага росту, здароўя неслабога, валасы тыя па плечы адпусціць, бараду рыжаватую, а вочы сінія — паспрабуй тут не азірніся. Ды што ўжо зробіш? Кожны жыве, як хоча...

Пару гадоў пагаспадарыў Ляўко на бацькавай сядзібе, а ўсё да такой ступені запусціў, што амаль нічога не расло на захудалай ніве.

Але неяк умудрыўся сабе выгледзець дзяўчыну, ды такую працавітую, такую прыгожую, што многія зайздросцілі. Калі прыйшоў да яе бацькоў сватацца, то тыя за галаву схапіліся, але дачка рашуча заявіла:

— Чаго вы палохаецеся? Не вам з ім жыць. Ляўко падабаецца мне, а вы як сабе хочаце, так і мяркуйце. Я сваё сказала.

Убачылі гаспадары, што іншай рады няма, ды кажуць:

— Раз ты, дачушка, так вырашыла, то ідзі замуж. Мы цябе трымаць не станем, але каб потым скардзіцца не бегала, калі паленым засмярдзіць.

— Не засмярдзіць. Многія нам яшчэ пазайздросцяць. Праўда, Ляўко?

Хлопец, ці то ад радасці, ці то ад неспадзяванкі такой, нічога не адказаў, толькі нешта незразумелае гыкнуў ды галавою хіснуў.

Так яны і зажылі. Амаль усё рабіла жонка, але і мужык крыху перайначыўся. Ужо не хадзіў брудны ды зарослы, на поле з гаспадыняй выязджаў, і калі тая гнулася-працавала, то і ён што-небудзь рабіў. Дзівіліся аднавяскоўцы:

— Можа, і з яго гаспадар хоць пад старасць атрымаецца...

Жонка жаночую справу выдатна ведала: нарадзіла мужу траіх дзетак — дваіх хлопчыкаў і дачушку. Ужо і набытак такі-сякі з'явіўся, ды тут выпрабаванне на Ляўкову сям'ю выпала: загадаў пан менавіта яму ў войска царскае ісці. Заплакала жонка, загаласіла, бо гэта ўжо сапраўдная бяда была. Тады ў войска забіралі не на год, не на два — на дваццаць пяць гадоў ці на дваццаць. Вось

і выжыві тут, калі ўся гаспадарка на плечы твае ляжа, ды і дзеці маленькія зусім за спадніцу трымаюцца, адысці баяцца. Ляўко супакойваў, што, можа, неяк усё і абыдзецца.

— Табе абыдзецца... Цябе ў войску і напояць, і накормяць, і спаць пакладуць, а як мне тут адной, з малымі на руках? Што я, той камень, які на нашым полі маўкліва ўзвышаецца? Ці той, які ля рэчкі хацінаю ляжыць?

Нечага было адказаць гаспадару, таму і маўчаў далей.

На світанні пайшоў Ляўко ў царскае войска разам з такімі ж рэкрутамі. Як пайшоў, то нібы ў бяздоннае балота шуснуў — ні чуткі пра яго, ні слова ніхто не перадаў. Гаспадыня першыя гады часта згадвала яго, але з цягам часу прызвычаілася ўсё рабіць сама і ўсё радзей успамінала. Дзеці ж бацьку амаль не памяталі.

Так і ляцелі гады. Дзеці выраслі. Хлопцы, што тыя дубы, узняліся, дачка прыгажуняю стала,і дзецюкі на яе заглядваліся. Адчувала жанчына, што ў хуткім часе давядзецца ёй аддаваць дачку замуж. Вось тут найбольш часта і думала пра мужа. Як жа гэта дачку аддаваць, калі бацькі за сталом не будзе, калі ўвогуле невядома, жывы ён ці не. Каб ведала, што ён нежывы, то перапакутавала б, дый годзе! А тут...

У такія сумныя часіны ішла яна з хаты, садзілася на той самы вялікі камень, што ляжаў на іхнім полі і на якім яны любілі палуднаваць, і думала-разважала, як далей быць, каб не схібіць нідзе, каб усё добра атрымлівалася.

Аднаго разу і сапраўды прыйшлі сваты ў хату. Так, маўляў, і так, гаспадыня. У цябе ёсць тавар, а ў нас купец — добры маладзец! Давай пагамонім, а раптам і згаворымся. Жанчына чакала гэтага, падрыхтавалася добра, усяго нагатавала, наварыла — толькі на стол стаўляй і запрашай сватоў перакусіць, а калі чалавек за сталом, то любую справу значна лягчэй вырашыць.

Дамовіліся, што вяселле будуць гуляць праз два тыдні. Па руках ударылі. Сваты дамоў пайшлі, а гаспадыня ляжыць вечарам на палку, і ўсё здаецца ёй, што нехта ціхенька па двары ходзіць. Стала яна ля акенца і пачала ўглядацца. Бачыць — стаіць чалавек ля грушы, высокі такі, здаровы з выгляду, а вось твару нябачна, бо цемнавата. І вопратка на ім нейкая не такая, якую сяляне ў вёсках носяць. Глядзела гаспадыня, а выйсці за дзверы баялася. Ужо ноч на двары стала, а чалавек той нікуды

не ішоў, усё стаяў на ранейшым месцы. Рашылася тады жанчына, а ўжо ж што будзе, рыпнула дзвярыма, і чалавек той хуценька павярнуўся тварам да хаты. Як убачыла яго гаспадыня, як пляснула рукамі, як ускрыкнула:

— Ляўко! А няўжо ж гэта ты?..

— Пазнала... А я думаў, што нікога ў жывых не застану. Часта такое здаралася, мне салдаты казалі... Ажно ўсё тут на месцы, хаця амаль дваццаць гадоў прайшло, нават намнога ў лепшым выглядзе, чым тады, як мяне адсюль забіралі...

Кінуліся яны абдымацца ды цалавацца. Жонка мужа ў хату павяла і ўсё распытвала:

— Як жа ты жыў, чалавеча? Як так здарылася, што ты раней тэрміну ў вёску вярнуўся?

— Па-усялякаму здаралася. І цяжка было, і крыху лягчэй, а вярнуўся таму, што паранены моцна быў. Цяпер мне белы білет далі і дахаты адправілі, бо з мяне салдат нікудышні стаў. Вось такія справы... А дзеці ж дзе?

— Гуляюць, родненькі, гуляюць. Дачку вунь сёння запівалі, вяселле хутка будзе. А сыны, сыны, што дубы павырасталі, да дзяўчат ходзяць. Вось так, бацька... Цяпер нам лягчэй будзе, цяпер толькі працуй — усё будзе.

— Я табе яшчэ не ўсё, жоначка, расказаў. Нам цяпер увогуле можна не працаваць.

— Чаму?

— Ды сродкі маем...

— Што, табе гэтулькі многа заплацілі, калі паранілі?

— За гэта нічога не заплацілі, але здолеў я пажывіцца...

І расказаў Ляўко, як падчас аднаго бязлітаснага бою, ці то з туркамі, ці то з татарамі, вырваўся ён на варожага камандзіра і забіў яго. А на вайне, калі нехта салдата ці генерала забіваў, то меў права абшукваць нябожчыка. Так і Ляўко зрабіў, і аказалася, што недарма, бо знайшоў у ранцы чужынца шмат золата. Панасыпаў сабе кішэні, шапку поўную нагроб, яшчэ заставалася — дык у рэчавы мяшок ссыпаў і пабег да сваіх, каб ніхто нічога не западозрыў ды потым не адабраў, бо і такое здаралася. Гадоў колькі вазіў-насіў з сабою салдат каштоўны груз. Потым параніла яго куляй у нагу — вось тут і настаў самы цяжкі момант. Яго сябры пад рукі сунуць, анучамі ўсялякімі рану завязваюць, а ён мяшок з рук не выпускае. Нехта не вытрымаў і прыкрыкнуў:

— Ды кінь ты яго! Трасешся, нібыта ў цябе там золата поўна!

— А і сапраўды, золата, — паспрабаваў на жарт усё перавесці Ляўко, — усё салдацкае жыццё яго збіраў...

— Вось малайчына. Яго паранілі, а ён жартуе, яму баліць, а ён трывае. Не кожны гэтак здолее.

Амаль паўгода валяўся Ляўко, ніяк не мог сілы набрацца. Калі ўстаў, то быў на трэску падобны. Паглядзелі на яго, паглядзелі афіцэры і сказалі:

— Выдайце яму белы білет, і няхай гэты чалавек прабіраецца паціху дахаты, бо не салдат ён ужо.

Так і пакіраваў Ляўко ў родны край.

— Ой, мужу, ой і дасталася табе... І балела табе, і смылела, і не было каму нават паспачуваць, — заплакала жонка.

— Нічога, усё гэта ўжо прайшло. Я дамоў вярнуўся і не буду такім дурным, як у маладосці. Займуся гаспадаркай, зямлі прыкуплю. Грошай у мяне хопіць, і не абы якіх, а золата. Глядзі, колькі многа, — і Ляўко паказаў жонцы свой мяшок, з якім не разлучаўся доўгія гады. Тая гэтулькі грошай ніколі не бачыла.

— А куды ж мы яго схаваем? — запыталася.

— Не перажывай. Не будуць жа ўласныя дзеці грошы адбіраць. Схаваем дзе-небудзь. Вось у гаршкі перасыплем ды пад печ падсунем. Хто дазнаецца, што яно ў нас ёсць?

— І то праўда. Ляўко, а дачушка ж замуж выходзіць, дык я ўсё меркавала, які пасаг ёй даць...

— Зразумеў цябе, жонка, зразумеў. Будзе і дачушцы, будзе і сынам, і нам яшчэ застанецца, каб да старасці бесклапотна пражыць.

Пагаманілі яны і спаць ляглі, але сон не браў. Дзе ж тут заснеш, калі гэтулькі часу не бачыліся, нічога не ведалі адзін пра аднаго. А на самым світанку і дзеці ў хату ціхенька зайшлі. Што тут за сустрэча была, што тут за размовы пайшлі! Які ўжо там сон!

Надышоў дзень дачку замуж аддаваць. Насыпалі ёй бацькі шапку грошай. Усе, хто быў на вяселлі, маўчалі — не даводзілася ім такога пасагу бачыць. Залатоўка-другая — гэта зусім іншая справа, а тут...

Адгулялі вяселле, і вырашыў Ляўко за гаспадарку трывала брацца, каб усё весці, як людзі, каб болей не торкалі на яго вяскоўцы пальцамі ды не пасміхваліся. Зайшоў ён

з сынамі на тое поле, дзе камень вялізны ляжаў, пагладзіў яго па шурпатай паверхні і прамовіў ціха:

— Вось бы цябе, каменьчык, да справы далучыць, каб ты не проста ляжаў, а на людзей працаваў. Вось тады зусім іншая справа была б...

— Пра якую справу ты, бацька, гамоніш? — запытаўся старэйшы сын.

— Ён, тата, тут адвеку ляжыць, — дадаў малодшы. — Усе так кажуць.

— Што даўно ляжыць, ведаю. А вось да справы мы яго прыладзім...

— У нас тут адзін стары дзед яго ашмяном кліча... Ашмян ды ашмян, — зноў азваўся малодшы.

— Мы яго, хлопцы, паспрабуем для млына прыстасаваць. Ля рэчкі, на нашым полі, таксама камень вялізны ляжыць. Два нам і трэба, а млын на рацэ пабудуем...

— Ці ж то, тата, нам пад сілу? Гэта ж такі цяжар, што і коньмі не скранеш, а нас жа толькі трое...

— А мы людзей, хлопцы, наймём. Хто за так не пагодзіцца, таму заплацім. Грошы ёсць, і справу да канца давядзём...

— Добра было б, — пагадзіўся старэйшы.

Як задумаў Ляўко — так і зрабіў: наняў людзей, можа, з сотню, і яны перасунулі камяні на новае месца і зрабілі з іх млынавыя колы. А потым усё пайшло як нельга лепей — з усіх навакольных вёсак павезлі сяляне муку малоць да Ляўка. Спачатку ён за так малоў, адмаўляўся плату браць, бо за працяглы час вайсковай службы зразумеў, што такое простая ўдзячнасць, а што такое сквапнасць. Потым ужо за грошы ці за збожжа малоў, але браў па-боску, ніколі апошняе не здзіраў.

Жонка нарадавацца не магла мужам. Сыны дык тыя першы час увогуле ад бацькі не адыходзілі. З боку магло падацца, што хлопцам не па васемнаццаць—дваццаць гадоў, а што яны толькі-толькі навучыліся хадзіць і баяліся згубіць свайго тату.

Аднаго разу прыйшоў на млын той стары чалавек, які камень ашмяном называў. Сеў ён на парозе і доўга глядзеў, як вада роўным і моцным струменем трапляла на жолаб і круціла вялізныя млынавыя колы, а тыя, у сваю чаргу, варочалі жорны. Сыпалася бялюткая мука ў мех, а дзед толькі ківаў галавою ды бубнеў, нібы заведзены: «І хто б мог здагадацца, што ашмян, які некалі сюды прыкаціўся, будзе на карысць вяскоўцаў служыць. Я ўдвая бо-

лей на белым свеце пражыў, а такога не сустракаў. Вось табе і ашмян...»

Млын Ляўкоў часцей Ашмяном называлі, ад каменя, які гэтак спатрэбіўся.

Даўно тое было, вельмі даўно. Млына таго не засталося і следу, амаль няма рэчкі, памёр (і косці ягоныя даўно зямлёю сталі) Ляўко-млынар, а памяць пра той млын, які часта людзей выручаў, захавалася. Так і звалі паселішча на тым месцы, так і казалі — ля Ашмяна. Адтуль і Ашмяны сталі.

## БАРУНЫ

У нашай вёсцы ў сівыя часы жыў памешчык. Звалі таго пана Барун. Ён спачатку і не панам быў, а простым мужыком, толькі надта фанабэрыстым, хлуслівым. Заробіць якую капейку, а расхваліцца рублі на тры. Людзі Баруна за гэта не паважалі, а некаторыя нават люта ненавідзелі, бо ён не толькі пахваляўся, але і пагарджаў сваімі аднавяскоўцамі — ніколі не вітаўся. А тады гэта вялікім грахом было. Чужыя старцы ды падарожныя і тыя віталіся, не праходзілі міма чалавека, каб нічога яму не пажадаць, каб не спытацца пра здароўе. А гэты лупіў сабе, нават не паглядаў туды, дзе нехта стаяў, а калі, здаралася, яму хто першы прывітанне пасылаў, то Барун на яго не адказваў, рабіў выгляд, што не пачуў.

З цягам часу мясцовыя жыхары з Баруном і вітацца, і размаўляць перасталі, а ён, здаецца, толькі гэтага і дамагаўся.

Год за годам Барун збіраў сваё багацце. Дзе недаесць, дзе ўкрадзе (і гэтым не грэбаваў), дзе падмане работнікаў, а сам усё залатоўкі ў гаршчок збіраў. І рабіў ён гэта, як пазней аказалася, з дальнім намерам. Прадумаў усё да драбніц, прыкінуў, дзе выгадна грошы можна будзе ўкласці.

Непадалёку ад вёскі тады гаспадарыў памешчык Слібада. Зямлі той пан меў багата, але гаспадар з яго быў аднікуды не варты. То абкруцяць суседзі і за бясцэнак адкупяць луг або здаравенны кавалак лесу, то абвядуць вакол пальца сябры, у карты гуляючы, і зноў ён саліднай сумы грошай не далічыцца. Так і давялі пана амаль да галечы — і грошай не было, і ў работнікі ніхто не наймаўся, бо гаспадару не было чым разлічвацца. Так яму прама ў вочы і казалі:

— Што на цябе, пане, за так працаваць? Я лепей туды пайду, дзе мне залатоўкі адсыплюць...

— Дык я збожжам ці яшчэ чым, — спяшаўся запэўніць памешчык, але гэта не дапамагала.

Так і абыходзілі панскі падворак спраўныя работнікі, а тыя, хто ішоў, больш глядзелі, дзе што дрэнна ляжыць. Былыя сябры таксама адвярнуліся — што з галадранцам вадзіцца, ён ім не роўня, цяпер ён ніхто. Чакалі апошняга: скупіць зямлю Слібады за бясцэнак. Ён і сам даўно прадаў бы, каб не адна акалічнасць. Была ў яго дачка. Адзіная. Жонка памерла. Вось ён з Анэткай і адводзіў душу сваю, толькі яна адна яго ва ўсім белым свеце разумела. Прыхiналася да таты і шаптала:

— Нічога, татка, не плач. Нешта прыдумаем...

Лягчэй станавілася памешчыку, і ён трымаўся. Але потым пачаў зямлю за даўгі прайграваць. Вось тут і здарылася самае страшнае — сябрукі ўзялі яго за грудкі:

— Ці грошы плаці, ці выбірайся!

Слібада прасіў іх яшчэ трохі пачакаць, казаў, што знойдзе грошы, але тыя паставілі ўмову:

— Ці праз тыдзень, пане-браце, грошы нам выплачваеш, ці прэч з маёнтка і з гэтай зямлі!

Замаркоціўся гаспадар, падсеў да дачкі і заплакаў:

— Вось і ўсё, дачушка, выйсця няма. І чаго я садзіўся з імі ў карты гуляць, чаго цябе не слухаўся?.. Усё абяцанкамі цябе карміў, а рабіў па-свойму...

На гэты раз нічога не адказала яму дачка. Не ведала і яна, як жыць далей.

А хітры Барун чакаў менавіта гэтага, бяспройгрышнага, моманту. Пайшоў ён да Слібады і кажа:

— Я цябе выручу, пане, заплачу за цябе, толькі абяцай, што і ты выканаеш маю просьбу.

— Ой, добры чалавек, усё зраблю, усё, толькі дапамажы, толькі не дай тым злыдням са мной расправіцца.

— Не спяшайся, пане, бо адплата таксама вельмі дарагая. Падумай, перш чым абяцаць.

— А што мне думаць, чалавеча, мне тэрмінова выкручвацца трэба. Што ты просіш за грошы?

Барун стаў бліжэй да парога на ўсялякі выпадак і бойка выбухнуў:

— Аддай, пане, за мяне сваю дачку!

Гаспадар так і прыкіпеў да крэсла ад такога нахабства, а госць, прадчуваючы непажаданую для сябе рэакцыю, працягваў:

— Не хвалюйся, пане, не спяшайся. Прагоніш ты мяне, а далей што? Цябе ж самога заўтра выпруць з маёнтка, і пойдзеш ты разам са сваёй прыгажуняй па белым свеце жабраваць. Падумай пра гэта. Ты ж не мужык, жабраваць — не выйсце для паноў. А я тваёй дачцы надзейным мужам буду. Грошай у мяне даволі, зямлі яшчэ прыкуплю, і мы самымі багатымі панамі ва ўсім наваколлі станем. Твае сённяшнія нядобразычліўцы яшчэ пазайздросцяць табе.

Гаспадар схапіўся рукою за грудзі. Барун кінуўся па ваду.

Дабіўся-ткі свайго хітры лгун — пан згадзіўся. Не ведаў толькі, як дачцы паведаміць, што яе за грошы першаму сустрэчнаму прадаў. Але дзяўчына кемлівая была, сама здагадалася.

— Раз ты, тата, рашыў, няхай так і будзе. Я на ўсё згодна дзеля цябе.

Толькі палічыўся гаспадар. Нядоўгім аказаўся ягоны век. Баруну ён непатрэбны быў сярод жывых, каб завалодаць маёмасцю памешчыка. Таму ён паскорыў смерць Слібады — падсыпаў нечага ў шклянку. Калі нябожчыка пахавалі, то ў той жа дзень новы гаспадар закаціў такі баль, якога, можа, і не памяталі сцены мясцовага палаца. Плакала горкімі слязьмі Анэтка, але што яна магла зрабіць? Час тады такі быў — супраць мужа не пойдзеш. Цярпі.

Праз пару гадоў і жонку пахаваў Барун. Не вытрымала, бедалага, здзекаў ды кпінаў над сабою, паляцела яе душа следам за бацькавай, на самае высокае неба.

Барун жа над сабой і ўлады ніякай не чуў. Што там не вітаўся — цягнуўся кожнага сустрэчнага бізуном сцебануць. Людзей бязлітасна катавалі панскія паслугачы. Аднаго разу ўсю сям'ю закатавалі па загаду памешчыка. Атрымалася так, што селянін заступіўся за жонку, якую хацеў згвалтаваць пан, дык той гэтак адплаціў. Пахавалі людзі і дарослых, і дзяцей, нічога не гаварылі на могілках, не дамаўляліся, але, мабыць, сэрцам адзін аднаго адчулі. Сабраліся вечарам і сталі цікаваць за Баруном. Злыдзень якраз сабраўся да некага з суседзяў у госці. Дык перастрэлі яго сяляне і забілі да смерці, за ўсіх родных і блізкіх адпомсцілі. На могілках яго не хавалі. Вяскоўцы не захацелі, каб ён паганіў апошняе прыстанішча памерлых, — закапалі ля дарогі. Выраслі на той дзікай

магіле нейкія дзіўныя кветкі. Мясцовыя жыхары не ведалі, як яны называюцца, і сталі зваць барунамі. Кожны, хто праходзіў міма, пляваў на тыя кветкі, на ўспамін пра таго лютага памешчыка.

Вось якая гісторыя хаваецца за назвай нашай вёскі.

## ВАЛОВІКІ

Тут, гавораць, некалі пастаянна ішлі войны. Біліся людзі паміж сабою за рознае: хто лепей жыць хацеў, хто лёгка ўзбагаціцца, а хто — разлічыцца з непажаданым суседам. Ды і людзі, як і ў нашыя дні, былі не роўныя не толькі па багацці, але і па сіле. Вось і жыло тут племя асілкаў. Вылучаліся яны сваёй памяркоўнасцю, ні да каго першымі не лезлі.

Аднаго разу, праўда, надарылася ліха і на іхні край — пачалі хварэць асілкі. І не толькі жанчыны ці дзеці, але і мужчыны. Такога ніколі даўней не здаралася: ходзіць чалавек, а потым раз — і гатоў. І не было ніякага паратунку, нельга было ніякімі напоямі ды травамі вылечыць. Спачатку думалі, што гэтую пошасць пранясе з часам ці з ветрам. Але дзе там! Ужо добрая сотня мужчын памерла, дзесяткаў колькі адчувалі, што і яны не доўга працягнуць, бо ўжо ахапіла магутныя рукі і ногі невядомая хвароба.

Вырашылі тады асілкі, пакуль яшчэ некаторыя з іх жывыя, закапаць найбольш каштоўнае, а мясціну тую запомніць.

— Для чаго? — не пагаджаліся адны.

— Як для чаго? Калі ўсё міне, той, хто застанецца, ці нашчадкі нашыя золата адкапаюць і зажывуць. Не пачынаць жа ім, як нам давялося, з самага пачатку. Хто ім дапаможа, хто руку працягне? А можа, давядзецца ім ў іншы край ісці, і тады ўсё гэта ой як спатрэбіцца!

— Лепей ўсё на сваіх месцах пакінуць. І так ніхто нас не чэпіць, бо баяцца. Пакрычаць, пагырчуць здалёк ды супакояцца, — запэўнівалі самыя памяркоўныя.

— А калі не? Калі прачуюць пра нашае гора і скарыстаюць момант? Што тады?..

На гэтае пытанне не адказаў ніхто.

— Вось бачыце, — нібыта запытаўся, а нібыта і адказаў самы старэйшы сярод волатаў. — Трэба хаваць. Нездарма кажуць, што калі нешта далёка пакладзеш, то

потым блізка возьмеш. Пайшлі справай зоймемся, няма чаго гаманіць, час дарма губляць.

Выкапалі асілкі некалькі вялізных ямін, туды ўвесь свой нажытак і каштоўнасці паклалі і зверху пяском засыпалі. Потым дрэўцаў, кустоў зялёных насадзілі, каб замаскіраваць схованку.

Скончыўшы справу, старэйшы сумна прамовіў:

— Добра было б нам іх і адкопваць...

Нехта са шкадаваннем дадаў:

— Ці хоць бы нашым нашчадкам, а то...

Так і пайшлі волаты да паселішча, каб забраць сваіх дзяцей ды жонак. Меркавалі перабрацца ў іншую мясціну, пакуль паморак адыдзе, а потым, калі ўсё выправіцца, і назад вярнуцца.

Добра задумалі мудрыя людзі, але бязлітасны да іх быў лёс. Вымерла ўсё племя. Так бы і канула ў Лету іхняя таямніца, каб не адзін хлопец, апошні з таго племя асілкаў. І да яго хвароба блізка падабралася, адчуваў, небарака, што і яму нядоўга засталося жыць, таму прыйшоў ён развітацца з Бярозкай — так звалі яго каханую з суседняй вёскі. Блізка не падыходзіў, здалёк ёй свае словы шаптаў. Але што для аднаго шэпт, тое для дужага чалавека крык ва ўвесь голас.

Вось асілак лёг на беразе рэчкі і шэпча, да каханай звяртаючыся:

— Бярозка, міленькая, у апошні раз мы з табою спаткаемся. Давай пагамонім, бо наступнага разу ўжо не будзе, смерць трымае мяне сваімі крэпкімі рукамі... Хачу расказаць, як я любіў цябе. Ты была для мяне самым дарагім чалавекам на свеце.

— Пра што ты, любы, гаворыш? Усё будзе добра, ты выздаравееш, мы будзем разам. Што ты за чорныя думкі ў сэрца ўбіў? Спадзявайся на лепшае.

— Думаеш, мне не хочацца жыць ці ў лепшае верыць? Хочацца, ды яшчэ як... Але што зробіш, калі лёс такі суровы і бязлітасны — гэтак жорстка са мною абышоўся...

— Супакойся...

— Не перабівай мяне, Бярозка, выслухай. Не магу я гэтую таямніцу ў магілу забіраць, няхай іншыя людзі, хто пасля нас жыць будуць, карыстаюцца, радуюцца...

— Пра што гэта ты гаворыш?

— Запомні добра. Там, адкуль мы прыйшлі, гэта не так далёка — усяго дзень хады, мы пакінулі ўвесь свой нажытак і незлічоныя скарбы. І не ў хацінах пакінулі, ■

закапалі... Каб потым вярнуцца і ўсё пачаць па-новаму... Я апошні з таго племені, і тыя скарбы згніюць у зямлі, калі я табе таямніцу не адкрыю... Скажы сваім аднавяскоўцам, няхай праз нейкі год-два туды наведаюцца...

Хлопец знясілена замоўк. Адчувалася, што ён і сапраўды вельмі слабы.

— Я выканаю тваю апошнюю просьбу, каханы, але дзе тыя скарбы? Не капаць жа людзям усё навакольле.

— А ўсё раскопваць і не трэба. Я зараз падкажу, дзе...

Асілак зноў замоўк. Бярозка напружана чакала. Не, яна не так хацела даведацца пра скарбы, як шкадавала, што каханы памірае, а яна нават прыціснуцца не можа да ягоных, магутных зусім яшчэ нядаўна, грудзей. Кінулася было да рэчкі, але ў гэты момант данеслася апошняе:

— Усё няхай не раскопваюць, толькі там, дзе курганы, дзе вал...

Апошніх слоў хлопец не дасказаў. Так і сканаў на беразе прыгажуні-рэчкі. Там яго і пахавалі, а над магілай насыпалі курган. Зараз яго ўжо і следу не засталося, бо гэтулькі гадоў прайшло, гэтулькі часу мінула.

Бярозка не спяшалася адкрываць таямніцу, якую паведаміў ёй апошні з волатаў. Толькі калі ўжо старэнькай стала, сказала ўнукам:

— Дзеткі мае! Вы можаце ўзбагаціцца. Месца тое я вам дакладна назаву — шукаць скарбы трэба ў курганах... Апошняе слова, праўда, забылася... Нешта з валамі звязана...

Што зробіш, калі ў старых людзей памяць не такая, як у маладых.

Пайшлі вяскоўцы шукаць скарбы. Месца тое знайшлі даволі хутка, а вось колькі курганы ні раскопвалі, усё натыкаліся на косці нябожчыкаў-асілкаў. Не паспеў жа той хлопец сказаць, што курганы лесам абсаджаны. Людзі гэтага не ведалі і капалі тыя, што былі сярод роўнага поля. Так золата і не знайшлі. Стаміліся толькі моцна, таму назад жыць не вярнуліся, а засталіся на новым месцы, сярод тых кurганоў. А паселішча назвалі ад таго незразумелага слова «вал» — Валовікамі.

## ГАЛЬШАНЫ

Назва нашай вёскі ад пана пайшла. Праўда, некаторыя сцвярджаюць, што гэта не пан быў, а багаты і надта знатны князь, багацей за якога ў навакольлі не было. Ён

меў многа зямлі, а на землях тых гарады ды вёскі шматлікія стаялі, якія штогод давалі іхняму гаспадару незлічоны прыбытак. Мяркуйце самі, багатым панам або памешчыкам лічыўся той, хто меў у сваім падпарадкаванні некалькі вёсак, а тут... Казалі таксама, што па натуры ён неблагім чалавекам быў: і за дапамогай да яго можна было звярнуцца, і простых людзей не крыўдзіў.

Звалі таго гордага і справядлівага князя Альшан, ці па-простаму — Ольша. І быў у яго сябар з простых сялян — Лугвен. Яны разам раслі, у многіх сечах ды бітвах пабывалі, начавалі ля вогнішча, накрываючыся кароткімі плашчамі ці проста захутваючыся ў конскую папону, калі былі на паляваннях. Вось дзе ўжо яны выраблялі! Часам нават бывалыя дружыннікі за галовы з адчаю хапаліся.

— Ой не берагуцца хлопцы, гэтак па лесе лётаючы! Тут жа не роўнае поле!

А сябры толькі пасміхваліся ў адказ:

— Колькі таго жыцця! Жыць — дык па-сапраўднаму, усё зведаць, а не па чужых аповедах звяраць! Вось састарэем, то будзем на печы сядзець і ўнукам казкі расказваць! А зараз — зараз наш час прыспеў!

Аднаго разу паехалі Альшан з Лугвенам на паляванне ў суправаджэнні толькі пяцярых дружыннікаў. У адказ на перасцярогу князь прамовіў:

— Хто мяне чэпіць у маім жа княстве? Хто на мяне тут асмеліцца напасці?

Вопытныя воі не настойвалі, бо і сапраўды, хто адважыцца лезці ў чужыя землі, ды яшчэ заглыбляцца на такую адлегласць? Ажно там самая бяда і здарылася.

Заехалі паляўнічыя надта далёка ў пушчу. У такія нетры забраліся, што княжацкі палясоўшчык і той незадаволена галавою пакручваў ды штохвілінна прапаноўваў вяртацца.

— Што палохаешся, стары? — весела пытаўся князь.

— Ды не палохаюся я, але... калі ноч нас у лесе прыспее, рознае можа здарыцца. Дарогу знайсці ў непралазнай пушчы не так лёгка...

Альшан толькі пасмейваўся. Ляцелі коні, свісталі стрэлы, трапна білі дзіды, і звяроў ужо набілі цэлыя горы. Воі і тыя пачалі казаць:

— Княжа, час варочацца. Да вёскі пашлі каго, каб падводы па здабычу высылалі.

— Паспеем, — чулася ў адказ, і паляванне працягвалася.

Неяк так атрымалася, што, пагнаўшыся за здаравенным турам, Альшан і Лугвен адарваліся ад аховы, толькі маўклівы палясоўшчык трухаў на сваім коніку следам. Завалілі яны звера і спыніліся перадыхнуць і агледзецца. Раптам стары крутнуўся ў сядле і ўзняў руку, даючы тым самым знак перасцярогі. Сцішыліся і паляўнічыя. Сапраўды, паблізу трашчала голле. Перш падумалі, што гэта прадзіраецца ахова, але праз момант перад імі паўсталі дзесяткі два ўзброеных людзей у звярыных шкурах замест вопраткі. Па ўсім было відаць, што незнаёмцы не заблукалі, а жылі недзе непадалёку, у лясной глухамані, і адтуль рабілі свае вылазкі на дарогі, да паселішчаў.

Альшан не спалохаўся. Не ў першы раз яму даводзілася быць сам-насам з ворагам. Праўда, тут вораг значна пераўзыходзіў колькасна.

— Хто вы такія і што вам трэба? — сурова запытаўся валадар.

Але і тыя не затрымцелі са страху.

— Зараз даведаешся...

Тут Лугвен раўнуў на ўсю пушчу:

— На калені! Перад вамі наш князь!

— Табе трэба, ты і станавіся. Мы не прызвычаіліся на каленях хадзіць, — насупіўшыся, прамовіў здаравенны дзяцюк з булавой у руках. — Зараз вы на калені станеце. Тады і пабачым, хто князь, а хто — гразь, — і замахнуўся сваёй грознай зброяй, але апусціць яе на саперніка не паспеў, бо коратка мільгнуў княжацкі меч і асілак паволі асунуўся на зямлю.

— Стары, да нас! У кола, дзед! — загарлаў што было сілы Лугвен.

Пачалася бязлітасная бойка. Вядома, Альшан і Лугвен пераўзыходзілі нападаючых у майстэрстве валодання зброяй і ў бліжнім баі, дзе яны прызвычаіліся страхаваць адзін аднаго, засланяць ад нечаканых удараў. Не адставаў ад іх і палясоўшчык са сваёй зброяй — з доўгім і гладкім дубовым кіем.

Лясныя разбойнікі ўжо, відаць, і самі шкадавалі, што ўвязаліся ў бойку. Чалавек шэсць ляжалі пасечаныя, яшчэ пару былі сур'ёзна паранены, ■ князь з двума напарнікамі лупіў налева і направа, не ведаючы стомы. Можа, усё добра і закончылася б для паляўнічых, але раптам палясоўшчык вылецеў з сядла — ці то занадта замахнуўся, ці то страціў раўнавагу. Тут, на зямлі, яго і дабіў хтосьці з нападаючых. Гэтая страта раз'юшыла князя:

— Ах вы, крумкаччо! Такога чалавека забілі! Не будзе вам літасці!

Нападаючыя зразумелі, што трэба ратаваць свае жыцці, і плетанулі ў розныя бакі — толькі лаўжы затрашчалі.

Вершнікі сконіліся і кінуліся да палясоўшчыка, спадзеючыся, што, можа, рана не смяротная. Але дзед глядзеў на іх неміргаючымі вачыма...

— Шкада... Трэба вывезці яго адсюль ды пахаваць палюдску. Дзякуючы ягонай дапамозе мы жывыя стаім...

Пакуль пару хвілін адпачылі, пакуль цела старога прывязалі да каня, то і змрок запанаваў у глухіх нетрах.

— Вось і здарылася тое, пра што палясоўшчык папярэджваў, — ціха прамовіў Лугвен. — Куды нам цяпер? На месцы заставацца нельга, бо раптам тыя далёка не адбегліся, стаіліся і чакаюць зручнага выпадку...

— Будзем прабівацца па зорках.

— Ды і зорак жа з-за густых верхавін амаль не відаць,— азваўся сябар.

Паляўнічыя ішлі ўсю ноч і ўвесь дзень, бо ўбіліся ў такую глухамань, дзе ехаць верхам нельга было. Пад самы вечар, знясіленыя, прыпалі да магутнага дуба, і Альшан ціха прамовіў:

— Абяцаю, Лугвен, што на тым месцы, дзе мы з людзьмі спаткаемся, пабудую замак прыгожы і жыць у ім буду. Хутчэй бы на людзей выйсці, бо страчваю я апошнюю веру ў выратаванне...

Заснулі яны кароткім, трывожным сном, і на золку далей рушылі. Схуднелі паляўнічыя, абарваліся, ледзьве ногі перасоўвалі, і ўжо тады, калі не чакалі знайсці дарогу ці людское жыллё, выбіліся на невялічкую хаціну. Там жыла сям'я другога княжацкага палясоўшчыка. Можа, тыдзень адходжваў ён свайго гаспадара і ягонага сябра.

Не забыўся пра сваё абяцанне Альшан. Як толькі вярнуўся ў палац, адразу ж накіраваў шмат людзей у новае месца замак будаваць. Два доўгія гады сотні майстроў шчыравалі, і нарэшце паляцеў ганец да князя з весткай, што ўсё гатова, можна перабірацца.

Мала таго, Альшан загадаў пабудаваць замкі-палацы і ў Медніках, і ў Крэве. Паміж імі выкапалі падземныя хады, па якіх можна было, на выпадак аблогі ці якой іншай небяспекі, чацверыком ездзіць. А ў саміх Альшанах — так тое паселішча сталі называць — падземны ход быў пракапаны нават паміж замкам і кляштарам.

# КУЦАВІЧЫ

Жыла тут некалі адна сям'я. Звалі гаспадара, ці то прозвішча ён насіў такое, Кудрэвічам (відаць, па валасах, густых і кучаравых). Пра таго чалавека і зараз часта згадваюць, бо быў ён гультаяваты і ненадзейны ў працы: то нешта параблытае, то ўвогуле не зробіць. Хто ж такому важную справу даручыць? Таму людзі памучыліся, памучыліся з ім і знайшлі-такі занятак, якім і Кудрэвіч быў задаволены, і астатнія вяскоўцы — даручылі яму свіней пасвіць. Стары дзед, да якога сяляне за парадай звярнуліся, хітравата прыжмурыўшыся, прамовіў:

— Свінні — яны, браткі мае, далёка ад хаты не адыходзяць, не разбягаюцца, вядуць сябе даволі рахмана. Можна Кудрэвіча ля іх за пастуха смела кідаць. Калі засне ці праварoніць нешта, то дзеці малыя, ды і я, паспеем выправіць... Няхай справай займаецца, хопіць хлеб бацькоў есці.

Палягчэла на душы ў вяскоўцаў. Прыйшлі яны да лайдака і абвясцілі пра будучы занятак.

— Свіней дык свіней, — адказаў той, не выказаўшы асаблівай цікаўнасці да будучага занятку.

Гадоў дзесяць ён свіней і пасвіў. Жывёліны да яго прызвычаіліся, пастух да іх таксама. Але вырас жа чалавек, жаніць дзецюка трэба. Бацькі ледзьве не плачуць: хто ж за такога гультая ды дурня замуж пойдзе. Доўга меркавалі і вырашылі, што справу можа наладзіць толькі адзін чалавек — хітры ды кемлівы сват. Знайшлі яны дасціпнага ды жартаўлівага селяніна і пачалі прасіць:

— Родненькі, не падвядзі, да скону жыцця за тваё здароўе маліцца будзем! Пастарайся, выберы дзяўчыну, пераканай яе бацькоў за нашага сына замуж аддаць!

Той згадзіўся, і ў суботу павезлі Кудрэвіча да дзяўчыны, сватаць. Знайшлі тую вёску, той двор, а астатняе паспрадвечнаму пайшло. Хлопец, Кудрэвіч, быў сабою відны: высокі, чырванашчокі, за словам у кішэню не лез, а што тычыцца працы — хто ж там правярае...

Зайшлі ў хату, і ўсё, як трэба быць, той хітры сват вядзе. Гаспадар іх паважна прымае, ветліва за стол запрашае, пачастунак, гарэлку ставіць. Налілі кілішкі, выпілі, потым яшчэ, гаспадар і пытаецца:

— Адкуль вы, людзі добрыя, будзеце?

— Ды мы, дзядзька, з той вёскі, што адсюль і не відаць...

— Здалёк, значыцца? Бываў я раней у вашай вёсцы. А чый жа ты, сваце, будзеш?

Сват назваў сваіх бацькоў і родных.

— З добрых людзей ты, чалавеча, з добрых... А жаніх чый будзе?

— Ды Кудрэвіча сын.

— Што? — схапіўся за галаву бацька. — Той лайдак, што ў дваццаць гадоў свіней пасвіць, бо іншай жывёлы яму не даверылі, каб не пагубіў ды ў якое гнілое балота не пазаганяў?! Не, чалавеча, уцякайце хутчэй з хаты, пакуль я цурбалак не ўхапіў!

— Чаму гэта, пане гаспадар?

— Таму што не жадаю я сваю дачку за лайдака аддаваць! Гэта маё апошняе слова! Прэч з вачэй!

Прайшло яшчэ гадоў пару. Ужо і сам Кудрэвіч пра жаніцьбу думаць пачаў. І тут той самы сват, які яго першы раз сватацца вазіў, завітаў да іх.

— Радуйся, чалавеча, знайшоў я табе дзяўчыну! — кажа. — Праўда, не першай маладосці, але затое з якога боку ні паглядзіш — хібаў не заўважыш. Збірайся, у гэтую суботу і паедзем.

Бацькі ажно праслязіліся ад радасці, што паспеюць яшчэ на вяселлі адзінага сына пагуляць, што, можа, і ўнукаў дачакаюцца.

Але найболей шалеў ад радасці і ад хуткага шчасця сам Кудрэвіч. Так ужо яму карцела паглядзець будучую жонку, што залазіў на высокае дрэва побач з іхнім дваром і адтуль спрабаваў разглядзець яе. Толькі дарма стараўся, бо людзей бачыў, але дзе менавіта тая, да якой яны ў сваты збіраліся, здагадацца не мог.

Нарэшце прыйшла тая чаканая субота. На гэты раз усё атрымалася як нельга лепей. Бацькі той састарэлай дзяўчыны таксама былі не супраць аддаць яе замуж, таму надта доўга і не гаварылі за сталом. Пабачылі, што і жаніх ужо ў гадах, і сказалі:

— Давайце вяселле праз два тыдні згуляем. Пасаг мы добры даём за дачкою, шкадаваць будучаму зяцю не давядзецца.

І сапраўды, і зямлі многа далі, і сенакосу — толькі працуй. У хуткім часе Кудрэвіч толькі і глядзеў, каб з хаціны хутчэй у поле збегчы ці ў лес з'ехаць, быццам там паратунак быў. Толькі прычына была другая — у жонкі характар аказаўся такі, што слова супраць не скажаш, кроку лішняга не зробіш.

Аднаго разу даведзены да адчаю Кудрэвіч не вытрымаў і выказаў жонцы набалелае:

— Калі [redacted] знаёміўся з табою, дык на высокае дрэва лез, каб цябе ўбачыць хоць адзін разок, а цяпер — паставіў бы дрэва на дрэва, каб толькі цябе не ведаць!

Узлавалася тая, што чыстую праўду муж сказаў, і выпаліла з гарачкі:

— Ах ты, чорт стары! І ніякі ты не Кудрэвіч! Паглядзі на сваю лысіну! Усё жыццё толькі і рабіў, што ля канца цягаўся ды з краю браўся! Куцэвіч ты няшчасны, а не Кудрэвіч!

З таго часу сталі людзі тое паселішча зваць Куцавічы, нібы згадваючы пра чалавечую ляноту ды згрызоту.

## ПАГІРЫ

Калісьці тое племя, якое потым да нас жыць перайшло, жыло далёка ад гэтых мясцін. Вымушаны былі людзі ўцякаць з тых краёў, якія нашы продкі Жмуддзю клікалі. Здарылася ўсё наступным чынам.

Жылі гэтыя сяляне, як і многія іншыя: працавалі на зямлі, ахвяры паганскім багам прыносілі, былі шчырыя ды сумленныя. З раніцы да вечара на нівах завіхаліся, вечарамі песні гучалі, смех. Славілі людзі сілы прыроды, таму і з небам у згодзе былі. Калі ліха якое выпадкам надаралася, адразу прыносілі шчодрыя ахвяры і дары на высокую гару, туды, дзе стаялі іхнія багі, маліліся перад драўлянымі ідаламі, прасілі забраць тое ліха. Самы галоўны вяшчун усёй справай верхаводзіў, падказваў, як ды што рабіць, куды падносіць ці адкуль, наадварот, забіраць лішняе. У асобных выпадках нават людзей у ахвяру прыносілі. Вось выберуць сям'ю, жэрабя кінуць ці сам той вяшчун скажа, і прапануюць гаспадарам даць аднаго члена сям'і на ахвяраванне, прычым не старога чалавека, не сталага, а самага малодшага, які толькі жыць пачынаў і, адпаведна, меней за ўсё ў яго грахоў перад багамі ды перад небам было. Тыя прыводзілі ці прыносілі дзіця, якое, вядома, не ведала, што гэта апошнія імгненні ягонага жыцця, і стараліся далей адысціся, каб не бачыць, як усё будзе адбывацца. За справу браўся вяшчун. Ласкава ўсміхаючыся і прыгаворваючы, ён набліжаўся да ахвяры, потым раптоўна кідаўся наперад, дакранаўся рукою да пакутніка, і дзіця мёртвае валілася на зямлю. Вяшчун па-майстэрску валодаў нажом, усё атрымлівалася незаўважна.

Забітае дзіця клалі на высокі, спецыяльна для гэтай мэты зроблены, драўляны памост, пад якім заранёй складвалі сухія дубовыя дровы, і вяшчун падпальваў іх. Цягнулася да неба стужка дыму, а людзі, знерухомеўшы, сачылі за тым, што адбывалася навокал, баяліся крок лішні зрабіць ці варухнуцца, каб наступным разам служка багоў не выбраў іхнюю сям'ю для такой жудаснай размовы са сваімі гаспадарамі. А той віхурай насіўся вакол вогнішча. Стваралася ўражанне, што яго і сапраўды на зямлю паслалі нейкія звышнатуральныя сілы і патрабавалі пільна ахоўваць законы, па якіх жылі продкі людзей. Потым вяшчун, увесь у чорнай вопратцы, знясілена падаў ля вогнішча, нейкі час нічога не казаў, а далей, перавёўшы дух, звяртаўся да людзей:

— Усё добра, усё ў парадку. Багі прынялі нашу ахвяру і ўхвалілі яе. Але надта многа грахоў перад багамі ляжыць на нас. Глядзіце, не забывайцеся пра гэта, выконвайце тое, чаму я вас навучаю, а не будзеце слухаць, дык багам гэта адразу стане вядома. Папярэджваю, што не дапушчу непаслушэнства...

Але як ні запалохваў вяшчун вяскоўцаў, як ні імкнуўся трымаць іх у пастаянным страху, аднаго разу ўсё парушылася. Адбылося вось што.

Жыла там маладая сям'я. Можа, гадоў пяць прайшло, як яны пабраліся. І была ў іх дачушка, якую яны вельмі любілі і з якой ніколі не разлучаліся: ішлі на ніву — дачушку з сабою везлі ці неслі, у лес па дровы кіравалі — яе з сабою бралі. Адным словам, душы не чулі ў ёй.

Дык вось той злы вяшчун чамусьці не ўпадабаў гэтую сям'ю і чакаў зручнага выпадку, каб больш балюча ўдарыць мужа з жонкай. І такі момант надышоў.

З суседняй вёскі прыйшлі сяляне і паведамілі, што ў іх завялася нейкая пошасць, якая амаль імгненна зводзіць са свету жывёлу, і прасілі у вешчуна дапамогі і заступніцтва. Той трымаўся важна:

— Трэба ахвяру прыносіць, людзі, іначай справы не выправім...

— Ды мы колькі ты скажаш, столькі жывёлін і прывалачэм, абы ўсё добра сталася...

— Жывёлы тут не патрэбны, трэба дзіця выбраць...

Людзі знерухомелі. Кожны зараз баяўся, каб толькі не на ягоную сям'ю ўпаў страшэнны выбар.

— А можа, неяк можна па-іншаму, без дзіцяці? — ціха запытаўся нехта з прысутных.

— Вы яшчэ мяне павучаць будзеце? Вы, відаць, лепей усё ведаеце?

— Не, не, што ты, — адразу запярэчылі сяляне.

— То не перашкаджайце мне зараз рабіць свой выбар!

Настала напружаная цішыня. Кожнаму з прысутных здавалася, што менавіта на яго абрынецца праз нейкую хвіліну ўдар лёсу.

— Багі мне падказваюць, каб узялі вы для ахвяры дзіця... у сям'і...

Усе ажно здранцвелі.

— Трэба папярэдзіць адну маладую сям'ю... Не палохайцеся, гэта не з вашай, а з суседняй вёскі...

— Каго? — данеслася з натоўпу.

— Зараз растлумачу. Глядзіце, каб толькі не спазніліся бацькі заўтра, калі мы пачнем сваю размову з багамі...

— Мы папярэдзім... Не спозняцца...

Калі сказалі маладым гаспадарам пра волю вешчуна, тых нібыта цяжкімі даўбешкамі па галовах ударылі — доўга сядзелі нерухома, а потым плакаць пачалі. Нечакана муж устаў і рашуча прамовіў, звяртаючыся да жонкі:

— Збірайся... Хапай самае неабходнае...

На дварэ стаяла цёмная, непраглядная ноч.

— Ты што ўдумаў, чалавеча?

— Збірайся, не цягні час, потым раскажу...

Жанчына кінулася хапаць нейкую вопратку, рэчы.

— Бяры самае неабходнае, есці бяры, а вопратка хай тут застаецца.

Хвілін праз дзесяць гаспадары, несучы на руках малую, а за плячыма небагаты скарб, рушылі з роднай хаціны. Толькі пад раніцу паведаміў чалавек жонцы, што надумаў ён збегчы як мага далей ад гэтага племені-роду, каб жыць спакойна і не ведаць болей такіх жорсткіх звычаяў.

Амаль тыдзень прабіваліся людзі. Стаміліся, але ўпарта рухаліся наперад, баяліся, каб не знайшлі іх служкі вешчуна. Нарэшце забіліся ў глухі-глухі лес. Выбраў мужчына прыгожую мясцінку і сказаў:

— Вось тут і будзем жыць... Тут і застанемся...

Жылі далей мірна-спакойна, ніякай бяды не ведалі. Пазней мясцовыя людзі знайшлі іх, часам і ў хату заходзілі, а між сабою звалі пагірамі, што азначала «лясныя жыхары». Так яно і засталося, такую назву пазней і вёска на тым месцы займела.



# ВАЎКАВЫСК

Даўно, за сівымі стагоддзямі ўсё гэта адбывалася. На месцы сённяшняга горада шумелі адвечныя лясы ды балоты непралазныя раскінуліся. Баяліся людзі нават заязджаць у гэты край, бо мала хто мог потым дарогу дамоў знайсці. Нядобрыя чуткі несліся па белым свеце пра гэтую зямлю. Вельмі нядобрыя. Колькі жахлівых гісторый распавядалі пра тое, што нібыта на ёй адбывалася.

Старыя дзецям нараказваюць, напалохаюць, дык тыя колькі жывуць, а ўвесь час імкнуцца бокам тую зямлю аб'ехаць, каб самім з тым ліхам-бядою не спаткацца.

Спачатку проста так палохалі, ■ потым пачалі згадваць і бязлітасных рабаўнікоў, якія нікому праходу не давалі. Хто ім у рукі трапляўся — адразу жыцця пазбаўлялі. Не надта глядзелі, хто перад імі: бедны ці багаты, стары ці малы. Гохнуць па галаве булавою, і ўсё на тым для чалавека канчалася. Трупы нябожчыкаў не прыбіралі, не закопвалі, а гэтак і кідалі на дарогах. У хуткім часе ўсе тамтэйшыя сцяжынкі ды дарожкі былі густа ўсыпаны касцямі ды шкілетамі. Толькі зеўралі пустымі вачніцамі белыя чарапы ў высокай прыдарожнай траве, ці прама пад нагамі ляжалі косткі няшчасных ахвяр. Назбі-

ралася ўжо ў той край не толькі рабаўнікоў-разбойнікаў, але і ўсялякіх нячыстых зданяў: ваўкалакаў-пярэваратняў, крумкачоў, лешакоў і чарцей. Дзе не ўсочаць разбойнікі, там гэтыя крывасмокі сабе спажыву маюць ды потым яшчэ рагочуць-весяляцца гэтак страшна, што і на сто вёрстаў ад іх усядзець спакойна немагчыма.

Тыя разбойнікі бегалі па ўсіх лясах, а з цягам часу іх аб'яднаў грозны і крыважэрны атаман Волак. Пра яго нават самыя блізкія паплечнікі казалі са страхам: «У чалавека гэтулькі валасоў на целе няма, колькі людзей наш атаман са свету белага ў магілу звёў». Ганарыліся ім і баяліся адначасова, бо для яго не было асаблівай розніцы, каго забіваць. Правінавацірца ў нечым такі ж цмок, не аддасць нешта свайму старэйшаму, дык яго на суд цягнуць. Круцірца той, скуголіць, просіцца, каб адпусцілі, што, маўляў, болей не будзе. Ды дзе вы бачылі, каб даравалі і жывым пакінулі? Толькі засвецяцца вочы ў Волака — так і ведай: яшчэ адзін нябожчык на грэшнай і шматпакутнай зямлі з'явіцца.

Нікога да сябе надта блізка не падпускаў атаман. Баяўся і ён, што сонная дзе-небудзь прырэжуць паплечнікі, каб завалодаць незлічонымі багаццямі, каб адыграцца на ім. Таму, здавалася, і не спаў. Прысядзе, прыхінецца да дрэва галавою і адразу ж захрапе моцна-моцна. Але тыя, хто з ім даўно разам быў, ведалі выдатна, што толькі зробіш крок-другі, як Волак адразу ж расплюшчыць вочы. І хто яго тады ведае, пусціць ён у ход сваю грозную булаву ці не.

Сабраў аднойчы сваё войска атаман, аглядзеў яго і сказаў:

— Нешта засядзеліся мы на адным месцы, сябры. Ці не прыйшоў час нам парухацца крыху, пабегаць па купецкіх шляхах? Трэба ж за нешта жыць, а хутка хлеба лусты не стане...

Узарваўся стары лес адчайнымі крыкамі, якія ўсхвалялі мудрага і хітрага атамана:

— Гуляць!

— На дарогі пойдзем!

— Дзе тыя купцы-гандляры?!

— Дзе іхнія тавары каштоўныя?!

— Дзе золата-срэбра незлічонае?!

— Гуляць! Гуляць! Па лясах, па палях!

Волак стаяў пад магутным дубам і глядзеў з замілаваннем на паплечнікаў. Гэтым было ўсё роўна, толькі б чужой крыві напіцца. Потым, пасля нападу, ён паадбірае сабе самае каштоўнае, але гэта будзе потым, а зараз яны просяць весці іх на паляванне за багатымі людзьмі. Ноч ды дзень прынясуць многа здабычы. Да тых каштоўнасцей, якія ён закопваў пад вялізным каменем, прыбавяцца новыя. Радуе вока, заўсёды радуе бляск дармовага золата. Гэта ж не трэба потам салёным залівацца, каб нейкую няшчасную залатоўку да сваіх рук прыбраць, пару разоў булавою махнуў — і ўсё, ты багаты. А што кроў на багацці — дык золата паху не мае, толькі колер.

Падумаў так атаман і крыкнуў:

— Добра, добра, сябры! Пойдзем сёння на дарогі. Пойдзем, супакойцеся. Зараз адпачывайце да вечара. Сілы набірайцеся...

Пасля згадвання пра сілу паплечнікі выбухнулі рогатам, ажно лісце з дрэваў пасыпалася. Ім падабаліся такія жарты, бо добра ўсведамлялі, што сілы ў іх гэтулькі, колькі не кожны сялянскі конік мае. Яны ж нічога не робяць, не надрываюцца, а толькі ядзяць ды ляжаць, адсыпаюцца.

Ледзьве дачакаліся разбойнікі змяркання, каб рушыць на вялікую дарогу і там, стаіўшыся, чакаць сваіх ахвяр. Трэба сказаць, што пашанцавала ім на той раз. Толькі вылезлі, толькі, ачомаўшыся, агледзеліся, што да чаго, як пачулі — звіняць недзе непадалёку званочкі.

— Хавайцеся добра! Нападаць толькі па майму сігналу, вы яго ведаеце! Глядзіце, каб ніхто нічога не заўважыў, — злосна зашаптаў Волак.

Рабаўнікі вужакамі слізганулі па траве і зліліся з дрэвамі ды кустоўем. Такое ім было рабіць не ўпершыню, вучыць не прыходзілася.

Атаман ледзьве не прысвіснуў ад задавальнення, бо на дарогу выпаўзаў даўжэзны абоз.

— Вось гэта пашанцавала! — здавалася, зусім ціха прашаптаў Волак, але яго пачулі бандыты, якія знаходзіліся паблізу, і радасна заўсміхаліся. Ведалі, што атаман проста так нічога казаць не стане. Калі і ён радуецца, значыцца, сапраўды пашанцавала. Чакалі ўмоўнага сігналу.

Пярэднія вазы ўжо былі побач. Было відаць, як выжыльваюцца коні, цягнучы іх. Колы амаль па самыя восі гразлі ў мяккім дырване дарогі. Гандляроў было таксама

даволі многа. Атаман нешта прыкідваў. Астатнія здагадваліся пра гэта, але зацята маўчалі, бо ўсё роўна лепей, чым ён, ніхто нічога не прыдумае.

Волак дачакаўся, пакуль увесь абоз выцягся на дарогу, і тады па лесе разнеслася пагрозлівае кугіканне савы. Недасведчанаму чалавеку магло падацца, што крычала не адна птушка, а мноства, гэткі моцны і магутны быў крык. Ягонае водгулле яшчэ гуляла па лесе, а дрэвы і бліжэйшае кустоўе ўжо ажылі.

Разбойнікі, галёкаючы і гарлаючы што было сілы, вылятали да вазоў. Па лесе разнёсся загад атамана:

— Высякаць усіх пад корань! Нікога не шкадаваць! Не выпускаць нікога! Не выпускаць!

Сам валадар таксама пачаў дзейнічаць булавою. Чалавек з дзесятак улажыў ён на зямельку-маці, пакуль не нарваўся на здаравеннага і дужага хлапца, які па-майстэрску валодаў кароткім мячом. Вакол яго ўжо ляжала цэлая гурба мёртвых нападаючых. Бандыты бачылі гэта і кідаліся на астатніх гандляроў, з якімі было справіцца значна лягчэй.

Волак махнуў булавою. Такім ударам можна было знесці вялізны дуб, але ён наткнуўся на пустату, і булава ледзьве не выпала з рук атамана. Мала гэтага, хлапец яшчэ ўмудрыўся не толькі адхіліцца, але і лупянуць з усяе сілы Волака плазам мяча па азадку. Разбойнік ажно ўзвыў ад болю, і ад сораму таксама, бо за паядынкам цікавалі і іншыя. Кінуўся махаць спарней булавою, але гандляр адбіваўся мячом так, што толькі ашчэпкі ляцелі ва ўсе бакі з рабаўніковых рук. Яшчэ хвіліна-другая і бандыту быў бы гамон, але нехта з разбойнікаў падкраўся ціхенька ззаду да асілка і нечакана ўдарыў кап'ём яму ў спіну. Волат захістаўся і ўпаў. Здзекавацца над ягоным целам Волак не даў. Ці то пабаяўся, ці то ўпершыню нарваўся на дастойнага саперніка і ўспомніў пра няпісаны закон: забіты ў сечы храбры чалавек варты павагі.

Цяпер ужо рабаўнікі смела кінуліся разбіраць багацце. Ніхто жывым не выбраўся праз шчыльны строй нападаючых. Радаваліся лясныя злыдні, што так паспяхова ўсё для іх скончылася. І ў гэты самы момант адзін з рабаўнікоў загарлаў што было сілы:

— Мая! Мая здабыча! Мой палон! Мой!!!

Усе пачалі азірацца на той крык і ўбачылі, што ён валачэ з крытага вазка... дзяўчыну. Падбеглі бліжэй і ажно языкі прыкусілі. Нямала жанчын яны сустракалі

на сваім шляху, не адну згвалцілі ды звялі са свету, але такой прыгажосці не бачылі. Нават слёзы не псавалі гэтага тварыка.

— Пашанцавала Вісеку... Пашанцавала...

— А яму заўсёды шанцуе.

— Ён у сечу першым не рвецца, затое рабаваць, то тут яго не перагоніш.

— Шанцуе ж некаторым...

З усіх бакоў несліся зайздросныя крыкі-шэпты. Бандыты не надта ўжо крычалі, бо бачылі, што іхняму паплечніку пашанцавала значна болей: і золата-срэбра нахапаў, і дзяўчыну займеў.

— Што тут такое? — пачуўся вокліч Волака. — Чаго сабраліся? Забірайце тавары ды ў лес хавацца пойдзем. Няма чаго стаяць.

— Ды тут Вісек дзяўчыну захапіў. Прыгажуня — якой нам і бачыць не даводзілася, — адказаў нехта атаману.

Той, відаць, хацеў нешта сказаць, што, маўляў, знайшлі чаму здзіўляцца, але калі зірнуў на паланянку, то ажно рот адкрыў ды так і застаўся стаяць. Бандыты, пасміхваючыся, пазіралі на свайго грознага атамана.

— Як цябе... Гэй, як цябе... Чуеш, — звярнуўся да ўладальніка дзяўчыны Волак. — Як цябе завуць?

— Вісек, — задаволена прамовіў той, не выпускаючы з рук дзяўчыны.

— Чуеш, навошта яна табе? Аддай мне, а я табе залатых шапку насыплю.

— Ды ёсць у мяне золата, — адмахнуўся разбойнік, — ёсць. Мне яна і самому спатрэбіцца, тым болей што яшчэ ноч на двары. Пазабаўляюся-памілуюся, а потым пабачу, можа, каму і прадам ці галаву адсяку... Мая палонніца. Сам захапіў.

Калі вярталіся назад у сваё логава, то Волак увесь час ішоў побач з Вісекам і ўсё прасіў:

— Прадай. Я табе гэтулькі каштоўнасцей за яе адсыплю, што ты столькі не бачыў.

— Не, атаман, спачатку ■ з ёю сам пацацкаюся. Сам. А потым і за так аддам.

— Што хочаш прасі, але аддай палонніцу.

Пасля такіх слоў Вісек здзіўлена глянуў на Волака, мабыць, нешта адразу ж задумаў. Толькі, відаць, сумняваўся, што атаман стрымае сваё слова. Колькі часу ішлі моўчкі. Потым Волак зноў прыняўся за сваё. Дзіўна, але на гэты раз Вісек не стаў адмаўляць, толькі паставіў умову:

— Ты мяне перад усімі прызначыш сваім намеснікам.

— Добра. Давай дзяўчыну.

— Ты зробіш гэта зараз, каб усе чулі і бачылі, бо яшчэ абкруціш, як не раз здаралася...

Волак узвыў:

— Стойце!!! Усе да мяне!!! Усе да мяне!!!

Рабаўнікі паволі пачалі падцягвацца на крык і ад здзіўлення не маглі зразумець, што да чаго.

Атаман стаў на пень і сказаў выразна і гучна:

— Слухайце сюды! Цяпер, з гэтага моманту, маім намеснікам ва ўсіх справах будзе Вісек!

— Зразумелі, чаму ж не, — не надта дружна азваліся рабаўнікі.

— А цяпер ідзі са мной, — пацягнуў атаман дзяўчыну за руку. — Цяпер ты будзеш кахаць аднаго мяне...

А ў той зямлі жыў адважны і магутны князь Забейка, даволі малады, але ўжо спрактыкаваны ў ваенных ды дзяржаўных справах. Чуў ён даўно пра тое, што пад бокам у яго вырабляюць разбойнікі, ды ўсё неяк не даходзілі рукі. Прыходзілі нават людзі, прасілі: «Выратуй, княжа, дапамажы!» Паабяцаў ім разабрацца, толькі зноў неадкладныя справы закруцілі.

Таго разу князь быў на паляванні і дамоў вярнуўся дзесьці пад раніцу. Распрануўся, умыўся і збіраўся ўжо спаць, як у дзверы нехта ціхенька стукнуў.

— Хто там?

Дзверы адчыніліся, і на парозе паўстаў магутнага целаскладу дружыннік.

— Прабач, валадар, што турбую, але там бяда здарылася.

— Што яшчэ?

— Ён сам лепей раскажа, — адказаў вой і даў зразумець, што нехта прынёс дрэнную навіну.

Князь Забейка хуценька апрануўся і выйшаў за воем. У святліцы было многа народу, нягледзячы на тое, што золак толькі-толькі пачаў разганяць начныя туманы. Ля сцяны, на дубовай лаве, прысланіўшыся спінаю, сядзеў здаравенны чалавек у акрываўленай кашулі. Заўважыўшы князя, ён паспрабаваў было ўстаць, але Забейка супыніў яго:

— Сядзі, сядзі, чалавеча. Лепей раскажы, што там такое здарылася, што ты ў такую часіну да мяне ў двор трапіў?

Асілак варухнуўся і пачаў:

— Мы твае людзі, княжа. Гандляры мы. Нашы тавары прадаём, а назад з чужых земляў прывозім. І на гэты раз усё так было. Паехалі. Пашанцавала, прадалі, намянялі ўсяго самага лепшага і назад павярнулі. Ды ліха здарылася зусім непадалёку. Мы нават і не спадзяваліся, што тут разбойнікі напасці могуць. Знянацку наскочылі. Мяне ў спіну кап'ём кальнулі, [illegible] і ўпаў. Калі ачомаўся, то побач толькі мае пабітыя паплечнікі ляжалі. З жывых нікога не знайшоў. Нават сястры маёй адзінай. Не было яе. Як бацька памёр, то [illegible] яе з сабой вазіў, каб ніхто не пакрыўдзіў. Замуж хацеў аддаць па-людску. А тут такое... Прыгожая яна ў мяне, княжа, надта прыгожая. Таму не выключана, што нехта са злыдняў яе за наложніцу захапіў. Як падумаю пра гэта, дык сэрца крывёю абліваецца. Дапамажы, валадар. Прашу цябе, усім на свеце заклінаю. Дапамажы. Я туды дарогу ведаю і накірунак, куды яны ў лес падаліся, — таксама. Толькі, прашу цябе, не адмоў у дапамозе...

— Я нікому, чалавеча, у дапамозе не адмаўляў, — ціха азваўся Забейка. — І ў тым, што здарылася з вамі, ёсць і мая віна. Даўно мяне людзі папярэджвалі, але не атрымлівалася неяк з тымі крывасмокамі разлічыцца. Цяпер ім паратунку не будзе, ты толькі на след маю дружыну навядзі...

— Навяду, валадар, навяду, — адразу павесялеў нечаканы госць. — Тут яны не паўцякаюць.

Усяго праз нейкую гадзіну княжацкая дружына выступіла ў незвычайны паход. Ішлі ваяваць не з чужынцамі, а з разбойнікамі, якія дапяклі мясцовых жыхароў. Наперадзе ехалі Забейка з купцом, які вёў іх да месца няроўнага бою.

•

Разбойнікі гулялі. Далёка па лесе разносіліся іхнія галасы. Многія ўжо ледзьве трымаліся на нагах, гэтак дапалі да заморскіх вінаў, якія знайшлі ў разрабаваным абозе. Недзе спрабавалі заспяваць, але магутныя галасы нагадвалі хутчэй пагрозлівае ваўчынае выццё, чым песню. Нехта зацягнуў сам, спрабуючы спець пра весялуху-гарэлку, пра вострую шабельку ды пра няверную жонку, але і гэтая спроба скончылася ў хуткім часе слязлівым працягам, а потым — гучным храпам.

Волак ляжаў на звярыных шкурах у сваім будане і зіркаў на дзяўчыну, якая сядзела перад ім у чым маці

нарадзіла. Атаман сарваў з яе вопратку і пасправаваў было лашчыцца, але тая так правяла пару разоў сваімі рукамі па бандытавым твары, што на ім засталіся глыбокія баразёнкі, з якіх тут жа паказалася кроў. Тады Волак ухапіў палонніцу за валасы, падцягнуў да сябе і што было сілы перацягнуў па спіне магутнай рукой. Дзяўчына ледзьве не страціла прытомнасць і заплакала, заплакала ад бяссілля, агіды, гневу, роспачы. Яна ўжо не спадзявалася на выратаванне, на тое, што атаман праз хвіліну-другую не паспрабуе зноў авалодаць ёю. Тады яго ўжо не супыняць яе пазногці.

— Мая будзеш. Мая... — шаптаў Волак.

— Лепей галавой у пятлю, чым у твае абдымкі, крывасмок!

— Пагавары... Пагавары, а я пагляджу на цябе.

Нечакана пачуліся далёкія галасы:

— Уцякайце! Уцякайце!!!

Волак падхапіўся і выскачыў з будана. Ягоныя паплечнікі кідаліся ва ўсе бакі.

— Атаман, дружыннікі! Нас абклалі з усіх бакоў, атаман!

— Будзем прабівацца! Прабівацца!

Дзе там прабівацца. Разбойнікі былі смелыя ды храбрыя толькі перад безабароннымі людзьмі, ■ калі наткнуліся на спрактыкаваных вояў, якія бязлітасна іх секлі, то прасілі-малілі паратунку. Ды ніхто не звяртаў на гэта ўвагі, бо надта многа нявіннай крыві яны пралілі. Адзін за адным гінулі бандыты. Праз які дзесятак хвілін сярод жывых засталіся толькі Волак, Вісек ды яшчэ пару разбойнікаў. Забейка загадаў сваім воям:

— Жывымі ўзяць. Хачу ім у вочы паглядзець! Жывымі!

Падвялі да яго бандытаў, глянуў на іх князь і ажно ўздрыгануўся:

— Ды яны ж, — гаворыць, — чалавечае аблічча страцілі, не тое што сумленне. На дуб іх!

— Зараз, княжа, узнясём іх, — адказаў адзін з вояў.

Калі знялі іх і пахавалі, то Забейка сам прасачыў, каб на магілу ўзвалілі агромністы камень, які маўкліваю гарою ўзвышаўся непадалёку. Людзі сцвярджаюць, што з таго дня стрэлы Перуна ніколі не мінаюць гэты дуб і камень, — не можа нябесны валадар нават мёртвым разбойнікам дараваць іхнія страшныя зямныя грахі.

Князь Забейка на месцы былога жылля рабаўнікоў

пасадзіў жыць сваіх старых ужо дружыннікаў, даў ім зямлю, дазволіў займацца пчалярствам і рыбнай лоўляй. Сам ажаніўся з той прыгажуняй-дзяўчынай, бо надта яна спадабалася яму. Паселішча новае, каб людзі болей не баяліся прыязджаць сюды, назвалі Волакавіскам, а з цягам часу назва змянілася і месца стала называцца Ваўкавыскам.

## РОСЬ

Так ужо здарылася, што некалі, даўным-даўно, у гэтых мясцінах стаяла пахіленая хатка і жылі ў ёй дзед з бабай. А ў іх было дзве дачкі. У дзеда — свая, і ў бабы — свая. Зводныя, значыцца. У народзе нездарма гавораць, што ў такіх сем'ях шчасця амаль ніколі не бывае, што нечая дачка (ці нечы сын) будзе карыстацца прывілеямі, а другая будзе рабіць справу і за сябе і за стрыечную сястру. Так і тут адбылося. Гора дый годзе! Баба дзедам усё жыццё памыкала, слова ніколі сказаць не давала, так і ягоную дачку пад ногі падмяла. Чуць што — гарлае на ўсю ваколіцу:

— Дзе гэта ты швэндаешся, лайдачка?! Дзе цябе нячысцікі носяць?!

— Ды я загон з бульбай палола, матуля, — адказвае тая ціхенька.

Старая заціхне на імгненне, бо сама ж загадала гэта рабіць, але праз хвіліну зноў верашчыць:

— Дык ты што, яшчэ бульбу не прапалола?! Ты што, спала там ці ў цянёчку адседжвалася?! За гэты час можна было два такія загоны ў парадак прывесці! Ідзі, трэба жывёлу з поля прыгнаць, падаіць ды дагледзець...

— Ды я ў агародзе парадак ужо навяла.

— Ідзі і рабі тое, што табе загадваюць, а там мая дачушка даробіць, яна не гэтакая гультайка, як ты...

Заплача ад знявагі дзедава дачка і пойдзе новую працу рабіць. Нічога не папішаш, калі доля такая.

Крыўдна было і старому. Колькі разоў парываўся ён нешта зрабіць, каб лягчэй жыць было, але як толькі падыходзіў да гаспадыні — адразу ж назад падаваўся. Баяўся, дый усё тут, ніякім чынам не мог пераадолець страх. З маладосці так павялося ў іхняй сям'і.

Баба добра ведала пра гэта, таму, што гаварыла — тое ў хаце і рабілася. З гэтым і мірыліся. Па-усялякаму прыдзіралася да беднай дзяўчыны, бо зайздросціла той.

Прыгожая вырасла дзедава дачка, ва ўсім наваколлі падобнай не было. А працавітая якая ды ўвішная! Толькі і паспяваеш заўважаць, як рукі мільгаюць, упраўляюцца з працай, і ўсё подбегам, усё з песняй. Калі старая пакрыўдзіць, то паходзіць, пасумуе, а потым зноў спявае. Людзі заўсёды яе віталі ласкава, бо ведалі, якая жытка ў бедалагі. Ласкавым словам сагравалі. Дзяўчаты і хлопцы ў любы карагод ці гульню запрашалі, а найболей — каб песню сваім звонкім, чыстым голасам заспявала. Толькі шкада, што мала ў яе вольнага часу было, усё працай займалася. Вясковыя хлопцы любыя зачэпкі шукалі, каб з ёю побач пабыць, паразмаўляць. Не глядзелі, што бедная, што пасагу не мае, затое прыгожая ды працавітая, з такой не сорамна і на людзі выйсці, і гасцей у сябе прыняць.

Заўважыла гаспадыня такую справу, што дзецюкі толькі да дзедавай дачкі прыхільнасць маюць, а яе родную і не заўважаюць, і пачала думаць-гадаць, як пазбавіцца гэтай прыгажуні. Вядома, што яе дачка ні ў якое параўнанне не ішла: і гультайка, і непрыгожая. Вось пасмяяцца з яе хлопцы любілі, асабліва за тое, што любіла паспаць і за траіх з'есці.

Аднаго разу старая ўсхапілася з раніцы і звярнулася да гаспадара:

— Пайшлі, стары, на падворак, скажу табе нешта, каб ніхто не чуў.

Дзеда нібы кіпнем абдалі, ён здагадаўся, што жонка задумала дрэннае, але ўсё роўна пайшоў.

— Слухай, стары, мы старэем з кожным днём і сілы ў нас усё меней ды меней застаецца. Цяжка самім, без мужчын пракарміцца.

— Так, старая, цяжка.

— Дык вось што я ўдумала. Завязі ты сваю дачку заўтра ў лес. Не трэба яна нам у хаце. Дапамогі ад яе амаль ніякай не бачым, адно толькі — па хлопцах бегае. А так — нас меней застанецца і пражыць будзе значна лягчэй...

— А чаму маю дачку? Давай тваю завязём. Таксама толькі трое ў хаце застанецца...

— Што гэта ты так разгаварыўся? Ці можа забыўся, хто ў нашай хаце гаспадар? — гнеўна ўскінулася гаспадыня, і дзед раптоўна супакоіўся.

— Раз ты так вырашыла, то выканаю тваю просьбу, але не па-людску гэта...

— Маўчы лепей, ён яшчэ будзе мяне вучыць, як жыць далей.

Запрог дзед коніка і паклікаў сваю дачку:

— Пайшлі, родненькая, паедзеш са мной у лес, дапаможаш дроў назбіраць, усё ж весялей будзе...

Тая ўзрадавалася, бо рэдка калі мачаха яе з бацькам працаваць адпускала. А так і пагамоняць там і адпачнуць, ніхто не будзе падглядваць ды прыспешваць. Не ведала, дурніца, для чаго яе туды павязуць.

Заехалі яны ў лес. Дзед усё па баках азіраецца, а дачка прыхілілася да ягонай спіны і маўчыць, ні слова не сказала, як у воз селі, нібы здагадвалася пра што. Не па сабе старому стала, і вырашыў ён не проста кінуць дачку ў лесе, а знайсці для яе такое месцейка, дзе яна ацалела б. Кінуць пасярод пушчы любы можа, а звяр'ё як прычэпіцца, то да раніцы толькі косці валяцца на тым месцы будуць.

Едуць яны, ядзяць іх камары, але гаспадар нібыта і не заўважае гэтага. Усё ўглядаецца ў кустоўе ды ў непралазны бор. І раптам усклікнуў:

— Глядзі, дачушка, якая прыгожая хацінка! І, што самае галоўнае, так па-майстэрску зроблена і замаскіравана, што нават за пару крокаў не заўважыць! Вось жа нехта выштукаваў сабе хацінку! Пайшлі, паглядзім...

Увайшлі ў сярэдзіну, а там прыбрана чысцютка і нікога няма. Агледзеліся яны. Не, няма. Тут ля печы бацька заўважыў нейкае смецце і гаворыць:

— Ты папрыбірай пакуль што ў хаце. Вунь вядро з анучай стаіць, памый падлогу, а я тым часам дроў насяку. Ты будзеш добра чуць, як я сякерай вухкаю, і калі заціхну, то прыходзь, дамоў паедзем.

Сказаў так і пайшоў. А сам жа хітры быў, нічога, што жонка ім камандавала. Узяў цурбалак, прывязаў яго на вяроўку і павесіў ля будыніны. Вецер пахісне той цурбалак, ён і стукнецца ў сцяну, а водгулле ідзе, нібы хто сякерай дровы пляжыць.

Дзяўчына пастаяла хвілін колькі, пачула, як бацька дровы нарыхтоўвае, і за працу ўзялася. Але што гэта за занятак для чалавека, які прызвычаіўся цяжка працаваць? Нейкую гадзіну парабіла і ўсё да канца давяла. Села на лаўку і слухае, як сякера вухкае. Другая дык адразу б на двор выскачыла, а гэтая паслухмяная надзіва была: сказаў бацька сядзець у хаце і чакаць, пакуль ён працу скончыць, яна так і рабіла.

Ужо вечарэць стала, а сякера ўсё стукае і стукае. Згаладалася дзяўчына, не вытрымала болей і выйшла з хаці-

ны. Зрабіла крок-другі і ўсё зразумела. Горка-горка заплакала, але хіба ж ёй прывыкаць да такога, хіба ёй нехта некалі спачуваў? Прыціхла, зайшла назад у хацінку, запаліла агеньчык на прыпечку і прылегла насупраць на палку. Неяк незаўважна і задрамала. Спіць, а мроіцца ёй, што яе цела на кавалкі нейкія злыдні рвуць. Закрычала, упала з палка і адразу прачнулася. Ніяк не можа дацяміць, што да чаго, бо ў чужой будыніне. Потым толькі зразумела, дзе знаходзіцца. Глянула ў кут і ўскрыкнула перапалохана:

— Хто там? Што табе трэба?

— Не палохайся, прыгажуня. Не бойся мяне, я табе нічога дрэннага не зраблю. Але хачу спытаць, што табе тут трэба? Бо я тут гаспадар... — і з кута ўзняўся магутнага целаскладу чалавек, які галавою ажно бэлькі кранаўся.

Дзяўчына затрымцела і пасунулася да сцяны.

— Я ж табе сказаў, не палохайся, я нічога дрэннага не зраблю...

Голас гучаў міралюбіва. Дзяўчына ажыла:

— А я і не палохаюся. Вось яшчэ. Гэта з непрывычкі...

Незнаёмец у адказ засмяяўся. Здавалася, што нехта рассыпаў вялізныя камяні і яны грукацелі, перакочваліся, такі моцны і незвычайны быў у яго смех.

— Ну, госця, давай есці будзем. Раз ужо ты да мяне завітала, то сядай за стол. Няма чаго палохацца, няма чаго аднеквацца. Ведаю, што хочаш есці... Зараз, толькі з печы дастану, раніцай як гаршкі паставіў туды дык і стаяць да гэтага часу...

— Можа, давайце я гэта зраблю, у мяне спарней атрымаецца. Дома я пастаянна есці на стол падавала.

— Давай, калі такая справа, — пагадзіўся гаспадар і першы сеў за стол, адно толькі — зарыпелі дубовыя дошкі пад ягоным магутным целам.

Калі дзяўчына ўсё дастала і паставіла на стол, а потым і сама села, то ажно пляснула рукамі — гэтулькі прысмакаў было ў місах і гаршках. Дома ёй ні разу не даводзілася нават каштаваць некаторыя з іх.

— Еж, еж, не саромейся. Гэта не крадзенае. Што з палявання, што з рэчкі, і ў сваёй гаспадарцы трымаю ж нешта... Есці хапае, а для аднаго дык і застаецца...

Пад'елі добра, тады толькі незнаёмец звярнуўся да сваёй госці:

— А зараз раскажы пра сябе, хто ты, адкуль, як тут

апынулася. Цікава ж мне ведаць, хто да мяне завітаў. Я тут гадамі людзей не сустракаю, а калі каго ўбачу, то сачу за ім з засады, каб мяне не заўважыў, бо тады раўне з перапуду ды такога ўцекача задасць, што і вецер не дагоніць, не тое, што я...

Дзяўчына пачала гаварыць. І сама не ведала чаму, але расказвала чыстую праўду. Ні ў чым не схлусіла, нічога не перамяніла. З кожнай хвілінай твар гаспадара станавіўся ўсё болей змрочным і кулакі яго мацней сціскаліся.

— Ды як жа яны маглі за тваё дабро і спагаду злом плаціць?! Такое і ў галаву не лезе. Што ж гэта за злыдні? Я ж іх з-пад зямлі дастану, ад мяне яны нікуды не схаваюцца!

Голас задрыжэў ад абурэння. Здавалася, яшчэ хвіліна, і гэты асілак пойдзе крышыць і ламаць усё на сваім шляху. Дзяўчына схапіла яго за руку.

— Не трэба іх караць, хай іх нашы багі караюць, не можа быць, каб ім такое бясследна сышло. Недзе ды вылыюцца чужыя слёзы бокам...

— Добрая ты, — пасля некаторага маўчання азваўся гаспадар, — я ніколі не дараваў бы...

— Няхай усё застанецца, як і было, нічога не хачу мяняць. Вы лепей пра сябе раскажыце, я ж вам паведала, — звярнулася госця да асілка.

— Ты мне праўду расказала, не пасаромелася, не нахлусіла, і я табе тым жа адплачу. Слухай.

Даўно гэта здарылася. Я тады жыў у вялікай, дружнай, працавітай сям'і. Наш падворак знаходзіўся далёка адсюль. Зямлі многа мелі, жывёлы ўсялякай — таксама. З суседзямі ніколі не спрачаліся, ды, мабыць, увогуле ніхто ні на каго благога слова не сказаў. Па вечарах песні гучалі. Дзяўчаты ды жанчыны адна перад адной галасамі надзіва звонкімі пахваляліся. Здавалася нам тады, што так, як мы, усе людзі на зямлі шчасліва ды мірна жывуць. Ажно не так аказалася. Мне тады адзінаццатая вясна ўсяго ішла, але быў я здаровы ад нараджэння і мог ужо такую ж працу рабіць, як і дарослы мужчына. У нас род такі быў — што мядзведзі здаравенныя. Як пачыналі барукацца хлопцы паміж сабою, то зямля дрыжэла і стагнала. У мяне толькі братоў сямёра было ды трое сясцёр. А яшчэ матуля, бацька... Як сядзем усе за стол, то стол той у маю хату не стаў бы.

Гаспадар сумна замоўк.

— А што было далей? Чаму ў вас зараз нікога няма? — пасля працяглага маўчання запыталася госця. — Дзе яны?

— Няма іх, прыгажуня, болей... Даўно няма... Амаль дваццаць вёснаў я сустракаю без сваіх родных у гэтай вось хаціне, сярод дзікіх звяроў ды птушак...

— А як жа...

— Слухай далей. Калі паабяцаў, то ўсё раскажу. Адбылося гэта недзе напрыканцы лета, у тую самую пару, калі збожжа дажыналі. Уся вёска на нівах была. Прыгожая мясціна, непаўторная. Яна і стала ўсім магілай, апошнім прытулкам. Мне толькі і ўдалося выслізнуць...

— А што ж там здарылася?

— Што здарылася? Гора вялікае. Ніхто і не чакаў, ніхто і падумаць не мог, што такое можа здарыцца. Вяскоўцы збажыну імкнуліся хутчэй прыбраць. Надвор'е сухое, нібы пад заказ стаяла, самае што ні на ёсць падыходзячае. Наша сям'я таксама на ніве шчыравала. Мы тады ўсе да аднаго выйшлі. У нас толькі сёстры маладзейшыя за мяне былі, а браты дык усе старэйшыя. Гаманілі, жартавалі за працай, адным словам, як звычайна. Справа ўжо да полудня рухалася. Бацька мне і кажа:

— Бяжы, сынку, ды вадзіцы сцюдзёнай з крыніцы нам напіцца прынясі. Толькі надта не марудзь, каб нам не заседжвацца ды паспець да вечара ўсё поле зжаць. Цяпер скончым, дык заўтра вазіць будзем...

Хто ж яго ведаў, што заўтрашняга дня для ўсіх гэтых людзей не будзе. Каб жа хто знак які падаў ці папярэдзіў, а то... Пабег я да крыніцы. Да яе недалёка было, усяго якіх крокаў трыста ці крыху болей. Што гэта за адлегласць для шпаркіх ног? Толькі назва адна. Не паспеў падбегчы да вады, як ззаду пачуліся гартанныя крыкі: «Ала! Ала! Ала!»

Глянуў я назад і спалатнеў. Па жніўі ляцелі шматлікія коннікі і кідаліся на сялян. Пачуў яшчэ, як адзін з маіх старэйшых братоў адчайна крычаў:

— Тата! Тата! Сястрычак хапайце нашых ды ўцякайце, а мы іх прытрымаем!

Прытрымалі б, ведама, каб збройныя былі, а то з голымі рукамі супраць вершнікаў, спрактыкаваных у бітвах, хіба ж выстаіш. Па ўсім полі панесліся дзікія крыкі. Куды ні кідаліся сяляне, усюды іх знаходзілі варожыя стрэлы ды шаблі. Зараз як перад сабой бачу, як уцякала нейкая мацерка з дзіцём на руках, а за ёю гнаўся коннік. Праз пару хвілін нагнаў і сякануў жанчыну па галаве, а па-

куль яна падала, то махнуў па немаўляці. Усё гэта на маіх вачах адбывалася. Я спачатку нібы спруцянеў, ■ потым ачомаўся і ўцяміў, што да чаго, дык у лазовы куст, пад самы корань, нібы той вуж, ушчаміўся і не дыхаў.

Тыя вершнікі потым ля мяне ў крыніцы ваду бралі ды пілі. Чуў, як яны смяяліся, нешта адзін аднаму на незразумелай мове распавядалі. Відаць, радаваліся, што гэтак лёгка з безабароннымі расправіліся. Я назад не пабег, ■ краўся за тымі чужынцамі, пакуль маіх сіл хапіла. Некалькіх чалавек на той свет адправіў. Звычайнай дубінай біў. Я ж казаў, што сілы ў мяне, як у дарослага было, а нянавісці пазычаць не трэба было... Потым у лес сышоў і сам па сабе жыць стаў, каб нішто не нагадвала мне пра тыя жахлівыя хвіліны... А ты прыгожая, як мая сястрычка... Раса...

— Раса? — перапытала дзяўчына. — Дзіўнае імя.

— Так. У нас жа драўляныя багі былі і імёны, адпаведна, язычніцкія.

— Цябе вось так пакрыўдзілі, а мяне іншым чынам дапяклі...

— Давай жыць разам, так мы і не прападзём з табою, Раса... Можна я буду цябе так зваць?

— Заві, — ціха прамовіла дзяўчына, бо разумела, як многа значыць для гаспадара хаціны гэтае імя. — Заві, калі падабаецца.

— Час класціся спаць, а заўтра я пакажу табе сваю гаспадарку.

— А што, і гаспадарка ёсць?

— Усё ёсць, я ж не рабаўнік. Як быў, так і застаўся вяскоўцам. Цягне мяне па-ранейшаму да зямліцы-маці, да сялянскай працы, таму, каб не адвыкнуць, не развучыцца, і раблю тое-сёе непадалёку ад хаціны. Мне тут спакойна. Прывык ужо да самоты, ніхто не перашкаджае, і раны на сэрцы крыху зарубцаваліся.

Так яны і зажылі ўдваіх. І гэтак Расе з ім, яе новым знаёмым, а потым мужам, лёгка стала, як ніколі. Яна нават і не ведала, што так добра можна жыць, не ганьбячы нікога, не крыўдзячы, а толькі дапамагаючы ды падтрымліваючы. Потым і дзеці ў іх пайшлі. Прыгожыя і вясёлыя, нібы матуля, а працавітыя і здаравенныя, нібы іхні бацька. Хаціну вялікую збудавалі, гаспадарчых будынін наставілялі, жывёлы ўсялякай мноства завялі і зажылі вялікай сям'ёй. Калі старым прыйшла часіна пакінуць гэты свет, то яны паміралі спакойна, бо ведалі, што дзецям сваім перадалі ўсё найлепшае, што толькі маглі.

Пахавалі бацькоў дзеці на высокім пагорку, а калі паселішча разраслося, то назвалі яго Рось, так, як іхні бацька зваў матулю.

## АМШАРЫ

Жыў на свеце вельмі бедны вясковец. Як ён толькі ні стараўся разбагацець, што толькі ні рабіў — нічога добрага не атрымлівалася. Здаецца, і жывёла добра вядзецца, і расце, нібы на дражджах, а паедзе яе прадаваць, то ці па дарозе на кірмаш якое ліха здарыцца, ці, калі ўжо дамоў вяртаецца, рабаўнікі нападуць і ўсё да нітачкі паадбіраюць. Паспрабуй пакруціся ў такіх умовах, калі ты нібы лёсам закляты. Што ні робіш — усё з рук валіцца. Дзеці пастаянна плачуць, есці хочуць, жонка поедам есць, бо глядзіць, як у іншых атрымліваецца, і ёй такой жыткі хочацца. Пасядзіць Рыгорка (так яго звалі), пасядзіць, сам сабе нешта пашэпча і зноў за працу бярэцца. Усё ж спадзяваўся чалавек, што і ў яго справа рана ці позна пойдзе.

Аднаго разу ўжо крыху і выбіўся. Ураджай у той год у Рыгоркі быў вельмі добры, жывёла сытая, спраўная ў хлявах стаяла. Сэрца гаспадара радасна тахкала ў прадчуванні, што позняй восенню прадасць хоць частку, а за вырučаныя грошы жонцы, дзецям, сабе ўсялякіх неабходных рэчаў ды падарункаў накупіць. Пачаў часта ў царкву хадзіць ды шчыра там паклоны зямныя адбіваць, каб заручыцца боскай дапамогай. Гарэлкі і на губу не браў. І ўсё роўна ў той год гора здарылася. Ды яшчэ якое страшнае!

А пачалося ўсё з таго, што суседскія дзеці на сваім падворку з агнём жартаваць задумалі. Бегалі, смяяліся, рагаталі і нечакана падпалілі старую будыніну, якая на ўзмежку стаяла. А надвор'е надта сухое было, вецер патыхаў у бок Рыгоркава падворка. Адным словам, пакуль дарослыя з поля даімчалі, то ратаваць ужо не было чаго.

Пасля таго выпадку гаспадар хацеў павесіцца, але яго своечасова заўважылі і выцягнулі з пятлі сяляне.

— Што гэта ты, Рыгорка. Кінь дурное. Павернецца і да цябе лёс тварам. Будзе і на тваім падворку дастатак. Згадаеш нашыя словы, потым сорамна будзе, што збіраўся жыццё самагубствам скончыць. Адумайся, чалавеча, у цябе ж дзеткі маленькія, жонка яшчэ не старая. Ты адыдзеш у той свет, ■ як жа яны без цябе будуць? Патрывай крыху яшчэ.

— Няма ўжо сілы, цярпення нестае, родныя, — адказаў Рыгорка. — Самі ж бачыце, за што ні вазьмуся — нічога добрага не атрымліваецца.

— І ўсё роўна пажыві яшчэ. У імя дзяцей сваіх пажыві, — павучальна дадаў нехта з аднавяскоўцаў. — Туды заўсёды паспееш, там цябе не надта чакаюць.

Завялі Рыгорку да сям'і сяляне, а самі адышлі ўбок і пачалі раіцца, бо неяк жа трэба чалавека з такой бяды вызваляць, не жабраваць жа яму адпраўляцца.

Адзін з мужчын і гаворыць:

— Ведаеце што, сябры, мне здаецца, што я ведаю, як гэтую справу наладзіць. Дам я грошай Рыгорку, каб ён адбудаваўся, каб жывёлу закупіў, а потым, калі на ногі стане, пакрыху аддасць.

— Добра гэта ты, чалавеча, задумаў, па-боску. Усявышні цябе за тваю дабрыню ніколі не забудзе, і гэтыя людзі да скону жыцця дзякаваць будуць.

— Давайце тады разыходзіцца. Заўтра я яму грошы прынясу, а будавацца усе дапамагаць будзем.

Пагаманілі яшчэ крыху людзі і разышліся, каб раніцай сабрацца.

Добра задумалі — добра і атрымалася. За нейкі месяц будыніны ўжо стаялі на двары і адсвечвалі сваімі свежаакоранымі бакамі. Эх, як дзякаваў людзям Рыгорка, як ім кланяўся. Усе падумалі, што скончыліся для гаротніка змрочныя часы, што цяпер па-іншаму зажыве. Так, мабыць, і гаспадар марыў. Грошы, што засталіся ад будоўлі, чалавек, каб ніхто не ўкраў, старанна захаваў у гаршчок з зернем. Самому спадабалася: і навідавоку, і ніхто не здагадаецца, што там грошы ляжаць.

Весялей і на полі працаваць стала. Як падумае, што, можа, у гэты раз яго Усявышні заўважыць і прыкрые ад усялякіх пошасцей ды бядотаў, то раніцы дачакацца не можа, каб хутчэй усхапіцца і бегчы на поле ці на луг шчыраваць. Адыходзіць і заўсёды жонку папярэджвае:

— Глядзі ж тут, дома, каб дзеці ў парадку былі, каб ніхто зноў не задумаў з агнём гуляць! А калі жабрак які зойдзе або чалавек падарожны, то каб без падарункаў ці пачастункаў не адпускала. Можа, гэта з-за такой драбніцы на нас усё сыплецца.

— Добра, Рыгорка, усё зраблю, як ты загадаў, — ласкава адказвае жонка, бо бачыць жа, як муж круціцца.

Аднаго разу сабраўся Рыгорка ў лес па дровы. Устаў — яшчэ сонца не займалася. Пакуль коніка запрог, пакуль

сякеру, вяроўку, пілу ўзяў, то і развіднела крыху. Ён і паехаў.

Ужо вечарэла, калі вярнуўся. Жонка яго ля варот сустракае:

— Рыгорачка, а ў нас сёння госці былі. Як ты згадваў...

Гаспадара адразу нешта кальнула пад сэрца.

— Якія госці? — не зразумеў чалавек. — Хто мог зайсці?

— Да ты не хвалюйся, я ўсё зрабіла належным чынам, крыўдзіцца яны на нас не будуць. Гэта цыганка з дачкой прыходзіла, то я іх пакарміла, а яшчэ збожжа гаршчок у торбу ўсыпала.

На Рыгорку страшна было глядзець. Ён сеў прама там, дзе стаяў.

— Гаршчок паколаты? — ледзьве чутна прашамкаў і пачаў цяжка дыхаць.

— Ага, — весела адказала гаспадыня, — а ты адкуль ведаеш? Ці ты ўсе нашы рэчы на памяць знаеш?

— Што ж ты нарабіла, дурніца! Што ж ты нарабіла! Ты ж зноў мяне пад корань падсекла...

— Ды я ж зрабіла, што ты загадваў...

— Там жа грошы ляжалі, пад зернем... Ой, Божачка! Ой, што ж гэта далей будзе?

— Якія грошы? — зніякавела жонка. — Я ж не ведала...

Вечарам Рыгорка ні есці не хацеў, ні спаць. Варочаўся на палку, часта ўставаў. Чуваць было, як плакала ў падушку бедалага-гаспадыня. Яна ж таксама не хацела, каб усё так атрымалася.

Раніцай Рыгорка ўстаў і звярнуўся да жонкі:

— Не плач болей, родная, не плач. Не такое перажывалі, перажывём і гэта. Неяк выкруцімся. У мяне ў шапцы яшчэ залатовак колькі зашыта на чорны дзень, так што не ўсё прапала.

У той дзень Рыгорка пайшоў на поле. Хацелася глянуць, як там рунь пайшла. Шапку з галавы гаспадар ніколі не здымаў, у руках, калі што якое, трымаў. Таму за гэтыя грошы не турбаваўся, ведаў, што яны застануцца..

Пахадзіў, паглядзеў сваю збажыну і вырашыў дамоў кіраваць. Неяк душой супакоіўся, бо ўбачыў, што там усё ў парадку.

Паціху ішоў, глядзеў, здавалася, пад ногі, і неяк усё ж прагледзеў. Наступіў на мокры, слізкі цурбалак ды як

рэзнецца патыліцай — ажно прытомнасць страціў. Колькі часу так праляжаў Рыгорка — і сам не памятае, але калі вочы адкрыў, то адразу пачаў шапку шукаць. І, гора! Яе нідзе не было! Нехта падабраў! Заплакаў тады чалавек з адчаю. Прыйшоў дамоў, ужо нічога жонцы і не гаворыць, сеў і замаркоціўся.

Ажно чуе — у дзверы нехта ціхенька стукае.

— Хто там? — запыталася гаспадыня і адчыніла дзверы.

Гэта быў стары падарожны. Пасядзеў ён з гаспадарамі, выслухаў іх уважліва і кажа:

— Ведаю я, у чым тут прычына. Мясціна гэтая даўно заклятая. Справа ў тым, што некалі тут стаяла хаціна маіх бацькоў. Нам таксама не шанцавала. Таксама мы тут памучыліся, пакуль добрыя людзі не падказалі нам перабрацца на іншае месца. Чаму б і вам гэтак не зрабіць?

— А куды перабірацца?

— На амшары ідзіце. Ад вёскі гэта недалёка, [redacted] зямля там добрая. Нічога, што балацінкі ёсць. Папрацуеце, і ўсё стане на свае месцы.

Яны так і зрабілі. Раскарчавалі тыя амшары і сваю вёску назвалі — Амшары.

## ГНЕЗНА

Даўней касцёлы (не тое, што зараз) сустракаліся вельмі рэдка. Я маю на ўвазе тыя часы, калі гарады маленькімі былі, а вёскі адна ад адной размяшчаліся на адлегласці дзесяткаў вёрстаў. Маліўся кожны Богу, як умеў, [redacted] маліцца ж трэба было, бо чалавек заўсёды дзе-небудзь згрэшыць, што-небудзь выкіне, а потым просіць даравання Усявышняга. Вось і выкручваліся, кожны па-свойму.

Жыў-быў у нашых мясцінах адзін дзіўнаваты чалавек. Непісьменны быў, таму не ўмеў па-пісьменнаму да Бога звяртацца. У касцёл ён ніколі ў жыцці не хадзіў. Не падабалася яму, што народу многа збіралася і стаялі ўсе з ратамі разяўленымі. Пётра (так звалі таго чалавека) пераканаўча сцвярджаў, што ў касцёле людзі не моляцца, а толькі абгаворваюць адзін аднаго. Мабыць, усё ж меў ён рацыю, бо і зараз такое часта здараецца.

Дык вось, хоць Пётра ў касцёл і не хадзіў, а Бог да яго ласкава адносіўся, таму што сам ён па натуры быў чалавекам надзвычай рахманым, спакойным, памяркоўным.

Ніколі ад яго ніхто не чуў благога слова, не бачыў, каб ён п'яны дамоў кіраваў ці лаяўся з кім-небудзь. Усё з усмешкай рабіў, кланяўся ўсім, дапамагаў. Сваю працу не скончыць, а чалавеку, калі бачыць, што той не ўпраўляецца, абавязкова дапаможа.

Жыў Пётра ў адзіноце, да чужога дабра быў абыякавым, з людскога мазаля ды крыві людской не жывіўся, сірот-жабракоў да сябе пераначаваць-пажыць заўсёды пускаў. А гэта ж Усявышні бачыў і яму залічваў. З усходам сонца вясковец уставаў, браўся за нейкую працу і рабіў яе шчыра, да сёмага поту, нягледзячы на тое, цяжкая яна была ці лёгкая, прыемная ці не надта. Прыйдзе на падворак пад самы ўжо вечар, пасядзіць колькі хвілін, потым вячэру сабе зварыць ды спаць кладзецца, каб з раніцы зноў за нешта новае ўзяцца.

Спачатку ён не маліўся Богу, бо малітваў ніякіх не ведаў. Але заўважыў, што людзі, хоць у касцёле языкамі і малоцяць, усё ж нейкія малітвы там спяваюць. Таму уздумаў Пётра да Бога самастойна звяртацца. Не трэба яму ніякіх ксяндзоў ці іншых якіх рэлігійных служак, ён задумаў усё абладзіць адзін.

Доўга думаў, толькі патрэбная думка ў галаву ніяк не прыходзіла, а калі да чаго і дадумваўся, то не падабалася. І зноў разважаў селянін.

Неяк ранкам прахапіўся і радасна закрычаў:

— Прыдумаў! Прыдумаў! Цяпер і я буду маліцца!

Выскачыў на падворак і паляцеў да дроў, што былі звалены ля хлява. Выхапіў там ладны дубовы цурбалак і панёс дахаты. Нешта мурлыкаючы пад нос, Пётра ўзяў сякеру і стаў ёю цюкаць па цурбалку. Доўга ён гэтым займаўся,і нарэшце ўжо можна было распазнаць абрысы чалавечай фігуры. Дзе не атрымалася сякерай, то селянін старанна апрацаваў вострым нажом і нарэшце задаволена ўздыхнуў:

— Усё, зрабіў! Зрабіў тое, да чаго імкнуўся!

Паставіў Пётра свайго дубовага бога пасярод агарода, а каб да яго жывёла не падбіралася, то абгарадзіў густым частаколам.

Раніцай наступнага дня селянін выйшаў на ганак, пацягнуўся і пакіраваў не як звычайна — на працу, а да драўлянага ідала. Стаў, паглядзеў, а потым як скочыць — толькі пясок з-пад ног паляцеў.

— Гэта табе, Божа!

Разагнаўся і як гопне назад.

— А гэта мне, Божа!

Раз трыццаць пераскочыў калоду — і ўсіх тых малітваў. Ажно лоб узмакрэў. Сеў тады ля калоды і адпачывае. Потым на працу пайшоў.

Такую завядзёнку сабе ўвёў і пастаянна яе прытрымліваўся. Пазней крыху перайначыўся, ці то нехта падказаў, ці мо пачуў недзе, толькі Пётра пачаў скакаць тры разы па дзевяць, каб была магічная лічба.

Так год за годам і цягнулася. Пётра ўжо ў сталым узросце быў, але па-ранейшаму маліўся. Не ішоў у касцёл, не перамяніў уласны погляд. З цягам гадоў знайшліся хітруны, якія пачалі казаць:

— Кінь ты дурное, Пётра! Трэба з усімі ў касцёл хадзіць, тады і выратаванне табе будзе на тым свеце! А так — што дзікун жывеш ды яшчэ і па-дзіўнаму молішся! Ты хоць адзін раз схадзі ў касцёл, і справа наладзіцца! Сам пабачыш!

Усміхаўся толькі ў адказ селянін ды мовіў:

— Не дайду я ўжо да касцёла, гэта ж такую адлегласць трэба пераадолець, не з маімі нагамі. Вы ўжо там шчыруйце, зарабляйце сабе дараванне нябеснае, а я так і адыду на той свет, ні ад чаго не адмаўляючыся. Крыўды я людзям ніколі не прыносіў, а Усявышні няхай сам разбіраецца, куды маю грэшную душу накіраваць пасля таго, як яна цела пакіне...

Вяскоўцы разумелі, што смяецца з іхніх памкненняў Пётра-хітрун.

Але аднаго разу ўсё ж, ці то Пётра не ўтрываўся, ці то цікаўнасць ім авалодала, угаварылі яго аднавяскоўцы схадзіць у касцёл. Вось сабраўся ён і пашпацыраваў разам з іншымі людзьмі. Падыходзяць да шырокай ракі, а там якраз паводка мост змыла, адзін толькі дуб упоперак ляжыць. Усе сталі і разважаюць, як на той бераг пераправіцца. Самы кемлівы і гаворыць:

— А што тут думаць, трэба па гэтым зваленым дрэве перабірацца, іншага шляху нам сёння не застаецца.

Пагадзіліся людзі і давай хто асцярожненька пераходзіць, а хто перапаўзаць. А Пётра не спяшаецца, сядзіць сабе на беразе і хітравата пазірае.

— Давай да нас, чалавеча, а то адстанеш!

— Перабірайцеся, перабірайцеся, а я пагляджу, пачакаю і апошнім паспею.

Як убачыў, што апошні вясковец пераправіўся, то ўвайшоў у раку і пайшоў спакойненька, нібы па сухому, ня-

кай перашкоды не адчуваючы. І, што самае галоўнае, вады было яму не вышэй чым па калені. Перайшоў і не замачыўся, а ўсе стаяць ціхенька і адно толькі — пазіраюць, не ведаюць, як і растлумачыць гэткі цуд.

— Пайшлі, хіба, — сказаў вяскоўцам Пётра, заўважыўшы, што тыя ніяк не могуць супакоіцца.

Прыйшлі нарэшце ў касцёл. А там народу сабралося гэтулькі, што ў сярэдзіну не ўлезці, вакол касцёла натоўпамі стаяць. Свята нейкае тады вялікае надарылася. Кожны ж, ведама, спрабуе прабіцца наперад, каб калі не пачуць малітвы, дык хоць пабачыць, што там робіцца. Цікава кожнаму. Але калі людзей столькі, то хіба ж можна прабрацца, каб нікога не штурхнуць, не адтаптаць ногі? Таму чуліся крыкі, а часам, і лаянка брыдкая.

Бабы ды маладзіцы пазбіраліся ў паасобныя купкі і ваўсю стараліся. Не, яны не маліліся, а мылі косці сваім суседкам ды дзяліліся навінамі, якія здарыліся з часу іх апошняй тут сустрэчы. Часам такі шум уздымаўся, што іх даводзілася суцяшаць і прасіць не лаяцца хоць ля касцёла.

Хлопцы з дзяўчатамі, нібы на вячорках якіх: смяяліся, шчыпалі адзін аднаго, пераміргваліся, а на малітвы ўвагі не звярталі.

Самі ксяндзы і тыя не надта спадабаліся селяніну. Дзе ж гэта вы бачылі, каб божы служка пачынаў спрачацца з прыхаджанамі за тое, што яны быццам бы яму мала плацілі? Калі нешта не падабалася, то ўвогуле махалі рукамі і крычалі, што болей не пусцяць і блізка да касцёла.

Куды ні гляне Пётра — усё яму не падабаецца. Падумаў, што трапіў не на багамолле, [redacted] на нейкае вяселле, дзе кожны заняты ўласнай справай.

Плюнуў на ўсё гэта Пётра і пайшоў паціху назад, дахаты, бо надакучыла яму дарма час бавіць. Падышоў да той самай рэчкі, якую раніцай пераходзіў, і смела рушыў у ваду. Але што гэта? Адразу ж праваліўся па самы пояс. Узвыў тады чалавек:

— Божа, даруй мне такі грэх! Адзін раз да касцёла нашча пайшоў і то награшыў! Болей не буду!

Прыйшоў дамоў і сапраўды болей да касцёла не хадзіў, як яго ні прасілі, як ні пераконвалі.

Маліўся сам сабе, дый годзе. Калі памёр, то ягоная сядзіба стала месцам для будоўлі новага касцёла, які

вырашылі справядлівыя сяляне паставіць як помнік чалавеку. Людзі каля гэтага касцёла пачалі гняздзіцца і назвалі: Гняздо, потым — Гнездава, а пазней ужо сталася Гнезна.

## КАМЯНІЦА

Даўно гэтая гісторыя здарылася. Колькі стагоддзяў таму назад — ніхто, можа, і не ведае.

Жыла тут дзяўчынка, звалі яе Марыська. З родных у яе быў толькі старэнькі дзедка. Маці з таткам памерлі, яна іх і не памятала добра. Дзедка замяніў родных, выгадаваў яе, навучыў з людзьмі па-добраму жыць. Марыська ласкава да яго ставілася, слухалася ва ўсім, дапамагала, усю гаспадарку сама вяла, бо бачыла, што дзедка ўжо не здужае.

Спявала дзяўчына вельмі хораша, што тая птушка вясновая: як зацягне песню, дык самі птушкі спачатку заціхалі, слухаючы яе, а потым ужо свае галасы падладжвалі, каб не парушыць. Марыська адчуе, што яны за ёю падцягваюць і, усміхаючыся, далей спявае, дзякуе памочнікам, з якімі і ёй жыць лягчэй станавілася.

Год за годам незаўважна мінаў. Калі Марыська маленькай была, дык хлопцам да яе і справы не было, а калі захарашэла, што тая чырвоная каліна, то яны за ёю цугам хадзіць пачалі. Смяяўся дзядуля:

— Глядзі ты, гэта ж ад самае раніцы і да вечара не той, дык той усё па дарозе шпацыруе. Гэта ж каб з табою спаткацца і пагаманіць. І працы ім ніякай няма, занятку сабе не знойдуць.

— Ды кіньце, дзядуля, гэта вам здаецца, а яны, можа, па нейкай пільнай патрэбе тут апынуліся. Будуць яны дзеля спаткання тут аціраццa.

— Ага, па пільнай патрэбе... Так я табе і паверыў. Быццам я не ведаю, сам жа некалі маладым быў, таму гэта патрэба мне добра вядомая...

Марыська чырванела і болей нічога не гаварыла, а старэча не хацеў злаваць унучку, пакірхваючы, лез на печ і адтуль ужо пасмейваўся, але дзяўчыну не чапаў.

Як ні імкнулася Марыська заставацца абыякавай, не звяртаць увагі на тое, як за ёй хлопцы ўвіваюцца, але ж прырода бярэ сваё, і нікуды ты ад яе не схаваешся. Вось прыйдзе тая часіна, затахкае сэрца, і нехта назаўсёды

західзе ў яго, да самай смерці там застанецца. Так і з дзяўчынай сталася.

Пайшла яна аднаго разу да дзяўчат, каб разам песні ўвечары паспяваць. Зацягнулі яны нейкую дужа сумную, невясёлую, пра расстанні, пра войны, пра шматлікія страты, ажно нехта з хлопцаў (а як жа без іх!) не вытрымаў:

— Ну што гэта вы, быццам хаваеце некага?

— Сапраўды, дзяўчаткі, давайце весялейшую, — папрасіў яшчэ нехта.

Марыська спявала разам з іншымі, але ўвесь час адчувала на сабе нейчы пранікнёны позірк, быццам бы нехта свідраваў спіну. Азірнулася і ўбачыла незнаёмага хлопца: здаравеннага, высачэннага, які таксама заўважыў яе позірк і... апусціў вочы долу. «Засаромеўся, — падумала прыгажуня, — а ён прыгожы і такі дужы. Стаіць, як гара, не раўнуючы».

Яшчэ праз пару хвілін яна ўжо ведала, што гэта каваль з суседняй вёсачкі, якая хавалася недзе за далёкім лесам, і Марыська там ніколі не была.

Паспявалі, пасмяяліся дзяўчаты і пачалі па хатах разыходзіцца, бо назаўтра трэба было рана ўставаць ды працаваць ісці. Марыська развіталася і пайшла, як звычайна, адна, бо за ёй хлопцы без дазволу хадзіць не адважваліся. Дзяўчына ганарлівая была і такому павадыру хутка адваротны паварот давала. Не паспее той рот адкрыць, а прыгажуня ўжо накідае яму такіх словаў, што ён і сам не рады, што ўвязаўся за той, якая яму не па зубах.

Вось ідзе Марыська і чуе за сабой крокі. Павярнулася і хацела ўжо ўскінуцца, але заўважыла каваля, які таксама разгублена спыніўся.

Стаялі і маўчалі абое. Першай знайшлася дзяўчына:

— Што, так і будзем стаяць? Можа, пайшлі...

— Ага, — толькі і адказаў хлопец.

Марыська ішла наперадзе, а ззаду — каваль. Ёй было неяк незвычайна лёгка і спакойна, бо за сабой адчувала сілу. Падышлі да хаціны, Марыська і кажа:

— Ну, вось мы і прыйшлі. Я тут жыву з дзедкам.

— А я ведаю, — выдавіў з сябе хлопец.

— Адкуль?

— Ды я цішком назіраў за табой і раней.

— Вось як...

— Пастой яшчэ крыху.

— Добра.

З таго самага вечара каваль і дзяўчына сталі сустра-

кацца кожны дзень. Усё ў іх добра ішло, і стары гаспадар, які ад людзей пра гэта пачуў, нічога супраць не меў. Усё і было б добра, каб, можа, Марыська праўду з самага пачатку ведала. Але каваль, відаць, пабаяўся ёй адразу сказаць, каб яна яго ад сябе не адагнала. Справа ў тым, што яшчэ ў дзяцінстве злая ведзьма зачаравала хлапчука ў ваўкалака за тое, што ягоныя бацькі нейкага лешака злавілі, калі ён іхнюю жывёлу псаваў, і бязлітасна забілі. Дык яна вырашыла такім чынам адпомсціць. На некаторы час хлопец станавіўся звычайным чалавекам, каваў, дапамагаў людзям, а потым нечакана знікаў. З'яўляўся гэтаксама нечакана. Усе ўжо думаюць, што недзе згінуў, а ён раз — да хаціны прыйдзе. Гаварылі, што ў хуткім часе ведзьма павінна была зняць свае чары, ды тут хлопец закахаўся.

Ведама ж, пра гэта і ведзьма даведалася і вырашыла шчасце парушыць, не даць ім жыць сумесна, гадаваць дзяцей ды радавацца. Доўга думала, як зрабіць, каб дзяўчына не здагадалася і каваль ёй не падказаў. Нарэшце дадумалася. Выбрала для сваёй зладзейскай справы не абы-якую ноч, а купальскую, калі ўсе нейкіх цудаў чакаюць і хоць і палохаюцца, але спачатку на нейкія там пераўтварэнні асаблівай увагі не звяртаюць.

Закаханыя дамовіліся ў той вечар спаткацца на горцы, дзе моладзь звычайна паліла вогнішча, спявала песні, а потым, калі настаў золак, пускала па вадзе вянкі, і дзяўчаты нібыта даведваліся пра далейшы лёс.

Як дамовіліся — так і зрабілі.

Дачакалася Марыська вечара і, сказаўшы дзедку, куды пойдзе, пакіравала на горку. Каваль таксама са сваёй вёскі туды ішоў.

Ідзе Марыська і чуе ласкавы голас:

— Дапамажы, прыгажуня! Дапамажы, а то сама не выцягнуся!

Азірнулася дзяўчына і ўбачыла, што да яе цягне гольку гнуткая бярэзінка. Не падумала яна і ўхапілася рукою. Але толькі дакранулася да лістоты, як адчула, што нейкая таямнічая, магутная сіла пацягнула яе ўгару.

— Што гэта? Што гэта такое? Адпусціце мяне, адпусціце! — зразумеўшы, што трапіла ў бяду, закрычала Марыська.

Але на яе крыкі аб дапамозе заверашчалі на ўсялякія галасы нябачныя раней ведзьмакі, чэрці ды іншыя агідныя стварэнні:

— Наша цяпер будзеш! Наша! Ніхто цябе з нашых рук не вырве! Няма такога чалавека, каб нас перамог!

Заплакала прыгажуня, што гэтак лёгка ў пастку трапіла.

У гэты час каваль ужо амаль да горкі падыходзіў. Ішоў па тых жа слядах, што і дзяўчына крыху раней крочыла. Ціха навокал было, радасна ў хлопца на сэрцы, што Марыську напаткае, і раптам чуе... яе голас. Яна клікала на дапамогу. Прыпусціў каваль бегчы і амаль паспеў. Падляцеў у той момант, калі Марыська яшчэ жывая была і нешта спрабавала сказаць. Але толькі нахіліўся да яе хлопец, варухнуліся вусны разоў колькі і закрыліся назаўсёды вочы.

Не змог хлопец дараваць сабе, што не папярэдзіў своечасова, не дапамог. Павесіўся на магутным дубе.

Там, дзе дзяўчыну ведзьма са свету зжыла, — крыніца забіла, а дзе той дуб здаравенны стаяў — камень вялізны лёг.

Прыйшоў на магілкі стары дзедка і заплакаў-загаласіў:

— Эх, крыніца-камяніца, што ж ты нарабіла... Няхай бы лепей па белым свеце ты мяне не насіла...

Так назва тая і засталася — Камяніца. І крыніца яшчэ доўга там была.

## РАДНІКІ

Тут з воўкам справа звязана. Такая дзіўная гісторыя атрымалася, што і паверыць цяжка, але ж людзі распавядаюць, сцвярджаюць, што даўней такое запроста магло здарыцца, бо жыццё ішло па-іншаму: звяр'я ўсялякага значна болей было, лясы навокал непралазныя стаялі, птаства сваімі крыламі неба засціла, рыбы ў рэках ды азёрах было гэтулькі, што вадзе плыць перашкаджала. Таму і ўявіць нам такое цяжка, не тое што паверыць у праўдзівасць гэтага падання. Аднак менавіта адтуль пайшла назва нашай вёскі. Гэта можна сцвярджаць адназначна.

Жылі-былі муж з жонкай, і было ў іх тры дачкі. Не такія ўжо дарослыя, каб замуж аддаваць, але не надта доўга да таго часу і заставалася. Шкадаваў бацька, што ніводнага сына не меў, але маці, нібы нейкую віну загладжваючы, пастаянна казала:

— Знайшоў чаго журыцца. Пройдзе год-другі, замуж нашы дочкі павыходзяць, зяцёў у хату прывядуць, тут і

сыны табе будуць. Потым — унукі пойдуць, зноў жа — і хлопчыкі з'явяцца...

— Зяці — гэта зусім іншая справа, гэта зусім не тое, што свой сын, родны. Было б мне з кім зараз параіцца, з кім надзеі свае звязваць, а так...

— То са мной райся, гавары, што ў цябе не атрымліваецца, удваіх думаць будзем.

— Удваіх-то ўдваіх, але з мужыком усё роўна лепей...

— Табе не дагодзіш, — злавала жонка і адыходзіла займацца якой-небудзь справай.

Вядома, што гэта не бяда, калі хата поўная дзяцей і яны ўсе ўжо дапамагаюць па гаспадарцы. Гэта гаспадар яшчэ пра лепшае марыў. Сапраўдная бяда ў іх крыху пазней надарылася. І вось што тады адбылося.

Аднаго разу маці звярнулася да старэйшай дачкі:

— Схадзі, Настка, прынясі вады вядзерца, бо ў мяне часу зараз нестае.

Тая ўсхапілася і пайшла да крыніцы, што была ў нейкай сотні крокаў ад іхняй хаціны, яшчэ і бацьку па дарозе ўсміхнулася, той якраз у двары нешта рабіў.

Чакае маці ў хаце, чакае, а дачкі ўсё няма і няма, а ёй жа цеста трэба вадой крыху развесці, няма калі чакаць. Выглянула на падворак і гаворыць:

— Крыкні, мужу, каб Настка бегла хутчэй.

Той крыкнуў, але ніхто не адгукнуўся і ніхто не з'явіўся. Пайшлі яны да крыніцы — там нікога няма, толькі вядзерца валяецца. Усё навокал аблазілі, але нідзе дачкі не было. Потым селянін заўважыў воўчыя сляды:

— Прапала, жонка, наша дачка. Гэтыя крывасмокі яе жывой не выпусцяць...

Як яны тады гаравалі, як яны тады ўбіваліся, але жыццё цячэ і з сабой усё забірае. Сцішыўся крыху боль па Настцы. Зноў усё закруцілася-паплыло ў віры будняў.

Пасвілі яны неяк каровы. Сама гаспадыня пасвіла. А якраз дожджык ішоў увесь дзень, дык сярэдняя дачка Марыська і гаворыць татку:

— Збегаю я матулю падмяню. Яна навылёт там прамокла, яшчэ захварэе...

— Я сам збіраюся ісці, дачушка, — кажа бацька.

— Вы лепей дома што-небудзь зробіце, а я за каровамі пагляджу — гэта не надта цяжкая справа.

З неахвотай пагадзіўся гаспадар. Нешта нібы стрымлівала, казытала з сярэдзіны, каб не адпускаў дачку, але тая напрасілася.

— Добра, ідзі, а праз колькі часу я сам прыйду табе дапамагаць, каб весялей і не так маркотна было.

Сабралася Марыська і пабегла да матулі, якая не так і далёка жывёлу пасвіла.

Прыйшла гаспадыня дамоў, уся мокрая, хоць ты яе выкручвай, і гамоніць:

— Добра, што ў нас дзяўчаткі такія працавітыя ды непаседлівыя. Іншую кіем бы ў такі дождж на вуліцу не выгнаў, а гэтая сама прыбегла...

— Не хацеў я яе адпускаць, сам збіраўся, але ж як прыліпла — нельга было адмовіць, — адказаў муж. — Крыху дома пабуду і пабягу да яе, не хочацца адну Марыську ў полі кідаць.

Так яны пагаманілі паміж сабою, жанчына пераапранулася, прылегла на печы, каб сагрэцца, а муж нешта рабіў у хаце. Тут падалося яму, што каровы недзе зусім блізка мукаюць. Ускінуў галаву, думае — падалося, а потым усё ж вырашыў праверыць. І што ж вы думаеце? Аказалася, што гэта іхнія каровы, але Марыські з імі не было. Уляцеў тады чалавек у хату і крычыць ва ўвесь голас:

— Жонка! Каровы самі дамоў прыйшлі, а Марыські з імі няма, баюся, каб чаго там ліхога не здарылася!

Тая ўстрывожана заплакала:

— А Божачка, каб жа я такое ведала, ці пайшла б дамоў...

— Кінь дурное, можа, недзе дачушка заблудзілася.

— Ты як скажаш, дык хоць стой, а хоць падай. Дзе ж гэта яна можа заблудзіцца ў чыстым полі?

Пабеглі шукаць Марыську. Прыбеглі туды, дзе яна павінна была пасвіць, і пачалі крычаць. Але на іхнія воклічы ніхто не адзываўся. Бегалі па кустоўі, да лесу самага падыходзілі, на луг выджгалі, ды ўсё дарма. Супыніліся і не ведаюць, што далей рабіць. Раптам жонка ўскрыкнула:

— Глядзі, чалавеча, а гэта што?

— Дзе?

— Вунь, на куп'і чарнее...

Ляцелі да таго куп'істага балота, нібы на крылах. Гэта аказалася Марысьчына хустка, але самой яе не было. Загаласіла-завыла дзіка гаспадыня:

— Дачушка мая родненькая! Што ж з табой здарылася? Адгукніся, міленькая, можа, ты недзе яшчэ жывая!.. Можа, ляжыш, крывёю сплываючы!..

Як ні галасіла маці, як ні крычаў бацька — ніхто не адгукнуўся, толькі панура насоўваліся змрочныя тума-

ны-здані. Падтрымліваючы адзін аднаго, паціснулі яны дахаты.

Засталася ў іх пасля таго страшнага вечара толькі адна дачка — Тэкля.

Бацькі яе папярэджвалі, каб нікуды без іх не хадзіла, нават на падворку азіралася ды пільнавалася, бо вось якое гора на іхнюю сям'ю абрынулася.

Ссівелі абое, праца пачала з рук валіцца. Суседзі сталі ім ва ўсім дапамагаць, сачыць за бедалагамі, баяліся, каб рукі ненарокам на сябе не наклалі, бо такая бяда любога з каляіны выбіць можа.

Такая жытка ўжо не ў радасць абодвум была. Добра, што яшчэ малодшая дачка заставалася, а то ўвогуле хоць ты воўкам вый ды на пустыя сцены кідайся.

Прайшоў месяц, ужо позняя восень на дварэ стаяла. Прыехалі да іх госці: сястра родная да гаспадыні наведацца завітала. Даведалася пра гора, дык не ўтрывалася і, кінуўшы ўсё, на пару дзён з мужам адарвалася.

Вось ужо дзе енку было, вось ужо дзе плакалі, на сабе валасы ірвучы. Жанчыны, спачуваючы адна адной, так галасілі, што мужчыны не маглі высядзець і ціхенька выходзілі за дзверы.

Тэкля глядзела за сваёй дваюраднай сястрычкай, якую таксама прывезлі, бо дома яе не было на каго пакінуць. Відаць, дзецям надакучылі плач і стогн і яны вырашылі крыху далей адысці ад сядзібы, каб там заняцца сваімі справамі. Дарослыя спачатку і не звярнулі на гэта ніякай увагі. Можа б,і не ведалі, як раптам гаспадар узняў галаву:

— Крычыць нехта! Слухайце!

Здалёку даносілася:

— Тата! Тата! Дапамажы, тата!

Кінуліся ўсе на крык і ўбачылі, як здаравенны воўк ускінуў сабе на спіну малую дзяўчынку і валачэ яе да лесу. Пабеглі мужчыны з каламі за ім, а жанчыны гвалт узнялі ды суседзяў-аднавяскоўцаў на дапамогу паклікалі.

Пабеглі па слядах у лес, бо яшчэ добра відно было. І што ж вы думаеце? Знайшлі бярлог ваўчыны і там костачкі шматлікія. А гэтую дзяўчынку, дваюрадную сястрычку Тэклі, адратавалі. Пасля таго здарэння яна яшчэ доўга заікалася. Потым пра яе сталі гаварыць, што яна воўчы раднік, парадкілася з тымі звярамі і цяпер яны ёй не страшныя. Калі яна замуж выйшла, то ўсё роўна мянушка засталася, і тое месца, дзе яна з мужам жыць стала, Раднікамі назвалі.



# ВОРАНАВА

У тутэйшых лясах у вельмі даўнія часы жыў адзін славуты разбойнік. Ніхто яго па імені не зваў, і сябры, і ворагі клікалі аднолькава — Воранаў. А чаму так, а не інакш, таксама цяжка адказаць адназначна, бо адны гавораць, што валасы ў яго былі чорныя да сінявы, нібы тое воранава крыло, ■ другія адзначаюць, што як ворагі яго перад сабою бачылі, то ім здавалася, што на іх ускінуўся вялізны, здаравенны воран, які не ведае літасці да благіх людзей, не дае ім нідзе спакою. Некаторыя згадваюць, што ім гаварылі ў свой час, быццам бы той разбойнік быў звычайным селянінам, адзінае чым ад вяскоўцаў адрозніваўся — гэта сілай незвычайнай і кемлівасцю. Не паспее нехта падумаць, а ў яго ўжо зроблена. Зайздросцілі гэтаму, асабліва тыя, хто прывык, каб на іх бяднейшыя, спін уласных не разгінаючы, працавалі, іхні дабрабыт паляпшалі. У адкрытую выступіць супраць Воранава не асмельваліся, бо сілы ў яго на дзесяцёх хапала ды яшчэ і засталося б, ■ вось з-за вугла часта нападалі ды ўсялякую шкоду чынілі.

Хлопец гэты жыў з бацькамі. Адзін ён у іх быў, таму і не рваўся надта нікуды, бо трэба ж было некаму старых

даглядзець. У народзе заўсёды так вялося, што толькі той лічыўся сапраўдным чалавекам, хто да бацькоў сваіх добра адносіўся да самага іх апошняга дыхання.

Маці асабліва даймала сына:

— Што ж гэта ты ўсё адзін ды адзін, родненькі? Усе твае аднагодкі ўжо дзяцей гадуюць, а ты, мабыць, дзяўчат баішся, што да іх не падыходзіш?

— Гэта не я, матуля, іх баюся, а яны мяне.

— Глядзі, я табе з усёй сур'ёзнасцю гавару: пройдзе час, потым цябе і пад прымусам не ажэніш.

— Навошта пад прымусам, я неяк і сам здагадаюся, — пасміхваючыся, пераводзіў усё на жарты Воранаў.

— Я, сынку, тваіх унукаў паглядзела б, і спакойней паміраць было б. А так... На каго мы цябе са старым пакінем, калі на той свет пойдзем?

— Пажывіце яшчэ, матуля, пажывіце, няма чаго на неба спяшацца, туды чарга сёння вялікая.

— Я яму сур'ёзна, а ён... — крыўдавала маці і адварочвалася ад здаравякі-сына, які, калі ўставаў і выпростваў спіну ды плечы, здавалася, зараз галавою падыме страху.

Бацька не чапаў Воранава. Ведаў, што адзін жыць не будзе, некага ды знойдзе сабе, таму з усмешкай слухаў, як маці «спавядала» свайго адзінага.

— Годзе ўжо, годзе, старая, спакою яму не даеш. Таму ён дзяўчат і баіцца, што грызці гэтак во будзе каторая ...

Неўзабаве спраўдзіліся бацькавы спадзяванні. Воранаў пакахаў дзяўчыну. Бацькі добра яе ведалі, працавітая такая, спакойная. З твару надзвычай прыгожая, што ні скажы — зробіць, што ні папрасі — выканае. А што яшчэ можна для жонкі пажадаць? Маці дык ажно памаладзела — гэтак радавалася, бацька з суседзямі часта гаманіў адносна хуткага вяселля.

Усё было ўжо дагаворана, нарыхтавана, збіраліся гасцей запрашаць. І тут ліха прыключылася. Восеньскай ноччу ўспыхнулі будыніны Воранавых бацькоў яркім полымем, і як ні стараліся іх патушыць — адны толькі галавешкі паразграбалі. Якое тут вяселле, калі Воранаў ледзьве паспеў бацькоў з полымя на вуліцу павыносіць, бо ў тых са страху ды ад перажыванняў ногі адняліся. Хіба ж будзеш людзей склікаць, калі частаваць няма чым. Так разважаў сын, гэткай жа думкі прытрымліваліся і ягоныя старыя. Але прыйшла Ульяна (так звалі дзяўчыну) і гаворыць:

— Ведаеце што, родныя, нельга вяселле нам адмяняць, так мае ўсе сказалі. Што самі зробім, што іншыя дапамогуць. А калі не згуляем, то дрэнна потым справа можа скончыцца...

— Але ж у нас, дочачка, зараз нічога не засталося. Увесь наш нажытак дымам за адну ноч пайшоў. Сорамна перад людзьмі. Што яны падумаюць? — прамовіла матуля.

— А хіба ваша віна ў тым, што здарылася? Хіба гэта вы спецыяльна зрабілі, каб вяселле сарваць? — не адступала ад свайго дзяўчына.

І што ж вы думаеце? Настаяла на сваім, пагадзіліся Воранавы бацькі не адкладваць вяселле. Вось якая яна, Ульяна, была. Але хто ж мог сказаць, што гэта быў толькі пачатак бяды, самае страшнае чакала наперадзе. Ніхто гэтага не ведаў, бо не здольны людзі зазірнуць наперад. Хоць ёсць некаторыя, але яны ў пераважнай большасці выступаюць супраць сумленных працаўнікоў. Так і ў гэтым выпадку здарылася. Ды пра ўсё па парадку слухайце.

Вяселле спраўлялі ў хаціне Улляніных бацькоў, але калі прыспеў час забіраць дзяўчыну да сябе, Воранаў усё зрабіў па традыцыі. Сябрукі вясельны поезд даўжэзны сабралі, дзяўчаты, сяброўкі Улляны, яго ўпрыгожылі. Паселі ўсе ў вазкі, зайгралі музыкі вясельны марш, матуля перахрысціла ўсіх абразом і падала яго дачцэ. Паімчалі, нібы віхуры зімовыя, коні. Музыкі сваё ведаюць — іграюць, вясёлыя госці спяваюць, расчырванелая Улляна прыціскаецца шчыльней да магутных плячэй Воранава. Эх, як хораша і радасна! Ужо з добрую вярсту праехалі, у хуткім часе і поле павінны былі мінуць. Пярэдні вазок параўняўся са старой бярозай, што звісала на самую дарогу, і коні раптоўна спыніліся. За імі сталі астатнія вазкі. Ніхто не мог зразумець, што там здарылася. Некаторыя пачалі жартаваць:

— Нехта, мабыць, мяса недаваранага пад'еў...

— Не, піва многа выпіў, дык не паспеў адбегчы...

— А можа, выпаў хто ды не заўважылі...

— Калі з пярэдняга вазка, то хіба што сам Воранаў, але такога мядзведзя мы б убачылі і пасярод поля, не тое што на дарозе...

Смяяліся б і далей, але пачуўся адчайны крык:

— Ой, Божачка! Ратуйце, людцы добрыя!!! Дапамажыце!!!

— Што там? — захваляваліся ўсе і падаліся наперад.
— Глядзіце, глядзіце, — паказаў нехта пальцам. Калі перавялі позіркі туды, то ўбачылі, як ад пярэдніх вазкоў імкліва аддаляецца гайня ваўкоў. Наперадзе беглі два звяры. Адзін вельмі вялікі, другі — меншы, за імі джгалі яшчэ дзесяць.
— Што тут? — дапытваўся п'янаваты вясковец. — Што здарылася? Адкажа хто ці не?
— Ты што, ёлупень, не бачыш? Веселле ваўкалакамі стала! Нейкі чараўнік падрабіў! Бачыш, Воранаў з Улянкай уцякаюць, а за імі дружкі бягуць...
— Вось ты ліха. Вось што здарылася.
Неўзабаве нехта з мужчын закрычаў:
— Сюды, сюды бяжыце! Паглядзіце, што я знайшоў!
Пазбіраліся ўсе, зірнулі, а непадалёку ад пярэдняга вазка, упоперак, ляжыць стары-стары паясок.
— Не кранайце яго рукамі, людцы, не кранайце, бо таксама ваўкалакамі станеце. Гэта закляты паясок, яго чараўнік спецыяльна пакінуў тут, каб з Воранавым разлічыцца. Хто гэта зрабіў — цяжка сказаць, але некаму карцела сапсаваць жыццё маладым.
Сумна завяршалася тое вяселле. Плач, енк разносіўся па навакольных вёсках, адкуль былі запрошаны госці і якія таксама зараз бегалі недзе па непралазных лясах разам з жаніхом і маладой.
Не дачакаліся Воранава ў той дзень бацькі на абгарэлым падворку. Дарма сляпілі старыя вочы, узіраючыся ў далячынь ды дапытваючыся адзін у аднаго:
— Чаму іх яшчэ няма? Можа нешта здарылася?
Але самі сябе і супакойвалі:
— Можа, крыху затрымаліся, дык зараз будуць...
Чакалі да самага вечара, і толькі на змярканні прыбег да іх нехта з Уллянчыных родных, каб паведаміць страшную навіну.
Тады сонца перастала свяціць для старых, ні дня, ні ночы не сталі заўважаць. Матуля плакала, а бацька як злёг, дык болей і не ўстаў. Пакірхаў з тыдзень і сканаў, пакінуў жонку адну. Але і тая адышла, можа, праз які месяц. Чужыя людзі ўсё дагледзелі. Калі засыпалі магілу і сталі моўчкі, то нехта спалохана зашаптаў:
— Зірніце за тое кустоўе... Зірніце толькі... Асцярожна, каб не спужаць...
Сяляне прыгледзеліся, і што,вы думаеце, яны там заўважылі? Правільна. Два ваўкі стаялі зусім недалёка і моўчкі за ўсім назіралі.

— Воранаў, Воранаў з жонкай прыйшоў з маці развітацца... Толькі нічога не рабіце благога. Яму і без яе смерці хапала, а тут яшчэ гэткае гора здарылася... Сапраўды, людцы, гора якое...

Пабедавалі сяляне, пастаялі хвіліну-другую і пайшлі ў вёску, а ўслед ім панёсся страшны ваўчыны рык-выццё. Жудасна было слухаць, бо да самай раніцы па-свойму галасіў сын з нявесткай над магіламі бацькоў. Жагналіся вяскоўцы, але ніхто не сказаў на іх благога слова. Наадварот, усе думалі, хто мог учыніць такое зладзейства, ператварыць маладых, здаровых людзей у ваўкоў.

Адразу пасля гэтага выпадку з лесу вярнуліся дружкі, з іх спала воўчая шкура. Засталіся там толькі Воранаў з Уллянай, чары на іх дзейнічалі па-ранейшаму. Панеслася чутка паміж сялян, што пакляўся Воранаў знайсці чараўніка і бязлітасна яму адпомсціць.

— Воранаў, калі сказаў, то абавязкова да свайго дойдзе, так не пакіне. Хавацца трэба чараўніку. Цяпер для ваўкалака ён ужо не страшны, а вось пярэварацень зробіць з ім, што ўздумае.

Пагаварылі ў вёсках ды забыліся пра гэта, бо ці ж мала навін з кожным днём дабаўляецца. Але чараўніка навіна ўзрушыла. З дня здарэння ўжо добры год прайшоў. Ён прыціх і нічога дрэннага не рабіў, вітаўся з суседзямі, зычыў ім здароўя і дабрабыту, чаго раней не рабіў, бо гэта падрывала яго чарадзейныя сілы.

Вяскоўцы даўней заўважалі за ім дзіўнае, але і падумаць нават не маглі, каб селянін селяніну такое мог зрабіць. Іншая справа — залом на полі пакінуць ці хваробу на жывёлу наслаць, але такое... Тым болей, што да таго чараўніка часам, за плату, звярталіся за дапамогай, і ён у некаторых выпадках з радасцю дапамагаў. З-за такіх разважанняў і думкі ў людзей падзяліліся. Адны казалі:

— Гэты злыдзень усё падрабіў. Болей няма каму. Толькі ён.

Другія горача пераконвалі:

— Не, тут нехта чужы прыклаў намаганні. Прыгадайце, як дапамог сусед мне, калі ў мяне жывёла хварэла...

— І мне дапамог. Калі я залом сам баяўся вырваць, то ён з задавальненнем гэта зрабіў. Не, тут нехта іншы чары падмяшаў...

Таму і не прынялі ніякіх мер супраць уяўнага чараўніка, пагаманілі і сціхлі. Жыццё пайшло сваім парадкам.

А злому вяскоўцу толькі гэта і трэба было. Пачаў ён разважаць, як увогуле звесці са свету Воранава з Уллянкай. Ведаў жа, чым можна пярэваратняў забіваць. Пазней ужо высветлілася, ўсё было гатова ў нядобразычліўца, проста ён падыходзячы момант падбіраў. Дзед ягоны таксама займаўся чараўніцтвам, таму ўнуку свайму усё да драбніц перадаў. Нават стрэльба старая, вяровачкай перавязаная, за печчу вісела. Даўно не браў яе ў рукі Нічыпар (так яго звалі), адно толькі пазіраў з надзеяй, што ў патрэбны момант не падвядзе, выручыць.

У той вечар Нічыпар не знаходзіў сабе месца. Ніяк не мог дачакацца, калі патухне святло ў суседскіх хатах, карцела яму заняцца нечым сваім, неадкладным. Бурчэў незадаволена:

— Калі ўжо яны палягуць? Працы ў іх, ці што, зараз многа? Лазяць, лазяць... Спакою ад іх няма. Святло ўсё гарыць. Ага, вось ужо патухае...

Неўзабаве ўсталявалася незвычайная цішыня, толькі дзе-нідзе загаўкае сабака ці трэсне ад марозу дрэва. Нічыпар кінуўся ў куфэрак і пачаў пераварочваць прычындалле, якое там ляжала.

— Дзе ж гэта яно запала? Дзе ж гэта яно? Ага, знайшоў, знайшоў, цяпер і праца спорыцца пачне...

З куфэрка Нічыпар выцягнуў кавалачак срэбра, які ляжаў там ужо невядома колькі часу, можа, яшчэ ад ягонага нябожчыка-дзеда. Запаліў на прыпечку агеньчык і пачаў прыладжваць там нейкія чарапкі, каб рабіць у іх сваю зладзейскую справу. Настрой у чараўніка быў выдатны: ён пляскаў рукамі, прытупваў нагамі, прысвістваў. Потым усклікнуў:

— Вось і гатова, мая даражэнькая... Вось і атрымалася...

Выхапіў з чарапка нешта гарачае і пачаў перакідваць яго з рукі ў руку.

— Гатова, гатова, цяпер ты ў мяне нікуды не ўцячэш... Цяпер смерці не пазбегнеш...

У руках яго засвяцілася... срэбраная куля.

Зіма ўжо канчалася. Днямі добра прыпякала, а начамі яшчэ патрэскваў мароз. Але людзі ўжо былі перакананы, што праз нейкі тыдзень-другі запануе вясна.

Ваўкі ляжалі ў логаве. Ваўчыца лянотна раскінула ногі і пазірала, як пераскокваюць з голькі на гольку вераб'і, а воўк панура глядзеў некуды ўдалячынь. Ніхто з

людзей і не падумаў бы, што ваўкі гэтак блізка знаходзяцца ля жылля людзей. Але звяры на гэта менавіта і спадзяваліся, што шукаць іх будуць у непралазных мясцінах, а не ў сябе пад бокам. Учора яны ўсю ноч лазілі па наваколлі, наведаліся на могілкі, прабеглі па вясковай вуліцы, палохаючы ды заганяючы ў будкі ці ў якія дзіркі сабак. Вось пасля гэтага нечага і засумаваў воўк. Нешта яму запала ў памяць.

Вылезлі яны з логава, калі сонца ўжо хілілася за лес. Хацелі звяры крыху пабегаць, размяцца пасля працяглага сну ў сваіх патаемных мясцінах, дзе ніхто не сустракаўся. Скіравалі туды і на гэты раз. Падбеглі да канаўкі, праз якую было перакінута старое дрэва, і збіраліся ўжо пераходзіць на супрацьлеглы бераг. Першай ускочыла ваўчыца. Лёгка, нібы не датыкаючыся лапамі, пакрочыла па бервяне. Воўк назіраў. Калі ён сам ужо ступіў на дрэва, з супрацьлеглага берага грымнуў гучны стрэл і ваўчыцу нібы нехта падкінуў у паветра, а потым гопнуў у ваду. Звяры не чакалі такога павароту справы, таму смерць сяброўкі была для ваўка такой неверагоднай, што спачатку ён нават не паверыў у яе смерць. Кінуўся ўбок, а потым, прыхаваўшыся за кустоўем, вярнуўся назад. Воўк не збіраўся ўцякаць, без ваўчыцы яму не было жыцця. Тое, што ён убачыў, яго ўзрушыла: з засады выйшаў задаволены чалавек і, падыходзячы да мёртвай ваўчыцы, радасна загаманіў:

— Што, Воранаў, адбегаўся? Цяпер мяне нішто не будзе па начах палохаць. Канец табе прыйшоў. Канец. Чуеш?..

Глянуўшы ў ваду, стралок, мабыць, зразумеў, што перад ім не воўк, а ваўчыца, і адразу перамяніўся ў твары. Спалохаўся, злыдзень. Паджгаў дамоў так, што ажно лаўжы затрашчалі ды сарокі-белабокі ўзнялі страшэнны глум.

На наступны дзень навіна скалыхнула навакольныя вёскі — на могілках, ля магілак бацькоў Воранава, ляжыць жанчына. Нежывая. Дзіўная нейкая. Апранута ў парваную, святочную вопратку, якая некалі была белай, на правай руцэ — пярсцёначак. Па ім і пазналі ссівелую жанчыну — гэта была Улляна.

— Забіў, небараку, нехта. Куля прама ў сэрца папала... Воранаў, відаць, яе сюды прыцягнуў, а сам недзе паблізу круціцца...

Пахавалі Улляну побач з бацькамі Воранава і зноў разышліся.

Воранаў далёка не адбягаўся. Цяпер ён дакладна ведаў, хто яго вораг, і чакаў. Цярпліва сядзеў у засадзе і чакаў, калі Нічыпар страціць пільнасць і вылезе са сваёй хаціны. Але і той асцерагаўся, адчуваў, што смерць падсцерагае яго. І ўсё ж Воранаў дачакаўся свайго часу. Нічыпар, заўважыўшы, што па вуліцы ходзяць людзі, вылез і сам на падворак. Чакаў, што адразу на яго кінецца воўк, але гэтага не здарылася. Таму ён пакіраваў да хлява. Калі адчыняў дзверы, пачуў, што ззаду нешта трэснула, павярнуўся і... сустрэўся з поглядам пярэваратня, а гэтага ні ў якім разе нельга было рабіць, бо такі погляд раз'юшвае ваўкалака. Кінуўся воўк на Нічыпара, закрычаў той, але, ці то ніхто не чуў, ці то пабаяліся, а можа, проста не пажадалі прыйсці на дапамогу. Як задавіў чараўніка ваўкалак, то адразу ж стаў чалавекам. Атрос з сябе Воранаў воўчую поўсць і, пакруціўшыся на месцы, паволі падаўся да лесу. З таго самага часу ён стаў там пастаянна жыць.

Не адзін раз палохалі бедныя багатых:

— Пачакайце, пачакайце, прыйдзе да вас Воранаў!

Справядліва сябе паводзіў, нікога крыўдзіць не даваў, чым мог дапамагаў, і людзі заўсёды толькі добрым словам згадвалі свайго заступніка:

— Каб ты доўга жыў, Воранаў, каб не толькі нам, але і іншым палёгку прыносіў...

Калі надышоў час паміраць славутаму разбойніку, то ён прыйшоў на тыя самыя магілкі, дзе былі ягоныя бацькі пахаваны, дзе зямля прыняла Ульяну. Лёг на траву і сканаў. Там яго і пахавалі, а месца тое назвалі Воранаў Груд. З цягам гадоў бліжэйшае паселішча назвалі проста — Воранава. Нядаўна зусім старыя людзі паказвалі і той груд, а зараз ужо забыліся.

## РАДУНЬ

Жыў у нас адзін дужа заможны гаспадар. Хто яго знае, адкуль багацця столькі меў. Ці то бацькі перадалі, бо быў ён у іх адзіны сын, ці то сам неяк прыладзіўся гэтак разжыцца, але факт застаецца фактам — грошай многа меў. Мала гэтага, усялякіх будынкаў панастаўляў — на дзесяць сем'яў хапіла б, якія сваю гаспадарку на сярэднюю руку вялі. Але ўсё мала было Антосю — так, здаецца, звалі чалавека. Нельга сказаць, каб надта сквапны

быў. Не. Папросіць хто мех-другі збожжа да будучага ўраджаю ці яшчэ што — дасць ды яшчэ і накажа аддаць тады, калі яго будзе дастаткова, каб потым зноў не пазычаць. Вяскоўцы зайздросцілі яму, бо рэдка ў каго так атрымлівалася. Некаторыя нават разважалі, што Антосю шанцуе нібыта з-за таго, што ён нічога не шкадуе: аддасць адзін залаты — прыбудзе два ці тры. Вось табе і маеш.

Жыў побач з Антосем сусед, Фёдар. Таксама багаты чалавек, але не такі, як Антось. Дык вось ён удумаў давесці свайго суседа да галечы. Што ж ты скажаш, калі чалавеку такія думкі ў галаву лезуць. Не сядзіцца яму, не спіцца, адно турбуе — зрабіць так, каб нехта пакутаваў, стагнаў ад болю.

Антось быў ужо чалавек сталы, а жонку меў амаль удвая маладзейшую за сябе, прыгожую, працавітую. Ганэткай яе звалі. І надта ж яна любіла языком пачасаць. Як распачне балбатаць, то ад самае раніцы да вечара, здаецца, не сціхала б. У народзе праўду гавораць: брахаць — не цэпам махаць. Антось, калі заспяваў яе за гэткім «заняткам», пакрыкваў:

— Ганэтка! Чаго стаіш? Хіба працы ў хаце не хапае? Давай дамоў!

Паважала жонка свайго мужа, але ж і баялася, бо быў ён як крэмень, што сказаў — тое і зробіць.

Вось Фёдар і вырашыў праз жанчыну сваю чорную задуму правесці. Меркаваў, разважаў і нарэшце пачаў дзейнічаць.

Зайшоў неяк да Антося нібыта па неадкладнай справе, а сам усё па баках зырыць. Гаспадар гэта заўважыў, але выгляду не падаў.

— Здароў, здароў, суседзе, заходзь, сядай за стол, я зараз штонебудзь пастаўлю, пасядзім-пагамонім. А то па суседству жывём, а ў гасцях амаль і не бываем.

— Ды я па справе прыйшоў, але калі запрашаеш, то адмаўляцца не буду, давай па чарцы вып'ем, а там і пагамонім...

Антось жа людзей наскрозь бачыў, зараней мог сказаць, хто за чым прыйшоў. Наставіў ён на стол усялякіх прысмакаў, яшчэ стравы носіць і, канешне, Фёдару, які на дармаўшчынку любіў за сталом пасядзець, усё падлівае і падлівае, свой жа кубачак пустым трымае. Нарэшце госць здаволіўся, ужо ледзьве дыхае, тады Антось і кажа:

— Вось што, чалавеча. Прыйшоў ты да мяне з чорнымі думкамі, але на гэты раз я табе дарую. Адно толькі зраблю, каб ты запомніў гэтую сустрэчу.

Ён узяў п'янага за каршэнь, ададраў ад лаўкі, сцягнуў з яго штаны і нажом спаласаваў іх на дробныя кавалачкі. Фёдар пры гэтым ажно заходзіўся з рогату, бо не мог п'яны ўцяміць, што рабілася. Потым Антось вывеў суседа на вуліцу ды пусціў без штаноў дахаты. Той, ведама ж, дамоў адразу не падаўся, а песню зацягнуў, пачаў крычаць, і хвілін праз колькі палова вёскі наглядала за тым, як п'яны Фёдар у вялізнай лужыне пабліскваў сваім здорава-такі запэцканым азадкам на шчырым вясновым сонейку.

— Глядзі ты, — дзівіўся стары дзед, — а Фёдар наш не слаба ўкормлены. Малады, а вунь як уеўся.

— А што яму? Сам жа не працуе. Парабкаў панаймае ды дзярэ з іх тры шкуры.

— Зараз затое папрацуе, бо ніхто яго з лужыны выцягваць не будзе.

Доўга так пацяшаліся сяляне, потым паволі па хатах разышліся, а Фёдар усё «плаваў» у бруднай вадзе, сярод усялякіх трэсак,ануч ды гнілой бульбы, якую накідалі туды гарэзы-дзеці.

Раніцай Фёдару распавялі пра ўчарашнія выбрыкі. У адказ ён ажно зубамі заскрыгатаў, прымаўляючы: «Ну, пачакай! Крывёю за гэта пляваціа будзеш! Адпомшчу!»

Праз пару дзён яны сустрэліся.

— Здароў, суседзе, — кажа Антось. — Чаго гэта ты сёння такі злы? Можа, здарылася што, дык давай, дапамагу...

Фёдар джгануў ад злаcліўца, а ў вушах гучаў яго здзеклівы смех ды нейкія дзіўныя словы: «Перш чым благое зрабіць, чалавеча, трэба са сваім сумленнем параіцца, а калі яго няма, то з добрымі сялянамі парадзіцца».

Неяк Антось па справах далёка паехаў. Гэты момант рашыў выкарыстаць Фёдар і пачаў падкочвацца да яго-най жонкі. Ганэтка не супраць была падгульнуць з маладзейшым, бо ёй здавалася, што занадта сурова з ёю абыходзіўся муж.

— Давай, Ганэтка, вып'ем ды паспяваем з табой, — прапанаваў Фёдар, і маладзіца пагадзілася.

Толькі прыцемкі на вуліцы ўзяліся, а яны ўжо сядзелі ў Фёдаравай хаціне, пілі гарэлку і песні гарлалі. Гаспа-

дар, разгарачаны моцным пітвом ды жаночым целам, зашаптаў:

— То можа застанешся на ноч у мяне? Твайго ж старога не будзе. Лазіць недзе, багацця шукае...

— Так, шукае, — п'яна захіхікала Ганэтка. — Хай сабе шукае, мне яно не трэба.

— Малайчына, малайчына, — лашчыў падатлівую маладзіцу Фёдар. — Ты ідзі, кладзіся ў ложак, а я зараз, толькі зірну, каб на вуліцы нікога чужога не было, і дзверы зачыню...

Фёдар выйшаў на вуліцу, падышоў да брамы і хацеў было высунуць галаву на вуліцу, але нечыя здаравенныя рукі ўхапілі яго за шыю так, што ён не здолеў ні крутнуцца, ні дыхнуць. «Хоць бы не задушыў, нячысцік», — пранеслася ў галаве. Тым часам на галаву насунулі пыльны мяшок, відаць, з-пад даўняй мукі, завязалі і ўскінулі яго на калёсы. Воз тарахцеў па гарбацістай дарозе. Везлі доўга, можа, цэлую гадзіну, потым спыніліся.

— Даставайце, хлопчыкі, майго суседа, пачастуем яго, каб, даруй Божа, не пакрыўдзіўся. Ён жа маю жонку вунь як частаваў!

Фёдар пазнаў голас Антося, заскрыгатаў зубамі з адчаю, ды што зробіш? Тым часам яго выцягнулі з меха, і няўдалы палюбоўнік акрамя мужа Ганэткі ўбачыў дваіх здаравенных работнікаў, якіх Антось трымаў у сябе пастаянна, і яны былі ўжо яму за родных сыноў.

— Ну што, папалохаем крыху камароў ды ваўкоў? Давайце пачнём, а то сумна, мабыць, суседу, чакаць надакучыла...

Не паспеў Фёдар і рот разявіць, як з яго здзерлі вопратку, акрамя споднняй сарочкі, і паклалі на жывот. На ногі і на рукі яму селі работнікі, Антось жа заняўся іншай справай — падышоў да бліжэйшага лазовага куста і стаў рэзаць доўгія, гнуткія дубцы.

— Шкада, што не прасоленыя ды не вымачаныя, — данеслася да Фёдара. Далей ён ужо нічога не чуў — крычаў так, што толькі прывязкі трымалі коней, каб тыя не збеглі.

— Крычы, братка, крычы, можа, розуму набярэшся. Я ж цябе вучыў, што калі благое хочаш зрабіць чалавеку — трэба з сумленнем параіцца, а калі яго нестае — з добрымі людзьмі парадзіцца... Мяне ты рыкам сваім не напалохаеш. Крычы ўволю. На гэты раз я табе добра «надпішу» на азадку, каб тыдзень сесці не мог. Калі галавой

думаць не хочаш — няхай азадак пакутуе, калі сумлення няма — мая адзнака нагадваць пра гэта табе будзе.

Лупцуе Антось ды прымаўляе, а Фёдар не так слухае, як гарлае на ўсё наваколле. Крычаў ён на ўсе галасы: то тонка і працягла, то тоўста і адрывіста, то рохкаў, што той кабан, то заліваўся дзіцячым піскам, а потым перайшоў на хрыплы аднатонны стогн. Біў, біў яго Антось, а потым, калі ўжо Фёдар страціў надзею выбрацца жывым, сказаў:

— Ну, хлопцы, хопіць, злазьце, стаміўся я. Не па маіх гадах такая адказная справа. Каб маладзейшы быў, дык болей даў бы, а так... Прабач, суседзе, не магу болей, сілы нестае.

Пасмейваючыся, работнікі злезлі з Фёдара.

— А што з ім рабіць, гаспадар?

— А нічога, няхай паляжыць, ачуняе крыху, тым болей што ранак ужо займаецца. Мы яго так, у споднім сарочцы, тут і пакінем. Дамоў хай па кустоўі дабіраецца, калі хоча, каб меней хто бачыў.

— Гаспадар, дык у яго ж нейкая сарочка дзіцячая, усё наверсе, — зарагатаў адзін з работнікаў.

— То дай яму сваю, дарослую, — коратка рагатнуў Антось і скочыў на воз. — Паехалі, няма чаго тут з гэтым дурнем заставацца.

Многія ў тую раніцу бачылі дзіўнага чалавека — той лупіў напрасткі да вёскі ў адным споднім, бег неяк дзіўна, растапырваючы ногі...

Пасля гэтага здарэння Фёдар доўга адлежваўся, а калі ачуняў, то задуму сваю дурную не кінуў, і не раз на добрым падпітку ў карчме плакаў, рваў на сабе кашулю і казаў сябрукам:

— Колькі папросіце, столькі і заплачу, толькі дапамажыце з Антосем разабрацца.

— Чаму ж не, дапаможам, — пагаджаліся тыя, асабліва не вагаючыся, бо Фёдар паіў іх за свае грошы. — Дапаможам, дай толькі час...

Заспакоены селянін крычаў карчмару, каб той не шкадаваў гарэлкі для ягоных сяброў.

— Нясі самае лепшае, бо такіх сяброў, як у мяне, ні ў кога няма!

«Ведама ж, няма, — мармытаў карчмар, забіраючы чарговую залатоўку. — І гэтыя цябе адсюль без штаноў выведуць. Але то не мая справа, гуляйце, піце, толькі плаціце».

Антось ведаў, што сусед зноў нешта задумвае супраць яго, таму і сам быў напагатове, і работнікаў сваіх папярэджваў:

— Глядзіце, хлопчыкі, гэтаму злыдню зараз што хочаш у галаву ўлезе: і запаліць нас можа ці яшчэ якую трасцу выдумае. Пільна сачыце за ягоным падворкам і за ім самім.

Жонку Антось таксама папярэдзіў:

— Глядзі, Ганэтка, болей не дарую. Адлупцую лазой, як і суседа, будзеш ведаць, чаму лаза адразу не ламаецца.

— Што ты, што ты, Антоська, няхай мяне Бог крые, калі я з ім хоць слова скажу, не тое што нейкую справу буду мець. Вось табе крыж!

— Крыж пры сабе пакінь, але глядзі, я папярэдзіў, а твая справа прыслухоўвацца ці не...

Антосевы работнікі, хоць і выконвалі гаспадароў загад, не верылі, што сусед пасля такой «навукі» рызыкне зноў палезці. І шкада, бо страцілі пільнасць — і ледзьве жыццём не паплаціліся. А атрымалася вось што.

Пасля апошняга здарэння Фёдар увогуле не вылазіў на вуліцу. Да яго прыходзілі хаўруснікі, пасылалі каго-небудзь у карчму за гарэлкай і пілі, пілі да таго часу, пакуль усе не засыналі мёртвым сном.

І вось аднаго разу Фёдар закамандаваў:

— Ну, досыць піць! Дай вам волю — усю маю гаспадарку спусціце праз карчму. Настаў час адслужваць бясплатную ежу ды піtво.

— Загадвай, зараз усё пераверцем! — падхапіліся найбольш жвавыя.

— Пойдзем зараз, хлопцы, і Антосеў падворак з зямлёю зраўняем! За ўсё яму адпомсцім: за знявагу маю, за кроў і слёзы пралітыя!

Пачуўшы гэткі заклік, хаўруснікі ажно ўзвылі:

— Ды мы яго па кавалачках разнясём! Мы з ягоных будынкаў вогнішча вялізнае раскладзём, каб здалёк відаць было, што чакае таго, хто супраць нас выступае! Пайшлі!

— Чакайце, трэба ж нечым узброіцца!

— Ды мы яго голымі рукамі! — зверашчалі найбольш адчайныя і тыя, хто любіў павыхваляцца.

Асцярожныя і памяркоўныя прыхапілі калы і нават шаблі, нібы на сапраўдную вайну збіраліся, а не суседа караць.

Антосеў работнік, які павінен быў у гэтую ноч вартаваць падворак і сачыць за тым, каб нічога ліхога не здарылася, соладка спаў. Таму Фёдаравы хаўруснікі беспераШкодна абступілі будынкі і чакалі толькі сігналу свайго завадатара. Але той нечага марудзіў — ці то з-за боязі чарговага правалу свайго плана, ці думаў пра тое, як адсядзецца ў баку. Між тым нехта з п'яніц неасцярожна варухнуўся на высокім дубовым паркане і гопнуўся долу.

Ганэтка прачнулася якраз у той самы момант і пачула падазроны шум.

— Антоська, нешта не тое робіцца на падворку. Неспакойна мне...

— Дык хлопец жа вартуе. Калі што — дасць знак, паспеем выскачыць ці абараніцца.

— Ой, мужу, лепей паглядзі. Каб позна не было...

Антось устаў і, пацягваючыся, пайшоў да сенцаў, але раптоўна кінуўся да акна — на паркане, нібы груганы, сядзелі цёмныя цені.

— Ах ты, ваўкарэзіна! Бач да чаго дадумаўся! — загуў гаспадар. — Хлопцы, хлопцы! Дзе вы там!

Праз хвіліну тыя стаялі побач. Антось не стаў дапякаць вартаўніка.

— Зараджайце стрэльбы і станавіцеся ля дзвярэй ды вокнаў. Зараджайце не шротам, а соллю. Пораху многа насыпайце і солі! Страляць не спяшайцеся. Няхай пасаскокваюць усе на двор, мы тады і сабак спусцім, каб весялей было...

Марудна цягнуўся час. Антось стаяў і спакойна пазіраў у акенца.

— Відаць, нешта думае Фёдар, не хочацца зноў у азадак атрымліваць.

Постаць на плоце махнула рукою, і пераспелымі грушамі залёпалі на зямлю з высачэзнага дубовага паркана, пастаўленага ўшчыльную, шула да шула, хаўруснікі Фёдара. Кінуліся да хаціны, і ў гэты момант прагучала:

— Сабак спускайце і страляйце, хлопцы! Не спяшайцеся, добра цэльцеся. Час у нас ёсць. Назад яны не вылезуць, пакуль вароты не адчынім.

Што тут пачалося! Божа мілы! Заляскалі стрэлы, і адразу ж закрычалі няпрошаныя госці. Калі хто не атрымліваў «свой зарад», таго дратавалі сабакі. Крыкі, енкі, стогны — усё злілося ў адзін суцэльны гул.

Да раніцы працягвалася бітва. Перапалоханыя вяскоўцы гадалі, што там робіцца. Калі сонца ўзышло, адка-

зы на ўсе пытанні далі шырока адчыненыя вароты, праз якія выпаўзалі, хістаючыся, выходзілі, а то і выляталі з дапамогай магутных udараў п'яніцы і стараліся куды-небудзь схавацца ад людскіх вачэй.

Апошні выпаўз Фёдар... І на гэты раз ён быў амаль без штаноў, бо тое, што вісела на ім, нельга было імі назваць. Слёзы каціліся па ягоным твары, а ўслед яму неслася павучальнае:

— Колькі ж разоў табе, дурань, казаць, што з разумнымі людзьмі радзіцца трэба, а не з такімі, як сам...

Даўно памёр Антось, але памяць засталася. Засталася ў назве, яна і пайшла ад таго памяркоўна-павучальнага слова — радзіцца. Таму і стала мястэчка Радунь.

## ДАЙНАВА

Жыла адна сям'я — маці, бацька і дачка. Весела жылі, падтрымлівалі адзін аднаго, дапамагалі, багацця асаблівага не мелі. Займаліся звычайнай сялянскай справай — поле аралі, засявалі яго, збожжа жалі і хлеб малацілі. Так з года ў год.

Дзяўчынка расла надзвычай прыгожай і праз некаторы час абяцала стаць гэткай прывабнай, якой, можа, і ва ўсім наваколлі не было. Бацькі з радасцю глядзелі на яе і гаварылі паміж сабою:

— Вось так і вырасце наша дачушка, замуж выйдзе, унукаў нам народзіць, а мы іх няньчыць будзем. Дай Божа, каб усё добра было, каб неба ды лёс былі да яе літасцівы.

Добра ім разам было, але нядоўга іхняе шчасце цягнулася. Пайшла неяк маці з жанчынамі ў лес па чарніцы, а назад яе ледзьве прысунулі: джгнула там змяя небараку. Вось яна выпакутавала! Даруй, Божа, каб яшчэ хто так стагнаў ды трызніў. Відаць, яд быў вельмі моцны. Якіх толькі чараўнікоў муж ні клікаў, якія толькі яны замовы ні шапталі — нічога гэтыя старанні не прынеслі. Жанчына з кожным днём усё болей і болей апухала, ссінела ўся, дыхнуць без болю — і то не магла, а гаварыць — дык толькі шаптала, і разабраць яе можна было толькі нахіліўшыся да самага твару.

Муж з дачкою амаль не спалі. І вось неяк ноччу, калі яны крыху забыліся ў сне, гаспадару падалося, што яго нехта кліча і торгае за рукаў. Ачнуўся ён, крутнуў гала-

вой і ўбачыў скіраваны на яго позірк жонкі і пачуў яе шэпт:

— Апошняе маё імгненне прыспела, мужу. Прашу цябе, заклінаю... Апошняя мая просьба, перадсмяротная... Глядзі, не даруе Бог, калі яе не выканаеш...

— Ды што ты, родненькая, усё зраблю, як скажаш...

— Дачушку нашу беражы як зрэнку вока, каб благія людзі да сябе не прыманілі. Ты ў яе застаешся і за бацьку, і за маці... І жаніцца пасля маёй смерці не спяшайся, пачакай, пакуль яна замуж выйдзе. Не доўга засталося, яна ж такая прыгожая, такая добрая, — выдыхнула гаспадыня і заціхла, заціхла назаўсёды.

Пахаваў чалавек жонку і спачатку ўсё гэтак рабіў, як яна прасіла перад смерцю, але праз пару месяцаў стаў забывацца на абяцанне. А тут яшчэ суседка, жвавая ды бойкая маладзіца, праходу вяскоўцу не давала. Дзе ні напаткае — у госці запрашае:

— Зайшоў бы, суседзе. Чаго гэта ты мяне баішся? Я адна і ты адзін. Можна было б і пра нешта сумеснае падумаць, не век жа табе векаваць...

— А я і не адзін, у мяне ж дачка ёсць, — нібы за апошнюю саломінку хапаўся мужчына.

— Я шчырай матуляй буду тваёй сірацінцы, любіць яе болей за родную...

— Я падумаю, суседачка.

— Падумай, голубе, падумай ды згаджайся, бо и і ў іншым баку мужа знайсці змагу, а вось табе гэта значна цяжэй зрабіць будзе.

Бацька нічога не казаў дачцы пра заляцанні суседкі, але ёй ужо семнаццатая вясна ішла і яна ўсё добра разумела. Замкнулася, слова з яе нельга было выцягнуць. Раней спявала, смяялася, а зараз тварам спахмурнела і на спробы бацькі неяк яе развесяліць адказвала такімі цяжкімі паглядамі, што таму рабілася не па сабе.

І што ж вы думаеце? Суседка свайго дамаглася. Абкруціла мужыка і перабралася жыць у іхнюю хаціну: дагледжаную, чысцюткую, нібы тая шклянка. Як прыйшла, дык адразу ўзялася свой парадак наводзіць. Ад былых прыгожых словак і следу не засталося.

— Што гэта вы кожны дзень падлогу шаруеце? Хутка дзіркі папраціраеце і мышы туды шмыгаць стануць. Дзе гэта бачылі, каб так ужо чысціню захоўвалі?

Не вытрымлівала гаспадарова дачка і пачынала спрачацца, чаго раней за ёю ніколі неназіралася:

— Маці мяне так навучыла, таму мы ніколі ў брудным не хадзілі і смецця ў хаце не трымалі.

Скажа гэтак і знікне некуды да самага вечара, а калі прыйдзе, то есці не садзіцца за стол, кладзецца адразу спаць.

Аднае ночы, палічыўшы, што дзяўчына спіць, пачала новая гаспадыня ўшчуваць мужа:

— Што ж гэта ты ўсё маўчыш? Яна і агрызаецца, і лае мяне, а ты хоць бы словам заступіўся. Болей я трываць не збіраюся, выбірай — ці яна, ці я, але жыць у адной хаціне нам нельга.

— Дык гэта ж мая родная дачка, — спрабаваў было пераканаць жанчыну гаспадар, — што людзі скажуць, калі я яе з хаты выкіну?

— Як ведаеш. Тады я пайду, вось толькі раніцы дачакаюся.

Дачка ўсё чула. Выскачыла яна з хаты і пайшла куды вочы глядзелі. Ішла так, ішла, стамілася, вырашыла адпачыць. Знайшла прыгожы куст, прылегла пад ім і... соладка заснула, бо і здарожылася, і сперажывалася.

А тым часам ехаў па дарозе вялікі абоз з таварамі ажно з-пад Наваградка. Пабылі людзі ля Балтыйскага мора, накупілі ўсяго і назад вярталіся. Радаваліся, што ўсё добра атрымалася, што хутка дома будуць. Смяяліся, песні спявалі, каб хутчэй час ляцеў.

— Глядзіце, а хто гэта там спіць пад кустом? — выгукнуў малады голас.

— А ты паглядзі. Раптам гэта жанчына, ды яшчэ і прыгожая, вось табе і жонка будзе, — пажартаваў нехта.

Той пабег да куста і спыніўся, нібы на пень наткнуўся.

— Ну што? — данеслася ад вазоў. — Хто там?

— Дзяўчына... Прыгожая...

Падышлі астатнія, і тут дзяўчына абудзілася, убачыла незнаёмых людзей і... заплакала.

Ледзьве супакоілі яе падарожныя:

— Ну што ты ўбіваешся? Глядзі, якога мы табе мужа падараваць можам, — падпіхнулі да яе маладога і прыгожага хлопца.

Так яна з імі і паехала ды стала жонкай таго хлопца. Дзеці ў іх пайшлі. А ў вольную часіну жанчына любіла спяваць. Як зацягне песню, дык суседзі казалі: «Зноў дайноўка заспявала. Во, як хораша цягне».

Дайноўка — значыцца з балцкага племені, адтуль, адкуль яе прывезлі. Потым не толькі яе, але і дзяцей дайноўкамі клікаць сталі. Адтуль і вёска — Дайнава.

# ЗАБАЛАЦЬ

Было ў бацькі трое дарослых сыноў — паслухмяных, працавітых. Бывала, паедуць яны ў поле на працу, дык бацька толькі сядзіць і паказвае:

— Вось там, хлопцы, трэба падсеяць, бачыце — не ўзышла збажынка, як лысіна на галаве атрымалася. Нічога, пакідаем зярняткі — яны яшчэ сілы набяруцца і, пакуль жаць, упоравень з астатнімі стануць.

Сыны спорна выконвалі працу і падыходзілі да бацькі:

— А што зараз, тата, рабіць?

Яны і самі добра ведалі, што, але без бацькі нічога не пачыналі, каб паказаць, што ён па-ранейшаму самы галоўны ў хаце і рашаючы голас за ім. Старому гэта падабалася, ды і каму, скажыце, павага не падабаецца?

Год мінаў за годам. Сыны у мужчынскую сілу ўвайшлі, жаніцца пачалі. Спачатку старэйшы маладую жонку ў хату прывёў, сынок у іх нарадзіўся. А тут і сярэдні нявесту знайшоў. Што тут скажаш? Нічога супраць не мелі гаспадары, адно толькі і прамовіў стары:

— Жаніся, сынку, каб дурні не перавяліся ды каб жабракоў даволі было...

Не маглі зразумець старэйшыя, што бацька хацеў гэтым сказаць. А меншы, Пятро, той адразу скеміў і ажно папоўз пад стол са смеху.

— Чаго рагочаш, братка? — запытаўся сярэдні. — Скажы, можа, усе разам пасмяёмся...

— А смяяцца тут няма чаго, — адразу пасур'ёзнеўшы, адказаў Пятро, — бацька вас папярэдзіў, каб думалі, раз на такі важны жыццёвы крок асмеліліся... Самі ж ведаеце, зямлі ў таткі не многа і не надта яна ўрадлівая. Бачыце ж, год на год не прыходзіцца... А смяяўся я не ад таго, што весела стала, а ад таго, што вы дарослыя людзі, а гэтак марудна мазгамі раскідваеце...

— Ну, ты таго... не надта, — сурова бомкнуў старэйшы з сыноў. — Бач, мондры які знайшоўся, смешна яму стала... Пачакай, недалёка той час, калі і сам ажэнішся...

Стары гаспадар строга глянуў, і адразу ўсе заціхлі, бо за сталом не месца для спрэчак.

Жаніўся і сярэдні сын. Праз год-другі і ў яго немаўля нарадзілася, а ў старэйшага ўжо трое было. У хаце, якая і так не надта вялікая была, нельга было свабодна павярнуцца. Крыкі, шум стаялі гэткія, што здавалася, там нешта пастаянна дзеляць. Гаспадар вымушаны быў боль-

шую частку дня праводзіць на вуліцы, іначай не вытрымліваў і пачынаў гарлаць на ўсю хату:

— Ды супакойцеся вы хоць на хвіліну! Дайце спакойна пасядзець!

Але дзе ж вы бачылі, каб тры жанчыны ў адной хаціне жылі і ніводнага разу на працягу дня не пасварыліся? То адна не так прайшла, то на ногу наступіла, то зачапілася ды нешта перакуліла... І як пачнуць, як пачнуць! А дзеці толькі таго і чакалі. За імі ніхто не сачыў, і яны рабілі што хацелі.

Часам, седзячы на прызбе, стары сам сабе разважаў: «А што, калі зараз і малодшы ўздумае жаніцца? Як тады жыць?»

Гэтыя трывогі нібыта падслухаў старэйшы сын. Вечарам, калі ўсе сабраліся ў хаце, ён сказаў, нібы адрэзаў:

— Усё, бацька, болей так жыць не хачу!

— А як жа?

— Дзялі зямлю на ўсіх, буду асобную хаціну стаўляць. Нельга далей так пакутаваць, калі ні паесці, ні адпачыць пасля працы... Сам бачыш — жонкі спрачаюцца, дзеці б'юцца і табе ўжо хахол добра мнуць... Дзялі зямлю, дый годзе!

Не катэгарычнасць заявы напалохала старога, а тое, як падзяліць зямлю. Гэта ж і адна сям'я ад яе ледзьве кармілася, а тут трэба на тры часткі парэзаць, ды каб без крыўды, бо тады сыны да самай смерці паміж сабою размаўляць не стануць, болей таго, справа можа і да крывавай бойкі дайсці.

Глыбока задумаўся бацька. Ціха шапталіся сыны, моўчкі паглядалі на яго жанчыны, дзеці і тыя перасталі крычаць, нібы разумелі, што дзеду цяжка.

— Бацька, у мяне сям'я ўжо вялікая — трое дзетак ды я з жонкай. Каб які лепшы кавалак, бо не пракармлюся, — ужо мякчэй і лісліва працягваў старэйшы.

— Дзе ж я тую добрую зямлю вазьму?

— А ля лесу, там, дзе мы бульбу ды збожжа пастаянна садзім і сеем...

— Табе дам, а як астатнім?..

— Я ж старэйшы, тата...

— Атрымліваецца, яны нечым горшыя?

— Я такога не сказаў, але ж я старэйшы, і дзяцей у мяне трое...

— Вось і мяркуй, стары, — пагладзіла яго па плечуку

гаспадыня. Шкада ёй было мужа, не мог ён вылучыць некага з сыноў і толькі аднаму аддаць лепшую зямлю.

— Дык як, бацька? — не адставаў старэйшы.

— Што як? Што як? Што ты да мяне прычапіўся? Хіба не ведаеш, што ўсім не хопіць?

— Я ведаю, але ж сям'я...

— Добра, забірай той надзел, калі ўжо на тое пайшло.

— Во, яму самую лепшую, а мне што? — адразу запярэчыў сярэдні. — Я таксама жанаты, і сын у мяне расце, і жонка зноў цяжарная...

— А.., — пачаў было бацька і, не ведаючы, што сказаць, заціхнуў.

— Аддай мне гэтую сядзібу, я і тут як-небудзь пракручуся...

— Што гэта ты, сынку? — умяшалася маці. — А як жа нам жыць? Што ж гэта ты прапануеш? Хочаш нас з уласнай хаты на вуліцу выгнаць?

— Я вас не выганяю, мама, але я прашу, каб мне далі гэтую сядзібу. А вы жывіце тут, я ж не супраць...

— А малодшанькага куды? Вашага брата — Пятра? Дзе яму жыць? Праз нейкі час і ён задумае жаніцца. Куды жонку павядзе?..

— Вы аддайце яму той кавалак, што за балотам стаіць. Ён ужо некалькі гадоў не апрацоўваецца.

— Там жа не расце нічога, там такая забалаць, што і згадваць не хочацца.

— Нічога, прыкладзе рукі — і на пустым зародзіць, — павучальным тонам пачаў было самы старэйшы з сыноў.

— Эх вы, недарэкі! Дрэнна я вас выхоўваў, калі вы так усё дзеліце. Пра нас не думаеце — то зразумела, але ж пра брата трэба было б згадаць, ён жа самы малодшы.

У гэты момант раздаўся вясёлы голас Пятра:

— Не рвіце сэрца, тата. Супакойцеся, мама. Не баюся я. І там жыць стану. Неяк жа людзі жывуць.

Ажаніўся Пётр і пачаў будаваць на той пустцы хату — вялікую, светлую. Калі паставіў, то бацькоў да сябе забраў. Цяпер асноўным клопатам было поле. Гною даў столькі, сколькі можна было, і яно стала шчыра аддзячваць. Людзі пабачылі, што месца не такое ўжо і благое, і сталі там свае хаты стаўляць, а паселішча па-простаму назвалі — Забалаць, за балотам значыцца.

# ЛІТВІЦА

Жыла-была на белым свеце адна маладзіца. Сябе высока ставіла, а іншых і за грош не лічыла. Ледзь што — толькі фыркне:

— Што вы ведаеце, толькі пахваляецеся. Пажылі б з маё, пабачылі, тады і павучалі б, а так...

— Бач ты, многа яна пажыла, многа пабачыла. Гадоў з трыццаць прамучылася, — перагаворваліся вяскоўцы, але, каб не звязвацца з дурніцай, заціхалі.

Мала гэтага, маладзіца і на Бога што хочаш казала. Потым яшчэ мудрэй здагадалася — перастала рэлігійныя святы адзначаць. Людзі ў царкву ідуць, а яна ляжыць на палку ды зяхае так, што ажно на вуліцы сабакі хаваюцца, баючыся невядомага для іх рыку.

— Ідзі, бессаромніца, у царкву! — пачыналі сарамаціць яе суседкі, але ў адказ яна толькі ўсміхалася, пабліскваючы белымі зубамі:

— Вось каб там мужыкоў раздавалі, дык бегма пабегла б, а так няма ахвоты. Што там рабіць? Паклоны адбіваць, пакуль спіна не заколе? Усе пазбіраецеся ды слухаеце, як бацюшка малітвы свае чытае, а самі ў гэтым амаль нічога не разумееце, але затое «ў царкву схадзілі»... Дык я лепей дома паляжу, адпачну ад працы.

— Каб цябе трасца з месца на месца перакочвала! Стамілася яна. Ды ты забылася, мабыць, калі апошні раз працавала! Ляжыш лежма тыднямі, агарод хутка зеллем зарасце, невядома будзе, што ты там сеяла ці садзіла! — сарамацілі яе суседкі-жанчыны.

Але і гультайка не паддавалася:

— Ой, працаўніцы мне знайшліся! Паглядзіце на сябе! Павысыхалі, нібы тыя вароны пасля халоднай зімы! Як толькі з вамі мужыкі жывуць? А ў мяне ёсць чалавеку за што ўзяцца, і паглядзець ёсць на што...

Нічога не адказвалі жанчыны і ішлі ў царкву, каб самім не злавацца ды Бога не гнявіць.

Разоў колькі спрабавалі неяк паўшчуваць распусную жанчыну, ды, ўбачыўшы, што яна амаль не рэагуе на іхнія словы, кінулі безвыніковы занятак. Але ж і маладзіца таксама ўбачыла, што на яе перасталі звяртаць увагу, і вырашыла што-небудзь учыніць, каб зноў стаць тэмай пастаянных размоў. Доўга вырашала-меркавала і дадумалася-такі.

Надышла святая нядзелька, і людзі пасунуліся ў царкву міма яе хаціны. Яна ж узяла касу і зрабіла выгляд, што выкошвае мяжу, хоць на самай справе тая каса ўжо гадоў колькі не кляпаная валялася. Але ж трэба было сялянкам насаліць.

Усхадзіліся найбольш старыя жанчыны:

— Ах ты, гадаўка, дык ты і Усявышняга ганьбуеш! Як табе не сорамна! Ідзі ў царкву і маліся, маліся, каб Бог табе дараваў грахі!

Маладзіца нібы і не чуе — касою памахвае ды мянташкай час ад часу па ёй паляпвае.

Такімі паводзінамі яна суседзяў выводзіла з сябе і дачакалася адплаты. А здарылася наступнае.

Ішоў аднаго разу праз тую вёску надта стары чалавек —падарожны. Многа пахадзіў ён па белым свеце, усялякае бачыў і цікава ўмеў распавядаць. Даўно не быў стары ў гэтых мясцінах, таму не спяшаўся, спыняўся на некалькі дзён у той ці іншай вёсцы, распытваў пра знаёмых, і калі сустракаў такога, то ўспамінам не было канца.

Так паволі і дабраўся падарожны да той вёскі, дзе гэтая маладзіца жыла. Была якраз субота, відаць, нейкае свята рэлігійнае, бо, кажуць, вяскоўцы не працавалі, а адпачывалі, купкамі седзячы на прызбах. Ішоў стары падарожны, кіёчкам для лёгкасці ад зямлі адштурхоўваўся, з людзьмі вітаўся, бо здавён так вялося — знаёмы ты ці не, але павітацца павінен абавязкова. І раптам нібы спатыкнуўся аб нешта, стаў як укапаны.

Вандроўнік гэты не проста вандроўнік быў, а ведаў шматлікія замовы, мог вылечыць ад самай цяжкай хваробы, чараўніцтвам пры патрэбе займаўся і рабіў яшчэ многае такое, што далёка не кожнаму пад сілу. Таму здзівіць яго было не так проста. Спыніўся, бо не чакаў такога сустрэць. Маладзіца ж, нібы не заўважала яго, займалася сваёй справай.

— Гаспадынька, — як мага ласкавей звярнуўся да яе падарожны, — можна мне на тваё падвор'е зайсці?

— А чаму ж не, зайдзі, месца і табе, і мне хопіць.

— А чаго ж гэта ты, маладзічка, працуеш, калі астатнія адпачываюць? Ці Усявышні цябе пакараў?

— Не, дзеду, не мяне, а іх Усявышні пакараў. Я працую-шчырую, а яны сядзяць ды языкамі малоцяць. Я хоць нешта добрае для гаспадаркі зраблю, а яны?..

— Затое ж і падвор'е ў цябе дагледжанае, — ціха прамовіў вандроўнік і адвярнуўся, каб ненарокам не засмя-

яцца, бо вакол шумела такая лебяда, што і карову ў ёй можна было згубіць, не тое што там нейкую дробную рэч.

— Ды стараюся, гнуся, колькі сілы маю, — не здагадваючыся, што з яе смяюцца, пахвалялася гаспадыня.

— Яно-то так, але ці трэба так убівацца? Адпачынак трэба з працай спалучаць, а калі толькі праца ды праца, то ці надоўга чалавека такога хопіць...

— Не, буду працаваць.

— А я, маладзічка, твайго бацьку добра памятаю. І маці-нябожчыцу ведаў. Павінен табе сказаць, што яны ні ў нядзелю, ні ў святы не працавалі. І падворак быў чысцюткі, што той звон, і хата свяцілася, як шкляначка... Прыветныя людзі былі, сумленныя... Ніколі такога не здаралася, каб падарожнага ласкава не сустрэлі, спаць не паклалі, каб не пакармілі ды на дарогу што-небудзь не далі. Зямля ім пухам і памяць вечная. А не баішся ты, маладзічка, што ім на тым свеце сорамна за цябе будзе? Гэта ж трэба, да такога дадумалася, і дзеля чаго?

— А хто ты такі, каб мяне вучыць ды дакараць?

— Я просты чалавек, а вось ты...

— Што ты сказаў? Ты да мяне напрасіўся і мяне ж зневажаеш?!

— Я ніколі нікога не зневажаў. Я праўду кажу.

— Мне твая праўда, стары пень, патрэбна, як сабаку ваўчкі! Усё зразумеў?!

— Зразумець-то і зразумеў, але навошта ты так мяне лаеш?

— А што, можа, цябе за стол пасадзіць?

— Не хачу я за стол...

— Дык каціся адсюль, дурында старая, каб цябе на кожным пяньку перакочвала з боку на бок!

Узлавала гэта старога, і ён таксама кінуў злосна:

— А цябе каб несла адсюль да таго часу, пакуль на ліствіцу носам не наткнешся!

І паляцела маладзіца, ды так шпарка, што нават войкаць не паспявала. Вяскоўцы толькі дзівіліся, як такое магло здарыцца, але нехта нагадаў пра здольнасці старога.

А маладзіца тая пёрла, пакуль і сапраўды носам у ліствіцу не гопнулася. І стала яна жыць на новым месцы, бо нельга ёй было ў вёску вяртацца пасля таго, што здарылася. Тое паселішча хто зваў Ліствіцай, а хто — Літвіцай, як і зараз завуць.

# ПЕЛЯСА

Аднаго разу ехалі багаты пан з фурманам па незнаёмай мясціне. Сонца прыпякала так, што здавалася, яшчэ гадзіна-другая — і зямля сама па сабе пачне гарэць. Піць хацелася падарожнікам, ажно губы патрэскаліся.

— Іван! — кажа памешчык. — Не магу трываць болей. Піць так хочацца, што з лужыцы бруднай піў бы. Што хочаш рабі, а вады трэба нам знайсці...

— Так, пане, я і сам з учарашняга дня піць хачу, але ж самі бачыце — навокал усё так павыгарала, што на пяць сажняў у глыбіню кроплі вады не знойдзеце, не тое, што ў нейкай там лужыцы ці калодзежы... Колькі жыву, а такой засухі не прыпомню, ды і старыя мае не згадвалі.

— Але ж без вады мы да месца не даедзем. Давай па баках уважліва глядзець, раптам на якую крыніцу напорамся.

— Буду старацца, пане, нічога не прапушчу, толькі ўжо і вы глядзіце... Раптам я не заўважу, дык вы падкажаце.

Так яны ехалі ўжо не адзін дзень. Той памешчык скупляў па навакольных землях надзелы вольнай зямлі, каб такім чынам пабольшыць сваё багацце. І вось якое ліха на гэты час з імі здарылася.

Коні ўжо не беглі, а ледзьве ногі па зямлі перасоўвалі. Акрамя таго, што яны таксама хацелі піць, іх дапякалі авадні ды сляпні. Падарожныя чакалі, чакалі з нецярпеннем, калі сонца сядзе за лесам і тады можна будзе хоць крыху адпачыць пад покрывам ночы. Праўда, і там радаснага мала было — выядала вочы камарэча.

— Эх, пане, ці бачыць нас зараз сам пан Бог, — прамовіў фурман. — Няўжо мы ў нечым правінаваціліся, што ён нас так дапякае?

Памешчык прамаўчаў. Можа, пра нешта сваё думаў, а можа, проста не пачуў.

Тым часам сонца пачало заходзіць за лес. Крыху лягчэй стала дыхаць. Пад'ехалі да ржышча, якое нагадвала сабою нешта жахлівае, і тут фурман страпянуўся:

— Пане, пане, я добра памятаю гэтыя мясціны... Тут рэчка павінна быць. Нават у страшную спёку вады ў ёй было многа, так што зараз і самі нап'ёмся, і коней напоім. Чуеце, пане?

Памешчыку было ўжо ўсё роўна, ён ляжаў на дне карэты і ледзьве дыхаў.

— Пане, пане, патрывайце яшчэ дзесятак хвілін, і мы пад'едзем да берага...

Коні, здавалася, таксама зразумелі, пра што ідзе гаворка, і, навастрыўшы вушы, пайшлі крыху хутчэй. Неўзабаве пад'ехалі да берага. Фурман схапіў драўлянае вядро і што было сілы паджгаў уніз. Але тое, што ён убачыў, напалохала: на самым дне не было відаць нават крапелькі вады. Крутнуўся слуга туды-сюды — усё адно. Тады фурман упаў на парэпаную зямлю і пачаў капаць, ламаючы пазногці. Праз гадзіну ён адмовіўся ад сваёй задумы. Па-першае, таму што моцна стаміўся, а па-другое, заўважыў, што ў выкінутым ім на паверхню грунце няма вільгаці.

Прыйшоў слуга да карэты, выцягнуў з яе знясіленага гаспадара, прысеў з ім ля абгарэлага лазовага куста і моцна задумаўся. Трэба было тэрмінова шукаць нейкае выйсце, бо да смерці ў такіх умовах было рукой падаць, але... заснулі змораныя людзі. Ужо не адчувалі, як кусалі іх камары, не звярталі ўвагі на тое, што не было чым дыхаць.

І тут фурману прысніўся дзіўны сон, нібыта нейкая жанчына заве яго: «Чалавеча, чалавеча, хадзі да мяне, хадзі сюды, не палохайся». «Баюся я цябе, баюся, што падманеш мяне, звядзеш са свету», — адказвае ёй слуга. «Не бойся. Я пакажу табе, дзе многа вады. Тады вы не памрэце, даберацеся туды, куды кіруеце». «Не веру я табе. Я добра ведаю гэтыя мясціны, не раз тут быў, але нідзе не бачыў ні крапелькі вадзіцы». «Ты не бачыў, а я ведаю, дзе яна ёсць. Глядзі! — і незнаёмка пачала высока-высока пырскацца вадою. — Цяпер ты мне верыш?» «Не ведаю, што і адказаць. Здаецца, пырскалася вадою, але мне магло і прымроіцца...» «Упершыню сустракаю такога баязліўца. Я яму прапаную выйсце, а ён адмаўляецца. Ну што ж, як хочаш — так потым сам і круціся...» «Пачакай, я параюся з гаспадаром». «Не, так я табе дапамагаць не буду. Ты павінен вырашаць сам. Бяры вядро і пайшлі, калі хочаш».

Усхапіўся фурман і нічога не можа зразумець. Ажно бачыць — стаіць недалёка высокая жанчына, уся ў белым, нібы перад шлюбам, і пасміхваецца:

— Чаго зырыш? Бяры вядро ды пайшлі, апошні раз прапаную...

Паслухаўся чалавек незнаёмку, узяў вядро і, зірнуўшы на свайго пана, пайшоў за жанчынай. Колькі ішлі —

хто яго ведае, але незнаёмка вывела яго да вады. Як прыпаў слуга да вадзіцы, то піў, як яму здавалася, можа, гадзіну, потым памыўся, набраў вядро паўнюткае і, нізка-нізка пакланіўшыся сваёй выратавальніцы, прамовіў:

— Дзякуй табе вялікі... Не ведаю, хто ты, але за тое, што выратавала нас, няхай тваё жыццё яшчэ на палову падоўжыцца. Пабягу я назад, бо там жа мой гаспадар даходзіць...

— Дзякуй і табе за добрыя словы, але хачу цябе, чалавеча, папярэдзіць: калі будзеш назад прабірацца, то не спяшайся, бо маё месцажыхарства ўсё ў пялёсах... Крыху ўлева ці ўправа возьмеш, задумаешся над нечым — і з жыццём развітаешся... Памятай гэтыя словы...

— Дзякуй яшчэ раз, — прамовіў слуга і пакіраваў назад. Як ні асцерагаўся — уляцеў у абгарэлае корчышча і моцна апёкся, а калі адтуль вылазіў, то яшчэ чуў, нібы праз сон: «Маё месцажыхарства ўсё ў пялёсах. Чуеш? Гэта балаціны тарфяністыя. Яны зараз вельмі небяспечныя, бо суха, і заняліся гарэць знізу»...

Знайшлі таго фурмана іншыя падарожныя, якія ехалі той самай дарогай. Бачаць — ляжыць чалавек. Спачатку падумалі, што нежывы, але калі прыпалі да грудзей, то радасна ўскрыкнулі: «Дыхае!»

Ачнуўся фурман і пачаў прасіць:

— Людцы добрыя! Там ляжыць мой пан... Ля рэчкі, за пялёсамі...

Знайшлі і пана, ледзь жывога. Калі іх выхадзілі, памешчык той гэтую мясціну выкупіў, узвёў на ёй свае харомы, а вёску, што навокал пабудавалася, назваў Пеляса, у памяць пра тую жанчыну-выратавальніцу. Мясцовыя жыхары кажуць, што яна была аднекуль з балтаў.



# ВЯЛІКАЯ БЕРАСТАВІЦА

Жылі-былі мужык з жонкай. Звалі яго Петраком, а яе — Тэкляй. З дзяцінства ведалі адзін аднаго, бо нарадзіліся ў суседніх сем'ях, разам раслі і, калі прыспела часіна, то і мілавацца сталі. Такое ўжо каханне ў іх распачалося, што і сказаць вам нават цяжка. Глядзяць людзі, зайздросцяць. Кожны ж, вядома, сваю маладосць прыгадвае. Не адна сляза скацілася на грудзі ў мужчын ды жанчын, бо не ва ўсіх жа так гладка ў жыцці атрымлівалася. Кагосьці сілай выдавалі, а кагосьці грошы вабілі і нават чуць не жадалі пра нейкае там каханне ці ўзаемныя пачуцці. Нехта ўсё жыццё не пражыў, а прагараваў, і ўспаміны былі самым святым у ягонай душы, бо толькі там ён мог зноўку спаткацца са сваёй дзяўчынай, якой, можа, ужо і сярод жывых не было, ці жыла недзе далёка і ўнукаў гадавала ды ў часіну адчаю таксама, магчыма, згадвала былога каханага.

А тут жа ўсё на вачах разгортвалася, усе бачылі, як кахаюць ды шануюць маладыя адзін аднаго. Ідуць з працы разам, пра нешта размаўляюць, смяюцца, нічога вакол сябе не заўважаюць, а за імі пільныя вочы сочаць. Хто радаваўся за маладых, а хто і зайздросціў чорным

вокам ды ледзьве чутна шаптаў словы благіх замоў. Але нічога гэтага на сабе каханыя не адчувалі.

Ды ўсё ж ліха іх не мінула. Пазней ужо сталі казаць вяскоўцы, што гэта злы чараўнік падстроіў, каб не было болей радасці на тварах у Петрака ды Тэклі. Але паслухайце пра ўсё па парадку.

Справа ў тым, што хлопец быў з надта беднай сям'і, а дзяўчына, наадварот, з надзвычай багатай. Дзе ж гэта вы бачылі, каб у такіх выпадках усё добра атрымлівалася? Рэдка калі справа згодай завяршалася, хутчэй пра іншае гаманілі, што ён ці яна рукі на сябе налажылі, пачуўшы пра катэгарычную адмову бацькоў. Тут жа яшчэ мудрэй атрымалася.

Аднаго разу размаўлялі, схаваўшыся ад чужых вачэй, Пятрок з Тэкляй, і яна, нібы скардзячыся, прамовіла:

— Усё сустракаемся, сустракаемся, а жаніцца на мне ты не абяцаеш. Так я ў дзеўках-векавухах застануся. Ужо амаль усе мае сяброўкі замуж павыходзілі, у некаторых ужо дзеткі гадуюцца, нават па двое, а ў мяне... Адзінае — што людзі гамоняць, хутка ў вочы смяяцца стануць... Што ты думаеш?

Пятрок парывіста ўсхапіўся.

— Рыбанька ты мая... Галубка мая... Сонейка маё... Зорачка мая непагасная... Ды жаніцца я хоць сёння гатовы, але...

— Што табе перашкаджае?

— Ты ж выдатна ведаеш, а яшчэ пытаешся. Ты з багатай сям'і, а я... У нас жа нават хлеба не заўсёды хапае з восені да вясны. Не захочуць твае бацькі аддаць за мяне сваю адзіную дачку.

— Ды ты яшчэ і не спрабаваў мяне сватаць, а ўжо скардзішся. Падыдзі да свайго бацькі ды папрасі, каб сватоў пасылаў, а я са сваімі пагаманю. Яны ніколі слова благога на цябе і на тваіх родных не сказалі. Няма чаго палохацца, усё будзе добра, вось пабачыш.

— Гаварыў я свайму бацьку. Але ж...

— Не хвалюйся, яшчэ раз скажы, і ўсё пойдзе на лад.

— Добра, родненькая,— нарэшце пагадзіўся Пятрок,— сёння ж увечары і перагавару. Стану на калені і прасіць буду, каб да цябе сватоў пасылалі.

— І тады мы з табою, Петрачок, заўсёды разам будзем. Пад адным дахам жыць станем. Вось дзе шчасце настане...

Як дамовіліся з любай дзяўчынай, так Пятрок і зрабіў.

Ледзьве дачакаўся вечара, пакуль бацька з поля прыедзе, каб распачаць гамонку. Нарэшце бацькі былі ў хаце, і пасля таго, як павячэралі ды сталі збірацца спаць, хлопец гопнуўся на калені пасярод хаты.

— Гэта яшчэ што такое? — шчыра здзівіўся гаспадар. — Як разумець такое? Што ты хочаш, сынку?

Маці таксама занепакоілася, малодшыя браты ды сёстры, раты паразявіўшы, зеўралі з-за печы ды з палка. Ім жа цікава было пачуць пра прычыну дзіўных паводзін Петрака.

— Татка, родненькі, матуля, міленькая, толькі не адмаўляйце ў маёй просьбе, бо іначай рукі на сябе налажу. Пасылайце сватоў да Тэкліных бацькоў. Не цягніце час, не мучце мяне. Мы з ёю кахаем адзін аднаго. Пасылайце, — і Пятрок бухнуўся галавою ў падлогу.

Маці з бацькам разгублена пераглянуліся, не ведалі, што рабіць. А рабіць нешта трэба было абавязкова, бо надта падзейнічалі на іх словы пра тое, што сын скончыць жыццё самагубствам. Тады ж такая справа лічылася найвялікшым грахом і нябожчыка не дазвалялася нават хаваць на вясковых могілках, а дзе-небудзь у іншым месцы.

— Ды ты, сынку, устань, не стой перад намі на каленях, не надта вялікія мы паны, каб перад намі так схіляліся.

— Татачка, — усхліпнуў Пятрок, — не адмаўляй.

— Ды мы адмаўляць і не збіраемся, — прамовіў бацька, — не ў нашым адмаўленні справа. Іншая бяда тут закралася. Ты сам пра яе ведаеш, не маленькі... Ці аддадуць яны за цябе дачку? Яны ж багатыя, а мы, — гаспадар у скрусе махнуў рукой.

— Сапраўды, сыночак, — падключылася маці, — беднасцю надта не пахвалішся і напаказ яе не выставіш. Каб людзі яшчэ адкуль здалёк былі ды не ведалі, што да чаго, а тут жа па-суседству, лічы з калыскі гуляліся разам. Не аддадуць...

— Вы за гэта, родненькія, не перажывайце, бо сама Тэкля за мяне замуж збіраецца, і бацькі яе, яна казала, на нас нічога благога не нагаворвалі, — выпаліў сын.

— Эх, Пятрок, ды хто яе будзе пытацца. Скажуць «не» і ўсё на тым, а не паслухае, дык бацька возьме дзягу ды як урэжа — умомант усё дурное з галавы выскачыць, адзін толькі розум застанецца.

Як ні пераконвалі Петрака бацькі, ён цвёрда стаяў на сваім. Не хацеў нават і чуць пра тое, каб заслаць сватоў

да каго іншага. Маці дык маўчала, бо ведала характар сына, а бацька спрачаўся і даказваў доўга, але нарэшце і ён не вытрымаў:

— Давайце класціся спаць, позна ўжо. Ноч на двары, а мы ўсё нешта даказваем. Раз ужо на тое пайшло, то няхай і будзе па-твойму. Пашлём сватоў да Тэкліных бацькоў, але адразу папярэджваю, што яна за цябе не пойдзе. Я сваіх суседзяў добра спазнаў.

Так і ляглі, каб да раніцы паспець адпачыць ды зноў у працу ўпрэгчыся.

Можна сказаць, што аналагічная размова адбылася і ў суседскай хаціне. Праўда, вялася яна на зусім іншых танах і па-іншаму сябе паводзілі гаспадары.

Як толькі Тэкля распачала гаворку пра замужжа, маці адразу ж узрадавана падхапіла:

— Нарэшце я, дачушка, дачакалася. А то ўжо з бацькам думалі, што без цябе давядзецца жаніха шукаць. Ці ж ты ў нас бедная, ці ж ты не прыгожая, ці можа пасагу ў цябе не хапае? Усё ёсць. Усё. Што Бог даў, а што самі назбіралі. Але цяпер ты як паненка якая. Ды яшчэ і сярод іх трэба пашукаць такую прыгажуню і з такім пасагам...

— А мне не трэба жаніха шукаць, — нецярпліва перабіла матулю дзяўчына. — Не трэба, бо ён у мяне ёсць, — сказала і замоўкла, толькі вочы цікавалі, што ж далей будзе.

У хаце запанавала цішыня. Першым не вытрымаў бацька. Хапаючы ротам паветра, нібы яно было надта гарачае і пякучае, ён запытаўся:

— І хто ж гэта? Ці мы яго ведаем?

— Так, ці ведаем? — падключылася і маці.

— Чаму ж не, ведаеце. Ён недалёка ад нас жыве. Пятрок гэта.

— Пятрок? — толькі і паспеў вымавіць бацька, бо адразу ж ягоны вялізны жывот закалыхаўся-затросся ад смеху. — Ой, Божачка! А ты большага галадранца сабе не магла адшукаць?

— Пры чым тут галадранец? — не зразумела дзяўчына. — Ён жа такі прыгожы ды працавіты. А багацця мне не трэба, мы яго самі нажывём. Вы толькі не адмаўляйце яму, а то...

— А то што? — перапытала маці.

— Яны ў суботу ў сваты збіраюцца прыйсці, таму не адмаўляйце, бо я сабе што-небудзь зраблю. А пад прымусам замуж не пайду...

— Пагавары ў мяне, то зараз дзягай падвучу, хутка ўсё забудзеш. Бач ты, закахалася, — здзекліва прагаварыў гаспадар. — За каго скажу, за таго і пойдзеш, як міленькая, ды яшчэ дзякаваць потым да смерці будзеш, што за галадранца не аддаў, што пражыла, а не прапакутавала...

Доўга ў той вечар крычалі ў хаціне. Былі і шматлікія слёзы, і шматлікія пагрозы. Так і паснулі, знямоглыя ад спрэчкі ды праклёнаў.

Але, што самае галоўнае, атрымалася не так, як хацелі Петраковы бацькі, і не так, як жадалі Тэкліны. Калі маладыя пабачылі, што не атрымліваецца па-іхняму, то сустрэліся патаемна ля старой вярбы і пачалі вырашаць, як быць далей. Пятрок стаяў, панура схіліўшы галаву. Ён ужо зміры́ўся з лёсам, бо пераканаўся, што грошы маюць вялікую сілу. Дзяўчына ж не паддавалася, яна настойліва шукала выйсце. Больш часу маўчалі, чым пра нешта гаварылі. Перакінуцца парай-другой словак і зноў заціхаюць, толькі плечукамі адно да аднаго цясней туляцца. Ужо трэція пеўні заспявалі. Гарласта, нечакана пракукарэкалі, праганяючы на стары лес, на сінюю раку нячыстую сілу, якая гаспадарыла дзесьці непадалёку. І тут Тэкля ўстрапянулася:

— А чаго гэта ім можна загадваць ды рабіць па-свойму, а нам нельга? Чаго?! Не будзе па-нашаму, дык і па-іхняму не атрымаецца! Не буду я чакаць, каб яны мяне сілай замуж аддалі за якога багацея-перастарка. Не хачу ні грошай, ні той радасці. Лепей на ўсё жыццё ў дзеўках застацца...

— Пра што ты? — пахмура звярнуўся да каханай Пятрок.

— Не разумееш?

— Не.

— Я сёння са сваімі яшчэ раз паспрабую пагаварыць. Калі не адмовяцца ад уласных слоў, то вырашаць буду я...

— Тэклечка, толькі дурнога з сабою нічога не рабі, не трэба, — узмаліўся хлопец. — Выходзь тады замуж ды жыві шчасліва, пра мяне не згадваючы. Што ўжо зробіш, калі ў мяне лёс такі нешчаслівы.

— Кінь дурное, родненькі! Кінь! Яшчэ не вечар, а толькі золак займаецца! Не аддадуць за цябе, тады... збяжым.

— Збяжым?..

— Так.

У Петрака ад такіх слоў пайшлі па твары чырвона-брудныя пляміны. Ён нават не падумаў пра такое, і зараз, відаць, яму было цяжка паверыць, што Тэкля згодна на такое дзеля яго. Ён не ведаў, што гаварыць, і адно развёў рукамі.

— Збяжым! — рашуча паўтарыла дзяўчына.

Разышліся яны і дамовіліся, што заўтра, у такую ж часіну, зноў спаткаюцца, каб канчаткова вырашыць, як дзейнічаць. Усё яшчэ спадзяваліся, што нешта зменіцца да лепшага. Але толькі ў марах чалавеку лёгка горы ды рэкі пераадольваць, а на самай справе...

Зноў увесь вечар спрачаліся і плакалі ў хаце Тэкліных бацькоў. Адурэўшы ад крыку і гневу, гаспадар заверашчаў:

— Не хочаш слухацца, не хочаш падпарадкоўвацца, то як сабе думаеш, так і жыві, а я цябе праклёнам чорным праклінаю, і няма для цябе болей месца ў маёй хаціне! Няма! Раніцай каб і духу твайго тут не было, каб не вярталася і не прасілася, бо ўсё роўна не дарую!

Спаткалася Тэкля з Петраком і распавяла яму пра ўсё. Той зноў свае словы паўтарыў, што кахае вельмі, але не хоча, каб з-за яго дзяўчына пакутавала. Няхай, маўляў, жыве, як бацькі патрабуюць, а раптам так і сапраўды намнога лепей атрымаецца. Успыхнула ад такіх слоў Тэкля, зачырванелася ўся і адказала:

— Ён мяне пракляў, бо не хацеў мне шчасця даць. Але і я не скаруся! Не вярнуся назад! Пойдзем і вось што зробім. Пойдзем жыць не да цябе, а ўвогуле ў такую мясціну забярэмся, дзе пра нас ніхто ведаць не будзе. Нікога нам не трэба блізка, мы і самі пражывём. Рукі-ногі цэлыя, мы маладыя, так што палохацца няма чаму. Астатнім — разжывёмся. Згодзен, міленькі?..

— Згодны, каханенькая, згодны. Толькі як мы там... Як жа мы на новым месцы? Ці атрымаецца ў нас, ці здолеем выжыць? Неяк усё адразу на мяне звалілася, не магу супакоіцца, — нібы заведзены казаў Пятрок. — Каб жа хоць зараней падрыхтавацца, а то...

— Ага, ты ідзі, парыхтуйся, тады і мяне ніколі болей не пабачыш... Дачакаешся, калі такі сумленны ды нясмелы, калі я ўсё павінна вырашаць... Што рабіць застаецца... Трэба бегчы, іншага не выпадае.

— Раз ужо так, то пабяжым разам. Сёння ж і пабяжым, каб зручны момант не ўпусціць, не дачакацца якога

ліха. Толькі асцярожна, каб ніхто не пачуў, не прасачыў ды не здагадаўся. Вечарам тут спаткаемся і рушым...

— Пабяжым, Петрачок, і зажывём спакойна ды вольна, нікога над намі не будзе...

Надвячорак толькі-толькі займаўся, а Пятрок ужо хадзіў ля іхняга дрэва, чакаў сваю каханую. Не цярпелася хлопцу, бо ўсё магло здарыцца. Маглі бацькі Тэкліны нешта западозрыць і затрымаць яе, а магла і сама дзяўчына перадумаць ды дома застацца, каб з кім іншым лёс звязаць. Сваім хатнім хлопец шапнуў, што ўсё роўна па яго атрымалася і што ён рушыць сваю сям'ю ладзіць. Бацька адно толькі ніжэй галаву нахіліў, а маці, заплакаўшы, блаславіла на ўсё добрае.

Нарэшце ён заўважыў, як агародамі кралася да месца сустрэчы яго каханая. Затухкала сэрца ў грудзях, рэзка перамяніўся настрой. Петраку ў гэты момант хацелася крычаць і спяваць, ды гэтага рабіць было нельга.

— Ну, што? Ніхто цябе не бачыў? Ніхто не здагадаецца?

— Не. Сваім сказала, што да сяброўак на пару гадзін збегаю. Пабеглі хутчэй. Да раніцы мы далёка зойдзем, а днём дзе-небудзь пераседзім ды далей рушым, пакуль мясцінку добрую не знойдзем.

Пагаманілі нейкую хвіліну каханыя і, нізка прыгінаючыся, пакрочылі да блізкага лесу, каб далей прабірацца, прыкрываючыся магутнымі і здаравеннымі ствbooламі ды густым кустоўем.

Пятрок добра ведаў наваколле. Часта яму даводзілася разам з бацькам кіраваць на паляванне, таму ў лесе ён адчуваў сябе як дома. Ягоны спакой і ўпэўненасць перадаваліся і дзяўчыне. Яна таксама спакойна крочыла за суджаным.

На досвітку хлопец з дзяўчынай спыніліся на высокім пагорку. Знайшлі ўтульнае мястэчка, перакусілі тым, што з сабою прыхапілі, і адразу ж паснулі. Прачнуліся, агледзеліся ды ў далейшую дарогу выправіліся.

Так маладыя ішлі не дзень-два, а можа, цэлы тыдзень. Здарожыліся надзвычай, ледзьве ногі перасоўвалі. Тэкля першая не вытрымала і запыталася ў каханага:

— Што, Петрачок, можа далей ужо не пойдзем? Няўжо нас у гэтых мясцінах нехта шукаць стане? Мы ж гэтак заблытвалі сляды, што нават сам вецер не здолее нас знайсці, не тое што людзі. Пра маіх бацькоў і гаварыць няма чаго, яны ніколі далей свайго агарода не адыходзілі.

— Добра, толькі давай такую мясціну выглядаць, каб усё пад бокам было, каб потым, калі ўжо хаціну пабудуем, не аказалася, што нечага не хапае, што трэба нешта аднекуль здалёк насіць ці вазіць.

Яшчэ колькі вёрстаў прасунуліся, і Тэкля прысела на пагорачак:

— Усё, болей не магу. Хоць забі, а з месца не зрушыш.

Як селі адпачываць, то і паснулі, а калі прачнуліся, дык раніца светлая навокал прамяні рассылала, нібы ад вогнішча вугольчыкі раскідала. Тэкля працёрла вочы і прашаптала:

— Петрачок, прыгажосць навокал якая. Глядзі...

Азірнуўся хлопец, і сапраўды: такой удалай мясціны пашукаць трэба было б. Учора яны проста стаміліся і было не да гэтага, а зараз усё ўспрымалася па-іншаму.

— Тут і станем жыць, тут і застанемся назаўсёды. Усё ёсць: і лес, і рэчка побач, і луг вунь які зелянее, ■ што нам яшчэ трэба? Тут і застанемся.

З таго дня, не разгінаючыся, сталі працаваць маладыя, спяшаліся, каб да маразоў хоць якое жыллё сабе збудаваць, бо як стукнуць яны, то смерць напаткае і ў гэтай прыгожай мясціне. Ніхто не пачуе, ніхто не дапаможа, надта далёка забраліся. Пятрок часам і на звера паляваў, бо і мяса трэба было запасаць. Шанцавала маладым — надвор'е стаяла добрае, дажджы не ішлі, сонца свяціла ад раніцы да самага вечара. Толькі працуй, не лянуйся, а там усё само па сабе прыйдзе.

Неўзабаве і хацінку невялічкую агоралі. Так сабе — напаўзямлянка, але затое з печчу і дах над галавою ёсць, цяпер можна было маразоў ды залеваў не палохацца. Вырашылі, што лепшыя будынкі ды жывёлу пачнуць заводзіць тады, калі разжывуцца, калі часу будзе на ўсё ставаць, а зараз самае галоўнае — да вясны дажыць. Так і зажылі.

Праз некалькі гадоў гэтую мясціну нельга было пазнаць, так распрацавалі і змянілі яе муж з жонкай. Усё, здавалася, было добра, неставала толькі дзяцей. Вінавацілі адзін аднаго, словы крыўдныя казалі, але гэта справы не мяняла. Пачалі скрыва глядзець ды адмоўчвацца, рабіць выгляд, што нечым занятыя і няма чаго размаўляць, калі справы стаяць. Сачылі, баяліся, каб дабра не пабраў хто, быццам бы навокал іх людзі жылі. Каб дзеці пайшлі, то па-іншаму ўсё развівалася б, а так...

Аднаго разу Тэкля падалася да блізкага ўскрайку лесу,

а Пятрок, ухапіўшы вострую сякеру, за ёю кінуўся. Цікава было даведацца, што гэта там збіраецца рабіць жонка. Краўся, імкнуўся быць незаўважным, але неўзабаве згубіў Тэклю. Ад адчаю ледзьве не заплакаў муж, плюнуў са злосці і павярнуў было ісці назад, ды тут якраз і натрапіў на жанчыну. Яна стаяла ля невысокай бярэзінкі і, як падалося Петраку, з кімсьці размаўляла. Ускіпеў тады чалавек: «Дык гэта ж яна ад мяне да некага на спатканні бегае! А я і не здагадваўся! Авохці мне!»

Падкраўся яшчэ бліжэй і як секане сякерай па галаве Тэклю, то тая моўчкі і звалілася долу. Азірнуўся навокал забойца, але паблізу нікога не было, адно толькі вецер ціха пра нешта шапатаў у вершалінах дрэваў. Спалохаўся Пятрок і кінуўся бегчы. Але нездарма ў народзе гавораць, што забойца доўга не жыве, яго смерць сама шукае. Так і тут здарылася. Нібы прыкіпеў Пятрок да падворка, нікуды не выходзіў і сканаў неўзабаве.

А на тое месца ўсяго праз нейкі год людзі прыйшлі, мабыць, таксама прыдатныя для сяўбы лапінкі зямлі шукалі. Убачылі будынкі і пачалі гаспадароў клікаць, але ніхто на іхнія крыкі не адклікаўся. Сталі шукаць і раптам адзін з мужчын крыкнуў:

— Глядзіце, браткі!

— Што там?

— Ды бераставіцы кавалак на камені ляжыць. Нейкі дзіўны, акрываўлены ўвесь, з плямінамі...

Спыніліся мужчыны, глядзяць і нічога не разумеюць. А бяроза, кажуць, з таго часу кару такую дзіўную мае, нібы на пляміны пабітую. Гэта, як пазней сталі сцвярджаць, вылілася кроў ні ў чым не павіннай жанчыны, якую звалі Тэкляй.

Так і засталіся людзі там жыць. Паселішча ж назвалі Бераставіцай.

## БЕЛАКОЗЫ

Вы думаеце, што толькі зараз усім расказваюць ды паказваюць, што людзі добра жывуць? Не, так спрадвеку было і, відаць, яшчэ доўга будзе, бо калі якое начальства ці панства, што раней усім светам кіравала, прыязджала, дык абавязкова толькі самае лепшае, самае спраўнае наперад высоўвалі, астатняе хавалі. Людзям дык увогуле загадвалі: калі не маеш добрай вопраткі, а ў рыззё апра-

нуты, то ў лес куды-небудзь хавайся, сыдзі на пару дзён. Потым перададуць, што ўжо можна выходзіць, назад вяртацца, да свае дамоўкі, бо працаваць жа трэба было, і тут ніхто не ўзіраўся, ў якой ты апранасе. Цягні, пакуль не ўпадзеш, а ўпадзеш, дык войт ці эканом яшчэ і падбяжыць ды гляне, ці сапраўды знясіліўся, ці толькі прыкідваешся. Так і Белакозы нашы з такога недарэчнага выпадку пайшлі. Мне так гаманілі, таму і вы слухайце. Чыстая праўда ўсё. Продкі хлусіць не любілі.

Аднаго разу захацела сама маці-каралева Бона праверыць свае землі. Зрэдку яна такое рабіла. Больш сядзела з прыдворнымі дамамі ды кавалерамі ў палацы, весялілася. Лілося віно, гучалі песні, музыка не заціхала, а калі ўжо захочацца чаго новага, то збіраліся і выязджалі на ўлонне прыроды. Усё ж нейкія свежыя ўражанні, новыя сустрэчы і на тыдзень-другі можна развеяць свой сум.

Так і тут. Загадала Бона:

— На тым тыдні хачу праехацца па сваіх уладаннях! Падрыхтуйце ўсё загадзя, каб потым не бегалі, каб не адмаўляліся, што не чулі! Рыхтуйцеся!

Сказала і пайшла сабе далей, размаўляючы з сяброўкамі. А тыя, да каго гэтыя словы былі звернуты, адразу ж пачалі «рыхтавацца». Паклікалі сваіх слуг і загадалі, пагражаючы самай бязлітаснай расправай:

— Скачыце на ўсю моц і перадайце загад — падрыхтавацца ўсяму насельніцтву сустракаць маці-каралеву! Каб усё чысцінёй блішчэла! Калі каго ў парванай вопратцы напаткаем, ці хто на лёс уласны паскардзіцца, што есці няма чаго, ці чаго іншага не хапае, то шкуру з жывых паспускаем! Так і ведайце! Хай паглядзіць наша каралева, што людзі добра жывуць, яе пастаянна хваляць, малітвы за яе здароўе высока да Бога ўзносяць! Каб толькі ў сёдлах людзі, сустракаючы яе, сядзелі! Глядзіце, перадайце, нічога не пераблытайце!

— Слухаем! — схіліліся слугі ў нізкім паклоне. Разагнулі потым спіны, ускочылі ў сёдлы і толькі пыл закурыўся ды стукат капытоў разнёсся па наваколлі. Адразу зніклі з вачэй, нібы іх нейкія віхуры пахапалі і панеслі на сваіх крылах.

Адзін з такіх служкаў-пасланцоў прыляцеў на ўзмыленым кані, хто яго ведае на які ўжо дзень, у невялічкую вёсачку, якая самотна стаяла сярод густых, непралазных лясоў. Для жыхароў гэтага паселішча самым важным і

недаступным начальнікам быў войт, які імі кіраваў, збіраў падаткі, сачыў за тым, каб спраўна працавалі на панскіх палях. А хто стаяў над ім, жыхары і не ведалі, ды, можа, і не надта імкнуліся даведацца. Ну што змянілася б у іхнім жыцці, калі б ім давялі, што гэтыя землі знаходзяцца ва ўладзе самой каралевы Боны? Хіба ж яны пасля гэтага сядзелі б, рукі склаўшы, а за іх нехта працаваў? Вось так падумаюць, пагамоняць паміж сабою вяскоўцы і далей працуюць. Пра адно думалі толькі, каб войт чаго не прычапіўся, бо тады яшчэ і бізуном апяража-ўзнагародзіць. А тут такая справа. Уляцеў коннік на поле і загарлаў асіплым голасам:

— Дзе войт?! Войт ваш дзе?!

Сяляне разагнуліся, глядзяць на вершніка, але адказваць не спяшаюцца. А той ад крыку шалее:

— Войт дзе, пытаюся?!

Нехта са старэйшых вяскоўцаў, пасміхваючыся, прамовіў:

— А чаго ўжо гэтак верашчаць? Можна і спакойна запытацца, тым болей што нам надта́ карціць гэтае пытанне...

— Адказвайце, а то насміхацца ўздумалі!

— Ды едзь ты адсюль, толькі не крычы, бо ажно ў вушах звініць. Ён спіць вунь там, на ускрайку лесу. У яго ўсіх спраў — паспаць ды пакрычаць.

Коннік імгненна джгнуў у той бок, куды яму паказалі. Услед яму панёсся дружны рогат.

Сапраўды, пад кустом, раскінуўшы шырока рукі і выставіўшы дагары вялізны жывот, спакойна спаў чалавек. Вершнік, не злазячы з каня, што было сілы апераза́ў яго бізуном. Яшчэ праз імгненне ўсё наваколле напоўнілася гэткім крыкам, нібыта адразу зараўло сто мядзведзяў. Але коннік не супакоіўся, лупцануў яшчэ разоў колькі і з'едліва прамовіў:

— Спіш, гад пузаты?! Каралева Бона праз пару дзён едзе гэтую мясцовасць аглядаць, а ён і ў вус не дзьмухае, спіць сабе ў цяньку ды на сонца лішні раз баіцца вылезці! Што будзе, калі маці-каралева які непарадак заўважыць? Хто за гэта адказваць будзе? Мой гаспадар?

Войт нічога не паспеў адказаць, бо бізун зноў узвіўся і шчыльненька апераза́ў вялікае, тлустае цела. Вершніку, відаць, самому падабалася бачыць, як гэты грозны і вусаты чалавек маўкліва зносіць абразу і пабоі. З беднымі ды гаротнымі ён не прывык сябе стрымліваць, а тут... яшчэ

разок улупіў слуга-пасланец, а потым злез з каня і мовіў больш спакойна:

— Значыцца, так. Загадана табе, каб людзі былі апрануты ў чыстую вопратку, каб усе вуліцы ды завулкі дагледжаны, хаціны ўпрыгожаны і, што самае галоўнае, каб усе мужчыны выехалі сустракаць пані-каралеву за вёску, і конна. Адным словам, каб усе сядзелі вярхом. Зразумеў?!

— Ага, зразумеў, — захістаў галавой войт, баючыся, відаць, што вершнік зноў возьмецца за бізун. — Усё зраблю належным чынам. Твой гаспадар няхай не хвалюецца. Усё зраблю...

— Глядзі, — пагрозліва прамовіў коннік і павярнуў каня.

Дзён праз колькі каралева Бона са шматлікімі слугамі, сябрамі ды сяброўкамі, а таксама аховай трымала шлях якраз па той самай дарозе, што ляжала ля невялічкай вёсачкі. Войт сапраўды пастараўся. Збаяўся чорт вусаты таго, што зноў яму тлушчу за шкуру зальюць. Сам асабіста ўсё праверыў, у кожны куточак, у кожную дзірку зазірнуў, прасачыў, каб быў парадак. Нават вопратку са сваёй хаціны параздаваў на ўрачысты дзень тым, у каго не было чаго апрануць. І, ведама ж, папярэдзіў, каб ягоныя падначаленыя ўсе выехалі верхам сустракаць саму маці-каралеву.

Узначаліўшы не такую ўжо працяглую ватагу сялян, якія пасталі абапал дарогі, маркотна апусціўшы галовы, ён сказаў:

— Глядзіце ў мяне! Калі маці-каралева, даруй Божа, запытаецца пра што, то каб вочы не ўздымалі, а адказвалі, што ўсё ў вас добра ды ўсяго хапае!

— Зразумелі, — ціха пранеслася сярод вяскоўцаў, — чаго там...

Неўзабаве закурыўся пыл і выразна пачулася конскае ржанне.

— Едуць, едуць, — спалохана зашаптаў войт.

Так, гэта ехала каралеўская міласць са сваімі прыбліжанымі.

Пад'ехалі бліжэй вяльможныя паны і паненкі і... зарагаталі так голасна, што нават не чуваць было шматгалосага хору жаб, якія дралі горлы ў бліжэйшым балоце. Яны рагаталі і паказвалі пальцамі на селяніна, які сядзеў вярхом на... казе.

— Пані каралева, пані каралева, вы толькі паглядзіце, да чаго дадумаліся! Гэта ж трэба...

— Галадранцы адны тут жывуць, дык на козах вас сустракаць выехалі!

— Што? — не зразумела Бона і выглянула ў акенца з экіпажа.

Як убачыла перад сабою сялян, каго на коніку, каго — на карове, а таго самага вяскоўца — на казе, то і яна зайшлася звонкім смехам.

— Падвядзіце яго сюды, — загадала каралева.

— Што ж гэта ты на казе мяне сустракаць выехаў?

— У нас усё добра, маці-каралева, — упаў ніц, як яго і вучылі, селянін, — але ў мяне коніка няма, а войт загадаў усім выехаць верхам, вось я казу і запрог...

— Ой, мой ясны Божа, — зноў зайшлася каралева смехам, — дайце гэтаму бедалагу коніка з майго абозу, каб ён памятаў пра нашу дабрыню.

Паехалі далей вяльможныя госці, але яшчэ доўга даносіўся іхні смех і словы:

— На белай казе выехаў... На казе... На белай казе...

Адтуль і засталася памяць, але не пра шчодрасць каралевы, а пра вяскоўца на белай казе. І назва засталася — Белакозы.

## КАРПАЎЦЫ

Жыў у нас тут некалі адзін чалавек. Звалі яго Карп. Ад яго і назва вёскі пайшла. Але вы паслухайце яшчэ пра тое, які гэта злыдзень ды страшнываўкалак быў. Мне давялося пачуць не адну гісторыю пра гэтага вяскоўца, пра тое, што ён вырабляў.

Калі Карп быў малады, то надта ўпадабаў адну дзяўчыну. Сама яна была хоць і надзіва прыгожая і працавітая, але з беднай сям'і. Звалі яе Уллянай. Багацця ў Карпавых бацькоў хапала, а браць сабе жонку багатую, але не прыгожую ды лянівую, Карп не хацеў. Тады і сказаў сваім старым:

— Пасылайце сватоў да Уллянкі! Болей нікога ў жонкі сабе не жадаю, толькі яе! Багацця ў нас хапае, а астатняе само прыдасца!

Так і зрабілі бацькі, бо сын у іх быў адзіны, а спрачацца не даводзілася па той прычыне, што ён ніколі ад сваіх слоў не адмаўляўся, упрэцца, як той баран, і нічым яго не пераканаеш.

Зажылі маладыя надзіва дружна і весела. Усё ў іх атрымлівалася хутка і якасна. Зайздросціць сталі людзі. Дзеткі таксама падрасталі дужыя, што тыя крамяныя грыбочкі. Дапамагаць сталі. Выйдзе маці жаць жыта, а за ёю прыладзяцца дзве дачкі, гэткія ж працавітыя і прыгожыя, як і яна сама ў маладосці, і толькі сярпочкі мільгаюць у іхніх руках, толькі снапы ззаду, нібы тоўстыя бочкі, ляжаць. Карп з двума сынамі дамоў збожжа вазіў. І гэтак на любой рабоце. Зайздросцілі сяляне, гаварылі:

— Во пашанцавала Улляне. З маладосці пашанцавала. Не паглядзеў Карп, што яна была з бедных, забраў. І дзеці якія дружныя ды ўдалыя выраслі. Толькі жыві ды радуйся. Дачакаліся старасці, можна і адпачываць спакойна. Няхай ужо маладыя працуюць.

Яно б так і атрымалася, каб усё ішло на добры лад. Ды толькі ліха нейкае ўвязалася ў іхнюю сям'ю. І пачалося ўсё пасля таго, як дзяцей сваіх пажанілі, замуж пааддавалі. Заставалася радавацца ды ўнукаў лашчыць. Ды з Карпам нешта здарылася. Замкнуўся, зрабіўся хмурным. Дзень цэлы праходзіць, а Улляне і слова не скажа. Зніякавела тая. Бачыць жа ўсё, адчувае, а з-за чаго муж стаў адварочвацца — здагадацца не можа. Трывала, трывала, а потым, даведзеная да адчаю, запыталася:

— Што з табой, Карп, сталася, што ты на мяне і глядзець не хочаш? Ведама ж, я зараз не тая маладая і стройная Уллянка, якой была ў дваццаць гадкоў, а старая, хворая жанчына, у якой баляць усе косці, круціць іх па начах. Але, нягледзячы на гэта, ні хвілінкі спакойна не сяджу, працую і табе ніколі не скарджуся. Калі нешта табе не падабаецца, у вочы скажы, няма чаго гнеў хаваць.

— А што тут казаць, — злосна азваўся той, — згубіў я з табой сваю маладосць. Усё жыццё перакосам пайшло. Не паслухаўся бацькоў, звязаўся з табой, вось таму зараз і маю такую сітуацыю... Што з цябе за жанчына? Ты ўжо на магілу дыхаеш, табе пра жывое думаць цяжка...

Пачула такія злосныя ды крыўдныя словы жанчына і залілася горкімі слязьмі. Села на зэдлік і галаву не ўздымае, адно толькі рукавом выціраецца. А муж, знай сваё, працягвае:

— Не хачу я болей з табой жыць. Не хачу. Жонку маладую ў хату прывяду, а ты выбірайся, каб і духу твайго тут не было.

Уздыхнула гаротна Улляна і пачала рэчы свае збіраць. Глянула з дакорам на мужа і гаворыць:

— Калі ўжо я табе гэтак абрыдла і не хочаш ты са мной жыць, то пайду да сына ці да дачкі. Яны мяне не прагоняць, кавалак хлеба заўсёды пададуць і дагледзяць перад смерцю.

— Не, да дзяцей я цябе не пушчу.

— Чаго гэта?

— Дык яны ж ад мяне тады адмовяцца, чужым людзям раскажуць, што ў нас з табою атрымалася. Я цябе лепей у лес завяду ды там пакіну ці са свету звяду, каб ніякіх чутак потым не папаўзло.

— За што ж ты са мной так вырашыў абысціся, Карп? Няўжо я была табе дрэннай жонкай? Няўжо нечым не дагадзіла? — заходзілася гаспадыня.

— Кінь ты верашчаць, сама ж ведаеш, што ўсё ў нас добра было, ды вось вырашыў я ажаніцца з маладой. Так што выбачай, але нічога перайначваць не хачу.

Зразумела Улляна, што як сказаў Карп, так і будзе, і скарылася. Села ціхенька за стол і нібы скамянела. Так і праседзела да самай раніцы. Відаць, думала пра жыццё сваё, пра маладосць, пра дзетак, якія зараз, у такі цяжкі для яе момант, былі далёка. На золку гаспадар устаў і прамовіў:

— Ну, што, паехалі?

Нічога не адказала жонка, моўчкі пакрочыла за ім, нават з самых неабходных рэчаў нічога не ўзяла, адчувала яе сэрца страшную бяду. Паселі яны на воз і паехалі. Азірнулася назад Улляна і перажагнула сваю хаціну, будынкі суседзяў, зашаптала словы малітвы. А гаспадар сядзіць сабе ды пасмейваецца:

— Не палохайся, старых звяры не чапаюць. Раптам нехта знойдзе і да сябе забярэ, тады да глыбокай старасці дажывеш. А да мяне і не спрабуй вяртацца, бо я стану жыць з маладой.

Едуць ды едуць, усё далей і далей ад вёскі ў пушчу забіраюцца. Карп выглядае зручную мясціну ды момант патрэбны выбірае, а Улляна сядзіць абыякавая да ўсяго.

— Глядзі, якая рабінка прыгожая стаіць. Можа, ты да яе падыдзі ды тут і застанься...

Улляна ўстала з воза і толькі зрабіла крок у накірунку да дрэва, як Карп ударыў яе ззаду сякерай па галаве. Гопнулася жанчына ў мяккі мох, і закрыліся яе ясныя вочы. Муж хацеў праверыць, ці жывая яна, нахіліўся, і ў гэты самы момант нябожчыца раптоўна пераўвасобілася

ў белую-бялюткую бярозу, якая паўстала перад забойцам нібы з-пад зямлі. Уздрыгануўся Карп, і пачуўся яму дзіўны голас:

— Запомні, злыдзень, не будзе і табе з гэтага дня шчасця! Не будзе! Я буду табе помсціць, а ва ўсялякіх нячыстых справах супраць цябе сведкай выступаць стану!

Асмялеў забойца:

— Ты?! Ды ты ж простая бяроза, як жа ты сведкай абернешся?! Смешна нават чуць такое.

— Пачакай, рана ты смяяцца ўздумаў. Рана... Прыгадаеш мае словы...

Але не звярнуў на гэтыя словы Карп увагі, павярнуўся ды паехаў назад.

Праз некаторы час узяў ён сабе другую жонку: маладую, здаровую. Пра тое, што здарылася з Ульянай, нічога не сказаў. І зажылі яны ладненька. Ды не доўга іхняе шчасце цягнулася. Аднаго разу паехалі Карп з маладой жонкай на кірмаш у суседнюю вёску, а дарога якраз ішла паўз тую бярозу, у якую пераўвасобілася Ульяна. Мужчына пра гэта і забыўся, інакш бы што-небудзь прыдумаў. Паганяе коніка ды пашчыпвае жонку, ▪ тая гуллівым смехам заліваецца. Ажно раптам пачуўся моцны голас:

— Дурніца, чаго ты смяешся? Цябе ж забойца абдымае! У яго рукі ў крыві! Адумайся!

Ускочыла жанчына і да Карпа:

— Што ты зрабіў, прызнавайся, бо сыду з дому! Гавары, нічога не ўтойвай.

Зразумеў той, што не выкруціцца, і расказаў пра тое, як забіў тут сваю першую жонку. Выслухала ўсё жанчына, а потым плюнула злосна і крыкнула:

— Не трэба мне такога шчасця! Жыві сам, ваўкалачая твая душа! Не хачу жыць з душагубам!

Уцякла ад яго другая жонка, і Карп адзін застаўся. Ссівеў увесь, нейк незаўважна згорбіўся. Людзі пачалі яго бокам абыходзіць. Ягоная хаціна нібы заклятай стала. Калі памёр злыдзень, яго пахавалі непадалёку ад таго месца, дзе ён Ульяну забіў, сам так прасіў. Пазней яго Карпаўкай назвалі. Адтуль і да нас дайшло, а потым перайначылі крыху — Карпаўцы.

# КРЫНКІ

Вы думаеце, наша мясцовасць і раней такой, як зараз, была? Памыляецеся. Тут нельга было прайсці пешкі, не тое што конна праехаць. Намучыцца чалавек, напакутуецца, пакуль да ракі праб'ецца, каб у човен сесці. Лясы навокал такія стаялі, што крыкнеш з раніцы — да вечара рэха па абшарах гуляе, асесці не можа. Звяр'я ўсялякага, птушак самых дзівосных было гэтулькі, што лічыць не пералічыць. З голаду не памрэш. Але і ў госці ці куды ў дарогу далёкую выбрацца — нібы на вайну. Развітваліся з блізкімі ды роднымі, мала што магло здарыцца падчас такіх вандраванняў. Тут і заблукаць няцяжка было, і на звера раз'юшанага напароцца, а то і на якіх ліхіх людзей наскочыць.

Бедныя — то па тры-чатыры чалавекі збіраліся, каб і весялей і смялей было, а багатыя, адпаведна, ахову шматлікую ды добраўзброеную з сабою бралі. Ім, вядома ж, лягчэй было, але, тым не меней, і яны даволі часта траплялі ў такія становішчы, што ўзносілі свае малітвы да Бога, каб дапамог і вывеў на роўны шлях, а яны ўжо ўсё жыццё будуць дзякаваць.

Так было. І цэрквы на свае грошы будавалі, і вялізныя храмы фундавалі, бо ўжо не спадзяваліся сярод жывых застацца і лічылі, што толькі Усявышні прыкрыў іх сваім крылом у той цяжкі момант.

Дык тут пра каралеву Бону згадваюць і год дакладны прыпамінаюць — 1500. Менавіта тады, калі верыць продкам, усё і адбылося.

Ніхто не ведае, куды брала кірунак каралева Бона. Можа, на радзіму да сябе, а можа, хацела праехаць куды ў іншыя мясціны, але ў тым самым годзе яна апынулася ў нашай мясцовасці. Здарылася гэта позняй вясною. А ў той год надарылася такая зацяжная і дажджлівая вясна, якой мо сто гадоў да гэтага не было ўвогуле. Каб каралева зараней у мясцовых жыхароў запыталася, дык яе своечасова і папярэдзілі б, але дзе ж вы бачылі, каб найяснейшая карона за парадай да простых мужыкоў звярталася? У яе ж у палацы гэтулькі паноў ды падпанкаў было і сярод іх столькі дарадчыкаў, што яны, калі б маглі, нанова свет сваімі парадамі збудавалі б.

Неяк Бона выйшла да сяброўак і гаворыць:

— Хачу праехаць у той край, дзе даўно ўжо не была.

Карціць паглядзець, як там людзі жывуць, чым займаюцца? Гавораць адно, але на ўласныя вочы паглядзець — зусім іншае.

Загаманілі тыя:

— І мы, і мы паедзем! І нам цікава!

Цікава-то цікава, ды няхай бы хоць адзін чалавек на добры розум распытаў у каго, што там зараз робіцца. А то пракрычалі і давай збірацца. Сабраліся. Вінаў усялякіх ды прысмакаў панабіралі, ахову, канешне, шматлікую прызначылі, музыкаў запрасілі і паехалі.

Спачатку ўсё было добра, дарога была выдатная, бо на нейкай адлегласці ад каралеўскага палаца за ёй пільна сачылі, каб яна раўнюткая ды чысцюткая была. Адзінае, што заставалася тут паненкам ды кавалерам, гэта жарты жартаваць ды песні спяваць. Бона была надзвычай задаволеная. З маладымі і яна сябе намнога лепей ды весялей адчувала. Згадвалася далёкая маладосць, бесклапотнае юнацтва, каханыя мужчыны. Эх, ды ці мала што магло ў каралеўскай галаве захоўвацца!

Ад'ехалі ад палаца ўжо даволі далёка. Нават пераначавалі разы тры ці чатыры ў незнаёмых мясцінах. І тут пачаўся дробненькі дожджык. Ніхто на яго спачатку і ўвагі не звяртаў: «Ат, курыны дожджык — не дождж!» Едуць сабе далей. Але што ні вярста, то дождж усё мацней і мацней лье. Ужо калёсы з цяжкасцю па разлезлай зямлі сунуцца, коні, гладкія ды спраўныя, грузнуць. Пахаваліся паны з паненкамі па экіпажах, не чуваць жартаў ды песень. Адно толькі чуваць пастаянна, як воі-дружыннікі перакрыкваюцца.

Бона ў сваёй карэце маркотна пазірала на сяброўку, якая сядзела насупраць яе.

— Што ўжо зараз рабіць? — нібы да самой сябе звяртаючыся, прамовіла яна. — Ці то назад вяртацца, ці наперад рухацца? Няўжо дождж і далей ліць будзе? Гэта ж затопіць і так ледзьве бачную вузенькую рыску дарогі.

Сяброўка маўчала. Можа, баялася адказваць на пытанні, а можа, проста не ведала, што параіць, і за лепшае вырашыла адмаўчацца.

Да вечара выбіліся на нейкі высокі курганок, і слугі пачалі разбіваць часовы лагер, каб было дзе распаліць вогнішча, абагрэцца, перакусіць ды адпачыць ад удараў, якія скаланалі целы ў экіпажах, прыгодных толькі для роўнай дарогі, а не для такой, па якой перасоўваліся ў гэтыя дні.

Бона загадала:

— Прышліце да мяне майго прадказальніка, няхай ён раскажа мне пра надвор'е ў бліжэйшыя дні. То ля мяне круціўся, а зараз недзе зашыўся і не відаць яго.

Неўзабаве ў шацёр нехта ціхенька пашкрабаў.

— Хто там? Прапусціце! — крыкнула Бона.

Гэта быў прадказальнік.

— Ну што? — пытаннем сустрэла яго гаспадыня. — Раскажы, ці перастане гэты пракляты дождж? Што нас чакае наперадзе?

— Можна з упэўненасцю сказаць, мая каралева, — распачаў той, — што дождж не сёння-заўтра абавязкова скончыцца. Можна смела рухацца. Вада за лічаныя гадзіны сыдзе, і ўсё будзе добра. Зорак зараз не бачна, але мне сон шчаслівы прысніўся...

Заспакоеная Бона ўлеглася спаць. Не ведала яна, што мелася адбыцца наперадзе, што самае страшнае чакала яе на наступны дзень.

Ноччу дождж ліў такі, нібы тысячы нябесных служкаў стаялі прама над пагоркам з вялізнымі вёдрамі і беспераплынна толькі і рабілі, што лілі, лілі, лілі, імкнучыся схаваць усё пад вадзяной роўняддзю.

Лагер ачнуўся даволі позна. Здавалася, што дзень увогуле не наступіў — гэтак пахмурна было навокал. Каралева выглянула з шатра і захінула полаг назад, бо на дварэ па-ранейшаму ліло.

З месца рушылі, можа, праз гадзіну, але гэта ўжо нельга было назваць яздой. Коні выжыльваліся, працягнуўшы размаляваныя і вялізныя экіпажы колькі крокаў, спыняліся. Лёкаі ды фурманы бязлітасна лупцавалі іх, крычалі, толькі жывёліны не рэагавалі. Некаторыя коні падалі на пярэднія ногі, і іх саміх ужо даводзілася выцягваць з гразі ды распрагаць, бо дапамогі ад такіх змучаных жывёлін амаль не было.

Усе маліліся Богу, звярталіся да яго ў малітвах. Прасілі найбольш аб адным: каб ўратавацца, каб перастаў дождж і выглянула доўгачаканае сонейка. Толькі неба маўчала, не пасылала літасці. Змагаліся са стыхіяй адныя слугі ды воі, а бравыя і хвацкія паны, якія гэтак хораша танчылі ды гарлалі песні, зараз пахаваліся і былі падобны на перапужаных жанчын.

Бона адчула сябе пакінутай. Ніхто не мог ёй дапамагчы. Ніхто, акрамя Бога ды тых людзей, якія пад праліў-

ным дажджом корпаліся ў густой, смярдзючай гразі, спадзеючыся неяк выправіць становішча. Каралева ўкленчыла перад абразом, які заўсёды знаходзіўся з ёю. На падлозе экіпажа было мокра, бо вада пралівалася і сюды, але жанчына не звяртала на гэта ўвагі. Яна маліла Усявышняга аб выратаванні.

Пачуліся крыкі аб дапамозе. Вада зносіла людзей. Пачалася паніка. Бона высунула галаву ў акенца і закрычала:

— Супакойцеся! Супакойцеся! Бог пачуе нашы малітвы! Пачуе! Толькі шчыра маліцеся!

Так параіла, а сама праз колькі хвілін ледзьве не загінула. Яе экіпаж шуснуў у крыніцу. У звычайны час гэта не здарылася б, бо і ахова і фурман яе заўважылі б, а тут, калі навокал плёскалася вадзяная роўнядзь, нельга было сарыентавацца. Ды і крыніца была б мелкай, а тут...

Засвісталі бізуны, застагналі людзі, якія кінуліся на выручку, але вады было па самае горла, і ў такой сітуацыі не надта натужышся. Перапалоханая Бона схапіла абраз і ўзняла яго над галавою.

— Божа, даруй мне мае грахі! Даруй, Усявышні, але выратуй! Я хачу жыць, я яшчэ не вельмі старая, каб загінуць у гэтай каламутнай вадзе! Божа, пачуй мае малітвы! Выратуй мяне, дапамажы, а я аддзячу!

Праз хвілін колькі вады ў экіпажы стала меншаць. Нехта са слуг радасна ўсклікнуў:

— Цяпер няма чаго баяцца, маці-каралева! Цяпер самае страшнае засталося ззаду! Выцягнулі мы экіпаж з крыніцы! Цяпер будзеш доўга жыць!

Выйшла Бона, нягледзячы на дождж, да людзей і пачала ім дзякаваць. А пасля загадала пабудаваць на тым самым месцы паселішча. Мала гэтага, сказала, каб у гонар усемагутнага Бога заклалі новую царкву.

Так усё і зрабілі. Вёску сталі зваць Крынкі, а ў царкве павесілі абраз у гонар маткі боскай Крынскай.

## ЛІШКІ

У нас тут паселішча з сівых часоў стаіць, але, праўда, тады яно было не вельмі вялікае, бо калі жывёлу выганялі пасвіць, то пасвілі ўсю адразу, не падзяляючы на асобныя статкі. Зганяць агулам і да вечара перапасвяць, толькі ўжо не адзін пастух за ўсім глядзеў, а два дарос-

лых чалавекі і яшчэ пару малых давалі ім для падмогі. Так па чарзе і спраўляліся, так і мінаў год за годам, пакуль...

Прыйшла чарга пасвіць статак двум суседзям. Яны некалі разам раслі, разам хлапцамі хадзілі, пажаніліся на родных сёстрах і да сівых валасоў разам дажылі. Звалі іх Іван ды Сцяпан. Выйшаў вечарам Іван да свайго плота і гукае:

— Сцяпан! Сцяпан! Дзе ты там?!

— А што здарылася? — высунуў ускудлачаную галаву сусед. — У чым патрэбу пільную маеш?

— Ці не забыўся ты, суседзе, што мы заўтра з табою кароў пасвім?

— Ды не, не забыўся. Памятаю. Ужо і торбу амаль нарыхтаваў. У мяне, брат, усё зараней рыхтуецца, так што не толькі памятаю, але і збіраюся.

— То і я пайду збірацца, — азваўся Іван. — Маеш ты рацыю, што да ўсяго трэба заўсёды гатовым быць.

— Паслухай, давай мы толькі ўдваіх пагонім, навошта нам яшчэ тых жэўжыкаў малых з сабою цягнуць? Хай лепей дома галёкаюць. Дапамогі з іх усё роўна мала, адны клопаты ды турботы, — нечакана запрапанаваў Сцяпан.

Дзіўна, але Іван адразу пагадзіўся:

— Канешне, навошта нам іх браць? Няхай дома, з бацькамі, сядзяць. Няўжо мы гэткія старыя, ні на што не здатныя, што і кароў ужо не адпасвім самі?

— То я папярэджу іхніх бацькоў, скажу, што самі ўсё зробім.

На тым і разышліся суседзі.

Раніцай, яшчэ толькі-толькі туман пачаў разыходзіцца і крыху паружавела неба на ўсходзе, а Іван ужо тоненькім галаском крычаў, ідучы па вясковай вуліцы:

— Выганяй! Выганяй!

Яму басістым голасам ўторыў Сцяпан:

— Чакаць не будзем! Выганяй!

Прыгналі яны статак на луг. Каровы пачалі дружна траву скубці, а пастухі паселі даглядаць іх. Нечакана Сцяпан запрапанаваў:

— А давай, братка, прыгадаем, у якія гульні мы з табой гулялі ў дзяцінстве, калі кароў пасвілі.

— А ў што гуляць станем?

Іван задуменна пакруціў галавою і выдаў:

— Пра багатага і пра беднага не забыўся?

— Як можна пра такое забыцца. Давай.

Як малады конь, высока ўскідваючы ногі, панёсся ўздоўж луга Іван. Сцяпан глядзеў яму ўслед і маўчаў. Потым і ён прыпусціў за сябруком.

— Колькі ў цябе зямлі, чалавеча? — крыкнуў Сцяпан.

Спераду данеслася:

— Многа... Многа... Многа... Я самы багаты ў гэтым краі...

— А ці ёсць у цябе лішкі, каб і мне дзе побач зажыць?

— Ёсць... Ёсць... Ёсць...

— Дык ты не супраціў, калі я стану жыць на тваіх лішках?..

— А працаваць на мяне будзеш?

— Ды ўжо ж, буду, буду, — нерашуча пагадзіўся «бядняк» Сцяпан.

— Пайшлі тады назад да вогнішча, там будзем іграць.

Ля вогнішча Іван зірнуў на свайго суседа звысоку:

— Ідзі-тка, чалавеча, паадганяй пярэдніх кароў, бо нешта яны да патравы кіруюць, каб потым нам ад гаспадароў не перапала...

Сцяпан паджгаў, а Іван ляжаў ды пасмейваўся. Весела яму было ад такой гульні. Так да полудня моўчкі ўсё рабіў сябар. Засопся моцна, стаміўся і на чарговы загад «багатага» запрасіўся:

— Слухай, пане-Іване, у мяне ўжо ўсяго з лішкам. Давай, можа, памяняемся, каб да вечара спакойна дахадзіць. Давай цяпер я буду багатым, а ты бедным...

Але дзе ж гэта вы бачылі, каб хоць адзін раз багаты бедным пажадаў стаць? Упёрся Іван:

— Не, мы так не дамаўляліся.

— Але ж мы і не дамаўляліся, што я пастаянна бедным буду. Бачыш ты на яго, зноў, як у дзяцінстве, усё толькі ён ды ён, а пра мяне і не дбае.

— Табе што, чалавеча, маіх лішкаў мала? Нестае нечага?

— Ды падавіся ты сваімі лішкамі, — выгукнуў ужо не на жарт раззлаваны Сцяпан, — злыдзень ты несусветны, вось ты хто! Каб табе твае лішкі жыць мулялі!

Іван не вытрымаў такой абразы і таксама пачаў «жадаць» свайму суседу ўсяго таго, чаго звычайна бабы ў спрэчках адна адной жадаюць.

Гарлаюць старыя вяскоўцы, толькі водгулле па наваколлі нясецца, а пра каровак забыліся. Тыя галовамі сюды-туды пакруцілі і ў патраву кінуліся, бо панскія палеткі зусім побач былі. А мужчыны раз'юшыліся і вось-вось

ужо за чубы возьмуцца. Але нешта ўсё ж стрымлівала. Каб, можа, Сцяпан супыніўся ці Іван паддаўся, то і разышліся б. Ды не адбылося такога.

Сцяпан крычыць:

— Каб ты спрах са сваім багаццем, са сваім набыткам, са сваімі лішкамі! Каб яны табе ў горле да самае смерці стаялі, а пасля смерці на грудзі каменем шматпудовым наваліліся!

Пасля такіх слоў Іван як ухопіць суседа за бараду, як лупяне яго кулаком у грудзі! А Сцяпан не паддаецца, уцэліў нагою сябруку якраз у такое месца, што той ажно скруціўся і засыкаў ад болю.

— А каб жа ты спрах! За што ж ты мяне лупасіш?!

— А ты мяне за што? — запытаўся ў сваю чаргу Сцяпан, выціраючы рукавом кроў з разбітага твару.

Можа б, зноў сышліся, ды пачулі зусім блізка нейчы адчайны крык:

— Ах вы, валацугі! Ах вы, абібокі! Ах вы, старыя дурні!

Азірнуліся яны і ўбачылі, што джгае да іх верхам на коніку панскі войт і на чым свет лаецца. Кінулі поглядам туды, дзе павінна была быць жывёла, і... жахнуліся. Яна ўся, да аднае, была на панскіх палетках.

— Ім сівізна ў бараду, а чорт у рабро! Вунь чым задумалі за каровамі займацца! Будзе сёння і вам, і аднавяскоўцам! Яны дык ні ў чым не вінаватыя, але штраф заплоцяць, а вам перад панскімі вачыма давядзецца пастаяць!

Як пачулі сяляне пра пана, пападалі ніц на зямлю і давай войта прасіць не весці да памешчыка. Той быў чалавек неблагі, таму і адказаў:

— Каб ваша віна меншай была, то адпусціў бы. Але ж патравілі вы каровамі, патапталі столькі, што тады самому давядзецца адказваць! Пайшлі да пана!

Расказаў войт памешчыку пра ўсё, што на лузе бачыў, і паказвае на Івана са Сцяпанам.

— Вось яны ўсё і зрабілі, пане. Біцца ўздумалі, а за жывёлай не глядзелі!

— З-за чаго гэта выбрыкі такія на старасці гадоў выкідваеце? — пытаецца пан.

Сяляне маўчаць, толькі галовы ніжэй апусцілі.

— Ну? — раўнуў гаспадар палаца. — Языкі праглынулі?

— Ды мы, пане, у лішкі гулялі, як у дзяцінстве, — невыразна пачаў Іван, відаць, на правах таго, што быў у гульні старэйшым.

— У што? — здзівіўся пан, але потым схамянуўся і гукнуў:

— Войце, на стайню іх, ды лазы, лазы абодвум, каб ажно лішак застаўся! Хай ведаюць, як старымі ды дурнымі быць!

Як завялі старых на стайню, як разлажылі побач ды як усыпалі лазы, то яны ажно пішчалі там. Сцяпан болей маўчаў і толькі круціўся, а Іван — той галасна выў.

Назад суседзі ледзьве сунуліся. Сцяпан мармытаў:

— Каб хоць людзі не даведаліся, бо прайсці не дадуць, смяяцца на кожным кроку будуць.

Іван жа толькі галасна стагнаў.

Ды дзе ж ты ад людзей схаваешся. Не паспела развіднець, а суседзі ўжо на падворкі да сяброў заглядваюць ды пытаюцца:

— То раскажыце, як гэта вы ўчора лішкі дзялілі?..

Зразумелі старыя, што далі маху, што нічога ўжо не перайначыш.

Так яно і павялося. Усе гаварылі, што з Лішкаў іду, а потым дадавалі: ад тых Івана ды Сцяпана. З цягам часу дадатак той згубіўся, а Лішкі засталіся.

## СТАРЫНЦЫ

У нашай вёсцы жыў адзін дзед з бабай. Перабіваліся з хлеба на ваду, асаблівага багацця да глыбокай старасці гэтак і не нажылі. Так ужо, мабыць, павядзецца, што аднаму шанцуе, а другому, наадварот, не надта. Так і з імі здарылася. Багацця не нажылі і, што самае горшае, дзяцей таксама не мелі. Неяк лёс іх увогуле пакрыўдзіў. У суседзяў дзеці, унукі дапамагаюць, а яны толькі ўдваіх на ніве шчыруюць. Як маладыя былі, то нічога, можна было трымацца, а як сілы пачалі пакідаць, то надзвычай цяжка жыць стала. Сядуць удваіх і давай плакаць ды слёзы выціраць, суцяшаць адзін аднаго. Але ці ж гэтым у горы дапаможаш? Тым часам і памешчык на іх зуб займеў. Пачаў дзе толькі можна праследаваць, караць па ўсялякай нагодзе. Убачыць і яшчэ здалёк гукае:

— Ці хутка вы ўжо па гэтым свеце валачыцца перастанеце?

У старых сэрцы кроўю абліваюцца, але не паказваюць сваёй скрухі:

— Паходзім яшчэ крыху. Паходзім, паночку...

— Калі ўсю зямлю апрацаваць не здолееце, забяру палову, а калі і яе не будзеце даглядаць, то таксама да сваіх палеткаў прырэжу!

Што ж тут казаць будзеш, калі сапраўды сілы неставала гэтак працаваць, як у маладосці некалі, калі, здавалася, горы ўдваіх маглі з месца зрушыць.

Пан папалохаў, папалохаў дый забраў палову зямлі. Прычым лепшы, урадлівы, кавалак адрэзаў, а горшы пакінуў. Паплакалі старыя, але скардзіцца ні да каго не пайшлі, бо не спадзяваліся знайсці падтрымку сярод чужых людзей.

Звечарэла, а яны ўсё сядзяць і перажываюць. Потым дзед не ўтрымаўся і гаворыць:

— Ай, навошта нам на самай справе гэтулькі зямлі? Усё роўна апрацоўваць ніхто не дапамагае, а пракарміцца пракормімся і з тае, што засталася.

Гаспадыня толькі загаласіла ў адказ:

— Мы ж на яе гэтулькі сілы, крыві ды поту патрацілі. Мы ж на яе гэтулькі часу грошы збіралі, каб купіць, каб выкруціцца з нястачы, і вось што атрымалася...

Нічога на гэта не адказаў дзед. Зачмыхаў у нос ды выйшаў на падворак. Каму хочацца бачыць, як чалавек убіваецца, ды і ў самога на душы нясоладка было.

Раніцай паселі за сталом, тут дзед павагаўся-павагаўся і кажа:

— Не ўпрацуемся мы сёння з табой, старая, на полі. Пайшлі лепей на рыбу сходзім. Хоць што-небудзь зловім, нейкая ж паядуха будзе. Галовы нашыя там адпачнуць ад перажыванняў, ветрык нас паласкае...

— Давай сходзім, а раптам і сапраўды пашанцуе.

Узялі сець вялікую і пакіравалі да рэчкі, якая непадалёку працякала. Але ўжо як не шанцуе, то з самае раніцы і да вечара. Вылазілі па вадзе, умачыліся па шыю, памерзлі, а рыбы ніякай не злавілі. Стары ўжо ледзьве дыхае, але спадзяецца на лепшае:

— Апошні раз сець закінем. Калі і зараз нічога не будзе, то дамоў пойдзем.

Выцягнулі сець, а там ніводнай рыбінкі, толькі... небарака рак заблытаўся і трапешчацца, клешні свае расставіўшы. Сталі старыя і глядзяць, што з ім рабіць, думаюць.

— Давай занясём дамоў, зварым ды з'ядзім, а юшку тую з бульбай вып'ем. Пераб'ём голад, — параіў дзед.

Баба, нібы і не чуе, пра нешта сваё разважае.

— Чаго ты, старая, маўчыш? Ці незадаволена нечым?

— Незадаволена, дык гэта само па сабе, але я мяркую па-іншаму.

— Як гэта?

— Будзем мы рака, старэнькі, за сына сабе гадаваць. Есці яму трэба нямнога, а з ім нам стане весялей...

— Хай так і будзе, як ты гаворыш.

Прынеслі рака дамоў і сталі за ім, як за малым дзіцём, глядзець. Цяпер ужо баба дома заставалася, а дзед сам на поле ехаў, бо шкадавалі ж свайго малога.

Аднаго разу вечарам дзед і гаворыць:

— Я, гаспадыня, заўтра на наша далёкае поле паеду. Трэба там пачынаць араць, бо за адзін дзень не ўпраўлюся. Давядзецца і пераначаваць. Ты б толькі есці мне паднесла...

— Едзь сабе спакойна, усё зраблю. Можа, хто з суседзяў туды ехаць будзе, дык і я пад'еду, каб не таптаць тых далёкіх вёрстаў...

Пагаманілі паміж сабою і палеглі спаць. Раніцай, на самым золку, дзед усхапіўся і давай хуценька збірацца. Не прывык ён сонца седзячы сустракаць, не хацелася яму, каб людзі лішні раз казалі, што старасць — не радасць. Сам добра гэта ведаў, але характар меў гарачы да працы. Усяго нейкіх паўгадзіны патраціў, а ўсё было гатова. Развітаўся са старой і пакіраваў коніка за вароты.

Баба дома таксама не сядзела рукі склаўшы, а ўсё па хатніх справах бегала-круцілася. Не забывалася і на іхняга сынка-рака глянуць.

Прайшоў той дзень, настаў другі. Трэба збірацца ды мужу есці занесці. Далёка ісці, але няма нікога, каб дапамог. Толькі яна так падумала, ажно чуе тоненькі галасок:

— Мамачка, а давай я занясу тату есці ў поле. Я малы, але ногі ў мяне спрытныя. Не паспееш ты пару разоў прысесці ды адпачыць, як я забягу на ніву...

Старая ажно рот ад здзіўлення разявіла. Туды-сюды глядзіць — не бачыць нікога. Ужо падумала, што, можа, прымроілася, але зноў галасок той загучаў:

— Мамачка, не шукай мяне нідзе. Я ж побач, ля тваіх ног...

Глянула туды і сапраўды — рак ля ног круціцца.

— Давай, матуля, ежу, панясу тату ў поле...

Падумала, што жартуе рак, ды той узяў за вузельчык і лёгка прыўзняў яго, другой кляшнёй ухапіў гаршкі-спарышы.

— Я пайшоў, — толькі і пачула гаспадыня.

Стары араў поле. Многа зрабіў, але многа яшчэ і заставалася. Надта карцела яму да вечара ўправіцца, каб ведаць, што тут усё ў парадку, і потым ужо смела адпачываць дома. Стома цяжкім каменем давіла на плечы, на грудзі, ды баяўся, што калі сядзе, то ўжо не ўстане, не здолее працаваць далей. Таму і стараўся з апошніх сіл. Прайшоў баразёнку ў канец нівы, павярнуў коніка і тут чуе:

— Добры дзень, тата! Я табе есці прынёс! Сядай, адпачні, а я тым часам за цябе папрацую!

Здзівіўся стары, нічога не разумее. І тут убачыў на мяжы рака, што сядзеў побач з вузельчыкам і спарышамі. Так лёгка зрабілася гаспадару, так хораша, што першы раз у жыцці дапамога нейкая з боку прыйшла. Хацеў адмовіцца, але сілы ўжо неставала. Сеў і стаў есці, а рак коніка пагнаў і сам за саху трымаецца.

Пан жа той злы пастаянна за старымі сачыў, каб і астатняе поле адабраць. Ледзьве дзень канчаецца — едзе правяраць, ці дагледжана яно. І ў гэты раз вырашыў зрабіць тое ж самае. Пад'ехаў у лёгенькай брычцы і, не вылазячы з яе, узірацца пачаў. Бачыць — ідзе конь і... сам па сабе арэ. Валасы сталі дыбарам у памешчыка. Звярнуўся да лёкая:

— Колькі жыву на гэтым свеце, а такое ўпершыню бачу! Гэта ж трэба — конь сам арэ! Нешта тут не тое! Пайду бліжэй, паназіраю...

Вылез з брычкі і папраставаў праз поле да коніка. Амаль ужо падышоў, і тут пачулася, нібы з-пад зямлі:

— Ты хто такі, каб наша поле дратаваць?! Чаго ты тут лазіш?! Хто табе дазволіў?!

Узлаваўся пан, хто гэта яго так лае? Прыгледзеўся лепей і ўжо хацеў ухапіць рака рукою, але той як цапнуў кляшнёй за панскі нос, то як трое самых здаровых вяскоўцаў ухапілі. Паспрабаваў было памешчык неяк крутнуцца ды вызваліцца, але толькі горш зрабіў: кляшня яшчэ мацней заціснулася на панскім носе.

— Пусці! Пусці мяне! Што я табе благога зрабіў?!

— Але ж ты і добрага нічога нікому не прынёс.

— Пусці!
— Не пушчу, хоць трэсні!
— Адпусці! Што хочаш прасі, але адпусці!
— А не падманеш?
— Не.
— Вось гэта зусім іншая справа...
— Дык пускай.
— Не, ты паабяцай, што сёння ж вернеш нашу старынку-зямліцу, якую ў майго таткі сілай забраў.
— Зраблю, толькі адпусці, — прамовіў пан.
Як толькі сказаў, рак яго і адпусціў. Але гэта ўжо не рак быў, а здаравенны хлапчына з шырачэннымі плячыма, нібы тая печ.
Пазней аказалася, што ён быў таксама благім і яго ведзьма ў рака ператварыла. Сказала, што зноў стане чалавекам, калі нешта добрае зробіць. Так і сталася.
Добра зажылі тады старыя за плячыма ў свайго сына. Ён усё сам рабіў. Ажаніўся потым, дзеці пайшлі. Сваё паселішча заснаваў, на ўласнай зямлі, на той самай Старынцы.



# ДЗЯТЛАВА

Жыла-была тут некалі адна баба, і быў у яе сын. Так ужо здарылася, што сама яна была дужа старая, дзед яе даўно памёр, а вось сын быў малады, можа, гадоў дваццаць. Звалі яго Фёдарам. Старую ж тую звалі Альжбэтай. Мабыць, шляхецкага роду была, але збяднела зусім, амаль нічога за душою не мела. Толькі што і засталося, дык гэта злы характар! Вось дзе ўжо жанчына была! Як усходзіцца з кім, як пачне лаяцца, то ніколі не саступіць, гатова дзень і ноч на сваім стаяць. Такога ўжо нажадае, такога наабяцае, што, калі б хоць дробная частка таго здзейснілася, свет белы некуды праваліўся б, сонца свяціць перастала б. Нават калі выплывала, што яна вінаватая,— ніколі прабачэння ў людзей не прасіла. Вяскоўцы ведалі яе нораў, таму стараліся не чапаць ці саступалі ў нечым малым, каб да буйнога справа не дайшла, бо тады горай будзе. Скажуць толькі: «Альжбэта завялася — можна ісці спаць спакойна, да раніцы ніякі злодзей ці ліхі чалавек сюды не пойдзе, а калі выпадкова напорацца, то да наступнага вечара і ногі тут свае пакіне ці без вачэй застанецца. Будуць ведаць, як шастаць там, дзе не трэба», — і разыдуцца па хатах.

Маці Фёдарава ведала, што пра яе кажуць, але не перайначвалася. Такія чуткі ды размовы яе яшчэ болей падагравалі, рабілі нястрыманай.

З сынам жанчына абыходзілася больш-менш спакойна, праўда, гэта доўжылася да таго часу, пакуль хлопец не пачаў супярэчыць ёй. Відаць, і яму надакучыла такое жыццё: з самае раніцы да вечара крыкі ў хаціне, ні пасядзець спакойна, ні адпачыць. Спрабаваў ён супакоіць маці:

— Мама, перастань, чаго гэта ты ўсхадзілася? Хіба ж нейкая зачэпка ёсць? Людзі і так ужо над намі смяюцца, гавораць усялякае...

— Хто смяецца? Што гавораць?

— Ды вяскоўцы...

— А што на мяне благога можна сказаць?

— Кажуць, мама, што на цябе і сучка гаўкнуць баіцца, бо ты і яе так абняславіш, што ёй да скону сабачага веку сорамна будзе на вочы паказвацца.

— А каб ты сам на тую сучку гаўкаў. Ці можна на родную маці такое казаць?

— Ды не казаў я, мама, нічога такога, — пачынаў апраўдвацца бедалага-сын.

— Мне што, вушы пазаклададала? Ты ж толькі што казаў...

— Ды не я гэта казаў — людзі.

Альжбэта не супакойвалася, і адзінае, што заставалася сыну, — гэта збегчы з хаты і пачакаць, пакуль маці супакоіцца ці счэпіцца з кім-небудзь іншым.

Аднаго разу ледзьве да вялікай бяды не давёў жанчыну гэты злы язык.

Пайшла яна неяк да студні па ваду. А там жанчыны стаялі і размаўлялі. Ведама ж, з раніцы спаткаліся, то колькі хвілін і адпачыць можна, бо потым працаваць трэба ісці, там ужо не да гамонкі будзе. Альжбэта павіталася з імі. Жанчыны адказалі, акрамя, як падалося той, адной — кавалёвай Тэклечкі. Ну і ўсхадзілася жанчына:

— Каб жа табе дзеці твае дзень добры не давалі, каб яны цябе не паважалі! Каб табе сто кулакоў у плечы грукнула, калі ты на каго глянеш!

Паспрабавалі было жанчыны даказаць, што дзяўчына таксама павіталася, толькі Альжбэта недачула, але тую такое ўдакладненне толькі ў ярасць увяло.

— То што, я можа яшчэ і глухая ды дурная? Можа я не ведаю, што вы пра мяне брэшаце?

— Каб ты насупраць ветру брахала, — адрэзала адна з жанчын, павярнулася і пайшла прэч.

Альжбэту гэта настолькі выбіла з каляіны, што хвілін колькі яна бязгучна зяхала ротам, але потым пачала з новай сілай. Невядома, чым бы справа закончылася, але на крыкі выскачыў з падворка Фёдар. Як пачуў ён, што гэта на Тэклечку маці шле праклёны, то і ўвогуле расхваляваўся. Справа ў тым, што яму была даспадобы гэтая дзяўчына. Не раз, не два з ёю разам з вячорак дамоў вяртаўся, і Тэклечка рада была і пагаманіць, і пастаяць з ім.

— Што гэта ты, матуля, на дзяўчыну ўскінулася? Што яна табе не так зрабіла? Чым угнявіла? — пытаецца, а сам рукамі па зрубу драўлянаму пастуквае.

— Ды ўжо ж угнявіла, табе якая справа? Чаго ты сюды вылецеў?

— Колькі можна на людзей гыркаць, нібы на сабак, колькі можна з імі сварыцца?

— А твая якая справа?

— Дык я ж твой сын, мне сорамна...

— Ой, яму сорамна! Вы толькі паглядзіце! Чаго ты сюды прыбег ды, нібы дзяцел дзюбаю, рукамі стукаеш? Думаеш, я цябе баюся?

— Так, сорамна. А ў цябе, дурында, сораму няма. Ты, відаць, гэтага і не ведаеш, бо каб ведала, так бы не рабіла.

— Як ты сказаў?

— Як чула, так і сказаў.

— А ці можна на маці?

— А ці можна на людзей?

— Пракляну!

— Што хочаш рабі, але далей гэтак жыць нельга, — адрэзаў сын.

Людзі стаялі і слухалі лаянку. Шкада ім было хлопца, але ўступіцца не асмельваліся.

Альжбэта, пырскаючы слінай, заверашчала:

— Каб жа ў цябе, сынку, таксама сын быў і на яго палена ўпала ды да смерці забіла, а ты каб усё гэта на ўласныя вочы бачыў! Раз ты мяне гэтак абражаеш, то няхай і з табой ды з тваімі нашчадкамі ўсялякае ліха здараецца! Сказала — пракляну — і праклінаю!

У адказ Фёдар нічога не сказаў, толькі азірнуўся на людзей, на Тэклечку і моўчкі пайшоў прэч ад студні.

Заплакалі некаторыя жанчыны, маўляў, што ж гэта

яна, злыдня, нарабіла. А хлопец як пайшоў, то дамоў і не вярнуўся.

Першую ночку Фёдар пераначаваў у стозе. Нагрызлі-накусалі яго там камары, крыві выпілі процьму. Цяпер зразумеў хлопец, што трэба было хоць нешта з вопраткі ды з ежы ўзяць, бо і есці хочацца, і халаднавата ноччу па стагах хавацца. А што наперадзе чакае — адзін Бог ведае.

Так яшчэ некалькі дзён ды начэй прайшло. Стаміўся моцна хлопец, згаладаўся. Нарэшце натрапіў на вёску. Падышоў ён да крайняй хаціны, бачыць — баба нешта робіць. Крычыць сама сабе, лаецца моцна, але ўсё ж нечым занята. Наблізіўся да яе Фёдар і пытаецца:

— Што гэта ты, гаспадыня, дай Бог табе здароўечка, робіш? Чым ты гэтак незадаволена? Можа я нечым дапамагу?

— Дзякуй, чалавеча, на добрым слове. За тое, што здароўя мне пажадаў, — таксама. А праца ў мяне амаль завершана, ды тут адна складанасць атрымалася... Пашыла я свайму старому сарочку новую, а ён, недарэка, ніяк яе не апране. Суне на галаву, а галава не пралазіць. Дык я ўзяла і вынесла на вуліцу, каб палена якое ўзяць і справу гэтую прыскорыць.

— Паленам?..

— Ага, міленькі, паленам. Яму дапамагу, то ён хутчэй зразумее...

— А дзе ж тая сарочка?

— Ды вунь, на калодзе ляжыць.

Узяў Фёдар сарочку і ажно жахнуўся — была яна ўся ў крывавых плямінах, відаць, баба не першае палена ў рукі брала, каб дзеду свайму дапамагчы. Падняў сарочку ўгору, а яна як мяшок пашыта, і дзірка для галавы ўвогуле адсутнічае. Засмяяўся тады хлопец і кажа:

— Не трэба, гаспадыня, палена, я і так дапамагу твайму старому.

— Дапамажы, добры чалавек, я цябе аддзячу.

Зайшлі яны ў хату. Фёдар акуратна прарэзаў дзірку ў сарочцы і надзеў яе на пераляканага дзеда. Вось ужо стары ўзрадаваўся. Усхапіўся перад падарожным і кажа:

— Дзякуй табе, хлопча. Не ведаю, што табе за плату даць. Няма ў нас асаблівых багаццяў, але ўсё ж дам крыху грошай, бо не магу не аддзячыць.

— Мне, дзеду, не так грошы патрэбны, як пераначаваць ды перакусіць чаго...

— Ну, гэта мы зараз, гэта ў нас ёсць.

Паснедаў Фёдар і заснуў мёртвым сном прама за сталом, ледзьве перасунулі яго гаспадар з гаспадыняй на ложак.

Прачнуўся хлопец раніцай і думае: «Пайду я адсюль, бо тут людзі не вельмі разумныя, калі з-за такой простай рэчы гэтак адзін з аднаго здзекуюцца».

Пакармілі яго гаспадары, развітаўся ён і пайшоў далей.

Дні тры дарогу мераў, стаміўся і стаў нагледжваць, дзе лепей на начлег спыніцца. Ажно чуе — нехта галосіць, ды так нудліва і жаласліва цягне, нібы па нябожчыку заходзіцца. Кінуўся ён туды і... ледзьве не зарагатаў і не пакаціўся са смеху па зямлі, ды неяк стрымаўся. А ведаеце, што ён убачыў? Стаіць баба і штаны ў руках трымае, а на страсе дзед сядзіць ў адной сподняй сарочцы, нешта на вока прыкідвае, потым нечакана як гопне на зямлю. А баба як закрычыць: «Ой, боўдзіла старое! Зноў міма! Зноў жа ў штаны не патрапіў! Ой, што мне рабіць?! Людзі ж смяяцца будуць, праходу не дадуць!»

Тут толькі да Фёдара дайшло, што дзед не проста так на страху залазіў, ён жа адтуль хацеў у штаны патрапіць, якія баба ўнізе трымала.

— Што гэта вы, людзі добрыя, тут слязьмі заліваецеся? Можа вам нечым дапамагчы? — звярнуўся да старых хлопец.

— Ой, Божачкі, няўжо нам нехта здолее дапамагчы. Тут жа бяда такая... Пашыла я свайму старому новыя штаны, а ён, колькі ні кідаецца са страхі, ніяк у іх не патрапіць. Лічы, ад самае раніцы тут стаю ды камандую ім.

— Не трэба мне твае штаны, — катэгарычна запярэчыў стары, — я і так пабегаю. Калі яшчэ раз скокну, то душа ад цела адляціць. Каму тады твае штаны спатрэбяцца?

— Дапамагу я вам у гэтай справе, — азваўся Фёдар.

— Будзь ласкавы, родненькі, будзь ласкавы, — у адзін голас загаманілі старыя.

— Давайце сюды вашы штаны, — закамандаваў Фёдар. — Дзеду, хадзі сюды. Не палохайся, гэта не балюча. Усунь адну нагу вось сюды, цяпер другую стаўляй. Зараз дзягу якую ў пояс прасунь, каб не спадалі.

— Няўжо я іх так хутка апрануў? Памятаю, як некалі ў тыя ўскокваў, то амаль да самага вечара прамучыўся. Пайшлі ў хату, частаваць цябе будзем за добрую справу.

Паселі за стол, хлопец паеў, а потым баба паслала падарожнаму і той лёг спаць.

Прачнуўся Фёдар раніцай, ляжыць і разважае. І сумна яму стала, што гэтулькі часу марна патраціў, гэтулькі зямлі пешшу перамераў, а ад такіх неразумных людзей, як ягоная маці, не пазбавіўся. Вырашыў хлопец вяртацца дамоў, але жыць асобна. Няхай сабе старая жыве, як хоча, а ён сам будзе будаваць сваё жыццё.

Развітаўся Фёдар з гасціннымі гаспадарамі і пакіраваў дамоў. Доўга прабіраўся ці не, хто ж яго ведае, але неяк дайшоў. Не паспеў высунуцца на вуліцу, якая вяла да роднай хаціны, як пачуў нейчы дзіцячы голас:

— Глядзіце, Фёдар Дзяцел вярнуўся. Недзе ж гэтулькі часу блукаў...

Маці незвычайна ўзрадавалася, што сын прыйшоў, з гарачкі нават паабяцала, што болей сварыцца ні з кім не будзе. Ды дзе там! На наступны ж дзень з суседзямі счапілася.

Фёдар тады ўзяў з сабою самае неабходнае і пайшоў ад яе. Збудаваў сабе хацінку прыгожую, як лялька, ды стаў зямлю араць, збожжа сеяць. Зямлі-то ў іх багата было. А праз год жаніўся на той самай Тэклечцы, за якую некалі ўступіўся і вымушаны быў сысці з дому. Так яны там і зажылі. Цяпер хто ад іх ішоў ці паўз іхнія палеткі ехаў, то казаў звычайна:

— А, гэта ўсё Дзятлава. Дзятлава зямелька, дагледжаная, нібы пух, мяккая. Добры чалавек...

Так тое паселішча і стала Дзятлава. Ён памёр, а назва жыве і да гэтага дня.

## ЗАЧЭПІЧЫ

Жыў некалі тут вясёлы чалавек, Грышка: ніколі ў адчай не ўпадаў, са смуткам не сябраваў, хоць і сямейку меў вялікую. Дзеткі яшчэ маленькія былі і не маглі яму ў працы дапамагаць. «Адно аднаго не панясе», — так казалі ў народзе. Праца ж у вёсцы вядома якая — ад світання да цёмнага, а дзеці дома адны. Але і тут Грышка не губляўся. Кожную раніцу перад тым, як пайсці з дому, ён настаўляў старэйшага:

— Глядзі, братка, за гаспадара застаешся. Каб нічога дурнога не рабілі, бо ведаеш: рукі зробяць — ногі атрымаюць... Таму глядзі, табе ў першую чаргу і перападзе.

— Усё, татка, будзем рабіць, як ты сказаў. Не будзе ў цябе прычыны нас лупіць. Вось толькі каб мамка не біла. Яна не гэтак нас разумее, крычыць, сварыцца. Ты тады заступайся за нас.

— Добра, сынку, толькі шкоды ніякай не чыніце, а за ўсялякую дробязь я вас у крыўду не дам.

На тым і разыходзіліся. І ўсё ішло па дамоўленасці, праўда, калі не лічыць, што дзе малыя ката прывязалі да сабачага хваста, дзе сляпому дзеду ў рукі пук крапівы замест дубца далі. Бацька, пачуўшы пра такое, толькі пасміхваўся ды спакойна павучаў:

— Над старэйшымі, мае дзеткі, нельга жартаваць. Самі некалі такімі будзеце. Гэта грэх.

— А яму, таму старому, не грэх нас ні за што лупцаваць? Ды яшчэ прасіць, каб добры дубец падалі? Вось мы і далі яму крапівы, каб рукі смылелі ды не цягнула малых біць.

Маці, тая надта не разбіралася. Калі даведвалася пра нейкае свавольства, то тым жа дубцом і лупцавала, ды яшчэ і прыгаворвала:

— Навошта вам старога чапаць? Навошта, я вас пытаюся? Зачэпічы вы гэтакія, ад вас нікому спакою няма!

Тады малыя да бацькі беглі, прасілі заступіцца. Грышка ўсміхаўся і казаў жонцы:

— Не крычы ты на іх, ласкай трэба, то і дойдзе хутчэй, пабачыш...

А тая на сваім стаяла:

— Зачэпічы гэтыя нікому спакою не даюць. Яшчэ зусім малыя, а ўжо вунь што вырабляюць, а калі падрастуць, што тады будзе?

— Нічога страшнага. Людзьмі вырастуць, працаваць стануць, нас карміць на старасці гадоў будуць.

— Гэткімі ж выскаркамі, як і ты, вырастуць. Сам нікому праходу не даеш, чапляеш, каб памяць язык ды зубы паскаліць. Зачэпіч ты, і яны такія ж самыя падрастаюць.

Жанчына, выгаварыўшыся, адыходзіла, а бацька збіраў малых у кут, і адтуль ужо да позняга вечара смех ды рогат няслія. Гаспадыня нібыта злавалася, трымалася паважна, але потым і сама да іх далучалася.

Так і жылі, так і мірыліся...

Аднае раніцы сабраліся дарослыя на далёкае балота, каб там сена павярнуць, а потым яшчэ і згрэбці да вечара. Позна думалі вярнуцца, таму асабліва і наказвалі

дзецям. Бацька Петрыка, старэйшага, за рукаў узяў і настаўляў:

— Ты, сынку, каровак загоніш, як з пашы прыйдуць. Мама іх потым падоіць. Малодшых кармі, у печы ўсё вам стаіць. Глядзі, каб кураняты ў агарод не лезлі, і свінням пад полудзень укінеш. Ад хаты не адыходзьце, каб дзе хто не прычапіўся ды дурнога чаго не ўтварылі. Старых не чапайце, сядзяць сабе на вуліцы — няхай сядзяць...

— Добра, татка, а калі старыя самі будуць лезці? — дапытваўся Петрык.

— Да вас яны зараз не палезуць, ведаюць, што за сябе пастаіце. А калі нехта рызыкне, то дайце здачы.

— Чаму ты там яго вучыш? — падавала голас маці, але гаспадар сваю справу ведаў дакладна:

— Кажу, каб ад хаты не адыходзілі.

Паехалі бацькі, а дзеці дома засталіся.

Едуць Грышка з жонкай і перамаўляюцца.

— Каб жа хоць сёння чаго не вытварылі, — непакоіцца гаспадыня. — А то зноў старой Гарпіне вядро вады на дзверы ўсунуць ды нахіляць. Тая дзверы прыадчыніць — вада цурчыць. Перажагнаецца ды назад у хату, думае ўсё, што дождж ідзе. Сядзела, нічога не рабіла да самага вечара. Пасля ўсім клялася, што гэта нячыстая сіла над ёю паджартавала.

— А што, можа і сапраўды нячыстая сіла вядро на дзверы ўспёрла, хіба ж такога не бывае? — здзіўлена паглядае муж.

Гаспадыня змаўкае, бо не ведае, як рэагаваць на такую заўвагу, але праз нейкую хвіліну вясёлы смех нясецца над пустой дарогай.

— І ў каго ты такі зачэпіч удаўся? І навошта ты дзяцей гэткімі ж гадуеш?

Грышка, пакручваючы свой рыжы-рыжы вус, адказвае:

— У бацьку-нябожчыка пайшоў. Ён такі штукар быў, што людзі і зараз як згадваюць яго, то ўпокат са смеху валяцца. А чаму дзяцей такімі ж гадую? Бо весялей жыць ім будзе. Хіба ж ты не бачыш, што часта выць хочацца ад адчаю ды скрухі і што смяёмся мы з табою праз зубы. Але пасмяёмся, пажартуем і нібы па-новаму на гэта ўсё глядзім. Вось так...

Нічога не адказала жанчына, бо ведала, што праўду муж сказаў, што не раз ён і яе смехам сваім падтрымліваў.

Сталі працаваць. Грышка працуе так, што ажно сарочка парай заходзіцца, і паспявае яшчэ нешта смешнае жонцы распавесці, а тая са смеху і стомы не адчувае. Прыселі адпачыць і толькі тут заўважылі, што перагналі многіх людзей, у якіх па трое і па чацвёра было. Грышка не ўтрываўся і кажа:

— Бачыш, жонка, языком працу зачэпіш, а рукамі да канца давядзеш. Вось адпачнём і грэбці станем. А ты ўсё на мяне — зачэпіч ды зачэпіч. Каб у астатніх так атрымлівалася, як у нас...

Жанчына замілавана ўсміхалася, слухаючы мужа.

Да вечара напрацаваліся, натаміліся, але затое ўсё да ладу на сваім сенакосе давялі. Паставілі стог на зайздрасць іншым: вялізны, высачэзны і раўнюткі, як тое яйка, абчасаны.

Паехалі дамоў. А ўжо зоркі першыя на небе загараюцца. Гаспадыня хваляваацца пачала:

— Хоць бы з дзецьмі ўсё ў парадку было... Каб хоць чаго дурнога не зрабілі...

— Не турбуйся, жонка, усё добра павінна быць. Ніколі нашы дзеці нас не падводзілі і на гэты раз не падвядуць.

— Ды і я на гэты раз хітрэйшая была...

Здзівіўся Грышка, але ніяк не адрэагаваў на такую заяву, падумаў, што дома сам пра ўсё даведаецца.

Прыехалі, дык гаспадыня першай справай — шась у хату. А праз нейкую хвіліну вылецела адтуль нібы апараная.

— Хто гэта зрабіў? Прызнавайцеся, бо шкуры з вас паспускаю! Гэта ж трэба да такога дадумацца! Гаварыце, бо дрэнна вам будзе!

Дзеці маўчалі, адно толькі да Грышкі ціснуліся.

— Чаго ты крычыш? Што яны зрабілі?

— Што зрабілі? Ды яны Богу вочы выкалалі!

— Якому Богу? — не зразумеў Грышка.

— Таму, што на абразе. Я, як мы ад'язджалі, таксама наказала, каб нічога дурнога не рабілі, бо Бог мне раскажа.

— Мама, гэта Петрык вочы павыкалупваў, — падала голас маленькая дзяўчынка.

Грышка зарагатаў так голасна і так непасрэдна, што гаспадыня ад нечаканасці ажно села, потым усхапілася і давай ужо ўсіх лаяць:

— Я ж казала, што гэтыя зачэпічы спакойна не пасядзяць... Я ж табе гаварыла, што яны што-небудзь вырабяць...

Грышка спакойна глядзеў на яе і падміргваў левым вокам.

Вось ад тых зачэпічаў і вёска пайшла, а жыхары ў ёй і зараз такія, што каго хочаш зачэпяць, а вось іх...

## ЗМЯЁЎЦЫ

Наша вёска ў глухой мясціне і зараз знаходзіцца. А калі прыкінуць, што тут некалькі стагоддзяў назад тварылася, то і назва стане зразумелай. Справа ў тым, што тут многа гадаў вадзілася. Баяліся іх людзі, хадзілі толькі тыя, хто ведаў моцныя замовы і як пазбавіцца ад страшэнных зубоў гадзюк.

Жыў адзін чалавек. Звалі яго Харытонам. Ён не баяўся ні гадаў, ні ядаў. Казалі, што ягоны бацька знаў мноства ўсялякіх травак і замоў, сам таксама зашэптваў. Ніхто ва ўсім наваколлі не ўмеў людзей на адлегласці вылечваць, а ён гэта спакойна рабіў, бо чараўніцтва меў вялікае. Адно толькі распытае ў знаёмых ці родных, дзе ды як гадзюка ахвяру сваю ўкусіла, і пачне. Праўда, далёка не ўсіх браўся лячыць. Калі на некага зло трымаў, то ніякія слёзы не дапамагалі, ніякія маленні не даходзілі, скажа — нібы адрэжа.

Калі стары паміраў, то сына свайго, Харытона, да сябе паклікаў:

— Хадзі сюды, родненькі, не палохайся. Слухай мяне ўважліва, бо потым позна будзе, ніхто табе не падкажа. Ты ў мяне адзіны, і свае чары я не хачу каму чужому распавядаць...

Стары быў надта слабы, ужо амаль не рэагаваў на словы, толькі паўтараў, нібы якое страшнае закляцце:

«Запамятай. Ёсць тут непадалёку востраў. На яго дабярэшся па кладцы. Яна пазначана на бяросце, а бяроста тая за бэлькай тырчыць. На востраў трэба прабірацца ў Купальскую ночку. Так, калі дабярэшся да галоўнай змяі ды будзеш да яе ветлівы і далікатны, то яна падаруе табе незлічоныя багацці. Першым багачом станеш ва ўсім наваколлі, паны перад табою шапкі скідаць здалёк будуць, не тое што нейкія там вяскоўцы. Але ж глядзі, не забудзь пра павагу, бо змяя тая можа і пакараць, і пакаранне будзе бязлітаснае і незвычайнае. А цяпер галоўнае. Ідзі на востраў у Купальскую ноч праз тры гады пасля маёй смерці. Чакай тры гады, тады толькі прымайся за спра-

ву. Не забывай маіх слоў, сынок, не забывай. Людзям надта не давярай, бо яны дзе-небудзь абавязкова абкруцяць...»

Сказаў гэта стары і, з палёгкай уздыхнуўшы, памёр. Хаваў яго адзін Харытон. Вяскоўцы баяліся чараў варажбіта, баяліся захварэць якой страшнай хваробай ці запрадацца нячыстым сілам.

Пахаваў Харытон старога недалёка ад вясковых могілак, але на вяскоўцаў затаіў зло, скрозь слёзы шаптаў: «Я вам, злыдні, ніколі гэтага не дарую. Пачакайце, прыйдзе і мая часіна, прыйдзе зручны выпадак, у нагах у мяне качацца будзеце...»

Затаіў на людзей сваю крыўду і жыў адзін, ні да каго не хадзіў, і да яго ніхто не наведваўся. Баяліся. Казалі, нібыта ён знаецца з нячысцікамі, з імі спраўляе ўсялякія вечарынкі. Але гаманіць гаманілі, а кранаць Харытона ў адкрытую баяліся.

Тры гады чакаў хлопец ночы на Івана Купалу, каб завалодаць незлічонымі багаццямі, каб стаць магутным чараўніком. Нарэшце прыспела тое лета. Чалавек ледзьве не выў ад адчаю, што дні гэтак доўга цягнуцца, што нельга прыспешыць час, каб хутчэй разлічыцца з аднавяскоўцамі.

І вось той дзень настаў. Харытон апрануў на сябе ўсё самае лепшае і сеў у чаканні, нібы не на балота смярдзючае ісці збіраўся, ■ на вяселле яго запрасілі самым галоўным госцем. Вось і сонейка пачало за бор хіліцца, потым схавалася за верхавінамі. Ухапіў тады чалавек самы вялікі мех і папраставаў да кладкі, якая павінна была вывесці яго на тую выспу, дзе сядзела галоўная змяя.

Ідзе ён, а над ім толькі совы ды груганы крыллем махаюць, поспеху жадаюць, але Харытон на гэта ўвагі не звяртае, прастуе да мэты, нібы за ім гайня ваўкоў джгае.

Бацька добры план зрабіў, дакладны, нідзе ні разу ў багну не праваліўся чалавек, дабраўся да вострава таго і спыніўся, як дзейнічаць далей — не ведае. Тут нібы з-пад зямлі пачуўся голас:

— Што спыніўся, чалавеча, не ведаеш, куды далей ісці?

— Так, — адказаў Харытон, а сам усё ўглядаўся, хто ж гэта з ім размаўляе. Раптам убачыў — гэта была невялікая залацістая гадзюка.

— Ідзі за мной, толькі з майго следу не збочвай, бо тады чакае цябе смерць немінучая.

Змейка папаўзла наперадзе, а Харытон пакрочыў за ёй. Недзе праз паўгадзіны вывела яна яго на высокі пагорак, і тут ужо раздаўся грозны голас:

— Чаго ты прыйшоў сюды, чалавек, што ты тут забыўся?

— Мне бацька, паміраючы, наказаў, каб я сюды дарогу знайшоў...

— Дык ты і ёсць сын таго магутнага чараўніка, майго сябрука?

— Так.

— Дам я табе багацця столькі, колькі ты панесці здолееш, але пры адной умове: пакуль каштоўнасці несці будзеш, нічога благога не падумаеш. У адваротным выпадку багацце тое супраць цябе павернецца, і ніхто тады табе не дапаможа. Згодны?

— Умова надта ж простая, таму і згодны, — адрэзаў Харытон.

Сказаў ён гэтыя словы, і адразу ж перад ім засвяцілася вялізная гурба каштоўных камянёў. Накінуўся на іх чалавек, стаў грэбці ў свой мех. Ужо ў мех не лезе, тады ён за пазуху, у кішэні золата панасыпаў.

— Хопіць? — пытаецца галоўная гадзюка.

— Хопіць, дзякуй табе вялікі, што гэтак мяне ўзнагародзіла. Я назад падамся.

— Ідзі, я табе і правадніка дам.

Ідзе Харытон, сапе ад натугі, але ж і песню радасную напявае. Вядомая справа — гэтулькі золата валачэ. Ужо амаль да канца балота дайшоў, стаміўся, але не спыняецца, каб дамоў да світанку паспець. Выйшаў на бераг, атросся і тут нечага падумаў: «Цяпер вы ад мяне нікуды не дзенецеся, цяпер я вам за ўсё адпомшчу!».

Раптам зашавяліўся ягоны мех і адтуль пачулася грознае шыпенне. Зірнуў Харытон туды, і валасы дыбарам сталі: у мяху замест золата было поўна гадзюк. Яны круціліся, выгіналіся, на яго гатовы былі кінуцца. Гопнуў долу мех мужык і ўцякаць, а гады тыя за ім.

Недалёка ён уцёк. Дагналі яго гадзюкі і да смерці заелі. Там яго раніцай людзі і знайшлі, скрываўленага ўсяго, зраненага. Пахавалі, а месца тое Змяёўцамі назвалі. Там і надалей мноства гадаў вадзілася, так што яны пацвярджалі тую назву.

# МАЛАЯ ВОЛЯ

Гэта было даўным-даўно, калі на месцы нашай вёскі спяваў свае песні вецер і плаўна каціла збоку свае воды рака Шчара, аддаючы вадзяную даніну Нёману. Глыбокая яна тады была, шырокая, не кожны чалавек мог пераплыць яе. А на правым беразе ракі, дзе яна рабіла вялізны выгіб, узнікла вялікая вёска — Малая Воля. У адным месцы, каля вёскі, у рацэ ёсць глыбокае месца, праўда, ужо даволі засыпанае.

А павялася вёска з надзвычай даўніх часоў, і вось як усё зачыналася.

На першым этапе, гэта, мабыць, усе ведаюць, Бог сябраваў з чортам і выступалі яны заўсёды як хаўруснікі. Калі што трэба Усявышняму зрабіць, то ён спачатку нячысціка кліча, каб параіцца:

— Эй, дзе гэта ты там ходзіш?! Джгай сюды, справа неадкладная ёсць!

А чорт ляжыць сабе на сонейку, грэе жывот і, павярнуўшыся на крык, пытаецца:

— Што там за справа? Дай паляжаць спакойна, бо толькі што тваё папярэдняе даручэнне выканаў. Дай на сонейку косці пагрэць.

— Справа неадкладная, трэба вырашаць, таму не марудзь.

Сыдуцца яны, пасядуць побач, і давай тады Усявышні пра свае планы распавядаць, а нячысцік сядзіць, рот разявіўшы, ніводнага разу не пераб'е. Болей таго, зрэдку і сам нешта падкажа, ды такое слушнае, што Богава чарга прыходзіць здзіўляцца.

Так яны і жылі, не было паміж імі варожасці — гэта яна потым узнікла і зрабіла былых сяброў кроўнымі ворагамі.

На гэты раз Бог хацеў раздаць усім людзям, кожнаму паасобку, іхнія лёсы, запісаныя на чыстых кавалках бяросты. Таму і звярнуўся за дапамогай да нячысціка, бо сам быў надта заняты. Спадабалася прапанова чорту:

— Ну, Божа, і галава ў цябе. Гэта ж трэба — кожнаму лёс прадказаць і ў рукі ўручыць... Я б да такога ніколі не дадумаўся.

— Ды тут нічога складанага няма, — неяк нерашуча сказаў Бог. — Падумаў, што так кожнаму лягчэй будзе на белым свеце жыць. Ведае чалавек, калі яму паміраць, і ўсё спакойна давядзе да выканання, а потым ужо пачне

збірацца ў пазамагільнае жыццё. Бо так жа ходзіць, ходзіць, а потым раз — і сканаў, і нічога ў яго не падрыхтавана, нічога ў яго не гатова...

— Каб толькі не пашкодзіла людзям заўчаснае веданне лёсаў.

— Ты так думаеш?

— Ага, сумненне нейкае закрадаецца ў душу.

— А можа дарма закрадаецца і ўсё як нельга лепей атрымаецца?

— І мне так хочацца. Я, Божа, сёння высплюся добра, а заўтра з раніцы пачну гэтую бяросту з лёсамі людзям разносіць. За пару дзён спраўлюся.

— Добра. Адпачывай ды бярыся за працу, бо яе вельмі многа.

На гэтым і разышліся. Бог сеў думаць пра далейшае жыццё людзей, раслін ды жывёл, а чорт улёгся пад карчом і імгненна так захроп, што толькі водгулле пайшло гуляць па абшарах, лісты з дрэваў зрываючы ды кусты да зямлі прыгінаючы.

Раніцай чорт узяўся за працу: панабіраў бяросты цэлую кіпу і паляцеў да людзей, каб кожнаму ўручыць адпаведны кавалак. Прыляціць у паселішча і гарлае:

— Ідзіце забіраць, ідзіце забіраць!

— Што там такое? — дапытваюцца ўстрывожаныя сяляне, а ён, пасміхваючыся, адказвае:

— Падыдзіце — даведаецеся.

Сяляне паразбіраюць бяросту, выслухаюць, як ім нячысцік пра іх раскажа, і ўхвальна галовамі ківаюць:

— Вось дзякуй Богу, вось дзякуй. Гэта ж трэба так усё размеркаваць ды прадумаць...

А чорт не слухае падзякі, ляціць хутчэй ветру ўжо ў іншым накірунку. Так за тры дні амаль усе паселішчы абляцеў. Засталіся невялічкія вёсачкі ды хутаркі, то ён тут ужо спакойна справу да канца давodзіў. Нарэшце і там раздаў бяросту, азірнуўся і пайшоў паціху да Бога, каб узрадаваць таго, што ўсё зроблена. Ажно чуе — у адной вёсцы, дзе сяляне да гэтага працавалі рук не пакладаючы, песні гучаць, музыка іграе. Збочыў чорт з дарогі і папраставаў да людзей, каб даведацца, што там робіцца. Неўзабаве напаткаў п'янага селяніна і пытаецца:

— Чаму ты не працуеш сёння? Такое надвор'е стаіць, толькі жаць ды касіць, а ты напіўся, як свіння, ды песні гарлаеш.

— А навошта мне працаваць, калі ў той бяросце, якую ты мне прынёс, напісана, што я праз два тыдні памру? Вось я і развітваюся з гэтым светам, бо на тым свеце ўсё роўна не нальюць. Калі хочаш, то і табе давай налью, лыкні за маё здароўе.

— Ну а астатнія чаго сяваюць, не робяць? — не здаваўся чорт.

— Некаторым таксама хутка тэрмін паміраць прыйдзе, а некаторыя з імі развітваюцца.

— І даўно вы не робіце?

— Ды як ты нам бярасту параздаваў, мы зразумелі, што болей няма сэнсу жылы рваць, што трэба спакойна дажыць апошнія дзянькі...

— Ой, Божа, Божа, — толькі і прамовіў чорт і папёр да Усявышняга — толькі пыл закурэўся пад яго лахматымі лапамі і свіст услед панёсся.

Прыляцеў на тую горку, дзе задуменны Бог сядзеў, і закрычаў:

— Божа, Усявышні, бяда!

— Якая?!

— Ведаеш, што ты нарабіў тым, што даў магчымасць людзям ведаць наперад іхнія лёсы?

— Не...

— Ды яны зараз нічога не робяць. Адны кажуць, што памруць хутка і няма чаго рвацца, а іншыя развітваюцца з імі ды гарэлку п'юць.

— Ой, дурная галава, як жа я гэтага не прадбачыў?

— Не ўбівайся так, Божа. Трэба нешта тэрмінова вырашаць, бо яны разлянуюцца і нічога рабіць не будуць, да гарэлкі прызвычаяцца...

Пасядзелі, памеркавалі, і вырашыў Усявышні, што трэба чорту ўсе тыя кавалкі бяросты сабраць, а раздаць другія, дзе будзе гаварыцца пра назвы вёсак і гарадоў ды пра тое, як будуць жыць там людзі — шчасліва ці не.

Чорт зразумеў, што яму працаваць давядзецца не толькі днямі, але і начамі, бо справа тэрміновая. Таму ўхапіў новыя бяросты і паляцеў. Падляціць да паселішча ці да таго месца, дзе яно павінна неўзабаве ўзнікнуць, скіне бярасту і далей кіруе, не затрымліваецца.

На нашу вёску запіска-бяроста ў яго была адна з самых апошніх. Узяў нячысцік яе і паляцеў. Намер мо быў скінуць яе каля Дзярэчына — там і зямля лепшая, і значна бліжэй да горада. Але, хоць і ляцеў ён хутка, усё ж не даляцеў бы да таго месца — ужо заспяваў звонкагалосы

певень. А чэрці ж, як вядома, адразу пасля трэцяга, ранішняга, крыку становяцца бязвольнымі. Таму як пачуў крык чорт, то кінуў бяросту ля ракі, а сам у Шчару бултыхнуўся, каб жыцця зусім не пазбавіцца.

З тых часоў і стаіць наша вёска на пяску і збоку цячэ рака Шчара. Там, дзе чорт упаў у раку, — самае глыбокае месца. А назва Малая Воля ад таго, што ніякай волі тут ні Бог, ні нячысцік не прыклалі, не паспелі.

## МЯДЗВІНАВІЧЫ

Жыў тут адзін чалавек. Без сям'і жыў, без жонкі. Аднекуль здалёк прыйшоў і назаўсёды асеў. Хто яго ведае, чаго людзей баяўся. Можа, нейкі цяжкі грэх перад Богам меў, а можа, і перад людзьмі. Каб не памерці з голаду, у тыя часы асабліва многа працаваць не трэба было, бо навокал усяго хапала: ягад, рыбы, птушак, звера. Толькі ўмей стралой ды лукам карыстацца, агонь развесці і, вядома ж, не лянуйся, працуй у поце чала, то будзе хлеб і да хлеба.

Чалавек жа гэты быў працавіты ды кемлівы і займаўся надзвычай прыбытковай справай — здабываў мёд дзікіх пчол. І было ў яго таго ласунку болей чым дастаткова, таму ён стаў задумвацца, што рабіць з лішкамі. Кеміўкеміў і дадумаўся: пачаў рабіць агромністыя дубовыя бочкі і ў іх мёд зліваць. Адну даверху нальe, заканапаціць і другую пачынае. Выкапаў і бёрнамі ўмацаваў вялізны склеп, туды і састаўляў бочкі.

Гадоў за колькі адмысловым майстрам стаў. Яму ўжо нават не трэба было высочваць пчолаў — ён іх па паху чуў. Працяглы час ён збіраў мёд толькі з дуплаў, якія размяшчаліся невысока ад зямлі, бо не мог дадумацца, як дабрацца да тых, што вышэй. Але потым спрацавала кемлівасць чалавека, і ён зрабіў сабе такое лёзіва, на якім і сядзець можна было, і, калі трэба — падцягваць сябе вышэй і вядро з мёдам уніз спускаць. Цяпер мёд ракою пацёк у бочкі.

Многа гадоў чалавек гэты быў поўнаўладным гаспадаром лесу. Але прыйшоў канец і яго адзіноце. А здарылася вось што.

Аднаго разу з самае раніцы пайшоў бортнік да борці, каб там выбраць мёд і па дарозе яшчэ да некалькіх падысці. Гэта калі нічога не робіш, дык час марудна ідзе, а

за справай ён непрыкметна ляціць. Пакуль тое-сёе зрабіў чалавек, пакуль справу да парадку давёў і назад павярнуў ісці, то ўжо першыя зоркі на небе загарацца пачалі. Добра, што для яго лес нібы родны дом быў. А ішоў жа ён — не проста ногі пераастаўляў, а нёс усё сваё прычындалле ды мёд у вялікім вядры. Таму вырашыў скараціць шлях і ісці напрасткі, праз невялічкую даліну. Перайшоў тую далінку, выйшаў на пагорак і ўжо збіраўся ўніз спускацца, калі ўбачыў яркае вогнішча ўсяго ў нейкай сотні крокаў ад яго. Бортніка не трэба было вучыць бясшумна хадзіць па лесе, таму, пакінуўшы ўсё сваё начынне, ён памкнуўся наперад. Падкраўся цішком, стаіўся за разгалістай елкай і ўважліва слухае, пра што гамоняць людзі ля агню. А тыя чужога не заўважылі і паводзілі сябе спакойна.

— Мясціна тут надзіва прыгожая, — сказаў барадач, — аднаго толькі не хапае...

— Чаго? — адразу запытаўся вяртлявы чалавечак, які не мог сядзець спакойна на месцы і ўвесь час круціўся, нібы той свярдзёл. — Чаго не хапае?

— А ты не заўважыў?

— Па мне, каб толькі есці хапала ды ніхто жыць не перашкаджаў, а ўсё астатняе — драбяза.

— Ну не скажы... Дзе ты бачыў, каб без вады людзям выжыць удавалася? Трэба знайсці ручаіну ці рэчку — там і асядзем, а тут месца прыгожае, але з-за таго, што вады няма, — невыгоднае.

— Трэба, хлопцы, хутчэй шукаць такое месца, бо нам марудзіць нельга. Пачнецца восень, пойдуць дажджы, там і да зімы недалёка, а нам жа яшчэ сем'і сюды перавезці трэба, ды каб ад маразоў, ад завеяў пад нейкай страхой схавацца. Самі-то мы да ўсяго прызвычаіліся, а вось як дзеці... — падаў голас трэці чалавек, які дагэтуль слухаў астатніх і нічога не гаварыў.

— Вось у гэтым уся штука і схавана, пра іх трэба думаць, а потым ужо пра сябе.

— Давайце, хлопцы, спаць, каб з раніцы зноў шукаць месца для новага паселішча.

Хвілін праз колькі ад вогнішча данёсся магутны храп.

Бортнік устаў і асцярожна падаўся да свайго вядра і рыштунку. «Гэта ж яны збіраюцца недзе тут асесці. А што рабіць тады мне? Можа ўцякаць далей? А можа яны яшчэ і перадумаюць? Прызвычаіўся я да гэтай мясціны. Можа не застануцца яны тут, далей пойдуць?..» Так думаў пра сябе чалавек па дарозе дамоў.

Упершыню за ўсе гады адзіноты перад ім паўстала такое пытанне. Раней побач нікога не было і можна было спакойна займацца сваёй справай, не турбуючыся, што прыйдуць нейкія чужыя людзі і прагоняць яго ці, і такое магло здарыцца, прымусяць працаваць на сябе. Некалі ў маладосці ён добра зведаў, што гэта такое, таму і ўцякаў, таму і забіўся ў такую глуш. Павагаўся чалавек і вырашыў, што, калі людзі тыя тут застануцца і па-варожаму будуць да яго адносіцца, тады ён пойдзе, а куды — прыдумае потым, свет вялікі.

Як і раней, бортнік займаўся сваёй справай. Толькі цяпер сачыў і за суседзямі, якія ўсё ж пачалі будаваць сабе жыллё на беразе невялічкай рачулкі. Чужынцы паводзілі сябе міралюбіва, спяшаючыся, будавалі часовае жыллё, каб паспець узвесці хоць нейкія сцены ды прыкрыць іх стрэхамі, бо ўжо выразна адчуваўся подых восені, а там і зіма не за гарамі.

Аднаго разу бортнік з самае раніцы вырашыў праверыць, чым займаюцца няпрошаныя госці ля сваіх будынін. Падкраўся і спачатку нічога не зразумеў — не стукалі сякеры, не чуліся галасы. Колькі хвілін паслухаў і асцярожненька падаўся на будаўнічую пляцоўку. Але і там нікога не ўбачыў. Тады пачаў шукаць па будынках. Нарэшце ў адным наткнуўся на людзей. Яны ляжалі ўпокат і... трызнілі.

«Захварэлі, — маланкай пранеслася ў галаве бортніка, — вецер прадзьмуў... Калі я ім не дапамагу, то праз пару дзён тут нябожчыкі ляжаць будуць...»

Сеў чалавек на пень і задумаўся. З аднаго боку, нібы сам Бог пазбаўляў яго непажаданага суседства, а з другога... З другога — побач з ім ляжалі хворыя людзі, і ім патрэбна была дапамога.

Можа, з паўгадзіны сядзеў бортнік і вагаўся, потым узняўся і паджгаў да свайго склепа. Неўзабаве ён зноў з'явіўся ля недабудаваных хацін, развёў вогнішча і паставіў грэцца ваду. Калі яна закіпела, то накідаў у яе даволі многа мёду, усё гэта пэўны час старанна перамешваў, а потым стаў паіць тым адварам хворых. Яны не маглі самі піць, таму чалавек добра памучыўся, але свайго дабіўся — напаіў усіх. Так з таго дня і сядзеў ля хворых, адыходзіў толькі за свежым мёдам. І што вы думаеце? Выхадзіў незнаёмцаў, усіх да аднаго выхадзіў. Калі яны пачалі на ногі ўставаць, то бортнік жартаваў:

— Што, мядзвінавічы мае, цяпер не будзеце хварэць?..

Тыя, каго ён выратаваў, і назвалі сваё паселішча ў гонар таго бортніка — Мядзвінавічамі.

## ТАРКАЧЫ

У нашай мясціне жыла некалі сям'я. І быў у іх сын. Вялікі ўжо дурында вырас, а ніколі да бацькоў па-добраму, як гэта іншыя рабілі, не звярнуўся — усё са злосцю. Найболей роднага бацьку не ўпадабаў. Зусім не шкадаваў яго, аблайваў усяляк. Стары толькі казаў:

— За што, сынку, ты на мяне так дрэнна гаворыш? Пасля тваіх слоў, здаецца, не жыў бы болей і дня.

— А ты вазьмі ды ўдавіся, — раіў сын свайму бацьку.

— І ў каго ты ўдаўся? Такім таркачом расцеш. Хіба я раней мог на свайго бацьку так сказаць?

— То даўней было, ды, можа, яшчэ і няпраўда. А таркачом мяне болей не кліч, бо як узлуюся — не дарую.

Бацька ад ганьбы ўгінаўся, хаваў галаву ў плечы і ішоў прэч, нібы пабіты. Людзям чужым непрыемна было слухаць, а што ўжо пра бацьку гаварыць: малога да парадку не прывучыў, [redacted] цяпер... Упікалі вяскоўцы Сцяпанавага сына:

— Дурань ты набіты! Як жа гэта можна свайго бацьку не паважаць? Маці да плачу штохвіліны даводзіш, яна ажно счарнела ўся. Што ў галаве тваёй робіцца, калі такое вырабляеш?

А той адказваў адно:

— Не ваша справа. Вас не чапаюць, то і вы мяне не чапайце, [redacted] то і вам не дарую.

Аднаго разу папрасіўся падарожны пераначаваць да Сцяпана ў хату і пачуў, як сын з бацькам размаўляе. Раніцай незнаёмец перакусіў і перад тым, як пайсці, паклікаў Сцяпана:

— Хадзі-тка, гаспадарыку, я табе нешта скажу. На пару слоў усяго...

Адышлі яны за вугал і нечага доўга-такі стаялі. Сцяпан вярнуўся назад павесялелы, але сын гэтага не заўважыў, дакладней, яго ніколі не цікавіла, што ў бацькі на душы рабілася.

— Паедзем, сынку, сёння па сена. Далекавата, але што зробіш, трэба і яго прывезці...

— А ты не прыстанеш, не стомішся? — спытаўся здзекліва сын.

— Ды неяк ужо вытрымаю.

Паехалі на далёкае балота. Панакладалі там здаравенныя вазы і дамоў назад едуць. Бацька сеў на пярэдні воз, а сын залез на задні.

Праехалі крыху, сын і крычыць:

— Сцяпан, паправў вупраж на маёй кабыле! Хіба не бачыш, што лейцы заблыталіся?!

А стары як сядзеў, так і сядзіць, нават галавы не паварочвае. Пабачыў сын, што такая справа, і перастаў гарлаць, едзе моўчкі.

Неўзабаве дарога роўная скончылася, у лес уехалі. А ў лесе, самі ж ведаеце, якія дарогі — то яміна, то лужына, то корань праз усю каляіну распаўзецца...

Сцяпан з воза злез і ідзе побач з канём, паглядвае, дзе трэба сцішыць коніка, а дзе ў сена плечуком уперціся, каб не даць возу перакуліцца. Сын жа як сядзеў на сене, так і сядзіць, толькі брыль свой глыбей на вочы насунуў, каб яго галінай якой не зачапіла ды не садрала з галавы. Убачыў, што бацька пехатою ідзе, і пачаў даймаць:

— Сцяпан, трымай мой воз, каб ненарокам не перакуліцца, бо я яміну бачыў!

Падтрымаў стары, а сын зверху:

— Во малайчына, бачыш, як усё добра атрымліваецца.

Стары ўжо ледзьве сапе, але маўчыць, [redacted] сын працягвае:

— Сцяпан, глядзі, які корань высунуўся. Напруж сілку, каб колам не зачапіць, бо перакладваць сена давядзецца.

Бацька плечуком упёрся — ледзьве вочы на лоб не вылезлі, але неяк усё ж адвярнуў бяду.

Зверху зноў пахвальба нясецца:

— Не такі ты і слабы, як прыкідваешся. Не думаў я, што столькі сілы маеш.

Хацеў нешта яшчэ сказаць дурында, ды не паспеў: кола трапіла ў глыбокую каляіну, воз перавярнуўся, і ён апынуўся ў глыбокай лужыне. Ледзьве вылез адтуль, увесь смярдзючы, брудны.

Склалі бацька з сынам сена і далей рушылі. Сцяпан зноў збоку ідзе, а сын наверх залез, абсохнуў крыху і зноў пакрыкваць пачаў:

— Сцяпан, глядзі, каб зноў мой воз не перакуліўся, бо тады сабе што-небудзь скручу...

Бацька толькі падумаў у адказ: «А каб і скруціў, то, можа, зразумеў бы, як са старэйшымі трэба абыходзіцца».

Так неўзабаве пад'ехалі да крутога павароту. Стары свой воз падтрымаў і праскочыў, а сын каня як «паддобрыў» дубцом, дык і гопнуўся воз на бок, ды так удала, што сена амаль накрыла сына, наверсе толькі галава засталася. Ляжыць, бедалага, і паварушыцца не можа, сапе, а вылезці не здолее. Сабраўся неяк з сілай і гукае:

— Сцяпан! Сцяпан! Дзе ты там?! Падніме сена ды мяне вызвалі! Чуеш?!

А стары, не будзь дурны, падышоў, прысеў на траву, дастаў капшук і люлечку закурыў. Пускае сабе дым і паглядвае, як сын пад сенам валтузіцца. «Паляжы, — думае, — пакрычы, то, можа, і табе на розум што-небудзь добрае ўсплыве. Не ўсё ж мяне абражаць ды ганьбіць».

Сын ад крыку ўжо апошнія сілы стаў траціць, а ўсё роўна не паддаецца:

— Сцяпан, дапамагай!

Адвярнуўся бацька, слёзы на вочы набеглі. «Нічога не будзе, і гэта не дапаможа...» І тут данеслася:

— Бацька, родненькі, бацька, каханенькі... Бацька, ратуй!

Старога нібы нячыстая падкінула. Падляцеў ён да сена і давай хуценька яго ў бакі раскідваць, каб хлопцу дапамагчы. Праз нейкую хвіліну выцягнуў бедалагу, паставіў на ногі і, пасміхваючыся, сказаў:

— Бачыш, міленькі, як яно часам паварочваецца? Ці думаў ты, з мяне здзекуючыся, што будзеш гэтак прасіцца. Хіба ж мне перад людзьмі не крыўдна было, калі ты мяне прыніжаў? Колькі разоў я плакаў цішком, каб ніхто не бачыў. Болей пажывеш, сынку, не столькі спажывеш.

Заплакаў сын і пакляўся, што ніколі больш не будзе гэтак на бацьку свайго казаць, што будзе заўсёды слухацца.

Яны потым дружна жылі. А вёску ўсё ж назвалі Таркачы, бо ў таго сына многа сыноў у самога было. Усе яны выраслі дужымі ды працавітымі, але са свайго ніколі не саступалі, таму і называлі іх таркачамі — гэта значыцца ўпартымі.



# ЗЭЛЬВА

Жыў-быў мужык. Была ў яго вялікая сям'я, а есці не было чаго. Чалавек разумеў, што трэба нешта рабіць, бо дзеткі малыя з голаду паўміраюць. Таму памеркаваў дый кажа жонцы:

— Ведаеш што, каханенькая, няма іншага выйсця, як падавацца мне ў парабкі да пана. А раптам пашанцуе, ды пан шчодра адплоціць? Тады і зямелькі, дасць Бог, прыкупім, і на стале будзе што есці. Свет жа не без добрых людзей.

— Эх, чалавеча, каб жа пан табе сапраўды заплаціў. Што свет не без добрых людзей, і я ведаю, але нешта яны нам не сустракаюцца, усё ліхіх ды злых лёс пасылае. Сам жа бачыш, што нам не шанцуе, хоць і рвёмся, імкнёмся да лепшага жыцця.

— І ўсё ж я паспрабую.

На наступны дзень пайшоў мужык да памешчыка наймацца ў парабкі. А пан хітры быў — спачатку выклікаў да сябе войта і запытаўся, ці добра працуе гэты чалавек. Той адказаў, што лепшага працаўніка, можа, ва ўсім паселішчы не знойдзеш. Тады гаспадар узяў яго.

Пачаў шчыраваць селянін на панскай ніве, ад раніцы да глыбокага вечара гнуўся.

Непрыкметна праляцеў год. Пайшоў мужык да свайго гаспадара і кажа:

— Пане. Сёння год прайшоў, як я ў цябе працую. Заплаці мне.

— Добра ты, чалавеча, працаваў, шчыра, таму і заплачу табе лепей, чым іншым, бо такога парабка мне бачыць яшчэ не даводзілася, каб на чужой ніве шчыраваў, як на ўласнай.

Загадаў памешчык даць селяніну збожжа, яшчэ грашыма прыплаціў ды жонцы і дзецям на падарункі даў. Добры пан быў, не надта сквапны.

Пайшоў вясковец дамоў. Ідзе сабе, ідзе, стаміўся крыху і вырашыў адпачыць. Сеў, дастаў з торбы полудзень, які панскі кухар яму паклаў, і ўжо збіраўся есці, але нешта яго стрымлівала, нібы пад рукі нехта стукаў. Азірнуўся — няма нікога. Толькі кавалак хлеба да рота паднёс, як пачуў, што недзе паблізу трэснула голька. Глянуў — па сцяжынцы старая жанчына ідзе, ледзьве ногі пераастаўляе і, што самае галоўнае, прама на яго кіруе. «Пачакаю старую ды прапаную ёй перакусіць са мной... Мабыць, нейкая жабрачка, і ці часта ёй даводзіцца есці — адзін Бог ведае». Тым часам старая з ім параўнялася.

— Добры дзень, чалавечку. Не заўважыла, што ты тут сядзіш, ды якраз на цябе і выперлася.

— Нічога, нічога, бабулька, — адказвае вясковец, — не мой гэта лес, а боскі, усім тут месца хапае. Сядай, перакусі са мной. Чым Бог мяне пачаставаў, тым і я цябе пачастую.

— Вось дзякуй, вось дзякуй, добрая твая душа, — залапатала бабулька. — Сяду, бо галодная, з самае раніцы нічога ў роце не было.

Падсілкаваліся яны трохі, потым вясковец і пытаецца:

— А хто ж ты такая, бабулька? Адкуль бярэш кірунак? Відаць, ёсць нейкая нагода, калі ідзеш адна па глухой лясной сцяжынцы, не баішся звяроў-драпежнікаў або, даруй Божа, разбойнікаў-рабаўнікоў.

— Ды што, чалавечку, у мяне разбойнікі возьмуць? Маю спадніцу ў дзірках? Маё жыццё, думаю, іх не надта зацікавіць. А завуць мяне Зэльвіхай. Дзіўнае імя, але так некалі дзядуля празваў.

— А звяры? Іх жа тут бачна-нябачна. Ім жа ўсё роўна — бедны чалавек перад імі ці багаты, асабліва галодным.

— Яны мяне ніколі не чапалі і не чапаюць. Я з дзяцін-

ства ў лесе жыву, таму ведаю, які звер на што здатны. Мяне некалі дзядуля ўсялякім замовам навучыў, а некаторыя я сама напрыдумляла — яны мяне і засцерагаюць. Зараз я ад людзей іду, бо мяне клікалі над хворым дзіцём пашаптаць і хваробу ад яго страшную адагнаць.

— Ну і як?

— Усё абышлося. Тры ночы ў людзей тых начавала, пакуль не пазбавіла невінаватую душу ад хваробы. Зрабіла справу і вяртаюся ў сваю хацінку-буданчык. А цябе, чалавеча, за павагу да мяне і шчырасць я навучу ўсемагутнай замове. Прашэпчаш яе перад тым як у лес ісці, і ўсе звяры на цябе зубы замкнуць. Слухай уважліва і запамінай, бо, калі хоць слова перайначыш, яна не будзе мець сілы:

«Першым разам, божым часам. Госпаду Богу памалюся, святой Мацеры Божай пакланюся.

Ёсць у свеце многа царыкаў, а мне толькі тры трэба: першы царык — ясен месяц на небе; другі царык — воўк у каладзезі; трэці царык — мядзведзь пад гарою. Як мне з імі не сходзіцца, а ім за адзін стол са мною не садзіцца, і не піць, і не есці, не гуляць, не размаўляць, так рабу зверу са мною не сходзіцца, не бачыцца, не сустракацца... Я замаўляю, упрашаю і прыгаворваю, каб мяне ніхто не крануў, бокам усе звяры абыходзілі, вокам злым на мяне не кідалі. Ваўку валаўство, ваўчыцы юцы, чорнай рызай вочы засцілаю, застаўляю і замыкаю зубы, губы, ногці, когці залатымі замкамі, сярэбранымі моцнымі ключамі. Я ж сама тыя ключы выймаю і на далёкае-далёкае сіняе мора закідаю. Чур усё гэта ад пары і да пары, ад часу і да часу...»

— Запомніў?

— Запомніў, бабулька.

— То я, чалавечку, пайду да сваёй хаціны, бо пакуль дайду, дык і прыцемкі. Дзякуй табе вялікі. Калі што ліхое надарыцца ды жывая буду, то звяртайся за дапамогай. Я дабро памятаю заўсёды. Замову не забудзь, яна ўсемагутная.

— Шчасліва табе, бабулька Зэльвіха, — сказаў селянін і сам устаў, бо і яму карцела як мага хутчэй дабрацца дамоў.

Вярнуўся чалавек да сям'і, распавёў, як удала ён прапрацаваў год, а калі потым прывёз заробленае, то ўвогуле ўсе ўзрадаваліся. З таго дня гаспадар стаў на сваёй ніве працаваць.

Вось неяк паехаў мужык араць і ўзяў хлеба ў торбачку, бо лепшае заўсёды дзецям ды жонцы пакідаў. Араў ён, араў, пакуль не стаміўся. Тады вырашыў пусціць валоў на траўку ды перакусіць, а мо і гадзінку паляжаць, каб даць адпачынак целу. Падышоў да куста, на якім торбачка вісела, паглядзеў у яе, а там... пуста, няма хлеба. «Магчыма, птушкі дасталі», — падумаў селянін, азірнуўся, але птушак не было ні відаць, ні чуваць паблізу. Сеў маркотны і закурыў сваю люльку, каб хоць неяк голад разагнаць.

А з другога боку кустоўя ажно заходзіўся са смеху чорт. Гэта ён такую штуку з чалавекам і выкінуў. «Вось, — думае, — я ў цябе хлеб спёр, сам з'еў, а ты са злосці будзеш сваіх валоў лупцаваць. Тады пагляджу, як напрацуеш».

Пакурыў чалавек, паляжаў крышку, устаў ды кажа нібыта самому сабе: «Вось узяў з сабой кавалачак хлеба, але нешта і есці не хочацца, то няхай галаднейшы за мяне з'есць».

Пайшоў араць, але валоў не б'е, не гарлае на іх. Чорт наглядаў, чакаў, а потым паляцеў да свайго самага галоўнага, каб пахваліцца, што хлеб у чалавека ўкраў. Прыджгаў і крычыць:

— Я хлеб у селяніна ўкраў, цяпер ён да вечара галодны хадзіць будзе. Я яму сёння добра насаліў.

А самы галоўны нячысцік некалі быў добра знаёмы з дзедам той самай бабулькі Зэльвіхі (чэрці, як вядома, жывуць вечна, а людзі паміраюць), і той чалавек прывучыў яго паважаць сумленных працаўнікоў.

— Ідзі, — кажа, — ды адпрацуй таму чалавеку за такое ліха. І не ўздумай абкруціць мяне, бо пашлю праверыць, і калі адкрыецца падман, то шкуру з жывога спушчу, так і ведай.

Гэта было сказана такім суровым голасам, што маладому чорту нічога іншага не заставалася, як тэрмінова бегчы і выконваць. Вось пыляцеў ён у хуткім часе да селяніна і кажа:

— Чалавеча, я буду ў цябе служкай, выканаю ўсё, што загадаеш.

Мужык якраз валоў з плуга выпрагаў, дык і рот ад здзіўлення разявіў. Яму даводзілася чуць, што чэрці на розныя штучкі здольныя, але каб такое...

Круціць чалавек галавою па баках, выйсця шукае, а ў галаве ўсялякія думкі круцяцца.

— А як жа ты мне служыць будзеш, калі ў мяне і на аднаго хлеба не хапае? Не ведаю, як самому пракарміцца, а работніка ж трэба добра карміць, каб ён добра працаваў.

— Ды мне многа хлеба і не трэба — які акрайчык і годзе, а вадзіцы сцюдзёнай я і без цябе знайду. Дазволь служыць...

— Ну, раз ужо так просішся, то служы. Толькі табе ж нейкая плата трэба?

— Не, плата мне не трэба. Я проста так табе дапамагаць буду, за так...

— За так? Тады я згодны.

— Вось дзякуй табе, чалавеча, не пашкадуеш.

Селі яны на воз і пацiснулі да хаты таго вяскоўца. Стаў чорт жыць у хляве, на падворку, і ва ўсім слухаўся гаспадара, усё выконваў, што той ні загадае.

Прыйшла вясна. Ведама ж, людзі вясной сеюць авёс, проса, жыта ці што іншае.

Прычапіўся нячысцік да селяніна і патрабуе:

— Давай проса сеяць!

— Рана, яго пазней сеюць.

— Сейма!

— Рана.

— Сейма!

Пасеялі проса, і яно такое густое пайшло, такое ядранае. Суседзі зайздросцілі, прасілі гаспадара расказаць, як гэта ў яго так добра атрымалася, а той толькі адмахваўся.

Не паспеў мужык ад гэтага поспеху адысці, а нячысцік яго ўжо ледзьве за грудкі не хапае — прымушае бульбу садзіць.

— Яшчэ ж зямля халодная, дурная твая галава! — крычыць гаспадар. — Мы ж насенне згубім, нібы на сметнік выкінем!

— Не выкінем, трэба садзіць бульбу! — не адстае нячысцік.

— Чаго спяшацца? Паспеем, людзі яшчэ ў поле не збіраюцца.

— Раз я кажу, што трэба садзіць, то нешта ж ведаю, іначай не настойваў бы. Ты на людзей не глядзі. Бачыш, як мы на просе выйгралі?

— Пашанцавала, дык і выйгралі.

— Не скажы... Давай бульбу садзіць. Заўтра раніцай бяры жонку, дзяцей, і паедзем.

Пераканаў-такі нячысцік селяніна. Калі вяскоўцы даведаліся, то смяяліся, ажно за бакі хапаліся, але чорт мужыка супакойваў:

— Не звяртай увагі, усё будзе добра. Пабачыш хутка.

І што вы думаеце? Такая бульба ўрадзіла ў таго селяніна, што яны ўдваіх ніяк не маглі яе перавазіць на падворак. Вяскоўцы ўжо ў адкрытую зайздросціць пачалі, перасталі вітацца, бокам абыходзілі.

Замаркоціўся гаспадар. Канешне, з аднаго боку — багацця прываліла гэтулькі, колькі раней ніколі не было, а з другога — страціў добрыя адносіны аднавяскоўцаў. Як тут быць, што рабіць? У нячысціка не спытаешся, бо ён зноў што-небудзь такое параіць, што пасля і з вёскі прагнаць могуць.

— Што гэта ты такі сумны сёння? — заўважыў чорт. — Можа, нешта благое здарылася, дык ты не саромейся, скажы, разам выйсце абавязкова знойдзем.

— Ды не, усё добра...

— Калі добра, то трэба нам збірацца збожжа жаць.

— Дык мы ж ранняе пажалі, а гэтаму яшчэ рана, няхай пастаіць на карані, паспее...

— А я табе кажу, што ўжо час прыбіраць. Вось ударыць восеньскія дажджы — тады позна будзе, а не рана.

Як сказаў нячысцік пра дажджы, дык мужык зразумеў, што чорт дакладна ведае, калі яны пачнуцца, і не трэба яму супярэчыць.

З раніцы пайшлі на поле збожжа жаць. Вяскоўцы падумалі, што сусед з глузду з'ехаў, але выйшла наадварот. Толькі мужык з чортам усё зжалі, звезлі ў гумно і накрылі, каб дажджом не замачыла, як такія залевы пачаліся, якіх, можа, гадоў сто не было. Усё навокал паплыло, панішчылася. Людзі загаласілі.

— А што ж вы не ішлі тады, як я на поле падаўся? Чаго чакалі? Бачыце, я паспеў, а ваша загінула.

— Хто ж ведаў, што так павернецца?..

Пачалі мужык з чортам малаціць. Селянін як пабачыў, сколькі ў яго збожжа, дык запрапанаваў:

— Давай папросім у суседзяў малатарню, удвая хутчэй будзе.

А нячысцік пальцам ля скроні пакручвае:

— Ага, то плакаў, што кавалка хлеба няма, а то малатарню прасіць пойдзеш. Што пра цябе падумаюць?

Так і малацілі — уручную, тыдзень амаль не разгіналіся. Чорт ужо ледзьве на нагах трымаўся, надакучыў

гаспадару сваімі жальбамі ды стогнамі, дзявацца таму не было куды, а як ад яго пазбавіцца — не ведаў. І тут прыгадаў селянін Зэльвіху, успомніў, што яна абяцала на выпадак ліха якога дапамагчы. Пакінуў ён парабка дома, а сам раніцай паджгаў да старой. З цяжкасцю знайшоў яе хацінку і кінуўся ў ногі:

— Дапамажы, бабуля, пара́й, як ад нячысціка пазбавіцца. Пасварыў ён мяне з вяскоўцамі. Жыў я, як і ўсе, і добра мне было, а зараз багатым стаў, а шчасця сапраўднага няма. Дапамажы...

— Добра, чалавечку, толькі і ты выканай маю волю.

— Усё зраблю, што папросіш.

— Прыйдзі сюды праз тры дні і пахавай мяне вунь на тым пагорачку, над рэчкай. Бачыш?

— Бачу, але ж...

— Я лепей ведаю. А нячысціка таго сёння ж, пры першай жа нагодзе пашлі к чортавай мацеры. Крыкні моцна, тупні нагой і тры разы гэтыя словы паўтары. Ён і згіне.

— Так проста?

Прыбег гаспадар дахаты і зачэпку стаў шукаць. Але чорт добра сябе паводзіў, сядзеў ціха. Тады селянін проста так загарлаў:

— Парабак!

— Чаго?

— А пайшоў ты к чортавай мацеры!

Нячысцік за́дам, за́дам і як паляцеў, дык і дух яго прапаў.

Праз тры дні вясковец пайшоў да Зэльвіхі. Старая была нежывая. Пахаваў яе чалавек там, дзе яна і прасіла. Праз некаторы час людзі тую горачку Зэльвіхай назвалі, а раку — Зэльвянкай. Калі паселішча там узнікла, бо месца прыдатнае было, то стала яно Зэльвай.

## БЯРЭЖКІ

Некалі, у старадаўнія часы, паселішча тут не было. Людзі сюдой ездзілі і хадзілі, але хацін не будавалі. Аднаго разу ішлі аднекуль чацвёра падарожных. Стаміліся вандроўнікі, сілы неставала далей рухацца.

— Эх, каб чаго гарачага пад'есці, здаецца, па-новаму на свет нарадзіўся б, — мовіў адзін.

— А па мне — прыпасці б на палок ды гадзін пару паляжаць... — падхапіў другі.

Прайшлі колькі крокаў моўчкі, і тут трэці азваўся:

— Эх, апынуцца б зараз за святочным сталом, выпіць, закусіць, песні паспяваць...

Чацвёрты, самы старэйшы, які дагэтуль маўчаў, не вытрымаў:

— Дурныя вы. Вам выпіць, паспаць, паесці смачна хочацца. Мне ні хлеба, ні гарэлкі не трэба. Глыток бы вадзіцы сцюдзёнай — стома сама адышла б, сілы новыя ўліліся б.

Сумеліся астатнія:

— Праўду сказаў. Каб дзе вадзіцы халоднай папіць. Вось як усё, аказваецца, проста.

Гамонячы, выбіліся вандроўнікі на прыгожы пагорачак. Раптам старэйшы ўзняў руку:

— Цішэй, браткі, хіба вы не чуеце? Яна ж звініць...

— Што, што? — закруціліся на месцы астатнія. — Нічога не чуем.

— Крынічка недзе зусім блізка б'е, трэба пашукаць. Вось і вадзічка нам будзе...

Кінуліся ў розныя бакі, і праз колькі часу адзін з іх радасна закрычаў:

— Вось яна! Глядзіце, вось яна!

Падбеглі астатнія і ўбачылі крынічку, што выбівалася з-пад разгалістага лазовага куста і весела аб нечым, ёй адной вядомым, спявала. Прыпалі яны да вады і давай смагу наталяць.

— Ну і вада! Ды такой нап'ешся — і есці не трэба, і сіла сама па сабе прыбудзе.

Пасядзелі вандроўнікі, адпачылі, стому з плячэй скінулі і, нібы ў падзяку, зрабілі над крынічкай драўляны зруб. А каб пілі людзі вадзіцу, не прыпадаючы да самой крыніцы, павесілі побач карэц з бяросты: падыходзь, бяры і пі, колькі душа пажадае. Прыбралі ўсё навокал, невялічкае рэчышча, куды крынічка выцякала, расчысцілі, каб далей вадзе прастор быў, і пайшлі.

Можа, стагоддзе пасля таго выпадку мінула. Людзі часта спыняліся ля крыніцы і, наталіўшы смагу, дзякавалі ёй: хто друз ды смецце далей адносіў ці спальваў, хто зруб рамантаваў, хто карэц са свежай бяросты скручваў. Потым папаўзлі чуткі, што вада гэтая цудадзейная. А здарылася гэта пасля аднаго выпадку.

Захварэла ў бацькоў малая дзяўчынка. Бегала, бегала, а вечарам, ні се́ла, ні па́ла, пачала трызніць. Гарыць

уся, кідаецца, нікога не пазнае. Перапалохаліся гаспадары, жонка і кажа мужу:

— Бяжы да бабкі-варажбіткі, вядзі яе сюды. Прасі прабачэння, што ноччу турбуеш, але вядзі. Бачыш сам, што справа дрэнь, і хто яго ведае, чым можа скончыцца. Быццам у агонь дачушку кінулі... Бяжы, родненькі, час не цягні.

Варажбітка тая не надта далёка жыла, але ўжо старая была. Пакуль дастукаўся да яе чалавек, пакуль раскатурхаў, пакуль яна распытала, што да чаго, а потым пакуль назад даклыпала, бо ледзьве ногі перасоўвала, то беднаму селяніну падалося, што суткі прайшлі.

Нарэшце прыйшлі. Варажбітка падышла да дзяўчынкі, узяла яе за руку і нешта доўга-доўга слухала, потым апусціла руку і павярнулася да матулі:

— Я прынесла травак усялякіх, кветачак сушаных, іх трэба заварыць у кіпні і даваць піць хворай.

Жанчына кінулася да вядра з вадой.

— Не, не ў гэтай вадзе, не ў гэтай. Няхай гаспадар збегае да крыніцы, што на пагорачку б'е, і адтуль прынясе. Толькі адтуль...

Заварылі тыя траўкі і далі дзяўчынцы піць. За два дні на ногі яе варажбітка паставіла. Не ведалі, як дзякаваць старой гаспадары, але яна нічога не ўзяла, сказала толькі:

— Гэта ж святая крыніца. Сама Свентая Матка там ходзіць. Калі прыглядзецца, то можна заўважыць яе сляды. Паспрабуйце.

Пайшлі неяк усёй сям'ёй да крыніцы і сталі параўноўваць сляды. Неўзабаве бацька ўскрыкнуў:

— Знайшоў! Знайшоў!

Сталі ўглядацца і ўбачылі сляды ад босых ног, вельмі акуратненькія. Чутка пра гэтае дзіва хутка разнеслася па наваколлі. Цяпер хворыя ішлі сюды цугам, іх везлі, каб напаіць чароўнай вадзіцай ці ўмыцца ёю. І вада дапамагала. Многім дапамагала. Ды адзін сквапны селянін вырашыў пазбавіць хворых гэткіх лекаў. Узяў, недарэка, і прыгнаў сваіх гусей да зруба. Як толькі яны напіліся вады, зашумела ўсё навокал і пачало залівацца вадою. Вада паглынула і таго злыдня.

Праз тры дні наваколля нельга было пазнаць: высачэзныя хвалі ўздымаліся там, дзе былі палеткі і лясы. Але слядочкі ног Свентай Маткі засталіся, і вольным быў невялічкі беражок. Доўга ён заставаўся. Таму і вёску Бярэжкамі назвалі, калі яе тут пачалі будаваць.

# ДАБРАСЕЛЬЦЫ

Жыла-была сям'я: муж з жонкай і тры сыны, яшчэ зусім малыя. Душа ў душу жылі, і раптам здарылася бяда. Пайшла неяк жонка ў лес, а назад яе ўжо прывезлі: напаткаў небараку мядзведзь і так напужаў, што ў яе ногі адняліся. Не выратавалі шматлікія варажбіты, якіх і сам ён, і суседзі прыводзілі. Паляжала, паляжала і памерла. Усе вяскоўцы прыйшлі праводзіць яе ў апошні шлях, бо добрая была гаспадыня: спагадлівая, чулая, працавітая. З ёю можна было і пагаманіць, і бядою-ліхам падзяліцца — усё разумела.

Калі яшчэ жывая была, узяла слова з гаспадара, каб дзяцей глядзеў, не крыўдзіў, нібыта прадчувала, што давядзецца ім гора спазнаць з малых гадоў.

— Глядзі, я ўсё ведаць буду. Стану шэрай зязюлькай і буду прылятаць і глядзець, як мае дзеткі-сіроткі жывуць. У народзе ж гавораць, і ты гэта ведаеш, што дзеці не сіроты, калі маці ёсць, а сіроты, калі з бацькам застаюцца. Памятай пра гэта, бо такі грэх нікому не даруецца...

Пакляўся чалавек, што будзе глядзець за дзецьмі як мае быць і што не жэніцца да таго часу, пакуль самы меншы дзецюком не стане.

Эх, каб жа мы ўсе свае словы трымалі... Сёння адно гаворым, а заўтра — другое. Так і з тым селянінам здарылася. Праўда, некаторы час трымаўся, а потым заявіў сынам:

— Вы, хлопчыкі, як сабе хочаце, а я жаніцца надумаў. Цяжка мне аднаму з вамі.

Апусцілі галовы дзеці ды заплакалі. Што яны яшчэ маглі зрабіць?

На наступны дзень гаспадар прывёў сваю новую жонку. Яна адразу неўзлюбіла хлопчыкаў, здзекавалася з іх, біла. Суседзі спрабавалі заступіцца за малых:

— Што гэта ты рукі распускаеш? Ведзьма ты, а не жанчына! Яны ж ні словам, ні духам дрэннага не робяць, ва ўсім дапамагаюць, а ты ім так адплачваеш? Глядзі, адальюцца табе іхнія слёзы...

Дык яна пачала ў хаце дзяцей лупцаваць. Гаспадар спачатку заступаўся за іх, але праз пару тыдняў і сам дапамагаў жонцы ў гэтай няхітрай справе.

Неяк, калі галодныя дзеці заснулі на палку, жанчына закамандавала мужу:

— Ты як хочаш сабе, а ■ з тваімі дзецьмі ў адной хаце

жыць не стану! Выбірай — ці са мной, ці з імі, а мне надакучыла карміць ды апранаць тваіх злыдняў!

Тут гаспадара ўпершыню заела. Хацеў было надаваць кухталёў жонцы, але стрымаўся, падумаў, што, мо, са злосці сказала. Ды дзе там! Не паспеў з ложка ўзняцца, а яна ўжо камандуе:

— Ну, вязі іх з хаты, ці я сама гэта зраблю.

Заплакаў гаспадар ад крыўды, але і гэтым жонку не разжаліў. Загадаў ён тады ставіць на стол добры снядананак, каб дзяцей хоць на развітанне накарміць. Але тыя, мабыць, нешта зразумелі і не елі. Калі бацька запытаўся, чаго гэта яны лыжкамі так слаба працуюць, то за ўсіх адказаў старэйшы:

— Не хочацца нешта. Нудны ён нейкі, сняданак гэты, не лезе ў горла...

Бацька колькі часу маўчаў, а потым загадаў тэрмінова збірацца ў лес, па дровы.

Што там малым збірацца, калі апранах тых — усяго пара штук? Раз — і гатова! Селі на воз і паехалі. Селянін спрабаваў развесяліць іх, а яны прыцісналіся адзін да аднаго і маўчалі, нібы каменныя, толькі слёзы па тварыках беглі. Змоўк і гаспадар і тут пачуў, як недзе зусім побач голасна закувала зязюля.

Уздрыгануўся ён, успомніў перадсмяротныя словы жонкі і каня хутчэй пагнаў. Завёз у глухі, непралазны лес, азірнуўся і прамовіў ціха:

— Не магу я вас назад забраць, тут заставайцеся...

Дзеці не плакалі, не прасіліся, адно толькі глядзелі шырока раскрытымі вачанятамі, але такое маўчанне было бязлітасней за іншую кару. І ўсё ж, калі бацька паехаў, хлопчыкі далі волю слязам.

Потым, параіўшыся, вырашылі ісці куды вочы глядзяць.

Колькі ішлі — цяжка сказаць, нарэшце сустрэлі палясоўшчыка і расказалі чужому чалавеку пра сваю бяду.

Спахмурнеў твар незнаёмца, толькі і прамовіў:

— Ды як жа гэта так са сваімі дзецьмі можна абыходзіцца? Ваўкі і тыя ніколі так не робяць!

Пачулі браты пра ваўкоў і заплакалі, але палясоўшчык супакоіў іх:

— Не плачце, хлопцы, не трэба. Добра, што я вас напаткаў. Будзеце ў мяне жыць, калі не супраць. Я адзін, таму і мне, і вам весялей будзе. Пайшлі, усім месца хопіць.

Прывёў іх да сябе дамоў, накарміў уволю і спаць паклаў.

Так і сталі браты жыць у палясоўшчыка. Ён гадаваў іх, карміў. Хлопцы былі вельмі спрытныя да ўсялякай работы, толькі пакажы — умомант усё выканаюць. Так непрыкметна і час мінаў.

Праляцела, можа, гадоў дзесяць, а можа, і пятнаццаць. Прыспеў час жаніцца хлопцам. Кожны сабе па прыгажуні жонцы ўзяў, але нікога новы іхні бацька ад сябе не адпускаў, прасіў:

— Хлопчыкі, жывіце ля мяне, месца і вам, і вашым дзеткам хопіць. Я старэю, хутка сілы не будзе працаваць ды сябе даглядаць. Заставайцеся...

Так яны ўсе і засталіся, хаціны новыя, вялікія пабудавалі. Паселішча іхняе пазней ужо людзі Дабрасельцамі назвалі, ад таго, што добра, заможна жылі і добра, спагадліва да ўсіх адносіліся.

## ЕЛКА

У адным паселішчы сярод непралазных лясоў была надта прыгожая і самабытная царква. Так ужо яеададзілі майстры, так вырабілі, што, можа, і ў вялікіх гарадах-сталіцах падобных не было. Без адзінага цвіка цеслі яе ўзвялі. Калі бацюшку запрасілі першы раз у гэтую царкву службу служыць, то ён не ўтрымаўся і сам перад парогам на калені ўпаў ды малітву да Усявышняга паслаў:

«Божа! Дай пазамагільнае жыццё, багатае і шчаслівае, тым майстрам, якія гэта зрабілі! Колькі я на белым свеце жыву, але такога цуда яшчэ не сустракаў! І не сустрэну, мабыць. Таму прашу цябе, Божа, не забудзь іхніх памкненняў ды стаенняў! Не забудзь, Божа!»

Калі зайшоў бацюшка ў царкву — яшчэ больш здзівіўся: абразы каштоўныя ды дараносіцы, паціры ды крыжы так і адсвечвалі золатам-срэбрам.

— Дзе вы гэтулькі каштоўнасцей узялі?

— Ды мы ўсе свае грошы і каштоўнасці сюды знеслі. Навошта яны па хатах ляжаць? Зладзеяў у нас няма, красці ніхто не стане. А так і паглядзець, палюбавацца можна.

Адслужыў тады бацюшка першую службу за такіх шчырых і сумленных людзей ды так і застаўся жыць у вёсцы: малебны служыў, людзей вянчаў, хрысціў немаўлят і, калі такое здаралася, адпраўляў нябожчыкаў у апошні жыццёвы шлях — да вясковых могілак.

Усё добра было. Ціха, спакойна цякло жыццё, як вада ў павольнай рэчцы, дзе няма ні крутых заваротаў, ні віроў. Але аднойчы да іх дайшла вестка пра тое, што ў навакольных лясах аб'явіліся рабаўнікі. Сабраліся вяскоўцы, каб вырашыць, як бяду тую ад сябе адвесці. Выказваліся найбольш старыя ды ўмудроныя жыццёвым вопытам людзі. Мовіў слова і бацюшка:

— Вайной на іх нам ісці нельга, бо гэта ж забойства здарыцца.

— Бацюшка, а калі яны нас пераб'юць ці нашых родных, гэта грахом не будзе? — запытаўся нехта.

— Мы будзем старанна маліцца, да Бога звяртацца, каб ён пачуў нашыя малітвы і спаслаў на разбойнікаў розум, каб прасвятлелі іхнія галовы і ў сэрцах прапала нянавісць ды крыважэрнасць.

— А калі не спашле? — зноў пачулася з натоўпу.

— Грэх такое гаварыць. Перад Богам усе роўныя, як ён захоча — так і будзе. Разыходзьцеся па хатах, усё будзе добра, толькі маліцеся шчыра.

Пасунуліся людзі, але было відаць, што не надта яны былі задаволены такім паваротам справы. Чуліся ўзбуджаныя галасы:

— Можна падумаць, што тыя пярэваратні нашы малітвы пачуюць і людзей перастануць забіваць.

— Трэба прызначыць колькі чалавек для аховы царквы і каштоўнасцей.

— Не здагадаліся. Трэба было бацюшку сёння ж прапанаваць гэта. Не здагадаліся...

Разышліся людзі, апусціўся змрок над паселішчам, заснула вёска, але не такім, як раней, сном — спакойным ды ціхім, а нейкім трывожным, нібы прадчуваючы нешта дрэннае, што павінна было вось-вось адбыцца.

Раніцай пабеглі да бацюшкі і сталі гаварыць адносна варты ля царквы, ды і па вуліцах не перашкаджала б пакідаць на ноч пяць-шэсць мужыкоў. Усё ж неяк спакайней.

— Я сёння ўсю ноч, браты мае, шчыра маліўся, да Бога звяртаўся. Ён пачуў мае маленні і паабяцаў, што не дапусціць бяды ў нашым паселішчы. Так што жывіце спакойна, працуйце, адпачывайце, нікога і нічога не палохайцеся.

Пайшлі вяскоўцы ад бацюшкі, але яшчэ цяжэй у іх на сэрцах стала, прадчуванне нечага страшнага нібы давіла.

У той дзень надвор'е надарылася, нібы пад заказ. Амаль усе жыхары пацiснулі на луг, каб сена прыбраць да дажджоў і потым не перажываць, што жывёла на зіму без сена застанецца. Ведама ж, жывое думае пра жывое. Эх, каб хто іх папярэдзіў, што аберагацца трэба, а так...

Вярталіся дамоў пад вечар. Ніхто і падумаць не мог, што рабаўнікі, стаіўшыся, ужо чакаюць іх. Раптам з усіх бакоў наскочылі на сялян разбойнікі і ўмомант звязалі ўсіх мужчын. А якія з жанчын ды дзяцей змагары — самі ведаеце.

Пагналі яны ўсіх людзей да царквы. Першага, каго местачкоўцы ўбачылі, быў бацюшка. Ён вісеў на высокай бярозе, і ссінелы твар яго ўказваў на тое, што павесілі бедалагу ўжо даволі даўно.

— Хачу вам падзякаваць за тое, — пачаў барадаты здаравенны разбойнік, — што вы самі, па добрай волі, сабралі ўсе каштоўнасці ў царкву. Нам зараз і шукаць па хатах не трэба.

Разбойнікі зарагаталі.

Вяскоўцы стаялі моўчкі, потым некага прарвала:

— Ваўкалакі! За тое, што бацюшку павесілі і царкву разрабавалі, не будзе вам жыцця на гэтым свеце!

— Не будзе! — узбуджана зароў натоўп.

— Бог усё бачыць, ён вас за гэта сёння ж і пакарае!

— Гэта мы яшчэ пабачым! Пакуль нас Бог, мы зараз вас усіх да яго адправім! — гыркнуў атаман. — У царкву іх!

Загаласілі жанчыны. Мужчыны спрабавалі супраціўляцца, але ці на многае здольны звязаны па руках чалавек?

Праз нейкую хвіліну полымя сквапна ахапіла царкву і высачэнныя хвасты яго лізанулі да самых нябёсаў. Туды ж панёсся адчайны крык і праз некаторы час заціх...

Нічога не засталося ад той вёскі, ніхто не выжыў.

Каштоўнасці прыбраў да сваіх рук атаман і схаваў. Каб не дзяліцца ні з кім, стаў пацiху забіваць паплечнікаў і перабіў усіх, з кім рабаваў царкву, а новыя, якія да яго прыйшлі, не ведалі, дзе схаваны тыя каштоўнасці. Так і сышла б гэтая тайна ў магілу разам з атаманам, але апошнімі перадсмяротнымі яго словамі былі: «Елка... Пад елкай...»

Кінуліся разбойнікі елкі вакол вёскі падкопваць, ды дзе вы бачылі, каб са ўсімі справіліся — іх жа тысячы былі. Так і капалі дзесяткі гадоў. Неўзабаве засталася толькі адна елка — пасярод вёскі. Але яе ўжо не было

каму падкапаць, бо ўсе рабаўнікі ці то загінулі, ці то перамёрлі.

Людзі, якія тут пазней жыць сталі, назвалі сваю вёску Елкай, а пра скарб той потым даведаліся, калі дрэва ўжо спарахнела і само па сабе ўпала. Так і не знайшлі таго скарбу.

## КНЯЗЕВА

Тут, дзе цяпер вёска Князева, раней толькі сажалка была, вакол якой раслі дубы, таполі, ясені. А вёрст за пятнаццаць адсюль жыў князь — малады, надзіва прыгожы і багаты чалавек. Вёсак ды гарадоў меў мноства, людзей паспалітых — таксама. Але людзей не прыціскаў, даваў пажыць — толькі працуй шчыра. Таму і любілі свайговаладара простыя сяляне. Сам жа князь любіў паляванне — дзень і ноч, здаецца, прападаў бы на ловах. А яшчэ вельмі любіў князь заляцацца да прыгожанькіх дзяўчат і маладзіц. І тыя, праўда, не абдзялялі яго сваёй увагай, давалі падставы для такіх паводзін. Гэтая слабасць і каштавала яму жыцця. Але паслухайце пра ўсё па парадку.

Аднойчы вечарам каля сажалкі з'явіліся цыганскія шатры. Адразу загучалі вясёлыя песні, музыка, пачаліся танцы.

Цыганы сталі хадзіць па навакольных вёсках: паказвалі ўсялякія мудрагелістыя фокусы, мянялі коней, цыганкі варажылі на картах, на вадзе, па руках прадказвалі будучае.

Сярод іх вылучалася адна маладая цыганка — смеласцю, адчайнасцю, але найболей — прыгажосцю. Здавалася, што сама Маці Божая намалявала яе твар і постаць ды спусціла на зямлю, да людзей, каб яна хадзіла і паказвала ўзор дасканаласці чалавечай натуры. На плячы ў яе заўсёды сядзела чорная варона.

Пра тое, што ў яго ўладаннях з'явіліся цыганы, і, вядома, пра дзяўчыну незвычайнай прыгажосці паведаміў князю ягоны ваявода. Валадар захацеў пабачыць усё на ўласныя вочы, і, дачакаўшыся цемры, яны паехалі на конях да табара, а далей ішлі пешшу. Ім, ваякам, прайсці нячутна было не праблема, таму падкраліся незаўважнымі да самых шатроў, паслухалі, пакруціліся там і назад вярнуліся.

Калі ехалі ў палац, то валадар прамовіў:

— А ведаеш, я вырашыў украсці яе і жаніцца...

— Жаніцца збіраешся, а сам жа ні разу яе не бачыў.
— Калі ўсе ў адзін голас сцвярджаюць, што прыгожая, значыцца, так яно і ёсць.
— Табе жаніцца, твая гэта справа, — буркнуў ваявода, які адносна жанчын прытрымліваўся супрацьлеглай думкі.
Праз пару начэй князь з двума дружыннікамі, якія заўсёды з ім плячо ў плячо ў бітвах стаялі, прабраўся ў табар і, высачыўшы, дзе спіць тая прыгажуня, украў яе. Яна і крыкнуць не паспела. Ачомалася ўжо верхам на кані. Паспрабавала крутнуцца — на плячо легла нечая жалезная рука.
Прывезлі прыгажуню ў палац, і князь паўстаў перад ёю.
— Не падумай нічога дурнога, дзяўчына. Я цябе сюды прывёз не для таго, каб зняславіць. Я на табе жаніцца хачу.
— А ў мяне ты, княжа, спытаўся? — ганарліва адказала цыганка.
Не чакаў такога павароту справы гаспадар і сумеўся. Выручыў ваявода, які маўкліва стаяў ля дзвярэй:
— Калі ўсіх прасіць ды ўсім гаварыць, то навошта князем быць.
— Мяне мог бы і спытацца...
Загадаў князь адвесці прыгажуню ў суседні пакой і пільна яе ахоўваць, каб не збегла ці каб хто да яе не прабраўся.
Нездарма асцерагаўся гаспадар. Справа ў тым, што гэтую дзяўчыну любіў малады прыгожы цыган. Наступнай ноччу ён неяк усё ж вызваліў сваю каханку і прывёз у табар. Старшы цыган адразу ж загадаў збірацца і ехаць далей ад гэтых мясцін.
Пачалі цыганы скручваць свае шатры, але не паспелі — наляцеў князь са сваімі вернымі дружыннікамі. Крыўдна яму стала, што нейкі просты цыган адважыўся ўкрасці ў яго, у князя, дзяўчыну. Разгарэўся люты бой. Цыганы адбіваліся, як маглі, але ж людзей, якіх прывёў з сабой мясцовы валадар, было значна болей, таму яны даволі хутка расправіліся з цыганамі. Апошнім забілі маладога цыгана — амаль да пояса рассек яго вострым мячом ваявода.
Дзяўчына разам з астатнімі жанчынамі ды дзецьмі сядзела ў шатры. У іх так было спрадвеку заведзена: мужчынскія справы вырашаюць толькі мужчыны. І тут нехта крыкнуў, што забілі маладога цыгана. Не ўтрымалася

прыгажуня, ухапіла сякеру і выскачыла з шатра. Тое, што яна ўбачыла, узрушыла так, што прага помсты авалодала ўсёй яе істотай. Дзяўчына падкралася да князя, секанула яго вострай сякерай у спіну, ускочыла на ягонага коніка і кінулася ўцякаць. Але не далёка ад'ехала — дагнала яе трапная страла.

Князя пахавалі там, дзе ён і загінуў, а месца стала называцца Князева Магіла. Пазней проста Князева засталося.

У Князеве і цяпер многа варон на дрэвах. Кажуць, што яны развяліся ад той вароны, што сядзела ў цыганкі на плечуку.

## ЧЫРВОНАЕ СЯЛО

Тады вайна з татарамі ішла. Раней яны часта надараліся, войны тыя. Калі не кожны год, то амаль праз год хто-небудзь ішоў на наш край. Даставалася людзям. Не паспеюць абжыцца, а іхнія будынкі ўжо агонь ліжа. Ды каб жа толькі будынкі — саміх жыхароў выбівалі чужынцы.

І тут вёска стаяла, вялікая, у наваколлі большай за яе не было. А якая прыгожая! Хаціны не маленькія — прасторныя, высокія. Сем'і вялікія, працавітыя. Здавалася б, жыві ды радуйся. Толькі іншым бокам лёс павярнуўся да местачкоўцаў.

Непадалёку некалі ручай працякаў — свавольны, жывы, не замярзаў у самыя лютыя маразы. Тубыльцы ведалі пра гэта і сцерагліся нават зімой яго пераходзіць. А тыя татары як панаехалі — адкуль ім было ведаць? Схаваліся яны ў лесе, а наперад выслалі аднаго — разведчыка. Той і папёрся цераз ручай. А які ж там лёд — так, крыху зверху прымерзла. Таму як конь ступіў, то праз імгненне і чалавек, і жывёліна былі ў сцюдзёнай вадзе. Жывёліна неяк выскачыла, а вой адразу пайшоў на дно. Яго потым значна ніжэй знайшлі, цячэннем аднесла. У вёсцы яшчэ казалі, што ўсю ваду сабой запаганіў.

Калі разведчык не вярнуўся ў стан, татары падумалі, што яго мясцовыя забілі, таму, асцерагаючыся засады, ірванулі ў іншым накірунку. Толькі ад'ехаўшыся на добры дзесятак вёрстаў, супыніліся і пачалі разважаць, што рабіць далей. Адны гаманілі, што трэба шукаць лёгкую здабычу ў іншым месцы, бо не пашанцуе, калі справа так

распачалася; другія меркавалі перачакаць колькі дзён і толькі потым ісці новым паходам; трэція, наадварот, ажно кіпелі са злосці і заклікалі ісці сёння ж ноччу на гэтую праклятую вёску, выпаліць яе дашчэнту, а ўсіх жыхароў пусціць пад нож, каб не было нават насення ад іх! Толькі мурза, прыкрыўшы павекі, нерухома сядзеў у сядле, і магло падацца, што ён спіць глыбокім сном. Аднак на самай справе, калі крыху прыціхлі галасы, ён кашлянуў і пачаў ціха гаварыць:

— Я вас выслухаў, мае воі, а зараз паслухайце мяне. Што здарылася з нашым разведчыкам — невядома. Конь прыбег адзін, значыцца, вершніка, хутчэй за ўсё, няма сярод жывых. Але ад чаго настала смерць — мы не ведаем. Таму трэба тут, у лесе, счакаць пару дзён, разаслаўшы ва ўсе бакі раз'езды, потым выслаць разведку да той вёскі, і не з аднаго чалавека. Галоўнае, каб ніхто пра нас не прачуў, бо тады ўся справа пойдзе на нішто.

Татары маўчалі, а гэта азначала згоду. Праўда, нельга забываць і пра дысцыпліну ў татарскім войску: словы мурзы былі законам.

Тры дні стаялі ў лесе, а мурза ўсё не адпраўляў разведку. Нарэшце паклікаў да сябе аднаго з адважных вершнікаў, якога заўсёды пасылаў у самыя цяжкія перапалкі:

— Вазьмі яшчэ пяцярых вершнікаў і едзьце ў тую вёску. Разведайце ўсё ціхенька, толькі глядзі, каб вас не заўважылі.

Яшчэ праз хвіліну група коннікаў нячутна растварылася ў начной цемры.

А ў той вёсцы ўжо чулі, што татары недзе паблізу кружацца, таму загадзя падрыхтаваліся да сустрэчы. Дружына мясцовага князя амаль тыдзень сядзела ў засадах. Мужчын-вяскоўцаў князь спецыяльна пакінуў у паселішчы, каб чужынцы не заўважылі падрыхтоўкі. Людзі займаліся звычайнай працай, але далёка ад хат не адыходзілі, корпаліся навідавоку. Начамі жанчын і дзяцей адводзілі ў далёкі лес, куды і мясцоваму цяжка было знайсці дарогу, не тое што чужынцу.

Аднаго дня прыскакаў запылены вершнік і паведаміў валадару:

— Княжа, знайшлі мы татар. У лесе яны. Мабыць, зручнага выпадку чакаюць. Нашы віжы за імі сочаць, цяпер нікуды не дзенуцца.

Павесялеў князь. Цяпер вораг не здолее непрыкметна напасці, але, тым не меней, загадаў вяскоўцам хавацца і ўдзень. Мужчынам было прасцей — яны ішлі ў дружыну, дзеці ж і жанчыны вымушаны былі кіраваць на дзікі востраў. Тыя, у каго не было дзяцей, хаваліся паблізу, а самыя хітрыя залазілі ў балотца і там сабе сядзелі ў капялюшніках.

Вось неяк сядзелі яны і раптам чуюць:

— Жанчынкі! Вылазьце! Пайшлі дамоў! Ужо ўсё!

Пераглянуліся жанчыны і хацелі было вылазіць, але адна, нібы адчуўшы небяспеку, перасцерагла:

— Сядзіце ціха, я пайду адна, праверу...

Вылезла яна з балота і ажно здранцвела: перад ёй стаяў татарын. Хацела ўжо ўцякаць, а потым здагадалася, што з-за яе і астатніх зловяць, таму спакойна пайшла за чужынцам.

Загадаў татарын весці яго ў вёску, да свае хаты. Зайшлі ў хату, ён счакаў трохі — усё ціха, і сказаў наварыць есці і вады нагрэць памыцца, а сам сеў на парозе з шабляй у руках. Затапіла жанчына печ, а сама думала, як сваім знак падаць. Неўзабаве татарын пачаў хіліць галаву на калені — сон яго размарыў. Жанчына падкралася да печы, вілы ў рукі ўзяла, паціху дастала самы вялікі гаршчок з кіпнем, загарнула яго ў анучку, прыўзняла і выліла ўвесь вар на галаву татарыну. Той выскачыў на вуліцу, ляментуючы на чым свет стаіць, і паляцеў стралой да сваіх, што ў лесе заставаліся і чакалі яго.

Убачылі татары, што на іх прэ іхні старшы і крычыць немым голасам: «Ой, як горача! Ой, як чырвона!»

Не разабраліся, што да чаго, скочылі на коней і давай уцякаць. А ззаду крык нёсся: «Ой, як чырвона!»

Калі старшы ўсё ж дагнаў іх, яны ўбачылі, што ён і сапраўды ўвесь чырвоны, нібы вараны рак.

Прыляцелі разведчыкі на тое месца, дзе асноўнае войска заставалася, а там толькі пабітыя ляжалі. Усіх скрушылі мясцовыя воі, усіх пабілі.

А назва за вёскай так і засталася — Чырвонае, у памяць аб той смешнай падзеі. Пазней крыху стала назва іншай — Чырвонае Сяло.



# ІЎЕ

Жылі тут стары са старой — Сымон ды Сымоніха. Так спрадвеку вялося, што жонку ад мужа клікалі: калі Міхал, то Міхаліхай, калі Сцяпан, то Сцяпаніхай, а гэтая вось Сымоніхай была. Нічым асаблівым баба тая не вылучалася, хіба што толькі злым норавам. Казалі, што яна такой урадзілася,і нават родны бацька не раз і не два гаварыў:

— Не ведаю, як з табой чалавек жыць будзе. Ты ж яго са свету белага звядзеш за месяц. Ты хужэй, чым тая ржа, якая няўмольна жалеза точыць. Ржа точыць, дык хоць маўчыць, а ў цябе ж рот не закрываецца: усё плявузгаеш, гыркаеш і клянеш. І чаго табе не хапае?

Калі Сымонавы бацькі сватоў паслалі да яго ў хату, то ён іх так пачаставаў, што тыя цэлы тыдзень у ягонай хаціне п'яныя ляжалі. І вяселле на радасці сам зрабіў, каб Сымонавы бацькі і капейкі лішняй не патрацілі, і пасаг багаты даў. Праўда, калі падпіў чалавек, то, моцна абдымаючы свайго зяця, плакаў ды прыгаворваў:

— Ой, братачка, ой, родненькі! Як жа я табе не зайздрошчу! Такую гадаўку да сябе ў хату вядзеш!

— Дык гэта ж дачка ваша, тата...

— Не дай Бог, братачка, табе такіх дачок.

Зяць толькі галаву ўгінаў ды мармытаў:

— Кахаю я яе, тата, кахаю...

Прайшло вяселле, і зажылі маладыя самі па сабе.Як — мала хто бачыў, бо не любілі людзі пад вокнамі лазіць, але адно ведалі: трапіў Сымон у такое пекла, у якім, можа, і чэрці не жылі б. Што ні дзень — то крыкі, лаянка, выццё...

Збягаў Сымон з хаты ў лес ці ў поле, а вечарам не хацеў дамоў вяртацца. Заначаваў бы ў полі, але баяўся кпінаў суседзяў. Таму ўсё ж прыходзіў дамоў, а на стале ні хлеба, ні малака. Так нашча і лягаў бедалага спаць, а з раніцы ўсё зноў пачыналася.

Не раз цесць прыходзіў у хату да зяця і пасля добрай чаркі ўшчуваў яго:

— Хіба ж я табе, чалавеча, не гаварыў, не папярэджваў?! Не паслухаўся мяне — вось і маеш гарох з бобам. Яна ж цябе ў магілу загоніць.

У адказ Сымон ужо не гаварыў, што кахае жонку, а плакаў горкімі слязьмі. Не ўтрымліваўся і госць. І тут гарлала жанчына:

— Чаго гэта ты сюды прыпёрся?! Падбіваеш майго мужа супраць мяне?! Вон з хаты, і каб болей нагі тваёй тут не было!

— Я не да цябе, гадаўка, прыйшоў, — адказваў бацька. — Я да зяця ў госці завітаў, ён мяне і частуе. А ты ідзі прэч з вачэй, не перашкаджай нам размаўляць. Ідзі, бо як вазьму дзягу, то не ўцячэш...

Пры згадванні дзягі гаспадыня хуценька збягала з хаты, відаць, гэта ёй многае нагадвала з таго часу, калі яна яшчэ не была замужам і калі бацька яе вучыў па-свойму.

А стары ўсё не супакойваўся:

— Бач ты, прыбегла, заверашчала. І на каго? На свайго бацьку, які ёй жыццё даў. І чаму ты, Сымонка, такі цярплівы, навошта гэтак пакутуеш? Добры ты чалавек... Я б ёй нічога не дараваў. Ты яе дзягай, раз не разумее, хто ў хаце гаспадар і на чыіх плячах усё трымаецца. Нельга ж так, нельга...

Прайшло некалькі гадоў. Неўзабаве моцна захварэў і памёр жончын бацька.

Сымон галасіў па ім, нібы па самым родным чалавеку. Вяскоўцы спачувалі маладому селяніну і адно толькі паціскалі плячыма і дзівіліся: «Чаго ён трывае? Чаго пакутуе?»

Так і жылі Сымон з Сымоніхай да глыбокай старасці — адны, без дзяцей.

Нездарма ў народзе гавораць, што некаторыя людзі ў старасці дурнеюць. А што з тымі рабіць, якія і ў маладосці, як Сымоніха, разумнымі не былі? Яшчэ горшай баба стала.

Аднаго разу зайшоў гаспадар у хату, а гаспадыня з печы загадвае яму:

— Заўтра з раніцы паедзеш па дровы. Ды рана ўставай, каб паспеў за дзень два вазы прывезці, а то прысунеш адзін і скажаш, што стаміўся. Ведаю я цябе, гультая...

— Ды я ж тых дроў навазіў — на дзесяць гадоў хопіць. Навошта нам столькі? Яшчэ, можа, і не спатрэбяцца, пагніюць на падворку, — запярэчыў было Сымон, але старая так глянула, што ён адразу змоўк.

Устаў гаспадар з трэцімі пеўнямі. Сымоніха яшчэ храпла на печы, і ён, узрадаваны тым, што хоць ціха, без згрызот з'едзе з дому, пабег на двор. Пакуль запрог коніка, пакуль сабраў прычындалле, то крыху развіднела. Выбраўся ён з двара, паганяе коніка, а сам разважае, дзе пачаць дровы секчы, каб паспець два разы на дзень тудысюды абярнуцца. Мінуў вёску і тут прыгадаў, што ля крыніцы растуць старыя вербы, і можна спакойна, не напінаючыся, за дзень два вазы насекчы. А якія дровы лепшыя, якія горшыя — старая ўсё роўна не разбіраецца, бо сама і печ рэдка паліла, усё яму даводзілася рабіць.

Павярнуў дзед коніка да крынічкі, супыніў яго і пачаў меркаваць, якое дрэва ссекчы, каб з аднаго ствала два вазы атрымалася. Нагледзеў здаравенную вярбу, скінуў світку, узяў сякеру, падышоў да дрэва, пapляваў на рукі і... замахнуўся. Але ўдарыць не паспеў, бо пачуўся нейкі дзіўны голас:

— Што ты хочаш рабіць, дзядулька? Навошта табе секчы?

Сымон азірнуўся — нікога не заўважыў і зноў замахнуўся. І зноў яго спыніў голас:

— Навошта цябе нячыстая сіла сюды прыгнала?

Тут толькі дацяміў стары, што гэта ж сама вярба да яго звяртаецца. Апусціў ён сякеру і адказвае:

— Як навошта секчы? Старая мяне паслала па дровы і наказала два разы за дзень абярнуцца. З далёкага лесу я не паспею, а адсюль якраз атрымаецца.

— Не сячы мяне, чалавеча.

— А як жа мне быць? — сумеўся дзед. — Старая мяне з хаты выжыве.

— Не выжыве. Я дам табе дроў столькі, сколькі папросіш. Гавары.

— Ды мне многа не трэба, вазы два-тры і годзе...

— Едзь спакойна дамоў, дровы цябе будуць на падворку чакаць.

Што толькі не перадумаў стары па дарозе дамоў, але як толькі завярнуў на свой двор — адразу супакоіўся: там такая гурба дроў ляжала, што і за тыдзень ён не навазіў бы. Пасядзеў гаспадар з гадзіну ды давай паціху сякерай танчэйшае перабіраць. Тут з хаты баба вылезла. Як убачыла столькі дроў, то і села на ганку.

— Калі гэта ты паспеў навазіць?

— Устаў сярод ночы, то і навазіў.

Але баба хітрая была, паддобрылася, Сымон і распавёў усё. Тады гаспадыня ўскіпела:

— Ёлупень стары! Дроў ён папрасіў! Ідзі ды багацця прасі!

— Не пайду, — спакойна, ці не ўпершыню ў жыцці, адрэзаў дзед. — Табе трэба — ты і ідзі.

Але Сымоніха і на гэты раз дабілася свайго. Наступнай раніцай Сымон сабраўся, узяў сякеру і пайшоў да чароўнай вярбы. Падышоў да яе і замовіў наслаць усялякіх каштоўнасцей яму ў двор, бо старая грызе-загрызае, што толькі дроў папрасіў.

Дрэва паабяцала і на гэты раз і адправіла дахаты.

Ужо пад'язджаючы да свайго двара, гаспадар пачуў песню і ажно не паверыў сваім вушам — спявала яго жонка. Але калі ўбачыў яе ля вялікага сундука з залатымі, то ўсё зразумеў.

Дні тры ў хаце было ціха. Сымон выспаўся, адпачыў і думаў, што на гэтым усё скончыцца. Але як жа! Гаспадыня зноў за сваё ўзялася:

— Так, стары, хачу быць аканомкай у нашай вёсцы, каб усе тут мне падпарадкоўваліся! Зразумеў?!

— Зразумець зразумеў, але навошта табе гэта? Багацця ў цябе столькі, што і да смерці не спажывеш...

— Не размаўляй! Ідзі хутчэй і прасі зрабіць мяне аканомкай!

Прыйшоў дзед да вярбы і папрасіў, што баба загадала.

— Не хвалюйся, старэча, гэта не праблема. Ідзі дамоў.

Вярнуўся Сымон, ажно чуе — баба людзей на працу

адсылае, загадвае ўсім старанна працаваць. Сеў сабе на падворку і слухае. Раптам да яго вушэй данеслася песня, і нейкі малы закрычаў:

— Салдаты! Салдаты прыйшлі!

Тут да гаспадыні з'явілася чалавек колькі вайскоўцаў і патрабавалі ўсіх салдат спаць пакласці і харчоў ім на тыдзень назбіраць. Паспрабавала было баба нешта сказаць, дык ёй як урэзалі кухталёў — яна ажно заенчыла ды подбегам кінулася выконваць. Вечарам таго ж дня гаспадыня на старога гарлала:

— Ідзі да вярбы, няхай мяне багатай паняй зробіць. Не хачу быць аканомкай, яшчэ заб'юць якія салдатывар'яты! Ідзі тэрмінова!..

Што тут было рабіць? Пайшоў Сымон да дрэва і расказаў пра ўсё. Вярба зарагатала ў адказ:

— Так ёй і трэба! А паняй я яе зраблю, тут нічога складанага няма.

Прыйшоў дзед дамоў і бачыць: яго старая сядзіць на высокай канапе ды на слуг пакрыквае:

— Весялей, весялей бегайце! Нешта ад вас ніякай карысці няма! І за што вы мой хлеб ясцё?! Зараз загадаю ўсыпаць бізуноў, дык будзеце тое рабіць, што ад вас патрабуюць!

Стары спакойна жыў, можа, з тыдзень, але аднае ночы прыляцела да яго старая і катурхае:

— Дзед! Дзед, уставай!

— Што здарылася? — не можа зразумець той.

— Уставай хутчэй!

— Ды што такое? Няма ад цябе спакою ні ўдзень, ні ўначы!

— Толькі што я падслухала, як двое слуг дамаўляліся мяне забіць, а наша багацце спаліць!

— Вось каб і сапраўды забілі!

— Што ты гародзіш, смярдзюх стары! Я ж твая жонка! Як ты можаш такога жадаць?!

— А як ты да мяне ўсё жыццё адносілася? Пашкадавала можа некалі, паспачувала?..

— Не буду болей, старэча, не буду, толькі збегай да дрэва ды ласкава яго папрасі, каб...

— Што «каб»?

— Каб яно нас царамі зрабіла.

— Навошта мне царом быць, мне і так добра жыць, — не пагадзіўся стары.

— Добра. Тады не царамі, а багамі, каб на небе мы

сядзелі і нам там ніхто не мог пагражаць. Бяжы хутчэй, бо мяне ж могуць забіць.

— А раптам вярба адмовіцца выканаць такую просьбу? Багамі быць — гэта ж не аканомкай...

— Адмовіцца? Тады спляж сякерай тую вярбу, чаго там перад ёю прыніжацца! — загадала старая.

Устаў дзед, узяў сякеру, азірнуўся на падворак, нібы ў апошні раз з яго выходзіў, і пакіраваў да вярбы.

Падышоў да дрэва і стукае па кары ціхенька.

— Што на гэты раз, старэча? — сонным голасам запыталася вярба. — Чаго не спіцца? Усё навокал адпачывае, а ты лазіш...

— Ды мяне мая старая паслала. Яна сказала, каб ты...

— Што ёй захацелася на гэты раз?

— Яна загадала, каб ты нас зрабіла багамі! — выпаліў стары і ажно сам спалохаўся таго, што сказаў.

— Багамі? — перапытала вярба.

— Так... А калі не выканаеш маёй просьбы, то я цябе ссяку на дровы.

— Чаму ж не выканаю? Выканаю.

Зашумела ўсё навокал, загуло, і раптам адчуў Сымон, што мярцвее, што камянеюць ногі і рукі. Так і стаў ён каменем на правым баку ручая, а Сымоніху вярба ператварыла ў маладую іўку, толькі расло гэтае дрэўца на левым беразе.

Людзі потым тут хаціны будаваць пачалі, а пра гісторыю гэтую мала хто ведаў. Назвалі тое паселішча — Іўка, пазней сталася — Іўе. Так і да нашага часу дайшло.

## ЮРАЦІШКІ

Хто чалавеку лёс дае? Даўней казалі, што сам Бог уласнаручна для кожнага спецыяльную паперу рыхтаваў і ўручаў яе. Потым, праўда, справа гэтая крыху перайначылася, і Усявышні пакідаў сабе паперы з лёсамі, каб людзі не ведалі, што іх наперадзе чакае, і не адмаўляліся ад боскай волі. Так казалі, але ў жыцці магло адбывацца і па-іншаму. Так і з гэтай сям'ёй здарылася.

Нядоўга гаспадар з гаспадыняй радаваліся нараджэнню дачкі, Гэлькі. Дзяўчынцы было ўсяго некалькі гадкоў, калі ліха напаткала іхнюю сям'ю, — памерла маці.

Гаспадар перажываў дзень і ноч, і ў хуткім часе сам

захварэў і злёг — слова сказаць не мог, рукою паварухнуць не здужваў. Гэлька не разумела, што з татам бяда здарылася, бегала, заглядвала ў вочы хвораму, прасіла есці.

Добра, што побач з іхняй хацінай жыла старая бабулька. Тая як пачула пра такое гора, то прыбегла ў хаціну дапамагчы. Але як яна ні шаптала, як ні маліла Усявышняга, каб дзяўчынка не засталася круглай сірацінкай, Бог ці то не пачуў тых маленняў, ці то быў заняты нечым больш неадкладным, так і не дапамог. Пахварэў, высах гаспадар, нібы тая трэска, і ціхенька сканаў.

Засталася Гэлька жыць у той старой. Бабулька глядзела за дзяўчынкай, нібы за роднай, вучыла яе хутка і спрытна ўсё рабіць, дзякаваць людзям за дабро.

Так і выгадавала дзяўчыну да васемнаццатай вясны, сабрала ёй пасаг. Недаядала, лішнюю капейчыну нікуды не пусціла, а Гэльцы нарыхтавала апошні свой зямны падарунак. Як адчула, што вось-вось надыдзе яе развітальная часіна, паклікала да сябе дзяўчыну і папрасіла, каб тая пасадзіла на яе магілцы калінку.

— Я гэтае дрэва найболей любіла пры жыцці і хачу, каб яно было побач і надалей.

Заплакала Гэлька, уткнуўшыся бабульцы ў грудзі, шкада ёй стала чалавека, які гэтулькі часу яе гадаваў, гэтулькі ласкі і пяшчоты ёй аддаваў.

Зажыла дзяўчына адна. Вядома ж, цяжка было, але круцілася прыгажуня, гаспадарку добрую трымала, шчыравала, таму і зайздросцілі ёй людзі, толькі і чуваць было:

— Вось нявестка некаму трапіцца. Вось нехта зажыве за ёю. Адна, а ўпраўляецца за чатырох, робіць усё гэтак старанна ды чысцютка, акуратна ды прыгожа...

А Гэлька стрымала абяцанне — пасадзіла калінку на магіле і амаль кожны дзень туды хадзіла. Прыйдзе, пасядзіць, нібы са сваёй старой гаспадыняй параіцца.

Многа сватоў да яе засылалі, але дзяўчына гасцінна прымала, ласкава гаварыла, а на развітанне звычайна казала:

— Дзякуй вам за павагу, але рана мне замуж. Родных у мяне няма, таму ніхто асабліва не прыспешвае.

Ды аднаго разу здарылася дзіўная справа.

Пайшла Гэлька на магілу да бабулькі і засядзелася даўжэй звычайнага. Пакуль агледзелася, то і вечарэць пачало. Усхапілася дзяўчына і дамоў пашыбавала. Выскачыла на дарогу, крыху прыцішыла крок і заспявала

сваім звонкім голасам. Песню, праўда, не надта вясёлую выбрала, можа, таму, што з могілак вярталася, а там, як вядома, ад радасці не скачуць. Заспявала — то і палёгку адчула на душы.

Ажно бачыць — насустрач ідуць чацвёра маладых хлапцоў. Гэлька і не заўважыла, адкуль яны з'явіліся, бо наперадзе, здавалася, нікога не было. Параўнялася з імі дзяўчына — не тутэйшыя дзецюкі і выглядаюць, як сапраўдныя панічы. Насцярожылася было, але яны думкі перабілі — пачалі, нібы паміж сабой размаўляючы, усхваляць яе прыгажосць, валасы, голас. Самі ж тым часам усё на яе зіркалі.

Потым адзін з іх і кажа:

— Дзяўчына-прыгажуня, не палохайся, скажы нам, будзь ласкава, як цябе завуць?

Гэлька спачатку хацела прайсці міма, але спакойныя і паважлівыя паводзіны незнаёмых хлопцаў супакоілі яе.

— А чаго гэта мне вас палохацца? Гэлькай мяне завуць. А жыву я ў гэтай вёсцы, што наперадзе бачыце.

— То можа і ў госцейкі нас, шаноўная, пазавеш?

— Можа, і пазаву. Толькі не сёння.

— А чаму так сурова адразу — не сёння?..

— Ды пазнавата ўжо для гасцей, а ў мяне гаспадарка не дагледжаная. Прыходзьце заўтра, толькі недзе перад полуднем, каб я паспела падрыхтавацца.

— Дзякуй, абавязкова прыйдзем.

Пастаялі так, пасмяяліся і разышліся. Ведама ж, справа маладая, а калі яшчэ перад табою стаіць такая прыгажуня, то чаму б і не пажартаваць.

На наступны дзень Гэлька і забылася пра абяцанне, занялася будзённымі справамі, якіх заўсёды ў гаспадарцы хапае. Ажно недзе пад полудзень чуе:

— Эй, гаспадынька, а ты, відаць, і забылася пра тое, што нам абяцала?

Ускінулася Гэлька і ўбачыла побач з плотам учарашніх дзецюкоў.

Няёмка стала дзяўчыне. Запрасіла гасцей у хату і ўзялася шчыра частаваць.

Пасядзелі даволі доўга, а потым папрасілі дазволу яшчэ прыйсці.

Так і сталі да яе штодня прыходзіць, толькі цяпер усё з сабой прыносілі і надта ж многа падарункаў цягнулі. Дзяўчына спачатку на гэта ўвагі не звярнула, ды неяк усё само адкрылася.

Аднаго разу адзін з дзецюкоў, самы прывабны, на якога спадцішка паглядвала дзяўчына, запрасіў яе завітаць да іх.

— Дык я ж не ведаю, даражэнькія, дзе вы жывяце.

— Мы табе растлумачым. Нават прасцей зробім — усю дарогу высыплем зялёным гарохам. Будзеш ісці, глядзець сабе пад ногі і прыйдзеш.

— Добра, чакайце мяне заўтра, недзе пад полудзень, калі паспею...

— Паспееш, тут не надта далёка. А зараз мы пойдзем, трэба ж нам падрыхтавацца.

Выйшлі госці з хаты вясёлыя, задаволеныя. І тут Гэлька заўважыла, што той, хто ёй спадабаўся, падміргвае чорным вокам, нешта, відаць, хоча сказаць, але не мае магчымасці. У дзяўчыны ажно ў грудзях закалола, падумала, што і яна яму ў сэрца запала. Каб нікога не было, то і пагаманілі б крыху, а так...

Пайшлі дзецюкі, а дзяўчына пачала па хаціне сноўдаць, даставаць усё прыгажэйшае, каб заўтра перад гаспадарамі паўстаць у найлепшым выглядзе.

Раніцай усё у яе з рук валілася, пакуль не прыспела пара ісці з хаты. Хуценька сабралася і пакіравала, спачатку па вузенькай сцяжынцы, пільна пад ногі ўглядаючыся і там гарошыны знаходзячы, а потым і на гасцінец выбілася.

Хлопцы казалі, што зусім блізка жылі, а на самай справе добры дзесятак вёрстаў давялося адтаптаць Гэльцы. Нарэшце паказалася высокая гара, на якой, па словах дзецюкоў, стаяла іхняя хаціна-харока. Весялей стала на душы ў дзяўчыны — значыцца правільна прыйшла, — і яна паскорыла хаду.

Раптам да яе слыху данеслася:

— Дзяўчына... Дзяўчына, не спяшайся, хадзі да мяне...

Азірнулася Гэлька — нікога няма. Але адчайны, саслабелы голас па-ранейшаму зваў:

— Дзяўчына... Дзяўчына...

І тут толькі Гэлька ўбачыла, што з-пад елкі, якая нізка-нізка развесіла свае шаты над зямлёй, на яе глядзяць нечыя вочы. Спачатку яна не ведала, што рабіць, але ногі самі панеслі да таго дрэва.

— Хто тут? Хто?..

— Я... Я, Гэлька, гэта ж я...

Цяпер дзяўчына пазнала, што перад ёю ляжыць не хто іншы, а той самы хлопец, які ёй спадабаўся.

— Што здарылася? Што з табой?

— Я табе яшчэ ўчора спрабаваў даць знак, каб не ішла сюды. Ты і не ведаеш, што цябе на верную смерць паклікалі. Гэта ж лютыя разбойнікі. Яны і мяне да сябе сілай завалаклі. Абяцалі з нашай вёскі нікога не кранаць, але падманулі. Калі я даведаўся, што і цябе забіць збіраюцца, то паспрабаваў пераканаць іх адмовіцца ад сваёй задумы. Чым усё скончылася — сама бачыш, ледзьве ад іх адбіўся і ўцёк. Але крывёю сцёк. Баяўся, што прытомнасць страчу і не перастрэну цябе, калі ты будзеш да іх ісці, не папярэджу.

Зразумела дзяўчына, што трэба ўцякаць. Паспрабавала паставіць на ногі параненага, ды дзе там! Ён жа здаровы, высокі. Неяк усё ж рушылі, і тут хлапчына запрапанаваў:

— Не па дарозе трэба... Не па дарозе, а куды-небудзь убок, каб не здагадаліся, бо шукаць жа будуць...

Неяк адышлі ўбок, можа, на паўвярсты, і дзяцюк страціў прытомнасць. Доўгі час выходжвала яго Гэлька, а калі крыху ачуняў, то пранеслася чутка, што бандзюкоў тых людзі пабілі.

Таго хлапчыну, што Гэльку ад смерці немінучай выратаваў, Юрасём звалі. Яны пабраліся ды жыць сталі, але ўжо на новым месцы. Паселішча тое, калі іх не стала, у памяць пра добрых людзей сталі Юрасішкамі называць. Пазней перайначылі ў Юрацішкі.

## БАРАВА

Жыў чалавек з жонкаю. І пачала яна пастаянна гаманіць, быццам бы нечым хварэе. Ды такая, маўляў, хвароба, што не адпусціць жывою. Так ужо яе трасе, так яна пакутуе, што не паспее гаспадар і азірнуцца, як давядзецца яму везці хаваць сваю гаспадыню.

Выходзіла жанчына на вуліцу, сядала і давай ляментаваць. Людзі ішлі міма ды пыталіся:

— Чаго ты крычыш? Чаго гарлаеш?

— З вамі, родненькія, развітваюся. Паміраць сабралася і баюся, што як хвароба прыхопіць, то не паспею і развітацца па-людску...

Тыя толькі пасміхваліся ў адказ, нічога не казалі.

А ў той самай вёсцы жыў бацюшка. Такі ўжо лайдакаваты ды гультаяваты, такі ўжо скнара быў, што за капей-

чыну мог удавіцца. І яшчэ — вельмі любіў лазіць да чужых жонак. А тая хворая якраз-такі была прыгожай маладзіцай. Вось і прапанаваў ёй свае паслугі:

— Я, — кажа, — магу цябе вылечыць.

— Ой дзякуй, бацюшка, ой дзякуй, міленькі, — усхадзілася жанчына, — і не ведаю, як вам дзякаваць.

— Ды чаго там дзякаваць. Разбяромся неяк потым. Ты лепей падкажы, калі прыходзіць.

Жанчына адразу здагадалася, якія лекі прынясе ёй бацюшка, таму загарэлася, нібы макаў цвет зачырванелася:

— Бацюшка, я мужа адпраўлю заўтра на Лысую гару зелле рваць, а вы тым часам і прыходзьце. Пакуль ён туды запрэцца, пакуль зелле адшукае ды нарве, то вы мяне добра падлячыць паспееце. Недзе перад апоўднем да мяне і кіруйце...

Шчаслівы вяртаўся да сябе бацюшка. Ведама ж, рады быў, што так усё добра атрымалася і жанчына хутка згадзілася з ім хаўрус мець.

Маладзіца раніцай паклікала да сябе мужа і, цяжка вохкаючы ды за бакі трымаючыся, гаворыць:

— Гаспадарыку, будзь ласкавы, выканай маю, відаць апошнюю, просьбу.

— Якую, жоначка? — адказвае той, нібы ні пра што не здагадваецца.

— Мне старыя жанкі наказалі, што ёсць такое зелле, якое, калі густа заварыць і піць той узвар тыдзень запар, то дапамагае нават самым цяжкім хворым, падымае на ногі і безнадзейных...

— Ну дык у чым справа? Паеду, толькі б дапамагло.

— Справа у тым, што расце яно толькі ў адным месцы, далекавата адсюль — на Лысай гары. І яшчэ... Нарваць трэба не пару кусцікаў, а каб надоўга хапіла, бо, можа, за адзін раз і не дапаможа...

— Нарву, чаго там. Раз у жонкі невылечная хвароба, то нешта ж трэба рабіць, — мовіць муж, а сам стараецца, каб са смеху не зайсціся.

— Дык ты сёння і кіруй туды, бо баюся, што пазней і яно мне ўжо не дапаможа.

— Добра. Вось пару бліноў з'ем, коніка запрагу і паеду. Не перажывай, усё зраблю.

Тая хворая ляжыць, нагамі нецярпліва дрыгае, чакае, калі муж паедзе. А той, як назнарок, не спяшаецца. Нарэшце гаспадар усё ж сабраўся і выехаў за вароты. Ус-

кочыла тады жонка і давай прыхарошвацца. Пераапранулася ў чыстую вопратку і лягла ў ложак — бацюшку, значыцца, чакае.

Неўзабаве і бацюшка туп-туп на парог. Увайшоў у хату, убачыў прыгожую маладзіцу і заенчыў:

— А мая ж ты родненькая. А мая ж ты бедненькая. Зараз табе лягчэй стане, зараз тваё цела ад хваробы стане пазбаўляцца...

Усхапілася хітрая баба — давай на стол закуску ды гарэлку выстаўляць.

Селі яны з бацюшкам, наеліся, напіліся і пачалі абдымацца. Ужо і песню жанчына зацягнула:

Пайшоў мой муж, пайшоў мой муж
Ды на Лысу гару па зелле!
А ў маёй хатачцы, а ў маёй хатачцы
Сёння вяселле.

Бацюшка спачатку не падцягваў, але хапіў яшчэ пару кілішкаў і заспяваў.

А чалавек той гаспадыні не такі дурань быў, як яны думалі, і не гэтак яго проста было абхітрыць, як яны меркавалі. Ад'ехаў ён ад хаты, распрог коніка і ляжыць сабе на возе, палежвае, чакае зручнага моманту, каб дамоў вярнуцца. Прайшла гадзіна, другая, муж коніка свайго жвавенькага запрог і назад павярнуў. Прыехаў да падворка, а адтуль песні чуваць, ажно хата трашчыць.

Не баяўся ўжо чалавек, што пачуюць, як колы грукацяць, пад'ехаў да хаціны, узяў хвосткую пугу, дзверы нячутна адчыніў і прыслухаўся. А ў гэты момант бацюшка гаспадыню на грэх падбіваў. Усміхнуўся тады мужык, замахнуўся пугай і давай іх лупіць-пярэсціць: раз па бацюшку, а другім разам — па жонцы. Б'е ды прымаўляе:

— Гэта вам зелле на ваша вяселле! Гэта вам зелле на ваша вяселле!

Круцяцца гультаі, не ведаюць ад болю і страху, куды кідацца. Потым бацюшка неяк крутнуўся ды як лупянуў у дзверы. Баба за ім. Але і гаспадар не адстае ні на крок. Хвошча-častуе і ўсё прымаўляе:

— Гэта вам зелле на ваша вяселле! Гэта вам зелле на ваша вяселле!

Першым не вытрымаў бацюшка: гопнуўся долу, і ўсё, нібы мех, — ні ўстаць, ні падняць. А жанчына далей бяжыць, мужык — за ёю:

— Каб жа ты, мая жана, была заўсёды здарава! — і пугай па азадку, па азадку...

Нарэшце і тая не вытрымала, упала.

Стаў і селянін, пот з ілба выцер і кажа:

— Каб жа ты, мая жана, была цяпер здарава, як сасёнка барава!

Нічога не адказвала няверная гаспадыня, толькі хліпала носам.

На тым месцы, дзе яна ляжала, пазней вёска стала, і назвалі яе Барава. І яшчэ адно. Людзі ў ёй заўсёды здаровыя, дужыя раслі, нібы сасёнкі баравыя.

## КОСЦІ

Аднекуль з-за мяжы, здалёк, прыехаў у гэтыя мясціны музыка. Казалі людзі, што вучыўся ад вяскоўцаў іграць, пераймаў нашыя мелодыі і песні. Можа, чалавек той французам быў ці немцам, хто ж яго ведае, але што не мясцовы — гэта дакладна. Казалі, што пераймаў любую мелодыю з аднаго разу, дастаткова было толькі пачуць.

Быў той чалавек маладым і прыгожым, пра такіх гавораць, што вочы меў — ад крыніцы, валасы — ад пшаніцы, рост — ад бярозкі, а сілку — ад дубка. Усім узяў: і прыгажосцю, і сілай, і розумам. Гаварылі таксама, што ў яго на радзіме засталіся багатыя бацькі і што яны не вельмі хацелі, каб іхні адзіны сын займаўся гэткай нязвычнай для багатага саслоўя працай. Крычалі, пагражалі, упрошвалі, сяброў сваіх да яго падсылалі, каб угаварылі,— нічога не дапамагло. Болей таго, аднае ночы Радзім — гэтак звалі паніча — уцёк з палаца, каб займацца тым, чым душа жадала.

Яго паўсюдна прывячалі мясцовыя паны ды падпанкі, бо быў багаты, але ж і сяляне не адмаўлялі яму ні ў чым, апошнім гатовы былі з задушэўным чалавекам падзяліцца, бо і ён простага народу не цураўся.

Так ён не адну вярсту праехаў-прайшоў. Не саромеўся і пехатою зямлю мераць, калі коніка не было ці калі нешта не выпадала. За гэта ўсё і паважалі яго вяскоўцы.

Акрамя багацця паны ды пані мелі да яго і другі інтарэс — удачнае замужжа сваіх дачок. Так разважалі-марылі багатыя гаспадары, а Радзім пра гэта яшчэ і не думаў. Хацеў як мага болей паспець у жыцці, бо разумеў, што калі ажэніцца, то прывяжа сябе да сям'і, да будзённых клопатаў. Ды, відаць, не сустрэў пакуль што той, якая прыцягнула б ягонае сэрца, прымусіла б думаць пра сябе ноччу і днём.

Таму смяяўся, жартаваў з паненкамі ці вясковымі дзяўчатамі, а раніцай кіраваў у іншым напрамку, нікому нічога не абяцаў. Не абяцаў, праўда, да аднаго разу. А здарылася вось што.

Прыехаў неяк Радзім з верным слугою, нанятым з мясцовых жыхароў, у багаты палац з адным намерам — паслухаць мясцовыя мелодыі і песні. Прынялі яго там добра, накармілі, спаць паклалі. А ў гаспадыні таго палаца была прыгажуня дачка. Як убачыла яна Радзіма, то сэрца яе затрымцела, нібы ў птушачкі, якая ў сілок трапіла. І госць не супраць быў з ёю пагаманіць, пажартаваць, гадзіну-другую пасядзець ва ўлюбёнай альтанцы. Маці заўважыла такую справу і нічога супраць не мела, хутчэй наадварот — жадала, каб дачка за такога прыгожага, разумнага ды багатага замуж выйшла.

Ужо не дзень, як звычайна, а амаль тыдзень гасцяваў Радзім. Дзяўчына радавалася, бо ёй падалося, што ўсё атрымліваецца менавіта так, як яна жадае.

Што тычыцца маладога чалавека, то ён штодзень адлучаўся з маёнтка і прападаў недзе да позняй ночы. На ўсе пытанні гаспадыні змрочны здаравяка-слуга адказваў:

— Хутка, пані, прыйдзе. Відаць, недзе зноў цікавую мелодыю пачуў ці песню якую непаўторную заспявалі, вось і сядзіць, вось і бавіцца...

Старую пані і яе дачку такія тлумачэнні мала супакойвалі. Яны чакалі вяртання Радзіма і накідваліся на яго з пытаннямі, але малады паніч, ласкава ўсміхаючыся, тлумачыў:

— Не магу адарвацца, калі пачую прыгожую песню, а іх гэтак многа ў вашым краі...

Пахмурнелі абедзве пані ды ішлі спаць, а слуга з панічом пераглядваліся і... рагаталі.

Неяк падчас вячэры гаспадыня, нібы выпадкова, завяла размову:

— А што гэта вы, пане Радзім, такі малады, прыгожы, багаты і нежанаты?

— Ды нешта не хочацца.

— Чаму ж так? — не адставала тая.

— Дзяўчаты мяне, пані, не кахаюць, — апусціўшы вочы долу, вымаўляў паніч.

— Ды вы толькі пакліччэ — любая за вамі сама пабяжыць, — пярэчыла гаспадыня.

— Гэта вам здаецца.

— Не, не здаецца. Я жыццё пражыла і многае пабачыла, таму добра ведаю, што да чаго...

— Калі б прыгожую дзяўчыну напаткаў, то ажаніўся б, — нарэшце здаўся Радзім.

— Вось бачыце...

— А пакуль што хачу вольным пабыць, сваёй справай займацца, — шукаў выйсця Радзім.

Але гаспадыня цягнула размову на свой лад:

— Калі б такі жаніх пасватаўся да маёй дачкі, то я з задавальненнем іх блаславіла б, — прамовіла пані і выразна глянула на госця.

Хвілін колькі панавала цішыня, якую, як ні дзіўна, парушыў Радзім:

— Тады, пані, дазвольце мне ажаніцца...

Тая ўскочыла з крэсла:

— Я згодна. Згодна аддаць за вас сваю дачку. Зараз жа пашлю па яе.

— Ды не, не трэба...

— Чаму? — здзівілася гаспадыня.

— Я хачу сказаць, пані, што прашу рукі... не вашай дачкі.

— А каго? — выдыхнула тая.

— У вас ёсць адна служанка. Яна з суседняй вёскі. Вось яе...

— Не будзе такога! — зараўла тая. — Не будзе!

Але Радзім не адступіўся ад свайго: выкраў прыгажуню служанку з дапамогай свайго слугі, і паехалі яны ў экіпажы, уцякаючы як мага далей ад палаца, бо баяліся, што іх дагоняць. І мелі на тое рацыю.

Памешчыца, калі даведалася, выправіла ўсіх сваіх слуг у пагоню. Хутка ехалі ўцекачы, але высачылі іх, і пачалася бойка. Радзім са слугой даказалі, што яны нездарма адносілі сябе да мужчын. Але сіла бярэ сілай. Неўзабаве абодва ляжалі мёртвыя. Тады дзяўчына, на чыіх вачах усё гэта адбывалася, кінулася на вострую дзіду і ўпала побач з каханым.

Мясцовыя людзі пахавалі ўсіх траіх у адной магіле. Праз пару гадоў на магілу прыехалі бацькі Радзіма, каб перавезці рэшткі сына ў свой радавы замак, але калі пачулі ўсё тое харошае, што расказвалі пра іхняга сына людзі, то вырашылі не разлучаць яго з каханай і верным слугой. Загадалі толькі, гаротныя, збудаваць на тым месцы, дзе ўсе загінулі, прыгожую драўляную капліцу. Яна доўга стаяла, а потым рассыпалася ад старасці.

Вёску, якая пазней там узнікла, назвалі даволі дзіўна — Косці, бо гэтае слова, казалі, паўтарала, плачучы, маці, толькі яго, відаць, запомніўшы з дзіўнай ёй гаворкі. Мабыць, нашы продкі гаварылі ёй, што косці пераносіць з месца на месца нельга, што гэта грэх. Вось ёй косці і запалі.

## ЛЕЛЮКІ

Жыў некалі ў нашай вёсцы адзін чалавек. Звалі яго Лялюк. Даўно гэта было, калі сам Бог яшчэ па зямлі хадзіў і жыў сярод людзей. Дык гэты Лялюк быў надзвычай цікаўны. Не было такога выпадку, каб ён пра нешта не даведаўся.

Смяяліся з Лелюка людзі за такую звычку, але што ж ты зробіш, калі чалавек такім нарадзіўся. Нарадзілася цялятка з лысінкай, то каровай з лысінкай і памрэ. Так і тут.

Аднаго разу нехта з суседзяў запрасіў Лелюка за свата, каб дзеўку высватаць дапамог. Хлопец, праўда, быў з хібам — надта любіў паесці. Бацькі, ведама, разлічвалі на незвычайную цікаўнасць Лелюка ды на яго доўгі язык. Хто ж ведаў, што менавіта гэта для іх сына адваротным бокам павернецца? Але пра ўсё па парадку.

Паклікалі гаспадары Лелюка ў хаціну да сябе вечарам, каб той пасядзеў за сталом, выпіў-закусіў добра, а таксама паслухаў, чаго яны хочуць і на які тэрмін, калі што, вяселле прызначаць. Сядзяць яны, раяцца, гамоняць, госць гаспадароў супакойвае, каб не хваляваліся, абяцае ўсё зрабіць належным чынам, і тут гаспадыня, трэба ж было такому здарыцца, кажа:

— Усё добра, сваточку, толькі ж надта наш сыночак есці любіць. Як дападзе да чаго, то пакуль усё не высербае — не адчэпіцца. Хоць бы там ніхто гэтага не заўважыў, бо тады ад сораму згарым.

— Ну, гэта справа ўвогуле дробязная! Ад мяне ён нікуды не схаваецца, а за сталом я не дам яму многа есці.

Пайшоў Лялюк дамоў, каб раніцай зноў прыйсці і ўжо везці хлопца сватацца, а маці сына ўшчуваць пачала:

— Ты ж, родненькі, за сталом там многа не еж, бо як заўважаць, то і адмовяць. Не будзе тады ў нас вяселля, а ў цябе жонкі...

— Добра, мама, — паабяцаў той.

Вось прыспела раніца. Маці цішком дала сыну кавалак хлеба і ладны шмандэлак сала — на дарогу і яшчэ раз перасцерагла, каб у гасцях не еў.

Прыйшоў Лялюк, і паехалі яны ў сваты. Пакуль даехалі, то добра прамерзлі і згаладаліся, але Лялюк трымаўся малайцом:

— Гаспадары ведаюць, што мы да іх у сваты едзем, то добра падрыхтаваліся, там і вып'ем, і перакусім, патрывай крыху.

Прыехалі, коніка прывязалі і ў хату зайшлі. Бацькі дзяўчыны за стол запрашаць пачалі, і тут хлопец усхапіўся ды кажа:

— Я зараз прыйду, праз хвілінку...

Сказаў так і ў сенцы выйшаў, а Лялюк за стол гопнуўся. Сядзяць, гаворку вядуць і чарку, вядома, не забываюць перакуліць. Тут старшага свата нібы хто абухом па галаве грохнуў:

— Ды ён жа там... — і куляй у сенцы вылецеў. А там і сапраўды: стаіць жаніх будучы і ўмінае сала з хлебам. Лялюк выскачыў, а хлопца не заўважыў. Зірнуў на двор і прамовіў, маючы на ўвазе завіруху:

— Але ж і прэ... Але ж і прэ...

Тут з цёмнага кута раптоўна пачулася ў адказ:

— Калі й пру, то сваё, а не тваё...

Усё добра скончылася б, але гэтыя словы выпадкова пачуў гаспадар, які таксама ў сенцы шуснуў. Выпер ён сватоў, ледзьве нагой пад азадкі не лупіў:

— Не трэба мне такія лайдакі ды абжоры! Не трэба мне скнары ды нахабнікі!

Вось тады ўжо ўсе з Лелюка рагаталі, во ўжо яго даставалі, праходу не давалі:

— Ну, раскажы, братка, як ты правяраў, што там твой жаніх робіць?..

У адказ вясковец толькі пляваўся і таропка адыходзіў убок.

І яшчэ раз падвяла Лелюка (і вельмі!) ягоная цікаўнасць. Здарылася ўсё наступным чынам.

Ішоў Бог гэтым краем. Не проста ішоў, а цягнуў на плячах здаравенны мех. А Лялюк сядзеў сабе на прызбе ды пляваў у пясок — рабіць не было чаго. Убачыў Усявышняга і кажа:

— Што ў цябе ў мяху? Нешта ж, мабыць, цяжкае, раз так лоб узмакрэў?

— Ды, вядома ж, мокрае і цяжкае, бо плечы ажно смыляць.

— Ты мне, Божа, праўду скажы, а не круці.

— Не магу, чалавеча, як ні прасі, як ні малі.

— Чаму?

— Бо грэх гэта потым будзе вялікі.

— Ды які ні грэх, а цікаўнасць усё роўна большая.

— Ты і сапраўды хочаш даведацца ці толькі пасмейваешся з мяне? — запытаўся Бог у Лелюка.

— Каб не карцела даведацца, то навошта б я стаў гэтак пра ўсё распытваць?

— Дзіўны ты чалавек.

— Дзіўны не дзіўны, але натура такая.

— Не магу ўсё роўна.

— Ну і сквапны ж ты, Божа. Я ж у цябе нічога не прашу — толькі сказаць ці паказаць, што ў гэтым мяху.

— Добра, скажу, калі так дапякаеш. Пазбіраў я ў гэты мех усялякую брыдоту, ад якой на зямлі карысці няма — адно гора ды бяда, і вырашыў занесці ў балота, каб не распаўзаліся па ўсіх балацінах, а жылі ў адным месцы. Вось і хаджу, шукаю такую смярдзючую яміну, каб высыпаць і назаўсёды разлічыцца...

— Слухай, Божа, а давай я табе дапамагу. Дай мне гэты мех, і я сам занясу, бо ведаю адну такую твань, дзе і чэрці жыць не пагаджаюцца.

—Дамовіліся, — з палёгкай уздыхнуў Усявышні, — а я крыху адпачну. Толькі ж ты, чалавеча, яго да самай балаціны той нясі, не развязвай, бо калі зазірнеш, то я цябе пракляну.

Толькі адышоў Лялюк, як узяла яго такая цікаўнасць, што вытрымаць нельга было. Развязаў ён мех, а адтуль імгненна папаўзлі гадзюкі, вужы, жабы ды сліўні. Спалохаўся чалавек, а калі апамятаўся, то ўся гэтая брыдота распаўзлася па наваколлі, а потым — і па ўсёй зямлі.

На наступны дзень Усявышні, даведаўшыся пра ўсё, ухапіў добры цурбалак і давай лупцаваць Лелюка. Б'е і прымаўляе:

— За тое, што мяне аслухаўся, будзеш ты іх цяпер да скону жыцця свайго лавіць!

Так стаў Лялюк буслам і жыў на высокім дрэве, якое некалі расло побач з нашай вёскай. Ад таго, што Бог лупцаваў Лелюка, у бусла ўвесь хвост ззаду чорны.

На тым месцы пазней вёска стала, і назвалі яе — Лелюкі. Яшчэ і цяпер дзеці, як убачаць бусла, то крычаць: «Глядзіце, глядзіце, лялюк ляціць! Лялюк да нас ляціць!»

## ЛІПНІШКІ

Стаяла вёсачка ў густым-густым лесе. А трохі ўбаку цякла рэчка. Вада ў ёй заўсёды была сцюдзёная, чысцюткая. Казалі старэйшыя, што калі ў такую плынь уступіш, то на пару гадоў памаладзееш. Да той рачулкі і прыйшлі дзяўчаты ў спякотны дзень, каб змыць з цела стому і пылоту.

Ускочылі ў ваду і давай пырскацца, наперагонкі плаваць, весяліцца. Ды надта доўга ў халоднай вадзе не праседзіш, нягледзячы на тое, што сонца шчыра свеціць. Вось самая старэйшая сярод іх, Марылька, і кажа:

— Дзяўчаткі, час вылазіць ды дамоў збірацца! Пайшлі на бераг!

Вылезлі яны і пачалі апранацца, а адна дзяўчына, самая прыгожая, падбегла да сваёй вопраткі і нібы на камень наткнулася — на сукенцы, скруціўшыся ў колца, ляжаў здаравенны вуж!

— Ліпка! Чаго ты стаіш голая? Апранайся, бо не будзем цябе чакаць! — данёсся да слыху дзяўчыны голас адной з сябровак.

— Ага, лесавіку за жонку пакінем! — дадала другая.

— Ці нячысціку якому за служку!

І давай смяяцца, яны ж не ведалі, што здарылася на самай справе.

А прыгажуня стаяла, з нагі на нагу пераміналася. І тут нечуванае дзіва здарылася — вуж загаварыў ціхім, ласкавым чалавечым голасам:

— Не палохайся мяне, дзяўчына. Не палохайся. Я нічога благога табе не зраблю. Спаўзу з тваёй сукенкі, толькі ты паабяцай, што выйдзеш за мяне замуж. Такая мая ўмова...

Азірнулася Ліпка, захвалявалася, каб хто не ўбачыў з сябровак, бо потым жа смяяцца будуць, праходу не дадуць. Не, ніхто не глядзеў у яе бок, дзяўчаты апраналіся. Тады, каб адчапіцца ад гэткага дзіўнага кавалера, сказала:

— Добра, выйду за цябе замуж. Толькі спаўзі ты з маёй сукенкі, бо часу ў мяне нестае на доўгія размовы.

Вуж пачуў словы згоды і адразу слізгануў прэч, нібы яго тут і не было.

Заспявалі дзяўчаты песню-весялуху і папраставалі дамоў. Толькі Ліпа не спявала, адно ротам зяхала, каб сяброўкі не звярнулі ўвагі на яе раптоўны смутак і не запыталі, што здарылася. Ішла, а ногі млелі са страху.

У дзяўчыны нікога не было, акрамя матулі. Таму, калі вярнулася з рэчкі, яна пахадзіла-пасумавала колькі часу адна, а потым падышла да маці і папрасіла:

— Мамачка, родненькая, паслухай мяне, будзь ласкава.

— Што засумавала, мая птушачка?

Ліпа і расказала ўсё.

— Кінь дурное, дачушка, — супакоіла маці. — Колькі людзі жывуць, такога ніхто не згадваў. Можа, табе памроілася, а можа, нехта з хлопцаў пажартаваў... Жыві спакойна, нічога не бойся. Прыйдзе час — ад сватоў і так адбою не будзе, бо прыгажуня ты ў мяне.

Весялей зрабілася на душы ў дзяўчыны.

— Дзякуй табе, матуля, дзякуй, родненькая, а то я зусім спакой страціла.

За будзённай сялянскай працай пра той выпадак яны больш і не згадвалі. Прыходзілі дамоў з поля ці з лугу, вячэралі і спаць клаліся, бо з раніцы ж новыя клопаты будуць, а калі не выспішся, то гэтак і напрацуеш, такі з цябе работнік і будзе.

Ужо, можа, з месяц прайшло. Ліпа супакоілася, зноў стала да сяброўак бегаць, песні з імі спяваць, карагоды вадзіць. Але аднаго дня здарылася нечаканае.

Сядзела дзяўчына на прызбе і нешта рабіла, ажно бачыць — па сцяжынцы прама да іхняй хаціны паўзе агромністая чарада вужоў на чале з тым самым здаравенным вужом. Спалохалася Ліпа, закрычала немым голасам, ускочыла ў хату і да матулі:

— Мамачка! Міленькая! Паўзуць!

— Хто? — не адразу зразумела тая.

— Вужы па мяне паўзуць, і на чале іх той самы... якому я паабяцала замуж за яго пайсці...

— Зачыняй хутчэй дзверы і вокны, каб шчылінкі нідзе не заставалася. Яны папоўзаюць і назад вернуцца. Давай хутчэй!

Праз момант усё было зроблена. Паглядзелі ў акно і ўбачылі, што няпрошаныя госці распаўзліся ва ўсе бакі і шукаюць якую шчыліну, каб у хату прабрацца. Шыпяць, поўзаюць, але праз некаторы час спаўзліся ў месца і пра нешта засыкалі. Маці ўзрадавалася:

— Зараз павернуць... Гэта яны гавораць, што няма для іх лазу...

І сапраўды, вужы некуды зніклі. Гаспадыня з дачкой весела пераглянуліся.

— А што я табе казала?

І тут пад дзвярыма замяўкаў кот.

— Мамка, гэта ж наш котка, давай пусцім, а то яго вужы з'ядуць...

Але толькі Ліпа прыадчыніла дзверы, як раптоўна нешта моцна іх рванула і ў хату ўмомант напаўзло процьма вужоў. Як ні адбівалася дзяўчына, як ні імкнулася дапамагчы ёй маці, яны-такі забралі Ліпу з сабой.

Засумавала маці, пастарэла адразу, асунулася. То была маладзіца, што паглядзець люба, а то стала старой жанчынай, на вачах перайначылася. Дапамагалі ёй вяскоўцы, глядзелі, каб нікуды не сышла, бо магла б і рукі на сябе налажыць. Шкада ім было бедалагу; ды што зробіш, раз такое ліха здарылася.

Аднаго разу гаспадыня нешта рабіла ў двары — ці то дровы ладкавала, ці то якой іншай справай займалася — і раптам чуе:

— Добры дзень, матуля.

Яна спачатку і не паверыла, падумала, што падалося, бо гэта быў голас яе дачкі. Але калі ўзняла галаву, то рукі самі пацягнуліся да госці. Перад ёю сапраўды стаяла Ліпа, жывая і здаровая, як ні ў чым і не бывала.

Кінуліся яны цалавацца ды абдымацца, пачалі плакаць-галасіць, ажно суседзі папрыбягалі, падумалі, што яшчэ якое гора здарылася. Селі маці з дачкой размаўляць. Гамоняць, згадваюць пра тое-сёе, а потым гаспадыня стала распытваць, дзе жыве Ліпа ды ці добра ёй там. Тая не падумала, што справа можа супраць яе павярнуцца, і пра ўсё расказала:

— Жыву я, мама, у вадзяным царстве, замужам за тым самым вужом. Ты не палохайся, ён надта добры: і да мяне ласкавы, і дзяцей маіх любіць. Што ні папросім, тое ў палац і прыносіць. Яму яшчэ пару гадоў вужом пабыць, а там ён чалавекам стане, бо з яго чараўніцтва сыдзе...

— Кажаш, добра жываце?

— Так.

— А як жа ты вяртаешся ў тое вадзяное царства?

— Ну, гэта проста; падыходжу да берага, прыслухоўваюся і крычу два разы: «Мужу-вужу! Мужу-вужу! Забяры мяне да сябе!» — тут ён з'яўляецца і забірае.

Пагаманілі жанчыны і палеглі спаць, каб заўтра яшчэ і папрацаваць разам. Але гаспадыня перахітрыла дачку: прыспала яе, а сама ўстала, узяла вострыя вілы і пайшла да той рэчкі. Падышла да берага і крыкнула:

— Мужу-вужу! Мужу-вужу! Забяры мяне да сябе!

Той нічога не ведаў і высунуў галаву, а жанчына так і гопнула па ёй віламі.

Адразу шалёна загуў вецер у верхавінах дрэў, гнучы іх ажно да зямлі, на ціхай заўсёды рэчцы ўзняліся высокія хвалі, і недзе зусім блізка пачуўся голас дачкі:

— Ой, матуля, што ж ты нарабіла? Майго мужа забіла, а мяне згубіла!

Калі ўсё сціхла і засвяціла сонца, то там, дзе стаяла Ліпа, вырасла сапраўдная ліпка, а дзе была маці — ляжаў камень. Калі ля іх пачалі сяліцца людзі, то вёску назвалі Ліпнішкі, бо вакол той, некалі маладзенькай, ліпы расло мноства маленькіх. Камень жа той разбіў неяк пярун.

## СУБОТНІКІ

Наша вёска раней называлася па-іншаму — Старыя Геранёны. Але потым перайначылі ў Суботнікі, і вось з якой нагоды.

Аднаго разу ў старадаўняй і стольнай Гародні пабудавалі новы касцёл. Прыгожы незвычайна, людзі да яго і маліцца, і падзівавацца, нібы на цуд, з розных мясцін збіраліся. І вось тамтэйшыя князі ды ксяндзы прачулі, што недзе ў далёкім краі, да якога не адзін дзень трэба конна дабірацца, ёсць таленавіты майстра-самавук, які вельмі хораша малюе боскія абразы. Лікі святых на іх атрымліваюцца як жывыя. Загадалі тады самаму хуткаму ганцу ехаць да таго чалавека і, не надта разважаючы адносна кошту, замовіць абраз Маткі Боскай для касцёла. Як аказалася, сапраўды вельмі далёка жыў той масітак, бо амаль месяц не было ганца. Ужо некаторыя, найбольш нецярплівыя ды палахлівыя, сталі гаманіць:

— Во, і грошай колькі паслалі, і ганца страцілі! Трэба было не аднаго, а некалькіх пасылаць, тады б пэўна хто-небудзь ды даехаў.

Іншыя гаварылі:

— Простаму ганцу паверылі... Не трэба было так рабіць, бо ўцёк недзе з грашыма, а цяпер паспрабуй зла́ві вецер у полі. Даверылі яму, а ён...

Можна было пачуць і такое:

— Не пойдуць яму на карысць грошы, ахвяраваныя на боскую справу. Пан Езус такога ніколі не даруе. Не толькі яму, але і нашчадкам ягоным да дзесятага калена ікацца будзе.

Хто яго ведае, што яны яшчэ гаварылі б, але аднае раніцы пачуўся хуткі цокат капытоў і на плошчу перад касцёлам вылецеў той самы ганец.

Ён вельмі падрабязна расказваў пра сваё падарожжа, бо, відаць, сэрцам адчуваў, што ўжо пра яго тут паспелі наплявузгаць. Тыя, хто пасылаў чалавека, цікавіліся, ці не падмане майстар, ці не скруціць, ці не зробіць што-небудзь на смех вернікам. Пасуравеў твар ганца, і ён коратка адказаў:

— Не, той чалавек не здольны на падман. А абразы, якія ён малюе, не сустракаў я нідзе да гэтага часу, хоць і не так ужо і мала мне даводзіцца па свеце насіцца.

— А калі сказаў за абразом прыязджаць?

— Праз два месяцы.

Непрыкметна праляцеў месяц, а на пачатку другога паслалі ўжо не аднаго вершніка, а спецыяльна абсталяваны вазок, двух фурманаў і дзесятак дружыннікаў-ахоўнікаў — мала што магло здарыцца. Астатнія засталіся чакаць таго моманту, калі на ўласныя вочы ўбачаць цуд, зроблены чалавечымі рукамі.

Пакуль даехалі ганцы да майстра, пакуль расплаціліся ды назад павярнулі, то многа часу мінула. Да таго ж яны і не надта спяшаліся, і тут іх можна зразумець, бо не дай чаго — шкурай уласнай давялося б плаціць. Ледзьве рухалася тая павозка, а дружыннікі, ад нечага рабіць, здарэнні ўсялякія пераказвалі, каб хоць неяк марудную дарогу прыспешыць.

Аднаго разу, справа ўжо рухалася да вечара, старшы сярод дружыннікаў, як звычайна, пачаў пазіраць па баках і шукаць мясціну для начлегу, таму ехалі зусім марудна. Раптам заўважылі старога, які сядзеў сабе, ні на што не звяртаючы ўвагі, збоку дарогі і нешта ціхенька

напяваў, пахістваючы ў такт галавой. Дружыннікі здзіўлена пераглянуліся:

— Чаго ты, дзедка, тут сядзіш? Ці то заблукаў, ці то не хочаш з месца рушыць?

— Не, не заблукаў, але і далей нельга мне ісці, і вам не раю...

— А чаго гэта?

— Ды проста так...

Заўсміхаліся дружыннікі і паехалі далей, але праехалі, можа, сотню крокаў, і зламалася кола ў павозцы. Нехта прамовіў:

— Ці не той стары закляў?..

Назад кінуліся — а дзедка сядзіць, дзе і сядзеў, толькі весялейшую песню спявае.

— Я ж вам казаў, каб далей не ехалі, бо ліха здарыцца, вось і здарылася. Субота божая ўжо зайшла, а ў суботу рабіць нічога нельга. Абраз свой тут пакідайце, бо не прынясе ён ні радасці, ні карысці ў Гародні...

Надта здзівіліся дружыннікі, што стары ўсё ведаў. Спыніліся начаваць. А раніцай старшы прыняў рашэнне паслаць каго-небудзь у Гародню, каб сказалі, што рабіць, бо і яму нешта благое прыснілася. Багатыя гараджане загадалі на тым месцы капліцу ўзвесці і абраз пакінуць там, маўляў, гэта Матка Боская так захацела. Паселішча бліжэйшае Суботнікамі назвалі, па той нагодзе, што ўсё гэта ў суботу здарылася.



# КАРЭЛІЧЫ

Жыў тут некалі купец — Карэліч. Багаты чалавек быў, ні ў чым недахопу не ведаў. Жонку ён сабе выбраў прыгожую, працавітую. Усё ў іх было добра, толькі ў адным не пашанцавала Карэлічу — не было ў іх дзяцей. Болей за пяць гадоў разам пражылі, а Бог усё не даваў нашчадкаў. Яны і па знахарах хадзілі, і дамоў запрашалі ўсялякіх чараўнікоў, якія абяцалі дапамагчы, — нічога не атрымлівалася. Не аднойчы гаспадар, сеўшы ля жонкі і абняўшы яе за плечы, сумна казаў:

— Эх, Тэкля, Тэкля... Відаць, няшчасныя мы з табой, відаць, не пачуем мы дзіцячых галасоў у сваім доме. І каму я гэтулькі багацця назбіраў? Каму яно патрэбна, калі пасля сябе нікога на зямлі не пакінем?..

Аднаго разу Карэліч паклікаў да сябе гаспадыню і гаворыць:

— Вырашыў я, родненькая, паехаць у далёкі край, там памяняцца таварамі і прывезці што-небудзь новае, надзвычайнае для нашых жыхароў. Прыбытак вялікі мець будзем, сама разумееш. Не сумуй тут без мяне, не перажывай, не першы раз у дарогу выбіраюся, дасць Бог, і на гэты раз усё абыдзецца.

— Калі ты вырашыў, то я цябе ўсё роўна не затрымаю, я твой нораў ведаю. Толькі сцеражыся там, у чужым краі, мала што можа здарыцца...

Раніцай Карэліч разам з сябрамі-купцамі пакіраваў у далёкую дарогу. Зарыпелі колы вазоў, зафыркалі коні, забрэнькалі даспехамі дружыннікі нешматлікай, але надзейнай аховы.

Засталася жонка адна. Заплакала-загаласіла, але толькі тады, калі муж ужо далёка ад'ехаўся, бо ведала, што ён не любіў, калі яна па жывым чалавеку слёзы пралівала.

Доўга ездзіў Карэліч у чужым краі. Усё, што планаваў, зрабіў: тавары свае прадаў, новых прыкупіў, ды такіх прыгожых, што, можа, у ягоным краі ніхто дагэтуль і не бачыў. Задаволены быў купец, усё часцей згадваў дом, жонку, марыў пра адпачынак пасля такога працяглага падарожжа, абдумваў, чым займецца ў невялікім, але дагледжаным падворку, і неяк сказаў сябрам:

— Ну, хлопцы, многа мы ездзілі, многа купілі, усе з грашыма вяртаемся, час прыспеў дамоў кіравацъ.

Ад такой навіны не толькі людзі, здавалася, нават коні павесялелі.

Гора здарылася зусім недалёка ад родных мясцін, калі ўжо пільнасць страцілі і купцы, і ахова. Ды такога ніколі раней і не здаралася — каб напалі рабаўнікі. А тут як наляцелі на вузкай лясной дарозе, як ударылі, то праз пару хвілін усё было скончана: людзі перабіты, тавары захоплены, а тыя разбойнікі нібы растварыліся ў лясной глушы.

Ніхто б і не даведаўся пра гэта, калі б не сам Карэліч. Так атрымалася, што менавіта яму наканавана было выжыць. У той кароткай сечы на яго выскачыў здаравяк з булавой у руках, крыкнуў дзіка і, ашчэрыўшы зубы, замахнуўся. Ды не на таго натрапіў, бо купец быў спрактыкаваны не толькі ў сваёй справе, але і ў вайсковай. Імгненна ён нанёс волату некалькі страшных удараў мячом, і той, захропшы, заваліўся набок. Але ў гэты момант нехта цюкнуў Карэліча па галаве. Купец асеў на траву і заліўся крывёю. Гэта яго і ўратавала: рабаўнікі глянулі пазней на заліты крывёю твар і вырашылі, што перад імі мярцвяк, таму і не дабілі.

Ачнуўся Карэліч, калі над галавой ужо загарэліся яркія зоркі, варухнуўся і зноў нібы ў калодзеж глыбокі палянцеў, прытомнасць страціў. Калі неяк ачомаўся, то пакрыху, пакрыху адпоўз далей, потым стаў на ўвесь рост. Спрабаваў было ісці, ды дзе там... Да раніцы, можа, з вярсту адолеў, але ўбіўся ў балота, з якога не кожны здаровы здолеў бы выбрацца, а з прабітай галавой... Зваліўся купец пад лазовы куст і заснуў моцным сном. І прыснілася яму, нібыта вада да самых ног падступае. Ён у сне ногі падкурчыў, але тут падалося, што ўжо ў вадзе ляжыць. Прадраў вочы — а і сапраўды так здарылася.

Сеў чалавек і давай думаць, як далей ратавацца. І тут да куста прыстала лодка, а ў ёй — малады, шыракаплечы чалавек. Пільна паглядзеў ён на Карэліча і кажа:

— Не палохайся, чалавеча...

— Пасля таго, што я перажыў, мяне цяпер нішто не напалохае.

— Хочаш, я цябе адсюль вывезу, толькі, праўда, пры адной умове...

— Давай сваю ўмову, — адказаў купец, узрадаваны тым, што хоць тут пашэнціла.

— А ўмова такая: дай мне тое з твайго дому, пра што ты не ведаеш...

Задумаўся Карэліч. І так меркаваў, і гэтак прыкідваў, але здагадацца не мог, што меў на ўвазе незнаёмец.

Таму смела прамовіў:

— Згода, забірай, толькі вывезі мяне адсюль.

Селі яны ў човен і паплылі. Праз нейкія паўгадзіны човен уткнуўся ў цвёрды бераг, і хлапец прамовіў:

— Вось, купец, пойдзеш прама на тое дрэва, а там убачыш сцяжынку, якая і выведзе цябе дамоў. Калі марудзіць не будзеш, то да вечара дабярэшся. Я сваю палову ўмовы выканаў, цяпер твая палова засталася.

— Не бойся, хлопча, я сваё слова трымаць умею, не быў бы я купцом.

— Глядзі, бо калі падманеш ці паспрабуеш абкруціць, — пашкадуеш.

— Усё зраблю, не палохай.

Пад самы вечар Карэліч усунуўся на вясковую вуліцу. Да роднай хаціны заставалася ўсяго нейкая сотня крокаў, і тут да яго данёсся спеў. Прыслухаўся — спявалі ў ягонай хаціне. Апошнія крокі ён прабег, нібы і не было цяжкай раны. Ускочыў на парог.

— Што здарылася? — спытаўся ў людзей. — Чаму так весела спяваеце?

— А як жа не спяваць, чалавеча, калі ў цябе сын нарадзіўся.

Як пачуў такі адказ Карэліч, то яго зноў нібы калом па галаве лупянулі, так і брыкнуўся на зямлю.

— Чаго гэта ён? Можа ад радасці ці ад хваляванння?! — усхадзіліся людзі.

Прыгледзеліся лепей і ўбачылі, што гаспадар увесь акрываўлены. Адкачалі купца, на пасцель чыстую паклалі і пачалі распытваць, дзе ахова, бо сярод іх было многа сваякоў і блізкіх вяскоўцаў. Карэліч расказаў усё, змоўчаў толькі пра змову з тым хлопцам у чоўне, бо жонка адразу звар'яцела б.

Час ішоў хутка, дзіця падрастала, але цяжар на душы Карэліча не лягчэў, ён ніколі не забываўся пра сваё абяцанне, ведаў, што рана ці позна прыйдзе той хлопец забіраць яму належнае. І ўсё ж цеплілася надзея, што, можа, ліха бокам абыдзе.

Аднаго разу восенню, калі ўжо садзіўся густы надвячорак, нехта пастукаў у дзверы. Гаспадар выйшаў і ўбачыў старога падарожнага, які прасіўся пераначаваць. Ён увесь прамок, дрыжаў, і Карэліч запрасіў яго ў пакой.

— Тэкля, пашукай там што-небудзь чалавеку перакусіць! — крыкнуў жонцы.

— Ды не трэба, пане гаспадару, не трэба. Мне б толькі пераспаць у цяпле, а паесці — гэта ўжо занадта.

— Нічога, дзядулька, у нас не паменшае, калі табе дамо якую скварку ды лусту хлеба. Дзякуй Богу, усё сваё маем, хапае. Я некаму дам — то і мне нехта потым аддзячыць.

— Хораша ты сказаў, пане гаспадару. Дзякую і я табе. Можа, і мая чарга калі-небудзь надыдзе аддзячыць.

— Ды чым ты, дзядулька, мне аддзячыш? Каб жа ты такую сілу меў...

— Сілы асаблівай я не маю, але, ходзячы па свеце, таму-сяму навучыўся.

— Давай, дзядулька, спаць класціся, а то грызе мяне трывога, спакою не дае.

— Я паспеў заўважыць, пане гаспадару, што ты са мной размаўляеш, а думаеш зусім пра іншае, пра нешта больш важнае, неадкладнае. Здаецца, і хапае ў цябе ўся-

го, і ў хаце поўна, і жонка прыгожая, і сын хутка па плячо ўжо стане, у памочнікі выб'ецца.

Як сказаў падарожны пра сына, то нібы жывую рану на сэрцы ў Карэліча калупнуў. Прарвалася набалелае, старое, і заплакаў купец.

— Прабач, пане гаспадару, я не хацеў цябе пакрыўдзіць, — пачаў было апраўдвацца дзядулька.

— Эх, старэча, каб жа ты ведаў... Толькі я ва ўсім вінаваты, толькі я... Трэба ж было такому здарыцца...

— То можа раскажаш мне, можа я што падкажу?

— Ты ж стаміўся, божы чалавек, табе б адпачыць, паляжаць.

— А колькі мне таго адпачынку трэба? Пару гадзін. Да трэціх пеўняў яшчэ драмлю, а пасля іх ужо толькі з боку на бок перакочваюся. Расказвай, калі гэта не таямніца.

— Таямніца, ды яшчэ якая! Але толькі для вяскоўцаў, для жонкі маёй і для сына роднага. Табе ж магу распавесці, бачу, што ты чалавек чуллівы, спагадлівы, не дапаможаш — дык хоць паспачуваеш, і на тым дзякуй.

І расказаў Карэліч, як ён сына свайго, сам таго не ведаючы і нават не падазраючы, запрадаў за ўласнае вызваленне. Ужо і другія пеўні праспявалі, а яны ўсё сядзелі за сталом.

— Вось такое гора, дзядулька. І можа яно здарыцца ў любы момант, нават не ведаю калі. Вось і хаваю ўсё ва ўласнай душы, баючыся каму-небудзь адкрыцца. Хто ж такое даруе — уласнае жыццё за жыццё сына купляць? Таму кожны раз, як спаць кладуся, з роднымі развітваюся, адчуваю, што там нячыстая сіла, не іначай, лапу сваю прыклала...

— Так, пане гаспадару, сапраўды не простая ў цябе задача. І наконт нячыстай сілы правільна ты зазначыў, яна гэта, болей нікому такое не ўдалося б. Але павінен табе сказаць, што і нячыстую можна вакол пальца абвесці.

— Дык падкажы, чалавеча, як. Падкажы, я табе палову свайго багацця аддам, толькі дапамажы сына з бяды выручыць. Якая ж мне без яго жытка?

— Цяжка гэта будзе зрабіць, але дапамагу, бо бачу, як ты пакутуеш. І не трэба мне нічога, бо няма ў мяне ні блізкіх, ні родных. Але людзі часта мне дабром плацілі, таму і я толькі дабром разлічваюся. Давай зараз паспім крыху, а раніцай я падвучу цябе, як і што рабіць.

Карэліч усхапіўся рана і ўбачыў, што ўчарашняга госця няма. Ледзьве не заплакаў з адчаю, падумаўшы, што яго ўважліва выслухалі і... падманулі. Сеў ён, галаву апусціў з адчаю, і тут пачуў словы Тэклі, звернутыя да сына:

— Глядзі, учарашні дзядулька да нас вяртаецца. Бачыш, як бойка шпацыруе па сцяжынцы — толькі лапцікі ўзлятаюць.

— Дзе ён? Дзе? — усхапіўся Карэліч.

— Ды ўжо, мабыць, на парог ступае, — адказала здзіўленая жонка, бо ўбачыла, які муж расхваляваны і збялелы.

Сапраўды, праз нейкую хвіліну запараны стары пераступіў парог.

— Ну і ляцеў я, пане гаспадару, баючыся спазніцца, ажно вецер за спінай свістаў. Але цяпер бачу, што паспеў своечасова. Хадзіў у лес па траўку і карэньчыкі. Зараз узвар зварым.

— Які ўзвар? — не зразумела Тэкля. — Давайце я сама ўсё зраблю.

— Не, галубка, тут справа такая, што трэба, каб пра яе як мага меней хто ведаў, бо тады не дапаможа ўзвар. Таму мы самі з гаспадаром усё зробім.

— Ведаеш што, Тэкля, схадзіце з малым да суседзяў, пасядзіце там, пакуль мы тут усё да ладу давядзём, — нерашуча пачаў Карэліч.

— З самае раніцы па суседзях лазіць, нібы ў мяне справы іншай няма? Што я там забылася?

— Я не пытаюся, што ты там забылася, а прашу, каб ты зараз жа з сынам пайшла да суседзяў і пасядзела там якую гадзіну.

Убачыўшы, што муж настроіўся рашуча, гаспадыня не стала пярэчыць, моўчкі ўзяла за руку сына і пайшла з хаты.

Дзядулька ўзрадаваўся, што засталіся толькі ўдвух:

— Вось гэта, пане гаспадару, ты добра прыдумаў, малайчына. Цяпер уважліва слухай і запамінай, каб потым нічога не пераблытаў, бо калі пераблытаеш, то ўжо ні я не дапамагу, ні якія варажбіты ды чараўнікі за гэтую справу не возьмуцца.

Карэліч ажно бліжэй да стала пасунуўся.

— Трэба, каб на спатканне з тым хлопцам ты абавязкова пайшоў з сынам, тады нячысцік нічога не западозрыць. У адваротным выпадку ён можа што-небудзь такое зрабіць, да чаго ты не будзеш падрыхтаваны. Паводзь

сябе спакойна, памяркоўна, не спяшайся, але не забывай і пра тое, што кожнае імгненне табе будзе дорага каштаваць. Узвар, які зараз закіпіць і крыху папарыцца, мы вылъем у бутэльку. Калі прыйдзеш на спатканне, то запрасі свайго хаўрусніка выпіць з табой за здзяйсненне ўсяго, пра што вы тады дамаўляліся. Чарку бяры толькі адну і, наліўшы яе поўную, спачатку запрапануй незнаёмаму хлопцу. Толькі глядзі, каб не задрыжэла рука ці каб што іншае не вырвалася. Ён як вып'е, то пачне выць, крычаць і стане паступова прымаць нечалавечае аблічча. Дык вы гэтага не палохайцеся і ідзіце ад яго прэч. Толькі не аглядвайцеся, бо азірняцеся — пашкадуеце...

— Зразумеў. Але калі ён прыйдзе сына забіраць?

— Сёння прыйдзе. Мне сон прысніўся, таму я так і спяшаўся.

Вылілі яны ўзвар у бутэльку, Карэліч усё падрыхтаваў як мае быць і стаў чакаць. Ажно недзе хутка пасля змяркання чуе — шкрабецца нехта ў дзверы і гаворыць:

— Я за абяцаным прыйшоў. Пайшлі са мной.

Разбудзіў Карэліч сына, і пайшлі. Адышліся далекавата ад вёскі, і тут купец кажа:

— Давай, хлопча, мы з табой замочым нашу справу, бо нешта ногі не ідуць далей. І так усё зразумела, чаго ўжо...

— Давай, — узрадаваўся той. — Чаго, сапраўды, я цябе далей пасуну?

Селі яны на пянькі. Карэліч усё зрабіў, як дзядулька навучыў. Толькі той хлопец лыкнуў з чаркі, як завыў-загарлаў дзікім голасам, і цела ягонае стала ператварацца ў нейкае ваўкалачае. Хлопчык затросся, але Карэліч супакоіў яго:

— Не бойся, сынку, нічога не будзе.

Сабраліся яны і пайшлі. Ідуць сабе, размаўляюць, а ззаду крыкі жудасныя нясуцца. Сын непрыкметна азірнуўся і толькі і паспеў сказаць:

— Тата, гля...

Карэліч міжвольна таксама азірнуўся ды так і застыў...

Праз колькі часу знайшлі людзі на тым месцы два камені: адзін маленькі, а другі вялізны. Яны быццам бы імкнуліся ў апошні момант паяднацца, ды так і не паспелі.

Калі людзі там хаціны свае стаўляць пачалі, то паселішча назвалі Карэлічы, пра таго бацьку і сына згадваючы, якія гэтак недарэчна загінулі, не паслухаўшыся мудрага чалавека.

# МІР

Так ужо здарылася, што гэтая зямля заўсёды людзей прыцягвала да сябе. Усяго тут хапала: і рыбы, і звяроў, і птушак. А людзям лепшага і не трэба было.

У мясцовым лесе, глухім і непралазным, жыў тады стары-стары дзед з такой жа старой жонкай, а можа, яшчэ і старэйшай, і з адзіным сынам, якому ніяк не маглі жонку па нораву знайсці, — то тое яму ў дзяўчыне не падабалася, то іншае. Спачатку і бацькі яго падтрымлівалі, але калі зразумелі, што ён, гультаіна, усіх перабірае ды абняслаўлівае, то катэгарычна запратэставалі:

— Годзе ўжо, годзе, бо даперабіраешся. Лысіна на галаве, што хоць на ёй боб малаці, а яму ўсё дзяўчаты не падабаюцца. Памром мы — ты з голаду памрэш, не тое што каго пракорміш. Таму, калі яшчэ раз дзяўчыну чарговую абгаворыш, мы самі табе жонку падшукаем, і нікуды ты не дзенешся. Так і ведай.

А ў тыя гады нельга было бацькоў аслухвацца, што яны сказалі — тое і закон. Таму задумаўся сын, зразумеўшы, што гамон наступае ягонаму вольнаму жыццю, і запрапанаваў, лісліва ў вочы бацькам зазіраючы:

— Добра, добра, я згодны, толькі ж дзе вы такое бачылі, каб і працавітая трапілася, і прыгожая, і ціхмяная, усё ў адной дзяўчыне ўвасоблена было?

Не вытрымаў бацька:

— А навошта табе прыгажуня? Паглядзі лепш на сябе ў ваду — спалохаешся. Галоўнае, памятай: гэта было наша апошняе слова!

Паслалі сватоў да чарговай дзяўчыны. Усім яна ўзяла, ніхто не мог на яе крыўднага сказаць, але пераборліваму сыну ўсё ж нечым не спадабалася. Як даведаўся пра гэта бацька, як усчаў крык, як ухапіў сваю кульбу. Збіў гультая на горкі яблык.

Сын чамусьці падумаў, што старыя пакрычалі і супакоіліся. Але дзе там! З самае раніцы загадалі недарэку ў святочнае апрануцца і павялі, ужо без сватоў, да адным ім вядомай дзяўчыны. Завялі на такі глухі хутар, куды, можа, людзі не часцей чым раз у год заглядвалі. Аказалася, што ў тамтэйшых гаспадароў была дачка. Не надта прыгожая ці там стройная, але затое здаравенная ды працавітая — пяцярых за пояс у любой справе заткне. Як селі за стол запіваць, то жаніхоў бацька адразу і мовіў:

— Ты, дачушка, усю справу па гаспадарцы і яшчэ якую ва ўласныя рукі бяры, бо наш боўдзіла не надта да працы ахвочы. Вось языком за сталом — тут ён мастак! Мы з жонкай ужо старыя, даглядаць яго болей не можам. Падказаць добрым словам — калі ласка, а так няхай сам стараецца...

— Дзякуй вам, — нізка ў пояс пакланілася дзяўчына. — У мяне ён не засумуе на працы, і спаць яму некалі будзе. Цяпер не вы яму дапамагаць будзеце, а ён вам. Праз год чалавека не пазнаеце — гэта я вам гарантую.

Засвяціліся бацька з матуляй, а жаніх, наадварот, спахмурнеў, ледзьве не плача. Дзяўчына катурхнула яго магутным плечуком і кажа:

— А чаго гэта ты на ўласным вяселлі гэткі невясёлы, чалавечку? Няма чаго сумаваць, жыць трэба!

Нічога не адказаў хлопец, толькі яшчэ ніжэй апусціў галаву.

З таго дня пачалося для яго не жыццё, а мучэнне. То ён, на погляд жонкі, не надта рупліва на ніве працаваў, і яна, нібы жартуючы, ляпала яго далонню па плечуку, пасля чаго балела ўся спіна, то хаваўся куды, каб дух перавесці, але праз імгненне раздаваўся гучны вокліч:

— Куды гэта ты зашыўся?! Бегма сюды!

І так кожны дзень. Бацькі глядзелі на такую справу і адно пасміхваліся:

— А што, будзе і з нашага сына чалавек, у добрыя рукі трапіў, не разлянуецца.

Так пражылі пару гадоў, і нарэшце нарадзіўся ў іх хлопчык. Старым самая вялікая радасць на зямлі — унучак. Яны ў ім душы не чулі, любілі ды лашчылі, днямі цэлымі толькі ім і займаліся. Рос ён нібы на дражджах, здаровенькі, крэпенькі і праз нейкі год ужо добра гаварыў, што вельмі рэдка здараецца. Дзівіліся людзі, а дзед з бабай гаманілі:

— Ён такі разумны, што любому старому параду на любы выпадак жыцця дасць ды яшчэ і распавядзе, што за чым рабіць, каб не пераблытаць.

Маці ягоная часта, пасмейваючыся, казала:

— Сапсуеце вы мне і гэтага чалавека, і яго мне потым давядзецца выпраўляць, каб вяскоўцы не тыкалі ў вочы.

Дзед з бабай аднадушна выступалі супраць:

— Гэты не такі, гэты лайдаком не будзе, паглядзі на яго...

Вось так, дзень за днём, месяц за месяцам і рос унук. Старыя і слухаць не жадалі, што маці з бацькам яго Мікіткам звалі, а далі яму сваё імя — Мірчык. Гэта ў іх пайшло ад таго, што ён надта любіў ката з сабакам мірыць. Вы ж ведаеце, што гэтыя жывёлы адвечна варагуюць паміж сабой. Дык вось Мірчык сядаў ля іх, нешта гаманіў, смяяўся, і кот з сабакам мірна ляжалі. Яшчэ хлопчык здзіўляў хатніх тым, што часта прачынаўся раніцай і пачынаў гаварыць, нібыта ні да каго не звяртаючыся:

— Цяжкі сёння дзень будзе, ой цяжкі... Трэба было б каму збегаць у бліжэйшую вёску ды папярэдзіць людзей, каб жывёлу сваю блізка да лесу пасвіцца не падпускалі, бо яе там мядзведзі парвуць. Слёз будзе, крыві будзе, а ніхто каровак ды цялятак назад не верне, не ажывіць...

Спачатку старэйшыя не звярталі на гэта ўвагі, але аднойчы гаспадар і кажа жонцы:

— Ведаеш, а тое, пра што наш Мікітка ў мінулы раз тут гаманіў, здзейснілася. Бачыў сёння людзей з той вёскі, плакалі, што мядзведзі іхнюю чараду кароў згубілі. Трэба было збегаць ды папярэдзіць...

— Каб жа ведалі... Хто ж думаў, што ён сапраўды нешта прадказвае...

Стары дзед, які ўважліва слухаў іхнюю гаворку, дадаў:

— Цяпер, родненькія, трэба прыслухоўвацца да таго, што Мірчык наш будзе казаць, можа, некаму і дапаможам. Здаецца мне, што гэта Божы дар...

Потым усе змоўклі і заняліся звычайнымі справамі, але гамонка гэтая засталася ў памяці.

Аднаго разу зашумеў з вечара такі вецер, што дубы вячыстыя з каранямі вывարочваў і, нібы саломінкі, пераносіў з месца на месца. А потым наляцелі густыя хмары, і гнала іх так нізка, што, здавалася, вось-вось зачэпяцца за балотныя купіны. Недзе далёка-далёка разлёгся магутны голас Перуна. Такое надвор'е стаяла ўсю ноч, а пад самую раніцу Мікітка затрызніў.

— Дзеду, дзеду, — стаў клікаць ён, — пабеглі, пабеглі адсюль... Пабеглі, бо потым будзе позна...

— Куды, куды, унучак? — спрабаваў нешта выпытаць у соннага хлапчука стары. — Паглядзі, што на двары робіцца. Колькі жыву, а такога надвор'я не памятаю. Мабыць, усе нячыстыя духі зляцеліся ў адно месца і тут сваё вяселле спраўляюць.

— Дзеду, дзеду, уцякайма, — працягваў хлапчынка.

— Куды, куды, унучак, — паўтараў, нібы заведзены, стары.

Раптам Мікітка прахапіўся і сеў на палку. Погляд яго быў ясны, і ён выразна загаварыў:

— Дзядуля, трэба бегчы на хутары, на тыя, што два разам стаяць на ручаі. Трэба сказаць, каб не сядзелі ў хатах, а хаваліся куды ў іншыя месцы, бо бяда здарыцца з імі. Трэба паспець папярэдзіць, іначай...

— Як жа, унучак, іх папярэдзіць, калі на вуліцы вунь што робіцца? Тут і кроку не ступіш — знясе, закруціць, і лічы, што прапаў.

— А давайце [redacted] пайду, я маленькі, мне лягчэй прыгнуцца.

Што тут пачалося. Гаманілі ўсе, нешта даказвалі, але сыходзіліся на адным — Мікітку з хаты не выпускаць.

Выклікаўся ісці гаспадар хаты. Моўчкі насунуў на сябе сухую вопратку і, азірнуўшыся, падаўся да дзвярэй. Ўслед яму данеслася:

— Беражыся толькі...

А дзед, кірхаючы, дадаў:

— Пу́шчай, пу́шчай прабірайся, там вецер не такі. Праўда, цёмна будзе, затое больш надзейна.

Дабраўся чалавек і папярэдзіў людзей аб небяспецы. І што ж вы думаеце? Як толькі яны пахаваліся па нейкіх там ямінах, то, можа, усяго праз паўгадзіны адну хаціну дубам здаравенным накрыла, а другую — пярун-палыскун падпаліў. Былі б там людзі — памерлі б заўчаснай смерцю, а так выратаваліся. Маліліся яны цяпер за здароўе Мікіткі, дзякавалі яму. А хлопец рос нібы на дражджах. Толькі пятнаццатую вясну сустракаў, а быў ужо вышэйшы за бацьку на цэлую галаву і ў плячах, што тая печ, — шырачэзны.

Цяпер, калі на працу ішлі, то першым заўсёды ішоў сын, другой ішла маці, а замыкаў гэты невялікі ланцуг бацька. Часам старыя, якія ўжо ледзьве хадзілі, прасіліся:

— Вазьміце і нас у поле, каб і нам глянуць, як наш Мірчык варочае. Гэта ж наш гадаванец. Некалі вы нас зразумееце, калі сваіх унукаў дачакаецеся.

І калі выпадала ім такое шчасце, то сядалі яны на возе ці дзе-небудзь у цянёчку і ўглядаліся старэчымі вачыма, як унук працуе-шчыруе, нібы мядзведзь.

Бацькі таксама радаваліся — памочнік вырас, за ім яны сябе адчувалі як за каменнай сцяной, хоць і самі былі яшчэ не старыя.

Прачуў аднекуль мясцовы князь, што ў ягоным княстве вырас асілак. А яму здаровыя і дужыя людзі заўсёды былі патрэбны ў дружыну, вось і загадаў сваім двум дружыннікам:

— Едзьце на той хутар і прывядзіце да мяне асілка. Хачу глянуць, ці сапраўды ён такі, як людзі гамоняць. Без яго не вяртайцеся, бо шкуры паспускаю!

— Ды мы табе, княжа, гару прывязём, не тое што нейкага там хлапчука семнаццацігадовага, — басам загуў здаравіла-дружыннік, і ўсе вакол зарагаталі. Засмяяўся і сам валадар.

— Ведаю, што пахваліцца вы майстры, паглядзім, як на справе будзе!

Памчаліся вершнікі, што тыя віхуры, праз глухія лясы, праз шырокія палі прама да хутара, на якім жыў Мікітка з роднымі.

Ніхто ў хаціне не чакаў чужых. Сядзелі якраз на двары ў халадку і палуднавалі. Пачулі цокат капытоў, і мужчыны пераглянуліся:

— Каго гэта нясе нячыстая? Можа якіх ліхіх гасцей?

— Каго трэба, таго нячыстая і прынясе, — прамовіў Мірчык.

Праз імгненне на падворак заехалі два вершнікі — здаравенныя, плячыстыя, у дарагіх кальчугах, з мячамі ў похвах, і адзін з іх загарлаў:

— Дзе тут той асілак, пакажыце, хачу на ўласныя вочы глянуць!

— Ну, тут я, хадзі, раз табе так трэба, і паглядзі, — спакойна азваўся Мікітка.

— Ты глядзі, як ён са старэйшымі размаўляе! — зароў дружыннік і слізгануў з каня, хацеў, мабыць, ухапіць хлапчыну. Але што далей адбылося, ён і сам, відаць, добра не зразумеў, бо ўсяго праз нейкую хвіліну лыпаў спалохана вачыма, а Мікітка, перагнуўшы яго ўніз галавою, паклаў на калена і лупцаваў далонню па спатнелым азадку, нібы лапатай.

— Пусці яго, хлапча! — смеючыся, папрасіў другі вой.— Пусці, бо не па сваёй волі мы да цябе завіталі, князь нас паслаў, каб прывезлі цябе да замка. Хоча залічыць у сваю дружыну.

— А як жа мае бацькі? Як дзед з бабай? — разгублена прамовіў Мікітка.

— А хто, хлопча, край наш родны бараніць будзе? — запытаўся вершнік. — Некаму ж трэба ў сядле сядзець.

Развіталіся родныя з Мікіткам, і паехаў ён з дружыннікамі да князя. Там як паказаў сваю сілу, то адразу стаў у войску першым асілкам. Не раз, не два ўдзельнічаў малады вой у лютых сечах з ворагамі і нідзе не схібіў, ніколі паплечнікаў не падвёў. Валадар колькі разоў дзякаваў яму за мужнасць і храбрасць, за тое, што геройчна змагаецца за родную зямельку-маці. Потым, гадоў праз колькі, зрабіў Мікіту сотнікам, а гэта па тых часах пасада была не такая ўжо і малая. Часам, калі ўсё спакойна было, сотнік і дамоў завітваў, дзяліўся навінамі з роднымі.

Аднаго разу наехалі на тое княства шматлікія ворагі і сталі незлічоным войскам насупраць княжацкае дружыны. Іх падзяляла толькі невялічкая і неглыбокая рэчка, якая і назвы тады яшчэ не мела. Пару дзён прастаялі, пасля чаго князь звярнуўся да сваіх дружыннікаў з наступнымі словамі:

— Што ж, браты! Не раз мы з вамі бачылі непрыяцеля і ніколі не палохаліся, а на сваёй зямлі — тым болей. Усё тут наша, нічога не аддамо! З раніцы сечу пачнём.

Тады выехаў са строю і стаў перад валадаром Мікіта-Мірчык.

— Княжа, дазволь мне заўтра перад боем выклікаць на двубой каго-небудзь з чужынцаў. Можа, тым справу і завершым, калі Бог дапаможа...

— Дазваляю, сотнік, толькі сцеражыся.

З самае раніцы выехаў Мікіта на сярэдзіну рэчкі і крыкнуў:

— Эй, вы! Высылайце свайго асілка! Хачу з ім біцца! Хочаце нашай зямелькай валодаць — забіце спачатку мяне! — і як сакануў па вялізным камені ў вадзе, той на дзве палавіны і распаўся.

Убачылі такую справу ворагі і пачалі да князя на перамовы людзей пасылаць, каб усё мірам-згодай скончыць.

У гонар тае бяскроўнай перамогі, дзякуючы нечуванай сіле Мікіты-Мірчыка, назвалі ў народзе тую рэчку Міранкай, а пазней і паселішча на яе беразе — Мір.

## ВАРОНЧА

Калісьці жылі на белым свеце надта багатая князёўна з прыгажуняй дачкой. Так здарылася, што муж князёўны рана загінуў. Наляцелі на ягонае княства чужынцы, пачалі вёскі ды гарады спапяляць, і ён вымушаны быў ад іх бараніцца.

Цяжкі гэта быў бой. Надзвычай цяжкі, бо чужынцы колькасна значна пераўзыходзілі княжацкую дружыну. Самыя вопытныя і спрактыкаваныя воі не памяталі гэткай сечы. Процьму ворагаў яны паклалі, але і сваіх паплечнікаў многіх страцілі. Толькі самае галоўнае — князя не ўберағлі, моцна яго зранілі чужынцы. Спадзяваліся сябры-паплечнікі, што хоць дамоў жывога давязуць, але не паспелі. Плакалі зраненыя і збітыя воі, плакалі, не саромеліся, бо ведалі, што другога такога валадара ў іх ужо ніколі не будзе. Ён і ў бойцы не хаваўся за спіны, і ў дзяржаўных справах толк ведаў. Везлі дахаты нябожчыка, і кожнаму здавалася, што менавіта ён вінаваты ў гэтай смерці. А калі прывезлі, то стала яшчэ горай: князёўна валасы на галаве рвала, і дачушка маленькая ўсё смяялася і прасіла:

— Тата, татачка, уставай, павазі мяне на коніку. Уставай, татачка, што ты ўсё ляжыш?

Сэрцы ў людзей ірваліся на часткі ад усяго гэтага. Тым не меней пахавалі князя, і стала князёўна адна дачушку гадаваць.

Хутка час мінаў, і праз нейкі дзесятак гадоў дзяўчынка тая незвычайнай прыгажуняй зрабілася. Здалёк багатыя князі сватоў прысылалі, але яна і слухаць пра замужжа не хацела.

Сваты да адмовы па-рознаму ставіліся: хто пасмейваўся, хто казаў, што некаму пашанцуе такую прыгажуню ў дом прывесці, а хто...

У той дзень, а была святая нядзелька, прыехалі сваты аднекуль з такое далёкае краіны, што ў палацы і назвы яе не чулі. І распытаць нават не паспелі, бо калі ўбачылі «маладога», то гаспадыні ледзьве дрэнна не стала. Спачатку яна паспрабавала лагодна адмовіць:

— Што ж гэта вы, сваточкі-дружочкі, такога жаніха для маёй дачкі прывезлі? У мяне дачушка прыгажуня, маладзенькая, а вы нейкага дзядульку лысага падсоўваеце? Ці так можна? Вы, мабыць, жартуеце?

— Не, маці-князёўна, не жартуем, — выступіў наперад старэйшы сват. — І мы ведаем, што не ў тое карыта пасунуліся, але ж, прабач, нам што загадалі — тое і робім. Паднявольныя мы людзі...

А жаніх, пачуўшы пра адмову, паводзіў сябе нахабна і крычаў:

— Аддасі дачку, нікуды не дзенешся! Нічога, што я стары ды лысы, не ў валасах справа! Было б срэбра-золата, астатняе само па сабе прыйдзе!

Узлавалася тады гаспадыня, бо ніхто, колькі яна жыве, гэтак не паводзіў сябе ў яе палацы. Да таго ж не жадала яна прымушаць да шлюбу адзіную дачку, якую вельмі любіла і шкадавала, таму загадала:

— Прэч з майго палаца! Прэч, і каб нагі вашай тут болей не было!

— Ага, — усхапіўся жаніх, — так мы цябе і спалохаліся! Глядзі, каб не надавалі ў каршэнь тваім слугам ды прыбліжаным, а цябе самую не прымусілі выконваць працу за якую-небудзь пакаёўку...

Не вытрымала болей князёўна гэткіх здзекаў:

— Слугі мае верныя! Хапайце гэтых злыдняў і ўсыпце ім бізуноў агністых, каб добра запамяталі на будучае, як паводзіць сябе ў гасцях ды з жанчынамі размаўляць!

Сваты адразу пачалі прасіцца:

— Людцы добрыя, не чапайце нас! Хіба ж вы не бачыце, што не мы вінаватыя?!

Адпусцілі іх воі і ўзяліся за жаніха. Садралі з яго мажнага азадка штаны і такіх бізуноў насыпалі, што гарлаў нахабнік не сваім голасам, а пад канец пакарання ўкінулі яго дружыннікі ў сядло азадкам наперад і выпхнулі жывёліну на плошчу. Народ заходзіўся ад смеху, не ўтрымалася і князёўна. Але няўдачны жаніх усё ж паспеў крыкнуць, гаспадыня выразна пачула:

— Пачакай, я табе яшчэ адпомшчу! Горкімі слязьмі ты ў мяне зальешся!

Можа б, і яшчэ нешта вішчэў, толькі здаравенны дружыннік, што вёў каня, так джгнуў яго бізуном, што не да пагроз стала.

Час ляцеў. Маладая князёўна пачала сустракацца з прыгажуном сотнікам, які служыў у княжацкай дружыне і не раз вылучаўся ў бітвах мужнасцю і сілай. Маці дзяўчыны спачатку хацела было забараніць ім сустракацца, але прыгадала, што яна таксама не знатнага роду была і муж-нябожчык пайшоў супраць волі сваіх бацькоў. Таму нічога і не гаварыла, калі чула спеў салаўя ў садзе — умоўны знак улюбёных. Каб жа ведала, што здарыцца, то ўмяшалася б...

У той вечар таксама засвістаў салавей, і шчаслівая маладая князёўна нібы на крылах панеслася на спатканне. Праз колькі часу матуля пачула крык, і ёй падалося, што крычала дачка.

— Што там? — спалохана запыталася гаспадыня. — Што?

— Бяда, маці-князёўна, бяда. Прыгажуню нашу забілі...

Тут толькі гаспадыня прыгадала старую пагрозу і, плачучы, звярнулася да змрочнага неба:

— Каб жа ён вечна каркаў і прыстанку нідзе не знаходзіў, воран смярдзючы.

Як закляла — так і здарылася. Той лысы і злы князь стаў чорным воранам, лётаў па наваколлі і ўсіх палохаў сваім жудасным крыкам.

Аднаго разу ён сеў на сасне і хвілін праз колькі гопнуўся пераспелым яблыкам уніз — сканаў злыдзень. Людзі доўга тое месца паказвалі, а пазней там сталі будавацца падарожныя. Даведаўшыся пра тую гісторыю, яны назвалі сваё паселішча Варончай.

## ВЯЛІКАЯ СЛАБАДА

Назву нашай вёсцы даў старадаўні звычай, звязаны з вяселлем. Напярэдадні вяселля самы старэйшы з мужчын ад жаніха ішоў у лес, адшукваў два маладзенькія дрэўцы (абавязкова трэба было, каб гэта былі ліпка — дзяўчынка і дубок — хлопец), прыносіў іх дахаты, прыкопваў дзе-небудзь у зацішным месцы і паліваў, каб карані не паабсохлі, іначай гора магло здарыцца. Той чалавек за гэта адказваў.

У дзень вяселля, калі ад жаніха збіраліся ехаць па маладую, каб далей кіравацъ у царкву вянчацца, бацькі заставаліся дома, а той самы старэйшы з мужчынскай лініі ехаў з маладымі ды з іхнімі дружкамі. Па дарозе назад перад уездам на вясковую вуліцу ён камандаваў:

— Спыняйце коней і чакайце мяне тут! Не ўздумайце без мяне ехаць, бо грэх гэта вялікі!

Маладых папярэджвалі пра гэты абрад, таму яны цярпліва чакалі, пакуль старэйшы справіцца са сваім абавязкам. А той не надта спяшаўся: размерваў крокамі зямлю, потым капаў глыбокія ямкі, ставіў туды маладыя дрэўцы, засыпаў карані і, ўпаўшы на калені, пасылаў малітву да Бога, каб усё ў маладых было добра.

Потым ён вяртаўся да вясельнага картэжу і загадваў:

— Сядайце, родненькія, дапіваць паедзем!

Імгненна зацягваліся песні, чуўся смех, і коні несліся наперад, дахаты, дзе ўжо даўным-даўно сядзела-чакала бяседа.

Справа, бачыце, заключалася ў тым, што ад імя кожнай пары саджаліся дрэўцы ў адзін рад — такім чынам пастаянна павялічвалася тэрыторыя паселішча. Кожную пару дрэўцаў саджалі, можа, крокаў за трыццаць адну ад адной. Калі ў сям'і ўсё было добра, то дрэвы раслі раўнюткія, высокія, зялёныя, а калі часам спрачаліся, то на дрэўцах адразу ж нарасталі ўсялякія гарбы ды нарасці. Калі нехта, муж ці жонка, цяжка хварэў, то і на дрэўцах гэта адбівалася, а калі, даруй Божа, паміраў нехта з гаспадароў, то і дрэўца ягонае далей не расло — памірала праз пэўны прамежак часу. Спачувалі такім людзям, але самае галоўнае, што ні чалавека нельга было вылечыць, ні дрэўца.

Так, можа, сотні гадоў вялося, бо грэбля тая, дрэвамі абсаджаная, цягнулася на некалькі вёрстаў. Але ж заўсёды знойдзецца ці дурны, ці пыхлівы чалавек, хто парушыць парадак. Так і тут здарылася.

Жыў адзін багацей з сынам-гультаём, які нічога, акрамя як паесці, рабіць не жадаў.

Але надышла часіна таму жаніцца. Бацька хацеў выбраць яму дзеўку прыгожую, з вялікім пасагам, адным словам, каб нідзе не прайграць. Таму пасылаў сватоў і загадваў ім пра ўсё вынюхваць, выведваць і яму дакладаць — ён вырашаць будзе.

Так і шукалі, пакуль аднаго разу ўсё ж не знайшлі дзяўчыну, якая цалкам задавальняла злыдня. Дамовіліся адносна вяселля, і жонка гаспадара кажа:

— Ты ж, чалавеча, не забудзь каго-небудзь за дрэўцамі ў лес адправіць, каб усё гладка атрымалася.

— Не перажывай, атрымаецца, — запэўніў гаспадар і загадаў старому парабку ісці ў лес і выкапаць дрэўцы патрэбных парод.

Пад вечар ён прынёс дрэўцы і гаворыць:

— Ледзьве знайшоў, але паглядзіце, якія прыгожыя ды раўнюткія. Каб у іх жытка такая была.

Надышоў дзень вяселля. Людзей запрасілі многа, нават з суседніх вёсак і хутароў. Але той гаспадар хітры быў — за сталы толькі родных ды багатых пасадзіў, астатніх на падворак пусціў, каб яны проста назіралі за ўсім.

Нарэшце сталі ад'язджаць у царкву. Гаспадары блаславілі маладых абразом і наказалі хутчэй дамоў вяртацца.

Гікнулі-свіснулі на коней, і тыя паімчалі. У царкве бацюшка, атрымаўшы многа грошай, доўга не затрымаў, і праз якую гадзіну ўжо назад вярталіся. Там, дзе канчаліся дрэўцы і трэба было саджаць новыя, стары парабак закамандаваў:

— Стойце! Спыніце коней ды чакайце мяне тут! Каб без мяне не ехалі, бо ліха можа здарыцца!

Узяў рыдлёўку і дрэўцы і пайшоў. А жаніх пасядзеў пару хвілін дый кажа:

— Што гэта, мной усялякі парабак камандаваць будзе?! Паехалі дамоў, нас там за сталамі чакаюць!

Папёрлі коні па дарозе, толькі пыл густы да неба ўзняўся. Гледзячы ім услед, стары парабак прамовіў:

— Ну вось і ўсё, ні гэтаму, ні іншым шчасця не будзе!

Так яно і здарылася. Не жыў, а пакутаваў чалавек са сваёй жонкай. Абрад той з таго разу звёўся, але паселішча, якое разраслося да самае крайняе мяжы пасаджаных дрэўцаў, людзі назвалі Вялікай Слабадой.

## МЕДЗВЕДКА

Там, дзе зараз стаіць наша прыгожая вёска, раней быў дрымучы лес. Мясцовыя жыхары і тыя ведалі пушчу толькі на нейкі дзесятак вёрстаў.Правіў гэтым краем багаты і вяльможны князь Радзівіл. Людзі гавораць, што сядзеў ён тады ў Мірскім замку ды рассылаў сваіх людзей па наваколлі з загадам сачыць за парадкам. Сам нічога не рабіў: адпачываў, гуляў у карты з сябрамі ды гарэлку вёдрамі жлукціў. І так кожны дзень. Не было яму справы да сялян: працуюць — ну і няхай сабе працуюць! Кожны павінен займацца той справай, якую яму адвёў Усявышні: бедны — працаваць, а багаты — кіраваць.

Паны, панапіваўшыся гарэлкі ды наскакаўшыся з паненкамі, валіліся п'яныя пад сталы ды засыналі там уперамежку са здаравеннымі панскімі сабакамі.

Аднаго разу пан Радзівіл прачнуўся раніцай таксама пад сталом сярод хаўруснікаў. І гэтак брыдка яму стала, што ён устаў, са злосці пнуў некага са сваіх гасцей у вялізны жывот, падышоў да дзвярэй і шырока расчыніў іх. Тут жа да яго падскочыў малады здаравенны слуга, якога, гаспадар гэта добра памятаў, зусім нядаўна сілай прывезлі з нейкай далёкай вёсачкі.

— Што пан жадае?

— Прынясі мне куфаль піва халоднага. І яшчэ вось што... Гэтых... павыцягвай на чыстае паветра. Яны мне ўвесь палац засмуродзяць.

— Зраблю, пане, — сагнуўся ў нізкім паклоне служка.

І зрабіў. Ды так спрытна, што Радзівіл з задавальненнем назіраў за ім, лежачы на сонейку.

Потым князь загадаў адліваць іх вадой, і праз імгненне хлапчына насіўся з вядром да студні і назад, а шаноўнае панства фыркала ды лаялася.

Праз паўгадзіны памешчыкі былі на нагах, усе мокрыя, брудныя, але жывыя.

— Слухайце, сябрукі, а ці не паехаць нам сёння на паляванне, — прапанаваў Радзівіл. — Я тут мясціну добрую ведаю, ды і размяцца нам не пашкодзіць.

— На паляванне! На паляванне! — дружна азваліся хаўруснікі.

Слугі кінуліся запрагаць коней, а паны — за стрэльбамі ды набоямі. Радзівіл азірнуўся і, знайшоўшы таго хлопца, загадаў:

— Паедзеш са мной! Не адставай і нікога, акрамя мяне, не слухай!

Шумна выязджалі паны на паляванне: гаўкалі на ўсе галасы сабакі, спрабавалі зацягнуць песню памешчыкі. Да вечара нарэшце дабраліся да пушчы і спыніліся на начлег, каб з самае раніцы пачаць паляванне. Запылалі яркія вогнішчы, зноў забрэнькалі шклянкі, але Радзівіл строга папярэдзіў хаўруснікаў:

— Многа не піць, каб заўтра якога ліха не вытварылі!

Яго і паважалі, і баяліся, таму загаду ніхто неаслухаўся.

Яшчэ толькі туман пачаў рассейвацца, а Радзівіл ужо ўсхапіўся на ногі. Павесялеў, калі побач заўважыў слугу.

— Ты што, і не спаў?

— Спаў, але чуйна, пане.

— Вазьмі стрэльбу. Што ты з гэтым цурбалкам ходзіш? Я загадаю, каб далі.

— Мне з ім, пане, зручней. Я ж у пушчы вырас, таму звяроў не баюся. Стрэльба мне толькі перашкаджаць будзе.

— Ну, глядзі, тады не адставай ад мяне.

Здалёк данёсся гук паляўнічага рога — гэта азначала, што праз хвіліну пойдуць з усіх бакоў загоншчыкі і пагоняць звяроў на панскія засады.

Радзівіл стаіўся за шырачэзнай елкай. За ягонай спінай у нейкай пары крокаў стаяў слуга. Доўга нічога не было

відаць, потым раздаўся гучны трэск. Радзівіл ажно вочы ад здзіўлення вылупіў, бо такога аграмаднага мядзведзя яму даўно не даводзілася бачыць. Князь ускінуў стрэльбу, і раздаўся магутны стрэл, за ім другі, але звер як ішоў, не спяшаючыся, прама на паляўнічага, так і працягваў ісці. Перазараджаць стрэльбу не было калі, таму адзінае, што паспеў зрабіць Радзівіл перад тым як нейкая невядомая сіла рванула яго ўбок і кінула, — гэта ў думках звярнуцца да Бога. Князь ажно вочы заплюшчыў са страху, а калі расплюшчыў, то... ледзьве не зарагатаў: служка трымаў мядзведзя, нібы падпітага шляхціца, за каўнер і лупіў тым самым цурбалкам ды яшчэ і прыгаворваў:

— Я табе, дурында, пакажу, як на мяне лапы ўздымаць!

Мядзведзь, небарака, толькі рохкаў ад болю і круціўся, але вырвацца не мог. Таму зміры́ўся, адчуваў, мабыць, што не будуць забіваць. І сапраўды: асілак надубасіў звера, а потым так урэзаў яму нагой пад азадак, што той папёр, ажно лаўжы затрашчалі.

Радзівіл ужо ачомаўся і рагатаў так, як, можа, ніколі ў жыцці. Потым устаў, падышоў да хлопца і прамовіў:

— Выратаваў ты мяне, чалавеча, таму прасі, што хочаш.

— Мне, княжа, ні грошай, ні багацця не трэба. Дазволь застацца тут жыць. Я ж у пушчы вырас, і мне свет гэты начамі сніцца, без яго прападу.

— Згодны, але і ты ў маёй просьбе не адмоў.

— У якой?

— Я хачу, каб ты быў маім палясоўшчыкам. Загадаю паставіць тут добрую хацінку, і зажывеш ты, як і раней, вольна, спакойна.

— Дзякуй, княжа.

— І табе дзякуй. Але глядзі, сачы за мядзведзямі, сядзі ў сваёй мядзведні...

Стаў хлопец тут жыць, і назва засталася — Медзведка.

## НАВАСЁЛКІ

Некалі ў вёсцы Рап'ёва жыў надта багаты пан.

Звалі яго Радзімірам. Высокі быў, статны, прыгожы з сябе. Любіў слухаць, як сяляне песні спявалі, а самага галасістага певуна абавязкова ўзнагароджваў:

— Гэта табе, чалавеча, залаты рубель за цудоўнае выкананне. Многія спяваюць, але так, каб за сэрца кранула, далёка не ўсе ўмеюць.

Ішоў час, гады ляцелі за гадамі, і памешчык састарэў. Ужо цяжка было ў ім пазнаць таго здаравяку ды прыгажуна. Гады галаву да зямлі прыгнулі, горб на спіне з'явіўся, вочы слязіцца пачалі.

Адчуваў Радзімір, што нядоўга засталося яму па белым свеце хадзіць, таму карцела як мага болей добрага людзям зрабіць. А ў яго быў аканом — малады хлопец. Памешчык да аканома прывязаўся, як да ўласнага сына: раіўся з ім, размаўляў часта, а калі захварэў, то хлопец прыходзіў у панскія пакоі вечарамі і падоўгу гаварыў з гаспадаром, разганяючы таму нудоту і сум.

Аднаго вечара Радзімір, усміхаючыся праз боль, сустрэў яго такімі словамі:

— Ну вось, хлопча, і адхадзіў я сваё па гэтай зямлі. Амаль восем дзесяткаў гадоў, а здаецца, толькі ўчора ўсё пачыналася. Закрыю вочы, дык бацькі, родныя перада мною так і стаяць, завуць да сябе, спакою не даюць. Дый самому ўжо да іх хочацца, там пра ўсё згадаем, там нагаворымся...

— Пажывіце яшчэ, пане, не спяшайцеся туды, паспееце.

— Ды не, хлопча, трэба ўсё ў час рабіць. Толькі я не пра гэта збіраўся з табой гаварыць. Ты мне верай і праўдай служыў, дапамагаў, раіў, а я дабро заўсёды памятаю, таму аддзякаваць табе хачу.

— Не трэба мне, пане, нічога. Я ўсё сваімі рукамі зараблю.

— Не... За тваё шчырасць і літасць дару я табе палову сваёй зямлі. Заўтра ж пачынай хаціну стаўляць, можа, і мяне яшчэ ў яе запросіш...

Даўно памёр пан Радзімір, не стала і аканома, а месца тое, дзе ён жыў, людзі назвалі Новымі Выселкамі — Навасёлкамі значыцца.

## ТУРЭЦ

Даўным-даўно, калі сівыя туманы насіліся над нашай старонкай, людзі жылі-варагавалі паміж сабою яшчэ болей, чым цяпер. Кожнае племя шукала сабе пэўную мяс-

ціну і назаўсёды на ёй заставалася. Самі ні на каго вайной не ішлі, але і свайго не аддавалі. Здаралася, цэлыя плямёны, да апошняга чалавека, гінулі ў бітвах з больш магутнымі ворагамі ды чужынцамі. Шугалі войны такія бязлітасныя, што і пераказваць страшна.

І на нашу зямлю прыйшло ды рассялілася некалі адно племя — такія асілкі, што ніхто ва ўсім наваколлі не мог іх перамагчы. Як пачыналі паміж сабою мужчыны ці хлопцы барукацца, то курганы здзіралі нагамі, нібы купіны малюсенькія, а дубы вырывалі голымі рукамі, ды не па адным, а дзесяткамі. Смеючыся, за адзін дзень сабе такое жытло выраблялі, што іншае племя агулам і за месяц не зрабіла б. Будыніны і ўдоўж і ўпоперак былі вялікія: чвэрць вярсты пройдзеш — не скончацца. Мала таго, усё было так акуратна выраблена, што вока радавалася, нават не верылася, што гэта чалавечыя рукі за такі малы тэрмін узвялі.

Жанчыны іхнія таксама былі моцныя і здаровыя. Крыху, праўда, ніжэйшыя за мужчын, але звычайнаму чалавеку, нават і далёка не слабому, з імі нельга было справіцца. Сілу немалую мелі. Кожны год дзяцей нараджалі не менш як па двое ды па трое. І дзеці тыя праз год ужо добра трымаліся на нагах, размаўлялі, нібы старыя, а ў дзесяць гадоў ужо на паляванне ды на рыбалку нароўні з дарослымі хадзілі. Таму да семнаццатай вясны, калі маладога чалавека звычайна прымалі ў дарослы калектыў, гэта былі спрактыкаваныя воіны ды паляўнічыя. Нічым нельга было асілкаў напалохаць, ні перад кім яны страху не ведалі. У бітву без мячоў ды дзідаў ішлі, бралі толькі дубіны ды шчыты. Тым не менш перад кожнай бітвай валадар асілкаў звычайна пытаўся ў сапернікаў:

— Людцы, мы на вас зла не трымаем. Можа самі пойдзеце з нашай зямлі? І вам, і нам добра было б.

У адказ часцей за ўсё ворагі рагаталі. Тады валадар паціскаў плячыма:

— Як сабе хочаце. Я папярэдзіў, а вы выбірайце, толькі каб пасля шкадаваць не давялося...

Пачыналася бітва, і ўжо праз нейкую гадзіну сапернікі шкадавалі, што не зрабілі так, як ім прапаноўвалі.

Слава пра тых дужых людзей разнеслася па ўсёй зямлі, і іх не надта адважваліся чапаць — сабе даражэй абыходзілася. Таму жылі з імі мірна.

Гаспадарак асілкі не трымалі, не было ў іх ні свойскай жывёлы, ні прыпасаў, ні запасаў, не сеялі ні хлеба, ні

лёну, а вопратку злаўчыліся шыць з суцэльных звярыных шкур і хадзілі ў ёй і ў мароз, і ў гарачыню. Жылі людзі, як у той прыказцы: «Даў Бог дзень — дасць Бог і ежу!» Мужчыны паляваннем займаліся, жанчыны за дзецьмі глядзелі. Паляўнічыя прыносілі столькі спажывы, што звычайным людзям на паўгода хапіла б, а ім да вечара ставала. Рыбы ў рэках таксама было столькі, што голымі рукамі можна было лавіць. Вось і карысталіся асілкі шчодрасцю тутэйшай прыроды.

Трэба адзначыць, што да ўсяго жывога яны адносіліся вельмі чулліва. Нават пры вялікай патрэбе бралі толькі тое, што было неабходна для жыцця, не парушалі ні крыніц, ні ўзгоркаў, ні лугоў, ні пушчаў. Так ім старэйшыя некалі даводзілі, так яны і сваім дзецям давалі наказ берагчы прыроду, бо яна можа бязлітасна людзям адплаціць за нядбайныя адносіны да сябе. І такое ліха здарылася.

Аднаго разу пайшлі мужчыны на паляванне. Асілкі, як заўсёды, трапна білі звера, але неяк нехта з паляўнічых не разлічыў і забіў каменем самку тура, якая сцерагла сваё дзіця. Тураня гэтак крычала ля сваёй маці, што людзі зніякавелі і не ведалі, што рабіць. Стаялі, глянуць адзін на аднаго баяліся. Раней такога не здаралася, бо білі толькі самцоў, ашчаджалі іхніх дзяцей, а тут...

— Што ж цяпер з намі будзе, сябры? — ціха запытаўся адзін з асілкаў.

— Гора, мабыць, нас чакае наперадзе, раз такое здарылася, — азваўся другі.

— Хоць бы Бог нам дараваў гэткі грэх. Мы ж ненарокам бяду ўчынілі...

Ніхто болей нічога не гаварыў, толькі глуха шумела адвечная пушча ды неяк зусім па-чалавечы стагнала маленькае тураня. Потым яно, ні на каго не гледзячы, на сваіх зусім яшчэ кволенькіх нагах падыбала прэч ад гэтай страшнай мясціны.

Паляўнічыя прыйшлі ў той дзень у паселішча сумныя і на ўсе пытанні адказвалі сцісла:

— Бяда нас напаткала... Бяда...

Па стрыманасці адказу супляменнікі зразумелі, што павінна здарыцца нешта жудаснае. Так яно і адбылося.

Дзён праз колькі адразу захварэлі некалькі мужчын — усе яны ў той злашчасны дзень былі сярод паляўнічых. Магутныя людзі так знясілелі, што не мелі моцы ўзняцца на ногі, праляжалі зусім нядоўга і душы іхнія пакінулі целы. Потым сталі хварэць іншыя. Хвароба, праўда, па-

куль што абыходзіла жанчын і дзяцей, але ад гэтага лягчэй не рабілася. Цяпер не было каму бегаць за звярамі і прыносіць ежу. Цяпер жанчынам даводзілася і глядзець за хворымі, і няньчыць дзяцей, і выконваць іншыя работы.

Прайшло пару месяцаў, і з усяго дарослага насельніцтва засталося, можа, дзесяткі два чалавек, астатнія былі дзеці. Жанчыны не ведалі, як адхіліць бяду ад сваіх нашчадкаў. І так думалі, і гэтак меркавалі — нічога не атрымлівалася, смерць лютавала па-ранейшаму. Нарэшце з дарослых у жывых засталася толькі адна жанчына, і тая цяжка хворая. Паклікала яна да сябе старэйшага сына, якому ўсяго, можа, гадоў дзесяць было, і наказала:

— Сыночак, каб не памерлі твае сястрычкі і брацікі, збегай на паляванне. Што есці прынясеш — тое і добра...

Паслухаўся хлапчынка і пабег у пушчу. Доўга ён там лазіў, але звяры ўцякалі ад няўмелага паляўнічага. Ужо прыцемкі апускацца пачалі, і тут ён заўважыў невялічкую жывёліну, якая стаяла і спакойна нешта жавала. Ухапіў хлапчынка вялікі камень, ціхенька падкраўся ззаду і даў ёй па галаве. Потым узваліў звера на спіну і паджгаў дамоў. Ледзьве забег у хаціну і адразу закрычаў:

— Я прынёс есці! Я прынёс есці!

Падбег да матулі, паказвае ёй забітую жывёліну, а тая вочы адкрыла і сказала шэптам:

— Гэта турэц, сыночак, малады турэц...

Паселішча, якое там пазней узнікла, атрымала назву ад таго забітага звера, які выратаваў племя асілкаў ад галоднай і непазбежнай смерці.



# ЛІДА

У адной невялічкай вёсачцы, што тулілася на беразе безыменнай рэчкі, сярод густога-густога лесу, жыла ў даўнія часы сівая бабулька. Яе дзеці разляцеліся па свеце, муж памёр, перажыла яна і сваіх сябровак, таму ў госці совалася да маладзейшых, а тыя добра разумелі настрой самотнай бабулькі і ніколі не гналі прэч.

Затое зімой ды позняй восенню ў яе хаціне хлопцы ды дзяўчаты наладжвалі вячоркі.

Сярод моладзі вылучалася Лідзея. Яе бацькі памерлі, узгадавалася бедалага ў дзеда з бабкай, ды і тыя пакінулі свет гэты. Таму гаспадыня надта добра да яе ставілася і неаднойчы прапаноўвала заставацца пасля вячорак у яе.

І тут размовы вяліся да світанку. Гаспадыня найбольш распавядала пра колішняе жыццё, а Лідзея слухала. Праўда, апошнім часам яна нешта нервавала. Бабуля не дапытвалася, чакала, пакуль тая сама пра ўсё раскажа. Так яно і здарылася.

Пасля чарговых вячорак дзяўчына засталася ў бабулькі, моўчкі зачыніла дзверы, задзьмула лучынку і палезла да гаспадыні на печ. Але на гэты раз не стала нецярпліва прасіць расказаць што-небудзь цікавае, а прыхілілася да старой плячыма і заплакала. Ды так горка, так жаласліва, што бабулька ажно спалохалася:

— Што гэта з табой, унучанька ты мая? Скажы, хто цябе гэтак пакрыўдзіў?

— Ніхто мяне не пакрыўдзіў, — адказала тая, а сама яшчэ мацней плакаць стала.

— Нешта ж здарылася. Распавядзі мне, можа, я чым і дапамагу.

— Ды мне сорамна, бабулька.

— Ты ўжо і мяне саромецца пачала? Расказвай, не цягні час, то да раніцы што-небудзь і прыдумаем.

— Толькі вы не смейцеся, добра?

— Абяцаю. Калі хочаш, то і перажагнаюся.

— Мне крыўдна, што ніводзін хлопец на мяне не звяртае ўвагі, ніводзін дамоў не правёў. Што гэта? Ці мне проста ў жыцці не шанцуе, ці лёс такі, ці яны маёй беднаты палохаюцца?

— Не перажывай, унучка, не перажывай, міленькая, твой час яшчэ наперадзе. Каханне не выбірае, багаты ты ці бедны. Проста настане той момант — і ўсё, нібы табе сілай нешта ў сэрца ўвальюць.

— І ў вас так было? — ціхенька запыталася дзяўчына.

— І ў мяне, і ва ўсіх людзей. І ў цябе ўсё складзецца добра. Праз пару вечароў і ў цябе хлопец з'явіцца, і для цябе ён будзе прыгажэйшы за астатніх. Каханне слепіць. А зараз спі, набірайся сілы.

І што вы думаеце? Спраўдзіліся словы бабулькі — у Лідзеі з'явіўся хлопец. А атрымалася вось як.

Сабраліся дзяўчаты з хлопцамі, як і раней, на вечарынку. Паселі, песні заспявалі, і тут да Лідзеі падсеў прыгажун, якога ўсе дзяўчаты пазіркамі заўсёды праводзілі.

Пачаў гаманіць, а тая ад радасці і гаварыць не ведала што. Потым асмялела і стала таксама жартаваць. Андрэй — так звалі хлопца — і дамоў яе правёў. Толькі не ўспалася Лідзея адна, прыбегла да бабулькі, ускочыла на печ і давай гаварыць:

— Бабулечка, родненькая, адкуль ты ўсё ведала? Ён такі прыгожы, такі моцны, такі разумны — разумнейшага за яго на свеце белым не знойдзеш...

— Вось бачыш, адзін раз ты з ім пагаманіла, а ўжо колькі добрага пра хлопца кажаш. А што скажаш праз год ці паўтара? Беражы, унучка, сваё шчасце, бо ўсё можна купіць, а шчасця ды здароўя — не.

— Цікава, хто ён такі, адкуль родам. Нашы кажуць, што не тутэйшы.

— Можа, ты так ужо і не спяшайся. Прыглядзіцца да цябе — сам усё і раскажа.

— Але ж мне карціць хутчэй даведацца...

— То вазьмі ды прасачы за ім. Куды ён пойдзе — туды і ты ідзі, толькі глядзі, каб не заўважыў.

— Я паспрабавала было сёння, але ён нібы пад зямлю праваліўся.

— Тут я табе, унучка, дапамагу. Прывяжы кончык ад гэтага клубочка чорных нітак да кажушка свайго хлопца. Ён пойдзе пасля вячорак дамоў, а ты раніцай па нітачцы і дабяжыш туды...

Ледзьве дачакалася дзяўчына хлапчыну ў той дзень, усе вочы прагледзела. Нарэшце ўбачыла — цісне ён напрасткі, тады і яна на падворак выбегла, нібыта па нейкай патрэбе. Сталі размаўляць, а потым Лідзея запрасіла яго зайсці ў хату, і той з радасцю пагадзіўся. Пачала яна распытваць хлапчыну, адкуль ён родам, хто яго бацькі, але ўбачыла, што ён не хоча шчыра адказваць, усё круціць.

— Што гэта ты сёння такі сумны?

— Ды настрой нешта сапсаваўся...

— Ад чаго?..

— Калі шчыра, то і сам не ведаю.

Так гаманілі маладыя, не заўважаючы, што вечар ужо даўным-даўно гаспадарыў на вуліцы. Потым хлопец схамянуўся і пачаў дамоў збірацца.

— Можа б яшчэ крышачку пасядзеў, — прапанавала Лідзея, — а то мне адной сумна.

— Не магу, трэба дамоў вяртацца. Пакуль дайду — ноч ужо будзе. Я лепей заўтра да вас на вячоркі прыйду.

— Прыходзь, буду чакаць, — нібыта сумуючы, адказала дзяўчына, а сама непрыкметна прывязала канец ніткі ад клубочка за кажушок...

Гопнулі глуха дзверы, і хлапчына пайшоў. Дзяўчына засталася дома, і нечага страшна ёй зрабілася, нешта на душы не тое стала. Залезла яна на палок, а ад страху зубы ляскочуць. Тады запаліла агеньчык на прыпеку, ён яе супакоіў. Заснула. Прачнулася позна, калі на двары ўжо было відно. Выскачыла за парог, а слядоў нябачна — снегу навапіла. Тады згадала Лідзея пра нітачку. Глянула ля вядра з вадой, дзе клубочак той паклала, а там саменькі кончык застаўся, яшчэ б нейкі сажань — і пацягнуў бы яго хлопец за сабой.

Ледзьве дачакалася дзяўчына змяркання, узяла за

нітачку, паціху яе са снегу выцягнула і пайшла. Спачатку хлапчына кіраваў на суседнюю вёсачку, якая таксама ў лесе знаходзілася, але праз колькі крокаў нітачка пацягнула зусім у адваротны бок, туды, дзе раскінулася Гнілое балота, а на выспе, не даходзячы блізка да яго, ляжалі вясковыя могілкі. Тут ужо было не да жартаў. Лідзея спынілася. Не было з кім параіцца. Пакруцілася на месцы і вырашыла сачыць далей.

Тым часам змрок запанаваў над абшарамі. Лідзея ішла, трымаючыся за нітачку, нібы за кій, якім можна было і абараніцца ў выпадку чаго. Дзяўчына ляскала зубамі са страху, але ўпарта сунулася наперад.

Нечакана з цемры паўсталі вялікі крыж, а за ім драўляная каплічка, якую звычайна ўзводзяць на могілках сяляне, каб там пазваніць у звон, калі нябожчыка хаваюць, ці яшчэ якую нагоду справіць. Лідзея супынілася і торгнула за нітку. Тая нацягнулася, нібы струна. Андрэй недзе зусім блізка. Шуснула яна за елачку і не дыхае. А вецер свішча, мароз мацнее, крумкачы не спяць, голас свой жахлівы падаюць і, здаецца, падказваюць нячысцікам, дзе схавалася Лідзея. Тым часам рыпнулі дзверы капліцкі, і на парозе з'явіўся невыразны цень. Пастаяў хвіліну-другую і зрабіў крок наперад. Калі ён параўнаўся з дзяўчынай, тая ледзьве не закрычала — гэта быў не хто іншы як Андрэй!

Дачакалася бедалага, пакуль ён далей адыдзецца, і зазірнула ў сярэдзіну будыніны. У капліцы цёмна, хоць ты вока выкалі. Пачала рукамі шукаць вугельчык, каб яго раздзьмуць і агеньчык зацепліць. Калі святло выхапіла з цемры сцены і куты невялічкай будыніны, то дзяўчыне ажно галаву закружыла — з усіх бакоў на яе пазіралі, страшна ашчэрыўшыся, чарапы. Іх было многа, можа, пяць дзесяткаў, а можа, і сотня. Як ламанула Лідзея адтуль бегчы, то толькі вецер у вушах засвістаў! Куды і стома тая падзелася. Але, праляцеўшы, можа, з вярсту, апамяталася: ён жа зараз агледзіцца, што яе на вечарынцы няма, і падасца ці шукаць, ці дамоў. І вяртацца будзе па гэтай дарозе... Толькі яна збочыла крыху і сцішыла свой бег, як зусім недалёка ўбачыла Андрэя, які крочыў да сваёй капліцкі.

Прыбегла Лідзея не дамоў, а да бабульчынай хаціны і давай у акенца стукаць:

— Бабулька, родненькая, адчыні! Адчыні хутчэй, бо баюся, што ён мяне дагоніць!

— Што з табой, унучка? — адчыніўшы, спыталася гаспадыня.

Распавяла тая, дзе была, што бачыла. Спахмурнела старая:

— Чула я некалі такую ж гісторыю. Яе мне матулянябожчыца расказвала. Пра адну дзяўчыну, якая на ўласнай шкуры зведала сувязь з нячыстай сілай. Дрэнна для яе ўсё скончылася, ой як дрэнна...

— А што здарылася?

— Безумоўна, хлопец гэты ніякі не хлопец, а пераўвасоблены нячысцік. Лазіць ён за табой ды спрабуе сваімі чарамі на цябе ўздзейнічаць, каб потым што благое зрабіць. Сцеражыся.

— Але ж ён цяпер ад мяне не адчэпіцца. Ведае, дзе я жыву, ведае, што ён мне падабаецца. Як жа ад нячысціка ўратавацца?

— Можна ўратавацца. Пажывеш у мяне першы час, бо дома ён цябе вельмі хутка знойдзе, і тады ўжо ніхто не дапаможа. А ў мяне ёсць стары знаёмы, ён і раней часам дапамагаў, асабліва ў безвыходных сітуацыях. Раніцай схаджу да яго, папрашу заступніцтва — не павінен адмовіць. А зараз залазь на печ ды паспі. Не бойся. Я ў хаце, таму ніякі чорт сюды не палезе.

Гаспадыня як сказала — так і зрабіла. З самае раніцы пайшла да таго чалавека і распавяла пра ўсё, што адбывалася апошнім часам з Лідзеяй. Той уважліва выслухаў, а потым, хітравата прыжмурыўшы вока, звярнуўся да бабулькі:

— Хіба ты не памятаеш, як у наш час з нячысцікам распраўляліся?

— Што ты, чалавеча, адкуль я магла ведаць?

— Тады слухай і ўсё зрабі так, як я табе скажу, бо калі нешта перайначыш — быць бядзе, і абрынецца яна на таго, хто пойдзе нячысціка са свету зжываць. Дам я табе пару карэнняў вялікіх, пару голек кусцікаў, якія толькі я ведаю, ды ўсялякіх зёлак. Звары ўсё гэта на малым агні ў трох водах. Потым злі вар у пасудзіны, астудзі і перамяшай. З сабой неабавязкова ўсё несці, дастаткова і невялічкай пасудзіны. Дачакайся, калі заспявае трэці певень, і у той самы момант пакрапі жытло нячысціка. Неабавязкова, каб ён сам там знаходзіўся. Гэтыя траўкі на іх моцна дзейнічаюць. Калі чорт закране рукой акроплены вадой прадмет, то павітаецца з уласнай смерцю, тут яму і ўсё. Толькі памятай: ні ў якім разе нельга спачуваць

нячысціку, бо канаць ён будзе ў чалавечым абліччы. Нельга рэагаваць на ягоныя крыкі ды стогны, плач ды слёзы, бо калі ў душы з'явіцца жаль да яго, то гэтая вадзіца пачне дзейнічаць і на цябе. А назад ён са сваіх лап нікога ніколі не выпускае. І яшчэ: нельга палохацца.

Падзякавала бабулька свайму сябруку і пакіравала дамоў, каб належным чынам падрыхтавацца да расправы з нячысцікам.

— Вылазь, унучка, знайшла я ўправу на твайго кавалера-нячысціка, — з парога гукнула яна Лідзеі, — зараз мне дапамагаць будзеш, а я раскажу, як усё зрабіць. Запамінай добра, каб не пераблытала, бо мяне ж побач не будзе...

Доўга варылі дзівосны ўзвар старая і маладая, шаптала бабуля парады, а Лідзея ўважліва слухала.

Вырашылі, што сама лепш ад нячысціка пазбавіцца падчас чарговай вечарынкі. Ён жа абавязкова пойдзе шукаць Лідзею, а тая дачакаецца зручнага моманту непадалёку ад капліччкі і зробіць усё як мае быць.

Вось надышоў той дзень, і Лідзея пайшла да патаемнага месца, адкуль прыходзіў да яе Андрэй-нячысцік. Засела непадалёку і стала цярпліва чакаць. Нарэшце Андрэй выйшаў з капліччкі, але, пастаяўшы крыху на парозе, вярнуўся назад. Дзяўчына ледзьве не закрычала з адчаю. Што ёй, бедалазе, рабіць, калі нячысцік не пойдзе ў вёску? Ды Андрэй, нібы пачуўшы маленні Лідзеі, зноў выйшаў і паціху падаўся да вёскі. Дзяўчына нейкі час чакала, [redacted] потым уляцела ў капліччку і давай ва ўсе бакі сваім чароўным узварам пырскаць, а напаследак яшчэ і дзверы добра змачыла, нават клямку і тую не забылася. Усё, здавалася б, правільна зрабіла, але не пабегла дамоў, як яе вучыла бабулька, а вырашыла пагглядзець на ўласныя вочы, хто ж гэта да яе хадзіў і які ён на самай справе. Доўга сядзела, закалела ўся, але дачакалася, калі гаспадар капліччкі дамоў вярнуўся. Ішоў ён невясёлы, але спяшаўся, бо крык пеўня для яго быў, што смерць. Ухапіўся за клямку і адразу ж закрычаў:

— А-а-а! Высачыла! Да смерці мяне давяла! — і тут у таго, хто зваўся Андрэем, вопратка з плеч апа́дала і валасістая шкура праглянула. Спалохалася Лідзея і кінулася бегчы. Ды пераблытала і пабегла не ў бок вёскі, а ў супрацьлеглы, а галоўнае — азірнулася. А гэтага ж

нельга было рабіць! Не паспела яна пад ногі глянуць і шуснула ў палонку, якую ці то рыбакі прабілі, ці то не замярзала там вада ўвогуле. Нават крыкнуць не паспела, захлынулася адразу.

Доўга чакала дзяўчыну бабуля, а потым папрасіла хлапцоў ды мужчын пашукаць яе. Тыя ўсё навокал аблазілі і знайшлі тую палонку. Вада ў ёй была стаячая і чырвоная. Калі вясной лёд узламаўся і пабеглі раўчукі, то і рэчка тая абудзілася, але цяпер яе людзі звалі... Лідзеяй. Так яна і засталася ў памяці. Праўда, некаторыя клікалі больш ласкава — Лідзейка, таму і паселішча на высокім беразе назвалі Ліда. Але тут ужо невядома дакладна, ці то ад той невялічкай рэчкі, дзе дзяўчына смерць знайшла, ці то ад дзявочага імя.

## БЯРОЗАЎКА

Некалі нашы продкі пакланяліся паганскім багам. Многа іх было, і буйных, і дробных, адным словам — на ўсе выпадкі жыцця. Чалавек выбіраўся ў лес — маліўся таму Богу, які апекаваў над лесам і ляснымі звярамі, каб добра ўсё ў гэты дзень атрымалася, каб не было ніякіх ліхіх здарэнняў. Выпраўляўся на рыбалку — адпаведна маліўся Богу вады, каб той ненарокам не раззлаваўся і не забраў яго ў падводнае царства. Так і жылі, так і пакланяліся. Колькі стагоддзяў — цяжка сказаць. Відаць, многа, бо людзі тут надта даўно аселі. Але прыспелі новыя часы, і паўсюдна сталі ўводзіць новую веру — хрысціянскую.

Спачатку толькі багатыя яе прынялі. Першым князь са сваёй сям'ёй стаў праваслаўным, затым яго наблізжаныя пачалі новаму Богу маліцца, а ўжо потым сталі астатніх прымушаць у цэрквы ды ў храмы хадзіць, на каленях стаяць і Усявышняму паклоны адбіваць. Плакалі людзі, не хацелі цурацца сваіх ідалаў, якім і іхнія прадзеды ахвяры прыносілі, але што зробіш... Некаторыя забіралі сем'і і, захапіўшы толькі самае неабходнае, уцякалі ў глухія мясціны, каб там жыць па старадаўніх законах. Ды толькі нядоўга такое працягвалася, бо прапаведнікі хрысціянства і там іх знаходзілі.

Недалёка ад мясціны, дзе зараз наша паселішча, стаяў вялікі палац, і жыў у ім вяльможны княжацкі ваяво-

да, які хоць і залежаў ад тутэйшага валадара, але ўсё роўна сябе ставіў вышэй. Многіх бедных ён са свету звёў толькі з-за таго, што крыжык на шыі не насілі. Як ні малілі, як ні прасілі яго людзі, што няма за што купіць, няма чым заплаціць кавалю, ваявода і чуць нічога не жадаў. Усе вёскі і хутаркі, нават самыя маленькія, былі ахрышчаны дзякуючы намаганням гэтага злога чалавека. Радаваўся ён і пры выпадку казаў князю:

— У мяне ўсе праваслаўныя, у мяне, княжа, паганцаў няма.

Хваліў валадар адданага служку, у прыклад іншым ставіў. Але аднаго разу закавыка атрымалася. Прыляцеў вершнік на ваяводскі двор і, не злазячы з каня, крыкнуў служкам:

— Дзе гаспадар?

— Адпачывае, а што? — запыталіся тыя.

— Будзіце хутчэй, бо справа дужа неадкладная.

Пабаяліся тыя марудзіць і паджгалі да ваяводы.

— Ваявода-бацюхна, уставай, там пасланец да цябе.

— Які пасланец у такую рань? Ідзіце, пакуль бізуном не адхадзіў. Паспаць з-за вас спакойна нельга.

Але тыя не адыходзілі, зноў і зноў катурхалі свайго валадара:

— Ваявода... Ваявода... Пасланец... Сцвярджае, што справа вельмі важная. Трэба ўставаць.

Той вымушаны быў устаць:

— Вядзіце яго да мяне.

Калі пасланец паўстаў перад сонным ваяводам, то той сярдзіта прамовіў:

— Што табе гэтак ужо карціць, калі не мог патрываць пару гадзін?

Пасланец бохнуўся на калені:

— Ваявода, не карай. Не мог и трываць, бо знайшлі мы адно паселішча, дзе яшчэ ёсць чалавек, які прытрымліваецца паганскае веры...

— Дзе гэта вы знайшлі такое?

— Ды зусім побач, амаль што ля твайго замка.

— Быць такога не можа. Я ж тут усюды пабываў.

— І я б не паверыў, каб на свае вочы не ўбачыў. Там нашыя людзі засталіся вартаваць, а мяне дзесяцкі паслаў тэрмінова паведаміць пра навіну.

— А вы таго злыдня да мяне не прывалаклі?

— Мы паспрабавалі было, але мясцовыя жыхары кінуліся на яго абарону, мы і пабаяліся.

— Што, узброеныя воі пабаяліся сялян? Ты гэта мне хочаш сказаць?!

Ваявода не на жарт вызверыўся, а пасланец адразу паспрабаваў перавесці гаворку ў іншы бок.

— Мясцовыя жыхары аднагалосна сцвярджалі, што ён не заклікаў іх пакланяцца старым багам, а толькі дапамагаў лячыцца ад усялякіх хвароб. Таму дзесяцкі і паслаў мяне, каб я ўсё распавёў табе і прывёз адказ, як дзейнічаць далей.

— А ніяк не дзейнічаць! — узарваўся гаспадар. — Едзь назад, і каб да полудня той вяшчун быў у мяне. Калі не даставіце, то сваёй шкурай заплаціце, так і перадай свайму дзесяцкаму!

Ваявода пайшоў дасыпаць, а пераляканы вершнік ускочыў на каня і паімчаў назад.

Пад полудзень звязанага вешчуна скінулі з каня прама перад палацам ваяводы. Гаспадар стаяў на ганку і, здавалася, спаў, але на самай справе, як толькі таго чалавека скінулі долу, ён адразу запытаўся:

— Ну, што скажаш?

— А нічога... — спакойна прамовіў вяшчун, падымаючыся на ногі. — Што я павінен гаварыць?

— Чаму ты не прыняў хрысціянскае веры?

— Я пакланяюся тым багам, якіх мае бацькі і дзяды прызнавалі. І нікога я не баюся, бо нікога не забіваў, нічога не краў...

— Не краў? А хіба ты нічога не браў з тых, каго лячыў? — ваявода ажно наперад падаўся.

— Так, не браў. І каштоўнасцей не збіраў, бо лічу іх непатрэбнымі ў жыцці. Людзей многіх лячыў і вылечваў нават тады, калі іншыя ўжо і не спадзяваліся на поспех, але платы ніколі не браў.

— Не паверу я ў гэта! — ваявода тупнуў нагой.

— А я цябе і не прашу мне верыць!

Вяшчун паводзіў сябе незалежна. Ваявода ўпершыню бачыў чалавека, які трымаўся перад ім смела. Гэта яго і стрымлівала, і цікавіла, ці доўга ён будзе так сябе паводзіць.

— Лепей кажы, дзе каштоўнасці, астатняе мяне не хвалюе!

— У мяне няма каштоўнасцей.

— Ты ведаеш, што мае людзі нават мёртвым языкі развязваюць?

— Мне не развяжуць, бо з тваімі прыслугамі я і размаўляць не хачу. Яны не ведаюць, што такое чалавечая

годнасць, і гэтаксама, як і ты, лічаць, што за золата ўсё можна купіць і прадаць.

— Не загаворвай зубы, адказвай, дзе каштоўнасці!

Вяшчун засмяяўся:

— А ты, ваявода, дурань. На такой пасадзе і такая доўбня...

Гаспадар пачаў было размахваць рукамі, але яго перабіў стары дзесяцкі, які ўвесь час маўкліва стаяў побач:

— Ён гаворыць праўду, ваявода. Не знайшлі мы ў яго ніякіх каштоўнасцей. Толькі траўкі ўсялякія, кветкі ды зёлкі, больш нічога.

— Ён іх закапаў, схаваў, вы проста не знайшлі!

— Але ўсе, да каго мы звярталіся, аднагалосна сцвярджалі, што вяшчун лячыў іх бясплатна. Нават мёд і той браць адмаўляўся, хворым загадваў аддаць.

— Бачыш ты на яго... А за што ж ён тады жыў і навошта было ўсялякіх хворых лячыць? Я ў цябе пытаюся, дзесяцкі? — узвыў ваявода.

Вой зрабіў на ўсялякі выпадак пару крокаў назад і адразу ж заціх.

Тут гаспадар зноў накінуўся на вешчуна:

— Золата не любіш?! Каштоўнасцей не маеш?! Навошта мне такі палоннік?!

— А я да цябе ў палон не прасіўся, — змрочна адказаў чалавек са звязанымі рукамі. Жыў сабе спакойна, пакуль твае служкі не прыляцелі ды прыдзіраццa не пачалі. І не пайшоў бы, дык яны пачалі пагражаць, што вяскоўцаў пераб'юць. Іх-то за што? Што яны табе благога ўчынілі?.. Вось і вымушаны быў да цябе ў госці завітаць, але я не радуюся гэтаму.

— За гэтыя словы я зараз загадаю цябе павесіць на самым высокім суку!

— За што ж мне такая павага, ваявода? На суку, ды яшчэ на самым высокім? — здзекліва прамовіў вяшчун.

Гаспадар болей не вытрымаў здзекаў, завішчэў, шалёна тупаючы нагамі:

— У пятлю яго! У пятлю! Слугі, чуеце?!

Але ў гэты момант да ваяводы падскочыў дзесяцкі.

— Не рабі, ваявода, гэтага. Не рабі, прашу цябе.

— Чаму? Можа ты яго шкадуеш, ці ён табе спадабаўся?..

— Справа не ў гэтым. Калі ты яго пакараеш смерцю, то можа здарыцца благое...

— Што?

— Паўстануць людзі, якія яго паважаюць, тады ўсім нам будзе канец.

Гаспадар прызадумаўся і зірнуў на вешчуна, які, здавалася, увогуле страціў цікаўнасць да ўсяго, што тут адбывалася.

— Пашанцавала табе. Але толькі на гэты раз. Другі раз не дарую, так і запомні. А зараз ідзі, і папярэджваю — кідай пакланяцца старым багам.

— І не падумаю! — горда адрэзаў вяшчун. — А смерці, ваявода, я не баюся, бо пасля смерці цела прарасце мая душа. Яна не адляціць на неба, яна застанецца тут, на зямлі, і прарасце белай бярозкай, бо ніколі я не рабіў людзям благога. Ніколі... Ты ж, як ні імкніся, на той свет таксама не трапіш — асінай гнуткай і гнілой пасля скону станеш. Памятай і ты, не забывайся...

Развязалі вешчуна, і ён, ні з кім не развітваючыся, пайшоў назад, да тых людзей, ад якіх яго сёння забралі. Гаспадар ледзьве стрымліваўся, каб не закрычаць услед што-небудзь абразлівае. Потым паклікаў да сябе дзесяцкага:

— Скажы, вой, за што яго людзі так любяць? Ён жа не багаты і не вяльможны, у простай вопратцы, нават у лапцях ходзіць...

— Яны, ваявода, яго шануюць найперш за тое, што ён сам з імі добра абыходзіцца. Па-другое, таму, што вылечыў многіх, паставіў на ногі, даў магчымасць сустракаць і праважаць ласкавае сонейка, а гэта не забываецца. Ды і за ўсялякай простай парадай ідуць да вешчуна. Да нас жа з вамі не прыходзяць?

— Не прыходзяць, — ці то паўтарыў, ці то адказаў гаспадар.

З таго дня прайшоў, можа, год, а можа, і болей, і здарылася ліха — у ваяводы моцна захварэў адзіны сын. Ляжаў, бедалага, і ні есці, ні рухацца, нават размаўляць не мог. Якіх толькі варажбітоў і лекараў ні прыводзілі да хлопца — нічога не дапамагала. Гаспадар плакаў горкімі слязьмі. Тут ён пераканаўся, што гора для ўсіх аднолькавае — і для бедных, і для багатых.

— Людзі, людзі, даруйце мне мае грахі! — прасіў ён. — Даруйце і дапамажыце, каб мой адзіны сын устаў! Усё, што маю, таму чалавеку аддам! Сам жабраваць пайду — толькі б сына паставіць на ногі. Ён жа мой адзіны нашчадак!

Людзі толькі разводзілі рукамі і пацiскалі плячыма. Шкадавалі ваяводу, забывалі яму старыя грахі, здзекі ды кпіны, але дапамагчы не маглі.

Да Бога ён ужо і не звяртаўся, відаць, пераканаўся, што неба застаецца абыякавым да няхай сабе і шчырых, але такіх далёкіх ад пазамагільнага свету людзей. Плакаў і лісліва паглядваў на пасланцоў — ад іх зараз залежаў лёс ягонага сына.

— Ну што, прывезлі каго-небудзь?..

Тыя панура маўчалі.

Аднаго разу да ваяводы зайшоў той самы стары дзесяцкі, які цяпер ужо сотнікам быў, пакланіўся нізка і прамовіў:

— А што, гаспадар, калі мы таго вешчуна з пушчы прывязём, якога ты некалі адсюль выгнаў?

— Вязі, толькі б сын выжыў. Усё, што хочаш, абяцай, скажы, што я нічога не пашкадую...

Прывезлі таго вешчуна з лесу. Ён стрымана павітаўся і запытаўся ў гаспадара:

— Дзе ваш хворы? Паказвайце, не цягніце час, гэта да дабра не прывядзе.

Завялі ў пакой да хлопца. Глянуў на яго вяшчун, нахіліўся, за галаву ціхенька пакратаў і прамовіў:

— Загадай, ваявода, тэрмінова вазок лёгкі ў дарогу збіраць ды сына апранай цёпла. Забяру яго да сябе, на месцы лячыць буду. Не палохайся, забыўся и ўжо пра тое, як ты некалі мяне прыніжаў. Чаго ў жыцці не здараецца...

— Дапамажы... Дапамажы... — нібы заведзены, паўтараў гаспадар і парываўся прыпасці да кастлявай рукі вешчуна.

Цяжка, ой як цяжка вярталіся сіла і здароўе да ваяводзінага сына. Можа, і вяшчун сумняваўся ў тым, што здолее нечым дапамагчы, але ні разу такога не прамовіў услых, нястомна паіў усялякімі адварамі ды ўзварамі, прыкладваў лісцікі ды карэньчыкі да збалелага цела.

Ваявода не вытрымаў трох месяцаў, як яму наказаў вяшчун, і, узяўшы ахову, паджгаў да той глухой вёсачкі. Калі прыехалі, то першага, каго ўбачылі на прызбе на сонейку, — гэта хворага. Ён ужо паціху мог хадзіць і пры гэтым радасна ўсміхаўся.

Заплакаў шчаслівы бацька і пачаў дапытвацца ў вешчуна, як яму аддзякаваць. Ён добра памятаў, што ні гро-

шай, ні каштоўнасцей той не бярэ. Таму, калі вярнуўся ў палац, паклікаў да сябе старэйшага са слуг і загадаў:

— Едзьце ў тую вёску, дзе ляжаў мой сынок, і там... пасадзіце шмат бярозак. Хай яны нагадваюць пра таго вешчуна і ягоных землякоў, якія яны светлыя і чыстыя душою...

Даўно пайшоў са свету вяшчун, даўно не стала ваяводы, бярозы тыя шумелі-гайдаліся не адно стагоддзе, захоўваючы памяць пра добрых людзей. Дык тое паселішча і назвалі — Бярозаўка.

## КРУПАВА

Жыў некалі тут хлопец, звалі яго — Крупеня. Сам з сябе нічога такі ўрадзіўся: высокі, плячысты, не асілак, але і не слабы, калі трэба было за сябе пастаяць ці дзе якую справу кулаком даказаць, то і гэта мог зрабіць без чужой дапамогі. Вёска ж была не маленькая, але і не вялікая. Людзі хто чым займаліся, але ў асноўным зямельку аралі ды засявалі — з таго і жылі, з таго і карміліся. Некаторыя борці па лясах стаўлялі і мёдам гандлявалі, іншыя паляваннем сям'ю падтрымлівалі ці рыбнай лоўляй. Адным словам, усім справа была, абы толькі не сядзелі, склаўшы рукі, а шчыравалі.

Крупеня той быў адзіны сын у бацькоў. А бацькі ягоныя мелі багата зямлі і нават вятрак — млын, з дапамогай якога граблі яны грошы, што лапатай зямлю. Якую скажуць цану, такую селянін і плаціў. А не хочаш плаціць — бяры жаронцы і круці ўручную. Але ж ці многа накруціш? Таму і ішлі на паклон, таму і трывалі здзекі ды кпіны.

Сын іхні ўрадзіўся хітрым і надта жвавым, а ўжо такі падкі да жанчын быў, што і бацькі не ведалі, у каго ён пайшоў. Ніводнай паўз сябе не прапускаў, каб не зачапіць, не пацiскаць, а калі даведваўся, што недзе паблізу, а то і далёка, жыве жанчына вольных паводзін, то і туды наведваўся. А потым пеўнем хадзіў сярод вяскоўцаў і пахваляўся.

Бегаць-то ён бегаў, ды здарылася так, што сам пачаў хінуцца да адной мясцовай дзяўчыны, якую звалі Гэлькай. І што дзіўна — была яна зусім непрыгожая, дробненькая, змізарнелая, здавалася, што яе нехта пастаянна крыўдзіў і Гэлька была вечна незадаволена і жыццём, і

тым, што адбывалася навокал. Праўда, яе бацькі мелі багата грошай, так што тут Крупеня не пралічыўся.

Пачаў ён да Гэлькі наведвацца. А тая, калі ён прыходзіў, сядзела сабе ціхенька, і нельга было зразумець, ці радуецца яна, ці пра нешта іншае думае. Мабыць, надакучыла хлопцу проста так хадзіць, і ён сказаў бацькам:

— Бацька, маці, надумаў я жаніцца...

Тыя ажно з лаўкі ўскочылі ад радасці.

— Вось добра, сынку, вось малайчына. Мы не супраць. А з кім жа ты пабрацца хочаш, да каго сватоў пасылаць?

— Чаго далёка хадзіць? Вунь да Гэлькі і пасылайце.

Усяго чакалі бацькі, толькі не гэтага. Першым ачомаўся бацька:

— Што ж ты, сынку, лепшай дзеўкі сабе выбраць не мог? Яна ж такая непрыгожая ды худая, што ад ветру пераламацца можа. Ходзіць нейкая перакрыўленая, незадаволеная...

— Не дамо сваёй згоды! — катэгарычна запярэчыла і гаспадыня.

— Не дасце — і не трэба! — са злосцю мовіў Крупеня, ляснуў дзвярыма і некуды прапаў ажно на тры дні.

Калі вярнуўся, то на запытанне, дзе гэта ён лазіў, пачулі ў адказ:

— Дзе трэба, там і хадзіў. А з вамі, пакуль да Гэлькі сватоў не пашляце, увогуле размаўляць не буду.

З паўгода варагавалі бацькі з сынам. Нарэшце бацька не вытрымаў і, са злосці плюнуўшы, сказаў:

— Хай на кім хоча, на тым і жэніцца! Наша справа якая? Не нам жа бедаваць, а яму, дурню гэтаму. Пашлём сватоў, так і быць. Няхай радуецца.

Папрасілі бацькі суседа і яшчэ аднаго вяскоўца, і ў святую нядзельку сваты разам з Крупеням пайшлі да Гэлькі ў хату дамаўляцца наконт вяселля і ўсяго іншага, што ў такіх справах неабходна.

Тут і здарылася самае цікавае. Калі Гэльку паклікалі да гасцей, то яна ўпала перад сваімі бацькамі на калені і запрасілася:

— Родненькія, міленькія, не хачу я замуж за Крупеню ісці. Не аддавайце мяне, бо згубіце вы душу маю нявінную...

Пачала галасіць, валасы на галаве рваць. Тут бацька не вытрымаў, ухапіў дзягу ды пачаў яе лупцаваць, прымаўляючы:

— За каго скажу — за таго і пойдзеш! Не будзеш мяне

перад людзьмі ганьбіць ды паганіць! Вон з хаты і чакай на вуліцы!

Дзяўчына, збітая, ледзьве выпаўзла з дзвярэй, прыхілілася да вішанькі ў садочку дый заплакала горка:

— Утаплюся, але за Крупеню не пайду, жыць з ім не стану.

Мабыць праведаўшы, што сваты да Гэлькі прыйшлі, прыбег сюды другі хлопец — Іван, які кахаў дзяўчыну і да якога, як потым аказалася, яна сама хінулася. Бедалага яму ўсё і расказала. Іван заплакаў і з болем у душы вымавіў:

— Раз ужо так атрымалася, то ідзі за яго. Ён жа багаты. А я... Ды і бацькі твае ад свайго не адступяцца. Што тут зробіш? Лёс у мяне такі нешчаслівы...

Гэлька раптам сурова прамовіла:

— Калі і выйду за яго, то дзіця ад цябе будзе! Пайшлі ў нашу лазеньку! Хутчэй, пакуль яны там выпіваюць!

А Крупеня стаяў непадалёку і ўсё чуў. Счакаў ён хвілін колькі і следам прыпусціў. Узяў здаравеннае палена, падпёр ціхенька дзверы і падпаліў лазеньку, а сам адбегся да Гэльчынай хаты.

Людзі пачалі гарлаць, што пажар, павыбягалі ўсе і пачулі крыкі і ў лазеньцы. Адчынілі дзверы і выпусцілі Гэльку з Іванам. Ніхто не дапытваўся, чаго яны там апынуліся, — не да гэтага было. Агонь пачаў перакідвацца з аднаго дома на другі, бо будыніны амаль што датыкаліся адна да другой, і да вечара амаль уся вёска выгарала, толькі галавешкі дыміліся. Ацалела толькі пакрыўленая лазенька ля самага лесу, і нехта з іроніяй прамовіў:

— Эй, людцы, гэта ж... Крупенева...

Крупеню вяскоўцы прагналі ад сваіх папялішчаў, каб ішоў у белы свет і там сабе новых сябрукоў шукаў, бацькі яго памерлі, а новую вёску, якую пачалі будаваць ля той адзінай лазенькі, называлі то Крупенева, то Крупава. Потым толькі Крупава засталося.

## КРЫНІЦА

Даўным-даўно была тут недзе, зусім недалёка, крыніца. Людзі пілі з яе ваду летам і зімой, бо яна не замярзала, і здзіўляліся, якая яна халодная ды сцюдзёная, якая чысцюткая — нібы дзіцячая сляза, як яна сілы аднаўляла. Таму да гэтай крыніцы падчас сенакосу ці сенажаці людзі

спяшаліся. Старэйшыя маладзейшым так падказвалі: «Не дакасі гэты пракос (ці не дажні гэты сноп), а збегай да крыніцы ды вадзіцы напіся. Адразу нібы нанова народзішся, адчуеш, што такое зямная сіла».

Людзі параіліся і вырашылі зрабіць вакол крынічкі зруб, бо да яе і жывёлы ўсялякія піць падыходзілі. Вяскоўцы, канешне, былі не супраць таго, каб яны пілі, але хацелі, каб пілі толькі тую ваду, якая пералівалася б праз край.

Зрабілі добрую справу, нават гарлачык павесілі, каб падарожным, ды і тубыльцам, зручней піць было. І ўсё добра было б, калі б не адзін выпадак. Ішлі дарогай, паўз крынічку, два падарожныя. Здалёк, мабыць, свой шлях трымалі, бо ледзьве ногі перасоўвалі. Адзін з іх быў крыху маладзейшы, але затое і злейшы. Хоць з людзей пабіраўся, але мала калі дабром адплачваў, хутчэй наадварот. Ушчуваў яго таварыш, ды мала словы дапамагалі.

— Глядзі, якая крынічка. Зруб стаіць, гляк вісіць, бяры, пі, ды дзякуй не забывайся сказаць, — задаволена вымавіў стары.

— Ага, так я ім і скажу! За ваду гаварыць дзякуй! Што яны тут, студню глыбокую капалі, гарбаціліся? Сама вадзіца на паверхню выбілася, сама сабе і дарогу знайшла...

Селі адпачываць ля крыніцы. Напіліся вады і расцягнуліся на траўцы. Потым малодшы раптоўна падхапіўся.

— Ты куды? Што ўдумаў? — запытаўся старэйшы, але той не спяшаўся адказваць і нешта таропка шукаў у кішэнях.

— Што ты надумаў?

— Яны, мясцовыя жыхары, грошай, відаць, да гэтага часу не бачылі і не ведаюць, што гэта такое. У мяне недзе капейка была. Кіну яе ў ваду — яны і пачнуць ад грошай шалець. Скончыцца іх мірнае жыццё, будуць яны адзін на аднаго скоса глядзець, ваўкамі зырыць. Яны ў мяне спазнаюць, што такое ліха!

— Навошта ты такую бяду людзям ні ў чым не павінным чыніш?

— Каб яны ў нечым вінаватыя былі, дык ıı ім не так жыццё сапсаваў бы!

Знайшоў ён такі тую зласчасную капейку і ўкінуў у празрыстую вадзіцу. Потым і закамандаваў на старэйшага:

— Давай адыдземся ды падглядзім, як тубыльцы ля крыніцы будуць сябе паводзіць.

Таму нічога іншага не заставалася, як падпарадкавацца. Малодшы не толькі нораў больш суровы меў, але і сілы ў яго было паболей. Не пагоднішся — то і кухталёў надае, доўга ўпрошваць ды размаўляць не будзе.

Селі яны непадалёку, у густым кустоўі. У хуткім часе да крыніцы падышла маладзіца, нахілілася з гляком і, мабыць, заўважыла, што на дне нешта ляжыць і ярка свеціцца. Закарцела ёй даведацца, што гэта такое, таму перагнулася праз край і гопнулася ў ваду — толькі пырскі паляцелі.

Малодшы падарожны ажно па зямлі качаўся ад рогату. Старэйшы спачатку пазіраў, то на яго, то на маладзіцу, але хвілін праз колькі і ён корчыўся са смеху.

Маладзіца ледзьве выбралася з таго зласчаснага зруба і, адплёўваючыся ды на чым свет стаіць лаючы крыніцу, пайшла прэч.

— Чакай, яшчэ не тое пабачыш. Гэта толькі пачатак, зараз самае вясёлае пачнецца, — падзуджваў старога малодшы.

І сапраўды, можа, праз якія паўгадзіны побач з крыніцай спыніўся воз, і з яго саскочылі два ладныя дзецюкі. Пасміхваючыся, падышлі да вады і, глянуўшы ў крыніцу, ажно раты ад здзіўлення разявілі. Потым адзін з іх як крыкне:

— Маё! Маё! — і нахіліўся над вадою. Але нават рукі не паспеў працягнуць, бо яго са ўсяго маху агрэў па галаве другі. Той даў сябруку здачы, і пайшло ў іх, паехала: крычалі, енчылі, стагналі ад болю, лупцуючы адзін аднаго.

Малодшы падарожны ў кустоўі радаваўся:

— Дай яму! Дай! Мацней трэсні, мацней, каб мала не падалося!

Нарэшце знемаглі тыя дзецюкі і ляглі на траву побач з крыніцай. Толькі і маглі, што дацягнуцца рукамі да вады і да скрываўленых твараў паднесці.

— Што ж ты нарабіў, дурань?! — закрычаў старэйшы вандроўны.

— Сам бачыш! Так мы прайшлі б і знаку не пакінулі, а так яны мяне да скону жыцця памятаць будуць. Адна ледзьве не ўтапілася з-за сваёй цікаўнасці, а гэтыя ледзьве не пазабіваліся з-за ўласнай сквапнасці. Ды ці адзін тут яшчэ гуз наб'е ці нос рассадзіць? Пайшлі, няма чаго нам тут болей рабіць, — сказаў малады і шпарка пакрочыў далей.

А местачкоўцы як пачалі ля той крыніцы валтузіцца, як сталі ў ёй ваду каламуціць, то праз колькі часу яе нельга было піць. Болей таго, дваіх чалавек да смерці забілі. Сталі тады сяляне меркаваць, як далей быць, што рабіць, каб вярнуць крынічцы былую славу. Доўга нічога слушнага ніхто не мог запрапанаваць, пакуль нехта не сказаў, можа, і не надта спадзеючыся на тое, што словы гэтыя пачуюць:

— Я так, браточкі, мяркую. Тут без бацюшкі нам не абысціся. Трэба па яго пасылаць і прасіць, каб тэрмінова дапамог ад бяды вызваліцца...

— А што? — ухапіліся астатнія за прапанову. — Слушна чалавек гаворыць. Трэба за бацюшкам паслаць. Эй, хто там больш жвавы, джгайце да вёскі! Ды няхай бацюшка начынне сваё возьме, бо яно, відаць, спатрэбіцца.

Бацюшку чакалі доўга. Нарэшце ён прыйшоў, і не адзін, а з дзякам. Распытаў, што да чаго, толькі не зразумеў нічога, пакуль капейку ў вадзе не заўважыў.

— О, — кажа, — гэтую бяду я адным пальцам развяду. Прымусіў дзяка залезці ў крыніцу і дастаць капейку. Калі той, ляскаючы зубамі ад холаду, вылез, то бацюшка капейку забраў сабе ў кішэню, потым асвяціў зруб, ваду і прамовіў павучальна:

— Каб болей з вамі ніякага ліха не здаралася, трэба, людзі добрыя, вам ля крыніцы капліцу святую пабудаваць. Тады Усявышні над усім наваколлем апекаваць будзе.

Так і зрабілі. Колькі стагоддзяў з таго часу прайшло — ніхто вам і не скажа. Капліца даўно згніла, засыпалася, а вось назва засталася. Так і вёска стала — Крыніца.

## ЛЕСНІКІ

У адной багатай сям'і нарадзілася дзяўчынка, а пан з пані ўжо ў сталым узросце былі, асабліва пан. Таму праз пару гадоў чалавек гэты цяжка захварэў і неўзабаве памёр. Засталася гаспадыня з малой дачкой на руках, глядзець за якой яна нікому не давярала, усё рабіла сама. А калі ўлічыць, што трэба было наглядаць і за вялікай гаспадаркай, і за тым, як справы ідуць, і за тым, каб нідзе не абкруцілі хітрыя ды сквапныя войты, то стане ясна — спраў у яе хапала. Але ж пані не скардзілася, старалася, каб усё было як мае быць.

Зайздросцілі сквапныя суседзі, якія спадзяваліся, што за год-другі здолеюць праглынуць землі сваёй суседкі. Ды дзе там! Тады яны пачалі дзейнічаць іншым шляхам, спадцішка то нешта ўкрадуць, то людзей мясцовых з поля пазганяюць. А апошнім часам зусім сорам страцілі — сталі панскі лес секчы і лепшыя бёрны да сваіх сядзіб звозіць. Гаспадыні вяскоўцы гаварылі пра гэта, але ж за руку не злавіў — не маеш права ў пакражы абвінавачваць.

Аднаго разу пайшла яна з дачушкай, якой было ўжо, можа, гадоў дзесяць, на кірмаш. Вёсачка тая была недалёка ад палаца, усяго з вярсту якую, таму ішлі нетаропка, размаўлялі. Вось ужо і вёска пачалася, і тут дачка гаворыць:

— Мама, глядзі, вунь хлопчык маленькі чамусьці плача. Усе песні співаюць, а ён плача.

— Давай запытаемся.

Падышлі да таго хлопчыка, якому прыкладна было столькі ж гадоў, колькі і малой паннаЧцы, і пані спыталася:

— Чаго ты, хлопчыку, плачаш? Усе радуюцца святу, весяляцца, и ты слёзы льеш?

— Як жа мне не плакаць? Усе нешта смачнае сёння елі, чыста апрануліся, а ў нас на стале сёння і хлеба не было, адна пустая лебяда. Апранахі таксама няма. Таму і не іду да сябрукоў, таму і не радуюся...

— А дзе ты жывеш?

— Ды тут, недалёка, вунь у той старэнькай хатцы.

— А бацька ў цябе ёсць?

— Так, і татка, і мамка, і сястрычак ды брацікаў многа. Але карміцца нам няма з чаго, таму так блага і жывём.

— Пайшлі да тваіх бацькоў. Можа, я іх і ведаю...

Прывёў іх хлопчык у хату, а там і сапраўды такая галеча, што і есці няма чаго, і апрануць, нават лавы, каб сесці, не аказалася.

— Як жа вы жывяце? — здзівілася пані, звяртаючыся да гаспадара.

— Ды як Бог пашле, так і выкручваемся. Спачатку на лёс наракалі, а потым перасталі, бо ўбачылі, што ўсё супраць нас. Некалі бацька мне зямлі даў крыху, жонцы на пасаг таксама перапала, але як ні працавалі — поле не радзіла. Першыя гады мы думалі, што, можа, нешта не ўмеем. Таму ў людзей пыталіся, прыглядаліся, як яны

робяць, — усё дарма, бо ў нас ніва і намнога чысцейшая была, і лепей угноеная, проста не радзіла — і ўсё на тым. Варажбітоў таксама прыводзілі, каб тыя праверылі, ці не наслалі чаго ліхія людзі. Аднак і гэта не дало станоўчых вынікаў.

— Так, невясёлая справа, — прамовіла пані.

— Ніва наша не радзіла, а дзеці, самі бачыце, нараджаліся. Спачатку бацькі дапамагалі: то зерня крыху падкінуць, то бульбы, а то і скварку, але цяпер ім самім дапамагаць трэба, бо ўжо ледзьве ходзяць. Таму, пані, у нас і нявесела нават у гэты святочны дзень.

— Шкада мне вас, людзі. Ведаю я вас, не раз бачыла, як вы шчыра ды самаадцана на ніве працавалі, але не чакала, што гэтак блага жывяце.

— Ды самі мы як-небудзь жылі б. Іх шкада, — выдыхнуў гаспадар з такой скрухай у голасе, што, здавалася, яшчэ імгненне і ён заплача горкімі слязьмі.

— Не трэба ні самім паміраць, ні дзяцей да гэтага даводзіць. Трэба што-небудзь прыдумаць...

— Ды мы ўжо па-ўсялякаму, пані, думалі і рабілі — нішто не дапамагае. Відаць, закляты мы нейкім праклёнам, які ляжаць будзе і на нашых нашчадках...

— Не трэба так гаварыць, што-небудзь прыдумаем... Я сама прыдумаю, — запэўніла пані і, адышоўшы на пару крокаў ад гаспадароў, задумалася.

Прайшло хвілін дзесяць. Муж з жонкай не ведалі, што рабіць, таму моўчкі стаялі і назіралі за нечаканай госцяй, а дзеці спалохана ціснуліся адно да аднаго. Яны яшчэ ніколі ў жыцці не бачылі гэткай прыгожай і багата апранутай жанчыны.

— А калі так... — нібы сама да сябе звяртаючыся, прамовіла пані і павярнулася да гаспадароў. — А калі мы з вамі вось што зробім. У мяне нехта лес крадзе... Я здагадваюся, хто гэта робіць, але хачу ўпэўніцца і пакласці гэтаму канец. Таму мяркую пасяліць у лесе палясоўшчыка. Ці не пагодзіцеся вы туды перабрацца? Там пракарміцца будзе значна прасцей: грыбы, ягады, рэчка лясная цячэ, рыбы ў ёй заўсёды многа, часам і звер які натрапіць. Лесу на хаціну я вам дам, на гаспадарчыя пабудовы — таксама. Нават людзей сваіх на падмогу падкіну, каб да восені ўсё адбудавалі. Там і невялічкія палянкі-лапінкі ёсць, на іх можна і жыта сеяць, і авёс, і што іншае, калі трэба. Разумею, што за год-два вы мне не аддзячыце, але жыццё ж доўгае, ды і нашчадкі растуць...

Гаспадары бухнуліся ў ногі:

— Пані, родненькая, збавіцелька ты наша, мы за цябе і за тваё здароўе Богу ўсё жыццё маліцца будзем!

Так на месцы і вырашыла пані самую цяжкую праблему ў жыцці беднай сям'і — як жыць далей. З таго дня пачаў гаспадар ахоўваць панскі лес. Стараўся, каб не падвесці чалавека, які ягоных дзяцей ад смерці ўратаваў. Будыніны спраўныя да восені паставілі, пасеялі на зіму жыта. І справа пайшла на лад. З кожным годам тым гаспадарам усё лягчэй і лягчэй жылося. Ураджай добры здымалі, дзеці падраслі і пачалі дапамагаць, а самае галоўнае — стала шанцаваць ім ва ўсім.

Той род увесь на тым самым месцы і жыў: і дзед, і бацька, і сыны, і іхнія нашчадкі. Таму калі вёска стала, то назвалі яе па занятку — Леснікі.

## МАЦЭВІЧЫ

Ад Мацея, які некалі жыў тут, пайшла назва вёскі. Такі ўжо штукар быў, што людзі яго з замілаваннем згадваюць. А калі хто якую штуку выкіне, то і зараз скажуць:

— Няйначай Мацеевы ўнукі пастараліся, іншыя да гэткага не дадумаліся б.

Кажуць, ён з дзяцінства такі быў, і згадваюць наступны выпадак.

Аднаго разу Мацееў бацька запрасіў суседа дапамагчы гумно крыць. Да полудня ні хвілінкі не адпачывалі мужчыны, усё працавалі, а потым гаспадар і кажа:

— Пайшлі, чалавеча. Праца працай, а перакусіць трэба, бо да вечара яшчэ далёка, а сіла сама па сабе не адновіцца.

Селі яны за стол. Гаспадыня забегала вакол іх — усё самае лепшае ставіць, каб чужы чалавек потым благога слова не сказаў пра іх, што пашкадавалі ці схавалі нешта. Вось есць той сусед ды нахвальвае, што ўсё так смачна. Гаспадары некуды на хвіліну адлучыліся, і тут з-за печы паказалася Мацейкава галава:

— Ты, дзядзька, есці еш, але не забывайся пра тое, што і мне пакінуць трэба. Ды не самага горшага і не таго, што сам ужо паспрабаваў...

Чалавек той лыжку ўзняў, а да рота так і не данёс. А тут і гаспадар вярнуўся ў хату:

— Што гэта ты, суседзе, не ясі?

— Дзякуй, — адказвае той. — Я ўжо наеўся, — а сам на печ са злосцю паглядае.

Гаспадар так і не зразумеў, чаму сапсаваўся настрой у чалавека. Дапрацавалі яны да вечара, а на вячэру сусед і ў хату не пайшоў, спаслаўшыся на тэрміновыя справы дома. На тым і разышліся.

Такім і вырас Мацей. Асабліва любіў пасмяяцца над багатымі ці над бацюшкам. Чамусьці служак Бога ён болей за ўсё не любіў. Чым ужо яны гэтак дапяклі яго — і да гэтага часу невядома, а вось чым той вясковец бацюшку адплаціў — і зараз яшчэ даволі часта пераказваюць. А здарылася вось што.

Аднаго разу з бацюшкавага падворка ўкралі двух самых лепшых канёў. Зрабіў гэта, як вы здагадаліся, Мацей. Загнаў ён коней у далёкае мястэчка на кірмаш і там выгадна прадаў цыганам. На добрым падпітку дамоў дабраўся, а ў вёсцы перапалох: гамана, крыкі, матушка плача, валасы гатова на сабе рваць, а бацюшка напіўся з раніцы. Яшчэ б! Такіх коней зладзеі пакралі! Вартаўніка-небараку так адлупцавалі, што той ляжаў пад страхой і вохкаў.

А Мацей, не быў бы ён Мацей, адляжаўся пасля моцнай п'янкі і вырашыў яшчэ над бацюшкам пасмяяцца. Пайшоў да ягонай хаціны дый кажа:

— Я, бацюшка, грэх невялікі маю...

— Адчапіся, не да цябе зараз!

— Замаліць жа мне яго трэба...

— Бачыш, у мяне гора вялікае.

— Бачу, але ж і грэх немалы. Хачу, каб вы мне яго сёння ж адпусцілі.

— Добра, кажы, не дуры мне болей галавы.

— Справа ў тым, бацюшка... Гэта [redacted] ў вас коней украў...

У бацюшкі ледзьве вочы не павылазілі, але ён хутка авалодаў сабой і пачаў лісліва:

— Добра, Мацейка, што не ўтоіў, прызнаўся, болей таго — прыйшоў пакаяцца.

— Ды надакучыла, бацюшка, грэх на душы трымаць. Самі ж разумееце...

— Канечне... Разумею, але грэх сыдзе пры адной умове: калі ты сам у царкве пра гэта пры ўсім народзе скажаш. У нядзельку прыходзь і пасля малебна раскаешся.

Пачухаўся Мацей:

— Пры народзе яно неяк і не вельмі прыдатна...

— Красці таксама непрыгожа.

— Тады, бацюшка, згода. У нядзельку прыйду.

Прыспела тая нядзелька. Бацюшка, задаволены, нешта спяваў, не вельмі падобнае на божыя малітвы, — Мацея чакаў. Сяляне, якіх папярэдзілі, што пасля малебна нешта адбудзецца, чакалі, ціха перамаўляючыся паміж сабой.

Нарэшце наперад выйшаў Мацей, і бацюшка звярнуўся да вяскоўцаў:

— Людзі, слухайце ўважліва. Усё, што скажа ваш аднавясковец, — чыстая праўда!

Кашлянуў Мацей раз, другі і пачаў даволі бойка:

— Родненькія мае, вось што я вам хачу сказаць. Усе дзеці ў нашай вёсцы, якія рыжыя, — гэта бацюшкава работа...

Рагатаў народ так, што, здавалася, нават святыя на сценах пачалі пасміхвацца.

Мацей не толькі сам такім быў, але і на нявестку яму пашанцавала. Маладзіца таксама за словам у кішэню не лезла.

Аднаго разу, ужо цяжарная, яна села з Мацеем есці. Пазіраючы на яе вялізны жывот, ён і кажа:

— Не еж надта многа, бо ты і так поўная...

Жанчына спакойна паела, а калі гаспадар загадаў ёй паставіць у печ гаршчок з бульбай, то яна бульбы насыпала і паставіла. Мацей ледзьве з лаўкі не грымнуўся:

— Што ж ты робіш? Ваду налі!

А тая адказвае:

— Навошта, ён жа і так поўны...

Вось так весела і жыў Мацей. Даўно ён памёр, але засталіся на зямлі ягоныя нашчадкі і ўспаміны пра ўсялякія смешныя здарэнні, галоўным героем якіх быў Мацей. Таму і вёску тую, дзе ён некалі жыў, Мацэвічамі назвалі.



# МАСТЫ

На невялічкім хутары жылі стары са старой з двума сынамі і яшчэ маладая сям'я. Бацька з маці спраўна вялі гаспадарку, усяго ў іх ставала. Дружна жылі тыя сем'і, маладыя амаль штовечара прыходзілі за парадай ці за слушным словам, а то і проста пагаманіць, душу адвесці.

Аднаго разу ў маладога гаспадара знянацку захварэлі каровы — на ногі не ўставалі. Куды ж пабяжыш? Толькі да старога, спрактыкаванага ў гэткіх справах чалавека.

Той распытаў пра ўсё, адразу зразумеў, што гэта ведзьма-малочніца зрабіла, і даў параду, як ад яе пазбавіцца:

— Справа ў тым, што самае месца для ўсялякіх нячысцікаў — глухамань і балаціны, гэта значыцца менавіта нашыя мясціны. У дагледжаныя яны не лезуць, таму трэба праз балаціны ды рвы канавы капаць, масты масціць.

Так яны і зрабілі: невялічкія рачулкі ды ручаінкі вакол хутара мастамі злучылі і праз колькі часу ўжо і думаць забыліся пра нячысцікаў.

Справа была восенню. Сядзеў неяк той самы дзед з сынамі ў хаціне і ўсялякія былічкі распавядаў. Тут гаспадыня зайшла ў хату дый гаворыць:

— Мужчынкі, хоць і цёмна ўжо, ці не збегае хто да Хведзькі па даёнку? З раніцы аддала, паабяцалі прынесці, ды, відаць, забыліся. А пакідаць на ноч такую рэч нельга. Некалі маці-нябожчыца казала, што, каб у хаце дастатак быў, на ноч нічога чужым людзям даваць нельга.

«Мужчынкі» — гэта было сказана ўвогуле, а ісці трэба было маладзейшаму, Пётру, — такая ў сям'і завядзёнка была, і той гэта добра разумеў. Таму, калі бацька звярнуўся да яго, ён адразу пагадзіўся.

Сабраўся Пётра і пайшоў. А старэйшаму надакучыла ў хаціне сядзець, і вырашыў ён пажартаваць над братам. Хуценька выскачыў за дзверы і, смеючыся, бо ўяўляў, як усё атрымаецца, паджгаў.

Пётра ж нічога не прадчуваў. Імжыў дождж, і ён ішоў, апусціўшы галаву і ўглядаючыся пад ногі, каб не напароцца ненарокам на які корч ды не гопнуцца ў яміну з вадой.

А старэйшы забег наперад і стаіўся пад кусцікам — чакае. Пасядзеў крыху — не, не сядзіцца. Вырашыў, што трэба неяк жудасны выгляд набыць. Адбег убок, накінуў на сябе парваны мяшок, у рот ухапіў вугольчык, які яшчэ тлеў, прысеў — і тут якраз малодшы сунецца. Выскачыў старэйшы на сярэдзіну дарогі і як зафыркае агнём, як закрычыць-затрасецца. Не тое што чалавек — сам нячысцік на месцы ўпаў бы. Толькі з Пётрам такога не здарылася. Ён з перапуду не ўцякаць пабег, а кінуўся на таго, хто яго палохаў, і пачаў пярэсціць ды прымаўляць:

— Нічога, што мне страшна! Але і табе кухталёў надаю, да скону свайго мяне запамятаеш!

Той, пад падраным мехам, спачатку трываў, не адклікаўся, а потым загаласіў:

— Ой, чалавечку, не чапай мяне! Я ж не нячысцік, я ж звычайны чалавек! Хацеў толькі цябе напалохаць. Не бі мяне болей!

Але Пётра яшчэ мацней пачаў лупцаваць страшыдла, якое ўжо ляжала ў агромністай лужыне і ледзьве хліпала. А калі трохі праяснілася ў галаве ў хлопца, то кінуў ён усё і давай уцякаць! Бег спачатку дамоў, але потым нешта здарылася з гаротнікам — ці то розумам крануўся, ці то адчуў сапраўдны страх — толькі пастаяў крыху ля плота, роднай хаты і пайшоў... у адваротны бок.

Раніца заспела Пётру ў незнаёмай мясціне. Потым ён прыгадаў, што некалі быў тут з бацькам — масток не-

вялікі будавалі. Пайшоў у тым накірунку, дзе павінна была быць рэчка, і сапраўды знайшоў яе. Узрадаваўся хлопец, нібы роднага чалавека напаткаў, сеў на мастку і заплакаў.

Тым часам і сонейка ўзышло. Не грэла, праўда, але весялей стала Пётру. Устаў і хацеў ужо далей ісці, ажно бачыць — насустрач крочыць стары. Параўняўся з ім, павітаўся і пытаецца:

— Што гэта ты, хлапчына, заплаканы? Гора якое здарылася ці яшчэ што накінулася?

— Не ведаю сказаць як...

— Ты распавядай, я зразумею.

— Пайшоў я ўчора да суседа. Маці паслала. Але па дарозе нячыстая сіла на мяне напала, не ведаю, як уратаваўся — ці то цуд дапамог, ці яшчэ што... А калі да бацькоўскае хаты вярнуўся, то нешта нібы адштурхнула мяне і сказала: «Не ідзі туды, не вяртайся!» Так і пайшоў я ў свет. Ноччу чамусьці не так страшна было, як зараз. Мабыць, таму, што засумаваў па родных... Вось сядзеў і вырашаў, што далей рабіць. Да іх цягне...

— Зразумелая справа, хлопча, што цягне, — азваўся стары. — Куды б чалавек ні кіраваў, дзе б ні жыў, ніколі пра родныя мясціны не забывае, асабліва ў цяжкія моманты іх згадвае.

— Але што гэта за сіла супыніла мяне ля хаціны і сюды накіравала?

— А можа гэта і не сіла, хлопча, а што іншае?.. У вас там пра ведзьмаў ды нячысцікаў нічога не было чуваць?

— Зараз не, але тата распавядаў, што раней нячысцікаў усялякіх было столькі, што вечарамі і начамі ад хаты не адыходзіліся. Гадоў колькі таму ведзьма малако ў Хведзькавых кароў псавала, дык тата сказаў, каб мы масткі будавалі праз ручаіны ды рэчкі. Калі мастком вадаём перакінуць, то нячысцікі падохнуць ці паўцякаюць. Толькі выпадкова могуць трапіць да людскога жылля. І гэты масток мы таксама зрабілі...

— То можа і той нячысцік, які цябе палохаў, таксама выпадкова заблукаў да вашага падворка?

— Не ведаю, але нешта мяне туды не пускае.

— Можа, гэта Божая Маці, якая над намі ўсімі ўладарыць, бачыць з неба, што да чаго, і, не жадаючы тваёй смерці, перасцерагае... Так, складаная справа... Пайшлі разам. Не гэтак сумна будзе ісці, а калі ноч прыспее — не

гэтак страшна начаваць. Разам што-небудзь і прыдумаем. Пайшлі.

Ішлі павольна, размаўлялі. Падарожны быў заклапочаны адным: як бы ўсё правільна зразумець ды раскласці, каб хлопца ў крыўду не даць. Вырашылі, што далёка ад Пётравай хаціны адыходзіць не будуць...

Тым часам і надвячорак настаў, бо які ж восенню дзень. Дзядулька пачаў па баках акідвацца, глядзець, дзе б на ноч прыпыніцца. Тады Пётра ўспомніў:

— Тут недалёка павінен быць стары панскі палац. Але ў ім падарожныя ніколі не спыняюцца...

— Чаму?

— Баяцца, дзядулька. Такія жахі пра яго распавядаюць, што валасы дыбарам устаюць.

— Што ж там такое водзіцца?

— Ды не водзіцца... Казалі людзі, што той пан, які тут некалі жыў, знаўся з нячыстай сілай, запрадаў ёй сваю душу і таму спакойна здабываў незлічоныя скарбы, закапаныя на любой глыбіні  і паўсюдна схаваныя... Багацця ў яго было мноства, але аднаго разу прыйшла да яго смерць. Гаспадар спрабаваў адкупіцца, прапаноўваў процьму золата, але смерць была няўмольная і забрала яго, а золата ў адзін момант ператварылася ў гнілое лісце. Дык вось кажуць, што душа таго памешчыка тут жыве, разам з іншымі нячысцікамі.

— Так. Справы... Але не начаваць жа нам пад адкрытым небам. Трэба ж нам і вогнішча раскласці, і абсушыцца...

— Яно так, але я баюся.

— Дык мы ж удваіх, пайшлі. Калі што — на сабе ўсё праверым...

Залезлі яны ў самую сярэдзіну палаца, выбралі пакой з вокнамі, з дзвярыма, расклалі вогнішча пасярэдзіне, і адразу стала ўтульна.

Сядзелі яны ды ціхенька размаўлялі, каб незнарок нячысцікаў не выклікаць. Тым часам у гаршчочку, які яны паставілі на краі вогнішча, забулькала вада. Туды паклалі бульбы і чакалі, пакуль яна зварыцца.

Раптам нехта зароў такім жудасным голасам, што ажно тынкоўка са сцен пасыпалася:

— Можна?!

Падарожныя зніякавелі, раты адкрыць баяліся, а тое невядомае стварэнне яшчэ грамчэй закрычала:

— Можна зайсці?!

Хлопец, нібыта і не збаяўся, адказаў:

— Пачакай, толькі бульбу адцэдзім.

Выхапіў гаршчок з агню і давай ваду зліваць. Калі пара ад тае вады ўзнялася ўгару, то адразу, нібы навідавоку, паўстала перад імі дзіўная постаць, якая не стаяла, а вісела ў паветры. І такая яна была жудасная, што і нежывы спалохаўся б: вопратка парваная, цела скрываўленае, барада ўскудлачаная, вочы агнём гараць, на пальцах кіпцюры даўжынёй, можа, на паўметра і, што сама галоўнае, — увесь час рухаюцца, і ствараецца ўражанне, што вось-вось увап'юцца ў твар.

Ззаду зашаптаў нецярпліва дзядулька:

— Ты хто такі?

У адказ здань зарагатала-заскрыпела:

— Хто я такі? А ты не здагадваешся? Я гаспадар гэтага палаца...

— Гэта той пан, пра якога я вам па дарозе распавядаў, — растлумачыў Пётра.

— А хто вы такія і чаму тут апынуліся?

— Мы падарожныя...

— Падарожныя? А чаго ж вы сюды прыпляліся?

— Дождж на вуліцы, вецер, а тут зацішна і не капае. Абагрэцца можна, бульбы зварыць.

— Бульбы зварыць, — перадражніла здань, але голас, здавалася, крыху памякчэў. — Варыце, ешце, але цяпер вы ў мяне ў палоне і шляху вам далей няма. Пачняце што-небудзь супраць мяне рабіць — увогуле жыцця пазбаўлю. Зразумелі?..

— Зразумелі, — ледзьве чутна адказалі падарожныя. Яны ўжо і не ведалі, што рабіць, бо нават есці перахацелася, нягледзячы на тое, што на працягу ўсяго дня і макавага зерня ў роце не было.

Першым апамятаўся Пётра і запрапанаваў старому:

— Сядай, дзядулька, у нагах праўды няма. Давай бульбу есці, бо пахалодае. Усё роўна нам цяпер доўга тут сядзець давядзецца, мы ж у палоне...

Здань задаволена закірхала:

— Гэта праўда...

Перакусілі, але спаць не клаліся, баяліся, каб здань ноччу галовы ім не паадразала. Неяк незаўважна пачалі яны з душой таго гаспадара гамонку весці, распытваць, і здань, надзіва, ахвотна стала расказваць, як усё здарылася.

«Некалі, калі я быў малады і дурны, да мяне наведаўся прыгожы паніч. Сустрэў я яго гасцінна, пачаставаў і пакінуў у сябе пераначаваць. Ляжым мы з ім у пакоі, размаўляем, і тут паніч кажа:

— Дзякуй табе, пане гаспадару, вялікі. Ты добра мяне сустрэў — і я не застануся ў даўгу, абавязкова аддзячу. Скажы, ты грошы любіш?

— А хто ж іх не любіць? — ускінуўся я.

— Ды не тыя грошы, што ў кішэні бываюць, а зусім іншыя?

— Якія гэта?

— Скарбы незлічоныя, пане гаспадару. Іх гэтулькі па зямлі ляжыць, што калі ўсе сабраць, то і палаца твайго не хопіць.

— Дык гэта ж не кожнаму дадзена...

— Ты толькі скажы, ці згодны, астатняе няхай цябе не хвалюе.

— Тады я згодны.

— Вось і добра. Зараз давай спаць, а раніцай пра ўсё і дамовімся.

На самым досвітку паніч мяне раскатурхаў і падаў нейкую паперу:

— Падпішы ўласнай крывёй. Як толькі зробіш гэта, атрымаеш магчымасць бачыць скарбы, схаваныя далёка і глыбока.

Я падпісаў, і той паніч умомант знік, толькі смехягоны разнёсся па палацы. Скарбы мне адкрываліся штодзень. Мае людзі знясілелі, змардаваліся ад таго, што кожны дзень вазілі цяжкія каштоўнасці. Назбіраліся вялізныя гурбы — да самай столі ў пакоях даставалі. Ды прыйшла часіна мне паміраць. Зноў прыйшоў той самы паніч — гэткі ж малады і прыгожы.

— Пажыў-пацараваў ты, пане гаспадару, дай і іншым шчасця зведаць. А ты цяпер мне службу служыць будзеш.

Так з тае часіны і лётае мая душа ды забірае ў палон падарожных, дзяцей, параненых, пабітых. Вось і з вамі мне пашанцавала. Прывяду вашыя душы да свайго гаспадара — ён мне адпачынак дасць.

За ўсё трэба плаціць...»

Задрамала здань, сцішылася, а падарожныя ляжалі і перашэптваліся пра тое, як вырвацца адсюль. Каму ж хочацца раней адведзенага тэрміну паміраць?

— Трэба аднаму з нас прабрацца за Нёман, у вёску,— прашаптаў дзядулька, — і прывесці сюды бацюшку, каб

ён усё тут акрапіў. Тады здань і прападзе. Толькі зрабіць трэба неадкладна і незаўважна.

Цэлую ноч дабіраўся Пётра да вёскі, дзе жыў бацюшка. Расказаў, што і як, і той пагадзіўся зрабіць добрую справу. Праз Нёман вёз яго Пётра на чоўне, які далі мясцовыя людзі. Надвячоркам дабраліся да разбітага палаца, і хлопец павёў бацюшку да таго пакоя, дзе быў стары падарожны. Толькі падышлі, як пачуўся магутны голас:

— Хто тут крочыць?! Адказвай!

— Мы, — спакойна прамовіў бацюшка і ўзмахнуў святым крыжам.

Адразу застагнала, завыла нешта, а потым ціха стала навокал.

Дзядулька ўзрадаваўся, убачыўшы іх:

— Нарэшце! Думаў ужо, што не дачакаюся.

— Прыйшлося ж пераплываць на бервяне. Каб мост быў, то хутчэй управіўся б, — адказаў Пётра.

— Так, каб мост быў, то гэтых нячысцікаў і блізка не было б, — запэўніў бацюшка. — Але можна зрабіць і паіншаму: на чаўнах людзей перавозіць туды-сюды. Я месца асвячу, а вы сабе хаціну збудуйце на Нёмане дый жывіце. Занятак добры, плаціць вам стануць. І сабе ў кішэню прыбытак будзе, і людзям карысць.

— А што, праўду бацюшка гаворыць. Давай так і зробім.

З тае раніцы пачалі яны тэрмінова будаваць сабе хаціну на асвячоным месцы, каб да зімы было дзе ад маразоў хавацца. А вясной сталі перавозіць людзей, якім трэба было трапіць з берага на бераг.

Той груд з іхняй хацінай вяскоўцы сталі называць таксама Мостам, гэта значыцца, што там жылі людзі, якія на чаўнах вазілі сялян і купцоў, вояў і падарожных. Так Масты і сталіся, так і засталіся.

## АДЗВЕРНА

Адзверны — так называўся чалавек, які стаяў каля дзвярэй панскага палаца, паведамляў аб прыездзе гасцей, адкрываў перад імі дзверы. Мала гэтага, ён павінен быў сустракаць паноў ласкавай усмешкай, бойка адказваць на любое пытанне, паказваць, як лепей прайсці і дзе чакаюць таго ці іншага госця.

Некалі, надта даўно, жыў адзін памешчык па прозвішчы Пятрыніч. Высачэзнага росту чалавек быў, а сілы столькі меў — і ўявіць цяжка: тоўстую вяроўку, якой звычайна сена ў вазах ўвязвалі, рукамі разрываў на дзве палавіны.

Многія паны, запрошаныя ў палац і на чыіх вачах гэта рабілася, не верылі і пачыналі шукаць усялякія зачэпкі, што, маўляў, вяроўка падрэзаная была, кожны так зробіць. Пятрыніча гэта не здзіўляла: ён прапаноўваў ім самім паспрабаваць перарваць. Але колькі госці ні напіналіся — нічога не атрымлівалася. І тут ужо гаспадар адводзіў душу — насміхаўся з іх уволю.

Вядомая справа, гэта не падабалася багатым памешчыкам, таму яны шукалі ўсялякія прычыны, каб болей не быць запрошанымі да Пятрыніча. Толькі ж і гаспадар быў не дурань. Ён такіх паноў вучыў па-свойму, бо як бы яны ні круціліся, але ўсё роўна надыходзіла часіна і ганарліўцы ехалі ў панскі палац.

Гаспадар садзіў іх за вялізны стол, застаўлены гарэлкай і ўсялякімі стравамі, і пачынаў:

— Шаноўныя госцейкі! Ведаеце, за гэтым сталом ёсць такія, хто нават прызнаваць мяне не жадаюць, не тое каб там вітацца ці да сябе ў госці запрасіць...

Госці ўжо ведалі, што зараз з некага пачнуць смяяцца, і пачыналі «дапамагаць»:

— І хто ж гэта такі ў нас ганарысты завёўся?

— Усё вам скажы! Самі здагадайцеся: кароткі, тоўсты — што тая бочка, сапе толькі ды есць — што ў бяздонны мех хавае!

Уявіце, як такое было вытрымаць таму, на каго скіраваліся позіркі ўсіх за сталом. Таму ён сядзеў, сядзеў, а потым падхопліваўся і выбягаў з-за стала. А гаспадар не супакойваўся:

— Зміцер, дапамажы госцю на каня сесці! Дапамажы, родненькі!

Зміцер, так звалі адзвернага, быў вельмі падобны на свайго пана. Не, не багаццем, а магутнай сілай і сажнёвым ростам. Як чуў ён такія словы, то адчыняў перад уцекачом дзверы і, узяўшы госця за каўнер і трымаючы яго перад сабой, лупіў, колькі меў сілы, прама пад азадак. Шаноўны ляцеў, не разбіраючы дарогі, крокаў з трыццаць, а потым зарываўся ў што-небудзь носам. А ззаду голас сярдзіты раздаваўся:

— І чаго гэта ты тут, васпане, корпаешся? Справы табе іншае няма, ці што?!

Джгаў бедалага, не спыняючыся, — фурман з экіпажам дагнаць не мог, бо ў страха ж вочы вялікія...

Але здаралася і іншае: госць, на якога абрыналася знявага Пятрыніча, не ўцякаў, а, пырскаючы слінай, заяўляў:

— Прабачце, пане, але я выклікаю вас на двубой! Вы закранулі мой гонар!

— А ён у цябе ёсць? — пытаўся гаспадар. — А ты мяне не пакрыўдзіў? Ты мой гонар не закрануў?!

— Усё роўна, я выклікаю вас на двубой! Калі вы палахлівец, то адмаўляйцеся, хай замест вас б'ецца хто-небудзь са слуг!

— Ды не, слугам маім і так працы хапае! А сёння яшчэ болей будзе, бо некаму ж трэба будзе за табой прыбраць, смярдзюх ты гладкаморды!

— На двубой! — шалеў памешчык-госць. — На шаблях!

— Бяры сабе шаблю, мне яна непатрэбна. Я табе і так надаю кухталёў. Колькі жыць будзеш — будзеш памятаць, як на гаспадара кідацца, а не прабачэння прасіць! Зміцер, давай вяроўку!

Імгненна, нібы чакаючы такога моманту, у пакой улятаў здаравіла-слуга і працягваў гаспадару таўшчэзную вяроўку.

— Цяпер зачыняй дзверы. Адчыніш, сам ведаеш, калі...

— Зразумеў, пане, — пасміхваўся Зміцер і выконваў загад.

— Ну што, пачнём? — пытаўся Пятрыніч.

— Пачнём, — грэбліва адказваў той і фарсіста памахваў шабляй перад носам Пятрыніча.

Праз пару хвілін ён ужо быў не рады свайму рашэнню, бо гаспадар валодаў той дзіўнай зброяй — канцом вяроўкі — па-майстэрску. На кожны ўдар шабляй, які, праўда, толькі рассякаў паветра, адказваў трапным ударам вяроўкі — часцей за ўсё па азадку. Адразу было відаць, што ён не хацеў збіваць на горкі яблык праціўніка. Але калі надакучвала вучыць нахабніка, ён рэзкім ударам падсякаў чалавека з шабляй, і той гопаўся на падлогу. Гаспадар дадаваў яшчэ пару ўдараў па ляжачаму і гарлаў:

— Зміцер, дзверы!

Бедалагу-дуэлянта хапала здаравенная рука і, не даючы яму выпрастацца ва ўвесь рост, валакла на ганак,

адкуль той, не раз ужо прамеранай дарогай, ляцеў — толькі вецер свістаў у вушах. А наўздагон яму неслася:

— Пане, пане, вяроўку забыў!

Любіў пан Пятрыніч вечарам выйсці на ганак, прысесці побач са Зміцерам і проста сказаць:

— Давай, зацягвай. Маю... любімую... — і вечаровая цішыня далёка-далёка несла прыгожыя, магутныя галасы, якія зладжана і задушэўна выводзілі словы старадаўняй беларускай песні.

Калі паміраў пан Пятрыніч, то перад смерцю не забыўся пра Зміцера: узнагародзіў яго за верную службу кавалкам урадлівай зямлі. Пабудаваўся там былы адзверны і стаў жыць. З цягам часу побач з ім сталі і іншыя будавацца. Вёску тую так і назвалі — Адзверна.

## ГУДЗЕВІЧЫ

Некалі тут, дзе зараз ляжыць наша вёска, знаходзілася бойкая дарога з Гродна на Беласток. Насыпалі тракт не адзін год і не адна тысяча людзей: ад вёскі да вёскі рабілі адны людзі, далей — другія, гэтак і цягнулася паволі дарога наперад. Рабілі яе сумленна, на стагоддзі, нібы адчувалі, што многае давядзецца пабачыць ажыўленаму шляху, што многа на ім і крыві, і поту, і слёз пральецца.

Старыя людзі гаварылі, што яшчэ не так даўно толькі і чуваць было, як ляцелі па шляху коні, як паволі сунуліся вялікія абозы ці віхурай знікалі з вачэй запрэжаныя чацверыком ці шасцерыком экіпажы.

Згадвалі яшчэ, што калі ноччу імчалі коні ці якія фурманкі, то даволі часта, каб не збіцца з дарогі, на шыю коням вешалі званочкі. Вось яны і звінелі-гудзелі, пераліваліся ўсялякімі галасамі. Адтуль, маўляў, і пайшла назва нашае вёскі — Гудзевічы, бо пастаянна гуло-гудзела.

Але ёсць яшчэ адна прыгожая легенда, яе вам таксама любы чалавек у наваколлі раскажа.

Было гэта яшчэ пры панах, тады, калі яны мелі неабмежаваную ўладу над людзьмі, што хацелі, тое з імі і рабілі. Стогн і плач па тутэйшай зямлі разносіўся. Сонца свяціць не свяціла — адна цёмная ночка і гаспадырыла.

Хто яго ведае, як звалі таго пана, што ў нас тады жыў.

Мабыць, нашыя продкі спецыяльна імя ягонае не пераказвалі, каб яно ў стагоддзях не засталося, да нашчадкаў не дайшло, бо злыдзень страшэнны быў, а не чалавек. Для яго што селяніна са свету перавесці, што курыцу без галавы пакінуць — усё адно было.

А жыла тут недзе непадалёку дзяўчына. Звалі яе Гудзя. Такая ўжо прыгажуня была! Хто ні паглядзіць — страціць сон на пару начэй, гэта ўжо дакладна. Сям'я яе была невялікая: маці, бацька і яна сама. Дружна жылі. Працавалі, як і ўсе астатнія, рвалі жылы на панскіх палетках, бо да сваіх толькі ноччу і мелі доступ. Гудзя дапамагала, як умела, а ўмела яна няблага. Матуля прывучыла працаваць дачку так, што праца ажно гарэла ў яе руках. Бацька, той не дазваляў дзяўчыне дапамагаць яму, усё казаў:

— Не жаночая гэта праца — касіць ці поле скародзіць. Ты з мамай лепей займайся, а я і сам упраўлюся як-небудзь.

— Татулечка, міленькі, ты ж стаміўся, ледзьве на нагах трымаешся. Ідзі, хоць паўгадзінкі якой паляжы. Я за цябе папрацую, а потым ты зноў возьмешся. Ніхто і ведаць не будзе.

Бацька яшчэ хвілін колькі ўпіраўся, але ў рэшце рэшт не вытрымліваў і ішоў пад які кусцік, а там дастаткова было галаве прыткнуцца да зямлі, як ён адразу ж і засынаў моцным сном. Стома брала сваё.

Так і жылі. Ды аднаго разу здарылася бяда. А пачалося ўсё са звычайнага: загадаў панскі войт бацьку ехаць на панскае поле і там араць. Селянін адразу ж і пакіраваў. Ці еў ён, ці спаў, ці адпачыў добра — ніхто і не пытаўся. Пачаў чалавек араць, а ногі ад стомы ажно трасуцца. Ён усё па баках акідваўся, глядзеў, ці няма дзе паблізу войта, каб хоць працаваць не гэтак хутка. Нічога падазронага не заўважыў і вырашыў пару хвілін пасядзець, дух перавесці. Нават коніка не распрагаў, так пусціў пасціся, а сам сеў ля кусціка і... адразу заснуў. Колькі ён спаў — ніхто і не ведае, затое іншае вядома дакладна — нарваўся на селяніна войт. Як убачыў, што той спіць, закрычаў і за бізун адразу ўзяўся. Бязлітасна збіў чалавека і, як той ні прасіўся не рабіць гэтага, павёў да двара, а там — адразу да пана:

— Пане, вось гэту ваўкарэзіну трэба пакараць. Ён не працаваў на вашым полі, а... соладка спаў.

— На стайню яго! Дайце яму самых гарачых бізуноў, каб паглядзеў, як ягоныя продкі жывуць!

Горка заплакаў селянін, нічога не казаў у сваё апраўданне, бо зразумеў, што дарэмна. Прывязалі мужыка да шырокага ўслона і пачалі біць. Колькі таму чалавеку, стомленаму ды спрацаванаму, трэба? За нейкі дзесятак хвілін і адляцела душа ад цела.

Гудзі нехта перадаў, што бацьку войт пацягнуў у двор караць. Дзяўчына нічога не сказала маці, сама пабегла тату ратаваць. Ускочыла да палаца і загаласіла:

— Паночку, даражэнькі, адпусці бацьку, не карай. Ён жа стомлены быў, таму і заснуў. Мы табе адпрацуем за гэты грэх, толькі адпусці.

А памешчык як убачыў такую прыгажуню, дык і розум страціў:

— Выйдзеш за мяне замуж — адпушчу бацьку!

Нібы хто падмяніў Гудзю. Яна ўспыхнула і прамовіла:

— Што, мабыць, няма ўжо майго татулечкі ў жывых? Спазнілася я, дык ты хочаш яшчэ і мяне абняславіць? Не пайду я за цябе замуж, крывасмок!

Ніхто і ніколі пану такіх слоў не гаварыў, таму ён толькі рот разявіў, а слова вымавіць не можа. Калі ж яго прарвала, то завыў:

— Утапіць! У студні, галганку! Утапіць!

Гайдукі схапілі Гудзю і павалаклі да студні.

Яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя вам старыя людзі маглі паказаць месца, якое называлася Гудзеліхай. Там скончыла сваё жыццё гордая прыгажуня. І вёску назвалі Гудзевічы — ад яе імя.

## КУЛЁЎШЧЫНА

У нас тут заўсёды дасціпныя людзі жылі. Такое адштукоўвалі, здаралася, што хоць стой, хоць падай. У асноўным без зла смяяліся, проста так, каб весялей жылося. Але здаралася, што і зло, праўда, толькі тады, калі з дурняў ці з надта сквапных смяяліся — як у выпадку з назвай нашай вёскі. А здарылася вось што.

Меў адзін яўрэй сваю справу, а калі больш дакладна — гандляваў у мястэчку ўсялякай драбязой. І быў ён надта хітры, а што ўжо сквапны — то за капейку любога чалавека мог прадаць, ды яшчэ паглядзеў бы, каб танна не абышлося. Кожнага імкнуўся хоць на невялічкі кавалачак, хоць на драбочак аблічыць ці падмануць.

Вось пайшоў ён неяк у сваю краму з раніцы, адчыніў яе, сеў і чакае, калі хто-небудзь завітае. Можа, з гадзіну нікога не было. Пачаў ужо хваляваццa, што, калі так справа пойдзе да вечара, ён ніякага прыбытку сёння не займее. Але тут адчыніліся дзверы,і ўвайшоў Сцяпан. Не вялікі пан — звычайны селянін, які жыў на сваім хутары, зямельку араў ды дзяцей карміў, а калі якая капейчына з'яўлялася, то адразу ж кіраваў да яўрэя, каб што купіць для жонкі ды для дзетак або для гаспадаркі самае неабходнае прыдбаць.

Павіталіся яны, Янкель (так звалі гандляра) і пытаецца:

— Ну, Сцяпан, што ты жадаеш?

— Ды драбязы ўсялякай прыкупіць...

— Набірай, набірай, чалавеча, — замітусіўся гаспадар, разважаючы, што і гэта лепей, чым увогуле нічога не мець.

Сцяпан панабіраў усяго ды яшчэ папрасіў дзецям ласункаў і жонцы падарунак. Янкель усё склаў і падлічыў:

— Паўтара рубля з цябе, чалавеча. Танна, вельмі танна прадаў я табе... Усяго паўтара рубля — [redacted] паглядзі, якая гурба тавару... Во жонка ды дзеці ўзрадуюцца.

— Дзякуй табе, Янкель. Не ведаю, як і аддзячыць... Хіба што заплачу я табе не паўтара рубля, [redacted] два...

Гандляр ухапіў грошы і ад радасці мову страціў. Гэта ж трэба — з аднаго чалавека і такі прыбытак мае! Недзе праз тыдзень Сцяпан зноў завітаў у краму. Павіталіся, Сцяпан і кажа:

— Вось зайшоў якой драбязы купіць, таго-сяго проста паглядзець...

— А чаго глядзець, бяры ды купляй. Тавар, сам ведаеш, у мяне больш танны, чым у іншых.

Набраў Сцяпан цэлую гурбу тавару, Янкель хуценька падлічыў і мовіць:

— З цябе, чалавеча, усяго паўтара рубля. Во як усё ў мяне танна, сабе на шкоду, а не на карысць прадаю.

Сцяпан, хітравата пасмейваючыся, працягвае яўрэю два рублі:

— На табе, гаспадару, не паўтара, а два рублі, каб не так крыўдна было, — і пайшоў.

Янкель спачатку застыў на месцы, а потым не вытрымаў і выскачыў следам за селянінам:

— Слухай, Сцяпан, чаму ты мне пастаянна пераплачваеш?

— Дзякую за самы танны тавар.

— Э не, дарагі, не жартуй. Можа ты машынку маеш, што грошы робіць?

Сцяпан спакойна зірнуў на яўрэя і гаворыць:

— І адкуль ты, Янкель, усё ведаеш? Ад цябе нічога не схаваеш. Ёсць у мяне такая машынка.

Цяпер прыспела чарга яўрэя зацiхнуць і ад здзіўлення торгаць то рукамі, то нагамі.

— Слухай, чалавеча, прадай. Прадай, я табе сколькі скажаш — столькі і заплачу.

— Ды не...

— Прадай, бо ўсё роўна не адступлюся.

— Калі ўжо так, то добра, прадам, хоць і шкада. Але цана высокая — паўтысячы рублёў...

Янкель ажно засвяціўся ад радасці — хоць гэта і не зусім танна.

— Згодны я, згодны, Сцяпанка, толькі прадай. Пайшлі, я табе адразу палову грошай аддам, каб тую машынку хто не перакупіў незнарок...

Дамовіліся, што забіраць купленае Янкель прыйдзе заўтра.

Не надта вясёлы вярнуўся селянін дамоў. Жонка адразу заўважыла яго настрой:

— Чаго засумаваў, Сцяпанка? — пытаецца.

— Ды і прычыны сумаваць няма. Здавалася б, радавацца трэба: прадаў, і надта выгадна, машынку, якой не маю. Заўтра Янкель прыйдзе па яе, віднаць, трэба будзе і грошы вяртаць, а не хацелася б...

— А за якую гэта машынку яўрэй гэтулькі грошай адваліў?

Расказаў пра ўсё Сцяпан. Жонка ўсміхнулася дый кажа:

— Зробім мы гэтую машынку, не перажывай, чалавеча.

— Як?

— Слухай мяне ўважліва, і ўсё будзе ў парадку.

На наступны дзень прыйшоў Янкель купленае забіраць і, ўбачыўшы тое, што яму паказалі, ажно зарагатаў:

— Дык гэта ж хлебная лапата!

— Хлебная-то хлебная, але паглядзі, як яна працуе...

Узяў Сцяпан лапату, паклаў на яе рубель і торк у акенца, а жонка з двара (каб госць не бачыў) — плясь яшчэ адзін рубель. Гаспадар уцягнуў лапату ў хату — а там ужо не адзін, а два рублі ляжаць.

Ухапіў Янкель лапату і пабег дамоў.

— Што ж ты прынёс, дурань пэйсаты? Гэта ж хлебная лапата, а не каштоўная машынка! Такія грошы ўваліў, сам не ведаючы куды! — загарлала жонка.

— Перастань, дурніца, курыная твая галава, лепей паглядзі, як яна працуе...

А жонка ў селяніна сапраўды разумная аказалася.

— Бяжы, — гаворыць, — пад акно да яўрэя ды падкінь там яму пару рублёў на лапату, калі торкаць ёю пачне.

Вось паклаў Янкель рубель на лапату, высунуў яе ў акно — Сцяпан дадаў яшчэ рубель. Потым сам паклаў два — Сцяпан гэтулькі ж падкінуў.

Цяпер Янкелева гаспадыня нарадавацца не магла:

— Слухай, мужу, а калі туды болей грошай пакласці?..

— Не спяшайся надта.

— Дык адразу ж намнога болей атрымаем.

— А што, давай...

Паклалі яны ўсе свае грошы і ў акно лапату паціху высунулі, каб яны там падвоіліся. Сцяпан жа хутка сцяміў, што трэба рабіць: схапіў усе дачыста і пабег дамоў.

Жонка скеміла, што да чаго:

— Давай хутка збяром свае рэчы, возьмем дзяцей, жывёлу і ў іншае месца пераедзем. Грошай у нас зараз многа. Зямлі купім, зажывём яшчэ лепей, чым тут.

Дарогу да свайго новага хутара Сцяпан зрабіў акуратную, дрэўцамі абсадзіў, будынкі ўсе на краі адвечнага бору паставіў, і туды далейшага шляху не было.

Янкель, вядомая справа, шукаў таго, хто яго гэтак абдурыў. Нехта падказаў яму, што Сцяпан цяпер на новым месцы жыве. Узрадаваўся гандляр, запрог коніка і паехаў да свайго крыўдзіцеля. Прыехаў, а гаспадар робіць выгляд, што ўпершыню бачыць гэтага чалавека і ведаць яго не ведае.

— Аддавай, Сцяпан, мае грошы! Ты мяне абдурыў!

— Калі?!

— Дык ты ж мне лапату прадаў, а сказаў, што машынку, якая грошы вырабляе...

— Дзе ж гэта я абдурыў? Усё ж спраўна працавала...

— Мяне да капейкі абчысціла твая лапата.

— А як ты рабіў, раскажы?..

Той і сказаў.

— Колькі разоў ты лапату ў акно торкаў?

— Тры.

— Вось і маеш пірог з бобам... Трэба ж было толькі

два, я ж цябе перасцерагаў. А так чорт грошы ўхапіў і знёс. Цяпер я нічым не дапамагу.

Раззлаваны Янкель выехаў з двара і паехаў не ў тым накірунку, адкуль прыехаў. Доўга блукаў па балоце ды па лесе і ўсё бубніў:

— Ой, што гэта за хутар такі? Ой, што гэта робіцца — нібы ў куль нейкі трапіў, нібы ў мех. Галаву ўсунуў, а назад нельга...

Так, з таго куля, і празвалі хутар, а потым і вёску Кулёўшчынай.

## ОСТРАЎ

Было гэта даўно, гадоў трыста таму. У адной жанчыны, якая рана страціла мужа, на руках застаўся сын. Усю ласку, пяшчоту сваю яна скіравала на Іваньку.

Толькі ж ласка ласкай, а і да працы трэба было хлопца прывучаць. А тут... Не дазваляла маці яму працаваць, не давала нічога цяжкага падняць — усё сама.

Вось і вырас хлопец здаравенным, але гультаём, якіх свет не бачыў. Спачатку, праўда, ён, гледзячы на іншых, спрабаваў да працы прызвычаіцца, але потым яму спадабалася нічога не рабіць. Не ведаў нават, што трэба рабіць у тую ці іншую пару года, не гаворачы ўжо пра ўсялякія звычаі ды абрады. Іншым дык бацькі расказвалі, вучылі ўсё дакладна выконваць, не парушаць спрадвечных звычаяў, бо тады на сям'ю можа абрынуцца якое гора ці ліха. А гэтаму адкуль было што ведаць?..

Неяк падышоў да матулі і кажа:

— Пайду я ў вёску, пагуляю.

— Ідзі, сыночак, пакажыся на людзі. Будзь ласкавы з імі, заўважыш, што яны нешта робяць, то скажы з паклонам: «Касіць вам — не перакасіць, вазіць вам — не перавазіць...» Вяскоўцы павагу любяць.

Апрануўся хлопец чысценька і пакіраваў у цэнтр вёскі. Сабакі дружна і галасна віталіся з ім, але Іванька не звяртаў на іх увагі, усё зіркаў па баках, шукаў, з кім бы пагаманіць, ды нікога не было. Аказваецца, што ў вёсцы ў той дзень нябожчыка хавалі. Хлопец паджгаў да могілак, стаў ля плота, рукі склаў і кажа ласкавым галасам:

— Касіць вам, людзі добрыя, — не перакасіць, вазіць вам, шаноўныя, — не перавазіць...

Сяляне ўмомант насшывалі Іваньку ў каршэнь, не па-

глядзелі, што маладыя і здаравенны. Зароў той немым голасам:

— За што вы мяне дубасіце?! Што я вам благога зрабіў?!

— А што добрага ты нам пажадаў, дурында?!

Прыбег Іванька дамоў зарумзаны. Маці да яго:

— А мой жа ты сыночак?! А мой жа ты родненькі! Што гэта з табой здарылася?! Хто ж гэта цябе так абадраў ды злупцаваў?!

— Ды твае дасціпныя ды памяркоўныя... Я да іх з добрым словам, а яны мяне біць кінуліся.

— Як жа гэта здарылася?

Іванька ўсё расказаў, дык маці адно толькі і прамовіла:

— Сыночак, ты ж пераблытаў. Трэба было стаць ля плота, але нічога не гаварыць. У такіх выпадках моляцца, а не пра касьбу згадваюць. Ой, бедалага ты мой...

Недзе праз тыдзень Іванька зноў падышоў да матулі:

— Схаджу-ка я сёння ў вёску. Можа, усё добра абыдзецца...

— Схадзі, сыночак, усё будзе як нельга лепей, вось пабачыш. Толькі памятай, што я табе казала, не пераблытай.

Доўга хадзіў ён, але нікога не сустракаў, пакуль не пачуў у канцы вёскі вясёлую музыку. Пакіраваў туды, і аказалася, што там вяселле ідзе поўным ходам і якраз маладую да маладога вывозяць. Гікнулі на коней, і яны панесліся. Іванька стаў ля клёна і пачаў шчыра хрысціцца. Госці заўважылі гэта.

— Хто гэта там жагнаецца? — загучалі галасы. — Няўжо хоча наша вяселле разладзіць, каб жытка ў маладых не ўдалася?

— А хто ж яго ведае, чаго ён жагнаецца! Можа давайце яму ў каршэнь насшываем ды прагонім?!

Іванька і вокам маргнуць не паспеў, як вясёлыя ад добрай чаркі госці накінуліся на яго з кулакамі і змалацілі на горкі яблык.

— За што?! — адчайна завыў хлопец.

— Каб ведаў, калі што рабіць, ёлупень.

Пёр з вяселля Іванька, нібы за ім цэлая гайня ваўкоў гналася. Такі разгарачаны і ўскочыў на падворак.

Маці загаласіла:

— Сыночак, што на гэты раз здарылася? Чаго яны да цябе прычапіліся?! Ці ім рабіць болей няма чаго?

— Вось бачыш, матуля, што атрымалася, а я ж усё зрабіў, як ты мяне вучыла... — і распавёў пра вяселле.

— Ой, сынку, трэба было і табе вясёлую песню запяяць ды нагой яшчэ прытупнуць, бо яны ж зусім іншае на цябе падумалі...

Недзе праз месяц Іванька звярнуўся да матулі:

— Прайдуся я да вёскі, надакучыла ў хаце сядзець.

— Ага, прайдзіся, мой свет, прайдзіся, пакуль малады ды клопатаў іншых не маеш.

Паціснуў хлопец у вёску. Раптам чуе — крык, гамонка, лаянка, ён туды. Бачыць — гарыць хата, і вяскоўцы расцягваюць бёрны бусакамі. Спыніўся Іванька, духу набраў поўны жывот ды як зараве песню вясёлую, як тупне ботам, як пусціцца ў скокі. Вяскоўцы ад нечаканасці ажно здранцвелі, а гаспадар палаючай хаты плюнуў і прамовіў:

— Мне жыць з дзецьмі недзе будзе, а гэты ў скокі пайшоў! Даў бы яму, але не да таго.

— Мы яму, дзядзька, за цябе насшываем! — паабяцалі хлопцы і справу сваю добра зрабілі.

Ледзьве дапоўз дамоў Іванька і зашыпеў на матулю:

— Зноў з-за цябе атрымаў. Бачыш, што са мной зрабілі... — і расказаў пра ўсё.

— Трэба было людзям пажар дапамагаць тушыць, а ты песню загарлаў ды яшчэ ў скокі пусціўся...

Наступны раз Іванька выбраўся з хаты, калі ўжо снег ляжаў. Ішоў, па баках палахліва азіраўся і выйшаў прама на гаспадара, які кабанчыка смаліў. Убачыў хлопец агонь, ухапіў вядро з вадой і — шух, затушыў усё. Селянін у роспачы першай справай так заехаў нечаканаму «памагатаму» ў вуха, што ў таго ажно дым з носа пайшоў, і ён брыкнуўся пад плот. Потым усхапіўся і паджгаў дамоў.

Пагараваў хлопец на палку, адляжаўся і зноў пачаў збірацца ў вёску. Гаспадыня наўздагон яму параіла:

— Убачыш каго, то скажы: «Дай, Божа, і на лета тое ж...»

Ідзе Іванька, ажно бачыць — селянін коніка закопвае. Ці то аджыў сваё верны памочнік, ці то захварэў і сканаў, але здох. Падышоў хлопец дый кажа, нахіліўшыся:

— Дай, Божа, і на лета тое ж...

Селянін як трымаў рыдлёўку ў руках, так і перацягнуў з усяго маху. Толькі ікнуў пару разоў Іванька і прыпусціў да матулі.

Не паспеў расказаць пра здарэнне, як у хату зайшлі трое вяскоўцаў і, павітаўшыся, кажуць:

— Слухай, жанчына, нас. Забірай ты гэтага дурня ды падавайся куды-небудзь у іншае месца, бо яшчэ хто ненарокам яго заб'е — потым скардзіцца пачнеш, на нас крыўдаваць...

— Куды ж мне ісці, людзі добрыя?

— Зашыйся на які-небудзь востраў, і каб ён нікому на вочы не паказваўся, раз такога выгадавала...

Паслухалася маці, забрала Іваньку і пайшла жыць далей. Там, дзе яны сваю хаціну паставілі, і назва новая з'явілася — Остраў. Вяскоўцы ведалі, хто там жыве, таму тую лапінку зямлі абыходзілі бокам. Пазней усё перамянілася, і там вёска вырасла, але назва так і засталася.

## СТРУГА

Многа гадоў назад па гэтых мясцінах праязджаў нейкі чалавек, Спірыдонам яго звалі. І вось, агледзеўшы раку, балоты, лес, ён перавёз сюды сваю сям'ю. На першым часе навасёлы жылі ў невялічкай зямлянцы. А што ж за жытка ў зямлянцы: сырыя сцены, дзеці пастаянна хварэюць. Жонка пачала прасіць гаспадара з'ехаць адсюль, але на ўсе мальбы ён адказваў:

— Давай патрываем гэтую зіму, цёпла стане — вазьмуся хату ставіць. Думаеш, я сам не разумею, дзяцей сваіх не шкадую?

Падалася ім тая зіма бясконцаю. Дзеці амаль на двор не вылазілі, самі змізарнелі. Нарэшце снег пачаў раставаць, ручаі зазвінелі, панесліся ў рэчку Глінянку. Павесялеў гаспадар, пачаў дзяцей падбадзёрваць:

— Ну што, жэўжыкі, будзеце тату дапамагаць?

— А што трэба рабіць?

— Хаціну з вамі, дзеткі, стаўляць будзем. Вялікую, светлую, прасторную.

— Хату стаўляць будзем! Мамка, хату стаўляць! — заскакалі тыя па земляной падлозе босымі нагамі і запляскалі ў ладкі.

Ці не ўпершыню за ўсю зіму ўсміхнулася гаспадыня:

— Вы ўжо дапаможаце, вы ўжо настаўляеце... Адно толькі тату свайму падчас працы замінаць будзеце.

— Гэта мама вас спецыяльна палохае, — супакоіў малых гаспадар, заўважыўшы, што тыя ўжо гатовы былі

дапамагаць справе галасамі і слязьмі. — Вось толькі сонейка вышэй паднімецца — за працу і возьмемся. Нам жа нельга марудзіць, трэба да новай зімы ўсё зрабіць, іначай давядзецца тут яшчэ сядзець...

Прайшоў яшчэ, можа, месяц, пакуль Спірыдон пайшоў прыдатнае месца шукаць. Не адзін жа год збіраўся тут жыць, назаўсёды карані пускаў... Доўга хадзіў. Сонца ўжо пачало садзіцца. Калі яно апусцілася і пазалаціла верхавіны дрэваў, гаспадар якраз на беразе Глінянкі стаяў і ажно ўздыхнуў ад захаплення:

— Якая прыгажосць! Тут і будзем будавацца!

Дома паведаміў жонцы:

— Знайшоў я месца. Доўга шукаў, але ўсё ж знайшоў. Заўтра ж пачну там пад зруб рыхтаваць.

Раніцай падаўся мужык разам з дзецьмі на бераг рэчкі.

Ніхто зараз не ведае, колькі працы давялося агораць Спірыдону, як смылелі ягоныя рукі і спіна. Адно вядома — у будыніну ён улажыў сваю душу. Амаль ні хвілінкі не адпачываў, любую драбніцу выштукоўваў, нібы яна была самай галоўнай, самай асноўнай на будоўлі.

Амаль паўгода гарбацілася ўся сям'я, але хаціну зрабілі — што той звон. З якога боку ні падыдзі — усюды прыгожа, непаўторна. Хата блішчэла-пералівалася на сонцы свежымі сценамі, і гандляры ды рыбаловы, якія па рацэ туды-сюды плавалі, дзівіліся і перапытвалі адзін у аднаго:

— Хто гэта такую хаціну адляскаў? Колькі жывём, але такога цуда не бачылі!

Праз некаторы час даведаліся, што гэтага майстра завуць Спірыдонам, і цяпер, калі хто пытаўся, адказвалі проста:

— Гэта Спірыдонава дворышча. Тут сапраўдны майстра жыве. Кажуць, што і сыноў да свайго рамяства прывычайвае...

А сыноў у Спірыдона было шасцёра. За бацькам усюды хадзілі, і, ведама ж, ён хацеў, каб яны да цяслярства цягу мелі. Хацеў, ды не вельмі гладка на справе атрымлівалася. Адзін перад адным яны пахваляліся, што і дошку высекчы могуць, а ўжо што сякерай пагаліцца — гэта раз плюнуць, але сапраўдны талент быў у аднаго, самага малодшага. Ён не прымаў удзел у гэткіх размовах, а ўсё стукаў і стукаў нешта, ці габляваў, ці пілаваў, адным словам — для яго заўсёды знаходзілася справа.

Так той хлопец дзень у дзень шчыраваў, і праз пару гадоў ужо нельга было сказаць, якую рэч бацька зрабіў, Спірыдон, а якую ягоны сын — гэтак хлопец у майстэрстве ўдасканаліўся. Бацька глядзеў, глядзеў і аднаго разу, калі ўсе сабраліся ў хаце вячэраць, прамовіў:

— Вось што, хлопчыкі. Вы ўжо дарослыя, гадоў колькі справай цяслярскай займаліся, цяпер ідзіце ў людзі працаваць, ім хаты ды іншыя будыніны стаўляць. Да заробкаў не імкніцеся, спачатку славу сабе добрую зарабіце, што вы сапраўдныя майстры, а не якія-небудзь гультаі-пустадомкі. І яшчэ...

— Што, тата?

— Старшым у вас будзе малодшы брат. Яму падпарадкоўвайцеся, яго слухайцеся. Ён такія штукі выробляе, што і я ўжо не здолею. Вы пахваляліся, а ён працаваў. Цяпер маўчыце і слухайцеся яго, як мяне.

Пайшлі сыны да сялян, хаціны будаваць. І надта іх людзі хвалілі. Калі хто жадаў да сябе наняць, то казаў звычайна: «Паеду туды, дзе добра стружаць і майструюць...»

Так і павялося — Струга, так і засталося.



# НАВАГРУДАК (НАВАГРАДАК)

Неяк прыехаў у гэтыя мясціны адзін малады і прыгожы князь. Даўно, праўда, гэта было, старыя людзі і не памятаюць, колькі стагоддзяў прайшло, колькі вады ў бліжэйшых рэчках уцякло, а адна рэчка, якая некалі тут была і з якой усё і пачалося ў нашай гісторыі, увогуле перастала існаваць.

Звалі таго князя Ловам. Прыехаў ён сюды конна з дружынай, таму што ў той зямлі, дзе дагэтуль ён жыў, яму не хапіла часткі ўладанняў пры дзяльбе пасля смерці бацькі. Калі стары яшчэ жыў, то і дзеці ягоныя былі на сумленных дзяцей падобныя: усё рабілі з усмешкай, з ласкай, стараліся дагадзіць бацьку. Ды толькі аказалася, што мелі яны далёкі намер — найболей расчуліць старога і прымусіць аддаць большую ці лепшую частку сваіх уладанняў. Таму, як толькі гаспадар сканаў, нават яшчэ не пахаваўшы яго, сыны пачалі даказваць адзін аднаму менавіта сваё права на валоданне часткай княства. А калі ўлічыць, што іх было ў князя шасцёра, то можаце сабе ўявіць, якія крыкі даносіліся з палаца. Самы малодшы, Лоў, не ўмешваўся ў спрэчкі, бо адчуваў павагу да старэйшых братоў, але неяк і ён не вытрымаў:

— Сорамна мне, браты, што бацьку свайго мы нават

яшчэ не аплакалі, а ўжо за чубы (добра, што не за мячы ды дзіды) хапаемся. Не па-людску гэта. Бацьку трэба аплакаць і пахаваць, а потым ужо і да астатніх спраў прыступаць.

— Вось ты ідзі і аплаквай, а мы тым часам параімся, што рабіць, — зняважліва кінуў старэйшы брат.

Побач з трунай старога князя Лоў даў волю слязам. Колькі часу прайшло, ён не ведаў, але ачуўся ад таго, што нехта ціхенька кратае яго за плячо.

— Княжа, княжа, супакойся. Нягожа вою, які на ворагаў сваім імем страх наганяе, гэтак плакаць.

Лоў узняў галаву і ўбачыў перад сабой ссівелага бацькавага ваяводу Алехну. Многа гадоў верай і праўдай служыў ён гаспадару, не раз доказваў сваю адданасць у бітвах і сечах. Цяпер і яму было нялёгка.

— Не плач, княжа. Цяжка табе зараз, я ведаю. Яшчэ цяжэй ад таго, што з братамі ты не зжывешся, нічога ад іх не атрымаеш — гэта зразумела.

— А што ж рабіць, ваявода? Як жыць далей?

— Спачатку трэба пахаваць бацьку. А потым... Складанае становішча, княжа, але выйсце ёсць. Дружына за табой пойдзе. Табе ж нічога іншага не застаецца, як кінуць усё тут і ісці з намі ў свет, шукаць прыдатнае для жыцця месца і засноўваць паселішча. Зямлі навокал нічыйнай многа...

— Быць ізгоем? — нібы ў самога сябе запытаўся малады князь.

— Так, княжа, быць ізгоем, але гэта намнога лепей, чым біцца за спадчыну з роднымі братамі. Я так мяркую, але на ўсё твая воля...

Замоўклі абодва — і Лоў, і Алехна. Потым князь вымавіў:

— Ну што ж, так і будзе... Заўтра пахаваем бацьку і заўтра ж ціхенька паедзем адсюль. Загадай людзям збірацца ў далёкую дарогу. Адразу растлумач, што назад не вернемся, трэба браць з сабой многае, каб потым не шукаць, не папракаць сяброў, што забыліся.

Усё зрабілі, як і планавалі: пахавалі старога князя, насыпалі над магілай высокі курган і хутка ад'ехалі. Браты, занятыя дзяльбой княства і маёмасці, нават і не заўважылі, што іх пакінула дружына.

Многа паездзіў князь Лоў з дружынай па свеце, але ўсё не знаходзіў прыдатнай мясціны для паселішча.

Неяк пад самы вечар забраліся ў такую глухамань, што князь загадаў:

— Сконьвайцеся, і рыхтуемся да ночы, а заўтра паглядзім, як адсюль выбірацца.

Людзей не трэба было прыспешваць. Амаль месяц яны сядзелі ў сёдлах, таму хуценька саскочылі і ўзяліся за справу: хто дровы сухія ламаў і цягаў бліжэй да будучых вогнішчаў, хто харчы даставаў і меркаваў, у чым бы іх як мага хутчэй зварыць, а некаторых ваявода Алехна павёў з сабой — гэта была начная варта.

Неўзабаве ўправіліся з усімі справамі, і дружына паснула моцным сном.

Калі сонца пачало залаціць верхавіны дрэваў, то людзі ўжо былі на нагах. Чуліся смех і радасная гаворка. Ваявода падышоў да Лова:

— Пайшлі, княжа, да ручая завяду. Учора, калі варту расстаўляў, на яго наткнуўся...

Лоў пакіраваў за Алехнам, а за імі яшчэ трое здаравенных дружыннікаў — ахова князя.

У нейкай сотні крокаў з глыбіні лесу выцякаў гаварлівы ручаёк. Вада ў ім была сцюдзёная, чысцюткая — што тая сляза. І раптам Алехна ўздрыгануў:

— Глядзі, княжа...

— Што?

— Сляды. Чалавечыя сляды, княжа...

— Хто ж тут можа быць, акрамя нас?

— Не ведаю... Але сляды зусім свежыя.

— Значыцца, недзе блізка жывуць людзі. Трэба паглядзець...

Ваявода загадаў ахове:

— Папярэдзьце хто-небудзь, каб нас пачакалі і з месца гэтага пакуль што не рушылі, няхай людзі далей адпачываюць, — і разам з князем пайшоў па слядах.

Нібы заядлы паляўнічы, Алехна дзе па зламанай гольцы, дзе па слядку на мокрым пяску беспамылкова вёў Лова. Ішлі даволі доўга, можа, гадзіну, а можа, і болей. Раптам Алехна нібы спатыкнуўся.

— Што? — прашаптаў Лоў на вуха ваяводзе.

— Глядзіце... Вунь, бачыце? Пад дубам... Знізу...

Князь прыглядзеўся:

— Бачу... Нейкая хацінка...

— Зараз пабачым, хто там ёсць, блізка не падыходзім, а раптам за намі таксама сочаць, тады ўсяго адна страла — і некага можа не стаць... Пачакаем тут, пакуль воі ўсё вызнаюць.

Хвілін праз колькі адзін з вояў махнуў ад хацінкі і крыкнуў, каб падыходзілі.

Лоў і Алехна далучыліся да іх і ажно знерухомелі ад нечаканасці: паміж вояў стаяла дзяўчына — танюткая, высокага росту, з касой па самыя калені і з вялікімі-вялікімі сінюткімі вачыма. Здавалася, што яна вось-вось заплача.

— Не палохайся, прыгажуня, не бойся, мы нічога благога табе не ўчынім, — заспяшаўся супакоіць яе Алехна, які першы апамятаўся.

— Я і не баюся, — ціха прамовіла тая і зачырванелася.

— Дзе ж твае хатнія? — падаў голас Лоў і, заўважыўшы ваганні дзяўчыны, дадаў. — Не бойся, мы нічога дрэннага не робім, крыўды людзям не чынім. Мы па свеце ездзім, для жылля мясціну выбіраем, край прыгожы і непаўторны шукаем...

— І наш вам не спадабаўся? — запыталася дзяўчына. — Няўжо не спадабаўся?

— А што ў ім прыгожага — пясок, дрэвы? — пачаў было здаравіла-дружыннік.

— Ды ў нас, — узарвалася дзяўчына, але дагаварыць ёй не даў Лоў.

— Нам тут спадабалася, праўда, ваявода?..

Алехна адно толькі ўсміхнуўся і згодна хіснуў галавою, бо адразу здагадаўся, чаму тут так спадабалася маладому князю.

— Пайшлі, хлопцы, няма нам тут чаго рабіць. Мы думалі, што за намі ворагі цікуюць, а раз дзяўчына, то пайшлі.

Князь, здавалася, і не чуў тых слоў, не заўважыў, як адышліся паплечнікі і сталі пад высокай сасной.

— А не страшна тут жыць? — дапытваўся Лоў у дзяўчыны.

— Не... Не страшна, я ж не адна, а з роднымі.

— А дзе ж яны?

— Працуюць, княжа.

— Не заві мяне болей так, заві Ловам, як матуля некалі звала. А цябе як клічуць?

— Дубраўкай.

— Якое дзіўнае імя... прыгожае...

— Звычайнае. Дык вы сабе месца шукаеце? А наша мясціна? Тут жа ўсё ёсць: і лес, і поле, і рэчка... Толькі жыві — усяго хапае.

— А што, тут і застанемся. І яшчэ, Дубраўка... толькі не крыўдуй... Хачу сустрэцца з табой сам-насам... Ці не прыйдзеш ты сёння пасля змяркання вунь да таго высокага дуба?

Дзяўчына сумелася, але пагадзілася.

Назад да ваяводы ён не ішоў, а ляцеў — гэтак імкліва яго ногі неслі. Той ўсё зразумеў і сустрэў яго такімі словамі:

— Дык я, княжа, загадаў ад твайго імя, што далей мы не паедзем, тут застанемся... Во, і хлопцы згодныя, кажуць, што лепшага месца яны за гэты час не бачылі...

— Што ж, і я не супраць, калі вам тут спадабалася, — імкнучыся заставацца абыякавым, пагадзіўся Лоў.

І пачалося будаўніцтва. Дружыннікі знайшлі высокі пагорак на беразе невялічкай, але надзіва глыбокай рэчкі і сталі цягаць туды здаравенныя бёрны ды іншы будаўнічы матэрыял. Спяшаліся ўмацавацца і ўзвесці сякія-такія хаціны, каб халады знянацку не прыспелі.

А князь... Пасля першага спаткання ля дуба яны сталі пастаянна сустракацца і пакахаліся. Князь не парушыў законаў і ўсё зрабіў так, як яго і прасіла дзяўчына: паслаў Алехну свайго сівога ды яшчэ двух, найбольш паважаных дружыннікаў у сваты да бацькоў Дубраўкі, і ўсё атрымалася як нельга лепей: вяселле згулялі і зажылі дружна.

У князя клопаты былі ранейшыя: свае новыя землі аберагаць, за жыхароў заступацца, дружыну вучыць і папаўняць... Дубраўка сядзела ў чысцюткім драўляным замку, які яшчэ пах дрэвам, і што-небудзь таксама рабіла.

Прайшоў год, і нарадзіла маладая князёўна сына. Вось дзе ўжо радаваліся ўсе, але найбольш — сам Лоў. Усё хадзіў і паглядваў на маленькі тварык. Воі падбадзёрвалі яго:

— Давай, княжа, пакуль мы сабе жонак знойдзем, ты за ўсіх нас старайся. Нам жа дружына моцная трэба...

Дружна, багата жылі на новым месцы дружыннікі князя Лова, ні ў чым недахопу не ведалі, бо шчодры быў край, усяго ставала.

Але ж часта так здараецца, што дабро горам паварочваецца. Так і тут адбылося.

Аднаго вечара ўляцеў узмылены вершнік у паселішча і да замка кінуўся:

— Бяда, княжа, бяда!

— Што здарылася, вой, гавары?

— Дружыны шматлікія ідуць на нас ажно з-за Карпатаў... Валам валяць. Кажуць, што некалькі тваіх братоў з імі. Пазайздросцілі твайму шчасцю, не вытрымалі — вырашылі паквітацца...

— Так, невясёлую навіну ты мне прывёз. Але калі такая справа, то будзем біцца, нам да гэтага не прывыкаць.

Праз пару дзён ворагі і сапраўды былі пад замкам. Сталі аблогай і ўсё насміхаліся, што прыйдзе Лову канец, што ад іх ён не ўцячэ.

Не вытрымаў горды князь гэткіх кпінаў і выехаў за вароты на кані:

— Дзе ваш князь? Выклікаю яго на двубой!

Доўга яны біліся, доўга змагаліся. Нарэшце Лоў злаўчыўся і сакануў мячом так, што ў таго галава адвалілася і пакацілася па зямлі. Ускінуў пераможца меч і паехаў да брамы. Закрычалі радасна воі на вежах, і ў гэты момант ударыла... страла. Ударыла ў спіну, па-зладзейску забіла...

Доўга плакалі воі над целам свайго князя. Галасіла жонка. Потым яго пахавалі і насыпалі высачэнны, можа, як да першага неба, курган. Дружына на чале са старым Алехнам перайшла ў іншае месца. А тыя нядобразычліўцы вярнуліся назад. І загадаў сын таго князя, якога Лоў забіў у двубоі, паставіць свой замак. І паставіць яго на тым кургане, дзе быў пахаваны мужны вой, каб такім чынам зняважыць славу чалавека.

Паставілі яны замак і назвалі сваё паселішча Новы Гарадок.

Той ручай, дзе некалі пазнаёміліся Лоў і Дубраўка, пасля той жудаснай падзеі стаў крывавым, а праз некаторы час і ўвогуле перасох, зарос травой ды кустоўем. Паселішча сталі зваць Наваградкам, а пазней — Навагрудкам.

## БАГУДЗЕНКА

Жылі муж з жонкай. Цяжка ім было: ні пасагу жонцы, ні зямлі мужу не перапала. Адна толькі назва — што на свой надзел пайшлі. Дзень працуюць маладыя, натомяцца, ледзьве ногі перастаўляюць, здаецца, перакусілі б — і сіла аднавілася б. Але тыя праснакі, якія зрэдку

на стале з'яўляліся, сілы не давалі. Нават хлеба ў хаце неставала.

— Што з намі далей будзе? — плакала жонка. — Есці, то есці, але ж жыць, на іншых гледзячы, таксама добра хочацца. Мы ж толькі сям'ю сваю стварылі. Ой, доля ты наша горкая... Ой, доля ты наша цяжкая...

— Не плач, родненькая, а раптам нешта і пераменіцца, — спрабаваў супакоіць яе муж. — Можа, Бог пачуе нашы малітвы і дапаможа...

— Ой, каб жа гэтак адбылося...

Вось такія сумныя размовы ў мужа з жонкай былі. Раніцай уставалі і, не гледзячы адзін аднаму ў вочы, нібыта ў нечым былі вінаватыя, кіравалі на падворак. Пачынаўся новы працоўны дзень.

Так у галечы прайшоў год, і нарадзілася ў іх дзіцятка. Радаваліся маладыя бацькі, гаспадар апошняе гатоў быў прадаць, каб жонка добра ела і ў яе малако не прапала і дачушка іхняя здаровенькая расла.

І вось неяк надвячоркам, калі гаспадыня закалыхвала маленькую, а муж сядзеў і нешта рабіў з хатніх спраў, у дзверы ціхенька пастукалі. Чалавек адчыніў дзверы і ўбачыў сівога дзядульку.

— Што жадаеш, чалавеча? — запытаўся гаспадар.

— Пусціце мяне, людзі добрыя, пераначаваць. Стаміўся я дужа, ледзьве стаю, а на вуліцы не па-летняму зябка.

— Чаму не пусцім — пусцім. Падарожнаму мы заўсёды рады. Месца ёсць — хаціну ж самі стаўлялі, а дзяцей пакуль што нямнога — адна дачушка.

— Ну, то дай ёй Бог здароўя і шчасця! — зазначыў вандроўны.

— Дзякуй, дзядулька, на добрым слове. Праходзь у хату, прысаджвайся на лаву, потым жонка пасцеле — то і спаць ляжам.

Селі яны поруч на лаве і ціху сталі размаўляць, каб не перашкаджаць малую калыхаць. Так да змяркання і дасядзелі.

Жонка ўстала ад калыскі і пакіравала да мужчын.

— Сядайце з намі, дзядулька, перакусім, чым Бог пасла, толькі пасылае ён нам чамусьці надта мала...

— Дзякуй вам, людзі шчырыя, але мне есці нешта і не хочацца.

— Сядайце, не саромейцеся.

— Ну, то яшчэ раз дзякуй.

Гаспадыня паставіла на стол гліняную місу, а ў ёй качаліся тры невялічкія бульбінкі ў лушпайках.

— Вось, частуйцеся, і выбачайце, але ў нас болей няма... Па бульбінцы з'ямо, расолам зап'ём ды спаць кладзёмся...

— Не густа... — прамармытаў дзядулька і палез у сваю вялікую торбу. — А як жа вы дачушку думаеце гадаваць, калі зараз у такой галечы жывяце?

— Можа, разжывёмся неяк. Будзе некалі і на нашай вуліцы свята, — сказаў паціху і, відаць, не надта верачы ва ўласныя словы, гаспадар.

— Вы мяне частуеце, то і я вас пачастую, — і нечаканы госць паклаў на стол вялікі кавалак сала і з дзесятак яек. Давайце ўсе разам і перакусім.

— Не, так нельга, — замахала рукамі гаспадыня. — Вам добрыя людзі недзе далі, у вас наперадзе дарога і мала што там можа здарыцца, а мы ў сваёй хаце...

— Кіньце, дзеткі, не перажывайце. Дасць Бог дзень — дасць і ежу. Я многа пабачыў і болей, чым вы, ведаю. Нічога страшнага ў тым, што сваю ежу вам госць прапануе, няма, ды і госць жа я няпрошаны, нечаканы...

Падзякавалі падарожнаму гаспадары і ўхапіліся есці. Перакусілі, падзякавалі яшчэ раз чалавеку незнаёмаму, і Усявышняга з такой нагоды прыгадалі, ды спаць ляглі.

З першымі прамянямі сонейка ўсхапіліся муж з жонкай на ногі, бо трэба ж было па гаспадарцы ўсё дагледзець, а потым і на поле ісці, бо якраз гарачая пара стаяла — сенакос. Старэча таксама ўжо раскатурхаўся.

— Паспалі б яшчэ, дзядулька, вам жа спяшацца няма куды. Мы б есці што зварылі, то і вы тады б усталі. Адпачніце яшчэ.

— Скажу я вам, саколікі мае, што спаць у такім узросце не вельмі цягне. Заплюшчыш вочы на якую гадзіну, а там ужо толькі ляжыш ды ці вохкаеш, ці згадваеш што... Мне ўжо час прыспеў на той свет ісці...

— Кіньце дурное. Што гэта вы так маркотна дзень пачалі? Жывіце, радуйцеся, пакуль ногі носяць.

— Якая тут радасць, калі навокал ні родных, ні знаёмых, адны дарогі мяне толькі і прывячаюць...

Пагаманілі так і селі есці. Гаспадыня капусту закварыла салам, акрайчык хлеба аднекуль дастала, і такі сняданак атрымаўся, якога ў гэтай хаце і не памяталі.

Паеў старэча, устаў, перажагнаўся і кажа на развітанне:

— Дзякуй вам, мае дзеткі, за тое, што пусцілі пераначаваць, што накармілі, выпраўляеце ў дарогу з ласкай.

Дай жа Бог, каб і ў вас усё належным чынам было. Я ведаю, далей будзе ў вас і поспех, і вязенне... — і пайшоў сваёй дарогай.

А гаспадары ўзялі дачушку і пайшлі ў поле. Працуюць, а маленькая ў калысцы забаўляецца сама сабе. Падбяжыць гаспадыня, пакорміць яе і назад да мужа ляціць, бо надвор'е добрае, спяшацца трэба.

Прыспеў і полудзень. Пайшлі яны паволі да той мясціны, дзе калыску паставілі, і ажно аслупянелі, калі ўбачылі ля яе... мноства ўсялякай ежы. Яе было гэтулькі багата, што на месяц хапіла б, не тое што на адзін раз з'есці.

Селі муж з жонкай, Богу малітвы шэпчуць, дзякуюць, што так атрымалася, а чалавек і кажа:

— І пра дзядульку, мабыць, трэба згадаць, бо ён жа нам гаварыў, што ўсё наперадзе добра будзе...

Так і зрабілі. Перакусілі, адпачылі крыху, астатняе ўсё старанна ў анучкі паўвязвалі, каб вароны ці сарокі ненарокам не паклявалі, і пайшлі далей працаваць.

Ведама ж, сілы дабавілася і настрой перамяніўся — песні заспявалі. Так захапіліся, так загаманіліся, што калі дамоў пакіравалі, то пра дачушку нават забыліся. Апаматаліся, калі ўжо да сваёй хаціны падыходзілі. Тады жонка ежу дамоў панесла, а муж назад пабег. Прыляцеў да калыскі і бачыць: маленькая соладка спіць, а калыска — поўная грошай. Аслупянеў чалавек ад нечаканасці, пачаў па баках азірацца — нікога і блізка не было. Сабраў тады калыску селянін, забраў грошы і пайшоў дахаты. Калі паказаў жонцы грошы, то тая ажно закрычала:

— Дачушка, міленькая, ды ты ж нам Богам дадзеная! Богам дадзеная, чуеш?

Толькі што магло немаўля зразумець? Адно толькі шчасліва ўсміхалася, убачыўшы матулін твар.

З таго часу і пайшло, што дачушка ў гэтых людзей самім Богам дадзеная і што менавіта яна прынесла ім многа дабра і грошай. Багата жылі тыя гаспадары, і вёску іхнюю ад таго здарэння празвалі — Багудзенка.

## ЛАЎРЫШАВА

Некалі тут жыў адзін чалавек, і звалі яго Лаўр. Некаторыя, праўда, клікалі яго Лаўрыш ці Лаўрын. Даўней сярод сялян так заведзена было, што чалавек мог мець па некалькі імёнаў.

Дык вось, чалавек гэты надта любіў пажартаваць, пасмяяцца. Нават да гэтых дзён згадваюць, як у яго гумно гарэла, людзі з вёдрамі ды бусакамі беглі з усіх канцоў, каб як мага хутчэй патушыць, не даць агню магчымасці перакінуцца на іншыя будыніны, а гаспадар стаяў і... смяяўся. З чаго б вы думалі?

Ды з таго, што нарэшце пазбавіцца мышэй, якіх там процьма была і якім ён даць рады не мог, не здолеў вытруціць, а тут пажар, дзякуй Богу, надарыўся...

Але найбольш вядомым, хоць яго і так усе ў наваколлі ведалі, Лаўр стаў пасля наступнага выпадку.

У той жа вёсачцы, побач з гэтым вясёлым чалавекам, жыў адзін яўрэй, які меў сваю, няхай сабе і невялікую, справу. Нешта ці то купляў, ці то, купіўшы, перапрадаваў — з гэтага і жыў. Толькі ўвесь час быў нечым незадаволены, пастаянна скардзіўся суседзям. Лаўр спачатку спачувальна пазглядаў на яго і што-небудзь абавязкова даваў дзецям беднага гандляра, але потым і яму надакучыла слухаць усё гэта, і вырашыў ён адвучыць Хаіма (так яго звалі) на лёс скардзіцца.

Чакаць зручнага моманту давялося не так і доўга. Аднаго разу, калі ўжо па гаспадарцы ўсё было дагледжана, селянін выйшаў на вуліцу, каб з кім пагаманіць, і адразу натрапіў на Хаіма.

— Здароў, суседзе.

— Здароў, — адказвае Лаўр, а сам думае, як бы яўрэя падкузьміць, каб той болей не чапляўся. Ды сам сусед і дапамог.

— Ведаеш, братка, так цяжка жыць, што не магу болей трываць. Зараз пайду ды скокну ў ваду...

— Ага, пайдзі скокні, ды толькі глядзі, каб глыбей за калені не было, бо потым цяжка будзе на бераг вылазіць, — выскаліў зубы Лаўр.

— Ты ўсё смяешся, а што мне рабіць? Можа што параіш?.. Як мне зрабіць так, каб лягчэй стала?

— Ды гэта вельмі проста змяніць.

— Як?

— Ты курэй у гаспадарцы маеш?

— Ой, якія там куры, усяго паўтара дзесятка.

— І певень ёсць?

— А як жа, чалавеча, каб куры ды без пеўня?

— Дык вось табе мая парада: забяры ўсіх курэй, разам з пеўнем, з хлява ў хату.

— А гэта навошта?

— Дык жыць жа лягчэй стане...

— Вось дзякуй, чалавеча, вось дзякуй...

— Ды няма за што. Суседзі ўсё ж... Праз тыдзень скажаш, ці стала лягчэй.

Нібы на крылах паляцеў дамоў Хаім, і было чутно, як адразу кінуўся лавіць курэй.

Лаўр жа пайшоў у сваю хату і яшчэ з парога зайшоўся ад смеху. Жонка з дакорам глянула на мужа:

— Што, зноў над кімсьці паджартаваў? І не надакучыла табе?

— Калі я табе зараз раскажу, то і ты смяяцца будзеш, і ў цябе настрой падымецца, — і распавёў, што ён утварыў.

— Дык смуроду ж у хаце будзе, што не прадыхнуць. Як жа яны там вытрымаюць? — рагатала жанчына.

— Нічога, што смурод, затое лягчэй жыць стане...

Цэлы тыдзень Лаўр ад першых промняў да самага вечара шчыраваў на далёкай ніве. Хаім дачакацца суседа не мог. Нарэшце ў Лаўра выпала вольная хвіліна, і ён выйшаў на вуліцу.

— Ну, як у цябе справы, Хаім?

— Ой, братачка, ой, родненькі, яшчэ цяжэй мне жыць стала. У хаце паветра не хапае, куры, халера на іх, крычаць сярод ночы пачынаюць, а певень той, зараза, гарлае тры разы на ноч, нібы яго рэжуць...

— Не хвалюйся, я ведаю, што рабіць.

— Што?..

— У цябе карова ёсць? Дык завядзі і яе ў хату, а праз тыдзень зноў пагаворым.

— Дзякуй, родненькі, — і Хаім плетануў па сцяжынцы.

Дома Лаўр распавёў гаспадыні, што ён на гэты раз параіў суседу, дык тая ажно села:

— Ім жа ступіць нельга будзе, калі карова пару разоў шчыра нахляпае!

— Нічога, затое лягчэй жыць стане, — па-філасофску зазначыў Лаўр.

У наступны раз Хаім ужо не скардзіўся, моўчкі сеў побач з суседам.

— Ну, што ў цябе на гэты раз?

— Зусім невыцерпна, браце. Гною ў хаце ўжо на цэлую ніву хопіць... Сёння ноччу на двор захацелася, дык паслізнуўся і... Да полудня адмыцца не мог.

— Я і чую, што смярдзіць. А цяпер слухай: з вечара павыкідай курэй з хаты, а заўтра скажаш, як яно стала...

— Добра, — ціха, ужо, мабыць, не надта верачы ў нейкае паляпшэнне, адказаў Хаім і падаўся дамоў.

Раніцай ён крычаў на паўвёскі:

— Лаўр, Лаўр, лягчэй жыць стала!

— Тады выганяй карову назад у хлеў.

На наступны дзень яўрэй гарлаў яшчэ грамчэй:

— Ой, цяпер лепей, зусім лепей!

— Вось бачыш, параіў — і атрымалася, — задаволена пасміхваўся Лаўр.

Калі людзі даведаліся пра гэты выпадак, то не давалі беднаму Хаіму ні прайсці, ні праехаць. Толькі заўважаць дзе, адразу крычаць: «Вунь Лаўрышоў вучань паехаў! Вунь Лаўрышоў сусед!»

Так і павялося — Лаўрышоў ды Лаўрышоў, і вёску тую пазней так назвалі.

## МАКРЭЦ

Наша вёска стаіць на нізкім месцы. Гэта зараз вышэй стала, калі дажджоў мала ідзе ды снягі не валяць. Да таго ж паўсюдна меліярацыя — то і сцягнулі ваду, а даўней зусім не так было.

У аднаго бацькі было трое сыноў: Сцяпан, Фёдар і Іван. Хлопцы раслі здаравенныя, прыгожыя, а самае галоўнае — дружныя. Ні ў якую справу адзін без аднаго не лезлі — толькі разам, каб адчуваць падтрымку.

Так і жылі. Бывала, бацька выйдзе раніцай, гляне на неба, азірнецца па баках і прамовіць:

— Хлопцы, час уставаць. У лес сёння паедзем.

— Што нам, рабіць няма чаго, як туды раптам ехаць? — пачынаў бурчэць самы малодшы, Іван.

Старэйшы, Сцяпан, пасміхваючыся лагодна, суцяшаў брата:

— Што гэта ты, братка, яшчэ вочы не прадраў, ■ ўжо сварышся?

Фёдар, пасміхваючыся, дадаваў:

— Ты ў нас, як тое сырое, што не тлее і не гарыць, толькі дыміць і смярдзіць, дыхаць няма як...

— Так ужо і смярдзіць? — ускакваў Іван і злосна паблісквваў вачыма.

— Хлопчыкі, няма чаго разбірацца, — умешваўся бацьб-

ка. — А самага малодшага не заводзьце, бо яшчэ са злосці ў лес без сякеры выберацца. Тады ўжо напрацуе...

Старэйшыя дружна смяяліся, а Іван крочыў з незадаволеным выглядам да матулі.

Так і вялося ў іх — жарты ды кпіны не сціхалі.

А неяк адзін з братоў, пасля чарговых выбрыкаў малодшага, сказаў:

— Тата, а макрэц наш зноў хліпае!

Так і пачалі гаварыць на Івана астатнія браты, а потым і іншыя людзі. Так і засталося — хлопец здаровы, прыгожы, праца ў руках гарыць, а атрымаў такую мянушку з-за адной толькі рысы характару, з-за таго, што любіў паплакацца.

Хутка ляцелі гады. Неўзабаве бацькі састарэлі, ссівелі зусім, і гаспадар, як спакон вякоў вялося, паклікаў да сябе хлопцаў.

— Вось што я надумаў, сынкі, і маці з гэтым згодная. Мы знемаглі зусім. Цяпер нам цяжка з вамі на працу хадзіць, гаспадарку весці...

— Ды што вы, тата, — усхапіліся сыны. — Няўжо мы самі не ўправімся? Вы толькі гаварыце, што рабіць, а за большае не хвалюйцеся. Гэта ўжо будзе наш клопат. Вы сваё адпрацавалі, цяпер і адпачыць трэба, няма чаго гнуцца...

— Вось дзякуй вам, сыночкі, вось дзякуй, — ласкава загаманіў стары, — але я не гэта хацеў сказаць. Вырашылі мы, пакуль яшчэ жывыя, падзяліць зямлю, лес ды сенажаць нашу на вас траіх, каб потым вы за чубы не хапаліся...

— Так, дзед, — падала свой голас гаспадыня. — Падзялі, як мы дамаўляліся...

— Сцяпану будзе тое поле, што пад лесам, і лесу з таго боку кавалак. А Фёдару — палова таго поля, што сярод кустоўя, лесу — адразу за Сцяпанавым.

— А мне? — занепакоіўся Іван. — А мне дзе, тата?..

— А табе — усё астатняе: поле, лес, сенажаць. Вось так. І жыць-дажываць мы з табой будзем, Іванка Макрэц...

Відаць, упершыню ў сваім жыцці не пакрыўдзіўся за мянушку Іван, не засмяяліся і браты.

Так усё і сталася. Мянушка тая назаўсёды прычапілася да маладога хлопца — Макрэц ды Макрэц. І невялічкая вёсачка, у якой яны жылі, пасля іхняй смерці такую назву захавала. Да гэтага часу так і вядзецца...

# МАСЦІШЧА

Жыў чалавек, і звалі яго Сымонам. Бедаваў-гараваў селянін, бо поля хоць і даволі многа меў, але неўрадлівае яно было. Добра, калі да Каляд хлеба хапала, а часцей і не.

Жонка на яго не сварылася, бо бачыла, што ён і так круціцца, шукае, дзе якую капейку зарабіць, дзе кавалак хлеба прыдбаць.

Аднаго вечара гаспадар і кажа жонцы:

— Вырашыў я, Ганна, заўтра ў лес схадзіць.

— Чаго ты, чалавеча, пасунешся туды таміцца? Ці мала тваім нагам і так дастаецца? Ды і восень жа позняя, вось-вось маразы стукнуць, няма там нічога.

— А раптам якіх ягад позніх ці грыбоў назбіраю? І нам будзе што з'есці, і дзеткам якога кісялю ці капусты зварыш...

— І то праўда, Сымонка. Схадзі тады, толькі доўга не баўся.

Назаўтра зранку сабраўся гаспадар і пакіраваў у лес. Ідзе сабе, паглядвае пад елкі кашлатыя, пад кусцікі, лістоту кіёчкам разварушвае: грыбы ды ягады шукае. Далекавата зайшоў і раптам пачуў крык. Злякаўся чалавек, стаў на месцы і думае: ісці далей ці назад кіраваць? Павагаўся-павагаўся і ўсё ж пайшоў на крык.

Колькі прайшоў — невядома, але падалося, што крычаць ужо недзе зусім блізка. Выглянуў Сымон з-за дрэва і аслупянеў: на палянцы стаяў вялізны мядзведзь і галасна крычаў. Калі чалавек угледзеўся, то заўважыў, што звер усунуў лапу ў пень і той сашчапіўся. Мядзведзю было вельмі балюча, але вырваць лапу ён не мог, як ні круціўся, як ні лаўчыўся, адно толькі глядзеў затуманенымі вачыма і стагнаў. Тады ўжо смела падышоў селянін да звера, дастаў сякерку з-за пояса і пачаў клін рабіць. Выштукаваў дубовы клінок, прылаўчыўся і загнаў яго ў пень — мядзведзь хуценька лапу і выцягнуў. Дзьме на яе, нібы чалавек, але не ўцякае ў гушчар, стаіць побач з Сымонам. Потым, калі, мабыць, боль крыху сціх, звер чалавечым голасам запытаўся ў свайго вызваліцеля:

— Чалавечку, я табе вельмі ўдзячны. Скажы, чым я цябе магу аддзячыць? Прасі, што хочаш, я апошняе аддам...

Сымон падумаў-падумаў і кажа:

— А чым жа ты мяне, лясны гаспадар, аддзячыць можаш? Я думаў хоць якіх ягад ці позніх грыбоў назбіраць, каб дзяцей паласаваць, але пакуль з табой тут займаўся — час страціў і ні з чым дамоў вярнуся. Хопіць мне і слоў падзякі.

— Словы словамі, а падарунак тваім дзеткам і жонцы я зараз прынясу. Пачакай мяне тут...

Звер знік, але праз колькі хвілін прыйшоў назад і прынёс у лапах здаравенную бярosту, на якой ляжала цэлая гара мёду.

Ухапіў чалавек падарунак і стаў зверу дзякаваць:

— Вось бачыш, і разышліся з табой: я табе дапамог, а ты — мне. Дзякуй табе. Пайду дамоў, бо вечар прыспее, восень жа на двары...

Ідзе Сымон, задаволена ўсміхаецца і чуе, як над яго галавой сарокі перамаўляюцца:

— Упершыню бачым такога дурня. Гэта ж трэба — ад падзякі адмовіўся, толькі мёд на бяросце ўхапіў, нібы ніколі яго не бачыў.

— Во дурань, дык дурань! Можна ж было і золата, і каштоўнасцей папрасіць! Наш гаспадар нічога не пашкадаваў бы!

— Чаго вы з яго хочаце? Яму такога ні чуць, ні бачыць не даводзілася. Ён з перапуду джгае так, што ногі, здаецца, да зямлі не дакранаюцца.

Спачатку селянін на гэта ўвагі не звяртаў, а потым здзівіўся: выходзіла, што ён разумее гаворку птушак...

Дома жонка ўжо чакала, дачакацца не магла, усё думала, каб чаго благога не здарылася. Убачыла Сымона, выскачыла насустрач:

— Ну што, чалавеча?

— Сама глядзі, — адказаў той, але пра гаворку птушак не распавёў. Расказаў толькі пра тое, як мядзведзя з няволі вызваліў.

На наступны дзень узяў гаспадар рыдлёўку і пайшоў у лес. Там пачуў, як птушкі паміж сабою перамаўляюцца, і запытаўся ў іх:

— А ці не падкажаце вы мне, шаноўныя, дзе гэта ў гаспадара золата-срэбра ляжыць? Хачу сабе крыху ўзяць...

Птушкі не змаўчалі, бо ведалі, што калі чалавек іхнюю мову разумее, то, значыцца, ён нечым старому мядзведзю дагадзіў:

— Пад вялікім дубам, недалёка адсюль, на невялікай глыбіні закапаны куфэрак з золатам. Табе і дзецям тваім на ўсё жыццё хопіць.

Падзякаваў Сымон птушкам і пайшоў да дуба. Выкапаў ён той куфэрак, адчыніў яго і... вочы так і зазіхацелі, бо пад вечкам сапраўды было золата. З радасці пачаў перакідваць грошы з рукі на руку, зачыняць куфэрак, зноў яго адчыняць. Потым узяў свой скарб, рыдлёўку і пайшоў дахаты. Некалькі разоў спыняўся, каб адпачыць, бо куфэрак быў цяжкі.

Жонка есці якраз варыла і, не паварочваючыся да мужа, запыталася:

— Дзе гэта ты, Сымонка, сёння так доўга хадзіў? Відаць, замарыўся?

— Замарыцца я і сапраўды замарыўся, але паглядзі, што прынёс...

Як толькі гаспадыня ўбачыла столькі грошай, то і села там, дзе стаяла:

— Родненькі, а ты нікога не забіў выпадкам?

— Не хвалюйся. На забіваў нікога і не краў я гэтае золата.

— Не маглі ж табе яго проста за добры нораў даць ці за працу шчырую...

— Маглі, — прамовіў Сымон, але не стаў гаварыць пра мядзведзя і пра свой нябачны дар — здольнасць разумець гамонку птушак і звяроў.

Грошы тыя селянін пусціў у справу (не ўсе, канечне): хаціну новую і светлую паставіў, іншыя гаспадарчыя будыніны ўзвёў. Астатняе разам з Ганнай сваёй акуратна разлічыў, каб не толькі самім хапіла, але і дзецям засталося, калі яны вырастуць, каб не перажылі малыя таго, што ім давялося перажыць.

Пра той дар і пра мядзведзя гаспадар амаль не згадваў. Лічыў, што не трэба болей прасіць, хопіць таго, што ёсць. Але ўсё ж ягоная здольнасць яшчэ адзін раз вельмі выручыла Сымона. А здарылася вось што.

Справа якраз вясной была. Ішоў неяк Сымон на сваю ніву паглядзець, як жыта ўзялося, і ўбачыў, што паабапал дарогі мышы свае норкі капаюць. Ніколі яны так блізка да шляху не жылі. Можа, і прайшоў бы міма, але пачуў, як мышы пасвіствалі-гаварылі паміж сабой, відаць, маладыя да старэйшых звярталіся:

— А чаго гэта мы сёлета тут норкі свае будуем?

— Таму што год будзе надта дажджлівы і ўсё паза-

тапляе, а мы тут, на сухім месцы, і клопатаў ведаць не будзем.

Дацяміў гаспадар, што яму трэба ўсё своечасова зрабіць, каб дажджы ды паводка не заспелі знянацку. Памеркаваў, дзе ніжэй, дзе трэба нешта ладзіць, і пачаў... масціць, гаці гаціць. Вяскоўцы глядзелі на яго, як на дурня, а ён не звяртаў увагі — сваёй справай займаўся. І паспеў да тых дажджоў вялікіх, выкруціўся. Усё навокал плавала, а ў яго і ўраджай ацалеў, і будынкі ўсе на сухім стаялі.

Тую мясціну, дзе Сымон жыў, людзі пазней масцішчам назвалі. Так і стала наша вёска — Масцішчам, ад таго, што гаспадар той дбайны ўсё вымасціў, каб дабро не прапала.

## ХАРОСІЦА

Жыў тут у нас адзін чалавек па прозвішчы Харос, а можа, гэта ў яго і імя такое было, ніхто ж зараз не скажа. Але не гэта галоўнае, а тое, што надта працавіты селянін быў, на ўсе рукі майстар. Ягоны бацька — Нупрэй — таксама майстравіты быў ад нараджэння. Ён усім казаў, што не ў бацьку пайшоў, а ў матулю, бо тая і мужчынскую, і жаночую справу рабіла, нібы агнём паліла.

Даўней жа так было: чалавек адпрацуе на сваёй гаспадарцы, давядзе ўсё да парадку, а потым шукае, дзе б яшчэ капейчыну-другую зарабіць. Так і хадзілі ад вёскі да вёскі, наймаліся то кажухі шыць, то абутак рабіць.

Харос з бацькам таксама гэтым займаліся.

— Можа б вы не спяшаліся, Нупрэйка, у тыя заробкі, — прасіла маці Хароса. — Адпачылі б, пасядзелі дома з тыдзень. Зіма ж доўгая, паспееце яшчэ, і нам весялей будзе...

— А што нам, жонка, дома сядзець? Пяроймуць нашую працу — ні з чым вернемся дахаты, а так сама ведаеш, які прыбытак прыносім.

— Я не пра прыбытак, а пра тое, што вы ж амаль не адпачываеце. Шкада мне і цябе, мужу, і сына свайго.

— А мы, мама, адпачываем, калі працуем. Мы ж не ў полі, не за сахой гнёмся, а ў цяпле сядзім ды кажухі людзям шыем.

— Гэта, сыночак, пакуль малады, дык здаецца, што працаваў бы і працаваў, а калі пасталееш, у гады ўвой-

дзеш, то скажацца ўсё на здароўі. Хіба нам нечага нестае? Не горш за астатніх жывём.

— Добра, жонка, апошні раз сходзім, — па-філасофску зазначаў Нупрэй і пераглядваўся з сынам. Той адразу прымаў сур'ёзны выгляд, каб лішні раз не ўзбуджаць матулю.

Мужчыны ішлі рыхтаваць сваё прычындалле, а раніцай наступнага дня развітваліся і пакідалі родную хату.

Вось так аднаго разу ішлі Харос з Нупрэем і размаўлялі. Бацька ўсё сына ўшчуваў, што ніяк той не ажэніцца.

— Глядзі, хлопча, бо яшчэ год-другі — і каб позна не было! Тады ўжо і захочаш, ды дзеўкі ўцякаць будуць, нібы ад старога дзеда. Не заўважыш і сам, як гады мінуць-праляцяць, яны што галубы — раз і няма.

— Добра, буду шукаць сабе дзяўчыну, але пры адной ўмове.

— Пры якой гэта?

— Толькі да той сватоў пашляце, якая мне спадабаецца.

— Табе ж з ёй, чалавеча, жыць. Лічы, што дамовіліся.

Прыйшлі яны ў вёску, а там іх ужо сяляне чакалі, наўзахваткі ў хаціны запрашалі.

Не доўга ваганіся шаўцы — пайшлі да гаспадара, які яшчэ ў мінулым годзе ў іх чаргу займаў. За стол паселі, людзі частуюць іх, нібы самых дарагіх гасцей. І тут Нупрэй заўважыў, што Харос не адрывае вачэй ад гаспадаровай дачкі — Адэлькі. Зірнуў і ён і ажно заўсміхаўся: сапраўды, дзяўчына прыгажуняй вырасла.

— Дзякуем, пане гаспадару. Перакусілі, адпачылі, можам і за працу брацца, няма чаго час дарагі губляць. Давайце вашы шкуры, вечар наперадзе доўгі — многа паспеем пашыць.

— Можа б адпачылі? — прапанаваў радасны гаспадар. — А потым і селі б?

— Ды мы не стаміліся. А рукі сёння ўвогуле не працавалі, — адмовіўся Нупрэй.

Праз хвілін колькі ў хаце пачалася звычная для шаўцоў справа: мералася, кроілася, рэзалася, шылася... Ніхто з гаспадаровай сям'і спаць не клаўся, весела было, шумна. Харос па-ранейшаму не адводзіў вачэй ад дзяўчыны, і тая таксама не адыходзіла ад гасцей, сядзела побач, уважліва слухала ды дапамагала, чым магла.

— Нупрэй, мабыць, таксама зразумеў, што да чаго, бо пачаў распавядаць пра тое, як яму ў адной вёсцы даводзілася чуць пра двух дасціпных шаўцоў, якія нібыта вылечылі ад ляноты прыгожую дзяўчыну, у якой дзяжа была такая брудная, што нельга было распазнаць, з чаго яна зроблена — з дрэва ці з каменя.

Адэлька ўспыхнула-заружавелася, але гаспадар не даў у крыўду дачку:

— У нас дзяжа пастаянна чысцюткая, бо дзяўчына наша працавітая.

А Нупрэй не ўтрымаўся дый кажа:

— А майго Хароса толькі б у проса, дык дзяўчына да яго! Хіба ж вы не бачыце, пане гаспадару, якая пара прыгожая і працавітая будзе?

— Бачу...

— Дык чаго там сваты ды іншае, давайце адразу і дамовімся.

Гаспадыня паціху сказала, але выразна пачулі ўсе:

— Вось вам і маем — Харос ды Харосіца...

Дзе тыя маладыя жыць сталі, там і вёска Харосіца ўзнікла. З такой простай, жыццёвай гісторыі.



# СВІСЛАЧ

Дружна жылі паміж сабою Рыгор ды Адэля, не сварыліся, не біліся, душа ў душу існавалі. Што ўжо і гаварыць, зайздросцілі ім людзі, бо рэдка такія шчаслівыя сем'і сустракаліся. Лаянку ды кулакі — гэта напаткаць было, як раз свіснуць, а вось каб мірна ды спакойна... тут трэба было параспытваць людзей, дзе гэта можна ўбачыць.

Мелі гаспадары дваіх дзетак — дачку Ганну і сына Мікіту. Гожыя ды спакойныя і дзеці іхнія ўдаліся. Ніколі старэйшыя слова дрэннага ад іх не пачулі, ніколі яны нікому ў дапамозе не адмовілі, з поля ніколі не пайшлі, працы не скончыўшы.

Неаднойчы аднавяскоўцы казалі сваім дзецям:

— Вось, глядзіце, як сапраўднымі гаспадарамі становяцца. І бацькам за разумнымі ды працавітымі дзецьмі лёгка жывецца.

Так яны і жылі, так і працавалі штодня. А жыццё брала сваё: у дачкі адбою не было ад кавалераў, ды і Мікіту надыходзіла пара жаніцца. Непакоіла гэта бацькоў, што Ганначка пойдзе ад іх, будзе на чужых людзей працаваць, на новую сям'ю.

— Каб хоць Мікіта дамоў нявестку прывёў, не падаўся ў прымы. Тады ўвогуле ўдваіх застанемся... — гаравалі яны.

Але потым больш памяркоўны Рыгор супакойваў жонку:

— Чаго гэта мы ўсхадзіліся? Хіба ж мы адны такія? Ва ўсіх жа дзеці растуць, усе замуж аддаюць ды жэняць. Каб толькі ўсё добра ў іх атрымлівалася, а мы не прападзём. Пакуль сіла ёсць — працаваць будзем, саслабеем — смерці чакаць станем...

Аднаго разу маці кажа Ганначцы:

— Схадзі, дачушка, па ваду, ды будзем з табой хлеб пячы.

Тая схапіла вёдры і пабегла да студні.

Прайшло добрых з паўгадзіны, а Ганначкі не было. Захвалявалася жанчына:

— Мікітка, збегай ды глянь, дзе гэта наша Ганначка забавілася.

Сын кінуў справу ў двары і падаўся да студні. Неўзабаве прыйшоў з поўнымі вёдрамі. Маці здзіўлена зірнула на сына, і ён адказаў на яе маўклівае пытанне:

— А яна там танцуе. Кветкі рве і танцуе...

Здзівілася жанчына і сама пайшла паглядзець на ўласныя вочы.

Падышла да студні і бачыць: дачка танцуе сярод кветак і звонкім голасам песню выводзіць:

Ой, у полі крыніца,
Там халодна вадзіца.
Там журавель воду піў,
Не напіўся — памуціў...

— Што ж гэта ты, Ганначка? Я цябе за вадой паслала, а ты тут песні спяваеш. Каб не Мікітка, то вады не дачакалася б. Што тут такое вясёлае здарылася?

— Ой, матулечка, калі я табе пра ўсё раскажу, то і ты заскачаш вакол студні...

— То ўжо гавары, не цягні.

— Толькі я вёдры вадой паналівала, чую — нехта на кані сюды ціхенька едзе. Павярнулася, і ледзьве вёдры мае назад у студню не пакаціліся.

— Хто ж гэта быў, Ганначка?

— Казак маладзенькі, ды такі прыгожы, такі прывабны... Пад'ехаў і гамоніць: «Дай, прыгажуня, вады напіцца

і каня напаіць...» — Пі, — адказваю, — хіба ў студні вады мала? Хопіць табе і каню твайму застанецца.

«Я, дзяўчына, з твайго вядзерца напіцца хачу...»

...Напіўся вады сцюдзёнай і кажа: «Чакай мяне, дзяўчына, пакуль я з паходу далёкага прыеду. Адразу вазьму цябе замуж, толькі чакай».

— І што ж ты яму, мая дачушка, адказала?

— Сказала, матуля, што буду чакаць. Ні за багатага, ні за беднага замуж не пайду.

— І таму ты гэтак радуешся?

— Так, бо вельмі ён мне спадабаўся, мамачка.

— Эх, дачушка, дачушка, малая ты ў мяне яшчэ зусім. Хто яго ведае, як усё ў жыцці складзецца. Можа, заўтра нешта пераменіцца...

— Як бы там ні было, але ад сваіх слоў не адмоўлюся. То што, матуля, будзеш са мной скакаць?

Тая не стала адмаўляцца, падумала, што калі казак малады, прыгожы, то не такая ўжо і дрэнная пара будзе, і прыпусцілі ўдзвюх скакаць вакол студні.

Тым часам Мікітка дома сваю працу зрабіў, і закарцела яму глянуць, дзе гэта маці з сястрой прапалі. Пабег да студні, як убачыў, што тыя ўжо ўдзвюх таньчаць, то зарагатаў і паджгаў дахаты. Якраз бацька ў двор уязджаў.

— Тата, пайшлі, нешта табе такое пакажу, ад чаго і табе смяяцца захочацца.

— Пайшлі, — пагадзіўся той. — Што ўжо ты такое дзівоснае знайшоў?

Калі Рыгор на ўласныя вочы ўбачыў усё, то ажно прысеў:

— Што гэта вы, родненькія, падурнелі ці што?

А тыя, пасміхваючыся, і гавораць яму:

— Давай, бацька, з намі скакаць. Ёсць прычына: Ганначка наша за казака замуж сабралася.

— А чаму гэта я даведваюся ў апошні момант? — здзівіўся гаспадар.

— Ды яна ж не сёння і не заўтра выходзіць, — азвалася гаспадыня. — Чакаць будзе, калі той казак з паходу далёкага вернецца.

— Ага, вернецца... У яго адзінае ў галаве: зрабіў свінку — і хвост на спінку, а не вяселле там нейкае...

— Дык будзеш з намі скакаць?

— А куды ж тут дзенешся...

Узяліся ўжо ўтраіх таньчыць. Пастаяў сын Мікітка, пастаяў, а потым плюнуў са злосці і прамовіў:

— Няма чаго вам болей рабіць — толькі вакол студні, раты паразяўляўшы, бегаць! Пайду я ў свет ад такіх родных, гляну, ці сустракаецца яшчэ дзе такое, ці толькі ў нашай сям'і завялося! — і хутка пакрочыў у тым накірунку, які вочы абралі, астатнія і не заўважылі.

А Мікіта са злосці ўжо далекавата адышоўся, здарожыўся, зашыўся ў капу сена і заснуў моцным сном. Раніцай устаў і далей падаўся. Ідзе сабе, хлеб жуе і бачыць — стаіць адна хата, а ля яе даволі многа народу корпаецца. Падышоў бліжэй, павітаўся, але адказу не пачуў — не да хлопца людзям было: майстры хату, аказваецца, будавалі, і не хапіла ім у адной сцяне, на самым версе, аднаго бервяна на тры чвэрці. Дык усе людзі сталі цягнуць яго, кожная палавіна да сябе.

Зарагатаў Мікіта. Тады на яго азірнуліся.

— Чаго ты шчэрыш зубы, падарожны?

— Паспрабавалі б вы на маім месцы, дурні, не засмяяцца. Гэта ж трэба здагадацца — бервяно перацягваць з аднае палавіны на другую. Вы б лепей па-іншаму зрабілі.

— Як гэта?

— Проста. Адрэзалі б цурбалак неабходнага памеру ад новага бервяна і ім утачылі б.

— А што, і сапраўды, — пагадзіліся тыя, калі крыху падумалі. — Дзякуй табе, чалавеча, што навучыў нас, падказаў выйсце з цяжкага становішча.

Толькі хлопец не чуў ужо слоў падзякі, бо спорна крочыў далей і ўсё смяяўся з някемлівых майстроў: «Гэта ж трэба, бервяно, нібы ланцуг ці вяроўку якую, перацягваць. Не, і ў гэтым краі ёсць дзіўныя людзі, пайду далей».

Вечар прыспеў яго ў дарозе. Пераначаваў Мікіта ў нейкай напаўразваленай будыніне, а раніцай пакрочыў далей.

Недзе ўжо пад полудзень выйшаў да вялікай вёскі. Бачыць — людзі бегаюць-мітусяцца, з месца на месца пераскокваюць. Падышоў бліжэй і заўважыў, што вяскоўцы не проста так бегаюць, а з рэшатамі ў руках.

— Што гэта вы, добрыя людзі, робіце? — спытаўся ён у аднаго. — Гляджу я на вас ужо, можа, з гадзіну і ніяк зразумець не магу, чаго вы бегаеце, навошта кожны з вас рэшата ў руках трымае?

— А што тут думаць? — селянін на хвіліну спыніўся. — Гэта ж нам наш бацюшка параіў сонца ў кожную хату злавіць ды занесці, каб яно там жыло. Тады ў будынінах будзе і цёпла і светла...

Толькі тут заўважыў Мікіта, што хаціны ў той вёсцы былі без вокнаў.

— І як жа вы жылі?

— Так вось і жылі...

— Дапамагу я вам тут разабрацца... Кінь ты, чалавеча, гэтае рэшата, а вазьмі сякеру і да мяне назад прыходзь. Мы з табой усю справу і зробім.

— Ой, падарожны, глядзі, бо бацюшка нам сказаў, каб мы за пяць дзён сонца злавілі, а сёння ўжо чацвёрты дзень пайшоў, і нікому пакуль не пашанцавала...

— Не турбуйся, паспеем. Нясі сякеру хутчэй.

Радасны селянін паімчаў да сваёй хаціны і праз нейкае імгненне прыпёр са здаравеннай сякерай у руках.

— Давай з гэтага боку пачнём, — сказаў Мікіта і, шырока ўзмахнуўшы, лупянуў сякерай у сцяну.

— Што ты робіш? — захваляваўся гаспадар. — Ты ж сцяну мне парушыш!

— Не парушу, толькі адтуліну прасяку!

— Навошта?! Навошта адтуліна ў сцяне?! — загарлаў вясковец.

— Як навошта? Акенца будзе, а праз яго і сонейка паселіцца ў тваёй хаціне. Ты адыдзіся і глядзі, я і сам упраўлюся.

За нейкую гадзіну Мікіта прасек два акны і сказаў гаспадару:

— А цяпер ідзі паглядзі, ці жыве сонейка ў хаце.

Убег гаспадар у хату, і праз імгненне адтуль данёсся радасны крык:

— Жыве! Жыве! У маёй хаце жыве сонца! Вось дзякуй табе, чалавеча! Вось дзякуй!

Толькі Мікіта ўжо крочыў сабе наперад і пасміхваўся над людзьмі, якія на злом галавы беглі да той хаціны, у якой стала жыць сонейка. «Не, — думае, — і тут людзі не надта хітрыя, пайду далей, можа, больш кемлівых сустрэну».

На наступны дзень выйшаў хлопец на ўскраек невялікай вёсачкі і аслупянеў: два здаравенныя мужыкі, чырвоныя ад натугі, цягнулі за рогі вала. Праўда, цягнулі не па роўнай дарозе, а спрабавалі ўсцягнуць жывёліну на невялічкую, пахіленую на адзін бок лазеньку. Спачатку падарожны не мог зразумець, навошта ім гэта трэба, але потым дацяміў: на той лазеньцы расла трава амаль што ў рост чалавека, дык яны, мабыць, хацелі, каб жывёліна паела ўсю тую траву. Выйшаў да іх і пытаецца:

— Што гэта вы, людзі добрыя, робіце? Навошта жывёліну мучыце?

— Ды вось, чалавеча, бачыш сам, якая там трава вялікая ды густая парасла. Хочам, каб вол яе паеў, а ён, дурань, не хоча лезці...

— Самі вы дурні, калі такое робіце! І дзе гэта вы бачылі, каб жывёлу на страху́ сунулі і там травой кармілі?

— А мы заўсёды так робім.

— А вы не спрабавалі наадварот зрабіць: траву парваць, пасекчы ці парэзаць і жывёле даць?..

— Не, так не рабілі.

— То паспрабуйце.

Тыя хуценька ўскочылі на лазеньку, абарвалі траву і далі валу. Жывёліна пачала з задавальненнем хрумстаць.

— Дзякуй табе, падарожны,— пачалі шчыра кланяцца вяскоўцы, ад душы жадаючы хлопцу ўсяго самага найлепшага.

Толькі той не слухаў, а завярнуўся і пайшоў у адваротным накірунку, бо пераканаўся, што паўсюдна людзі аднолькавыя: калі ў адной справе ведаюць толк, то ў другой абавязкова схібяць. Упэўніўся і ў тым, што трэба жыць з роднымі, якія б яны ні былі.

Пакуль Мікіта хадзіў па белым свеце ды шукаў, дзе людзі разумнейшыя жывуць, у ягонай сям'і бяда здарылася. Чакала Ганначка казака з далёкага паходу, а на самай справе аказалася, што ні ў якім паходзе той і не быў, разам з такімі ж адчайнымі сябрамі паблізу нейкай справай займаўся. І вось неяк, узяўшы з сабой чалавек колькі, ён прыехаў на Рыгораў падворак:

— Дзе тут гаспадары! Яшчэ, здаецца, і спаць рана, а нікога не відаць!

— Ды ў хату заходзьце! — пачуўся голас Рыгора. — Хто там прыйшоў?

Уваліўся казак з сябрамі ў хаціну і адразу пытаецца:

— Дзе мая жонка, бацька?

— Прабач мяне, казача, але яна яшчэ на нашай лаве скача... Дзе гэта ты сустракаў, каб, з бацькамі не пагаманіўшы, такая справа рабілася?

— У нас усяляк бывае, наша справа казацкая...

— Я і ведаю, што казацкая. Таму і адказ ты ў мяне за такое нахабства атрымаеш вось які: «Едзь, хлопча, адсюль, не аддам я за цябе сваю Ганначку».

— Так, і я супраць, — падала голас гаспадыня. — У нас такога ніколі не было, каб без згоды бацькоў дачку сілай забіралі...

— Не хочаце па-добраму, то зробім, як вы і сказалі, — сілай! Давайце, хлопцы, — закамандаваў казак.

Накінуліся сябрукі на бацькоў і пачалі іх біць, не шкадуючы і літасці не маючы. А сам казак кінуўся шукаць Ганначку, якая за печчу хавалася. Праз хвіліну дзяўчына была ўжо амаль распранутая і адчайна супраціўлялася. Але дзе ж вы бачылі, каб у такой сітуацыі можна было ўратавацца. Пазней ужо вырвалася Ганначка і кінулася ўцякаць, а за ёю беглі сябрукі-казакі, бо кожнаму хацелася пазабаўляцца з прыгажуняй. Яшчэ пару крокаў — і, здаецца, дагоняць, і тут узмалілася бедалага:

— Божачка! Выратуй мяне! Забяры да сябе!

Толькі словы прамовіла — адразуператварылася ў звонкую рачулку, якая свой бег пачынала ад той самай злашчаснай студні.

Калі Мікіта дамоў вярнуўся, то нічога на месцы хаціны не знайшоў. Спалілі злыдні, разам з бацькам, разам з маці. Прыйшоў тады хлопец на бераг новай рэчкі і заплакаў з адчаю:

— Вось што зрабілася. Усё ціха было, і трэба ж было ліху надарыцца... Цяпер людзей няма, адна віслач (вільгаць, балаціна) навокал...

І стаў хлопец дубком зялёным на той рэчцы, якую людзі потым Свіслаччу назвалі. Калі першыя жыхары сталі там жыць, то паселішча займела такую ж назву, у памяць пра тую дзяўчыну Ганначку.

## ПОРАЗАВА

Жыў тут некалі хітры селянін. Звалі яго Фёдарам, а мянушку чалавек той дзіўную меў — Пораз, за тое, што часта любіў паўтараць: «Эх, браткі! Дзе ж гэта вы бачылі, каб раз-пораз нешта добрае ў нашым жыцці ды не атрымлівалася?»

Вось за той «раз-пораз» і стаў Фёдар Поразам. Сярод астатніх вяскоўцаў вылучаўся тым, што любіў дражніць, асабліва тых, хто яму чымсьці не падабаўся. Як убачыць нешта смешнае — ніколі міма не пройдзе, пастаіць, уважлі-

ва паслухае і запамятае, каб пры зручным выпадку пераказаць ці перадражніць.

Так і жыў Фёдар. Сям'ю меў — жонку ды траіх дзетак. Працаваў, як і ўсе, ніколі нідзе не хаваўся, калі жонка і дзеці шчыравалі. Наадварот, за траіх усё варочаў і, што самае галоўнае, паспяваў і песню спець, і жартоўную гісторыю распавесці, і нейкае здарэнне з вясковага жыцця расказаць. Таму працаваць з ім побач было адно задавальненне. Праўда, зямлі ў Фёдара было мала. Гараваць не гараваў, галадаць таксама не даводзілася, але жылы ад натугі ў селяніна пастаянна выступалі, бо цяжка даводзілася працаваць. А крыху ўзбагаціўся Пораз зусім нечакана, і вось якая падзея гэтаму папярэднічала.

Мясцовы бацюшка разам з дзякам задумалі купіць у мястэчку вялікую хату. Справа ў тым, што ў іх быў малы прыход, а хацелася, вядома ж, мець многа грошай. Каб іх мець, трэба ж нешта выкручваць. Сабралі бацюшка з дзякам грошы і паехалі, парку коней запрогшы. Едуць, радуюцца, што нарэшце справу сваю абгорнуць. Бачаць — на перакрыжаванні дарог Фёдар стаіць. Дзяк не вытрымаў і кажа:

— Бацюшка, давайце ў Пораза папросім штуку якую смешную паказаць?

— Давай, толькі я спачатку яму пытанне адно задам, каб з яго пасмяяцца...

Пад'ехалі і коней насупраць селяніна спынілі. А той ажно рот ад здзіўлення разявіў, усім сваім выглядам занепакоенасць паказвае.

— Здароў, Фёдар! — павітаўся бацюшка.

— Дзень добры вам, людзі добрыя, — адказаў вясковец і шапку з галавы зняў.

— Вось, кажуць, Фёдар, што ты пра ўсё на свеце ведаеш.

— Ну, гэта выдумляюць, бацюшка, бо адкуль мне, беднаму ды забітаму, пра ўсё ведаць.

— Ты не прыкідвайся, а лепей на маё пытанне адкажы: чаму сабакі ўдзень меней брэшуць, чым уначы?

Дзяк зарагатаў, смакуючы наперад, як прыцісне язык вясковы хітрун. Ды, як аказалася, дарма стараўся.

— Няма чаго тут і меркаваць, пачуўся спакойны адказ. Сабакі ўдзень меней брэшуць, бо ім жа бацюшка з дзякам дапамагаюць...

Дзяк спачатку добра не пачуў адказ і па-ранейшаму ажно качаўся са смеху, але потым дацяміў-такі і прыкусіў язык.

— Давай, пытайся ты цяпер, — паціху шапнуў бацюшка.

Дзяк адкашляўся і паволі пачаў:

— Фёдар, га, Фёдар, а мог бы ты нам якую штуку цікавую паказаць?

— Чаму ж не, магу, толькі мне вашы коні на колькі часу патрэбны...

— Раз трэба, то бяры, толькі надта не баўся, бо мы спяшаемся...

— Тады злазьце з фурманкі, я дамоў хуценька злётаю, бо ўсе тыя смешныя штучкі дома пакінуў.

Злезлі бацюшка з дзякам з фурманкі, Пораз гопнуўся ў яе і паімчаў, толькі колы загрукацелі па няроўнай дарозе.

Прыехаў дахаты і крычыць:

— Родненькая, выручай! Выручай, бо зарабіць добра можам!..

— А ў чым справа?

— Хутка дзяк з бацюшкам сюды прыляцяць і запатрабуюць, каб я ім штучкі ўсялякія паказваў. Дык ты прыкінься мёртвай.

— Добра, я і мёртвай прыкінуся, абы дзеткам есці што было.

— Будзе хлеб, будзе і да хлеба...

Сам жа Пораз хуценька коней адвёў да далёкіх суседзяў і папрасіў схаваць іх надзейна.

Бацюшка з дзякам сядзелі, сядзелі на раздарожжы, а потым зразумелі, што трэба бегчы да селяніна коней сваіх ратаваць. Паджгалі да Фёдаравай гасподы. Прылятаюць, а гаспадар сядзіць за сталом і есць.

Нічога зразумець не могуць нечаканыя госці, адно толькі вачамі лыпаюць туды-сюды. Дзяк першы не ўтрываў і завішчаў:

— Коні, дзе нашы коні?

— Коні? — перапытаў Пораз і да жонкі павярнуўся. — Сапраўды, а дзе тыя коні, за якімі я табе прыглядаць загадаў?

Поразіха хітрая жанчына была. Як толькі такія словы пачула, то адразу — гоп на калені і давай галасіць:

— А Фёдарка, а родненькі! Гэта ж каб ты ведаў! Я за імі пільна глядзела, але нейкія цыганы па вуліцы ехалі, дык схапілі ў мяне з рук лейцы і ўцяклі...

— Разам з коньмі? — выпаліў бацюшка.

— Ага, бацюшка, разам з коньмі.

Тут з-за стала з крыкам выскачыў гаспадар:

— Ой, дурная галава, што ж ты нарабіла! Ды каб жа ты ведала, што гэта не мае коні! Не быць табе цяпер сярод жывых! Трымайся ў мяне!

І нібыта лупасіць жонку ўзяўся. Стараецца, каб усё выходзіла па праўдзе, каб не здагадаліся бацюшка з дзякам. Як гопнуў разоў колькі гаспадыні, дык тая ўпала і ногі раскінула.

— Ну ўсё, ёй я за коней адплаціў! Цяпер з-за вас мне жонку хаваць давядзецца!

Гаспадары коней спалохаліся, пачалі малітвы ўсялякія шаптаць.

— Ды ўжо шапчыце — не шапчыце, а малітвамі ёй не дапаможаце! Забіў я яе!

— А што ж цяпер будзе? — забыўшыся на коней, спыталіся нечаканыя госці.

— Ды ёсць у мяне чароўная папліска. Паспрабую ёю перацягнуць пару разоў гэтую дурніцу. Некалькі чалавек я ўжо так ад смерці выратаваў. Проста бяру папліску і раз-пораз лупцую нябожчыка. Смерць тады пакідае ягонае цела і ўцякае. Во ўжо родныя потым дзякуюць, апошняе гатовы аддаць...

— Што ты кажаш? — сквапна вылупіўся бацюшка.

— Тое, што раблю пастаянна, тое і вам, бацюшка, гавару. Зараз паспрабуем і жонку маю нанова нарадзіць. А каб вы не падумалі, што гэта нейкая выдумка, то буду рабіць усё на вашых вачах.

Пайшоў гаспадар, узяў папліску, потым разоў колькі прайшоўся вакол жонкі, якая, як нежывая, ляжала на падлозе, і гаворыць:

— Ну, то дай,Божа, каб усё атрымалася!

Замахнуўся з усяе сілы і як трэсне па жанчыне, а тая як ускрыкне, як усхопіцца на ногі, і хоць у самой слёзы на вачах, але гамоніць зусім пра іншае:

— Вось дзякуй табе, Фёдарка, што ты мяне ад смерці адабраў! Вось дзякуй табе, родненькі, што ты мяне выратаваў!

Кінулася мужа цалаваць. А дзяк з бацюшкам стаяць і вачамі лыпаюць. Такога цуду на вочы ніколі не бачылі і нават не чулі. Пераглянуліся яны, і кожны, відаць, падумаў, што пры іхніх пасадах такая папліска будзе, як дармовы залаты ручай — толькі кішэні паспявай падстаўляць, а золата ў іх так і пасыплецца.

— Слухай, гаспадар, а ці не прадаў бы ты нам гэтую рэч? — папрасіў бацюшка.

Дзяк жа крыху яшчэ сумняваўся:

— Слухай, Пораз, а яна заўсёды дапамагае?

— Заўсёды. Хворага дастаткова пару разоў перацягнуць, і хвароба адразу сыходзіць... Можна і праверыць, калі ў вас што-небудзь баліць.

— Баляць, ногі баляць.

— Зараз перастануць, — спакойна прамовіў Фёдар і што было сілы джгнуў дзяка. Той ажно скруціўся ад болю.

— Не пададабаецца? Ці яшчэ не перасталі? — ліслівым голасам дапытваўся Пораз.

— Ой, ой, не баляць болей. Адразу перасталі... Можа і ў бацюшкі што-небудзь баліць? То і яго тэрмінова трэба ратаваць...

Бацюшка спаслаўся на колікі ў спіне і праз нейкае імгненне сычэў ад невычэрпнага болю і скрозь зубы цадзіў:

— Дзякуй, чалавеча, дзякуй. Ужо і мне не баліць, адно толькі смыліць...

— То ты прадасі нам паплiску, Фёдарка? — ласкава звярнуўся да гаспадара дзяк, які ўжо крыху адышоў ад болю.

— Прадаць-то, можа, і прадам, але ж яна і мне раз-пораз бывае патрэбна...

— То мы дамовімся, будзем даваць табе на пэўны час, калі ўжо надта спатрэбіцца...

— Давайце тады тысячу рублёў — і паплiска ваша.

— А ці не надта будзе дорага, гаспадар?

— Думаю, што я вам амаль за так аддаю. Але не хочаце — не бярыце, іншыя, толькі даведаюцца, то адразу схопяць, і цану тады я куды большую прызначу.

Пераглянуліся дзяк з бацюшкам. Грошы вялікія, але ж і паплiску шкада з рук выпускаць.

— Добра, давай.

— Ага, я вам паплiску аддам, а вы мне потым штуку якую выкінеце. Плаціце спачатку грошы.

Прынеслі купцы грошы, забралі паплiску і пабеглі радасныя з хаты. Спяшаліся грошы зарабляць — ажыўляць памерлых.

У царкве падчас бліжэйшага набажэнства бацюшка заявіў прыхаджанам:

— Цяпер паміраць не бойцеся.

— А мы і раней не баяліся, — сказаў нехта, і ўсе навокал зарагаталі.

— Ды я не тое хацеў сказаць. Калі хто памрэ, то прысылайце да мяне чалавека, я яго не адпяваць буду, а ажыўляць. Праўда, дзяча?

— Чыстая праўда, бацюшка, — пацвердзіў той перад народам.

Вось надарылася смерць у наваколлі, прычым не абы ў каго, а ў сям'і самага багатага памешчыка. Як прачулі пра гэта хаўруснікі, дык месца сабе не знаходзілі, чакалі, што па іх прыбягуць, а яны такую цану закруцяць, што адразу разбагацеюць.

І сапраўды, праз нейкую гадзіну да бацюшкі прыляцеў лёкай.

— Бацюшка, мой гаспадар загадаў вам тэрмінова з'явіцца да яго, каб вы паспрабавалі ажывіць ягоную матулю. Памерла, небарака, сёння ноччу.

— Добра, іду, толькі дзяка пазаву ды штуку сваю вазьму, бо без яе як без рук.

Прыляцелі да палаца, а на ганку іх гаспадар ужо чакаў.

— Бацюшка, памерла мая матуля. Ніякіх грошай не пашкадую — толькі ажыві, астатняе няхай цябе не хвалюе. Усё аддам, да апошняй капейкі.

Дзяк катурхнуў бацюшку ў спіну, каб не надта ўпіраўся, і той прамовіў:

— Пастараемся, ваша светласць, пастараемся. Самі пабачыце... Зараз полудзень, а вечарам ваша матуля, як ні ў чым не бывала, хадзіць будзе. У нас толькі адна ўмова ёсць...

— Якая?

— Каб ніхто не падглядваў і не перашкаджаў нам працаваць, бо гэта надзвычай цяжкая і адказная справа.

— Так, — пацвердзіў дзяк, — раз-пораз не прыходзіцца.

— Добра, добра, усё, што скажаце, будзе выканана.

— Тады паказвайце, пане, дзе нябожчыца ляжыць, каб час дарэмна не траціць.

Завялі іх у пакой і пакінулі адных. Дзяк ціхенька зашчапіў дзверы, а бацюшка дастаў папліску, размахнуўся і як секанўў, то труп ажно гэкнуў — так ім падалося.

— Ажывае, — радасна зазначыў дзяк, — бачыш, ужо і рукой кратае...

Падбадзёрыла гэта бацюшку, таму ён яшчэ мацней перацягнуў нябожчыцу. На гэты раз падалося, што і нагамі заторгала.

— Ты глядзі, як смерць яе трымае і з неахвотай ад сябе адпускае, — бубнеў дзяк.

Хаўруснік не слухаў яго, працаваў у поце чала. Прытаміўся, сеў адпачыць, а за работу ўзяўся дзяк. Ужо і вопратку на нябожчыцы парассякалі, і твар яе знявечылі, а нічога не атрымлівалася.

— Хоць ты па Пораза бяжы, каб выручаў, — незадаволена прабурчэў бацюшка.

— Яшчэ паспрабуем, а там паглядзім, што рабіць...

Пану ж за дзвярыма карцела даведацца, як гэта яны мёртвага чалавека ажыўляюць, таму, павагаўшыся хвілін колькі, гаспадар загадаў слугам:

— Збегайце ды праз акно гляньце, што яны там выробляюць.

Тыя прыляцелі і ў адзін голас:

— Пане, яны вашу матулю паплёскай дратуюць!

— Што?! — зароў памешчык. — Хто дазволіў?!

Узламалі дзверы і давай біць бацюшку з дзякам. Б'юць і прымаўляюць:

— За Поразава трапа́ла вам перапа́ла!

Тыя кінуліся ўцякаць, а сам пан са слугамі — за імі.

Калі бацюшку потым ледзьве жывога знайшлі ў карчах і паспрабавалі ўскінуць на воз, то ён загарлаў:

— Гэта не маё! Не маё! Гэта Поразава! Поразава!

Вось адкуль наша Поразава стала.

## ДАБРАВОЛЯ

Раней намнога лепей людзі жылі, намнога болей ведалі і перадавалі нашчадкам, як адносіцца да прыроды, да жывёлін, як разумець подых прыроды і прыродныя з'явы. Здаралася, канешне, што адзін ведаў болей, а другі крыху меней, але гэта не сведчыла пра тое, што апошняму меней распавядалі ці ўвогуле нічога не гаварылі пра старадаўняе. Проста кожны чалавек па-свойму ўсё ўспрымае. Дык вось, з-за аднаго такога павер'я і назва ў нашай вёскі з'явілася.

Калі хрысцілі той народ, які на нашых землях даўней жыў, то не адразу ў прапаведнікаў Хрыста ўсё добра атрымлівалася. Спрадвечнае, што захавалася ў памяці народа, яны пакінулі, напластаваўшы хрысціянства на язычніцтва, прыкрыўшы ідалашанаванне і ідалапакланенне. Але ж і продкі не надта дурныя былі. Параіліся паміж сабой, пагаманілі і вырашылі — не забываць старадаўніх звычаяў, захоўваць іх як мага далей.

Дык вось, жыў тут у даўнія часы сам Вужыны кароль. Надта яго ўсе баяліся, нельга было схаваць ад яго ні думак, ні памкненняў. Людзі яшчэ толькі задумаюць што, а ад караля ўжо пасланцы паўзуць: «Не спяшайцеся гэта рабіць. Наш бацька перасцерагае вас, каб чаго ліхога не здарылася».

Дзякавалі шчыра за такія словы вяскоўцы і далей займаліся будзённымі справамі, а калі планавалі пачынаць нешта новае — абавязкова папярэджвалі Вужынага караля. Ён нічога не забываў, пра ўсё памятаў. Адрозніваўся ад астатніх гэты вуж тым, што быў вельмі вялікі, меў на галаве агністую карону, а яшчэ... хадзіў на хвасце, нібы чалавек. Праўда, здаралася гэта ў асабліва адказныя моманты.

Казалі, што некалі ён быў звычайным чалавекам, паходзіў з княжацкага роду, але аднаго разу нечым не дагадзіў злой вяшчунцы, і тая яго ў вужаператварыла і, плюючыся і пырскаючы слінай, крычала: «Памерці магчымасці мець не будзеш! Усіх родных ды блізкіх перахаваеш, мову птушак, жывёл, зямлі, лесу і азёраў разумець будзеш, а вось сказаць па-чалавечаму ні слова не здолееш! Век будзеш поўзаць у вужовай шкуры, гэта табе мая помста!»

Таму і разумеў усё Вужыны кароль, таму і перасцерагаў людзей праз сваіх памочнікаў і служкаў, любым чынам імкнуўся дапамагаць сялянам, бо не забываўся пра тыя часы, калі і сам быў чалавекам. У надзвычай тэрміновых і важных выпадках і сам папярэджваў: свістаў такім страшэнным свістам, што лістота з дрэваў абсыпалася.

І павялося гэта здаўна: людзям не дазвалялася забіваць гадаў, а гадам — нападаць на людзей. Так і жылі мірна ды ў згодзе. Сам кароль сцвярджаў: «Нікому не даруюцца грахі, хто б гэта ні быў — чалавек ці вуж. Вінаваты — адказвай».

І вось неяк у адной невялічкай вёсцы, якая гублялася сярод бязмежных лясоў, гадзюка ўкусіла малую дзяўчынку, і тая памерла. Мала таго, гадзюка не прызналася валадару ў гэтым злачынстве. Але ад яго ж не схаваешся, ён жа наперад усё ведае. Паслаў слуг, каб тыя прывалаклі нягодніцу да яго. Але гадзюка не стала апраўдвацца, як усе чакалі, а пачала нападаць на караля і папікаць яго тым, што ён не да ўсіх аднолькава адносіцца, што не любіць яе, бо старая.

— Не ў гэтым справа, — зазначыў Вужыны кароль. —

Я заклікаю ўсіх жыць мірна. Чым табе немаўля нашкодзіла?

— Нічым не нашкодзіла — гэта праўда. Але [redacted] не хачу, каб людзі забываліся пра тое, што [redacted] змяя і мяне трэба баяцца...

— Дык ты ж забіла безабароннае дзіця! Няўжо нельга было па-іншаму? Па добрай волі, са згоды дзейнічаць. Навошта безабаронных чапаць, вымушаць людзей помсціць нам?

Але словы валадара не даходзілі да старой гадзюкі, усім сваім выглядам яна паказвала сваю незалежнасць і ганарыстасць.

Тады Вужыны кароль загадаў пакараць забойцу — садраць з жывой скуру.

З таго разу ніхто з гадаў болей не парушаў парадак. І людзі сачылі пільна, каб ніхто не крыўдзіў ні вужоў, ні гадзюк. Калі ж, здаралася, чалавек наступаў на гада, то ўсё старанна потым правяралася, выклікаліся ўсялякія сведкі, якія ці пацвярджалі нявіннасць селяніна, ці, наадварот, указвалі на тое, што гэта ён зрабіў наўмысна. Вось які быў Вужыны кароль.

За доўгія гады людзі прызвычаіліся да вужоў, найболей да іх, бо менавіта яны не баяліся жыць непадалёку ад сялян, а то і ў хацінах. Іх сталі лічыць хатнімі. Калі гаспадары з дзецьмі сядалі есці, то і гад поўз да стала, і яму налівалі ў якую місу ці ў чарапок.

Нашы продкі сцвярджалі, што, у якім доме жыве вуж, там заўсёды будзе шчасце і дастатак. Калі здыхаў той хатнік, дык гаспадар не выкідаў ягонае цела, а рабіў з яго своеасаблівы абярог, каб і ў далейшым усё было толькі па добрай волі, каб і там вуж дапамагаў. Адбывалася ўсё наступным чынам. З вужа здзіралі скурку, вытаплівалі тлушч, рабілі свечку і зберагалі яе на чорны дзень. Калі ж нападала на гаспадара якое ліха ці бяда, пачынаў прыціскаць багаты чалавек ці нядобразычлівец, тады чалавек браў свечку, чакаў вечара і запальваў яе. Свечка гарэла надзіва яркім заклікальным полымем, заходзіла ва ўсе цёмныя і непралазныя мясціны, будзіла там усіх вужоў, і тыя паўзлі на дапамогу. Людзі зрэдку бачылі такое — паўзе незлічоная колькасць пярэстых вужоў, а наперадзе іх — сам Вужыны кароль. Яму ўсе дарогу давалі — і бедныя і багатыя, і ліхія і добрыя.

І гэтак жа нечакана вужы знікалі. Толькі доўга яшчэ гучаў іхні напамін:

«Па добрай волі жывіце! Па добрай волі!»

Гаворацъ, калі той Вужыны кароль усё ж сканаў, то ўсе плакалі, галасілі, нібы па самым блізкім з родных. Пахавалі яго недзе тут, непадалёку. Таму месца захавалася — Дабраволя.

## ЛІДЗЯНЫ

У нашай вёсцы ў даўнія часы жыў адзін пан. Ліхі чалавек быў, нікому нічога не дараваў, не даваў людзям магчымасці жыць спакойна. Але як ні лютаваў, як ні злаваў, а смерць і яго падсцерагла. І ўсё ж перад смерцю той памешчык страшным, чорным праклёнам закляў свае будынкі, землі, лясы, сенажаці, адным словам — увесь маёнтак. З тых часоў, хто б ні ішоў ці ні ехаў міма, на яго абавязкова накідаўся нейкі жудасны цень. Падобны ён быў на звычайны касцяк, але намнога большы, і адліваў ён нейкім дзівосным жоўтым колерам.

А побач з нашай вёскай была яшчэ адна, параўнаўча маленькая. Людзі, ведама, з адной у другую хадзілі, і заўсёды — міма таго прымхлівага маёнтка. Каб па аднаму не ісці, збіралася чалавек дзесяць, каб, маўляў, весялей было. Ведалі ўсе, якая гэта весялосць, але ніколі адкрыта свайго страху не паказвалі.

Дык вось у той невялікай вёсачцы жыла дзяўчына, Ліда. Бацькі часта, гледзячы на яе, гаварылі: «Бог, відаць, памыліўся, што ты ў нас дзеўчынай атрымалася. Табе б хлопцам нарадзіцца — гэткая ўвішная ды здаровая, кемлівая ды смелая, нічога не баішся».

А як даўней вялося, моладзь збіралася на вячоркі. Аднойчы хлопцы, каб напалохаць ды паказаць, што дзяўчаты без мужчынскай апекі нікуды не вартыя, такіх страхаў пра замак-палац панскі нараспавядалі — самім сорамна зрабілася. І тут прагучаў спакойны, сакавіты дзявочы голас:

— Чаго вы так спалохаліся? Няхай гавораць. Да таго часу дабрэшуцца, што дзяўчаты іх дамоў павядуць. Яны ўжо і зараз вунь адзін да аднаго ціснуцца.

Прысутныя пазналі голас Ліды.

— Можа ты такая смелая, што не баішся? — насмешліва прамовіў нехта з хлопцаў.

— А чаго там баяцца? Перад усімі кажу, што не палохаюся і страху таго не прызнаю.

— А чым дакажаш?

— Вось зараз пайду ў той палац і там пераначую.

У хаце запанавала цішыня, было нават чутна, як на печы пачэсвае свае парэпаныя ногі састарэлы дзед.

— Сказаць-то ты сказала, а як мы праверым? Ты і падмануць спакойна можаш...

— Дык няхай хто-небудзь са мной пойдзе. Там, на месцы, і праверыць, — прапанавала дзяўчына і ўстала.

— Кінь дурное. Пасмяяліся — і хопіць, давайце па дамах разыходзіцца, — спрабавалі супыніць дзяўчыну сяброўкі, але тая загарэлася не на жарт.

— Раніцай сустрэнемся, а цяпер — да пабачэння, — прамовіла Ліда і выйшла.

На вуліцы было цёмна, хоць ты вока выкалі, але дзяўчына ўпарта прабівалася да палаца. Пройдзе крокаў з сотню, стане, прыслухаецца — і далей. Вядомая справа — якая б смелая ні была, а рабіла гэта ўпершыню.

Нарэшце дабралася да палаца. Ціхенька зайшла ў сярэдзіну, зашылася ў самы малюсенькі пакойчык, які наглуха зачыняўся таўшчэразнымі дзвярыма, запаліла ў грубцы, села побач на падлогу і знерухомела — стала чакаць, калі тая пачвара з'явіцца. Але нікога не было. Ліда і не заўважыла, як задрамала. Стамілася за дзень, працуючы, ды яшчэ напераўжывалася. Сніць, нібыта яна не ў змрочным палацы, а дома, на печы ляжыць. Тут штосьці як гэпнула з усяе сілы — то яна і прахапілася. Узяла лучыну і пайшла ў той кут, дзе грымела. Глядзіць, а на падлозе ляжыць чалавечая галава. Быццам бы яе толькі што адарвалі ад цела і кінулі сюды. Узяла яе Ліда ў рукі і збіралася назад пакласці, але галава раптоўна знікла, толькі нейкі густы дым з далоняў дзяўчыны паваліў, нібы іх хто падпаліў. Акінула дзяўчына позіркам пакой — не, нічога дзіўнага не было. Села яна на ранейшае месца і прадрамала сабе спакойна да самай раніцы, пакуль трэція пеўні не пракрычалі, а пасля гэтага паводзіла сябе зусім смела, бо ад старэйшых ведала, што ўсялякія нячысцікі разам з крыкам трэціх пеўняў знікаюць.

Прыйшла Ліда дамоў, а там яе ўжо чакалі.

— Ну, як там было, раскажы.

— А нічога страшнага не было. Лухта ўсё тое, што вы распавядалі...

— Ды яна і не хадзіла нікуды, праляжала недзе ў адрыне, а потым сюды прыйшла, — кінуў нехта з хлопцаў.

— Калі не верыце, то я і сёння магу пайсці, каб абы-чаго на мяне не выдумлялі...

Разышліся ўсе па хатах, Ліда таксама пайшла пару гадзін паспаць. А хлопцы вось што вырашылі:

— Мы яе сёння напалохаем! Збяромся ўсе разам і прасочым, дзе яна там хаваецца, а потым ужо задамо пытлю!

Вечарам Ліда зноў пайшла да палаца. Цяпер ужо ішла больш упэўнена. Праўда, у адным месцы ёй падалося, што нехта стрымана кашлянуў у кустоўі. Ускінулася дзяўчына, але ці ж ты знойдзеш у цемры некага, ды і падацца магло, бо слых жа ў цемры абвостраны.

Прыйшла ў той жа пакой, але грубку спачатку не запальвала, вырашыла праверыць, ці сапраўды што было на дарозе, ці ёй падалося. Села ў куточку, узброілася здаравенным цурбалкам — чакае. Ажно чуе — па змрочным калідоры нехта крадзецца, і крокі тыя набліжаюцца. Ліда прыўзнялася і замахнулася, так, на ўсялякі выпадак, а тая галава прама да яе ў дзверы і зазірнула. Як гопнула па ёй дзяўчына, як заверашчала, бо сама ж спалохалася, і пабегла следам за ўцякаючым ад яе чалавекам. Бяжыць і колькі сілы мае б'е па спіне, а той спачатку трываў, а потым таксама загарлаў:

— Ой, дапамажыце! Дапамажыце! Жыцця пазбаўляюць!

Па кустоўі разлёгся тупат шматлікіх ног.

Ліда ляцела дамоў на злом галавы. Прыбегла — ажно і пеўні загарлалі, нібы іх нячысцікі толькі што з кіпцюрастых лап выпусцілі.

На ўскрайку вёскі, азіраючыся па баках, збіраліся хлопцы. Адзін з іх ледзьве цёгся. Мала гэтага — нёс здаравеннае палена. Нехта запытаўся:

— Што гэта ў цябе?

— Палена.

— Якое палена? Навошта?

— Лідзіна...

Тут усе і грымнулі, бо зразумелі, што менавіта ад гэтага цурбалка галасіў іхні сябрук, які жадаў напалохаць Ліду, — і сам атрымаў на гарох.

— Вось табе і «Лідзіна»,— смеючыся, дадаў хтосьці.— Будзеш цяпер сам ведаць, і цябе запамятаюць, што ты з нашай вёскі...

Вёску тыя жартаўнікі гэтак і назвалі — Лідзіна і па ўсім наваколлі распавялі, чаму менавіта так зрабілі. Потым назву крыху перайначылі — на Лідзяны.

# КАЛІНОЎСКАЯ (Ліхасельцы)

Даўней людзі не гэтак баяліся маразоў ды пажараў, залеваў ды галадоў, як пошасцей. Стыхіі можна было неяк перажыць, а вось калі пошасць якая ўбівалася, то народу вымірала вялікая колькасць, цэлымі сем'ямі выміралі, вёскамі, гарадамі. Не адно пакаленне меркавала, як ратавацца ад такога нашэсця, і нарэшце прыйшлі да канкрэтнай высновы. Паводле гэтага плана трэба было запрэгчы ў ярмо сівога вала і сахой прааараць вакол паселішча глыбокую баразну. Потым бацюшка павінен быў апырскаць святой вадой свежаўзараную глебу. Тады, на думку продкаў, пошасць не здолее перабрацца праз такую, простую на першы погляд, перашкоду.

Але так вырашылі мужчыны, а дзяўчаты і жанчыны прапанавалі і свой варыянт: напрасці з ільну-кужалю нітак, саткаць даўжэзны ручнік-абярог і павесіць яго на крыж, які стаяў на ўваходзе ў паселішча. Прычым зрабіць гэта трэба было да ўзыходу сонца, у адваротным выпадку абярог страчваў сваю засцерагальную сілу.

І што ж вы думаеце? Дапамагала. Так сталі рабіць жыхары ўсіх вёсак і гарадоў, а якія не ведалі пра чароўную баразну і рушнік, да тых спецыяльных ганцоў пасылалі, каб і іх навучылі бараніцца ад нечаканай бяды.

Зажылі людзі намнога шчаслівей і спакайней. Але да таго часу, пакуль не здарылася чарговае гора: прарвалася-такі, ці то выпадкова, ці то сяляне нечага не ўлічылі, пошасць у адну з вёсак і з лютасцю ўзялася за сваю ранейшую справу — косіць людзей, нібы касой траву. Мала гэтага, дык па начах хадзіла па вуліцы і гарлала: «Ну што? Не ўратаваліся? Як ні стараліся, не ўратаваліся! Было ў вас некаторы час ціха, а цяпер вам будзе ліха! Ой, будзе ліха!»

Трэсліся сяляне ад страху, хворыя і тыя крычаць баяліся, бо кожны ж выжыць спадзяваўся. Хто яго ведае, колькі часу так цягнулася б, каб не недарэчны выпадак, які ледзьве не каштаваў чалавеку жыцця, але разам з тым і выратаваў тое паселішча ад непазбежнага вымірання.

Быў там вясковец — Грышка. У яганай сям'і моцна захварэлі жонка і дзеці. Ён за цэлы дзень нагледзеўся ды наслухаўся стогнаў хворых і забыўся, мабыць, пра тое, што небяспечна на вуліцу выходзіць, бо пошасць ухапіць можа. Закурыў ён люлечку і выйшаў на ганак. Ціха было

навокал, не верылася, што ў ваколіцах смерць люта гаспадарыць. Прысеў чалавек на прызбу і галаву маркотна апусціў. І тут выразна пачуў, як нехта загрукаў у аканіцу: «Эй, ці ёсць хто ў хаце? Адчыніце!»

Усхапіўся чалавек і на крык той кінуўся але... перад ім нікога не было. Спачатку падумаў, што падалося, але калі зноў прысеў, то грукат паўтарыўся. Устаў Грышка і ціхенька пакраўся туды. Спачатку нічога не заўважыў, але потым праз дым прама перад сабой убачыў нейкую дзіўную здань. Пакруціў галавою, зірнуў наўскос — не, няма. Зноў праз дым паглядзеў — стаіць нейкая невядомая істота.

— Чаго грукочаш?! Рабіць табе болей няма чаго?! У мяне ўся сям'я хворая, не ведаю, ці выкараскаюцца. Што табе трэба?

Пачвара не спалохалася, сама пачала крычаць на Грышку:

— Ты хто такі, каб на мяне рот разяўляць?! Ды ты ведаеш, хто я такая?!

— Не ведаю і ведаць не жадаю. Я — гаспадар гэтай хаціны, тут жыве мая сям'я, і ты тут распараджацца не будзеш! Прэч адсюль! Стаіш ды высвечваеш сваімі голымі касцямі, і не сорамна ў такім выглядзе перад людзьмі з'яўляцца?!

— А чаго мне саромецца?! Каб ты ведаў, — [redacted] сама пошасць! Ну, што ты мне цяпер заспяваеш?!

Як пачуў Грышка пра пошасць, то дацяміў, што даў маху і за гэта можа дарага заплаціць. Затросся чалавек, зацюпкаў зубамі — ажно люлька з рота вывалілася.

— Што, з'еў? Праглынуў, як сом варанай кашы!

Селянін маўчаў, не ведаў, што рабіць.

— А за тое, што пакрыўдзіў мяне, я табе занятак зараз дам: будзеш цягаць мяне па вёсцы да самай раніцы. Ну, садзі мяне на плечы і борздзенька па вёсцы бегай!

Нічога іншага гаспадару не заставалася рабіць, як выконваць загад. Успёр ён сабе на горб пошасць і пакіраваў прама па вуліцы, а тая сядзіць і крычыць на ўсё паселішча: «Не будзе болей ціха, а настане ліха! Ліха!»

Да паўночы хадзілі па вёсцы Грышка з пошасцю. Яна не надта цяжкая была, таму селянін і не ўпарыўся. А потым яна загадала:

— Хопіць тут валэндацца! Давай кіруй у другую вёску, ды не ў бліжнюю, бо тут мяне чакаюць, а ў далёкую, туды, дзе людзі спакойна сябе паводзяць!

Моўчкі пасунуўся селянін, куды было загадана, а по-

шасць, каб не заснуць, час ад часу верашчала ў яго на спіне, ды гэтак жудасна, што ажно звяры і птушкі з блізкіх лясоў далей ад бяды ўцякалі: «То было ціха, а то стане ліха!»

Потым, відаць, усё ж задрамала. Грышка, не будзь дурнем, стаў па баках азірацца і думаць, як ад нечаканай гаспадыні пазбавіцца. І дадумаўся.

Мясціны гэтыя чалавек добра ведаў, таму скіраваў да глыбокай рэчкі, якая працякала непадалёку. Ішоў ціха, каб пошасць не прачнулася. Нарэшце падышоў да ракі, ступіў у ваду, зайшоў па пояс і як гопнецца ўніз галавой у ваду, моцна трымаючы пошасць за ногі. Тая прачнулася, раскрыла пашчу, збіралася, мабыць, загарлаць, але пакірхала, пакірхала з хвіліну і гамон для яе прыспеў.

Вясковец, знямоглы, прамоклы, вылез на бераг і лёг. Доўга адпачываў, потым падхапіўся і пабег дамоў, паглядзець, як там родныя, жывыя яны ці не.

Прыджгаў да вёскі на ўзыходзе сонца і закрычаў:

— Эй, уставайце! Чаго спіце, ліхасельцы! Ліхасельцы! Няма болей пошасці! Няма! Я яе ўтапіў у рэчцы!

Так, з таго ранку, і пачалі вёску Ліхасельцамі называць, а перайначылі зусім нядаўна, у 1969 годзе. І стала яна Каліноўская.

## СІДАРКІ

Жыў-быў у нас мужык, і звалі яго Сідар. Гаспадар неблагі быў, толк у сялянскай справе ведаў.

Паехаў ён аднаго разу на кірмаш — свінню прадаваць. Скруціў яе з жонкай як мае быць і папхаўся. На досвітку выехаў, бо да мястэчка, дзе кірмаш павінен быў адбыцца, далекавата было.

Пакуль дабраўся, сонца пачало прыграваць. Выбраў гаспадар сабе зручнае месца і закрычаў:

— Падыходзьце, людзі добрыя! Не мінайце, грошы даставайце, свінку купляйце!

Умомант народу назбіралася, але купляць ніхто не спяшаўся. Адзін стары дзед, якога бабця, відаць, лаянкай дабрала і ён збег ад яе на кірмаш, кашляючы, запытаўся:

— Слухай, братка, а чаго яна ў цябе такая чыстая? Выпадкам ты яе не ў хаціне трымаў?

Сам на людзей паглядаў і чакаў, што зараз усе ўпадуць ад смеху. І сапраўды ўпалі, але крыху пазней, калі

Сідар адказаў:

— А яна, дзедку, такая беленькая і чысценькая ад таго, што [redacted] яе ўсю дарогу аплакваў... Яна ж у мяне, што тая жонка была. Дрэнна мне — зайду да свінкі, паплачуся, а яна не ганарлівая, слухае і толькі парохквае ў адказ. Вось і ліў на яе спінку-шчацінку горкія слёзы, пакуль сюды дабіраўся.

Зарагатаў народ, а дзедка плюнуў з адчаю і заламаў у натоўп.

Тым часам знайшоўся і купец на тавар. Падышоў, аглядзеў свінку старанна і пытаецца:

— Прадаеш?

— Прадаю...

— А колькі просіш?

— Давай так, каб ні мне, ні табе блага не стала — пяць залатовак.

— А можа адну саступіш?

— Не, чалавеча, [redacted] і так амаль дарма аддаю. Таму і не прасі, і не малі — нічога не атрымаецца.

— Ну, раз такая справа, то можа дазволіш маёй свінні яшчэ крыху ў тваім вазку паляжаць?

— Чаму ж не, няхай паляжыць. Я яшчэ дамоў не збіраюся, трэба сёе-тое глянуць...

Купец пайшоў, [redacted] Сідар сядзіць сабе на вазку, глядзіць, як народ вакол віруе, радуецца, што справу так удала завяршыў. Але потым злавацца пачаў, бо свінню прадаць прадаў, а за тое, што глядзець за ёю ўзяўся, ніхто не заплаціць. Ажно тут падыходзіць да вазка чалавек і катурхае гаспадара:

— Слухай, ты свінку прадаеш?

— Прадаю, прадаю, — асабліва не задумваючыся, прамовіў Сідар.

— А за колькі?

— Давай пяць залатовак, і ўсё будзе ў парадку...

Заплаціў яму і гэты купец і таксама папрасіў за свінкай паглядзець, пакуль сам ён хуценька па кірмашы прабяжыць ды прыдбае яшчэ што неабходнае ў гаспадарцы.

Зноў Сідар адзін застаўся. Ужо зусім засумаваў чалавек. Потым падумаў: а чаго ўбівацца, грошай гэтулькі ўзяў — можна і ў карчомку зайсці. Так і зрабіў. У карчме ўзяў бутэльку гарэлкі, закускі добрай, сядзіць за сталом і паглядае, каб ніхто ягонай кабылы не ўкраў. Тут бачыць — амаль аднachасова прыбягаюць абодва купцы, якім ён свінку прадаў, і пачынаюць цягнуць тавар кожны да сябе.

Свіння ж, ведама, завішчала на чым свет стаяў. Народу набегла, цікава стала і гаспадару, чым усё закончыцца. Прабраўся ён праз натоўп да кабылы і давай сабе спакойненька вупраж правяраць. Купцы заўважылі яго і закрычалі ў адзін голас:

— Вунь і гаспадар прыйшоў, зараз ён сам раскажа, каму прадаваў і хто купляў...

Аднекуль і стражнікі ўзяліся. Шаблямі сваімі бразгочуць, крычаць, каб сведкі бліжэй падышлі, але дзе гэта вы бачылі, каб нехта некалі на кірмашы парадак навёў? Служкі ад злосці, што на іх мала хто ўвагі звяртае, вырашылі палегчыць сабе задачу — ухапілі Сідара і загадалі:

— Паехалі!

— Куды гэта?

— У суд!

— А чаго я там не бачыў?

— Вось там табе пра ўсё і распавядуць!

— Не паеду я нікуды. Вам трэба, вы і едзьце.

Тут стражнікі ўлупілі яму ў каршэнь, каб не надта гаманіў, загадалі і купцам ісці следам, і пакіравалі да ваяводы, які ўсе суды судзіў і спрэчкі разбіраў. Суровы гэта чалавек быў. Калі дазнаецца, што вінаваты, то літасці не чакай, так загадае даць, што праз дваццаць дзён азадак яшчэ на сонца моршчыцца будзе. Спалохаўся Сідар дый кажа на аднаго са стражнікаў:

— Слухай, братка. Я маю грошы, дапамажы мне невінаватым стаць. Не забуду твае паслугі — аддзячу.

Той пакруціўся і мовіць, каб ніхто не пачуў:

— А ты на ўсе пытанні ваяводы адказвай толькі: як і так.

Тут яго ваявода паклікаў:

— Ідзі, чалавеча, сюды.

— Бягу, пане ваявода, бягу.

— Гэта ты Сідар?

— Як?

— Ты Сідар, гавару?

— Так.

— Ці прадаваў ты сёння гэтым купцам свінню?

— Як?

— Ты прадаваў свінню купцам?

— Так.

— Дурыла, ці прадаваў ты сёння свінню?

— Як?

— Гавару, што ты — боўдзіла.

— Так, пане ваявода...

Азірнуўся ваявода на людзей, якія назбіраліся, каб суд паслухаць і дàведацца, якім прысуд будзе, і гаворыць:

— Што з дурня возьмеш? Ідзі сабе на ўсе чатыры бакі ды не паказвайся болей на кірмашы! У наступны раз гэтак лёгка не адкруцішся — загадаю ўсыпаць бізуноў!

Сідар не прымусіў сябе ўпрошваць, пагнаў кабылку — толькі пыл па вуліцы закурыўся следам. Ажно ля брамы даганяе яго стражнік і гамоніць:

— Слухай, Сідар, ты суд выйграў?

— Як?

— Я цікаўлюся, ці выйграў ты суд?

— Так.

— Дык ты абяцаў мне грошы, калі дапамагу.

— Як?

— Кінь дурнем прыкідвацца. Гэта ж я цябе навучыў...

— Так.

Убачыў стражнік, што нічога добрага з іхняй размовы не атрымаецца, і пайшоў сваёй дарогай. Адно толькі — павярнуўся і пагрозліва пракрычаў:

— Нічога, мы з табою яшчэ спаткаемся!

— Як? — закрычаў Сідар у адказ і паехаў сабе далей, пасмейваючыся.

За тыя грошы чалавек прыкупіў ладны кавалак зямлі і, вылучыўшыся з вёскі, стаў на ёй жыць. Сям'я ў вяскоўца была вялікая, а потым унукі, праўнукі пайшлі. Так і вёска ўзнікла. Яе назвалі Сідаркамі, ад таго першага селяніна, які тут стаў жыць.

## ЦІХАВОЛЯ

Заможны чалавек жыў тут у нас. Усяго ў яго хапала, але такім ўжо сквапным ды злым урадзіўся, што, здавалася, уласных дзяцей паеў бы, толькі каб нешта прыдбаць. Капейкай даражыў болей за апошняга жабрака, трэсся над ёю.

І здарылася так, што вельмі пашанцавала багатаму. Пайшоў гэта ён аднаго разу ў лес. Хто там ужо ведае чаго, але паплёўся. Пляцецца і ў кожную дзірку, пад кожнае дрэўка нос свой суне. Здаецца яму, што менавіта там знойдзе тое, што яшчэ болей узбагаціць яго. Знайшоў якіх грыбоў пару, ды і тыя былі старыя, разлезлыя. Падумаў,

што загадае сёння жонцы якую страву з імі зварыць, а тое, што чарвівыя, дык што ўжо зробіш, і чалавек жа не ўвесь час малады. Узняўся крыху настрой у вяскоўца, песеньку нейкую напаўголаса зацягнуў, радуецца, што недарма ў лес схадзіў.

Прайшло яшчэ з паўгадзіны, і вырашыў ён дамоў вяртацца. Ідзе па сцяжынцы і па-ранейшаму пільна сочыць, каб нічога не прапусціць. Ажно бачыць — ляжыць анучка. Звычайная анучка, невялічкая, праўда, прыгожая, квяцістая такая. Нагнуўся селянін і згроб яе ў кішэню — у гаспадарцы ўсё спатрэбіцца.

Прыджгаў дамоў. Гаспадыня прыгатавала вячэру, перакусілі і спаць палеглі. Доўга не спалася гаспадару, потым, ці то ўжо праз сон, ці то засынаючы, сказаў:

— Вось каб прачнуцца заўтра, ■ на стале цэлая гара золата ляжала...

— Дзе ж гэта ты такое бачыў? — ціха запярэчыла гаспадыня.

І што ж вы думаеце? Раніцай жонка падхапілася, каб па гаспадарцы ўсё даглядзець і есці зварыць, крутнулася да печы і ажно ўскрыкнула. Потым кінулася будзіць мужа:

— Уставай хутчэй і на стол зірні. Там жа...

— Што? — спрасонку запытаўся ён, але тут жа ўскочыў — і да стала. А там... насыпана вялікая гурба золата. Накінуўся на каштоўнасці гаспадар і пачаў, нібы заведзены, паўтараць:

— Маё... Маё... Маё золата...

— Тваё, тваё, — запэўніла яго шчаслівая жонка.

Ад таго разу так і павялося ў хаціне: перад сном багацей абавязкова што-небудзь жадаў:

— Вось каб заўтра нам хто новае гумно пабудаваў. Старое хоць і неблагое, але ўжо не ўмяшчае ўсё наша дабро.

На досвітку новае вялізнае гумно ўжо адсвечвала свежымі сценамі.

Доўга селянін не мог здагадацца, адкуль у яго такі нечаканы памочнік з'явіўся, пакуль аднойчы не заўважыў, што тая анучка, якую ён некалі з лесу прынёс, кожны раз па-новаму ляжыць. Вырашыў прасачыць, ці будзе яна ў хаце ноччу, і ўбачыў, калі добра прыцямнела, што тая анучка пераўвасобілася ў вялізнага змея, і менавіта ён кінуўся выконваць чарговую просьбу. Цяпер зразумеў гаспадар, хто па начах, калі ўсе спяць, прыносіць у хату багацце.

Але тут жа паўстала і праблема: каб іхні дабрабыт доўжыўся, змея трэба было карміць. Таму ён наказаў жонцы пакідаць місу са стравай на прыпеку і на пэўны час выганяў усіх з хаты. Калі ж вяртаўся, то дрэнна яму рабілася: усё было некранута. Аднаго разу, калі гаспадыня напрагла яечні і гаспадар ужо і не спадзяваўся, што ягоны дарагі госць паесць, яечні на патэльні не было. Зразумеў селянін, чым трэба карміць свайго памочніка, і цяпер кожнага дня жонка пякла яечню ў вялікай патэльні і стаўляла яе на прыпек.

Хто яго ведае, колькі часу так цягнулася б, каб не надарыўся адзін выпадак.

Справа ў тым, што селянін той разбагацеў незвычайна і зямлі займеў таксама багата. Сам яе, канешне ж, не апрацоўваў — надта трэба жылы рваць, таму наймаў работнікаў.

Дык аднаго разу галодны работнік, бо гаспадар іх карміў вельмі блага, выгледзеў, што гаспадыня паставіла на прыпечак яечню, і, дачакаўшыся, калі ўсе пакінулі хаціну, з'еў усё дачыста. Гад той, прачнуўшыся, падаўся да прыпечка, але на патэльні нічога не было. Раззлаваўся нячысты дух, пачаў шыпець і па хаце посуд біць. Падалося яму, што вясковец гэта спецыяльна падрабіў. Да глыбокай ночы шалеў нечаканы памочнік, а потым пакінуў багатую гаспадарку. Праўда, перад адыходам падпаліў будынкі разам з незлічонымі падарункамі. Вось дзе гарлаў багаты селянін:

— Ратуйце, людцы! Ратуйце! Нічога не пашкадую! Кожнаму аддзячу, толькі не стойце, залівайце агонь!

Ды не надта спяшаліся рваццa вяскоўцы, бо добра ведалі, што гэта за чалавек. Таму толькі пакрыквалі ды мітусіліся.

А сусед, які таксама на пажар прыйшоў, пастаяў крыху і збіраўся ўжо ісці дамоў, як заўважыў звычайнае кола, да якога агонь падбіраўся, і падумаў: «Навошта яно гарэць будзе? Няхай лепей у мяне ляжыць...» Узяў кола і перакінуў праз плот, у свой агарод. На самай жа справе аказалася, што перакінуў ён таго нячыстага духа. З таго дня ў суседа ўсё стала вадзіцца і пладзіцца, а ён не разумеў, адкуль, і хадзіў па людзях і казаў, што гэта нейкая ціхая Божая воля на ягоны падворак спусцілася, бо раней, колькі ні прасіў, колькі ні хадзіў у царкву, — нічога не дапамагала. А вось тут...

З таго дня і стала паселішча Ціхай Воляй, а потым ужо перайначылася ў Ціхаволю.



# СЛОНІМ

Даўнім часам на месцы нашага горада стаяла вялікае-вялікае возера. Канца і краю яму не было. Як уздымаліся хвалі высачэзныя — нішто не дапамагала. Смерць немінучая чакала тых людзей, якія траплялі на той момант у бліжэйшыя ваколіцы. Можа, на цэлую вярсту вада залівала ўсё вакол — так далёка выходзіла.

Дурная слава хадзіла пра гэтае возера. Дарослыя малым дзецям пра яго распавядалі, каб тыя баяліся і не лезлі туды. Палохалі, што вылезе, маўляў, адтуль страшыдла і праглыне іх, калі не будуць слухацца. І паселішчы свае будавалі з такой нагоды вёрстаў за дваццаць, не бліжэй, ад возера.

Аднаго разу ехаў па тых мясцінах дужа багаты князь. Некаторыя людзі гавораць, што гэта быў нехта з Алелькавічаў, а які з іх — дакладна невядома. Ехаў князь, канешне ж, не адзін, а з дружынай. Ці то прагуляцца вырашыў па тым краі, ці то, можа, з паходу якога вяртаўся — таксама ніхто не ведае.

Мужныя воі да многага прызвычаіліся, але дзіўная цішыня, якая тут стаяла, іх насцярожвала. І самае галоўнае — колькі ўжо часу ехалі, а людзей не сустракалі. Нібы вымерла ўсё. Прыгажосць неапісальная, лясы пер-

шастваральныя, звяроў ды птушак мноства і ніводнага чалавека.

Ссівелы князь, як і належыць валадару, ехаў наперадзе. Думаў нейкую сваю адвечную думу, маркотна пазіраў на гэткую прыгажосць, але твар ягоны не выказваў аніякага задавальнення, відаць, ела яго нейкая іншая думка.

Ззаду пачуўся цокат капытоў, і да князя падляцеў вой у дарагой, бліскучай кальчузе. Стрымаў свайго разгарачанага каня і ціха прамовіў, схіліўшыся амаль што да самага твару валадара:

— Нешта тут не тое, княжа. Нешта не тое...

— Чаму? — Азірнуўся той.

— Не падабаецца мне ўсё гэта.

— Мала што табе не падабаецца. І ў мяне зараз настрой не з лепшых, але гэта не азначае, што трэба шукаць нейкую зачэпку...

— Ды не, княжа, мне зусім іншае здаецца... Здаецца, што ўцякаць адсюль тэрмінова трэба, каб ліха не здарылася...

— Дазоры, віжы наперадзе ды па баках нашай дружыны едуць? — засяроджана запытаўся валадар.

— Гэта зроблена, гаспадар, належным чынам. Хіба ж мы з табой у першым паходзе, і я не ведаю, што такое асцярога?

— Прабач, але мне падалося...

— Не гэта, княжа, не гэта. Вось нешта ціснe,валіць на душу, нібы падказвае, што хутчэй мінаць мясціну трэба.

— І так жа на месцы не стаім. За дзень вунь колькі праехалі. Бачыш, ужо справа на вечар хіліцца, трэба зноў месца для начлегу прыглядзець, пасты заранеей выставіць...

— Зраблю, княжа. — І ваявода, а гэта быў менавіта ён, павярнуў каня.

Цяпер хваляванні бывалага воя перадаліся і самому валадару, і ён пачаў шукаць прычыну гэткай незвычайнай цішыні. Тым часам праехалі яшчэ нейкіх пару вёрстаў, і сонца зусім ужо схавалася за верхавіны дрэваў. Да князя падляцеў вершнік:

— Гаспадар, мяне паслаў ваявода перадаць, што знайшлі зручную для начлегу мясціну.

Неўзабаве лес напоўніўся гучнымі галасамі. Дружын-

нікі палілі вогнішчы, варылі есці, а частка стала на варту.

Князь моўчкі сядзеў ля вогнішча. Ззаду трэснула галька, і валадар, уздрыгнуўшы, павярнуўся і ўбачыў ваяводу і аднаго з дружыннікаў.

— Што? Можа што здарылася? — Голас гучаў усхваляванна.

— Не, княжа, нічога благога не здарылася. Проста я знайшоў сярод нашых вояў чалавека, які крыху ведае гісторыю гэтых мясцін. Думаю, табе будзе цікава паслухаць.

— Што ж, чалавеча, распавядзі нам пра тое, што табе даводзілася чуць.

— Калі я, княжа, быў яшчэ зусім малы, то мне мой дзед гаварыў, што ў гэтым краі ёсць вялізнае возера і людзі баяцца непадалёку ад яго не тое што спыніцца, але нават прайсці ці праехаць.

— А чаму? — Валадар ажно прыўзняўся.

— Дзед казаў, што з возера вылазіць нейкая пачвара і ўсё навокал паядае, калі яна варушыцца, то ўздымаюцца вялізныя хвалі, якія навальваюцца на берагі і ўсё на сваім шляху зносяць.

— Так, невясёлую ты мне гісторыю распавёў. А як часта такое гора здаралася?

— Не ведаю, княжа.

— Што ж, будзем спадзявацца на тое, што мы знаходзімся далёка ад таго заклятага возера і што нас пачвара не закране. Давайце класціся спаць, бо заўтра на світанку рушым далей...

Калі ўжо добра сцямнела, загуло ўсё навокал, застагнала адвечная пушча, і такая страшэнная бура ўзнялася, што здаровыя дрэвы, нібы чарацінкі тоненькія, да зямлі прыгінала, з карэннямі вырывала, ламала-трушчыла ды на многія дзесяткі крокаў перакідала. Мала гэтага, коні пачалі без дай прычыны біць капытамі і ржаць, нібыта адчувалі нейкую небяспеку. Потым загрукатала зямля. Здавалася, што скача шматтысячная цяжкая конніца. Але якая конніца ў такім непралазным лесе? Не разумеючы, што адбываецца, вартавыя вырашылі будзіць людзей.

Князь спаў гэтак соладка, як можа спаць толькі малое дзіця, набегаўшыся ўволю. Звычайна ён спаў вельмі чуй-

на, няхай толькі якая голька трэсне ці хто неасцярожна ступіць, валадар адразу падхопліваўся, а тут...

Дык вось спіць валадар, і сніцца яму дзіўны сон. Быццам бы ён, зусім яшчэ малады юнак, выбіраецца з бацькам у паход. А матуля, пахмурая і невясёлая, глядзіць у акенца — і па ўсім відаць — не хоча адпускаць іх. Калі стары князь з сынам ад'ехалі крыху, маці наўздагон ім крыкнула:

— Калі што здарыцца, то маліцеся да Бога, каб дапамагаў вам, каб не кідаў на пагібель, бо болей ніхто не дапаможа. Запомні гэта, сыночак. І засталася стаяць ля акна ў нейкай дзіўнай вопратцы — чысцюткай, белай-белай, што ажно вочы сляпіць...

Даглядзець сон князю не давялося, бо нехта настойліва катурхаў яго за плячук.

— Валадар, валадар, прачніся. Прачніся, валадар...

Расплюшчыў князь вочы і здзівіўся — прама перад ім стаяў ваявода з некалькімі воямі.

— Што, што здарылася?

— Нічога пакуль што не здарылася, княжа, але, відаць, можа здарыцца. Навокал такое робіцца...

Тут толькі князь пачуў гул, трэск.

— Дык гэта такая бура ўсхадзілася? А я нічога не чую, сплю сабе як ні ў чым не бывала...

— Так, валадар, па гэтай нагодзе і звяртаемся, каб чаго дурнога не здарылася, бо ўсё грукоча і зямля трасецца...

Узгадаў князь свой сон. Калі ён апошні раз на матулю азірнуўся, то стаяла яна на высокім кургане. Таму закрычаў валадар:

— Ратуйцеся! Ратуйцеся хутчэй! Усе на курган узбірайцеся! Даспехі хапайце, коней не кідайце! Хутчэй! Хутчэй, бо прамаруджванне можа нам дорага каштаваць!

Ваявода стаяў побач і нічога не мог зразумець. А князь усё прыспешваў:

— Хутчэй! Варту ўсю паздымайце!

Тут да валадара падбег той самы стары дружыннік, якога вечарам ваявода да яго прыводзіў. Падляцеў і слова вымавіць не можа — гэтак расхваляваўся.

— Што, чалавеча? — запытаўся князь.

— Гэта яна, валадар, яна...

— Хто?

— Пачвара з возера вылезла і ўсхвалявала яго. Дзед тады таксама грукатанне ды навальніцу страшэнную згадваў.

Пазбіваліся дружыннікі на высокім кургане, а навокал — толькі паваленыя абы-як ствалы дрэваў ляжаць. Валадар і тут вырашыў засцерагчыся:

— Усім легчы на зямлю! Хавайцеся за дрэвы, за кустоўе! Ямы капайце! Беражыцеся!

Раптам нехта спалохана закрычаў:

— Бяда, браткі, бяда!

— Што там яшчэ?

— Вада залівае ўсё навокал! Глядзіце самі!

І сапраўды, вада падымалася ўсё вышэй і вышэй, і што самае галоўнае — гнала яе магутнымі хвалямі.

— Усё, прапалі! — не сваім голасам загарлаў маладзенькі вой, які ці не першы раз быў у паходзе.

Самае страшнае ў такіх справах — паніка, і гэта выдатна разумеў князь.

— Спакойна, воі, спакойна! На калені ўсе, будзем маліцца, каб Усявышні дараваў нам грахі нашы ды паслаў выратаванне!

Так і зрабілі, і праз колькі часу адбылося дзіўнае — нешта грукнула зусім побач, закалаціўся курган, здавалася, яшчэ момант — і ён праваліцца скрозь зямлю, але... вецер умомант заціх, дождж перастаў, а вада пачала асядаць. Той самы стары вой прамовіў ціха:

— Пачвара ў бярлог свой назад пайшла... Бачыш, княжа, і вада адступае...

Калі ўсе супакоіліся, то ўбачылі ў нейкай сотні крокаў ад кургана вялізны-вялізны камень. Воі хмурна пазіралі на яго.

— Не хапіла крыху сілы ў таго страшыдлы, а так бы на наш курган і гопнула.

— Было б нам апошняе трызненне.

— А не было б, — умяшаўся той самы маладзенькі дружыннік, які гэтак голасна гарлаў, — не было б...

— Чаму?

— Не паспелі б...

— Што?

— Патрызніць.

Грымнуў такі смех, што здавалася, камень той сам па сабе назад пакоціцца. Калі высмеяліся, супакоіліся, то слова ўзяў князь:

— Вось што, другі мае верныя! Выратаваліся мы сёння цудам ад непазбежнай смерці, таму паселішча тут закладзём і царкву паставім на самым пагорку, каб здалёк яе відаць было.

Дружна закіпела праца. Але як ні стараліся воі, як ні напружваліся, работы на добры месяц хапіла. Пакуль выкапалі глыбокія двайныя рвы, пакуль насыпалі, дзе трэба было, высачэзныя валы ды ўмацавалі ўсё дубовым частаколам, то і восень пачалася. Але яна была не страшная — жыллё збудавалі і абаронена яно было надзейна. І тут аднаго разу ваявода прывёў да князя маладзенькага дружынніка.

— Валадар, тут хлапчына, па-мойму, справу гаворыць. Як бы нам гэта ўсё зрабіць?

— А што ён прапануе?

— Трэба, княжа, той камень вялізны, што ляжыць за валам, прымеркаваць так, каб ён лёг насупраць уязной брамы. Тады падчас якой аблогі ён будзе якраз перад варотамі: ні таранам іх не возьмуць, ні прама не палезуць...

— Слушная прапанова, слушная, — пагадзіўся князь,— але ж мы яго з месца не зрушым, чалавеча...

— А мы, княжа, з ваяводам вось што вырашылі. Яго і не трэба з месца кранаць. Проста трэба вывесці браму крыху наперад.

— Вось малайчына! Гэта ж трэба, да такога дадумацца! Мне б і ў галаву такое не прыйшло, а тут... Вось малайчына!

Як параіў той малады дружыннік, так і зрабілі. Калі працу скончылі, то сталі ўсе на высокім вале і залюбаваліся тварэннем уласных рук, а нехта не ўтрываў і прамовіў:

— Бачыш, як добра выйшла... Як услонім спецыяльны падсунулі пад браму...

Так за тое слова і ўхапіліся. З таго дня паселішча сталі зваць Услонімам, а з цягам часу назва перамянілася і засталося — Слонім.

# АЗЯРНІЦА

Наша вёска ад вайны з французамі пайшла. І не толькі наша, а і дзве суседнія — Драпава і Збочна. Паслухайце, як гэта ўсё адбывалася.

Напалеон са сваімі войскамі многа ліха ўсялякага мясцовым жыхарам панарабіў. Уявіце сабе, што былі на шыях паны, а тут іх у некалькі разоў прыбавілася. Гэта значыцца, што ўсім трэба было падпарадкоўвацца, бо слова-другое супраць скажаш — і можаш развітвацца з жыццём: ці стрэляць, ці шабляй па галаве ўрэжуць, і ніхто не заступіцца, бо супраць збройных не надта папрэш.

Пан, што валодаў гэтымі землямі да французаў, з расейцамі не пабег, а застаўся чакаць чужынцаў. Справа ў тым, што Напалеон усім памешчыкам, якія не будуць перашкаджаць ягоным войскам, яшчэ зараней абяцаў усялякую падтрымку і шматлікія прывілеі. Вось яны і чакалі яго, нібы сусветнага вызваліцеля. Наш памешчык схаваўся ў лесе разам са слугамі, калі казакі соўгаліся па наваколлі ды прымушалі вяскоўцаў спальваць свае хаціны-будыніны, сена, а самім ісці за адступаючай арміяй. З памешчыкамі яны, канешне, так не абыходзіліся, але загад, тым не меней, быў надзіва суровы — усім заможным і багатым ісці за арміяй, а то і паперадзе яе, каб ніхто, даруй Божа, не застаўся.

Так некалькі дзён, а можа, і цэлы тыдзень, сядзелі. Справа ў тым, што расейская армія доўга адступала. І вось аднаго дня прыляцеў да пана ўзмылены вершнік:

— Пане, казакі адступаюць.

— Вось гэта добра...

— Ды што тут добрага. Яны, відаць, мяркуюць твой палац падпаліць, бо сена вазамі на падворак возяць і вакол будыніны скідаюць.

— А што ж рабіць, людцы добрыя? — заляпаў рукамі сябе па жываце памешчык. — Што рабіць? Яны падпаляць, а потым на французаў звернуць. Мне-то ўсё роўна, хто спаліць, калі голым па свеце белым пусцяць. Што ж рабіць?..

Пан той неблагім чалавекам быў: не надта сялян прыціскаў, даваў усім пажыць і ў дапамозе не адмаўляў. Таму тут ягоныя работнікі ды сяляне і сталі думаць-разважаць,

якое выйсце знайсці з незайздроснага становішча. Адзін з іх, стары паляўнічы, Уладакам яго ўсе звалі, і гаворыць:

— Толькі не спяшайся, паночку, толькі не спяшайся, а то такога навернем, што потым горай за расейскае ці за французскае табе падасца. Толькі не спяшайся.

— Як жа не спяшацца, калі праз нейкую хвіліну дым да неба пацягне?

— Што-небудзь прыдумаем. Я прыдумаю, але давайце пойдзем да ўскрайку лесу, каб потым бліжэй было дабірацца да палаца...

Выстраіліся адзін за адным па лясной сцяжынцы і пашыбавалі да ўскрайку. Першым джгаў паляўнічы, а за ім, сапучы яму ў спіну, браўся сам пан. Не адставаў і не скардзіўся, што цяжка. На коней не сядалі, бо баяліся, каб яны людзей незнарок не выдалі сваім тупатам. Не ведалі ж дакладна, што казакі далей рабіць будуць і куды пабягуць, а раптам на іх выб'юцца? Таму коней вялі маладзейшыя работнікі, замыкаючы даволі-такі доўгі ланцужок.

Неўзабаве выйшлі на ўзлесак, ад якога, мажа, крокаў трыста ці чатырыста да палаца заставалася, і стаіліся. Казакі сенам палац з усіх бакоў абвалілі і нечага чакалі, стаялі ля коней і нецярпліва азіраліся.

— Самі баяцца, — прашаптаў стары паляўнічы.

— Адкуль ты ўзяў, дзедка? — пацікавіўся нехта з сялян.

— Паглядзі, як круцяцца, — што тыя ўюны на патэльні. Баяцца.

— А нам што з гэтага? І пана спаляць, і нашыя будыніны тады зоймуцца, — са шкадаваннем вымавіў нехта.

— І нам выгада ёсць...

— Якая? Што спаляць? — не зразумелі астатнія.

— Не, хлопцы. Што баяцца, — катэгарычна адрэзаў паляўнічы. — Глядзіце, як проста я зараз становішча выпраўлю, — і памкнуўся ісці.

— Ты куды? — нецярпліва кінуліся да яго сяляне.

— Вы, хлопцы, сядзіце спакойна і адно толькі — сачыце пільна, як усё будзе адбывацца. Ну, а калі што, дык не губляйцеся, уцякайце ў пушчу, там вас ніхто не знойдзе. Ды і шукаць не стане... Пра мяне благога не думайце.

Паляўнічы зрабіў пару крокаў наперад, і памешчык падаўся за ім.

— Не, паночку, я сам усё зраблю. Калі атрымаецца, як я задумаў, то ўсё цэлым застанецца. Вы адсюльназірайце, пра астатняе я вас папярэдзіў...

Цяпер стары пакрочыў даволі хутка, а праз нейкі дзесятак крокаў і ўвогуле прыпусціў бегам напрасткі. Кіраваў на казакоў, якія па-ранейшаму нечага чакалі, стоячы на падворку.

— Бяжыць, як птушка ляціць, лёгка, нібыта пятнаццацігадовы.

— Вядома, паляўнічы, яго ногі кормяць.

— А што, калі прадасць? Мы ж і ўцячы не паспеем, — раптам захваляваўся нехта.

— Хто прадасць? — сурова загуў каваль, які дагэтуль маўчаў. — Ты якое права маеш на чалавека абы-што плявузгаць? Хто гэтага чалавека ведае і яшчэ раз пра яго благое скажа, то справу са мной будзе мець. Усе зразумелі?

Зразумелі ўсе, і ўмомант, а справу з кавалём мець таксама ніхто не пажадаў, нават памешчык. Цяпер сачылі моўчкі, напружанне дасягала вышэйшай кропкі.

Паляўнічага ўжо заўважылі казакі, але з месца не рухаліся. А дзед бег і... пачаў аглядвацца. Потым нешта закрычаў, а вось што...

— Прадасць, дальбог, прадасць, — не вытрымаў і зноў узарваўся нехта з сялян.

У адказ атрымаў магутны ўдар кулаком.

Стары тым часам падбег да казакоў і... пачаў паказваць на тое месца, дзе сядзелі, стаіўшыся, сяляне з панам. Цяпер ужо і астатнім падалося, што паляўнічы вырашыў выдаць сваіх сябрукоў. Некаторыя, найбольш нястрыманыя, ужо гатовы былі задаць лататы. Пан разгублена азіраўся. Са сваім вялізным чэравам ён бы хутка не пабег і стаў бы лёгкай здабычай для казакоў. Толькі каваль спакойна сядзеў за кустом і... па-ранейшаму глядзеў на маёнтак.

— Супакойцеся, супакойцеся, зараз усё праясніцца, — суцішаў ён.

— Ага, праясніцца. Дачакаемся, пакуль нас усіх

французы за каўняры пахапаюць ды перавешаюць, — пачуўся знаёмы ўжо голас.

— Не можа такога быць, хлопцы, каб дзедка нас падвёў... Не веру и ў гэта, бо вельмі добра яго ведаю, ён жа з маім бацькам сябраваў. Ніколі слова пра яго благога не чуў. Ды і якая яму карысць пра нас расказваць, што ён за нас ад казакоў атрымае?

Усе маўчалі. Раптам каваль ускрыкнуў:

— Глядзіце, хлопцы, глядзіце!

Усе ўтаропіліся на палац. Там бегалі, мітусіліся казакі, а праз нейкае імгненне дружна паляцелі вершнікі, але не ў накірунку лесу, а па той самай дарозе, па якой пару дзён таму адступала расейская армія.

Стары паляўнічы некаторы час стаяў і чакаў, пакуль сціхне пошчак капытоў, а потым замахаў рукамі і нешта крыкнуў.

— Пайшлі, хлопцы, ён кліча нас, — устаў з-за куста каваль.

— А калі засада?

— То ты тут пасядзі, а мы па цябе потым прыйдзем, — прамовіў у адказ здаравіла каваль.

Усе засмяяліся, і смех гэты зняў напружанне. Папраставалі прама да палаца.

Стары паляўнічы радасна сустрэў іх:

— Гаварыў я вам, што ўсё добра атрымаецца?

— А што ты ім сказаў, дзедка?

— Сказаў, што французаў бачыў. Яны лесам прабіраліся і меркавалі іх, казакоў, у палон захапіць. Расейскі афіцэр у падзяку мне нават рубель падараваў.

Усе моўчкі пачалі разглядваць рубель, і памешчык таксама, нібыта ўпершыню бачыў. Потым ён схамянуўся і нечакана прамовіў:

— За тое, што ты сёння для мяне зрабіў, чалавеча, я табе сотню такіх падарую! Сотню! У сведкі ўсіх бяру!

Запанавала цішыня. Няёмкая цішыня, бо паляўнічы не за грошы гэта рабіў. Усе адчувалі нязручнасць: і сам памешчык, і сяляне, але парушыў яе зноў-такі стары:

— Але ж і паджгалі! Нават азірнуцца забыліся!

— Ага, азірнуцца, — дадаў нехта. — Ім зараз не да гэтага, яны ад французаў уцякаюць!

Зноў засмяяліся. Адзін толькі пан ціхенька прамаўляў:

— Азірнуцца... Азірнуцца... Не, не азірнуцца.

Вось адтуль і пайшла наша Азярніца, ад таго самага выпадку.

## ВАЎЧУНЫ

Калі Бог усё жывое на зямлі ствараў, то цяжка яму даводзілася. Гэта ж толькі ўявіце: перш-наперш зямлю саштукаваў, потым лясы ды горы, рэкі ды азёры, потым за людзей узяўся. Трэба было глядзець, каб дзе не схібіць, бо на стагоддзі вечныя ўсё рабіў.

Аднаго разу стаміўся Бог так, што ўжо ногі ледзьве перасоўваў, але ўсё ж спрабаваў дабрацца да тае высокае гары, дзе звычайна спаў. Вырашыў прысесці па дарозе на каменьчык і перадыхнуць, бо адчуваў, што яшчэ крок-другі — і можа проста на зямлю зваліцца. Выгледзеў камень побач са сцяжынкай, сеў на яго, вочы заплюшчыў, стома пакрысе пачала адыходзіць, і ён задрамаў. Але праз некаторы час адчуў, што нехта катурхнуў яго за плячук:

— Божанька, уставай! Уставай, чуеш? Чаго гэта ты тут прыляпіўся? Ці месца лепшага не знайшоў? Ажно сорамна за цябе, на камені нос звесіў, нібы жабрак апошні! Уставай, чуеш?!

Прабудзіўся Усявышні, ашаломлена галавой пакручвае, углядаецца, хто гэта асмеліўся яго адпачынак парушыць. Прыгледзеўся добра — а гэта нячысцік перад ім выгінаецца, хвастом сваім агідным па спіне паляпвае.

— Што табе трэба? Чаго будзіш мяне, справы табе іншае нестае? — накінуўся на чорта Бог.

Але той не з палахлівых быў.

— Бачу, сядзіш, вось-вось на бок брыкнешся — смяяцца будуць, таму і вырашыў разбудзіць цябе ды пасабіць, можа, у чым, калі ты так за дзень натоўкся...

Па душы прыйшліся такія словы Усявышняму. Ніхто яшчэ яму свае паслугі не прапаноўваў, а тут... Але выгляду не паказаў.

— Ды не, дзякуй, я і сам як-небудзь упраўлюся, а за

тое, што не даў магчымасці ўсялякім дурням насмяяцца, — яшчэ раз дзякуй. Я гэтага не забуду.

Чорт ад гэткіх слоў у тры столкі спіну сваю выгнуў і ледзьве не да твару хвост паднёс.

— А можа нечым усё ж дапамагу?

— Ды не... Чым ты можаш дапамагчы?

— Ну, і каго-небудзь на свет белы ствару ды выпушчу...

— Калі ўжо так хочаш, то паспрабуй. Але што ж ты ствараць будзеш?

— Яшчэ дакладна не ведаю, але як зраблю, то абавязкова прынясу і табе пакажу, каб ты паглядзеў, ці добра атрымалася, і, можа, параіў нешта выправіць...

На гэтым і разышліся. Стомлены Бог пакіраваў на гару і адразу ж спаць уклаўся, а чорт палянцеў да балаціны, дзе прыняўся за працу. Усю ноч працаваў — нешта з гліны рабіў.

Усявышні раніцай устаў і забыўся, пра што з нячысцікам учора дамаўляўся, — ці ж мала ў Бога спраў іншых. Сабраўся і пашыбаваў рабіць самае неадкладнае. Ідзе, па баках азіраецца, радуецца, што ўсё прыгожа і хораша вакол, з радасці нават песеньку пачаў высвістваць. Ажно тут нешта грымнулася яму пад ногі, Усявышні за грудзі схапіўся:

— Ой, што гэта? Што гэта мяне так палохае?!

У адказ пачуўся вясёлы смех. Прыгледзеўся Усявышні — гэта ягоны знаёмы, нячысцік, толькі ўвесь страшэнна вымазаны, брудны, у нейкай ці то гліне, ці то балотнай траве, і несла ад чорта так, што хоць ты нос затыкай і дыхаць у другі бок адварочвайся.

— Што табе на гэты раз трэба? Ці ж ты не мог спакойна падысці? Абавязкова трэба было прыгнуць ды мяне перапудзіць да паўсмерці?

— Прабач, Божанька, але надта спяшаўся паказаць тое, што зрабіў...

— Што ж ты зрабіў і калі паспеў?

— Ды я ноч не спаў.

— Бачыш ты, які шустры. То паказвай...

Нячысцік кінуўся ў кусты і праз момант выцягнуў нешта не надта зразумелае: калі каня — надта ён быў малы

і нейкі гарбаты, калі сабаку — дык вялікі і ласкавы з выгляду.

— Што гэта? — спытаўся Бог.

Чорт маўчаў, чакаў, мабыць, пакуль Усявышні сам здагадаецца. Але як той ні меркаваў, як ні прыкідваў — ніяк прыдумаць не мог.

— Дык воўк жа гэта, Божанька.

— Воўк? — здзіўлена перапытаў Усявышні. — Не падобны...

— Чаму?

— Не падобны, і ўсё на гэтым.

— Ты адкажы, чаму, а то толькі адмаўляеш.

— Вялікі занадта для ваўка.

— Зразумеў. Цяпер пабягу і папраўлю, а потым зноў табе пакажу.

Нячысцік джгнуў у карчы, прыпаў на купіне і давай далей сабе майстраваць. Не адпачываў, і недзе пад самы полудзень перарабіў зусім па-іншаму ваўка і вырашыў зноў да Бога цягнуць, каб той сваю думку выказаў. Доўга шукаў Усявышняга, а той, нібыта назнарок, зашыўся ў такую далячынь, што на самым хуткім кані ляцеў бы паўдня. Пакуль да яго чорт дабраўся, то і язык на спіну закінуў. Адсопся і гамоніць:

— Вось, глядзі, усё перарабіў. Цяпер воўк самы сапраўдны атрымаўся. І паставіў перад Богам тое, што называў ваўком.

— І гэта ты называеш ваўком?

— А што, хіба не падобны?..

— Ды гэта ж цялюк нейкі, ні ў якім разе не воўк! Ідзі і зноў перарабляй!

Паплёўся чорт у балаціну, але на гэты раз без вялікай ахвоты. Сеў на купіну і прызадумаўся, а потым лёг на траву і захроп на ўсё балота, вырашыў, што нічога перарабляць не будзе, пакажа на наступны дзень Богу тое ж самае.

Толькі сонца ўзышло — чорт ужо штурхаў Усявышняга:

— Божа, зрабіў. Глядзі, атрымалася ці не?

Той раззлавана адкінуўся, глянуў на тое, што нячысцік прывалок, ды як закрычыць на ўвесь свет:

— Ты з кім гэта жартаваць уздумаў?! Ты што, дума-

еш, я і не здагадаўся, штс ты мне тое ж самае прыцягнуў?!

Схапіў таго ваўка за хвост ды як пачаў круціць над галавой, як пачаў размахваць, а чорт спалохаўся і кінуўся ўцякаць. Бяжыць, а яго крык даганяе:

— Не воўк гэта! Не воўк, а ваўкун нейкі недароблены!

Шпурнуў Бог ваўка таго з усяе сілы — ён на дробныя часткі і рассыпаўся па ўсім свеце. Адна частка ў нашыя мясціны ўпала, таму і вёска стала на гэтым самым месцы — Ваўчуны.

## ПАДГОРНАЯ (Блошкі)

Некалі тут такое здарылася, што і да гэтага часу з мясцовых жыхароў суседзі смяюцца ды пальцамі тыркаюць, нібыта тыя грэх які цяжкі ўчынілі ці што дурное здзейснілі. А атрымалася ўсё наступным чынам. Паслухайце.

Жыў тут на хутары, што на ўзлеску стаяў, адзін селянін. Звалі яго Пятром. Дасціпны чалавек быў, працавіты, сябе не шкадаваў, гнуўся на ніве з раніцы да позняга вечара, каб неяк на кавалак хлеба выбіцца, каб сямейку пракарміць, каб нястачы не ведаць.

Належаў ён аднаму пану, злому, непрадказальнаму чалавеку. Вось уздумаў той пан увесці ў сябе такі закон: кожную ноч хто-небудзь з сялян павінен быў ахоўваць ягоныя харомы. На слуг ён не надта спадзяваўся, гаварыў усім, што яны найпершыя зладзеі і за імі самімі вока ды вока патрэбна. А маёнтак жа вялікі. Паспрабуй усё дагледзець, за ўсім прасачыць.

Спачатку людзі думалі, што хоць адаспацца можна будзе, ці ж стане памешчык сам за ўсім сачыць. Але такія спадзяванні ў хуткім часе развеяліся, бо ў першую ж ноч гаспадар злавіў соннага вартаўніка і загадаў такіх лозаў даць, што селянін ледзьве дамоў дабраўся.

Прыйшла чарга і Пятру ісці да пана вартаваць. Развітаўся ён на ўсялякі выпадак з жонкай, з дзеткамі, узяў торбачку, куды гаспадыня паклала перакусіць, і пакіраваў да палаца. Прыйшоў, а памешчык яго ўжо чакае.

— Што, чалавечку, сёння ты за маімі будынінамі глядзець будзеш?

— Так, пане, я.

— То глядзі пільна, каб нічога не ўкралі, бо за любую драбніцу сурова пакараю, але найболей за тое, калі знайду цябе спячым. Так і запамятай.

— Запамятаў ужо, пане.

— Усе да цябе гэтак гаманілі, [redacted] потым па-іншаму аказваліся.

— У мяне, пане, так не атрымаецца. Я калі сказаў, то слова ўласнае трымаю.

Пагаварылі так, і пайшоў Пятро глядзець за панскімі будынінамі. Ходзіць сабе між свірнаў, між даўжэнных адрын і ўсё мяркуе, як бы гэта прысесці ды хоць крышачку адпачыць, бо за дзень на ўласным полі набегаўся, а тут яшчэ такая служба. Думаць-то думае, але ж баіцца, што раптам засне.

Тым часам ужо і другія пеўні пракрычалі. Зусім змарыўся вясковец. Азірнуўся і вырашыў прысесці на пару хвілін, нібыта вяроўку на анучах параматаць — такую гаворку прыдумаў. Сеў на камень за сцяной свірна, прыхіліўся да цёплых бярвенняў і... нечакана для сябе ўмомант задрамаў. Нават сон прысніў, што не панскія будынкі вартуе, а ўласнае дабро ахоўвае. Павярнуўся на другі бок і тут чуе, што нехта да яго ласкава звяртаецца:

— Чалавеча, хочаш, я табе дапамагу вартаваць? Зраблю так, што ніхто да цябе не палезе...

— Зрабі.

— Але і ты мне службу саслужы...

— Якую?

— Ды так, драбяза, а не служба... Я спытаюся, а ты адкажаш — і ўсё на тым.

— Давай, чаму б і не...

— Тады спі спакойна і нічога не бойся, а я прыйду да цябе праз пару дзён.

Тут нешта як закрычыць, як залапоча крыллямі прама над галавой — бедны Пятро ледзьве не ашалеў. Усхапіўся і ніяк дацяміць не можа, дзе ён і што за дзіўныя крыкі яго ўзнялі. Пакуль вочы працёр, пакуль у сябе прыйшоў — не адна хвіліна прайшла. Бачыць, а гэта яго певень так усхадзіўся. Плюнуў са злосці і прамовіў:

— Ну вось, хвала Богу, і ноч мая прайшла-праляцела...

Тым часам памешчык выйшаў на ганак і пытаецца:

— То як, чалавеча? Ці ўсё добра было, ці не здарылася дзе якой пакражы?

— Ды не, паночку, — схіліўся ў паклоне селянін.— Раніцой толькі туман без дазволу над тваімі ўладаннямі праплыў, астатняе ў парадку.

Спадабаліся такія словы гаспадару, ён нават залатоўку даў вяскоўцу за спраўную службу і адпусціў дахаты.

Ідзе Пятро, з радасці песню загарлаць гатовы. Яшчэ б, такога дагэтуль не здаралася, каб пан звычайнага вартаўніка ўзнагародзіў. Амаль ужо дамоў прыйшоў, і тут раптам яго, нібы якім калом, па галаве цюкнула: «А хто ж гэта ноччу са мной размаўляў, пра нешта нават і дамаўляліся?» Імгненна настрой прапаў, на сэрцы маркотна зрабілася, нібы адчуваў, што благое павінна адбыцца. Такім кіслым і ўсунуўся ў хаціну, а там жонка ўжо снядакак на стол ставіць, бо яшчэ здалёк чалавека свайго ўбачыла.

— Чаго гэта ты, Петрык, такі невясёлы? Можа і цябе памешчык злавіў, як ты на ягоным вартаўніцтве спаў?

— Ды не. Але, здаецца, нехта ноччу са мной у сне размаўляў, нечага ўсё дапытваўся...

— Раскажы мне пра ўсё, можа, я чым і дапамагу.

Так Пятро і зрабіў, а тая толькі рукой у адказ махнула:

— Еш, пакуль не астыла, а гэта ўсё не бяда, да вечара што-небудзь прыдумаем.

Пад'еў Пятро і заваліўся спаць. Пасля пайшоў на ніву араць, маркотныя думкі крыху адступілі. Прыйшоў дамоў, павячэралі, дзяцей спаць паклалі, жонка і кажа гаспадару:

— Я спаць не буду, займуся якой справай у хаце, а ты вартуй пад акном. Не можа быць, каб тая невядомая істота сёння не прыйшла. Хапай тады яе за каршэнь і бі цурбалкам добрым да той пары, пакуль не распавядзе, што там да чаго трэба...

Стаіўся Пятро са здаравенным цурбалкам у руках насупраць акна, услухоўваецца. Доўга чакаў. Нарэшце другія пеўні пракукарэкалі, і ён пачуў, што нехта кра-

дзецца па падворку. Потым убачыў цень ля сцяны, зайшоў ззаду і пайшоў за ім. Істота тая падышла да акна, зазірнула ў хату і замерла. Потым да вяскоўца данеслася: «Што ж гэта яна там робіць?» А справа, бачыце, у тым, што, каб не заснуць, гаспадыня задрала спадніцу і пачала ганяць з цела блох, бо спасу ад іх не было. Гэтая карціна і ўразіла істоту, і яна ўсё глядзела і паўтарала: «Што ж гэта яна там такое робіць?..»

Гаспадар не стаў болей чакаць і зрабіў так, як яго жонка падвучвала: ухапіў за хвост, які якраз пад руку трапіўся, і давай пярэсціць без жальбы. Істота нема вые, ды Пятро таксама не маўчыць:

— Што робіць, пытаешся? Блошкі гоніць!

Трапаў таго нячысціка да тае пары, пакуль сам не саміўся, потым толькі выпусціў. Той як папёр, як паімчаў, то, можа, за пару вёрстаў праз хвіліну апынуўся. Бег і ўсё крычаў:

— Блошкі гоніць! Ой, блошкі гоніць!

Так той хутар Блошкамі і застаўся, а потым і да вёскі назва прыліпла. Падгорнай вёска стала, можа, гадоў трыццаць таму назад.

## ПАЎЛАВА (Пузавічы)

Жылі-былі ў адной вёсцы два браты. Бацькі іхнія памерлі, засталіся сыны за гаспадароў. А звалі іх Іван ды Сцяпан. Надышоў час, і браты ажаніліся. Старэйшы, Іван, жонку ўзяў багатую, прыгожую, зямлі за ёю адхапіў такі кавалак, што не кожны памешчык гэтулькі меў. А вось Сцяпан, малодшы, ажаніўся на такой жа, як і сам, сіраціне. Адкуль у яе багацце возьмецца? З поля свайго амаль не сыходзілі, лічыце, што там і начавалі — гэтак шчыравалі на сваёй ніве. Канешне, каб зямлі многа было, то і зажылі б спраўна, а так усяго нейкая лапінка. Адзінае, на што яны багатыя былі, дык гэта на дзяцей. Малыя раслі працавітыя, вясёлыя. Маці, гледзячы на іх, не раз гаварыла мужу:

— Эх, каб нашым дзеткам ды добрую жытку, якімі гаспадарамі заможнымі сталі б! Яны яшчэ малыя, а ні-

якай працы не баяцца! І адварочвалася, каб дзеці не бачылі, як яна плача.

Сцяпан у такіх выпадках заўсёды яе супакойваў:

— Чаго ты, родненькая. Усё будзе ў нас добра, вось пабачыш. Будзем неяк круціцца, каб яны гора-бяды не зведалі, як нам выпала...

Аднаго разу Сцяпан сабраўся ў лес па дровы. Узяў з сабой старэйшага сына, хоць спачатку і не хацеў гэтага рабіць. Едуць, коніка паціху падганяюць, Сцяпан сыну ўсялякія павер'і ды былічкі распавядае. Той слухаў, слухаў і задрамаў. Бацька паклаў яго на світку, а сам на дарогу стаў глядзець. І тут яму падалося, што наперадзе нешта мігціць. Ён прыпыніў каня і падаўся туды. Ажно бачыць — там чарцей мноства назбіралася ўсялякіх: вялікіх, маленькіх, старых, маладых. Усе яны нешта трымалі ў руках, збіліся ў гурбу і пра нешта шапталіся. Хвілін праз пяць туды ж прыляцеў здаравенны чорт. Чэрці зашавяліліся, а той, самы тоўсты, падышоў да велізарнага дуба крыху наўзбоч і прагаварыў выразна: «Слязьмі адкрыйся!»

На вачах у ашаломленага Сцяпана дуб затрашчаў і паволі пасунуўся са свайго месца. Чалавек ледзьве не збег са страху, але менавіта ён і затрымаў яго на месцы.

Чэрці дружненька са сваімі клункамі папёрліся туды, а калі ўсе зайшлі, то зноў выразна прагучала: «Слязьмі закрыйся!»

Сцяпан ледзьве дачакаўся, пакуль усё стала на месца, і пабег да таго дрэва паглядзець, ці не засталося якіх слядоў. Але навокал было раскідана лісце, голькі і ніякіх слядоў не было бачна.

Селянін збегаў да воза, удасканаліўся, што з сынам усё ў парадку, і кінуўся назад, да таго таўшчэразнага дуба. Прыспеў якраз у час: чэрці ўжо назад з-пад дуба вылазілі. Цяпер Сцяпан баяўся толькі аднаго — каб не заўважылі яго ды хлопца з канём на дарозе не высачылі, бо тады справа магла зусім па-іншаму абярнуцца. Але нячысцікам, відаць, было не да таго, бо яны разляталіся ў розныя бакі, нібы маланкі, толькі хвасты, што тыя вужакі, целяпаліся ззаду.

Сцяпан, азіраючыся, падышоў да дуба, пакратаў магутны ствол і ціхенька прашаптаў: «Слязьмі адкрыйся!»

У той жа момант пачуўся выразны трэск, і дрэва паехала ўбок. Вясковец ускочыў у яміну і пабег уніз, а дуб стаў на ранейшае месца. Аказалася, што нячысцікі зносілі ў тую яміну каштоўнасці, і было іх гэтулькі, што чалавек ледзьве прытомнасць не страціў. Спачатку пачаў хапаць і класці ў посцілку як мага болей, ды ў час адумаўся: «А навошта грэбці столькі, што не панесці? У любы момант прыйду і набяру. Зараз вазьму, каб на першы час хапіла...» Нагроб жмені тры золата, потым яшчэ крыху ўзяў і да сына вярнуўся. Насеклі яны дроў, навязалі ладны воз і пакіравалі дамоў. А ў хаце гаспадыня слязьмі заліваецца.

— Што з табой, родненькая? — запытаўся Сцяпан.

— Пайшла да твайго брата, каб мукі хоць які гарнец папрасіць, а ён мяне нібы самую апошнюю жабрачку выгнаў. Ой, доля наша бядачая...

— Не плач, жонка. Цяпер усё пераменіцца. Схадзі лепей да майго брата, не палохайся, і папрасі вялікую конаўку. Калі будуць якія пытанні задаваць, то скажы, што дабро станем мераць...

Як не хацела жанчына туды ісці, але паслухалася гаспадара. А Іван з жонкай ашаломлена на яе зірнулі:

— Якое дабро?

— Сваё...

Тады вырашыў багаты даведацца, якое гэта ў галадранцаў багацце, і ўліў у конаўку крыху мёду на дно, каб прыліпала да яго ўсё, што будуць сыпаць.

А ў Сцяпана радасць у хаце была. Яны як памералі, то аказалася, што ледзьве не дзесятак конавак чыстага золата маюць. У іх ніколі залатоўкі лішняй не было, а тут гэтулькі багацця прываліла.

Ухапіла жанчына конаўку раніцай і пабегла да саякоў аддаваць. І не, каб глянуць у сярэдзіну, а так і сунула, падзякавала і паджгала дамоў. Іван жа як зірнуў у сярэдзіну, то і мову ў яго адняло — там жа блішчэла-пераліваласл самая сапраўдная залатоўка. Не ўтрымаўся, пабег да Сцяпана і давай у таго распытваць, адкуль у

беднага грошы з'явіліся. Той спачатку адмаўляўся, казаў, што не ведае ніякіх грошай, у вочы не бачыў золата, чуць пра яго не чуў. Але калі Іван паказаў яму залатоўку, якую з конаўкі дастаў, то зразумеў Сцяпан, што далі яны маху з жонкай, і прызнаўся. Распавёў старэйшаму брату, дзе быў, што бачыў, як золата нагроб.

Іван ледзьве дачакаўся зручнага выпадку, сабраўся, запрог парку коней і паджгаў у лес на ноч гледзячы. Знайшоў той чароўны дуб, грукнуў па ім кулаком і закрычаў на ўсю моц, ажно лістота на дрэве зашапацела: «Слязьмі адкрыйся!»

Тройчы паўтарыў таемныя словы, і дуб пусціў яго ў схованку з каштоўнасцямі. А Іван жа не дурань быў, ён з сабой цэлы мех пустых мяхоў прыпёр. Вырашыў самым багатым на зямлі стаць. Як убачыў гурбы каштоўнасцей, то і прысеў на месцы. Потым засмяяўся-заскакаў:

— Вось гэтага мне і трэба было! Вось чаго мне не хапала! Той, даўбешка, усяго пару конавак узяў, а я столькі вазьму, што цары-каралі зайздросціць мне будуць! І давай грэбці золата ў мяхі. Панасыпаў паўнюткія і пачаў цягаць іх да выхаду. Стаміўся, сеў адпачыць і тут дацяміў, што забыўся таямнічыя словы. Стаў галасіць, выць — нічога не дапамагала. А тут якраз нячысцікі па якойсьці сваёй патрэбе пазбіраліся ля дуба. Пачулі лямант і вырашылі адпомсціць злыдню. Спачатку хацелі забіць, але потым той самы тоўсты чорт і кажа:

— Навошта яго забіваць, браткі? Мы яго і так пакараем. Цягніце вялізную бочку!

Прыцягнулі вялізную бочку, поўную смярдзючай балотнай вады, і старэйшы загадаў:

— Пі! Пі да дна, іначай смерць цябе чакае.

Спалохаўся Іван не на жарт і давай жлукціць. Жывот раздуўся, і стаў ён таўсцейшы за таго самага чорта. Тады нячысцік і гаворыць на чарцей:

— Цяпер кідайце яго на воз і мяхі ягоныя — таксама!

Як пачуў вясковец, што мяхі пакідаюць, то і ад сэрца адлягло, значыцца, золата назад не адбяруць...

Зрабілі сваю справу нячысцікі, свіснулі на развітанне так, што ў коней ногі падагнуліся, і прапалі.

А Іван ляжыць, што якая бочка, на возе, і кожнаму, хто па дарозе падыдзе паглядзець на гэткае дзіва, гарлае:

— Маё! Маё! Толькі маё!

— Што там такое? — пытаюцца сяляне адзін у аднаго.

— Ды нейкі пузач на возе верашчыць, што ўсё навокал яго.

Прыехаў Іван дахаты, крыкнуў работнікам, каб і яго, і мяхі знялі, а там аказалася... перапрэлая лістота. Так ён і не ўзбагаціўся, але мянушку займеў трывалую — Пузач. Дзяцей ягоных Пузавічамі сталі дражніць. Яны нашу вёску і заснавалі. Самае дзіўнае, што яны ўсе таксама вялізныя жываты мелі. Ці то гэта пакаранне ад нячысцікаў ішло, ці то неяк само па сабе атрымлівалася — хто яго ведае. У Паўлава вёску перайначылі толькі ў 1964 годзе.



# СМАРГОНЬ

У адной жанчыны было сямёра дзяцей — шасцёра сыноў і толькі адна дачушка, Гэлька. Муж яе памёр, можа, гадоў пятнаццаць таму, і гаспадыні давялося адной гадаваць дзяцей. Ніхто не ведае, як цяжка ёй даводзілася, колькі яна спала ці колькі ела, але ад дзяцей не адмовілася і ў свет белы іх не пусціла пабірацца.

Міналі гады. Яны і непасільны цяжар бралі сваё: дабавілася сівых валасоў у матулі на галаве ды паходка стала не такой лёгкай, як у маладосці.

Сыны ды дачка ўжо самі па гаспадарцы ўсё ўпраўлялі, на матулю толькі ласкава пакрыквалі:

— Пасядзі, няма чаго рвацца. Мы і самі зробім, нам тае працы на якіх паўгадзіны.

Радавалася маці, часам і плакала, бо не верылася ёй, што самае цяжкае, самае невыноснае засталося ззаду.

Усё было б добра, толькі зямлі на такую вялікую сям'ю ўжо не стала хапаць. Памеркавалі тады сыны, тудысюды раскінулі і вырашылі: трэба некуды падавацца, наймацца ў работнікі і зарабляць грошы, каб зямлі прыкупіць. Падышлі да матулі і кажуць:

— Пагаманілі мы тут, мама, паміж сабой і вырашылі, што пойдзем у свет якіх заробкаў шукаць ці месца новае, каб новую жытку пачынаць.

— Дык нам жа і тут добра, — запярэчыла гаспадыня.

— Гэта зараз, а калі нам жаніцца час прыспее, то не хопіць на ўсіх зямелькі, давядзецца яе на вузенькія палоскі дзяліць...

— Ну што ж, ідзіце. Мы з Гэлькай тут управімся. Толькі не баўцеся надта доўга, знак які падайце, каб і мы ведалі, што ў вас адбываецца.

Сабраліся сыны, узялі з сабою неабходнае і пакіравалі ў белы свет.

Засталіся Гэлька з матуляй. Сумна ім удваіх стала, смеху амаль не чуваць было, не тое што раней. Тады ад раніцы і да змяркання песні спявалі ды жартавалі адзін з адным, а зараз... лянiва словам-другім перакінуцца і маўчаць, толькі на дарогу пільна ўглядаюцца, ці не ідзе там хто.

Тым часам ужо не тыдзень, не месяц прайшоў, а цэлы год мінуў — ад сыноў ніякіх вестак не было. Не змагла болей трываць гаспадыня і гаворыць, да Гэлькі звяртаючыся:

— Слухай, дачушка, трэба ж неяк даведацца, што там у іх робіцца. Я сама пайшла б іх шукаць, але баюся, што не знайду, бо далёка не адыду — ногі не тыя сталі, ды і бачу ўжо слабавата. Толькі на цябе ўсе мае спадзяванні...

— Добра, матуля, я пайду.

— Не, Гэлька, мы запражом коніка, і ты паедзеш, так лягчэй будзе. Дзе пастаіш, коніка падкорміш, дзе пераначачуеш у людзей добрых, і ўсюды распытвай пра браткоў. Толькі глядзі не забывайся, што едзеш адна, мала што ў дарозе можа здарыцца...

Сабралася Гэлька і паехала. Доўга блукала па белым свеце, сустракалася не з адным чалавекам, начавала не ў адной сям'і, і ўсе на яе пытанне адказвалі:

— Ведаем такіх хлопцаў, ведаем. Шасцёра іх ішло. Песні спявалі і дапамагалі, калі хто прасіў. Добрыя хлопцы, працавітыя, але ў нас доўга не затрымаліся, далей паджгалі, ці ж мала дарог па белым свеце? Вось і яны на нейкую звярнулі, якая ім болей падыходзіла...

Ужо адчай браў Гэльку, баялася, што так і не знойдзе братоў, пакуль аднаго вечара не напаролася на старога падарожнага, які сядзеў ля ручаіны і адпачываў. Той на яе запытанне адразу і прамовіў:

— Я з імі ўчора ўвечары бачыўся, размаўляў. Яны мне хлеба-сала на дарогу далі. Усё ў іх спраўна ідзе, гаманілі, што матулю з сястрой хутка паедуць сюды перавозіць...

Узрадавалася Гэлька:

— Дзядулька, а ці далёка тое месца, дзе яны працуюць?

— Ды не, вунь за тым далёкім лесам будзе рэчка, потым поле, а там і хаціна тая стаіць, дзе яны шчыруюць... На коніку ты гадзіны за тры заедзеш.

Падзякавала шчыра падарожнаму Гэлька і пагнала коніка, каб да вечара да братоў дабрацца, родныя твары пабачыць. Усяго праз нейкую гадзіну яна ўжо была пад лесам. А там разлілося невялічкае возера. Пачала дзяўчына яго аб'язджаць і пачула, як зашапацеў чарот, і адразу ж убачыла, што да яе нехта ідзе напрасткі. Спалохалася спачатку, але потым убачыла старую жанчыну і супакоілася. Каб жа яна ведала, што гэта за бабулька на самай справе, дык не стаяла, а гнала б свайго коніка адсюль прэч.

Падышла тая старая і пытаецца:

— Хто ж ты такая, прыгажуня?

— Гэлька я.

— А куды пад самы вечар адна едзеш? Ці не боязна табе?

— Ды не. А еду я да сваіх братоў, з імі мне і сам чорт нястрашны...

— Ты да братоў едзеш? Гэткая брудная і нямытая?

На такое запытанне Гэлька ледзьве не прапанавала бабульцы глянуць у вадзіцу на сябе, але стрымалася, мабыць, шануючы старасць. А старая настойвае:

— Ты паслухай мяне — распраніся ды памыйся. А я павартую твайго коніка.

Падумала дзяўчына, што, сапраўды, чаму б і не памыцца. Ужо амаль даехала, і крыху раней ці пазней, а з братамі ўсё роўна сустрэнецца, таму скінула вопратку і палезла ў возера мыцца. Старая ж скінула свае лахманы, пераапранулася ў вопратку дзяўчыны і ўмомант стала як

дзве кроплі вады падобная на Гэльку. Выйшла дзяўчына з возера і аслупянела: перад ёй на возе сядзела другая... Гэлька. Зразумела тут дзяўчына, што яе падманулі, закрычала з адчаю:

— Хто ты такая? Што табе ад мяне трэба? Ці я табе недзе дарогу перайшла, ці я цябе недзе пакрыўдзіла? Калі так, то прабач, але аддай усё маё!

— Цішэй, цішэй, не гарлай, а то ажно ў вушах звініць і ногі са страху трасуцца, — смеючыся, адказвае ёй незнаёмка і нагамі весела падрыгвае. — Апранай мае лахманы і паехалі далей, на мяне цяпер працаваць будзеш. Я ўладарка ўсіх гэтых мясцін. Хто да мяне трапляе, той на мяне і спіну гне. Не было яшчэ такога выпадку, каб нехта ўцёк ці абдурыў. Не было — і не будзе. Давай хутчэй апранайся!

Што заставалася рабіць дзяўчыне? Пераапранулася яна і моўчкі пайшла за возам. Так і прыехалі да братоў. А тыя, як убачылі сястру, кінуліся яе абдымаць ды цалаваць, а на мурзатую жанчыну і ўвагі не звярнулі.

З таго дня Гэлька была ў родных братоў за жабрачку, а вядзьмарка пераапранутая (а гэта быў не хто іншы, як яна) — за родную сястру. Нічога не падазраючы, яны не ведалі, як ужо ёй дагадзіць, усё самае лепшае і смачнае ёй пакідалі... Каб жа хто хлопцаў падвучыў, то і яны б разумнейшымі сталі, а так...

Аднаго разу сядзелі яны ў хаце за шырока расчыненымі вокнамі і замілавана глядзелі на сястру, як тая есць. Тут амаль да самага акна падляцела зязюля і давай куваць. І так сумна гэта ў яе атрымлівалася — нібыта душа плакала. Спачатку хлопцы не звярталі на гэта ўвагі, але потым старэйшы ўстрапянуўся:

— А што гэта яна такое сумнае спявае?

Вядзьмарка за сталом пачала голасна смяяцца, каб заглушыць тое куванне, але і брат той не дурнейшы быў:

— Чакайце, браткі, дайце паслухаць, што нам зязюлька прарочыць.

Прыціхлі ўсе, і выразна пачуліся словы:

— Ку-ку, дрэннага вам у руку,
Калі родную сястрыцу забываеце,
А абы-каго накармляеце...

— Нічога не разумею, — адыходзячы ад акна, сказаў старэйшы брат. — Пра што яна спявае, гэта птушачка...

А вядзьмарка яшчэ грамчэй стала смяяцца. Толькі дарэмна старалася, бо самым кемлівым сярод братоў быў якраз-такі не старэйшы, а малодшы. Ён увесь час маўчаў, а потым і кажа:

— Кладзіся-ка ты, сястрыца, спаць. Сёння мы ідзём у начное, возьмем і цябе з сабой, каб адна ў хаце не заставалася. Выспіся зараз добра, каб потым ноччу не катурхаць...

Калі вядзьмарка заснула, то малодшы звярнуўся да братоў:

— Нешта тут не тое, родненькія, нешта не тое...

— Што менавіта?

— Трэба абшукаць усе нашы будынкі, можа, там нехта хаваецца... Трэба высветліць, што да чаго, бо птушка проста так куваць-прыгалошваць не будзе...

Паслухаліся браты. Абышлі ўсе свае будынкі — няма нікога. Ужо хацелі паджартаваць над малодшым, але той прапанаваў:

— У лазню яшчэ зазірнём. Калі і там нікога не будзе, то тады ўжо і парагочаце, а пакуль што пачакайце.

Зайшлі яны ў лазню і ўбачылі, што на брудных лахманах спіць тая самая жабрачка, якая да іхняга падворка прыбілася. Прабудзілі яе і сталі дапытвацца, адкуль яна тут з'явілася. Дзяўчына горка заплакала:

— Няўжо, браточкі мае мілыя, вы мяне не пазналі? Я ж сястра ваша!

— А хто тады ў хаце спіць? — спытаўся старэйшы.

— Вядзьмарка, яна падманам прымусіла мяне працаваць на сябе, гэтаксама як і вас.

— Дык вось чый мы хутар наймаем, вось на каго спіны свае гнём, — ускіпелі браты. — Ну, старая, ты яшчэ пашкадуеш, што з намі звязалася. Прабач, сястрычка, што з-за нас пакуты прыняла. — Сказалі так і пабеглі да хаціны. Вядзьмарка соладка спала. Раскатурхалі яе браты і кажуць:

— Годзе спаць, пайшлі, мы табе пакажам наш вялікі і прыгожы сад. Толькі чыстую вопратку ты здымі і апрані што-небудзь іншае, бо ў нас там зачапіцца за кусты агрэсту ці смароды можна...

Тут трэба сказаць, што не ўсе шасцёра братоў пабеглі вядзьмарку будзіць, трое ў садзе засталіся. Яны вычысцілі яму, у якой вугаль выпальвалі, і зверху ўсялякім ламаччам прыкрылі, каб тая злыдня не здагадалася, не адчула, што супраць яе нешта ўдумалі.

Тым часам браты прывялі вядзьмарку ў сад. Ціха размаўляючы з ёю, падвялі да ямы і... піхнулі ў патаемнае вогнішча — тая і азірнуцца не паспела. Успыхнула полымя, пайшоў дым, а навокал такім смуродам пацягнула, што адзін з братоў, прыціскаючы далонню нос, сказаў:

— Ну, гадаўка, і насмургоніла...

Тая Смургонь і засталася за назву. Браты матулю на той хутар перавезлі, і зажылі ўсе разам. З яго пазней паселішча вялікае ўзнікла, што нашым горадам — Смаргонню — стала.

Распавядаюць і іншыя паданні, якія нібыта далі назву нашаму гораду. Паслухайце і іх.

У далёкім мінулым на тэрыторыі сучаснага горада размяшчаліся сялянскія двары, у якіх выраблялі шкуры. А самі ж ведаеце, які непрыемны пах ад такога занятку бывае. Дык мясцовыя жыхары казалі на яго, што гэта смурод. Адсюль, маўляў, і пайшла назва — Смурод, якая замацавалася і за навакольнымі хутарамі — Смургонямі. Яшчэ і зараз часта можна пачуць, старыя людзі гавораць: «Паеду ў Смургоні». Яны не кажуць Смаргонь.

Ці вось такое.

Калісьці вакол тагачаснага паселішча размяшчаліся непралазныя лясы, якія цяжка было пераадолець як верхам, так і пешшу. Таму людзі не надта імкнуліся ў гэтыя глухія мясціны. У лясах было мноства самых разнастайных звяроў і птушак. Сярод звяроў пераважалі мядзведзі. Яны падбіраліся блізка да чалавечага жылля ў пошуках ежы, а то і проста з-за сваёй цікаўнасці. Трэба адзначыць, што асноўнай ежай сялян быў авёс, таму яго многа сеялі на нівах. Дык вось, мядзведзі яго таксама ўпадабалі і, нягледзячы на тое, што былі гэткія здаравенныя і непаваротлівыя, прылаўчыліся шморгаць зерне прама сабе

ў рот. Уявіце сабе карціну: сядзіць мядзведзь, адной лапай прыхіляе збожжа, а другой старанна шморгае зерне. У адным месцы ўсё перакалоціць — далей прабіраецца. Вяскоўцы злаваліся за такое дзікунства, і пастаянна чуваць было, як крычалі: «Зноў мядзведзь авёс нашморгаў! Каб яму пуста было!»

Так паціху і назву прыдумалі — Смаргоні, ад слова таго шырокаўжывальнага — шморгаць. Старыя, дык тыя і зараз ужываюць яго, а маладзейшыя да новай, перайначанай назвы прывыклі — Смаргоні.

## ВЯСЕННЯЯ (Дракі)

Жылі ў нас некалі два кумы. Такія ўжо мужыкі былі — не дай Бог з імі звязвацца. Так і карцела ім адно — пабіцца. Пра іх так і гаманілі людзі: «Дзе гэтыя два задавакі, там не абысціся без дракі!»

І яшчэ. Кумы гэтыя адзін без аднаго і кроку ступіць не маглі. Куды адзін кіраваў — туды абавязкова і другі: адзін нешта задумваў — другі, асабліва да сутнасці справы не дакопваючыся, пагаджаўся. Часта іхнія прыгоды няўдала канчаліся, а часта — і смешнымі выпадкамі, якія потым у анекдоты нават перарасталі.

Вось паехалі яны аднаго вечара на рыбу. Змовіліся яшчэ з раніцы, што ноч гэтую правядуць на возеры, бо рыбы там гэтулькі — хоць посцілкай лаві. А калі многа налавіць, то і на зіму насушыць можна; і сям'ю карміць, і свінням нават час ад часу падмешваць. Таму мяхоў пустых з сабой набралі — колькі панесці.

Селі ў човен і адразу заспрачаліся, хто за вёслы сядзе. Як заспрачаліся, так і пабіліся, потым памірыліся, вырашыўшы, што справа ад гэтага не выйграе. Ужо палова ночы была, калі выбраліся на сярэдзіну возера, а мажа, і другая пайшла. Закінулі невад і давай яго цягнуць, але дзе ж вы бачылі, каб такую справу толькі два чалавекі рабілі, там і пяцёра не ўправяцца. Ды з такімі задзірамі ніхто і справы агульнае не жадаў мець. Вось яны ўпрагліся і цягнуць. Адзін гамоніць:

— Рыбы, братка, валачэм многа. Мала мяхоў узялі, бачыш, як цяжка сунецца...

— Ага, — азваўся другі, — трэба было пустых мяхоў болей хапаць, а зараз ужо позна...

— Каб жа хто падказаў...

Толькі яны гэтымі словамі перакінуліся, як адзін з сялян пасклізнуўся і гопнуўся ў ваду. Ды так «удала», што заблытаўся ў крыле невада. Плешчацца там, крычыць, і выбрацца не можа.

— Братачка, ратуй! — крычыць. — Ратуй, бо канец ужо мне прыходзіць!

А той, што ў чоўне, не каб вясло падаць ці якім іншым чынам чалавеку дапамагчы, — руку яму працягвае, нібыта рука тая на пяць крокаў расцягваецца. Ведама ж, той, у вадзе, дастаць да яе ніяк не можа і ўжо кірхае, а не крычыць:

— Братка, дапамажы! Дапамажы, бо апошнія сілы пакідаюць мяне! Хутчэй, каб позна не было!

Той зноў борздзенька руку працягвае.

З вады чуецца не надта зразумелае:

— Ды ты хоць бы вясло падаў...

— Бачыш ты, які горды, за руку і чапляцца не хоча, вясло яму падавай! То паплавай яшчэ!

— Ратуй, братка, ратуй...

— Не магу я, родненькі, зразумей мяне правільна, глядзець, як ты пакутуеш. Таму прашу цябе, куме, апускайся на дно, не губляй дарма свайго здароўя...

Невядома, як бы гэтай парадай скарыстаўся кум, калі б не сяляне, якія таксама паехалі рыбу на возера лавіць. Яны і вывалаклі небараку-рыбака. Адляжаўся той на беразе, ачуняў і як плясне свайго кума ў лоб ды як зараве:

— Гэта табе за тое, што ты з мяне здзекаваўся!

Думаеце, ад гэтага іхняе сяброўства слабейшым стала? Наадварот, яны яшчэ болей схаўрусаваліся. Усё наваколле ведала гэтых кумоў, і неаднойчы людзі паміж сабой гаварылі:

— Гэтую вёску лепей за ўсё абысці, бо там недалёка і да дракі...

Так, з тае баязлівасці, і засталася назва. Ужо значна пазней, у нашыя часы, яе перайначылі ў Вясеннюю.

# ДУБАТОЎКА

Жыла адна баба-шаптуха, аднымі замовамі і жыла. Вось прыйдзе да яе хто, проста так — пасядзець ды, як у нас даўней вялося, пагаманіць, а яна разгледзіць таго чалавека і кажа:

— Ой, родненькі, ды ты ж такі хворы! І як гэта ты ходзіш?! Другі на тваім месцы і кроку не зрабіў бы, а ты ж дома не сядзіш, працуеш, і зараз во да мяне прытэпаў! Давай я табе пашапчу, то ўся твая хвароба, як вясновая вада, сыдзе. Сядай у кут, зараз пачну. І пачынала шчыраваць вакол чалавека.

Людзі ведалі добразычлівасць старой, таму, хоць ніякай хваробы ў сабе і не адчувалі, не крыўдзілі гаспадыню, выконвалі ўсё, што яна казала. Але і гэта яшчэ не ўсё. Справа ў тым, што калі гаспадыня канчала шаптаць замову, то прапаноўвала свайму госцю яшчэ адну абавязковую паслугу:

— Вось я пашаптала і хваробу адагнала, але каб яна болей дарогі да цябе не знайшла, выпі ўзвар з дубовай кары. Не палохайся, добрая кара, дубовая, яна мае вялікую сілу гаючую. Я сама кару знаходжу, сушу, таўку, а потым людзей ратую...

Ад тае тоўчанае кары і празвалі старую гаспадыню — Дубатоўка. Яна за мянушку не крыўдзілася, а хутчэй з гонарам яе насіла, бо адчувала, што вяскоўцы такое прыдумалі, аддаючы павагу яе ўменню.

Часам бабуля і сапраўды дапамагала хворым, таму сярод людзей гаманілі, што калі ў чалавека зубы баляць ці жывот, то лепшай за Дубатоўку лекаркі ва ўсім белым свеце не знайсці. Але аднойчы здарыўся выпадак, які мянушку той старой увекавечыў.

Жыў недалёка ад тых мясцін надта багаты памешчык з жонкай і адзінай дачушкай. Так ужо здарылася, што гадоў праз колькі жонку джгнула змяюка на лузе, і яна, уся ссінелая, счарнелая, нібы калода, праляжала пару дзён на ложку і, ціха трызнячы, сканала. Бабку Дубатоўку не здагадаліся прывесці паглядзець. Яна сама прыйшла ў панскія пакоі і, пільна прыгледзеўшыся да нябожчыцы, сказала гаспадару:

— Калі б мяне своечасова паклікалі, то выратавала б я жанчыну. А так, на вялікі жаль, мёртвых ажыўляць не ўмею. Запозніліся вы...

Застаўся памешчык адзін з дачкой. Усе свае сілы і ласку аддаваў ён Марыльцы (так паненку звалі). Расла яна такой прыгожай, што сама царэўна побач з ёю паблякнула б. Многа сватоў пабывала ў палацы, але памешчык усё адмахваўся:

— Рана ёй яшчэ замуж. Яна ў мяне яшчэ з лялькамі гуляецца. Няхай пагуляе, парадуецца свету, а то выйдзе замуж — якая там ужо маладосць, якія там ужо вясёлыя гады! То дзеці пойдуць, то іншыя клопаты галаву зоймуць.

Адным словам, не хацеў бацька з дачкой развітвацца, хоць і разумеў, што рана ці позна гэта адбудзецца.

Аднаго разу прыйшоў такі паніч сватацца, што і вачэй ад яго нельга было адвесці, — высокі, здаровы, а на твар... на твар — што сонейка яснае, глядзеў бы і вачэй не адводзіў. Але ён свае вочы ўсё сарамліва долу апускаў. Сваты расхвальвалі яго, а ён сядзеў, ніводнага слова не прамовіў.

Гаспадар адразу ўбачыў, што хлопец Марыльцы даспадобы прыйшоўся, і як ні цяжка гэта яму далося, але ўсё ж прамовіў:

— Чаго маладым за сталом сядзець, няхай ідуць у сад, прагуляюцца, а мы тут і самі вырашым, думаю, разбяромся...

Сваты прапанову падтрымалі.

Пайшла Марылька з хлопцам у сад, а бацька вырашыў, што трэба ўжо і пра вяселле гаворку весці, бо ад такога зяця грэх адмаўляцца. А на такі выпадак завядзёнка была: гаспадары самі прыслужваюць гасцям, каб паказаць, як яны іх паважаюць ды шануюць. Той памешчык і кажа:

— Пасядзіце, госцейкі, пару хвілін, а [illegible] зараз збегаю і тое-сёе прынясу. Тады, за чаркай, і гаворка ў нас весялей пойдзе, і дамовімся хутчэй. Я зараз, вы толькі пачакайце...

Яму падалося, што ён у адно імгненне апусціўся ў сутарэнне ды набраў там цэлы кошык выпіўкі і прысмакаў. Але калі вярнуўся, то... за сталом нікога не было. Ён туды

кінуўся, ён сюды — нікога не знайшоў. Толькі на крэслах, дзе госці сядзелі, нейкія старыя кляновыя лісты засталіся. Не зразумеў гаспадар, што да чаго, і пабег у сад Марыльку паклікаць, але і яе не знайшоў. Занепакоіўся пан, паджгаў на ўскраек саду і стаў гукаць дачку, але аднекуль здалёк да яго данеслася:

— Татулька, ратуй мяне! Ратуй мяне!

Закрычаў памешчык не сваім голасам:

— Марылька, дачушка, дзе ты?! Дзе ты?!

У адказ нехта дзіка зарагатаў.

І так яму жудасна зрабілася, што сеў ён на зямлю і заплакаў горкімі слязьмі. Слугі стаялі, а супакоіць ніхто не мог, бо ведалі, якое гора на чалавека звалілася. Потым, можа, ужо праз гадзіну, нехта ціха прамовіў:

— Да людзей трэба за дапамогай звяртацца. Да людзей. Самі не ўправімся...

Памешчык, ні да каго не звяртаючыся, нібыта сам сабе сказаў:

— Да бабулькі трэба паслаць.

— Да якой, пане?

— Да Дубатоўкі. Яна сама мне казала, што калі ліха якое надарыцца, то абавязкова дапаможа, каб толькі паклікаў.

Адразу паляцелі да старой пара служкаў, нібы ім крылы птушкі на той момант пазычылі, і праз нейкую гадзіну прывялі Дубатоўку да гаспадара.

Кінуўся пан да яе:

— Выручай, Дубатоўка. Тады ты дакарала, што позна цябе паклікалі, цяпер да цябе першай загадаў я звярнуцца...

Пасур'ёзнела старая, прысела на крэсла і пачала шаптаць нешта, толькі ёй адной зразумелае. Потым ускінула галаву на памешчыка і кажа:

— Ведаю, пане, дзе твая Марылька, ведаю, толькі дарога туды цяжкая і небяспечная.

— Сам пайду, людзей вазьму лепшых і пайду, — рашуча азваўся памешчык.

— Ды не, мой галубок. Туды трэба якраз-такі аднаму ці двум ісці, бо пільныя вартавыя тую дарогу сцерагуць. Адзін лішні крок усё сапсаваць можа...

— Тады хто?

— Унук мой пойдзе, пане... Не хвалюйся, ён такі, што за дзесяцярых адмахаецца і ў бойцы, і на працы. Загадай слугам паклікаць яго, ён стаіць ля варот, чакае свайго часу.

Прывялі таго ўнука, глянуў на яго пан і адразу заспакоіўся: перад ім стаяў сапраўдны асілак і разглядаў свае пудовыя кулакі. Гледзячы на такога чалавека, самы слабы адчуваў сябе асілкам.

— Калі ты, чалавеча, маю дачку вызваліш, то я... то я... — замяўся было гаспадар, але тут жа выправіўся, — то я яе за цябе замуж аддам. Толькі каб яна жывая і здаровая была...

Здаравяка ажно рот адкрыў і вылупіўся на Дубатоўку, а тая хітра падміргнула яму сваім шалёным вокам, маўляў, бачыш, якую жонку прыдбаць можаш!

І што вы думаеце? Вызваліў Марыльку асілак. Перабіў тых рабаўнікоў-разбойнікаў (а гэта былі яны) і прынёс яе, непрытомную, дамоў. Гаспадар слова сваё стрымаў — аддаў дачку за простага вяскоўца, а бабулі зямлі надзел вялікі навечна даў. Дык тое месца і стала пазней звацца па яе мянушцы — Дубатоўка.

## КРЭВА

Тут некалі недалёка ад лесу стаяла прыгожая царква. Драўляная, праўда, бо новая вера толькі пачала ўкараняцца, і мураваных было вельмі мала. І куточак пад яе быў выбраны райскі: птушкі ўсялякія спявалі, кветкі цвілі, дрэвы ды кустоўе шапацелі зялёнай лістотай, і цішыня, які б вецер ні быў. Адным словам, як у самога Бога за пазухай. Вяскоўцы панадзіліся хадзіць да гэтае царквы, у хуткім часе забыўшыся пра сваіх старых багоў. Да таго ж і бацюшка ў гэты прыход трапіўся надта справядлівы і памяркоўны. Тубыльцы ішлі да яго і са скаргай якой, і нейкую спрэчку вырашаць.

Яго за гэта гатовы былі на руках насіць, па ваколлі бегалі ды іншым людзям казалі:

— Вось у нас царква, дык царква, а бацюшка... Яго адзін раз паслухаеш — да скону жыцця толькі да яго хадзіць будзеш.

Здавалася, так заўсёды будзе, але ці то сяляне свайго бацюшку перахвалілі, ці то нехта на яго скрыва глянуў — пачаў ён дзень за днём мяняцца, і не ў лепшы, а ў горшы бок. Тут трэба сказаць, што бацюшка той надзіва высокі ды прыгожы быў. Любая жанчына на яго ўвагу звярнула б, каб такую пасаду не займаў, але ён сам пачаў да маладзіц бегаць, пакуль нехта матушцы не падказаў. Тая, не будзь дурная, прасачыла, чым муж у вольны ад службы час займаецца, і падлавіла бацюшку ў пуні, дзе ён любошчамі цешыўся. Раззлавалася тады жанчына і праклала бацюшку, а праклён гэты адразу ж да Бога дайшоў. Усявышні не мог стрываць такое абразы, разгневаўся страшэнна і закрычаў з неба (многія людзі гэта чулі): «Каб гэтае месца-праклятае назаўсёды разам з бацюшкам праваліласяǃ Каб яно ніколі ўровень з зямлёю не стала!»

Як пажадаў Бог, так і здарылася. У адну восеньскую ноч правалілася царква, а на яе месцы засталося толькі невялічкае балотца, якое нібы сімвалізавала ўсе грахі людскія на зямлі і тое, што можа за іх быць.

Страшна і сорамна перад Усявышнім зрабілася мясцовым жыхарам. Хоць і не яны былі вінаватыя, але лічылі, што каб іхнія жанчыны ды дзяўчаты паводзілі сябе больш стрымана і памяркоўна, то такога ліха, можа, і не здарылася б.

Але гэтым справа не завяршылася. Праз нейкі месяц-другі паляцела пагудка па ваколіцах, што ў мясцовых лясах з'явіўся язычніцкі варажбіт, якога ўсе звалі Крыве ці Крыве-Крывейтэ. Прыйшоў ён ажно ад Халоднага мора і гаварыў усім, што трэба шанаваць толькі старую веру, бо яна праўдзівая, а хрысціянская — блудлівая, ніякай карысці ад яе людзям няма, толькі гора адно прыносіць. І спасылаўся на зусім свежы прыклад — з царквой, якая правалілася. Што тут маглі сказаць сяляне? Больш маўчалі і слухалі, а той Крыве не надта іх прыспешваў, рабіў усё спакваля, паціху, і нарэшце дабіўся свайго: падзяліліся тубыльцы на дзве групы. Адны гарлалі:

— Дурні вы! Ён вам галовы забівае! Няма веры, лепшай за Хрыстовую! Ён пасланнік д'ябла, бойцеся яго!

Другія, не палохаючыся, адказвалі:

— Што вы плявузгаеце?! Ці даўно самі бацькоўскай веры пакланяліся? Зараз вунь якія разумныя зрабіліся —

адкінуліся ад старога, за новае ўхапіліся! Невядома яшчэ, для каго ўсё гэта хужэй скончыцца! Пажывём — пабачым! Уздумалі нас жыць вучыць! Дзе ваш бацюшка? Дзе ваша хвалёная царква?!

Вядомая справа, пачыналіся спрэчкі, але пакуль што гэтым усё і канчалася — разыходзіліся, да кулакоў справа не даходзіла. Праўда, чырванню і злосцю налiваліся твары, бліжэй і бліжэй ціснуўся натоўп да натоўпу, здавалася, хвіліна-другая — і ўжо нішто не спыніць сялян, ніхто не прадухіліць крывавай сутычкі. Ды і Крыве не паскараў падзеі, заставаўся нібы ўбаку. Таму і разыходзіліся прыхільнікі варажбіта, таму і завяршалася справа мірам, а не стогнамі і праклёнамі. Да аднаго дня, які стаў трагічным і для тых, хто вырашыў застацца верным старым багам, і для тых, хто адкрыта выступаў за новую веру.

А пачалося ўсё, як і раней пачыналася.

Крыве сабраў сваіх людзей на невысокім пагорку, дзе паўколам стаялі свежавыразаныя драўляныя багі, і стаў гаварыць:

— Нашы багі сказалі мне сёння, што болей трываць здзекі і кпіны нам не выпадае! Няма чаго баяцца тых, хто ўпікае нас, што мы быццам бы пакланяемся не сапраўднай веры, шануем не тое, што трэба шанаваць!

Натоўп загуў, падтрымліваючы свайго правадыра. І тут, як на грэх, паказаліся сапернікі. Магчыма, і на гэты раз усё мірна завяршылася б, калі б не Крыве. Ён адчайна закрычаў:

— Вось яны! Біце іх!

Яшчэ не зусім і разумеючы, счапіліся біцца. Вядома, той, хто зараней падрыхтаваўся, той і перавагу мае, асабліва спачатку, але тут бойка кіпела такая лютая, такая страшная, што нават блізка падысці ды заклікаць разысціся не выпадала — умомант забілі б. Крыве хацеў уцячы, але нечая дужая рука ламанула яго цурбалкам па галаве, і ён развітаўся з белым светам. Карацей, уся рэчка-невялічка, на якой адбывалася сутычка, была завалена трупамі, выйшла з берагоў, а вада ў ёй стала крывавай. Адсюль назву атрымала адпаведную — Крыўлянка.

Але на гэтым яшчэ ліха для мясцовых жыхароў не скончылася. Усявышні, калі даведаўся пра тое, што тут ад-

былося, вырашыў на тым пагорку пабудаваць вялікі замак-крэпасць, але, што самае дзіўнае, захацеў, каб уздзілі яго толькі страшныя грэшнікі. Ад таго часу ў нас яшчэ і зараз кажуць: «Каб жа ты камяні на Крэўскі замак цягаў!» Вось адкуль Крэва наша пайшло. Ад той крыві, нявінна пралітай, ды ад таго варажбіта Крыве.

## КУШЛЯНЫ

Наша вёска знаходзіцца побач з Літвой, таму ў гаворцы часта сустракаюцца літоўскія словы. Гэта і не дзіўна, бо па-суседску жывём, добра, ніколі не біліся і не сварыліся. Вось і назва нашае вёскі пайшла ад літоўскага слова «кушлян» — шаптун, варажбіт, значыцца. Гавораць, што такі чалавек сапраўды некалі тут жыў і часта дапамагаў вяскоўцам.

Гэта быў стары чалавек. Колькі яму было гадоў ад нараджэння — ніхто сказаць дакладна не мог, бо, па-першае, тады і не дапытваліся пра такое, а па-другое, што табе ад чужых гадоў, розуму ж ды сілы не прыдасца. Звалі яго тым самым словам — Кушлян. Хацінка старога стаяла на краі вёскі. Калі некаму выпадала трапіць у тую будыніну, то здзіўляла, што там акрамя гаспадара жылі параненыя ды пакалечаныя звяры, птушкі, нават вужы, якіх чамусьці асабліва шанаваў вяшчун-варажбіт. Па сценах хаціны віселі травы і сухія карані, кветкі і голькі дрэваў ды кустоў.

Аднойчы прыбегла да яго жанчына і пачала прасіць:

— Кушлянка, галубочак, дапамажы. Дачушку змяюка джгнула... Не ведаю, ці будзе жыць. Дапамажы...

— Не прасі ўжо гэтак мяне. Я ж не адмаўляюся, зараз пойдзем. А дачка жыць будзе, яшчэ і на вяселле мяне, гаспадыня, паклічаш...

— Паклічу, Кушлянка, паклічу...

— Вось толькі дарма ты сама спрабавала яе лячыць...

— Адкуль ты ведаеш?

— Я ўсё ведаю, — ціха адказаў гаспадар. — Пайшлі, няма чаго дарагі час губляць, бо хворай і так дрэнна.

І сапраўды, неаднойчы так здаралася, што варажбіт падрабязна распавядаў пра падзеі, сведкам якіх сам не быў. Таму вяскоўцы баяліся яму хлусіць.

А дзяўчынцы было вельмі дрэнна. Агледзеўшы яе, пасуровеў стары і прамовіў:

— Яшчэ пару гадзін — і гамон бы ёй... Вось што значыцца — не за сваю справу брацца, вось што значыцца — своечасова не паклікаць на дапамогу...

Загаласіла гаспадыня, а гаспадар толькі прыкрыкнуў на яе:

— Заціхні! Я ж табе адразу казаў — бяжы па Кушляна.

— Нічога, цяпер я тут, і ўсё будзе добра, не хвалюйцеся. Зараз я над ёю пашапчу, а вы ваду на агонь пастаўце, каб яна закіпела, бо трэба будзе ўзвар з маіх карэньчыкаў зрабіць і хворай піць даваць. Не марнуйце час, а я сваім буду займацца.

Сеў варажбіт побач з дзяўчынай, узяў яе руку ў сваю і зашаптаў: «На Егіпецкім полі стаіць тры яблыні, на тых яблынях трыдзевяць каранёў, трыдзевяць какатоў, трыдзевяць вярхоў; на тых трыдзевяці каранях, на трыдзевяці какатах і трыдзевяці вярхах там змяінае гняздо; у тым змяіным гняздзе змяя старшая, большая Галёна-Алёна. Што ты ляжыш, праляжаеш, сваіх гадаў па беламу свету распушчаеш? Устань, не ляжы, сваіх гадаў па беламу свету ўймі, падстрэшных і падпечных, чаротных і балотных, падколных і намоўных, нагаворных і падмежных, земляных і вадзяных. А не сунімеш ты сваіх гадаў, не выймеш ад рабы божае яду, пухліны ад яе не адцягнеш, то пайду я да Госпада Бога. Сашлець Гасподзь Бог Міхаіла-архангела, і ўзыдзе ён сам на Сіянскую гару, затрубіць ён адтуль у залатую трубу — будзеце вы сабірацца, вужы і змеі-яшчары, будзеце вы станавіцца перад праведным судом; а не станеце перад праведным судом — будзеце без ветру выдыхаць, без сонца высыхаць, корчыцца. Гаворыць ім сам Міхаіл-архангел: «Вы, вужы, змеі, вынімайце вы свой яд-гадла, пухліну адцягвайце, а не будзеце свайго гаду-яду вымаць, пухліну адцягваць, то паганю я вас за Сіянскія горы, за паганыя моры, буду вас біць-пабіваць, жалезным пруццем пасякаць! Прамаўляю и не сам сабою — Госпадам Богам, Ісусам Хрыстом, Міхаілам-архангелам, вялікім судом праведным. Амінь».

Тры разы запар прашаптаў сваю замову Кушлян, і на вачах дзяўчына тая паружавела, хоць у прытомнасць не

прыйшла і вачэй не адкрыла. Але ўжо было відаць, што словы варажбіта да яе дайшлі і што гадзюка, напалоханая гэткім магічным шэптам, пачала адцягваць свой чорны яд з крыві.

Гаспадары ўзрадавана пераглянуліся, але Кушлян абсёк іх:

— Гэта толькі пачатак, не спяшайцеся радавацца... Укус быў вельмі моцны па сіле, бачыце, дзе ранка? Адсюль яд можа лёгка дапаўзці да сэрца, і тады ўсё. Не надта ахвотна гадзюка яго адцягвае.

— Але ж дачушка наша паружавела...

— Яна павінна была сябе яшчэ лепей адчуваць пасля майго шэпту. А тут, бачыце, нават піць не папрасіла, нават вочы не адкрыла. Яд вельмі моцны... Зараз трэба ўзвару таго даць, што з карэньчыкаў ды травак маіх заварылі. Трымайце галаву дзяўчыны, а я паспрабую ўліць...

Кушлян нажом расшчапіў сціснутыя зубы і пачаў уліваць у рот узвар.

— Ну вось, цяпер зусім іншая справа, — з палёгкай уздыхнуў варажбіт. — Цяпер пойдзе на папраўку дзяўчына. Не забыліся, што мне абяцалі?

Гаспадары пачалі разгублена азірацца.

— На вяселле гаспадыня мяне абяцала пазваць, калі я вашу дачку на ногі пастаўлю, — заўважыўшы, што людзі расхваляваліся, пайшоў ім на выручку Кушлян. — Цяпер яна будзе моцна спаць, да самае раніцы не прачнецца. На досвітку трэба будзе ўзвар зноў даць выпіць.

— А як жа яго даваць? Мы самі не здолеем так спрытна, — занервавалася жанчына, — можа...

— Я дамоў не пайду, у вас пераначую на ўсялякі выпадак — раптам тэрмінова мая дапамога спатрэбіцца.

— Не, спачатку чаго перакусім. Чалавек чужы ў хаце, а мы яму нават паесці не прапанавалі... Прабачце ўжо нас, не да таго было, — замітусілася гаспадыня.

Як селі мужчыны, то доўга-доўга пра нешта гаманілі. То гаспадар слухаў, а госць гаварыў, то наадварот. І знаходзіліся ў іх словы, знаходзіліся цікавыя гісторыі ды ўспаміны. Але не забываліся час ад часу падыходзіць і да ложка, дзе ляжала хворая дзяўчына. Гаспадыня ўжо даўным-даўно спала трывожным сном, бо змарылася за па-

пярэднюю ноч, а мужчыны ўсё сядзелі. Ім, відаць, увогуле спаць расхацелася. Потым варажбіт сказаў:

— Вось ужо і сонейка зайграла. Трэба хворую паіць, пане гаспадар.

Удваіх напаілі дзяўчыну. Тая хвілін праз колькі і вочы адкрыла.

Узрадаваўся гаспадар, весела загаманіў — ажно жонка прачнулася і свой голас дадала. Так тая дзяўчына і выздаравела.

Ды ці толькі яе Кушлян на ногі паставіў, ад смерці ўратаваў!

Калі ён памёр, то людзі тое месца, дзе стаяла ягоная хацінка, ласкава празвалі Кушлянкай, [redacted] потым ужо і Кушляны сталася.

## СЯРОГІНА (Бабыніха)

Недалёка ад нашае вёскі ўзвышалася невялічкая горка. Яе і зараз добра відаць, асабліва тым, хто ведае даўнюю гісторыю, якая некалі тут адбылася. Але праўду ведаюць усё меней і меней людзей, бо адны пераязджаюць жыць у іншыя мясціны, другія паміраюць, [redacted] маладыя не надта цікавяцца тым, што тут адбывалася многія стагоддзі таму. Мне гэтую гісторыю распавяла мая бабуля, якая зведала яе ад старога дзеда-падарожнага, што некалі спыняўся ў хаціне яе бацькоў пераначаваць. У нашы дні на той горцы — надзелы некалькіх гаспадароў, лес маладыя пайшоў расці ды пусткі крыху засталося, а што тут даўно было, пра тое паслухайце.

Калісьці на месцы горкі роўнядзь была. Калі пачала ўкараняцца новая вера, хрысціянская, замест старой, язычніцкай, то бацюшка загадаў тут царкву пабудаваць, што з вялікім рвеннем і было выканана прыхільнікамі хрысціянства. Мясцовае насельніцтва ў пераважнай большасці не прызнала тае веры, маліліся паціху сваім багам, якіх старанна хавалі ў лясной глушы.

Царкву паставілі не абы-якую, а прыгожую, высокую. Любы, хто бачыў яе ўпершыню, спыняўся і глядзеў, нібы на які цуд, з самога неба апушчаны на грэшную зямлю. Ведама ж, не ўсе праваслаўныя цэрквы былі прыгожыя

ды мураваныя, пераважалі драўляныя, нізенькія, на хаціны падобныя. А тут... Канешне, далёка не кожны бацюшка мог такую царкву ўзвесці, а толькі той, каму фундатары магутныя грошы давалі, як у нашым выпадку.

Як бы там ні было, але слава пра прыгожую, непаўторную царкву панеслася паўсюдна, і да яе на малебны пацягнуліся людзі з усіх бакоў. Іншыя свяшчэннікі ўжо і незадаволеныя былі, што іхнія прыходы ніякага прыбытку не маюць, але з багатым і сярод бацюшкаў судзіцца не станеш — хутка навучаць і месца, адпаведнае сану, пакажуць. Спачатку мясцовы бацюшка паводзіў сябе спакойна, трымаўся паважна, паказваючы, што толькі любоў да бліжняга павялічвае багацце, якое, нібыта як падзяка, спускаецца з нябёсаў. Але так цягнулася нядоўга. Як толькі бацюшка адчуў, што можна зарабляць дармавыя грошы, то адразу ж паказаў свой сапраўдны характар. І прыдумаў ён вось што: усе, хто да царквы прыходзіць, павінны плаціць дадатковыя грошы. Але ж як сказаць прыхаджанам, каб яны не здагадаліся, што грошы тыя пойдуць яму ў кішэню? Думаў, думаў, параіўся з дзякам і прыдумаў. Аднаго разу, перад малебнам, заявіў:

— Тут такая справа атрымалася, шаноўныя. Вырашылі мы пабудаваць новую царкву, гэткую ж прыгожую і непаўторную, як і тая, у якой вы зараз мае словы слухаеце. Толькі вось бяда — грошай не хапае на будаўніцтва...

— То што ўжо, бацюшка, дапаможам... Хто колькі зможа, столькі і дасць на святую справу, — пачулася з натоўпу.

Задаволены бацюшка ўсміхнуўся:

— Вось дзякуй вам, мае дарагія, за разуменне, за павагу да Боскай справы...

З гэтага дня і пачалося самае сапраўднае рабаванне прыхаджан. Яны толькі да царквы, а іх ужо дзяк сустракае:

— Ці прынеслі грошай?

— Дык мы ж мінулы раз прыносілі...

— Значыцца, вы толькі гаварыць любіце, а самі на святую справу шкадуеце...

Пачуўшы такія крыўдлівыя словы, даставалі прыхаджане апошнія капейкі і аддавалі ў царкву. Бацюшка панасыпаў поўныя гаршкі залатовак і стаў такім багатым,

што і за сто вёрстаў не знайсці было. Але ўсё роўна карцела яму мецць яшчэ больш. Круціўся, маркоціўся, меркаваў, паклікаў да сябе дзяка і кажа:

— Вось што, дзяча, прыдумаў я яшчэ адну штуку, якая дапаможа нам яшчэ болей узбагаціцца. І распавёў дзяку свой план. Той толькі рукамі пляснуў ды ўскрыкнуў:

— Ну і галава!

Аказалася, што бацюшка рашыў таемна прывесці да царквы вядомых у наваколлі вешчуноў і лекараў-саматугаў, а людзям сказаць, каб вялі хворых — ён сам будзе іх лячыць. Вяскоўцы і павялі з надзеяй на тое, што бацюшка, звярнуўшыся да неба, і сапраўды дапаможа. Але той дзейнічаў па-іншаму: вешчуны і лекары, схаваўшыся, пільна сачылі за хворымі і падказвалі яму, што рабіць.

І здарылася так, што на першым часе даволі многім людзям дапамог бацюшка. Слава і пра гэта панеслася далёка. Зноў царква стала багацець, нібы ў казцы якой. Усім добра: і бацюшку, і прыхаджанам. Але гэтаму прыйшоў канец, і здарылася вось што.

Жыла ў нейкай вярсце ад царквы адна старая і гадавала ўнука, бо бацькі яго ліхімі людзьмі былі і недзе загінулі на рабаўніцкіх дарогах. Але ж праўду ў народзе сцвярджаюць, што яблычка ад яблынькі недалёка падае. Так і ў гэтым выпадку. Рос унук здаравенным хлапчынам, але нейкім дзікаватым: не да людзей яго цягнула, а да таго, што дрэнна ляжыць. Бабын яго звалі. Мабыць, ад таго, што баба гадавала.

І вось загарэўся гэты злодзей абчысціць бліжэйшую царкву, надакучыла, бачыце, яму красці па дробязі, вырашыў адразу ўзбагаціцца — прыбраць да рук тое, што бацюшка таксама панакрадаў. На такую справу адзін не пойдзеш, бо, калі і пашанцуе, ці многа на ўласных плячах панясеш. Таму Бабын вырашыў шукаць хаўруснікаў. Усё ляжаў і меркаваў, каго з сабой на такую адказную справу запрасіць, і спыніў свой выбар на такіх жа, як і сам, зладзеях ды лайдаках. Звечара пакіраваў да іх, паведаміў пра задуму, тыя адразу ж і пагадзіліся.

Сталі чакаць зручнага выпадку — свята якога вялікага, калі прыхаджане прыносяць багатыя падарункі. Нарэшце дачакаліся. Людзей ля царквы назбіралася — ні

прайсці ні праехаць. А Бабын з сябрукамі толькі ходзіць ды жартуе:

— Нясіце, нясіце, нам болей будзе!

Людзі, ведама ж, мала слухаюць, што там дурань гамоніць, паклоны шчыра адбіваюць, малітвы да Бога шлюць, падарункі і грошы нясуць.

Прыспела ноч. Зладзеі царкоўныя дзверы адчынілі — тыя і не рыпнулі — і кінуліся рабаваць. Хапалі ўсё, што пад рукі траплялася, радаваліся, што гэтулькі золата ды іншых каштоўнасцей бацюшка паназбіраў. Але ў гэты самы момант нешта моцна затрашчала, загуло, і царква шуснула пад зямлю. Раніцай на тым месцы, дзе яна стаяла, здзіўленыя людзі ўбачылі толькі невялічкі пагорак. Пазней сталі гаварыць, што гэта Усявышні раззлаваўся і на рабаўнікоў, і на бацюшку, які абагачаўся, прыкрываючыся ягоным імем, і ўсіх пакараў.

Вось адкуль наша вёска Бабыніха пайшла, а потым яе перайначылі ў Сярогіна.



# ШЧУЧЫН

Жыў-быў надта бедны чалавек. Звалі яго проста — Мікалай. Добры быў чалавек, нікому ў дапамозе не адмаўляў, а сам жыў — хлеба хапала ад восені да зімы, а каб да вясны ці да лета, дык і гаворкі не вялося. Гараваў ён, а разам з ім і сям'я — жонка Параска ды двое малых яшчэ сыноў — Ясь ды Стась. Дружна жылі. Хлопчыкі раслі надзвычай кемлівымі і дужымі. А не дай Бог некаму на іхніх татку ці матулю дрэннае слова сказаць або нават паглядзець скрыва — усходзяцца, нібы тыя верабейкі, што ля лужыны таўкуцца.

Аднаго разу паехаў Мікалай гліну капаць, а каб вясялей было нялёгкай справай займацца, узяў з сабой хлапчукоў.

Заехалі да тых ямін, дзе людзі гліну капалі, і давай шчыраваць. Бацька капае, а хлопцы, спрабуючы дапамагчы, то пакрысе на воз носяць, то вады гаспадару халоднай падаюць.

Тым часам ехаў па дарозе багаты селянін. І такі ўжо ён ганарысты быў ды задзірысты — нікому спуску не даваў, чапляў абы-каго і абы за што. Убачыў ён, што Міка-

лай з малымі гліну капае, падаў каня бліжэй і ласкавым голасам прамовіў:

— Добры дзень, Мікалаю.

— Ага, чалавеча, я гліну капаю, — данеслася з яміны.

— Каб ты не бачыў сваіх калёс, — адразу зазлаваў багацей.

— Ага, братка, адкуль ты дазнаўся, што сёмы воз? — задзірыста данеслася з яміны.

Такога задзіра не чакаў:

— Ты што — аглох?!

Але з яміны пачулася зусім спакойнае:

— Чаму адзін? З сынамі — утрох...

Як было трываць далей такія здзекі? Што было сілы загарлаў ганарлівец:

— Каб вы з гэтым возам з горкі паляцелі!

Думаў, што хоць гэтым дастане, ды дзе там. Пачуў у адказ такое, што адразу жарабца прышпорыў і паляцеў на злом галавы.

— А каб у твайго бацькі дзеці падурнелі!

Прыехаў Мікалай з хлопцамі дамоў, са смеху курчыцца. Параска пытаецца:

— Што ўжо там такое здарылася? Раскажы, разам пасмяёмся.

— Каб ты ведала, што наш Яська сёння вытварыў, дык упала б са смеху, — і расказаў, як старэйшы сынок, ягоны голас падрабіўшы, багацею адказваў.

Матуля толькі галавою пахістала і незадаволена прамовіла:

— Ці ж можна так над людзьмі? Ён жа старэйшы.

— Яшчэ, мамачка, скажы, што і багацейшы, і што з усіх насміхаецца, нікому спуску не дае, — пачаў апраўдвацца Ясь.

— А сёння ён, братка, сваё атрымаў спаўна, — рашуча запэўніў Мікалай. — Давайце скінем гліну, сыночкі, ды павячэраем.

За сталом зноў вялі гамонку пра сённяшні выпадак, і тут усіх здзівіў Стась. Ён, у адрозненне ад брата, быў спакойны, не па гадах памяркоўны, а тут катэгарычна прамовіў, нібы адрэзаў:

— Мы яму гэта не забудзем. Будзе ён у нас ведаць, як над іншымі здзекавацца. Мы яму вясёлае жыццё наладзім...

Гаспадары не надалі ўвагі гэтым словам, маўляў, мала што дзеці могуць нагаварыць. Але браты нічога забываць не збіраліся, усё падбіралі зручны выпадак і дачакаліся-такі свайго.

Аднаго дня пасвілі хлопцы каровак. Бачаць — едзе праз масток той самы багацей.

— Ага, значыцца, некуды ў госці сабраўся і вечарам вяртацца будзе. У нас ёсць час што-небудзь прыдумаць...

— Ёсць, толькі трэба такое прыдумаць, каб яму да самай магілы спакою не было...

— Калі прыдумаем, дык дакладна не будзе, — азваўся Ясь.

Час ужо даўно за полудзень мінуў, а нікога не было.

— Можа, ён другой дарогаю паехаў, — занепакоіўся Ясь.

— Ды не, — лянотна адказаў Стась, — не паехаў, толькі сюдой і папрэцца, болей няма куды яму кіраваць...

— Але ж ужо позна.

— Нічога, хутка з'явіцца, ты толькі не пераблытай, што да чаго, дзейнічай так, як дамовіліся...

— Справа вядомая — не пераблытаю.

— Вось і едзе. Бачыш? Пабеглі хутчэй да рэчкі ды ўсё падрыхтуем, каб ні пра што злыдзень не здагадаўся...

Пад'ехаў той багацей да мастка (а звалі яго Саўкам) і знерухомеў у вазку: у рэчцы боўталіся двое хлопцаў, нават нельга было сказаць, чые яны, бо такія брудныя і заляпаныя былі.

— Чаго гэта вы, свінні брудныя, туды закалаціліся? — пытаецца.

А тыя, нібы не чуюць, сагнуліся, ходзяць у вадзе і перамаўляюцца:

— Мацней трымай, мацней... Упусцім — будзем не юшку сёрбаць, а толькі аблізвацца.

— Трымай, трымай, да берага падводзь...

Саўка прыціх і зацікаўлена пазіраў зверху, але з вазка пакуль што не злазіў. Потым крутнуўся і зноў запытаўся, але ўжо больш далікатна:

— А што гэта вы там, хлопчыкі, робіце?

У адказ — ні слова.

Саўку стала не па сабе, і ён загарлаў:
— Да вас звяртаюся, паршыўцы! Што вы там робіце?!
— Ай, дзядзечка, — узмаліліся малыя, — не крычы так, бо ўсю рыбу разгоніш...
— Рыбу? Ды хіба ў такой гразюцы рыба будзе вадзіцца? — здзіўлена бомкнуў Саўка і гатовы быў ужо за жывот хапацца ды рагатаць на ўвесь голас, але тое, што прамовіў адзін з брудных рыбакоў, выбіла яго з каляіны.
— А гэта што, па-вашаму?
Мурзатая рука хлапчука была скіравана на гурбачку зялёнай травы, якая паволі варушылася.
— Гэта столькі ўжо налавілі? — усхапіўся Саўка.
— Каб усю, якая ў руках пабывала, склалі ў адно месца, то ў тры разы большая гурба была б... Гэта рыбы столькі водзіцца, а ніхто і ў галаву не бярэ...
— А якая ж рыба?
— Ды шчупакі найболей... Здаравенныя, што калоды. Некалькі такіх выкінулі, проста сілы неставала...
Саўка азірнуўся разоў колькі, мабыць, баючыся, каб хто не пачуў слоў хлапчукоў, потым рашуча пачаў скідаць з сябе вопратку. Павагаўся крыху, праўда, калі штаны здымаў. Меркаваў, ці лезці ў сподніках, ці і іх здымаць.
— Скідайце, дзядзечка, усё, бо тут гразі многа і смярдзючая яна... Запаскудзіце сваю бялізну — нічым потым не адмыеце.
Праз нейкае імгненне, пакалыхваючы сваім здаравенным пузам і адсвечваючы не менш вялікім азадкам, палез багацей у ваду. Забраўся па калені і гыркнуў:
— А ну прэч дамоў, смаркачы! Мая рака — і рыба мая! Прэч адсюль, і хутчэй!
Хлапчукі, нібыта без вялікай ахвоты, палезлі з вады, на беразе азірнуліся і да вазка паджгалі, а там схапілі ўсю чыста вопратку, аперазалі пару разоў пугай жарабца, які, здавалася, толькі і чакаў таго моманту, каб рвануць з месца, і папёрлі што было духу да вёскі. За імі, пaскавытваючы ад радасці, нёсся цюцька, якому давялося пакручвацца пад свежанарванай травой замест рыбы.
Прыляцелі Ясь са Стасем у вёску і давай гарлаць:
— Людзі! Людзі! Калі хочаце пасмяяцца ўволю, то пайшлі з намі, мы вам нешта такое пакажам, ад чаго вы на нагах не ўтрымаецеся...

Мікалай якраз нешта на падворку рабіў, заўважыў сваіх сыноў, жонку паклікаў дый кажа:

— Пайшлі і мы глянем. Праца, якая засталася, пачакае і да заўтрашняга дня. Можа, і сапраўды нешта цікавае. Што ўжо там нашы хлопцы ўбачылі, раз гэтак гамоняць на ўсё паселішча?

Людзі перлі паглядзець на цуд, а наперадзе кіравалі Ясь са Стасем, дарогу паказвалі.

— Ціха, зараз ужо прыйдзем, не крычыце, бо спалохаецца і схаваецца, тады ніякага смеху не атрымаецца...

Падышлі да мастка, старэйшы з хлапчукоў і паказвае:

— Цяпер глядзіце...

Зірнулі туды людзі і ажно пакаціліся са смеху: нейкі голы чалавек, брудны да таго, што і не пазнаць, стаяў у вадзе і ляскаў сябе па целе рукамі, гнюс, значыцца, адганяў.

— Што ты там, дурында, робіш? — не ўтрываў і запытаўся старэнькі дзядулька. — Месца іншага купацца не знайшоў ці што?

— Я не купаюся, я рыбу лаўлю, — з гонарам адказала непазнавальная істота.

Пасля гэтых слоў бераг выбухнуў магутным рогатам, а той самы стары ледзьве вымавіў:

— Рыбу ловіць! Ды тут апошняя рыбіна здохла, як я яшчэ падлеткам быў!

Калі трохі супакоіліся, нехта ўсё ж адважыўся спытацца:

— Цікава, і якая тут рыба ловіцца?..

— Ш-ч-у-п-а-к-і, — ікаючы ад холаду і перапуду, ды, мабыць, ужо і ад сораму, прамовіў незадачлівы рыбак.

— Людцы, дык гэта ж Саўка! — выдыхнуў нехта.

— Ды ну?.. — не паверылі астатнія.

— Дальбог ён! Паглядзіце, якое пуза, які азадак!

Зноў пачалі рагатаць, а рыбак залез у твань па самую шыю і толькі рукамі махаў, адганяючы камароў ад твару.

— Вось табе і багацей! Вось табе і... шчучын сын. Не сучын, а шчучын! — рашуча адрэзаў нехта.

Смех то заціхаў, то ўзгараўся з новай сілай, а Саўка сядзеў у вадзе і не адказваў. Ды і што ён мог сказаць у сваё апраўданне? Што рыбы свежай захацелася? Таму і маўчаў, цярпліва чакаючы, калі ўся гэтая брыдота з бе-

рага разыдзецца. Але людзі не спяшаліся. І тут пачуўся да болю знаёмы голас. Саўка ажно скалануўся ў вадзе, памыліцца ён не мог — гэтак крычаць і лаяцца магла толькі ягоная жонка.

— Дзе той валацуга?! Дзе яго шукаць? Гэта ж трэба, усім людзям за пудзіла выставіўся! А ну, ідзі сюды!

Саўка пайшоў, але не да гаспадыні, а ламануў з рэчкі ў кустоўе, якое густа разраслося на супрацьлеглым беразе. Ляцеў так, што, здавалася, пастаў на ягоным шляху вялізны стог сена — перакуліць з аднаго маху. А наўздагон яму неслася:

— Саўка, Саўка, уцякай! Хутчэй джгай, бо цурбалак даганяе! Ляці, родненькі, не спыняйся, бо ці камары на галаве ступу таўчы стануць, ці жонка на спіне бубну выб'е!

Доўга людзі не маглі заснуць у той вечар, Мікалай, седзячы за сталом, моўчкі пазіраў на сыноў, якія са смакам елі бульбу з расолам, і стараўся, каб не зарагатаць. Потым, счакаўшы хвілін колькі, невядома да каго звяртаючыся, прамовіў:

— Каб хоць камары не затаўклі...

— Каго?

— Ды Саўку-небараку.

З тае часіны і стаў Саўка Шчучыным. Ніхто па імю і не зваў, а Шчучын ды Шчучын. Ён ужо і не крыўдаваў. Калі хто згадваў пра рыбу ці пра тое, каб палавіць разам, то багацея нібы ліхаманка пачынала калаціць, і ён стараўся куды-небудзь плетануць, каб зноў не стаць прадметам кпінаў. Але як ні бараніўся, як ні хаваўся, яшчэ адзін раз усё ж напароўся на такіх людзей, якія яго падлавілі.

Аднаго разу сядзеў Саўка на прызбе. За гаспадарку яму хваляваца не было чаго — некалькі работнікаў спраўна ўсё рабілі, таму і сядзеў спакойна чалавек. Да людзей пасля апошняга здарэння ён ужо так пагардліва не ставіўся, бо баяўся, каб зноў чаго не ўдумалі. Так, седзячы, і задрамаў. Ды падалося яму, што нехта паблізу крычыць. Усхапіўся і давай азірацца. Туды глянуў, сюды і заўважыў нападалёку двух чалавек, якія аб нечым спрачаліся. Цікава стала Саўку, таму падаўся да іх.

Падышоў бліжэй — ніяк дацяміць не можа, чым гэта яны займаюцца: адзін трымае на плячы даўжэзную жэрд-

ку з прывязанай да яе вяроўкай, а другі — торбу. Стаяць і спрачаюцца, куды вуду закідваць.

«Дык гэта ж яны рыбу ловяць, але не ў вадзе, а пасярод сухога поля... Ды яшчэ і спрачаюцца так горача, што гатовы загрудкі ўзяцца...» — дацяміў Саўка і вырашыў іх супыніць.

— Хлопцы, а вы не таго?..

— Чаго таго?

— З глузду не з'ехалі? Тут жа поле, а вы пра рыбу гамонку ведзяце.

— Ну і што, што поле, вунь колькі мы ўжо налавілі, — і паказваюць Саўку торбу, а там, і праўда, з дзесятак ладных акунёў, пара плотак, нават лінь адзін, бакамі адсвечвалі.

Здзівіўся багацей:

— І гэта ўсё на полі?

— А то дзе ж яшчэ...

— Хлопцы, але ж поле маё...

— Зразумелі. Калі многа наловім, то і табе на юшку дамо, толькі не перашкаджай.

Саўка, пачуўшы пра нейкую для сябе выгоду, змоўк.

А хлопцы паціху хадзілі сюды-туды і нешта ўсё вымяркоўвалі. Адзін з іх ціхенька прагаварыў:

— Закідвай тут. Можа, і клюне...

Другі шырока замахнуўся жэрдкай, і вяроўка апусцілася крокаў на дваццаць уперадзе.

— У вадзе не клюне — на беразе возьме! — зазначыў першы і галавой паказаў на Саўку, які прагна сачыў за дзіўнымі рыбакамі.

На гэты раз не клюнула. Той, што закідваў, сказаў:

— Сышла некуды рыба, няма яе тут. Давай у іншым месцы паспрабуем...

Так яны да самага вечара і вадзілі за сабой Саўку. Той ужо ледзьве ногі перасоўваў, таму хлопцы вырашылі трохі падбадзёрыць яго — даць на юшку, як і абяцалі.

Ухапіў Саўка рыбу і прыпусціў дамоў. Яшчэ здалёк пачуў голас гаспадыні і накінуўся на яе:

— Чаго верашчыш, дурніца? Бачыш, нічога не рабіў і рыбы на юшку зарабіў...

— Рыбы зарабіў, а ўсё сала ў нас нейкі злодзей выцягнуў. Ты ж узяўся хату ахоўваць, а сам лазіў недзе...

Тут толькі дайшло да Саўкі, чаму гэта ў вадзе не бралася, а на сушы клявала. Але дзе ўжо тых хлопцаў знойдзеш... Шукай ветру ў полі.

Не вытрымаў болей здзекаў Саўка, купіў хутар і з сям'ёй перабраўся туды жыць, каб людзі не даймалі жартамі, не дапытваліся, як гэта ён так удала рыбу заўсёды ловіць. Перабрацца перабраўся, але мянушка ягоная і за хутарам засталася. Мясцовыя так і казалі — пайду ў Шчучын. Так з таго часу і вядзецца.

## БАГУШЫ

Жыў у нашай мясцовасці адзін чалавек. Багушом яго клікалі. Весялун ды жартаўнік быў — паўзямлі абыдзеш, а другога такога не знойдзеш. Бывала, жыццё яго так прыціскала, што, здавалася, і камень заплакаў бы з гора ды са скрухі. А гэты толькі крутне магутнымі плячыма, прыўздыме сваю прыгожую галаву, усміхнецца і... зацягне сваім непаўторным голасам песню. Людзі толькі пераглядваліся і здзіўляліся:

— Вось табе і маеш... Учора ж нехта з нашых закладаўся, што хлапчына гэткага ўдару не вытрымае, сагнецца, а ён во што надумаў — спяваць...

Багуш паспявае і за справу бярэцца. А працаваў ён так, што ўтраіх за ім не паспявалі, толькі зайздросцілі, што чалавеку Усявышні такую сілу ды нораў даў.

Бацькі ў Багуша былі ўжо старыя. Таму маці неяк завяла гаворку:

— Ты б, сыночак, ажаніўся, пакуль мы яшчэ жывыя, хоць бы ўнукаў на руках пагушкалі. Адзін жа ты ў нас... Чаго дзевак пазбягаеш?..

— Не я іх, матуля, а яны мяне палохаюцца...

— Ці ж ты зломак які, ці ж ты сабою непрыгожы?..

Багуш усміхнуўся і ласкава прамовіў:

— Калі вам, матуля, ужо так мяне ажаніць хочацца, то пасылайце сватоў...

— А я і дзеўку табе, сыночак, нагледзела. Пабачыш, спадабаецца табе...

Высваталі дзеўку, і ажаніўся Багуш. Але тут толькі бацькі зразумелі, што далі ладнага маху, бо нявестка

аказалася прыгожая, бойкая, але не надта спраўная да працы. Цяпер ім ужо сорамна было, што, дзякуючы іхняй «дапамозе», цяпер даводзілася працаваць не толькі за сябе, але і за жонку. А з жонкі гаспадыня — ну ніякая. Нават ежу не заўсёды гатавала, калі і згатуе што, то і сабака не еў бы. Але і тут Багуш заступаўся за жонку і казаў:

— Дык калі добра пасаліць ды забяліць, то і есці можна... Мне з ёю весялей. Ніхто дасціпны не быў у яе ўзросце. Усё навучыцца рабіць.

Нічога не казалі бацькі ў адказ на гэтыя словы, бо разумелі, што сыну і так сумна.

Вось неяк павячэраў абы-чым Багуш і спаць заваліўся.А справа якраз у суботу была. Лёг і падумаў, што трэба раніцай у царкву схадзіць, бо даўнавата ўжо там не быў.

Прачнуўся на досвітку, гаспадарку даглядзеў, перакусіў з усімі разам і кажа:

— Пайшлі, жонка, да царквы сёння.

— Пайшлі, — пагадзілася тая.

Дабраліся яны да царквы. Жонка стала маліцца разам з жанчынамі, а Багуш апусціўся на калені сярод мужчын. І трэба ж было так уцэліць, што апынуўся ён якраз за спінай у глухога. Стаіць, малітвы шэпча, у Бога просіць грахі даравацъ. Глухі павярнуўся, заўважыў, што ў Багуша губы ў трубачку складзены, і пытаецца злосна:

— Ты чаго ў царкве свішчаш?

— Я не свішчу, а малюся, — паспрабаваў было выйсці са становішча Багуш. Але глухі яшчэ болей узвіўся:

— А мне якая справа, багаты ты ці бедны? У царкве нікому свістаць нельга.

— Пайшоў ты, дурань, прэч, — злосна адказаў і Багуш.

Вядомая справа. Які б вясёлы па натуры чалавек ні быў, а і ў яго душа баліць з-за бядот, што сыплюцца на яго галаву. Вось і закіпеў Багуш і вырашыў адпомсціць усім за сваю няўдалую жытку, і найперш дзяку ды бацюшку, бо справа ж у царкве адбывалася.

Пасунуўся ён у бок ад таго глухога і давай назнарок моцна шаптаць, каб астатнія пачулі.

— Госпадзі, добра было б знайсці мне сто рублёў...

Калі б знайшоў, напрыклад, дзевяноста дзевяць, то не ўзяў бы...

Так шэпча і паціху па баках цікуе, ці чуе бацюшка. Убачыў, што да таго дзяк падбег і нешта на вуха шэпча, і зразумеў — менавіта ягоныя словы пераказвае. Пачаў селянін яшчэ больш шчыра маліцца, нібыта грахі замаўляць, ды прасіць у Бога сто рублёў.

А бацюшка тым часам і кажа дзяку:

— Што ж, давай праверым, ці сумленны ён чалавек. Але пакладзём не сто рублёў, а дзевяноста дзевяць і паглядзім, як ён будзе сябе паводзіць.

— Бацюшка, грошы надта вялікія, — прамовіў дзяк, — каб якога ліха не здарылася...

— Не здарыцца, пабачыш. Ён жа, чуеш, што гамоніць.

Узялі яны дзевяноста дзевяць рублёў з царкоўнай касы і паклалі на дарозе так, каб Багуш на іх натрапіў. Той і натрапіў, бо ўглядаўся пад ногі, нібы адчуваў, што грошы падкінуць. Убачыў іх, схапіў аберуч і гамоніць:

— Госпадзі, калі ўжо ў цябе аднаго рубля да сотні не хапіла, то я пачакаю, а за гэтыя дзякуй...— і пайшоў сваёй дарогай.

Дзяк з бацюшкам, якія цікавалі за селянінам, так і засталіся стаяць, нібы мыла з'еўшы. Хто б гэта ім паверыў, што іхнія грошы забраў Багуш?

А ён, не будзь дурнем, купіў на тыя грошы добры хутар і стаў там з жонкай жыць. Прышпіліў яе добра, дык і яна стала спраўнай гаспадыняй, на зайздрасць іншым, нібы хто рукой з яе зняў тую ляноту. А паселішча, якое там пазней узнікла, назвалі па імю таго вясёлага чалавека — Багуша. Так яно і стала Багушамі.

## БАРТАШЫ

Для селяніна што галоўнае? Праца на зямлі. А вось Барташа, які некалі тут жыў, да зямлі не надта цягнула. Але гаспадар ён быў не з горшых, можна нават сказаць — са спраўных. Усё ў яго было, усё вадзілася, ні ў каго дапамогі не прасіў. Хутчэй наадварот — сам жа хадзіў дапамагаць дзе словам, а дзе і справай. Таму з вяскоўцамі

быў у добрых адносінах, ніхто яго словам благім не згадваў.

Калі гады пачалі браць сваё і сілы ўжо не тыя сталі, то пачаў займацца лягчэйшай працай: ставіў нераты ды на зайцоў пелькі ладзіў. З вечара паставіць, а раніцай праверыць. І што вы думаеце? Ніколі не прыходзіў з пустымі рукамі. То рыбы свежай гэтулькі прыцягне, што гаспадыня з суседзямі дзеліцца ды на зіму сушыць, то зайца або лісіцу запалоніць. Так і жылі.

Раз Барташ прымацаваў пятлю да гнілаватага пня. Палічыў, што так лепей будзе, бо калі за дрэва якое прычапіць, то звер ці заўважыць, ці міма пралякціць, бо занадта высока будзе. Раніцай, як звычайна, прыйшоў пастку правяраць і ажно за галаву ўхапіўся:

— Божачка, і трэба ж было да гэтага гнілога пня пятлю прымацоўваць... Не здагадаўся да чаго мацнейшага... Гэта ж такая прыгожая лісіца тут была, вунь колькі поўсці, вызваляючыся, надрала. Бабе каўнер спраўны быў бы, а так... Перахітрыла яна мяне на гэты раз, перахітрыла... І пень жа не надта трухлявы быў, а так яго раструшчыла...

Прымаўляў стары, ходзячы вакол пня, і са злосці як лупяне яго нагой, ажно аскабалкі ва ўсе бакі паляцелі. Але не толькі аскабалкі паляцелі, а і нешта іншае, што зазвінела. Здзівіўся дзед:

— Што за чорт! Упершыню чую, каб пень звінеў. Ці то ўжо ў мяне ў вушах ад старасці звініць...

Нахіліўся і ледзьве не загарлаў ад радасці: паўсюль валяліся не аскабалкі, а самае сапраўднае золата.

— Вось табе і лісіца, вось табе і хітруха. Ды яна не проста збегла, а выкуп за сябе пакінула... Адкупілася ад мяне, ды чым — чыстым золатам. Вось цяпер мы зажывём, цяпер ніякай крыўды-гора ведаць не будзем. Колькі нам са старой трэба? Пару грошаў на год. А тут жа, тут жа столькі, што і дзесяць сем'яў сто гадоў бесклапотна пражылі б...

Сабраў свой скарб Барташ і пакіраваў дамоў. З радасці ногі самі неслі, да зямлі не дакранаючыся. Але калі амаль ужо падышоў да хаціны, то раптоўна спыніўся, нібы хто яго штурхнуў ды сказаў: «А куды ж ты, чалавеча, гэтае золата схаваеш? Не вельмі проста такі скарб схаваць, каб ніхто да яго не дабраўся».

Тут толькі дацяміў стары, што, і сапраўды, у хату грошы не панясеш і гаспадыні не распавядзеш, што так раптоўна ўзбагаціўся. Пастаяў хвілін колькі, пакруціўся і вырашыў пакуль што кінуць пад хлявом, а як прыцямнее, закапаць на агародзе, пад яблынькай. Ніхто і не здагадаецца, што менавіта там ён хаваў сваё золата.

Так і зрабіў. Ледзьве дачакаўся, калі старая захрапла, і паціху пакіраваў на двор, каб скарб надзейна схаваць, бо мала хто выпадкова мог на яго напароцца, і прападзе тады золата. Выбраў месца ўдалае і закапаў, а зверху бадыллем усялякім прыкінуў, каб скрыць свежаўскапаную зямлю. Пастаяў, паслухаў, ці не чуваць дзе якіх крокаў, і пайшоў сабе ў хату.

Але як ні круціўся, як ні намагаўся, а заснуць не мог. Нешта свідравала памяць, не давала спакою. У думках вярнуўся да золата і вырашыў, што самае найлепшае сховішча — расказаць усім, але так, каб ніхто не паверыў. Суседзі, ды бадай што ўсе аднавяскоўцы, былі добрыя людзі, незайздросныя, такія не пойдуць дапытвацца, адкуль у цябе багацце. А вось адносна аднаго чалавека стары задумаўся моцна. Гэта быў ягоны пан. Вось гэты злыдзень нікога ў жыцці сваім не пашкадаваў і калі штонебудзь пранюхае пра золата, то з зямлёй зраўнуе, жывым у магілу закапае.

Раніцай Барташ з жонкай паснедалі і разышліся па сваіх справах.

Дзед прыпусціў здзяйсняць тое, што за ноч прыдумаў,— пабег у лес, падаставаў зайцоў з петляў, а на рэчцы рыбу з нерата і памяняў усё месцамі: рыбу паклаў у петлі, а зайцоў пазапіхваў у нераты. Потым прыйшоў дамоў, забраў бліны, якія старая з раніцы пякла, і паразвешваў іх на дрэвах у лесе. Вярнуўся дахаты і стаў жонку чакаць. Неўзабаве тая з поля вярнулася. Селі паразмаўляць, Барташ і кажа:

— Ведаеш што, заўтра пойдзеш са мной ды крыху дапаможаш.

— А што там рабіць трэба?

— Дапаможаш... Здаецца мне, што я на скарб натрапіў...

— Ну калі так, то абавязкова дапамагу.

Дачакаліся раніцы і пакіравалі ў лес. Ідуць, а баба вочы вылупіла — прама на дрэвах бліны растуць. Далей ідуць — болей здзіўляецца: у петлях не зайцы і лісіцы трапляюцца, а акуні, плоткі ды шчупакі ляжаць. Стары збірае ўсё ды Богу дзякуе. Баба нарэшце не вытрымала:

— А дзе ж той скарб?

— Пачакай, зараз пабачыш.

Прывёў да таго самага пня, раскатурхаў яго нагой, а там і сапраўды золата. Можа, са жменю золата назбіралі і радасныя дамоў вярнуліся. Але дзе ж вы бачылі, каб жанчына сцярпела ды нікому не расказала. Пабегла па вуліцы і давай усім паведамляць:

— Гэта ж мы скарб знайшлі... Скарб знайшлі...

Толькі ноч прайшла, а памешчык ужо кліча жанчыну да сябе. Завёў яе ў пакой і пачаў ласкава дапытвацца адносна скарба. Зразумела старая, што язык ёй саслужыў дрэнную службу, але назад ужо нічога не вернеш, давялося пра ўсё расказаць. Як пачала яна гаварыць, то памешчык спачатку слухаў-слухаў, а потым як віскне:

— Гэй, слугі мае верныя! Дайце ёй бізуноў, ды такіх, каб іскры з вачэй паляцелі! Што, яна мяне зусім за дурня лічыць?! Дзе гэта бачылі, каб на дрэвах бліны раслі, а ў петлях шчупакі, а не звяры сядзелі?!

Як улупілі той бабе ў азадак бізуноў, дык яна, можа, з тыдзень толькі і рабіла, што вохкала, а сесці не магла. Стары так яе правучыў. А пра той скарб так ніхто і не даведаўся. Толькі потым ужо старэйшы сын расказаў. Ён даўнавата ад бацькі аддзяліўся, ля самага лесу жыў. Бацька, як паміраў, то і яму грошай перакінуў. А ўсе таго чалавека, як і яго старога, Барташам клікалі. Дык тыя Барташы ад іх і павяліся і да сённяшняга часу вядуцца.

## ЛЫЧКАЎЦЫ

Здарылася гэта параўнаўча не так і даўно: калі ў нас яшчэ пан гаспадарыў. Вёскі нашай тады не было, і ўсе гэтыя землі належалі памешчыку. Не надта ўрадлівыя землі, але людзі з голаду не паміралі. А калі не хапала хлеба ад ураджаю да ўраджаю, то навокал жа лясы пер-

шастваральныя стаялі, а ў іх звяр'я мноства вадзілася. Акрамя таго, пад бокам рэчка працякала, не надта шырокая, але свавольная, на адну вярсту — сем вёрстаў віроў ды звіваў. Калі хто пападаў у раку, то, можа, у адным выпадку з тысячы ўсё для небаракі шчасліва заканчвалася. А так толькі смерць чакала людзей, якія незнарок траплялі ў гуллівыя хвалі ракі. Яна, гэтая рэчка, і назву нашай вёсцы прынесла. А здарылася ўсё наступным чынам.

У памешчыка, які тут гаспадарыў, сям'я была невялікая. Жонка яго памерла, і застаўся ён з дачушкай. Расла яна надзіва прыгожай і кемлівай, а душа ў яе такая чулая была, што такой, можа, і ва ўсім свеце нельга было знайсці. У пакоях заўсёды лётала нейкае птаства, пад нагамі ды па сценах шмыгалі звяркі — параненая жыўнасць, якую паненка выходжвала.

— Ты б лепей, родненькая, што-небудзь сама з'ела, а то ўсё сваім хворым ды параненым раздаеш, а сама так і бегаеш з раніцы да вечара галодная... — неаднойчы незласліва казаў памешчык.

— Татачка, я ж здаровая, не параненая ці хворая, і есці ў нас, дзякуй Богу, заўсёды хапае. А хто ж іх накорміць, калі яны ледзьве рухаюцца — гэтак знясілелі?..

Так і жылі. Гаспадарку сваю пан спраўна вёў, пільна сачыў за ўсім, не дазваляў нікому здзекавацца над беднымі людзьмі, нікога не загадаў бязлітасна пакараць, нікога не прадаў і ў карты не прайграў, таму і вяскоўцы паважалі яго.

Прыгажуня тая любіла яшчэ песні сялянскія спяваць. А ведала іх такое мноства, што калі б з раніцы зацягнула ды бесперапынна спявала б, то хапіла б на цэлы тыдзень. Справа ў тым, што расла яна сярод вясковых дзяцей, і глядзелі за ёй пакаёўкі ды нянькі, якія таксама былі ўзяты памешчыкам з бліжэйшых вёсак. Яны гушкалі ды забаўлялі малую паненку тымі ж песнямі і прымаўкамі, прыказкамі і загадкамі, што і сваіх дзяцей. Асабліва палюбіла дзяўчынка адну бабульку. Ні на крок не адыходзіла ад яе, куды ішла старая — туды і яна, і ўсё распытвала, дапытвалася, як дрэўца расце, чаму менавіта такім колерам тая ці іншая кветачка цвіце. Бабулька адказвала як магла, але гэта цалкам задавальняла паненку. Так яе тая бабулька і выгадавала. Пан спачатку злаваўся,

але як пачуў ад дачкі, што тая жыцця сабе не ўяўляе без гэтай сялянкі, то вырашыў не разлучаць іх: загадаў забраць старую ў маёнтак. Калі дачкі нідзе не было, то ведаў, дзе шукаць, — праставаў да сялянкі, у невялічкую хатку, якую пабудавалі ёй пасярод вялізнага саду. Малая то казкі там слухала, а то і соладка спала, забраўшыся на бабулін палок. Неаднойчы і сам памешчык заседжваўся дапазна, слухаючы песні ды былічкі.

Ішлі гады, паненка расла і прыгажэла, але ад бабулі па-ранейшаму не адыходзіла ні на крок. Навучылася спяваць народныя песні, і выцягвалі ўжо ўдваіх, і так хараша ў іх атрымлівалася, што людзі, калі чулі іхні спеў, то ажно плакалі.

Паненка аблюбавала сабе мясцінку на самым ускрайку рэчкі і гатова была сядзець там цэлы дзень. Усё ёй было даспадобы: і вада, што пляскалася побач, і птушыны спеў, і бабулька тут жа, якая нешта пляла сваімі скурчанымі ад працы ды гадоў пальцамі. Маўчыць паненка, не гамоніць, і старая разумее, што пра нешта сваё думае прыгажуня. Аднаго разу ўсё ж не вытрымала і запыталася:

— Што гэта з табой, мая ўнучанька (так яе бабуля звала)? Ці не закахалася ты ў каго часам? Нешта ўсё маркоцішся ды маркоцішся, нібы чаго табе не хапае...

— Ай, бабулька! — усклікнула дзяўчына. — Нічога ад цябе не схаваеш, нібы праз чалавека ты глядзіш. Я і словам нідзе не прагаварылася пра гэта, [redacted] ты адразу здагадалася.

— Галубка ты мая, я ж і сама некалі маладой і прыгожай была. Сама кахала і на спатканні бегала... Дык хто ў цябе, унучанька, знайшоўся? Можа, раскажаш, то і на сэрцы лягчэй стане...

— Ды ты яго ведаеш, бабулька... Гэта наш... каваль.

— Ну што ж, прыгожы хлопец і майстар сапраўдны... Усё ў ягоных руках гарыць.

— Але ж ён, бабулька, з сялян, а я паненка... Вось што мяне хвалюе. Не аддасць мяне татка за яго...

— А можа, і аддасць, ты ж яшчэ да яго не звярталася. Ён чалавек добры, душэўны.

— Яно-то так, але ці пагодзіцца... Я ж у яго адна...

— На ўсё воля Божая. А ты не цягні, упадзі ў ногі, раптам і дазволіць...

Паслухалася прыгажуня сваёй дарадчыцы-бабулькі і расказала ўсё бацьку ў той жа вечар. Ашалеў пан, пачаў гарлаць так, як ніколі ў жыцці не крычаў, стаў пагражаць:

— Што, я цябе дарма гадаваў? Дарма грошы збіраў? Што, я сваю адзіную дачку за нейкага там селяніна аддам?! Ды я цябе лепей за якога перастарка памешчыка прасватаю, але па-твойму не будзе!

— І па-твойму таксама, — гнеўна прамовіла прыгажуня і пайшла ў свой пакой.

А раніцай пачуліся крыкі, плач, праклёны. Аказалася, што дзяўчына не лягла спаць, а пайшла на рэчку і ўтапілася. Апранутая яна была ва ўсё святочнае, нібы пад шлюб сабралася.

Бабулька падышла да памешчыка і смела яму кінула:

— Што, дабіўся свайго?! Згубіў душу нявінную! Пабраліся б яны з кавалём і жылі б іншым на зайздрасць! Ім жа тваё дабро-багацце не трэба было! А цяпер вось што маеш!

Сказала так і пайшла, каб болей ніколі і нагой не ступіць у панскі маёнтак.

А пан з адчаю кінуў у рэчку вялікую гурбу авечай поўсці і пракляў:

— Згінь назаўсёды! Каб цябе на зямлі не было гэтулькі гадоў, колькі валасоў у гэтай поўсці!

Так яно ўсё і атрымалася. Рэчка праз дзён колькі знікла, а на яе месцы з'явілася адвечнае балота-дрыгва, якое густа парасло лазой. А з лазы, вядома, сяляне заўсёды лыка дралі, таму і вёску сваю, якая тут пазней стала, назвалі Лычкаўцы.

## МАТЫЛІ

Тут некалі вельмі жудасная гісторыя адбылася, ад яе і назва нашае вёскі пайшла.

Недалёка адзін ад аднаго стаяла некалькі хутароў. Дружна жылі суседзі, былі самымі жаданымі гасцямі і самымі роднымі людзьмі. Да каго ж за дапамогай ці за парадай звярталіся, калі нешта самі не ведалі, як не да суседзяў? Толькі да іх. А ўжо калі свята якое надаралася, то сустракалі і праводзілі яго так, што разлягаліся песні

па навакольных лясах не адзін там дзень, і не два, а добры тыдзень. Умелі людзі працаваць, умелі і весяліцца. Такі быў час, такія былі норавы.

І вось у адным годзе так атрымалася, што на адным з хутароў занявесцілася дзяўчына. Ды такая працаўніца, такая прыгажуня ў бацькоў выгадавалася, што перажывалі яны адносна яе далейшага лёсу, каб у благія рукі не трапіла, каб за якога лайдака ці п'яніцу не выйшла. Шкадавалі яе, часта і ў адкрытую матуля плакала, [redacted] на ўсялякія суцяшэнні прамаўляла:

— Вось, гадавалі, гадавалі мы цябе, дачушка, а прыйдзе нейкі хлапчына і забярэ ад нас...

— Матуля, дык я ж да вас наведвацца буду, — адказвала тая.

— Гэта лёгка сказаць, дачушка, што наведвацца будзеш. А раптам куды далёка завязуць ці муж або свякроўка ліхія трапяцца...

— Што гэта ўсхадзіліся? — умешваўся гаспадар. — Можа, усё як нельга лепей атрымаецца, а вы ўжо тут рассакаталіся, расплакаліся, што і мне носам хліпнуць захацелася...

Пачуўшы такія словы, усе весялелі і забываліся пра сумную гаворку, але праходзіў дзень-другі — і ўсё пачыналася па-новаму. Хоць і разумелі гаспадары, што ў дачкі свой лёс, сваё жыццё, але ж надта баяліся, каб чаго дурнога не здарылася. Таму калі сваты аднекуль здалёк заяўляліся, то любым чынам адваджвалі іх. Не жадалі і чуць, што жаніх багаты, што родныя ў яго не людзі, а анёлы, і гэтак далей. Пахмурнеў бацька, апускала ніжэй галаву матуля, і яны ціха казалі:

— Госці дарагія, ранавата яшчэ нашай дачушцы замуж, яна і ў роднай хаце пакуль што не надакучыла... Толькі што кінула з лялькамі гуляцца — і адразу замуж. Вы ўжо не крыўдуйце, прыязджайце праз якіх пару гадоў, тады, можа, і змовімся...

А на самай справе хітравалі бацькі, бессаромна цягнулі час, спадзяваліся, што нарэшце пашанцуе і з'явяцца сваты аднекуль з блізкіх хутароў, ад людзй, якіх яны добра ведалі. Не клаліся спаць, каб Богу не памаліцца ды не згадаць у сваіх думках-малітвах пра такое жаданне-просьбу. І што ж вы думаеце? Ці то Усявышні пачуў іхнія

малітвы, ці то ўжо так склалася, але аднаго восеньскага дня падляцела да іхняе хаты брычка з чарговымі сватамі. І былі гэта не нейкія там далёкія людзі, а лічы што родныя — суседзі. Колькі разоў адзін аднаму гаспадары дапамагалі, колькі разоў на выручку прыходзілі. Таму, як толькі пачалі сваты сваю адвечную гаворку адносна тавару і купцоў, гаспадары дома з радасцю пабеглі зваць сваю прыгажуню.

Дачка зразумела іхнія жаданні. Затухкала яе сэрцайка, нібы спалоханая птушка: «Каго там прывезлі? Хоць бы не лайдака ці крывога». Але калі глянула на маладога, то твар яе засвяціўся, і, апусціўшы вочы, яна ледзьве чутна прамовіла:

— Я згодна...

Справа ў тым, што і яна добра ведала жаніха. Даволі часта сустракаліся і на вячорках, і на кірмашах, і ўвесь час ён пільна сачыў за ёю, але ніводнага разу не асмеліўся правесці дадому, не звярнуўся з нейкім запытаннем, бо быў незвычайна сціплы. Пра яго нічога благога людзі сказаць не маглі. Старэйшым у бацькоўскай сям'і быў, усё па гаспадарцы і нават болей таго — па кавальскай справе рабіць мог.

Пасядзелі сваты і гаспадары за сталом, дамовіліся, што вяселле згуляюць праз тры тыдні, і паехаў малады са сваімі дамоў, а прыгажуня з бацькамі засталася.

Час непрыкметна ляцеў. Гаспадары рыхтаваліся да вяселля, мітусіліся, усё мылі, прыбіралі, варылі, смажылі, запасалі, каб не ўдарыць тварам у гразь. Суседзі дапамагалі ім. Дзякавалі бацькі шчырым людзям, запрашалі на вяселле.

Нарэшце і дзень той прыспеў. Што ўжо тут рабілася! Якіх толькі песень не спявалі, якіх толькі танцаў не танцавалі, як толькі музыкі не выцілінгвалі на сваіх скрыпках ды бубнах! Усім хораша было, усім весела. Усе жадалі маладым шчасця ды поспехаў усялякіх.

Непрыкметна дні праляцелі, надышоў час да маладога дамоў збірацца. Загаласілі сяброўкі, заплакалі блізкія і родныя. Такі звычай у іх быў, ды ён і да нашага часу захаваўся, што ўсе плачуць, калі маладую з хаціны бацькоў да жаніха адпраўляюць. Усё і тут зрабілі належным чынам. Выйшла маці з абразом і давай ім на дарогу вып-

раўляць. Потым яго сваёй дачцэ аддала ў рукі. Вось апошні раз пацалаваліся, і гікнуў нехта з прыбліжаных жаніха:

— Паганяй, а то яшчэ крыху — і тут усе ад слёз растануць!

Весела, здаецца, крыкнуў, але мала хто ўсміхнуўся, нібы нешта благое адчувалі. Заіржалі застаялыя коні і паімчалі, толькі снег з-пад капытоў сыпануў, толькі палазы зарыпелі ды музыка па-ранейшаму іграла не сціхаючы. І тут нехта спалохана прамовіў:

— Стрэліць, стрэліць забыліся, каб нячыстая сіла іх па дарозе не кранула, не заблудзіла. Ой, што ж гэта будзе?..

— Можа зараз стрэліць? — нерашуча азваўся нехта.

— Зараз позна ўжо, чалавеча, усё трэба ў свой час рабіць. Будзем спадзявацца, што на гэты раз пранясе маладых...

Але не пранесла. Здарылася так, што ў тыя ж дні гулялася яшчэ адно вяселле, і тых маладых таксама перавозілі. Ды трэба ж было гэтым двум вяселлям сутыкнуцца на вузкай лясной дарозе. Не, каб неяк мірам-згодай раз'ехацца, — пачалі сварыцца, а паступова спрэчка тая ў бойку перарасла. Раз'юшыліся людзі. Не зважалі на кроў і стогны, білі-лупцавалі адзін аднаго чым папала. Доўга біліся, пакуль не стаміліся. Потым сталі разбірацца. Аказалася, што забілі насмерць тую маладую-прыгажуню і жаніха з другога вяселля. Доўга галасілі, але што ўжо зробіш. Так іх і пахавалі разам, на тым самым месцы. Пазней там каплічку паставілі. І што самае дзіўнае — да яе ў цёплае надвор'е заўсёды прылятали два буйныя белыя матылі і сядзелі побач да таго часу, пакуль змрок не апаноўваў наваколле. Людзі казалі, што гэта душы тых нявінна загінуўшых маладых. Таму пазней месца тое назвалі Матылямі, а разам з ім і новую вёсачку, якая і цяпер існуе.

## ЮШКІ

Некалі наш край быў надзіва багатым і прыгожым. Людзі тут жылі шчырыя, працавітыя, таму асаблівай патрэбы ні ў чым не адчувалі. Вось каб толькі не адно

ліха. А ліхам гэтым было самае страшнае, што можа здарыцца на белым свеце, — частыя войны. Праходзіў год-другі, толькі пачыналі рубцавацца раны на целе маці-зямлі, а тубыльцы забывацца пра забітых ды пакалечаных падчас апошняй навалы, як зноў ворагі груганнём лезлі. А тады няпісанае правіла было: хто перамагае — той і баль правіць, трэба сказаць, крывавы, бязлітасны баль.

Былі такія лютыя напады, што ад паселішчаў, вёсак, ад гарадоў заставаліся толькі гурбы смецця, друзу ды попелу, а над забітымі і памерлымі яшчэ доўга-доўга лёталі-радаваліся жахлівыя груганы, якія нібыта ўслаўлялі, адзіныя на ўсім белым свеце, тых, хто гэта зрабіў, хто прайшоў такой страшнай касьбой па прыгожых мірных мясцінах. Асабліва гэта заўважалі падарожныя, якія, як вядома, дзве ночы пад адным дахам не начуюць. Яны і распавядалі сваім маладзейшым паплечнікам, што і дзе было...

Аднаго разу шматлікае войска напала на гэты край. Такое шматлікае, што, здавалася, коні чужынцаў пакрылі ўсю зямлю, а пыл, які ўздымалі іхнія капыты, засціў яркае сонейка і сіняе неба. З усіх бакоў несліся праклёны і стогны, крыкі аб дапамозе і выратаванні. Але не надта вялікая і моцная дружына была ў тутэйшага князя, каб выйсці з няпрошанымі гасцямі ў адкрыты бой дзе-небудзь у чыстым полі. Хітраваў князь, берагаў сваіх дружыннікаў, суцяшаў іх, разумеючы, як цяжка ім не кідацца на ворага, а чакаць, чакаць зручнага выпадку, калі можна будзе з усёй ярасцю абрынуцца на татараў. А гэта былі менавіта яны. Прыйшлі аднекуль ажно ад мора. З'явіліся раптоўна, ніхто з застаў нават і даскакаць не паспеў да княжацкага палаца, не папярэдзіў аб небяспецы. Вельмі спрактыкаваныя ў сечах крымчакі былі, зараней усё прадугледзелі, перакрылі ноччу ўсе дарогі, з тылу зайшлі, таму вершнікі-пасланцы траплялі пад смертаносныя стрэлы, ад якіх нікому так і не ўдалося вырвацца ды папярэдзіць, што ліха прыкацілася на іхнюю зямлю.

Калі князю паведамілі пра напад, то ён, здавалася, ніводным мускулам не выдаў свайго хвалявання, толькі запытаўся:

— І многа крымчакоў прымчала?

На што запылены, скрываўлены вой прамовіў:
— Іх столькі, княжа, колькі мы раней і не бачылі.
— Ну, гэта ў страха вочы вялікія, вой, мы яшчэ з імі пацягаемся, яшчэ возьмемся. Праўда, ваявода?
— Праўда, княжа, — прашаптаў ваявода, але вачыма паказаў, каб валадар адышоўся ўбок.
Калі адышліся, то ваявода змрочна кінуў:
— Сапраўды бяда, княжа... яны ўжо гэтулькі нашых гарадоў і вёсак дымам пусцілі, гэтулькі людзей перабілі ды ў палон захапілі, што проста жах... Ніколі такой вялікай арды на нашых землях не было...
— Трэба людзей у месца збіраць і адыходзіць — ратаваць ацалелых. Ведаю, цяжка, але трэба ратаваць, тады толькі ў нас можа з'явіцца магчымасць адпомсціць ворагу... Пра гэта і раскажы воям. Стрымлівай найбольш гарачых ды адчайных, дарагі кожны чалавек...
— Кожны рвецца ў бой, княжа, кожны жадае як мага хутчэй адпомсціць за родных... Не сакрэт, што амаль ва ўсіх некага з блізкіх ці забілі, ці захапілі ў палон, а то і ўсю радню пад корань пусцілі.
— Адпомсціць, каб там жа і загінуць? Кроў за кроў? Ты мяне, ваявода, добра разумееш, мы павінны не толькі адпомсціць чужынцам, але і людзей як мага болей захаваць. Хто пасля нас тут застанецца? Хто род наш працягне?
— Разумею, княжа. Не ўпершыню мне ў сечу з ворагамі кідацца, але тут такі выпадак...
— Збірай людзей і ашчаджай іх. Падбяром зручны момант... Супакояцца татары, нап'юцца крыві, страцяць пільнасць, вось тады і атрымаюць ад нас падарунак. А зараз чакаць, толькі чакаць...
На тым і разышліся, бо не было часу размовы гаманіць, трэба было справу рабіць.
Кожны дзень разведчыкі прыносілі благія навіны. Але, разам з тым, з аддаленых невялічкіх застаў і гарнізонаў у лесе збіралася ўсё болей і болей княжацкіх дружыннікаў, проста людзей, якія ішлі з косамі ды віламі, каб расправіцца з чужынцамі. Пахмурнеў твар валадара, калі яму даносілі пра чарговае зладзейства ворагаў, і святлеў, калі бачыў, што новыя людзі прабіліся да лагера. Няхай сабе

яны былі знясіленыя, стомленыя — на гэта князь не звяртаў увагі:

— Добра, вельмі добра. Адпачнуць пару дзён, і сілы іхнія адновяцца, а ярасці ды лютасці гэтым людзям не займаць. Не доўга ўжо чакаць засталося, хутка і наша чарга надыдзе...

Дружыннікі з надзеяй пазіралі на свайго валадара, а той лавіў на сабе іхнія погляды, але пакуль што маўчаў.

І вось аднаго дня прыскакаў разведчык:

— Княжа, чужынцы назад павярнулі. Палон пабралі і назад пайшлі.

— Вось цяпер, хлопцы, і прыспела наша часіна. Цяпер мы на іх і накінемся. Наперад!

На шырокім полі адбылася бязлітасная сеча. З раніцы біліся войскі — ніхто не мог перамагчы. Але пад самы вечар княжацкая дружына пагнала ворагаў. Не было літасці да чужынцаў, нікога не бралі ў палон, не глядзелі на багаты выкуп...

Уся зямля навокал пакрылася целамі забітых, сплыла крывёю, юхай. Адсюль і назва ў паселішча — Юшкі.

# ЗМЕСТ

**Гродзеншчына:** Назвы населеных пунктаў па-
Г 86 водле легендаў і паданняў (Склад., запіс, апрац. А. М. Ненадаўца.— Мн.: Беларусь, 1999.— 398 с.: іл. — (Мой родны кут).

ISBN 985-01-0016-8.

У трэцюю кнігу з серыі «Мой родны кут» увайшлі апрацаваныя легенды і паданні, звязаныя з паходжаннем назваў 105 населеных пунктаў Гродзенскай вобласці. У іх адбіліся падзеі як радасныя, так і трагічныя, словам, жыццё народа ва ўсіх яго праявах.

Спроба такога выдання прадпрымаецца ўпершыню.

Адрасавана тым, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю, духоўнай культурай беларускага народа.

**УДК 398.2(=826)+882.6-3**
**ББК 82.3(4Беи+84(4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

**ГРОДЗЕНШЧЫНА**

Складальнік **Ненадавец** Аляксей Міхайлавіч

Рэдактар *С. А. Корань*
Мастакі *М. У. Анемпадыстаў, В. В. Сакалоў*
Мастацкі рэдактар *А. Г. Дашкевіч*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютэрная вёрстка *С. Л. Печанёвай*
Карэктары *Л. Р. Кузьміна, Н. М. Масарэнка, Ю. Ц. Петрыкеева, Г. К. Піскунова*
Аператары *А. М. Прохарчык, Т. А. Касцяневіч*

Падпісана да друку з арыгінала-макета 05.11.99. Фармат 84×108 $^1/_{32}$. Папера часопісная. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 21,0. Ум. фарб.-адб. 21,42. Ул.-выд. арк. 21,06. Тыраж 2000 экз. Зак. 3861.

Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларусь» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 2 ад 31.12.97. 220004, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат ВПП імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.



*Знайшлі мы, княжа, месца,*
*самае што ні на ёсць падыходзячае.*
*Круча высачэнная, ад ракі не падступіцца.*
*З другога боку ручай адрэзаў тую*
*кручу, і атрымалася нібы гняздо.*
*Толькі там і будавацца...*


ISBN 985-01-0016-8